даруюць. Сям'ю ён адправіў у роднае сяло, а сам жыве адзін. Прымае хворых.

Пасля аднаго гарачага бою, калі ішло многа раненых, ён вывесіў сцяжок з чырвоным крыжам. Двое бяссонных сутак ён памагаў раненым, перавязаў 106 чалавек. Адзін з раненых падарыў гэты кацялок. Ён усё перагледзеў, падрыхтаваўся да горшага. Сабраў самае неабходнае, яно павінна ўмясціцца ў партфелі. З гэтым ён забярэ самае дарагое — пісьмы. Ён возьме іх з сабой, як памяць пра сваю шматгадовую працу.

*2 чэрвеня*

У газетах паведамленні аб цяжкіх баях на нашым Ізюм-Барвенкаўскім напрамку. Паведамляецца, што 28 мая былі збіты 62 нямецкія самалёты, 29-га — 94. Апублікавана агульнае паведамленне — «Аб баях на Харкаўскім напрамку». Паведамляецца, што немцы рыхтавалі наступленне пад Растовам, для гэтага яны сканцэнтравалі 30 пяхотных і 6 танкавых дывізій, а таксама іншыя часці. Каб папярэдзіць гэтае наступленне, нашы пачалі наступленне пад Харкавам, прычым, Харкаў мы браць не збіраліся.

Баі ішлі каля двух тыдняў, і цяпер задача, якую мы паставілі, выканана. Немцы страцілі не менш 90 тысяч забітымі, 540 танкаў, 1500 гармат, 200 самалётаў. Мы страцілі 75 тысяч чалавек, з іх забітымі — 5 тыс. Прапалі без вестак — 70 тыс. чал.

Немцы, гаворыцца ў паведамленні, са свайго боку падаюць яшчэ большыя, фантастычныя лічбы забітых і палонных, захопленай тэхнікі. Я ўсё думаю пра гэтыя — **семдзесят** тысяч прапаўшых без вестак. Ці няма сярод іх і маіх таварышаў? Ці не мог апынуцца сярод іх і я, калі б не быў на курсах?

*3 чэрвеня*

Я на месцы, у рэдакцыі. Начальнік мой — сакратар рэдакцыі Галецкі. Ён тут ужо даўно, але да сённяшняга дня быў у камандзіроўцы, ездзіў за папаўненнем. Пазнаёміўся таксама з работнікамі друкарні: Любімскі, Мая, Вайншток, Харашаеў. У склад рэдакцыі «ўваходзіць» таксама палатка з архівамі газет, у якой мы спім. Вось і ўсё. Рэдактара няма. Друкарні няма. Газе-

та не выходзіць. Усё гэта мы павінны чакаць. Гэта нас хвалюе. Каб хутчэй...

Яшчэ ў дарозе гаваркі Вайншток расказваў пра сябе і таварышаў. На ўсім шляху да рэдакцыі — сем км — ён уводзіў мяне ў курс падзей. Я даведаўся, што друкарня загінула ў грозныя майскія дні. Машына стаяла ў сяле. У самым пачатку наступлення нямецкія бамбардзіроўшчыкі прайшліся па тылах. Адна з бомб падпаліла машыну. Асколкам бомбы быў цяжка паранены ў спіну сакратар рэдакцыі Спірын. Па дарозе ў шпіталь ён памёр. Машыны згарэлі, з імі пайшла агнём уся маёмасць, што ў іх была. У наступны дзень быў ранены рэдактар Трахтэнберг. У дом, дзе ён на той час быў, трапіла тэрмітная бомба. Адзежа на ім загарэлася, ён невыбег ■ дому ў агні. Потым ён ляжаў — чорны, да непазнавальнасці абгарэлы. Адправілі ў шпіталь у безнадзейным стане. Майго папярэдніка — літработніка — задоўга да гэтых падзей паслалі на курсы. Такім чынам, склад рэдакцыі амаль цалкам новы. Няма пакуль рэдактара. Газета, мяркуючы па архівах, была нядрэннай, лепшай за многія армейскія. Думаю, у нас будзе не горшая.

*4 чэрвеня*

Сустрэў таварыша, туркаўскага працаўніка, Вінаградава. Ён цяпер таксама малодшы палітрук і працуе сакратаром камсамольскага бюро палка. Успомнілі «аб баях-пажарышчах, аб сябрах-таварышах».

*5 чэрвеня*

Быў у артылерыстаў-чырванасцяжнікаў. Якія цудоўныя хлопцы! У дні 17—18 яны рабілі проста цуды. Вось адзін з іх — беларус, сціплы чыгуначнік з Віцебска Балтрушэвіч. На яго напала вялікая група нямецкіх аўтаматчыкаў. Ён засеў у бліндажы і застрэліў з карабіна аднаго фашыста. Потым геройскі трымаўся ў акружаным акопе. Яны кінулі гранату. Няўдала. Яна не трапіла ў шчыліну, а разарвалася перад ёй, абсыпаўшы байца пяском. Другая граната пацэліла проста ў акоп. Ён схапіў гатовую разарвацца гранату і выкінуў да немцаў. Трое фашыстаў было разарвана сваёй жа гранатай. Потым артылерыст вырашыў наступаць. Ён зарадзіў гранату і кінуў у кусты, што акружалі

бліндаж. Вызначыўшы па гуку аўтаматных стрэлаў, дзе сабраліся фашысты, кінуў процітанкавую гранату. Немцы з лямантам разбегліся. Тады наш хлопец-камсамолец Балтрушэвіч выбраўся з бліндажа і вывеў з сабой маладога, неабстралянага таварыша. Было нямала такіх подзвігаў, калі пад агнём аўтаматчыкаў-немцаў ездавыя ўрываліся на пазіцыі і, зачапіўшы гармату, імчаліся да сваіх. Некаторыя за гэта заплацілі жыццём.

Пісаць можна многа, добра. Толькі, каб — друкарню. Галецкі паехаў «стукаць» аб ёй.

*8 чэрвеня*

Ура! Прыйшла тэлеграмма: выслаць людзей па друкарню. Паслалі Галецкага. Мы засталіся і ўвесь час спрачаемся — дадуць ці не дадуць.

*11 чэрвеня*

Еду следам за Галецкім з шафёрамі і бензінам. У кузаве абвявае ласкавы ветрык, па баках праходзяць шырокія палі, зялёныя вёсачкі. Зноў Чырвоны Ліман, Крамяная. Едзем уздоўж лініі фронту. Калі імчым па дарозе на А., абрысы высокага, крутога лясістага берага на тым баку Данца такія яркія і выразныя, што здзіўляешся, чаму яны маўкліва праводзяць нашу машыну. (Успамінаю, як ля Дняпра мы падбівалі на тым беразе машыны і нават матацыклы!) У лесе там нешта гарыць. На вуліцах Ч. Лімана па-ранейшаму рвуцца снарады. Аднак чыгунка ў Лімане працуе. Станцыя, прыгожая станцыя разбурана, але ў начной цемры, крадучыся, употай прыходзяць і адыходзяць цягнікі на Дробышава, Святагорск. Цягнікі (эшалоны) часам трапляюць пад агонь: на тым беразе немцам, мусіць, чутны іх шум... Адсюль добра відаць помнік Арцёму — высокая, магутная фігура над кручай берага,— яна ўзнімаецца над дрэвамі. Унізе ля берага славутыя купалы Святагорскага манастыра. Там — немцы. А тут — у Святагорскім санаторыі — нашы. Мімаволі хочацца ўсміхнуцца, калі ўспомніш, што Данец у гэтым месцы быў даволі шумным: тут з песнямі і смехам каталіся адпачываючыя. Хто, пабываўшы ў Святагорску, не прывёз дамоў фотакарткі — лодка на беразе Д., у ёй гаспадар у лёгкім, бе-

лым касцюмчыку, а ўдалечыні, на тым беразе — абрысы манастыра.

Начуем у Рубежным.

*12 чэрвеня*

Ззаду засталіся Лісічанск, Верны, Ірміна, Серго, Варашылаўск, Міхайлаўскае, многа вёсак, хутароў. З імі прайшлі і сотні навеяных імі ўспамінаў. Зноў Варашылаўград, усё той жа, знаёмы. Толькі афішы на кінатэатрах змяніліся.

Стандартны гарадок. Зайшоў да знаёмых. Яны расказалі, што Вася (так рэкамендаваў сябе Цігрый Гаркуноў) паехаў на Маскоўскі напрамак,— папрасіўся туды. 3-га ліпеня паехаў Абрам. Я пакінуў для яго запіску са сваім адрасам. Чугуноў, Кулакоў, Пацянкоў паехалі з Ғаркуновым. « А Мікалай трапіў у партызаны»,— сказалі пра Аглуздзіна... Усе паехалі. Па ўсяму фронту, на ўсіх участках яго працуюць цяпер курсанты другой роты. Сябры-сябры. Зноў разышліся — не збярэш, толькі ў сэрцы пакінулі шчымлівую памяць. З кім давядзецца ўбачыцца?

*13 чэрвеня*

Каменск. Зайшоў у памяшканне, дзе мы жылі больш за два месяцы. Цяпер там было пуста. Некалькі чыіхсьці скрынак у куце. У маім пакоі — таксама пуста. На сцяне пад акном відаць вершы, якія я пісаў у ложку ў час хваробы. Той жа надпіс «выключальн. няспраўны». У іншых пакоях знаёмыя надпісы: Сахно, Перапечанка. Усё да болю знаёмае. Прайдзі па Украіне, і колькі такіх родных мясцін, колькі вёсачак, хутаркоў, такіх амаль невядомых нікому, з якімі пазнаёміла і parадніла вайна.

*14 чэрвеня*

У дарозе сустрэлі калону дзяўчат, што з песняй крочылі па шляху. Збоку ішоў ... малодшы палітрук Юракоў — парторг першага ўзвода нашай роты! Вёў добраахвотнікаў у запасны полк. Ён адзін з нямногіх «спартакаўцаў», што засталіся ў рэзерве.

*16 чэрвеня*

Ззаду Новашахцінск, Шахты, Новачэркаск. Мы ў Растове. Вуліца Сямашкі. Жывем на другім паверсе,

у кватэры Сіважалезава — справавода з нашай дывізіі. (Ён таксама прыехаў з намі.) Нястомна хаджу па шумнаму зялёнаму гораду. Спраў многа, клопату многа.

Жыву з адчуваннем, што такія дні сустракаюцца нячаста.

*17 чэрвеня*

На дзвярах магазіна красамоўны надпіс: «Магазін зачынены, работнікі пайшлі на трасу». Такіх надпісаў многа. Прадаўцы, загадчыкі, дырэктары пайшлі на абаронныя работы. Вузкія, як цясніны, вуліцы перасякаюць сотні барыкад. Яны зроблены старанна, акуратна. На барыкадах надпісы: «Смерць нямецкім акупантам!» Часам такія: «Будаўнікі і шэфы гэтай барыкады работнікі сувязі N раёна». Горад акружаны лініямі процітанкавых равоў, дотаў і дзотаў. Ён гатовы змагацца, ён непахісна верыць у перамогу. Па вуліцах крочаць стройныя калоны байцоў. Часам калоны дзяўчат у вайсковай форме. На сукенках дзяўчат — процівагазы.

Жыццё ў горадзе знешне ідзе спакойна. Звіняць трамваі, таўкатня ля магазінаў. Твары сустрэчных спакойныя. А перад вечарам несціханы паток на цэнтральнай алеі ў гарадскім садзе. Усё дзяўчаты, дзяўчаты, хлопцаў мала. Дзяўчаты, многія ў вайсковай форме. Хлопцы, калі і сустракаюцца, то найбольш у зялёных і блакітных фуражках.

*3 ліпеня, Есентукі*

Я ранены. Ранены цяжка, у плячо. Далёка ад фронту. Тады, калі, здавалася, быў зусім у бяспецы.

Я ледзь не загінуў. У апошні момант я павярнуўся, і гэта мяне выратавала.

Гэта было дваццатага чэрвеня, у Растове.

*5 ліпеня*

У Растове мне зрабілі аперацыю. Рабіў яе галоўны ўрач шпіталя Антонаў.

Спачатку мне збіраліся ампутаваць руку, і я згадзіўся. У мяне было зусім разбіта плячо, і баяліся гангрэны. Але Антонаў забараніў рабіць ампутацыю. Ён сказаў, што рука спатрэбіцца, малады хлопец. Ён сам наглядаў за мной і сам зрабіў аперацыю.

*6 ліпеня*

Наогул, я перажыў пасля ранення вельмі цяжкія дні. Некалькі дзён быў страшэнны боль. Калі б я не трапіў хутка ў шпіталь, не ведаю, ці быў бы жывы.

Мяне літаральна выратавалі. У шпіталі аказаліся побач цудоўныя людзі. Я ім усё жыццё буду ўдзячны. Я ім абавязаны жыццём. Асабліва — хірургу Антонаву.

Праз некалькі дзён пасля ранення мяне закавалі ў гіпс, ад шыі да пояса. Рука таксама ў гіпсе, на падстаўцы выцягнута наперад, на ўзроўні пляча.

Гэта завецца «самалёт».

*7 ліпеня*

Цяпер я ў Есентуках, у былым санаторыі № 2. Мой дом — невялікі, двухпавярховы, палата — на другім паверсе. Я ў палаце пакуль адзін. За вокнамі, вялікімі, сонечнымі, зеляненюць каштаны.

Учора з аднаго пакоя бачыў снежныя вяршыні Эльбруса. Цудоўнае відовішча!

Я паволі ачуньваю. Боль ужо не такі моцны. Тое, што рука замацавана нерухома, дае ране спакой. Але часам я раблю неасцярожныя рухі, і тады боль бярэ зноў. Часам стукаюся пальцамі аб што-небудзь. Гэта таксама выклікае боль.

*9 ліпеня*

Усё яшчэ цяжка без рукі. Аднак прызвычайваюся патрохі. Усё ж з цяжкасцю ўладкоўваюся на ноч з «самалётам». Пакуль уляжашся як трэба. І потым — паварочвацца нязручна.

І ўвогуле — кальчугу гэтую на целе, кажуць, месяцы два насіць трэба будзе, пакуль здымуць.

Тут за мной назірае вельмі добры і сімпатычны ўрач — Марыя Дзмітрыеўна Рубанік. Клапатліва абыходзіцца з намі сястра Ася. Абедзве яны — масквічкі і, здаецца, нават сваячкі.

*10 ліпеня*

У Растове, калі трохі сціх боль, я чытаў у часопісе «Новый мир» раман «Ціхі Дон» М. Шолахава, чацвёртую кнігу.

Кніга вельмі хвалявала. Успамінаўся Каменск, дзе я быў так блізка ад тых мясцін, у якіх жылі героі кні-

гі. Я быццам нанава хадзіў па роднаму цяпер, такому знаёмаму стэпу. І як бы зноў дыхаў яго, насычаным ветрам і травамі, паветрам. І разам з гэтым я ўспамінаў Глінішча: жыццё на Доне здавалася такім падобным да нашага. А вайна і памяць пра тое, што мая радзіма і радня мая там, за фронтам, надавалі чытанню майму горыч і вастрыню перажыванняў.

Цудоўная кніга. І зараз жыву пад яе ўражаннем.

Тут знайшоў любімую сваю «По следам войны» Вайталоўскага. Я яе чытаў калісьці ў Турцы, перад вайной, і яна ўвесь час нагадвае мне пра Турку. Быццам я не ў Есентуках, а зноў там. І часам раптам здаецца, што і не было вайны.

Але гэта толькі часам. А наогул, гэта кніга выклікае многа параўнанняў з гэтай, нашай вайною.

*11 ліпеня*

Чытаю «По следам войны». Раблю выпіскі ў запісную кніжку. Здзіўляюся, як многа падобнага ў побыце, у паводзінах людзей у тую вайну і ў гэтую. Найбольш значныя месцы выпісваю для памяці. І як навучанне аб чым і як трэба пісаць. Наогул, вельмі праўдзівая і павучальная кніга. Бадай, толькі «Агонь» А. Барбюса можна паставіць побач.

Вось так і трэба пісаць.

*12 ліпеня*

Штодзень мне робяць перавязкі. Аперацыя гэтая, трэба сказаць, мала прыемная: тады, калі прысохлы бінт аддзіраюць ад раны. Але гэта нічога. Тым больш што сястра і ўрач робяць гэта асцярожна і ўмела.

Я паздаравеў даволі і хадзіў ужо ў парк. Горад, колькі я бачыў яго, увесь у бульварах і прысадах, у зеляніне. Усюды сустракаюцца раненыя, разгульваюць у халатах, як дома.

Нейкая мірнасць быццам ляжыць на дрэвах гэтых, у траве, у ціхіх вулачках. Ціха-ціха навокал, і гэта навявае спакой. І неяк цяжка думаць, што недзе вайна, гінуць людзі.

Але весткі з фронту трывожныя. Тыдзень назад нашы пакінулі Севастопаль. А цяпер нешта нядобрае адбываецца пад Варонежам і Харкавам. Нашы пакінулі

Росаш і вядуць баі ў раёне Кантэміраўкі і на Лісічанскім напрамку.

*13 ліпеня*

Нашы пакінулі Кантэміраўку і вядуць баі ў раёне Багучар, на Доне, далёка ў тыле ад тых мясцін, дзе нядаўна была наша дывізія... Гэта так далёка ў тыле, што я не магу зразумець, што ж гэта там адбываецца. Здаецца, нешта вельмі небяспечнае, страшнае. Мяне гэтыя весткі гнятуць нясцерпна. Здаецца ўсё гэта кашмарным сном. Але гэта не сон. Што ж там робіцца?

Нашы пакінулі Лісічанск. Бяда ў знаёмых маіх мясцінах. Але гэтыя знаёмыя мясціны — ужо ў тыле ў немцаў. Няўжо немцы ідуць па нашых тылах?

Так, усяго я чакаў, толькі не гэтага. Хто б мог падумаць пра такое!

За тыдзень збіта 583 самалёты немцаў. Можна ўявіць, якія баі!

*14 ліпеня*

Немцы прарваліся ў раён Варонежа. Баі ідуць на поўдзень ад Багучар. Наступаюць у немцаў танкі і мотапяхота. Баі ідуць цяжкія.

*16 ліпеня*

Нашы вядуць баі ў Варонежы. Пакінулі Багучар і — Мілерава.

Два дні назад быў Лісічанск, а вось ужо — Мілерава! Неверагодна! Як гэта здарылася? І што тады з войскамі, якія былі ў Лісічанску? З таварышамі што?

У паведамленні гаворыцца, што асабліва лютыя баі ў Варонежы, але я ўсё думаю пра Мілерава! Што там адбываецца? Там, дзе я павінен быў быць. Калі б не раненне.

Думкі самыя страшныя...

А навокал сонечна, цёпла, ціха.

*17 ліпеня*

Перадалі вынікі баёў за два месяцы — ад 15 мая да 5 ліпеня. Гаворыцца, што новым у гэтых баях з'яўляецца ўзрослая стойкасць і арганізаванасць Чырвонай Арміі ў баях з немцамі. Гаворыцца аб вялікіх стратах немцаў у людзях і зброі.

Там жа [гітлераўская лухта]: немцы паведамілі, што

захапілі больш за 700 тыс. палонных, захапілі і знішчылі каля 4 тыс. нашых танкаў...

Баі ідуць на поўдзень і ўсход ад Мілерава.

*18 ліпеня*

Нашы на поўдзень ад Мілерава адбівалі атакі вялікіх сіл танкаў і мотапяхоты немцаў.

Але што значыць гэта — на поўдзень?

*19 ліпеня*

Па-ранейшаму цяжкія баі на поўдзень ад Мілерава.

Прыбыў састаў з раненымі з Варашылаўграда. У дарозе, на станцыі, ён трапіў пад бамбёжку. Многіх раненых забіла. Некалькі вагонаў згарэла, з іншых сарвала дахі. Потым састаў перафарміравалі. Ранены, што апавядаў, ехаў у вагоне без даху.

З прыбыццём гэтых раненых нібыта зноў дыхнула вайной у шпіталі. Гарачым і жорсткім подыхам.

*20 ліпеня*

Нашы пакінулі Варашылаўград. Горад, у якім зусім нядаўна я з таварышамі жыў, ужо пад акупацыяй. Успамінаю вуліцы і плошчы яго, стандартны гарадок. Дзяўчат знаёмых — Шуру і Марусю. Што з імі?

Ідуць таксама баі на поўдзень ад Мілерава.

*22 ліпеня*

Баі ў раёне Варонежа і на паўднёвы ўсход ад Варашылаўграда.

У раёне Варонежа нашы адцяснілі немцаў, а пад Варашылаўградам адышлі на новыя пазіцыі... Марыя Дзмітрыеўна пазнаёміла мяне з раненым лейтэнантам з Севастопаля Валодзем Сінюковым. Ён у мінулым беспрытульнік, збіраўся стаць мастаком, у вайну апынуўся ў Севастопалі і перажыў там вельмі цяжкія дні.

Ён таксама ранены ў руку. Бледнатвары, з чорнымі, гарачымі вачыма, ён робіць, нават знешне, уражанне чалавека, які многа пабачыў. Ён сапраўды шмат пабачыў, і, слухаючы яго, я быццам пераношуся думкамі ў палаючы Севастопаль.

Трэба будзе запісаць яго расказы.

Ён марыць напісаць карціну аб Севастопалі. Яна

ўжо склалася ў яго. Стары, жанчына і хлопчык, а за імі горад — Севастопаль — у агні.

*23 ліпеня*

Учора баі былі на паўднёвы ўсход ад Варашылаўграда, а сёння яны ўжо ў раёне Цымлянскай і Новачаркаска!

Ашаламляючая вестка! Нават паверыць цяжка! Што адбываецца! Новачаркаск — гэта ж па сутнасці Растоў! І калі ўчора баі былі ў Новачаркаску, дык сёння яны напэўна ў Растове! Цымлянская — не лепш за Новачаркаск, яна прыблізна на той жа паралелі, але глыбока ў нашым тыле. Гэта значыць, што амаль уся Данская вобласць у руках немцаў! Што ўвесь паўднёвы фронт абыдзены з тылу, адрэзаны ад баз. Мы страцілі ўвесь Данбас! Дарагі Каменск далёка ў тыле. Той Каменск, у якім мы марылі пра летнія перамогі!

Жахліва думаць і пісаць аб гэтым.

*24 ліпеня*

Немцы вядуць баі ўжо і ў раёне Растова. Яны рвуцца на Каўказ. Ася сказала, што нас збіраюцца эвакуіраваць.

*25 ліпеня*

У Растове цяжкія баі з танкамі і мотапяхотай. У раёне Цымлянскай немцы імкнуцца пераправіцца цераз Дон.

У шпіталі клопаты ў сувязі з тым, што нас эвакуіруюць.

Акрамя таго — у душы сум. Шкада пакідаць Есентукі, людзей, з якімі звыкліся, падружыліся.

Нібы адрываю часцінку ад сэрца.

*26 ліпеня*

Мы ў дарозе. Нас поўны састаў раненых. Заняты ўсе лаўкі.

Многіх уносілі ў вагоны на насілках. Пагрузка ішла доўга, марудна. Было многа мітусні, неразбярыхі.

Нейкая старая хадзіла па пероне сярод насілак і хадзячых калек, усё выглядала, выпытвала сына.

Зараз стаім у Мінводах. Раніца. Душна. Чуваць стогны. Гоман. Завіхаюцца сёстры.

*26 ліпеня*

Мы праехалі Маздок, Гудэрмес. Прайшла разам з мостам палоска Церака. Злева ад нас — раўніна, справа — паблізу горы.

Прыпынак у Махачкале.

*27 ліпеня*

Поезд ад Махачкалы ішоў уночы. Вагон драмаў. А я сядзеў ля акна і глядзеў — побач было мора. Яно амаль падыходзіла да насыпу. Ноч была светлая, і мора было добра відаць. У змроку ночы на бераг накатваліся белыя палосы пены.

Я ўпершыню бачыў мора. Хоць на фронце быў недалёка ад Чорнага мора, але так і не ўбачыў яго. Убачыў мора ўпершыню тут. Каспійскае.

Поезд ішоў павольна. Часам спыняўся, чакаў, пакуль шлях стане вольны. Тады было чуваць, як шуміць мора. Спакойна, велічна. Яно быццам дыхала.

Уночы праязджалі Дэрбент. Назва, якая нагадала дзяцінства («Дэрбент — Калуга»). Баку не бачыў. Праспаў.

*28 ліпеня*

Мы ў Тбілісі. У вялікім доме, на чатыры паверхі, з доўгімі калідорамі.

Тут была, відаць, школа. Калідоры і пакоі-класы яўна школьныя. Занялі пад шпіталь, можа быць, часова.

Наша палата, а праўдзівей — клас — на чацвёртым паверсе. Вокны выходзяць на вуліцу, шырокія, вялікія. У вокнах, удалечыні — голыя, рыжыя горы, а паблізу — дамы, дахі. Побач цікавы будынак, санітарка сказала — серныя лазні.

Палата хутка запаўняецца. Ужо амаль поўная. Толькі адзін ложак вольны. А ўсяго ложкаў — шэсць. Усе раненыя — «ручнікі». Параненыя ў руку. Ёсць яшчэ двое з «самалётамі». У астатніх рукі на падвязках. Адзін — без рукі.

Толькі што даведаўся: нашы пакінулі Новачаркаск і Растоў! У Цымлянскай баі працягваюцца па зводцы: з пераменным поспехам.

*29 ліпеня*

Мы абжываемся патрохі, знаёмімся з урачамі і з сёстрамі і між сабой.

Сястра ў нас Эліко, грузінка, маўклівая, сухаватая, трохі дзіўная. Гаворыць па-руску дрэнна. Фінкель, Сенькін і Брыцін у яе атрымліваюцца так: Фінькін, Сінькін і Брынькін. Жучкоў у яе — Шучкоў. Хлопцы пасмейваюцца адзін з аднаго.

Быў, рабіў абход доктар Бачылава, наш галоўны лекар, стары, сівы, хударлявы. Таксама малагаваркі.

Наш непасрэдны лекар — Лена Саркісава. Вельмі сур'ёзная і важная маладая жанчына. І вельмі ўважлівая.

Баі ідуць ужо ў раёне Батайска. Значыць, немцы з ходу пераправіліся цераз Дон. Пераправіліся яны, паведамляецца, і ў Цымлянскай. Але там нашы трымаліся колькі часу.

Растоў занялі немцы, а я ўсё ніяк не магу прызвычаіцца да гэтай думкі. Усё ўспамінаю яго, якім бачыў да ранення, як было ў шпіталі. Такі горад страцілі! І што з людзьмі яго? Дзе Антонаў, Ася? Усе астатнія?

У раёне Батайска баі вельмі моцныя.

*30 ліпеня*

Яшчэ адзін удар: немцы ўжо ў раёне станіцы Клецкая! Ад Клецкай — рукой падаць да Сталінграда. Праўда, перад імі тут яшчэ Дон. Але ж ці змогуць нашы затрымаць іх на Доне?

Баі на Доне — на вялікім працягу яго,— у Батайску, Цымлянскай і Клецкай! Распаўзліся немцы на такой прасторы.

Усюды баі крывавыя. А тут увесь час гаворка: франтавыя гісторыі, анекдоты. Смех нават.

Сёе-тое з гэтых гісторый запішу ў запісную кніжку.

Тут, у шпіталі, Валодзя Сінюкоў. Я рады гэтаму. Ні з кім у мяне няма такой душэўнай блізкасці, як з ім.

*1 жніўня*

Сёння ў нас дзень успамінаў. Аб фронце, аб службе ў арміі. Усялякая ўсячына: аб тым, як немцы-аўтаматчыкі хаваліся ў саломе. І на іх натрапілі. Аб тым, як у нямецкай кухні наш баец атрымаў вячэру. І аб тым, як у нашым шпіталі аказаўся немец, пераапрануты ў нашу форму. Жучкоў расказвае, як ён каўбасны склад

ахоўваў. І як ён забяспечваў сябе і сяброў сваіх каўбасамі ў неабмежаванай колькасці. Масягін увесь час выказвае яму недавер'е. Ён, наогул, відаць, мае звычку не верыць, гаварыць адваротнае.

У Фінкеля імкненне строіць дробныя штукі. Вельмі хоча, каб з яго штук смяяліся. А ў астатні час — абходы, перавязкі. Шпітальныя будні.

*2 жніўня*

Немцы ўжо ў Кушчаўскай і ў Сальску! Яны багата прайшлі ад Растова ў бок Каўказа.

У паведамленні: нашы вядуць зацятыя баі з перавышаючымі сіламі праціўніка.

Калі ж гэта будзе спынена?

Сёння ў зводцы многа фактаў аб дзейнасці беларускіх партызан. Аб падрывах нямецкіх эшалонаў, аб ударах партызан — у раёне Віцебска, Баранавіч і іншых гарадоў.

*5 жніўня*

Мы абжываемся. У нас амаль кожны дзень бываюць шэфы — школьнікі старэйшых класаў. Бываюць прадстаўнікі розных устаноў горада. Вечарамі — у шырокім калідоры — кіно ці канцэрты. Канцэрты даюць шэфы ці тбіліскія артысты.

Хлопцы ўжо асвоілі шлях, па якім і без дапамогі рук можна перабрацца цераз агароджу вакол двара шпіталя. Жучкоў і Масягін — у халатах — пабывалі ў горадзе, папілі піва. Жучкоў пранік нават на кірмаш, дзеліцца ўражаннямі.

*6 жніўня*

Мне няёмка пісаць тут у палаце. Пісанне прыцягвае ўвагу, выклікае пытанні, пакепліванне. Але пісаць больш няма дзе. Толькі тут, седзячы на ложку.

Я стараюся не звяртаць увагі на кепікі. Часу вольнага цяпер многа, і я хачу скарыстаць яго з толкам. У мяне шмат спраў. Мая запісная кніжка запаўняецца патрохі. Я пачаў запісваць таксама расказы Валодзі Сінюкова. І акрамя ўсяго, я задумаў апавяданне. На жаль, пісаць як след левай рукой я так і не навучыўся. Рука стамляецца. Не дачакаюся, калі здымуць гіпс — цяжкую кальчугу, якая так абрыдла мне.

*7 жніўня*

Мой урач Лена Саркісава сказала, што гэтымі днямі гіпс з мяне здымуць.

Штодзень хаджу на перавязкі. Робіць іх у перавязачнай Жэня, умелая перавязачная сястра. Урач амаль кожны дзень аглядае рану. Кажа, што рана зажывае добра.

*8 жніўня*

Пасля параўнаўча спакойных зводак — зноў трывожная: баі ў раёне Армавіра. Дакацілі амаль да Каўказа. Амаль каля самых гор. Прарваліся немцы і ля Цымлянскай, падышлі да Кацельнікава. Пераправіліся цераз Дон.

А тут жыццё ідзе па сваіх законах. Абходы, перавязкі, размовы. Шэфы, канцэрты. Паходы ў халатах у горад.

Жучкоў натрапіў на вуліцы на камісара. Расказвае, пасмейваючыся.

*9 жніўня*

Мне знялі гіпс. Дыхаць стала лягчэй. Але рука не ўхваляе гэтага, з'явіўся моцны боль. Кожны раз, калі адпусціш руку,— яна цягне ўніз як жалезная. Няма пляча! А мышцы не хочуць трымаць! Каб руцэ было зручней, на мяне, пад руку — надзелі «торбу». Урач, жартуючы, назваў мяне «паштальёнам». Усё ж я цяпер больш падобны да чалавека. Хоць і трымаю руку на падвязцы.

*11 жніўня*

Баі, акрамя Армавіра, пад Краснадарам і Майкопам. Майкоп — гэта ўжо, па-мойму, зусім Каўказ. Немцы прарваліся да Каўказа!

Сённяшняя вестка турбуе і тым, што Майкоп — гэта таксама нафта.

У зводцы неаднойчы гаворыцца аб зверствах немцаў у Беларусі.

Чытаю з цікавасцю «Цяжкі дывізіён» Лебядзенкі, раблю выпіскі. Чытанне дапамагае мне на час забыцца пра цяжкія думкі аб фронце, аб радзіме.

*12 жніўня*

Мяне жартам называюць тут «начальнікам штаба». Называюць так таму, што ў мяне ёсць карта і па ёй я сачу за тым, што адбываецца.

Да мяне часта падыходзяць ад ложкаў, прыходзяць з другіх палат. Распытваюць, разглядваюць. Выказваюць меркаванні.

Усё ж у нас жыве надзея, што ўрэшце немцу дадуць па зубах. Ды так, што не злічыць зубоў,— так ляцець будзе. Вельмі ж ужо нахабна лезе.

Немцы прарваліся да Чэркаска.

Зноў паведамленне аб родных мясцінах. Нямецкі начальнік скардзіцца, што немагчыма жыць ад партызан. «Немагчыма браць падаткі. Жывем, як на вулкане...»

*13 жніўня*

Заходзіў камісар шпіталя, гутарыў з намі. Гутарка яўна мела на мэце: падняць баявы дух, веру ў нашу перамогу.

Ён знешне вельмі каларытны, наш камісар Габічвадзе. Высокі, ружоватвары, з вачыма, падобнымі на слівы, камісар вельмі важна выглядае ў белым, адпрасаваным кіцелі. Рухі яго павольныя і важна-велічныя. І ўвесь ён робіць уражанне чалавека важна-велічнага.

*14 жніўня*

Немцы — у Мінеральных Водах! У тых Мінводах, дзе так нядаўна стаяў наш перапоўнены калекамі састаў!

Усе астатнія раёны баёў ранейшыя, але ўсюды — цяжкія баі.

А тут жыццё, як быццам, звычайнае. Агляды, перавязкі. Хлопцы з палаты распачалі знаёмствы з жанчынамі, дзяўчатамі. Ходзяць на спатканні — цераз пералаз. Сёй-той уладзіўся тут, распачаў сяброўства з санітаркамі, з афіцыянткамі. Каханне квітнее ваўсю. Як і ўсюды ля фронту.

*15 жніўня*

Побач са мной ляжыць чалавек з Украіны. Яго прывезлі трохі пазней нас, ложак дадаткова ўнеслі, паставілі пры акне. У яго не раненне, а нейкая дзіўная, ня-

бачаная хвароба ў пальцы — «панарыцый». Палец гніе. Гэты палец — на правай руцэ, сярэдні. Палец чалавек кашануе і руку з ім носіць асцярожна, перад сабой. Кажа, што палец усё не папраўляецца, усё гніе.

Ён быў у абозе. Ён самы стары з нас, яму ўжо, па-мойму, гадоў, напэўна, пяцьдзесят. Па цэлых днях ён сядзіць на ложку з выцягнутай рукой. Нікуды не ходзіць, гадзінамі маўчыць, усё думае. А калі гаворыць, то аб адным — аб жонцы, аб дзецях, аб гаспадарцы і аб тым, які ў яго добры сад. Найлепшыя ў свеце яблыкі. Успамінае ■ пяшчотай, як ездзіў на кірмаш у мірны час.

Мне здаецца, у нашым становішчы асабліва цяжка вось такім, пажылым, жанатым. Прозвішча яго — Пісарэнка, і родам ён з-пад Кіева. Там, пад Кіевам, у сяле, сям'я, і цяпер ён мучыцца яе лёсам.

Тут ёсць яшчэ адзін украінец, малады, здаровы хлопец. Светлавалосы, з ласкавай усмешкай, адчуваецца, лагодны. Вельмі сціплы. Хлопец як хлопец. Але часам ён спявае, ляжыць і спявае для сябе. Нібыта марнуючы час. Асабліва часта адну, якая бярэ за душу: «Тыхій Дунай, тыхій Дунай бэрэжэчкі зносыць, малады жоўнер, малады жоўнер атамана просыць. Атаманэ, рідный братэ, отпусты додому, бо ўжэ скучылась, бо ўжэ смучылась дзівчына за мною». «Отпустыў бы, козачэнько, та ты доўга будэш. Напыйсь воды холодной, про любов забудэш».

Мне яны — адсюль, з Каўказа,— здаюцца землякамі: Кіеў як бы зусім побач там з намі, і яны ўсё настройваюць мяне на думкі аб доме. Трывожаць сэрца.

Што там, у далёкай «загранііцы»?

*16 жніўня*

Баі на ранейшых напрамках.

Маімі пісаннямі зацікавілася мой урач. Сёння, калі ішлі на перавязку, яна мяне спытала з цікавасцю: «Што вы пішаце?» Я сказаў, што так, усякую ўсячыну.

Яна больш не пыталася, твар яе набыў вельмі дзелавы выраз. Яна вельмі сур'ёзная і сур'ёзна працуе і сур'ёзна ставіцца да нас. Яна быццам падкрэслівае, што яна дзелавы чалавек, урач, і заўсёды памятае аб гэтым.

Я таксама аб гэтым помню і разумею яе: ёй амаль

столькі ж гадоў, як і мне. I я ведаю, што яна студэнтка мединстытута ў Тбілісі. Няхай і апошняга курса.

Адносіны ў нас вельмі афіцыйныя. Але ўсё ж гэта не адносіны ўрача і хворага. Гэта адносіны двух студэнтаў, цяперашняга і былога.

Мы ўсё ж адчуваем сябе таварышамі. Хоць яна і нізашто, напэўна, не прызнаецца ў гэтым. Дзелавы чалавек, на службе.

Я прасіў яе хутчэй зняць з мяне «торбу». Яна абяцала.

*17 жніўня*

Нашы пакінулі Майкоп. Нафтапромыслы разбурылі, а абсталяванне вывезлі... Усё ж гэта вельмі непрыемная вестка!..

За тыдзень, паведамляецца, збіта 369 нямецкіх самалётаў!.. У Нікалаеве немцы за аднаго кімсьці забітага афіцэра арыштавалі і расстралялі 120 чалавек.

Зрабіў «вылазку» на «волю». Пералез удала, але калі саскочыў, штуршок разверадзіў руку. Давялося сагнуцца і закусіць губы. Насіў руку, як ляльку.

Упершыню пахадзіў на «волі». Праўда, не ведаў, што рабіць з гэтай «воляй». Выпіў віна шклянку, і толькі. Сустракаў знаёмых, са шпіталя. Аднаго-двух парачкамі. У халатах — і парачкамі.

Халат шпітальны тут, як і ў Есентуках, звычайнае адзенне. Але там быў парк, а тут — такі горад, і мне было трохі няёмка. Хоць я цяпер без гіпсу і захінуты дастаткова. Усё ж з-пад халата бялеюць голыя ногі. I шлёпанцы на голых нагах.

Вяртаючыся, сустрэў сваю ўрачыху. Яна строга пакруціла галавой як парушальніку рэжыму. Але дазволіла крыху правесці.

А вярнуўся дамоў праз парадны ўваход.

*18 жніўня*

Аб'яўлены вынікі трох месяцаў баёў. «Ідуць кровапралітныя баі, яны маюць надзвычай жорсткі характар».

Немцы засяродзілі на поўдні галоўныя свае сілы, перакінулі сюды свае дывізіі з захаду, мабілізавалі саюзнікаў і стварылі вялікую перавагу ў тэхніцы і людзях. Нягледзячы на тое, што мы страцілі значную тэ-

рыторыю і важныя гарады, немцы не дабіліся таго, што паставілі сабе за мэту. Яны наступаюць толькі на поўдні, а пад Варонежам топчуцца. Стрымліваюць іх нашы войскі таксама і на Доне. На іншых жа франтах нашы войскі самі праводзілі актыўныя баявыя дзеянні.

За тры месяцы немцы страцілі 1250 тысяч салдат і афіцэраў, прычым толькі забітымі 480 тысяч. Страцілі 3390 танкаў, 4000 гармат і не менш 4000 самалётаў.

Мы страцілі раненымі і прапаўшымі без вестак 606 тысяч чалавек.

У зводцы высмейваецца паведамленне немцаў аб тым, што яны захапілі быццам бы за гэты час больш мільёна палонных, захапілі 10 тысяч гармат, больш 6 тысяч танкаў і самалётаў.

Красамоўная канцоўка ў паведамленні: «Страты немцаў за апошнія тры месяцы паволі, але няўхільна падрыхтоўваюць глебу для будучага разгрому нямецкіх войск».

Мне здаецца, што вывад гэты правільны. Па-мойму, так і будзе!

Хоць баі жорсткія і страты велізарныя.

*19 жніўня*

Баі ідуць у Кацельнікаве і Пяцігорску. На астатніх участках — на ранейшых пазіцыях. Аднак у раёне Клецкай зноў адышлі на новыя рубяжы.

*20 жніўня*

Нашы пакінулі Краснадар.

Мне дазволілі хадзіць без «торбы». Рука толькі на павязцы. Даволі добра загойваецца.

*21 жніўня*

Амаль кожны дзень хто-небудзь ад'язджае са шпіталя. Мы, хто застаецца, з зайздрасцю глядзім на іх. Усе ў душы мараць дачакацца свайго дня. Нас тут мучыць смяротная туга.

Мяне, здаецца, гнятуць гэтыя голыя горы. Так надакучыла бачыць іх з акна. І з такой пяшчотай успамінаюцца родныя зялёныя лясы, палі, людзі, з якімі вайна так надоўга і на такую адлегласць разлучыла.

У палаце і ў калідоры часта ідуць размовы аб выпісцы, аб тым, хто куды «пакаціць».

Я таксама думаю аб гэтым. Але куды падацца, не ведаю. Мне можна было б вярнуцца ў Маскву, адкуль мяне прызывалі. Але адтуль мне не адказалі. Ці будзе там дзе прытуліцца? Чым больш я думаю, тым мацней упэўніваюся: трэба спачатку знайсці даведкі аб тым, хто са сваякоў і знаёмых эвакуіраваўся. Спадзяюся, што, можа, мае бацька і маці паехалі ў эвакуацыю, уладкаваліся на новым месцы.

Адным словам, трэба раней за ўсё: займець даведкі, адшукаць сваіх людзей. А дзеля гэтага трэба наведацца ў Цэнтральнае бюро даведак, ёсць такое, я дазнаўся, у горадзе Бугуруслане, у Чкалаўскай вобласці. У гэты Бугуруслан і трэба выкіравацца спачатку, на месцы ўсё разведаць. Гэта галоўнае. Усё астатняе тады акрэсліцца, у залежнасці ад вынікаў пошукаў. У залежнасці ад адказаў бюро даведак.

Карацей кажучы — трэба ў Расію, на раўніну. Гэтага і хочацца.

*22 жніўня*

Увогуле, будучыня мая зусім няясная. Для службы ў арміі я, ва ўсякім разе, пакуль — не падыходжу. Рука па-ранейшаму і на падвязцы — ные, трэба падтрымліваць яе, песціць. Ніякай трасяніны не выносіць. Нават пры хадзе ступаць трэба мякка. Каб не было штуршкоў. Калі пішу, таксама патрабуе пяшчотнага абыходжання. Каб не было рэзкіх рухаў, ніякіх націскаў. І праз кожныя некалькі хвілін — адпачынак.

Я спадзяюся, што ўсё ж далей павінна быць лепей. Але ўсё гэта надзеі. Пакуль увечары, калі кладуся спаць, кручуся і так, і гэтак, падтрымліваю, падкладваю падушку, «торбу», каб ёй было зручна. Ды — усё не падабаецца ёй, ные, зануда.

Часам думаю аб вучобе. Можа, вярнуцца ў інстытут? Але дзе ён, гэты мой МИФЛИ, Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры? З Масквы яго, напэўна, эвакуіравалі. А можа, і зусім расфарміравалі?.. Не, не павінны...

Зрэшты, вучыцца чамусьці не хочацца. Неяк і не думаецца сур'ёзна аб гэтым. Не да таго...

Наогул, усё пакуль няясна...

*23 жнiўня*

Усё думаю над вершам «Мы ноччу пакідалі вёску...». Амаль закончыў яго. Але не выходзіць пакуль канцоўка. Не зусім тыя словы. А сам верш быццам бы нічога. Хвалюе мяне. Напісаў збольшага яшчэ адзін — «У палаце». Сякія-такія шурпатасці ёсць, і канцоўка таксама не выходзіць. І яшчэ адзін пачаў «В распахнутые двери ворвались тугие, недалекие раскаты...». Хочацца дарабіць яго, а ён не даецца. Нічога не выходзіць, хоць крычы!.. А наогул я, мусіць, буду пісаць прозу. Ёсць у мяне добрыя задумы — два апавяданні. «Сустрэча ў шпіталі» і «Апошняя аперацыя».

Вось толькі месца знайсці б, каб можна было пабыць аднаму.

*23 жнiўня*

Маімі заняткамі зацікавілася Жэня. «Што вы ўсё пішаце?» Яна ў мяне выклікае давер'е, у нас з ёй добрыя таварыскія адносіны, але я ўсё ж не сказаў ёй нічога толкам. Усё ж пісанне — гэта справа вельмі асабістая. Інтымная як бы.

Яна, можа, трохі пакрыўдзілася. Але сказала, што я пасля перавязак магу займаць яе «кабінет». Гэта — здорава! У кабінеце яе ёсць стол, а галоўнае — можна зачыніцца, быць аднаму. Ніхто глядзець не будзе.

Пасля работы і вечарамі пакой яе заўсёды вольны. Яна мне дала ключ.

*24 жнiўня*

Я забыў напісаць, што Жэня тут — камсамольскі сакратар, акрамя таго, што яна — перавязачная сястра. Таму яна і мае «кабінет» — пакойчык з акном і сталом.

Тут я сяджу і пішу. Апавяданне! Проста гару ад хвалявання. Нават руку тузае боль. Але я спыняюся толькі на хвіліну. І далей. Здаецца, будзе штосьці вельмі добрае! Ва ўсякім разе я гару, як у полымі.

Як у ліхаманцы, галава, сэрца, увесь!

Што ж выйдзе з гэтага?

*25 жнiўня*

Нашы вядуць бai ў раёне Прахладнай. Зноў адышлі — у бок Каспійскага мора. Да Баку.

Нашы рабілі налёты на Кёнігсберг і Данцыг!

*26 жніўня*

Учора пачаліся баі пад Сталінградам. Немцы дайшлі да Волгі!

На подступах да Сталінграда за два дні збіты 92 самалёты.

Потым нечакана было перададзена паведамленне: «У апошні час». Ужо па голасу дыктара адчувалася, што будзе нешта незвычайнае. І праўда — упершыню за апошні месяц, пасля ўсіх незлічоных, сумных вестак — першая радасная вестачка, ды яшчэ якая! Нашы войскі на Заходнім і Калінінскім фронце ўжо два тыдні вядуць вялікае наступленне на немцаў. На Ржэў і Гжацк і Вязьму.

Нашы войскі прарвалі абарону немцаў па фронту на 115 кіламетраў і адкінулі немцаў на 50 кіламетраў. Разбіта 6 пяхотных дывізій, 2 мотадывізіі, танкавая дывізія, шэрагу іншых нанесены вялікія страты. Вызвалена 610 населеных пунктаў, і сярод іх тры гарады. Баі ідуць на ўскраіне горада Ржэў.

Астатнія гарады, праўда, невялікія, на карце іх няма, але гэта не мяняе справы.

Аб тым, якія вялікія і паспяховыя баі ішлі, сведчаць велізарныя трафеі, што немцы пакінулі пры адступленні. Пералічэнне іх гучыць у нашых вушах як музыка! Дачакаемся, не можа быць, каб не дачакаліся, калі такая музыка будзе гучаць часта!

Вестка пра гэта хутка разышлася па шпіталі. Палаты ў гэты вечар доўга не маглі супакоіцца, усё абмяркоўвалі радасную навіну. Усе быццам ажылі!

Але паведамленне — немцы ў Сталінградзе — ные ўсё ж. Бы стрэмка.

*27 жніўня*

Немцы ўжо ў Маздоку.

Пад Сталінградам і ў Маздоку.

Радасць наша прыціхла.

*28 жніўня*

Баі ідуць у ранейшых раёнах. Але спакою няма ў нас.

Прыпынілі. Але ці надоўга?

*29 жніўня*
Баі ўсё там жа. Без змен.
У тым ліку — баі на ўскраінах Ржэва.

*30 жніўня*
На фронце ніякіх змен.

*31 жніўня*
«Ніякіх істотных змен не адбылося».

*1 верасня*
Ніякіх змен!
У нас такое адчуванне, што нямецкае наступленне спынена. Вельмі хочацца, каб так і было.

*2 верасня*
У ранішняй зводцы — усё тое ж: лютыя баі ў Сталінградзе. Нашы адбіваюць атакі праціўніка. На іншых франтах — без змен.

Удзень я стаяў у калідоры, падышла В. Р., спытала: чаму я сумую, нікуды не хаджу? Сказаў, што — хаджу, гуляю. Яна сказала, што яна гаворыць не пра тое: не пра тое, што я не хаджу гуляць на двор, а не хаджу ў горад. Яна раптам мне прапанавала: хочаш, я табе прынясу касцюм? Я збянтэжыўся, адмовіўся, але яна заявіла тонам цвёрдым, як старэйшая: нічога, я прынясу заўтра.

Я сёння многа думаю аб ёй. Яна старэйшая за мяне, ёй ужо больш за дваццаць пяць, і яна, кажуць, была замужам. Але муж яе загінуў ці, можа быць, прапаў без вестак. І хоць яна сама вайну не бачыла, сапраўдную вайну, і ў гэтых адносінах уступае мне, але ў жыцці яна, мне здаецца, разумее многа. Яна быццам увесь час нешта тоіць.

Да яе не адзін ужо спрабаваў падкаціцца. Але без поспеху. Хоць з выгляду яна быццам і не строгая.

Не ведаю, што азначае гэта яе размова. Але мяне яна ўсхвалявала, і я думаю аб ёй.

*3 верасня*
Баі ў Сталінградзе. А таксама ў раёне Новарасійска.

У раёне Сталінграда — баі супраць буйных груп танкаў і пяхоты, што праваліся ў глыбіню нашай аба-

роны. На адным участку немцы кінулі супраць нас 150 танкаў. Прарвалі нашу абарону, і нашы адышлі.

150 танкаў! Можна ўявіць, якія там баі.

Пра баі пад Новарасійскам — паведамленне невыразнае. Ясна толькі, што немцы націскаюць з боку Краснадара. І ясна, што яны прабіваюцца наперад.

Пад Маздокам нашы адбіваюць атакі.

А ў нас у шпіталі — ціхае, звычайнае жыццё.

*4 верасня*

Баі ў тых жа раёнах, і баі цяжкія.

На поўдзень ад Сталінграда нашы зноў адышлі.

Учора вечарам В. Р. адазвала мяне ўбок і папрасіла пачакаць. Я чакаў яе ў цемнаватым кутку пры лесвіцы. Яна хутка вярнулася і ўручыла мне вялікі пакунак. Яна, як і я, саромелася, але таксама старалася не паказваць выгляду. Я хацеў затрымаць яе, але яна адразу ж вызвалілася, пайшла.

Пакунак у палаце яшчэ ўчора заўважылі. Падчэплівалі мяне, пыталіся — адкуль. Але я сказаў, што купіў у горадзе.

Сёння я апранаў яго. Дзіўнае пачуццё — у чужым касцюме. Адчуваю сябе быццам змоўшчык. У змове з В. Р.

Яна ж, калі зайшла ў палату, нават выгляду не падала. Як яны, жанчыны, умеюць хаваць свае пачуцці. Нічога не зразумееш!

Я хвалююся...

*5 верасня*

На поўдзень ад Сталінграда нашы прыпынілі немцаў. Пад Маздокам немцы пераправіліся цераз раку.

Учора ўвечары, калі В. Р. ішла з работы, я перабраўся цераз плот, хацеў правесці яе. Яна не дазволіла. Я падумаў спачатку, што яна гэта — так, для выгляду. Але яна ўпарцілася, пакрыўдзілася нават. Затаіў крыўду і я. Яна пазірае на мяне — як на хлопчыка!

Наогул, на душы ў мяне крыўда і расчараванне. Адчуваю сябе абражаным...

А разам з тым і няёмкасць, што ў такі цяжкі час я думаю аб гэтым і не магу не думаць.

*6 верасня*

Баі ў ранейшых раёнах. Але пад Новарасійскам нашы адышлі зноў.

Сёння адзін ранены расказваў, як нашы раненыя прабіраліся пешкі з Кіславодска і Есентукоў у Тбілісі! Шлях, па якім яны ехалі, аказаўся ў немцаў, і ім давялося, кульгаючы, падтрымліваючы адзін аднаго, ісці па Ваенна-Грузінскай дарозе, цераз горы, многія дзесяткі кіламетраў! Кажа, што нямала раненых не паспелі вывезці...

Бачу зноў Есентукі, успамінаю, і на душы — быццам камень!

*7 верасня*

Хадзіў на стадыён, глядзеў футбол. На стадыёне разгаварыўся з суседам — малодшым лейтэнантам, пехацінцам. Ён ранены нядаўна. Адступаў з войскамі з Данбаса. Расказваў: на дарогах у час адступлення рабілася кашмарнае, «месеры» і «юнкерсы» ўсе дні выкатвалі дарогі. Расстрэльвалі і бамбілі безупынна. Немагчыма было рухацца. Над дарогамі ўвесь час гучалі трэск, выццё, грукат. Ішлі ў асноўным па начах; удзень, акапаўшыся, чакалі. Нямецкія танкі аказваліся часта наперадзе. Танкаў гэтых — мноства. Нашай авіяцыі і нашых танкаў амаль не відаць. Калі і з'явіцца пара знішчальнікаў нашых — на іх, як каршуны, «мессеры». Акрамя ўсяго — нясцерпная гарачыня, распаленыя неба і зямля.

Часці і людзі пераблыталіся, парадак захоўваць было цяжка. Кацiць давялося не на ўсход, а на поўдзень, да Растова. Цераз Дон пераправіліся на поўнач ад Растова — масты былі ўжо ў немцаў. Перапраўляліся хто на чым змог. Нямала патанула... Ён апавядаў шчыра, з болем, смела, і сам ён рабіў уражанне чалавека смелага. Так што тут, ясна, быў не страх, у якога вочы вялікія, не паніка, а — праўда. У яго твар быў апалены сонцам, голас глухі. Увесь ён яшчэ выглядаў знясіленым.

Ён сказаў, што Растоў здалі амаль без бою. Сталін з прычыны Растова выдаў загад, у якім ёсць такія словы пра тых, хто вінаваты ў здачы Растова: «вы зганьбілі свае сцягі». Сталін кажа, што стварылася небяспечнае становішча для ўсёй краіны. Што адсту-

паць далей — значыцца, згубіць усё. Што трэба ўстанавіць жалезную дысцыпліну і біцца за кожную пядзю зямлі. Што панікёраў і баязліўцаў трэба бязлітасна расстрэльваць.

Загад гэты чыталі перад строем ва ўсіх часцях. Пад загадам даюць распісвацца, як пад прысягай. Моцны гэты загад — № 227.

Я ўвесь час хаджу пад уражаннем гэтай размовы. Думаю аб загадзе, аб Растове, аб лейтэнанце, аб маіх таварышах па дывізіі,— што ім давялося зазнаць у гэтыя дні і дзе яны? Яны не інакш недзе недалёка. Тыя, хто жывы яшчэ.

Сэрца страшэнна цісне пачутае. Адчуваю амаль адчай, ніколі не думаў, што будзе такое лета!

Калі ж прыйдзе канец гэтаму? Калі ж сіла наша загаворыць? Што ж гэта робіцца?

У Сталінградзе баі як быццам ідуць паспяхова. На поўдні яго немцы чатыры разы атакавалі, але адбіты. Адбілі атакі і на поўначы.

У раёне Маздока нашы знішчалі немцаў, якія прарваліся цераз раку. Наогул, адчуваецца як быццам, што немцы выдыхаюцца. А мы, падобна, набіраем сілы.

*8 верасня*

Баі ўсё там жа. На поўдзень ад Сталінграда немцы спрабавалі наступаць. На адну батарэю кінулі трыццаць танкаў. Нашы адбілі атаку. А на захад ад Сталінграда нашы дзе-нідзе адышлі зноў.

«Пераправіўся» цераз агароджу, пашкодзіў трохі руку. Яна ўвесь дзень ные. Адправіўся на рынак, блукаў доўга, глядзеў на тылавое жыццё. Потым купіў абмундзіраванне: чорныя матроскія штаны і футболку, як да вайны.

Не хачу хадзіць у чужым.

*9 верасня*

Учора пад Сталінградам — на захад ад яго — нашы зноў адышлі на новы рубеж. У раёне Новарасійска немцы ўклініліся ў нашу абарону. Пад Маздокам немцы зноў пераправіліся цераз раку, ідуць баі па іх знішчэнню.

Усё ж немцы — топчуцца. У баях адбыліся яўныя

змены. З 26-га жніўня ля Маздока па сутнасці бai немцы вядуць без поспеху. Ды і ля Сталінграда — бai пазіцыйныя.

З Валодзем Сінюковым хадзілі на кватэру да Галі Гудаковай. Яе дом недалёка ад шпіталя, за Курой. Галя, гэта відаць, закахалася ў Валодзю, ды і Валодзя — нешта незвычайны, быццам прыціх.

Я нечакана ўбачыў на этажэрцы «Тихий Дон» Шолахава. Цэлыя тры кнігі. З зайздрасцю, што тут такое багацце, разглядаў. Галя, мабыць, заўважыла, як блішчалі мае вочы, калі я разглядваў гэтыя бясцэнныя кніжкі, і нечакана расшчодрылася, падарыла іх мне!

У мяне цяпер у тумбачцы цэлае багацце! Дзякуючы Валодзю.

Вярнуў касцюм В. Р. Было няёмка. Але я сказаў, што ў мяне ёсць свой. Ды яна і бачыла.

Я не разумею яе і яе адносін да мяне. Ды і свайго пачуцця не разумею.

Усё ж мне яе вельмі шкада.

*10 верасня*

Радыё і газеты выкрываюць хлуслівыя весткі нямецкага радыё і паведамляюць пра страты з 1 мая па 31 жніўня.

Паведамляецца, што ў нас вялікія страты панеслі 42 стралковыя дывізіі і 25 брыгад, з іх 14 танкавых. За гэты час намі разгромлены 73 дывізіі, з іх 54 нямецкія, 8 румынскіх, 5 венгерскіх, 4 італьянскія, 1 славацкая і дацкі легіён. «Пройдзе небагата часу, і астатнія дывізіі Гітлера і яго падручных спасцігне такі ж канец!» — гаворыцца ў гэтай заяве.

У душы стала святлей.

*12 верасня*

Нашы пакінулі Новарасійск.

Пад Сталінградам і Маздокам бai ў ранейшых раёнах.

Нейкія наступальныя бai на Заходнім фронце і на Волхаўскім, у раёне Сінявіна. Але, відаць, невялікія.

*14 верасня*

Бaі ў ранейшых раёнах. За тыдзень з 6 па 12 верасня нашы збілі 415 нямецкіх самалётаў! Якія бaі ў небе!

У калідоры, дзе мы абедаем, была сустрэча з журналістамі. Расказвалі аб становішчы на фронце. Кажуць, што немцы выдыхаюцца, ужо не маюць магчымасці наступаць. А нашы сілы растуць.

Было многа народу, многа пытанняў. Слухалі з хваляваннем. Доўга гаварылі потым між сабой, у палаце. Настрой баявы! Растуць надзеі!

*17 верасня*

Ноччу быў налёт на Тбілісі. Немцы не бамбілі ці не змаглі бамбіць, але шуму было многа. Вельмі часта білі зеніткі.

Непрыемна было сядзець на чацвёртым паверсе і чакаць. Амаль усе, хто мог, кінуліся на двор. Глядзелі. У небе шнарылі пражэктары і ўспыхвалі разрывы. Чакалі напружана свісту бомб. Але ўсё абышлося.

Калі сціхла і сталі вяртацца, тыя, што засталіся ў палатах, падчэплівалі тых, каторыя пабеглі на двор. Масягін здзекаваўся з Жучкова: «Эх ты! Відаць, у штаны наклаў! Ты і на фронце, відаць, такі быў, ваяка! Ледзь што — штаны ў рукі!» Жучкова зачапіла гэта: «Трапіўся б ты мне на фронце, я паказаў бы табе, які я ваяка! Сам бы наклаў у штаны!» Потым ужо, не Масягіну, а іншым сказаў: «Мне лічаныя дні засталіся да камісіі. Што ж, я павінен рызыкаваць і не дачакацца камісіі?»

Наогул, усе ўзрушаны, гавораць узбуджана. І смяюцца больш, і анекдотаў больш... А я ўспамінаю, што мяне асабліва трывожыла, калі я падумаў пра бамбёжку. Самае страшнае, калі адваліць кавалак дома і будзеш ляцець з чацвёртага паверха — разам з ложкам і цэглай! Чамусьці мяне больш за ўсё палохае гэта: падаць з чацвёртага паверха! Мой ложак якраз у куце, з абодвух бакоў знешняя сцяна. Ужо калі адваліць вугал, дык мне першаму ляцець! Хоць ты месца мяняй!

*18 верасня*

Ідуць баі ў Сталінградзе. На яго вуліцах. Нярэдка пераходзяць у рукапашныя.

На паўночны захад ад Новарасійска маракі адбілі атакі. Пад Варонежам нашы наступаюць.

*19 верасня*

Баі на ранейшых напрамках. Яўна адчуваецца пералом у ходзе вайны. Немцы ўжо не могуць наступаць. Учора зноў гуляў у горадзе. Але самае забаўнае тое, што гуляў я са сваім лечачым урачом — Л. С. Каб сустрэцца нам на вуліцы, яна пайшла праз прахадную, а мне, як самавольшчыку, давялося лезці цераз каменную сцяну, дзе лазяць усе самавольшчыкі.

Яна мяне чакала ва ўмоўленым месцы, і мы потым даволі доўга хадзілі. Л. С. была як заўсёды сур'ёзная і цікавілася маімі літаратурнымі справамі.

На вуліцы мы сустрэлі некалькі раненых, некаторыя былі таксама парачкамі. Л. С. адчувала сябе яўна напружана: як жа, урач сама, страж парадку, у ролі парушальніка яго, а хворым, таксама парушальнікам. Што гэта падумаюць?

Пакаранне нам было жорсткае. Самае жорсткае. Л. С. і я саромеліся недзе хавацца, і вось адплата: калі мы ўжо збіраліся развітацца, ля самага шпіталя мы тварам у твар сутыкнуліся з самім камісарам Габічвадзе. Трэба было бачыць, як выразна, здзіўлена і, канечне, асуджаючы, паглядзелі слівовыя вочы камісара на Л. С.! Л. С. запалала. Нічога больш страшнага, чым гэтыя выразныя вочы, для Л. С. быць не магло! Малады ўрач, найсумленнейшая Л. С., бездакорная Л. С. гатова была загінуць.

Справа не ў тым, што камісар мог напісаць у Тбіліскі медінстытут, дзе Л. С. яшчэ лічылася на апошнім курсе, няма горшага за той суд, якім судзіш сябе сам!

Наогул, я адчуваю сябе таксама вінаватым за яе.

*20 верасня*

На фронце — усё тое ж. У раёне Маздока забіты камандуючы першай танкавай арміі немцаў генерал-палкоўнік Клейст. Фон Клейст. Той, з якім мы мінулай восенню «пазнаёміліся» пад Растовам.

З. Б. сказала, што я хутка пайду на камісію і мне дадуць водпуск, і спытала: куды я хачу паехаць. Я сказаў, што хачу ў Расію, бліжэй да родных мясцін. Яна чамусьці не раіла нікуды ехаць, пераконвала, што нідзе лепей, як тут, у Тбілісі, не будзе. Намякнула, што яна дапаможа ўладзіцца добра.

Я ведаю: яе дзядзька — вялікі чалавек у Наркамаце аховы здароўя.

Але мяне страшэнна цягне ў Расію. У якой мяне, можа, ніхто не чакае, але без якой я, здаецца, жыць не магу. Не разумею, чаму мне не хочацца заставацца тут, дзе ў мяне ўжо ёсць сябры?

Думкі, мары нясуць мяне за каўказскі хрыбет, у туманную далячынь рускіх раўнін. Мары няясныя, няпэўныя, але яны клічуць. Нястрымна.

*21 верасня*

Хачу больш падрабязна напісаць пра раненне. Пра першыя дні ў шпіталі ў Растове.

*20 чэрвеня*

Дык вось дзе «таилась погибель моя». Я ляжу і праз жахлівы боль у правай руцэ намагаюся звязаць абрыўкі страшных думак. Я паранены, цяжка паранены асколкам авіябомбы... Пяць гадзін... Страшны грукат... Я падаю... Можа быць, спачатку — падаю, а потым грукат. Дым клубіцца па вуліцы. Ляцяць камені і падаюць на асфальт. Уецца абарваны дрот. Я ляжу тварам уніз. Першая думка — няўжо смерць? Бягуць людзі, спалоханыя, бязладныя выкрыкі. Побач ляжыць маладзенькая дзяўчынка, напэўна, школьніца. Шчака парвана. Яна падплывае густой крывёю, стогне, нешта апошняе намагаецца вымавіць, здаецца: «Мама». Паварочваю галаву — яшчэ ляжаць, нязручна, няёмка, нерухома, падплываючы крывёю. Свішча міліцыянер. Не, я жывы. Болю няма. Галава добра працуе. Паспрабаваў нагу, дзейнічае. Зірнуў на руку — дзе быў штуршок,— рана, ірваныя краі, белая галоўка плечавой касці рассечана і тырчыць з раны. Я абыякава агледзеў рану. Падняўся. Правая рука бяссільна апусцілася. Цягучы, жалезны боль. Я падцінаю руку. Лягчэй, але рука па-ранейшаму ные. Іду па вуліцы. Жанчыны, зірнуўшы на маё правае плячо, з жахам адварочваюць твары. «Дзе шпіталь?» — пытаюся. Хлопец паказвае рукой уздоўж вуліцы. Цягучая знямога адбірае мае сілы, я хістаюся, вуліца кружыцца. Дрыжаць ногі, падкошваюцца. Я апускаюся на тратуар. У атупелай галаве няма думак, няма трывог, толькі неадольнае, соннае — легчы, легчы, забыцца. Але забыццё не

прыходзіць,— усё працінае цягучы, глухі боль. Да мяне падбягае Вася — сваяк Сіважалезава. «Ваня, што з табой?» Ён нахіляецца нада мной. Я абыякава ўздымаю вочы. Ён кліча маракоў, што прабягалі па вуліцы. Яны спыняюць машыну. Кладуць у кузаў. Вася трымае маю галаву і руку. Побач нехта ляжыць са скалечаным тварам, вока вылезла з вачніцы, гайдаецца. Усё тое ж жаданне — забыцца, каб не было цягучага болю ў плячы і руцэ. Машына спынілася. Крычаць: «Насілкі сюды!» — «Куды яго?» «Сюды, сюды давайце». «Гэты ўжо гатовы»,— кажа ўрач пра майго таварыша з выцеклым вокам. Калышуцца насілкі. Урач кажа: «Не хвалюйся, нічога страшнага». Я не адказваю. Я не хвалююся, толькі б сціх цягучы боль. Аперацыйны стол. Уколы, якія я амаль не адчуваю. Урач, дзяўчаты ў белых масках. Мяне ўгаворваюць, каб я не скідваў наркозавую маску, хоць гэта вельмі непрыемна. Я спакойна дыхаю, соннае жаданае забыццё цяжка навальваецца на мяне. «Не турбуйцеся,— кажу я.— Я ўсё перанясу добра»,— і засынаю.

Прачынаюся я ноччу. Цёмна. Цьмяна паблісквае сіняя электрычная лямпачка. Горача. Ссоўваю коўдру. Робіцца халадней. Рука ў бінтах, і боль сціх. Ля ложка сядзіць незнаёмая маладзенькая сястра, усміхаецца. У мяне таксама бесклапотная ўсмешка нованароджанага. «Як вас зваць?» — пытаюся. «Ася. А я вас ведаю. Вас завуць Ваня». Я слухаю, яна гаворыць. «Я была дома, калі мяне выклікалі. Кажуць: новага «цяжкага» прывезлі. Я прыйшла. Ух, і доўга ж вы спалі! Моцна!» Спаць больш не хочацца. Ася мне расказвае. Бацька яе — ваенны, падпалкоўнік, на фронце, пісьмаў ад яго даўно няма. Перад вайной жылі ў Львове. Яна была на фронце, была паранена, два месяцы ляжала ў Сочы. Адтуль паслалі працаваць сюды, у шпіталь. Тут яе клічуць «медзведзяня», яна часта танцуе танец «медзведзяняці», які раненыя вельмі любяць.

*22 чэрвеня*

Растоў. Шпіталь. Другія суткі ляжу на спіне. Рука прывязана да ложка. Не магу павярнуцца. Ніколі не думаў, што гэта так цяжка — двое сутак ляжаць нерухома. Самае вялікае шчасце, якое мне малюе ўяўленне,— гэта павярнуцца на бок і ляжаць на баку, толькі

не на спіне. Другія суткі нічога не ем, нічога не хачу есці. Пажылая сястра рада падаць мне ўсё, каб я мог падсілкавацца, але я адмаўляюся. Мне толькі хочацца піць, і я п'ю, часта, многа, прагна. П'ю журавінавы квас — з вялікай ахвотаю. Без намагання піў раствор англійскай солі. Жую таблеткі стрэптацыду, якія ем дзесяткамі. Гэта, каб не было гангрэны. Учора зрабілі аперацыю. Кажуць, адрэзана галоўка, шыйка правай плечавай касці, адростак лапаткі і частка ключыцы. Але гэта не ўсё. Мне трэба быць гатовым на большае. Урач Антонаў, галоўны ўрач шпіталя, шчыра кажа, што можа пачацца гангрэна і тады руку прыйдзецца ампутаваць. Я даю згоду. На фронце я амаль увесь час жыў пад пагрозай усякіх страшных нечаканасцей, я звык гатовым быць да ўсяго. Я думаў, што магу быць забіты, магу страціць абедзве нагі, абедзве рукі — усялякі, хто глядзеў у вочы смерці, ведае гэта, таму я без вагання, вельмі лёгка, можа быць, легкадумна даю згоду адрэзаць руку. Урач кажа, што ён зробіць усё, каб руку зберагчы, пойдзе на рызыку. «Рука ўсё ж трэба хлопцу!» — жартуе ён. Усе гэтыя дні праходзяць у чаканні — будзе гангрэна ці не, будзе рука ці не. Сёння і заўтра гэта яшчэ не вырашыцца. Будуць адно рабіць усё, каб зберагчы руку. Урачы амаль не адыходзяць ад мяне.

Я ляжу адзін у палаце. Круглыя суткі сястра сядзіць ля майго ложка, я стагну ад болю і ад стомы. Двое сутак я зусім не спаў.

*24 чэрвеня*

Ледзь толькі настае ноч, роўна ў адзінаццаць на двары непадалёк тужліва і даўка вые сірэна. Трывога, на горад ідуць нямецкія самалёты. Прыбягаюць сёстры, і мой цяжкі ложак разам са мной нясуць на першы паверх. Сховішча няма. Усе сядзяць у калідоры і нацята слухаюць, як, то набліжаючыся, то аддаляючыся, б'юць зеніткі. Я па-ранейшаму не магу спаць. А спаць нечалавеча хочацца. Бяссільна абвісае цела. Баліць кожная костачка, кожная часцінка. Я мару аб тым, каб хоць некалькі хвілін паляжаць, заснуць, забыцца. Але легчы нельга, імгненна ўспыхвае востры боль,— не ў плячы, а ў локці і ў пальцах. Нават схіліць галаву на бок нельга, ажывае боль. Больш няма сілы трымаць

прама галаву. Мяне абклалі падушкамі з усіх бакоў, але аблакаціцца на іх нельга. Ледзь схілюся на бок — выбухае боль. Каб заснуць і забыцца, прашу ўкола морфію. Не даюць. Я ўжо і так вельмі многа яго прыняў, гэта можа дрэнна адбіцца на аслабленым арганізме. Прашу сястру, угаворваю, яна спачувае, але ўкола не дае, баіцца гневу ўрача. Урэшце, урач злітаваўся над маімі пакутамі, дазваляе даць укол. Дзякую. Прыняўшы ўкол, спадзяюся заснуць, але сон не прыходзіць. Нясцерпны боль не сціхае. Морфій не дапамагае. Схіліў галаву на нейкі падрыхтаваны пюпітр і трохі задрамаў. Праз дрымоту — тузае гэты пракляты боль. Ад яго нідзе няма спакою. Пакуль яшчэ невядома, што будзе з рукой. Яе адно стараюцца ўратаваць.

## Кніжка трэцяя

# ВОДПУСК НА ПАПРАЎКУ

24 верасня 1942 г.— 1 студзеня 1943 г.

*24 верасня, Тбілісі*

У ноч на 24-е нашы вялі баі ў Сталінградзе і ў раёне Маздока. У Сталінградзе адбіта некалькі моцных атак немцаў. На поўнач ад Сталінграда нашы занялі нейкі пункт.

Пад Новарасійскам — адбівалі атакі.

Мяне прызначылі на камісію. Вось-вось вырашыцца мой лёс. Яшчэ дзень-другі і — бывай, шпіталь 1747, добры дзень, будучыня. Невядомая, але прывабная.

Я нецярпліва чакаю яе.

*25 верасня*

Я прайшоў камісію. Мне далі водпуск на 6 мес. З пераасведчаннем праз 6 месяцаў.

Увечары мы— Лена, Зіна і я — адправіліся ў кіно. У апошні раз утраіх.

Пасля кіно мы правялі Лену. Над горадам стаяла светлая месячная ноч. Па плошчы, не запальваючы агнёў, упэўнена прабягалі аўтамашыны. Лена раптам сказала: «Вы што-небудзь гаварылі пра нас з Жэняй?» — «Не памятаю. Здаецца, не было гаворкі. А чаму?» Колькі я ні прасіў, яна не сказала больш нічога, акрамя таго, што Жэня гаварыла з імі пра мяне і гэтая размова непрыемная мне. Яны пастараліся перамяніць тэму. Прымусілі пакапацца ва ўспамінах. Праз некаторы час я зноў паспрабаваў высветліць, што ж затаілася. Зноў — тое ж глухое недавер'е. Мы ўжо прыйшлі да дома Лены, вярнуліся назад на плошчу. Было каля дзесяці, трамваі і тралейбусы ўжо не хадзілі. Разыходзіцца не хацелася. Паміж намі халадком павявала затоенае. Нарэшце Лена выказала свой план. Перад ад'ездам яны мне ўручаць пакет, які я прачытаю тады, калі буду па-за горадам. «Абяцайце выка-

нацьв»,— паўжартам, паўсур'ёзна патрабавала яна. «Клянуся».— «А калі не паедзеце?» — «Абяцаю вярнуць пакет, не расчыняючы». Так мы вырашылі і разышліся. Пешкі мы з Зінай прайшлі паўгорада. Яна мне паказвала будынкі, вуліцы і то расказвала іх гісторыю, то дзялілася ўспамінамі, якія яны выклікалі.

*26 верасня*

Атрымаў дакументы, з якіх вынікае, што я звальняюся ў 6 м. (шасцімесячны) водпуск, са зняццем з уліку і пераасведчаннем праз 6 м. па месцу жыхарства. З дакументаў таксама вынікае, што я напраўляюся ў Новасібірск. Чаму — у Новасібірск? Ці не ўсё роўна куды? Я пакуль ведаю толькі кружок на геаграфічнай карце, такі ж, як і пад іншымі, што нічога мне не абяцаюць. Мяне хвалюе толькі прадчуванне невядомасці. Па дарозе я заеду ў Бугуруслан, у бюро даведак. Але Бугуруслан мне, здаецца, таксама мала абяцае. Невядомая, завабная далячынь, непраніклівая за смугою, загадкавасць далёкага далягляду... Мяне хвалююць прастора і надзеі...

У першы і апошні раз падняўся ў фунікулёры. Тбілісі з птушынага палёту. Блішчыць звілістая Кура. Палац, муштаід, шпіталь удалечыні. Дахі, дахі, чырвоныя, чарапічныя, шэрыя вуліцы, чорныя, нібы маленькія жукі, аўтамабілі. А далей цякучая, няясная далячынь. Туды я паеду сёння, і будзе зноў тужліва і сумна. Зноў буду ўспамінаць пакінутых сяброў, сумаваць. Але рашэння не змяню.

У той дзень развітанне было кароткае. Аднапалатнікі пажадалі шчаслівай дарогі, паціснуў я руку З. і Л., нагадаў пра пакет. Мне ўручылі, паабяцалі пісаць — і рассталіся. Я — рэчмяшок за плечы, пабег на вакзал. Білеты ўсе прададзены. Давядзецца застацца, чарга вялікая. Здзіўляюся, як лёгка селі ў поезд таварышы ўчора. Прачытаў «пакет»: «Яна мне сказала, нібы вы з усяго шпіталя толькі да яе добра ставіцеся, а мы з З. самі да вас прычапіліся, і вы не ведаеце, як ад нас адчапіцца. Калі праўда гэта, то вельмі дрэнна вы зрабілі. Але я ўпэўнена, што гэта няпраўда, і таму не хацела вам учора казаць». Прачытаў — стала прыкра. Як магла сказаць такія словы Ж., адукаваная дзяўчына? Што яна мела на мэце? Чаго яна дабівалася?

На нашы сяброўскія адносіны кінута несправядлівая пляма. Зараз я разумею, чаму Ж. у апошні час унікала сустрэч са мной.

*27 верасня*

Тбілісі адыходзіць назад. Вось ужо Наўтлуг, ускраіна горада. Вось ужо і фунікулёра не відаць. Толькі Кура зноў падбягае да самага насыпу. Раўніна, падобная на Украіну. Але гэта Грузія. Вось Караязы. Тут сыходзіць Зіна, яна едзе да бацькі. Махнуў рукой услед. І зноў поезд рушыць у калідоры гор.

Я задаволены, сёння мне так лёгка ўдалося атрымаць плацкарту. Мне дапамагла ў гэтым жанчына з чатырма гайкамі — з упраўлення пасажырскай службы. Яна мяне адрэкамендавала нач. вакзала, як свайго брата, які едзе ў адпачынак па раненню. «Падобны?» — хітравата спыталася яна. «Вельмі падобны». Мы атрымалі білет. Калі мы выйшлі, яна спытала: «А ты ведаеш імя сваёй сястры?» — «Не ведаю».— «Эх, ты, брат! Мяне завуць Людміла, Людміла Алёхіна». Не думаў, не гадаў, што мая сястра жыве ў Тбілісі і яе прозвішча — Алёхіна.

Сустрэў старшага лейтэнанта са шпіталя. На маё пытанне, як ён здолеў адразу сесці ў поезд, ён адказаў, што сеў без білета і едзе таксама без яго, па дакументах са шпіталя. У нашым плацкартным вагоне поўна пасажыраў. Я ляжу, а ў мяне ў нагах сядзяць два пасажыры без месц. Хтосьці ходзіць па даху вагона, хоць цягнік імкне на ўсю сілу. На прыступках таксама пасажыры, моцна трымаюцца за поручні. На прыпынках — таўкатня за вадой. Пакутую без вады. Соты раз з сумам успамінаю параду дзяўчат — узяць у дарогу ваду. Пасажыры ганяюцца за «мацоні».

*28 верасня*

Чырвонае сонца глядзіць у вокны вагона. Справа — серабрыстая палоска мора. Станцыя. На цягніку, што грукоча міма, на вагоне, ціхамірна спяць пасажыры, укрыўшыся коўдрамі. Вось адзін прачнуўся, прысеў на кукішкі, гледзячы на сонца, праціравае вочы. Хутка Баку. Бакінец расказвае пра свой горад. «Кажуць, там пыл вялікі. Да?» — «Ды што вы! Мы ўсё лета ў белых гарнітурчыках ходзім. Між іншым, мяне адзін пытаў-

ся, як вы ў Баку ходзіце ў белых касцюмах — там жа нафта па вуліцах цячэ». Слухачы заахвочваючы смяюцца. Вось ён прыпаў да акна. «Гэта — саляное возера. Тут бярэ соль увесь Баку». Суседзі яго глядзяць у акно. «Гэта пачынаецца чорны горад». Пасажыры падыходзяць да процілеглага акна. Пачынаецца Баку. Горад — без дрэў. Дамы шэрыя, з плоскімі дахамі. Горад таксама аднастайны, шэры. Толькі шыр мора выглядвае з-за дамоў ярка, незвычайна — сіняя, чыстая, вясёлая.

Трэці нумар трамвая падвозіць нас да шаснаццатай прыстані. Знаёмімся. Вайсковыя кажуць, што толькі ўчора адышоў параход на Краснаводск, давядзецца чакаць, невядома колькі. Калі наступны будзе — невядома. Вядома адно: білеты выдаюць пасля санапрацоўкі. Перад пасадкай на параход усіх прымушаюць мыцца. Я, не мыючыся, дастаў неабходную даведку. Але білет мне не далі, «патрабаванне» на праезд па моры ў мяне не аказалася. Рэшту часу патраціў на візіт да каменданта. Нічога не дабіўся.

Даведаўся ад тых, хто чакаў чаргі да каменданта: в сёмай пойдзе параход на Гур'еў. Зараз шэсць. Але паехаць я не магу, пакуль не запасуся прадуктамі. Бягу на прыстань. «Ці пойдзе параход а сёмай?» Не, таму што яшчэ не пачалася пасадка. Зноў, у трэці раз, наведваю вакзал, атрымліваю прадукты. Вяртаюся ў пачатку восьмай на прыстань,— параход не адышоў, але пачалася пасадка. Бягу па рэчы, станаўлюся ў чаргу. Ёсць надзея — ашукаю. Па-першае, цёмна, дакументы праверыць цяжка, па-другое, правая рука на падвязцы. «Вашы дакументы?» — «Зараз,— кажу я, праходзячы паўз кантралёра-водніка. Здымаю з пляча мяшок.— Зараз». Прытрымліваючы яго локцем, расшпільваю кішэню гімнасцёркі, павольна выцягваю левай рукой адну даведку, другую. А пасажыры з білетамі націскаюць, нервуюцца. «Вазьміце дакументы»,— хутчэй кідае кантралёр, дачакаўшыся ваеннага білета. Не пытае білета на параход. «Пакладзіце»,— паказваю я на кішэню. Ён дапамагае мне. Вось нейкая дзяўчына. Загадвае выпіць нешта горкае. «Ад марской хваробы». Вось я ўжо на параходзе.

Уладкоўваюся наверсе, унізе паветра — гарачае, цяжкае. Ляжу на палубе, на носе. Месяц узышоў.

Побач уладкоўваюцца яшчэ нейкія вайскоўцы. Уся ноч праходзіць у дрымотным чаканні. Уранку параход задыміў, усе ўзрадаваліся. Адышоў ад прычалу, павольна развярнуўся і падышоў — да другога прычалу, 27-га.

Узышло сонца. Працягваецца дагрузка. На вадзе ржавыя масляныя плямы. Вада жоўтая, жоўты адбітак горада. Параход зноў задыміў і пайшоў — нарэшце — у мора. Баку павольна адплывае назад. Вышкі, дамы, параходы з косамі чорнага дыму. І парашутная вышка на набярэжнай. Усё адыходзіць. І вось — толькі мора. Вада, сіняя, у зморшчынках — наводдаль, зялёная — ля парахода. Пеністы след за параходам. Далёка, далёка ледзь прыкметная паласа берага. Потым і яна знікае. Усюды мора, толькі мора, Каспійскае мора. Ветрык свежы, марскі. Угары ціхае, ласкавае неба з рэдкімі перыстымі воблакамі.

У чарзе за кавунамі сутыкнуўся з Валодзем Сінюковым. Ён выправіўся ў дарогу на чатыры дні раней за мяне, не дачакаўшыся маёй выпіскі, і вось сябрам зноў суджана сысціся. Стаім ля поручняў і любуемся морам.

*30 верасня, Каспійскае мора*

Цяжка вызначыць колер мора. Калі неба затулена хмарамі, калі хвалі ляніва варушацца, яно шызае, пад чыстым небам, калі разыходзіцца свежы вецер — яркае, блакітнае, у вячэрнім прыцемку цёмна-сіняе, панурае. Удалечыні — сіняе, а пры караблі заўсёды зялёнае, светлае. На хібе хваль — як кіпень,— баранчыкі пены. Пенныя грабеньчыкі далёка бялеюць на моры. Яшчэ над хвалямі бялеюць крылы чаек, што шукаюць спажыву. Часам удалечыні, справа зазначыцца серабрыстая рысачка берага; вось нешта заблішчала на ім, што — не разабраць, далёка. Ідзе карабель, плюскоча і шуміць мора за бортам. Ззаду пагойдваецца прывязаная канатам невялікая баржа з грузам. А на параходзе — як кітайскі горад. На палубе — тры вуліцы. Жыхары вельмі хутка прыстасоўваюцца да вандроўнага жыцця. Утварыліся «дамы», «вуліцы». «Дамы» агароджаны мяшкамі, чамаданамі. За «сценамі» — ложкі, столікі. Ляжыць на ложку жанчына, чытае нешта, парасон затуліў ад яе сонца, дзіця гуляе тут

жа, а на вяровачцы над «сценамі» трапеча, тузаецца вымытая бялізна. Усё так па-дамашняму. На нейкай скрынцы сядзяць байцы, гармонік нешта зыкае, што — не разабраць, вецер адносіць гукі ўбок. Жанчына вымыла пялёнкі, павесіла на агароджы палубы, прывязала. Пялёнкі матляе вецер. Скрыні, тазы, кашолкі, мяшкі, клункі. Плач дзяцей. Спевы п'яных прыяцеляў. Мора шуміць за бортам. Вось дзяўчынка. Ёй — чатырнаццаць гадоў. Яна абстрыжана. Чорныя валасы ледзь пачалі адрастаць. Чорныя адкрытыя дзіцячыя вочы. На руках яе — шрамы. Яе пытаюць: «Гэта ад чаго ў цябе шрамы?» — «Ад немцаў»,— коратка адказвае яна. Вочы ў яе нейкія няцямлівыя, па-сабачаму даверлівыя, і я не здзіўляюся, калі чую адказ. Гэта вочы чалавека, які пабачыў гора. Які надламаны горам. «Як жа яны?» — «Гарачым нажом».— «А кроў не цякла?» — «Не».— «Як жа ты прыйшла да нас?» — «Сама перавязвала. Трыццаць дзён і трыццаць начэй ішла да нашых». Нельга не паверыць гэтым вачам, гэтаму простаму, жахліваму апавяданню. Яна расказвае, што маці яе расстралялі, а бацька на фронце, але дзе — яна не ведае. Зараз яна — дзяўчынка з далёкіх Сум — едзе на Волгу. У яе няма грошай, адзенне яе абарвалася, у яе — няцямныя, па-сабачаму даверлівыя вочы. Самае страшнае — гэтыя вочы. Ніколі ў нашых дзяцей не было такіх вачэй. Я даў ёй два сухары і селядзец. Яна жыве тым, што жабруе і ёй падаюць. Яна нічога не мае. Яна спіць на голай падлозе, не ўкрываючыся, сціснуўшыся ў камячок, заціснуўшы галаву рукамі. Дзе прыйдзецца, спіць. Бедная жабрачка... Што з мамі?..

Учора я гутарыў з дарослай дзяўчынай, студэнткай. Яна Святлана — студэнтка Растоўскага медінстытута. З інстытута яе мабілізавалі на фронт. Было іх разам 60. 60 студэнтак ехалі на фронт. 60 студэнтак не даехалі да фронту. Эшалон стаяў на станцыі, калі наляцелі з-за будынкаў бамбардзіроўшчыкі з чорнымі крыжамі. З грукатам, глушачы, ірваліся бомбы. Асколкі seклі, ірвалі тонкія сцены вагона, цяплушкі, упіваліся ў целы дзяўчат. Яны былі засцігнуты так неспадзявана, што не ўправіліся выскачыць з вагонаў. З застыглымі ад жаху вачыма, працятыя асколкамі, зраненыя, акрываўленыя, ляжалі яны і беглі пад бомбамі. Потым,

калі бамбёжка скончылася, гарэў воінскі эшалон паблізу. Бясконца доўга рваліся снарады, праціналі паветра вакол, сцены вагона асколкі... Стагналі дзяўчаты... Святлана была ў вагоне. Не ўправілася выскачыць. Пахаладзелая ад жаху, знясіленая, ляжала і нічога нібы не разумела. Вочы яе залівала нешта мокрае. Яна выцерла вочы, мімаволі зірнула, што ж гэта? Разгледзела, зразумела: кроў. Здагадалася: кроў сяброўкі, што нерухома звесілася з верхніх нар... Калі ўсё скончылася, стала ціха, да іх прыйшлі. Сярод іншых, тых, што былі ўжо нежывыя, знайшлі, выцягнулі яе. Адправілі ў шпіталь. Там ужо налічылі: на ёй было адзінаццаць ран. У шпіталі яна доўга ляжала нерухомая, уся захутаная ў бінты. Яе маладосць, гаворыць яна, скончылася. І праўда. Скончылася ў тыя некалькі хвілін. У свае дзевятнаццаць яна падобна да трыццацігадовай, змардаванай горам жанчыны.

Яна расказвае пра ўсё гэта з сарамлівай усмешкай. Мне хочацца плакаць ад гэтай усмешкі. Маці заве яе да рэчаў.

*1 кастрычніка, Каспійскае мора*

Прайшлі паўз порт Шаўчэнка. Справа, непадалёк быў пясчаны ў зморшчынах бераг, некалькі дамкоў, лодкі пры беразе. І зноў адно мора. Вось зноў — пустэльны бераг справа.

За параходам увесь час — чайкі. Варона адпачывае на мачце. Купка пасажыраў з цікавасцю глядзіць на яе.

Усе дні час ад часу аглядваю неба: ці не чарнее небяспечная кропка, самалёт. Не верыцца, што неба такое ціхамірна спакойнае. Фронт жа непадалёку... Але неба нібы спакойнае. І мора таксама.

*2 кастрычніка*

Мы сядзелі на палубе. Свежы, пранізлівы марскі вецер. Месяц — вечны спадарожнік усіх начных сустрэч. Мора, што шуміць за бортам, уздымаецца і апускаецца. Цёмныя густыя хвалі глуха і моцна стукаюць у борт, ускідваюць белыя знакі пены. Шторм.

Яна ўспамінае. Мяне цешыць яе шчырасць, даверлівасць, цеплыня ўспамінаў. Дажджлівай ноччу яна не выйшла на спатканне. Ён паўтары гадзіны чакаў яе,

вымак, вярнуўся дамоў. Ён ніколі не спазняўся, заўсёды быў акуратны. Цёмнай ноччу на ўскраіне горада яны затрымаліся ў кіно. Электрычка скончыла свой працоўны дзень раней звычайнага. Яны пачакалі, потым пайшлі на вакзал, даведацца аб прычыне затрымкі. Ім сказалі: поезд будзе толькі ўранку. Ішлі стэпам. Цёмнае, камяністае поле. У туфлях ісці было немагчыма. Ліля скінула туфлі, пайшла басанож. Камяні рэзалі ногі, што раней не хадзілі па зямлі босыя. Яна стала: «Больш не магу». Ён нечакана падхапіў яе на рукі, панёс. У яе словах аб ім было многа цеплыні, лёгкага суму. «Усё ж я не люблю яго,— сказала яна раптам шчыра.— Ён, здаецца мне, ніжэй за мяне. Не хапае ў яго гордасці, годнасці». Калі яна адмовілася выйсці за яго замуж, ён дэманстратыўна павярнуўся і пайшоў. Яна не спыніла яго. Але ён потым вярнуўся сам. Сяброўкі зайздросцілі ёй. Яны гаварылі пра матэрыяльную выгаду, пра 2 тысячы рублёў акладу, пра добрую кватэру ў авіягарадку. Ліля абыякава слухала парады сяброўак. (Ці таму, што ў яе бескарыслівая і гордая душа, ці таму, што яна яшчэ не ведала цану працоўнага жыцця? Я хацеў бы, каб было, канешне, першае.) Калі яна адправілася ў гэты далёкі шлях, давялося тры дні чакаць парахода на прыстані. Ён усе гэтыя дні быў ля яе. Зноў угаварваў застацца з ім. Параход адышоў нечакана, і ён так і не развітаўся з ёй у апошні раз. Ён яшчэ спадзяваўся сустрэцца, калі параход ішоў морам. Калі развітваліся напярэдадні, яна раіла яму часцей заходзіць да сваёй сяброўкі,— тая была моцна закахана ў яго. Спадзявалася: пасябруюць, лягчэй забудзе яе.

Я быў шчыры. Можа быць, я і запаліў яе сваёй шчырасцю. Я гаварыў пра тое, што яна — дзіця, якое мала бачыла «той бок жыцця», мала пакутавала, распешчана ўвагай.

Мне ўспаміналіся дні горкай франтавой тугі па каханні. Можа быць, мора вінавата ў гэтым. Яно бушавала за бортам, глуха, цяжка. Быў шторм. Параход пастаяў на мелі, на якары. Баржу з грузам сарвала і пагнала ў мора. Ледзяны вецер пранізваў мяне наскрозь, але ісці не хацелася. Яна накрыла мне ногі сваім паліто, клапатліва нацягнула на мае плечы шынель. На верхавіне мачты зябка дрыжала халодная зорка.

Раніцай параход падышоў да баржы, прычапіў яе. Параход пайшоў на поўнач.

*4 кастрычніка, Гур'еў. Рэйд*

Мы стаім на капітанскім мастку рачнога парахода. Мора ласкава плешчацца за бортам. Дымяць дзесяткі параходаў на рэйдзе. Удалечыні ля далягляду частакол рыбацкіх мачт, белыя, быццам крылы чайкі, ветразі. Неймаверны, падманны спакой! Быццам і няма, і не было вайны, смерці. Быццам не побач Сталінград!.. Што там, у Сталінградзе?

*5 кастрычніка, Гур'еў*

Уся ўзбярэжная паласа ад мора да горада застаўлена ветрарухавікамі. Іх так многа, што строй іх нагадвае прысады з таполяў. Пры беразе сотні рыбацкіх суднаў з мачтамі, дзесяткі розных параходаў. Гарадок няўтульны, брудны, пыльны. Асфальт на вуліцах увесь у калдобінах. Разбітыя, брудныя тратуары. Пыльныя, шэрыя дрэвы. На рынку — цэны небывалыя. Кілаграм масла — 400 руб., кілаграм памідораў 40 руб. Мяса зусім не відаць. Грошы не ў модзе. Асаблівай увагай карыстаюцца грузінскі чай, тытунь. За пачак чаю, за 4 р. 50 к., можна купіць літр алею, цвёрдая цана якому — на грошы — 400 руб. Сапраўды, «жизнь — трогательная комбинация». Мае рацыю Косця-капітан! Казахі ганяюцца за чаем. Спачатку ўзважыць на руцэ, палюбуецца яркай этыкеткай, потым пажуе, пачынае доўга таргавацца.

*7 кастрычніка*

Мы сядзелі на лавачцы ў садзе, жоўтае лісце, кружачыся, падала на яе плечы. Па нагах яе плылі цені. Пасля трэцяга развітання я вярнуўся ў вагон і заснуў, цвёрда ўпэўнены, што ноччу паедзем. Уночы поезд грукатаў на рэйках. Раніцай, працёршы вочы, я высунуўся з купэ, спытаў: «Якая станцыя?» — «Гур'еў». Так, гэта Гур'еў, толькі эшалон наш перагналі на іншы пуць. Калі мы развітваліся зноў, на маё «да пабачэння» яе маці з усмешкай адказала: «да вечара». Мы засмяяліся. Але ўвечары мы не сустрэліся. Поезд выйшаў з Гур'ева.

*9 кастрычніка, Макат*

Ужо амаль суткі стаім тут. Паўз нас у той і другі бок, грукочучы, праносяцца эшалоны з чорнымі цыстэрнамі. А наш стаіць. Непадалёк некалькі маленькіх дамочкаў, а вакол — усюды — стэп, выпалены, роўны, бяскрайні. Ля вагонаў — кірмаш. Пасажыры таргуюцца. На чай у казахаў можна выменяць усё: крам, хлеб, «тару». Так на кожным прыпынку. Ледзь цягнік спыніцца, збягаюцца казахі, пачынаецца гандаль. У вагонах цесна, душна. Змарнелыя, аброслыя пасажыры нервова лаюць дарогу. Я застаўся без месца. Пашумеў, але месца не дабіўся. Інцыдэнт развязалі нечакана міла. Мне дала прытулак правадніца міжнароднага вагона. Адклаўшы дзённік убок, я ўзлажу на сярэднюю лаўку і, уткнуўшы падбародак у падушку, гасцінна пададзеную правадніцай, гляджу на рэдкія дамочкі станцыі, на стэп, успамінаю Каспій, Л.

*10 кастрычніка*

Мой сусед — падпалкоўнік. Едзе са шпіталя у Наркамат абароны. Ён стомлена дрэмле, стоячы ў калідоры, і я з павагі і спачування да яго на паўночы ўступіў сваё месца на лаўцы. Падпалкоўнік, змучаны дарогай, не адмаўляўся і, накрыўшыся шынялём, хутка захроп. У вагоне едзе студэнтка з геолагаразведачнага інстытута. Была «на практыцы» за Грозным. Вайна раскідала таварышаў, перапыніла практыку. Едзе адна, зусім без грошай. Прадае апошнюю жакетку. Нягледзячы на холад. Яе ніхто не купляе. Усмешка ў яе такая нясмелая, што мне здаецца, я вінаваты перад ёй.

*13 кастрычніка, Куйбышаў*

Упершыню бачыў Волгу. На тым беразе кусты лазы, пясчаныя лысіны, некалькі дамкоў. Шырокая сіняя далячынь. Доўга бадзяўся па Куйбышаўскай. Горад расчараваў мяне. «Сталіца» [1] мае брудны, шэры выгляд. Безупынна імжыць дождж. Успомніў, што недзе тут жыў Пятро Кудрыцкі. Прыязджаючы дамоў, ён часта расказваў аб Куйбышаве. Зайшоў у адрасны стол. Адказалі, што адрасат — не значыцца. Недзе тут пасля Фінляндыі ляжаў Саўчык. Але ён даўно дома. Ця-

---

[1] У Куйбышаве ў той час былі многія цэнтральныя ўстановы краіны.

пер нікога са знаёмых не знойдзеш. Па ўсім свеце раскіданы.

Быў на перавязачным пункце пры вакзале. З раны выйшаў асколак касці. Але рана сама амаль загаілася. Урач, маладая, з вельмі чыстым і прыгожым тварам, бландзінка, аглядваючы яе, амаль з захапленнем сказала: «Прыгожая якая! Як кляновы лісток!»

Любаванне яе было, падобна, шчырым. Магу ганарыцца, што на плячы такая прыгожая метка. Шкада, што краса гэта схавана пад гімнасцёркай.

Зрэшты, сама ж перавязала рану і вельмі ўмела, пяшчотна.

*15 кастрычніка*

Хутка Бугуруслан. У вагоне цёмна і халадна. Уладкаваўся на лаўцы, ляжу і дрыжу. Нехта ў цемры апавядае. Прыслухоўваюся. Голас жаночы, гавораць пра Сумы. «Ці даўно вы з Сумаў?» — «У чэрвені гэтага года».— «Дык там жа немцы!» — «Немцы. А мы ў партызанах былі». Я з цікавасцю прыслухоўваюся і сам уцягваюся ў гутарку. Гутараць некалькі чалавек. Сярод іх хлопчык з Мінска. Бацька загінуў, маці забілі немцы. Яго ўсынавілі партызаны. Але ў цэнтры ўвагі маладая жанчына, амаль дзяўчынка. Яна гаворыць нялёгка і няскладна. Але якое гэта незвычайнае апавяданне! Нават для мяне многае здаецца неверагодным. Аднак я веру яе словам,— гэта падобна на тое, што я бачыў на фронце. Яна расказвае аб тым, як у яе нарадзіўся сын. Яна раджала, а непадалёк ішоў бой. Усе пайшлі ў лес, малыя і старыя. Немцы наступалі. Яна нарадзіла і, падхапіўшы сваё дзіця, таксама пабегла ў лес. Праз некалькі дзён прыляцеў самалёт і яе адправілі за лінію фронту. Яна была ў Маскве, адпачывала ў санаторыі. У Маскве зарэгістравалі сына. Дзядзька паднёс запалку, і яна паказала маленькі захутаны белы камячок. Пасля яе апавядаў другі голас. Я слухаў яго, і маё ўяўленне малявала: лес, табуны кароў, авечак, павозкі з хатнімі рэчамі, маладых і старых мужчын з вінтоўкамі і гранатамі. Ён апавядаў пра тое, што ў лесе пачалі падрыхтоўку да зімы, капаюць ямы, будуюць зямлянкі. Вёскі цалкам пайшлі ў лясы, з сем'ямі. Вёскі спалены, спапялёны... Пасля яго зноў гаварыла яна. Расказала пра канцэнтрацыйныя лагеры.

Расказала: маці шукала сына, пешкі абышла сотні кіламетраў і не знайшла... «Як наладжана сувязь з атрадамі?» Яна сказала, што нейкі час не было солі ў партызан і з Масквы прыслалі солі. Атрымліваюць лісты. Аднаму партызану сыны пісалі рэгулярна з Далёкага Усходу. Яна і мне параіла звязацца са штабам партызанскага руху і нават адрас дала. Паспрабую звязацца з роднымі, партызанамі... Пад'язджаючы да Бугуруслана, мы развіталіся. Яны паехалі на Уфу.

*16 кастрычніка, Бугуруслан*

Першае ўражанне — хутчэй павярнуць назад, пакуль не адышоў поезд. Ухапіцца на хаду за прыступку і ехаць абы-куды, толькі не заставацца тут. Стаю ў дворыку станцыі і пазіраю ўдалеч. На шэрым схіле гары паводдаль маленькія дамочкі, такія ж шэрыя, нязграбныя; толькі два-тры дамы ды шпіль царквы ўцешна бялеюць. Падышла машына. Прыехаў нейкі камандзіраваны з вобласці. Даведаўшыся, што я прыехаў сюды па сваёй ахвоце, здзіўляецца, малюе сумную карціну, папракае. Уладкоўваюся ў газіку. Газік стары, трашчыць, скача па незлічоных калдобінах, пагражае заваліцца набок. Марудна паўзе па прысадах між вялікіх старых таполяў, што вартуюць дарогу да горада. Адной рукой падтрымліваю бочку, якая ўпарта імкнецца прыціснуць маё калена. Мост. Рачулка. Іду па цэнтральнай вуліцы. Вуліца Рэвалюцыйная. Імжыць дождж. Тратуар разбіты, іду асцярожна, каб не набраць цераз верх чаравікаў. Пасярэдзіне вуліцы, кідаючы граззю, паўзе грузавік.

*18 кастрычніка*

Жыву ў гасцініцы. Гасцініца — як параўнаць з іншымі — вялікі будынак у самым цэнтры, на два паверхі. Мой пакой — на другім паверсе з відам на плошчу. Пакой — вялікі, шэсць ложкаў. Народ усё, як належыць, часовы. Прыязджаюць, ад'язджаюць. Амаль кожны дзень мяняецца насельніцтва і ў нашым пакоі. Больш за ўсё, здаецца, прыязджаюць, каб наведаць цэнтральнае бюро даведак па эвакуіраваных. Шукаюць сваякоў, знаёмых. Шукаюць сваё месца на зямлі, дзе вайна ўсё разбурыла,ператасавала.

Знаходзяць нямногія. Нямногія ад'язджаюць шчаслівыя. Гэта і ў мяне выклікае трывожнае прадчуванне... Зрэшты, не ўсе ад'язджаюць. Ёсць і ў маім пакоі такія, што заселі ў гэтым горадзе, нікуды не збіраючыся. Я быццам бы чытаю на іх тварах: куды нам ехаць? Дзе нас чакаюць?

У пакоі няўтульна і холадна. За акном дождж, маркотнае неба. Але я цешу сябе надзеяй. Можа быць, мне ўсё ж пашанцуе.

*22 кастрычніка*

У гасцініцы адзін з таварышаў па пакоі — Рыўкін — расказаў мне, між іншым, пра вясёлага маёра Сяргеева, які некалькі дзён назад быў тут. Маёр прыязджаў у бюро даведак, шукаў дачку. З першых дзён вайны ён згубіў яе і не мог знайсці, не было як за баявымі клопатамі. Цяпер, пасля ранення, у водпуску, ён рашыў шукаць яе. Я ўспомніў пра Асю Сяргееву, і цяжкае прадчуванне варухнулася ў сэрцы. «Як яго імя?» — «Здаецца, Сяргей». Памятаю, Ася таксама — Сяргееўна. «Яны не ў Львове жылі?» — «У Львове». Ён успомніў расказы бацькі пра дачку: паводле слоў бацькі яна была вельмі прыгожай дзяўчынай. Я разгарнуў папку і паказаў фотакарткі, якія падарыла Ася, калі мяне адпраўлялі з Растова. Расказаў аб яе жыцці. Раненне. Шпіталь у Сочы. Работа ў растоўскім шпіталі. Вялікі шлях прайшла дачка без бацькі. Згубіў яе дзяўчынкай, а знойдзе жанчынай, якая багата пабачыла і зазнала. Шкода, што мы не сустрэліся...

На фронце — баі па-ранейшаму ў раёне Сталінграда і Маздока. Баі ўпартыя, але немцы не могуць ужо рушыць наперад. Нашы адбіваюць усе атакі.

Хочацца спадзявацца, што надышоў пералом. І што нядоўга чакаць таго часу, калі мы зноў пойдзем наперад. На гэта мы ўсе спадзяемся.

*22 кастрычніка*

Лёс павярнуўся да мяне тварам. У мяне ёсць свая «кватэра». Ложак ля печкі. З матрацам, з коўдрай, з падушкай. Круглы стол з вязаным узорамі, у клетачку, абрусам. Перад акном два маленькія дрэўцы. Светла. Адаграваюся пасля няўтульнай халоднай гасцініцы. Гаспадыня знаёміць з дачкой. «Ліда,— кажа яна чарна-

вокай дзяўчыне, якая маўкліва схілілася ў сваім пакоі над сталом,— гэта наш брат».

*23 кастрычніка*

Дом, у якім я жыву, драўляны, на адзін паверх. З выгляду невялікі, з боку вуліцы тры акны з аканіцамі. Нічым не вылучаецца сярод іншых. Але ў сярэдзіне ён — цэлая дзяржава, ці інтэрнат. У ім цэлых сем пакояў і яшчэ веранда і сенцы. Зрэшты, полова пакояў — не пакоі, а каморкі, дзе ледзь уціскаецца ложак і столік. Я не ведаю, хто тут і як жыў раней, але цяпер тут народу — што на вакзале. Жывуць усюды, ва ўсіх куточках. Гаспадыня і яе сястра займаюць цёплую каморку ля грубкі, ■ другога боку, у каморцы ж, таксама пры грубцы — дачка. Брат гаспадыні — у вялікім прахураным пакоі ў агарод. Яшчэ адзін яе брат — маленькі, гарбаты — у кухні, на печцы, з хлопцам, няродным, прыёмным. Побач, у каморцы, памерам са шпакоўню, жанчына, эвакуіраваная з Віцебска. У пакоі, больш прасторным, побач з тым, у якім брат гаспадыні,— цэлая сям'я з трох чалавек. Муж, жонка і сын гадоў дзевяці — з Растова. Муж недзе служыць, па забеспячэнні, жонка — медычка. Хлопчык — жвавы і вельмі таварыскі. Я жыву ў зале, таксама ля грубкі. Раней у гэтай зале, сказалі мне, жылі таксама ваенныя, лейтэнанты. Прычым, мяркуючы па расказах, іх тут прайшло як быццам не адно пакаленне. Яны ўсе паехалі, адны — на фронт, другія — у іншыя гарады. Іх успамінаюць па імёнах і з задавальненнем.

Удзень гаспадыня атрымала ліст ■ фронту. Піша былы «кватарант», што жыў тут год назад. Год назад расстаўся з ёй, але піша, не забывае. Рос ён без сям'і, без бацькі, сваякоў. «Скончыцца вайна, і прыеду. У вас цесна будзе. Дзеці прыедуць. Але нічога. Я прыбудую да вашага дома пакойчык, і будзем жыць разам». Пажывуць трохі і едуць куды-небудзь, але не забываюць. Некалькі дзён назад адзін з такіх жыхароў, лейтэнант, заехаў. З фронту паслалі ў акадэмію. Зрабіў вялікі крук, але рашыў наведаць. Позна ўночы, калі ўсе спалі, дастукаўся праз аканіцу. «Ды гэта я... Ну, Павел, ну Мінько». Усю ноч, да раніцы прагаварылі, успаміналі пра былое. Ён расказваў аб тым, што перажыў пасля ад'езду. А ўранку паехаў.

*24 кастрычніка*

Быў на кірмашы. На «таўкучцы». Пайшоў у надзеі што-небудзь купіць. Купіў шкарпэткі за 300 рублёў. Грошай у мяне засталося зусім мала. Цэны на тавары страшэнныя. Жанчына прадае світэр. «Колькі?» — «Тры»,— коратка адказвае яна, і я здагадацца не магу — тры сотні ці тры тысячы. Я доўга хадзіў вакол, не адважваючыся паказаць такую сваю непрактычнасць, пакуль даведаўся, што світэр каштуе тры тысячы. Дзед з сівеючай бародкай, у чорнай вушанцы, з лапцямі пад пахай. «Што прадаеш?» — пытаецца пажылая дзябёлая жанчына з кошыкам у руцэ. «Сябе прадаю»,— жартуе дзед. «Ды каму ты, стары чорт, патрэбны. Я і то такога старога дарма не ўзяла б. Ужо калі браць, дык маладога, такога»,— яна паказвае на мяне. «Чаму толькі адну пальчатку прадаеце?» — спытаў я адну жанчыну. «Ранетых многа, бязрукіх, а нашто ранетаму, у якога адна рука, дзве пальчаткі?»

Я аддаў гімнасцёрку памыць. Апрануў чырвоную тбіліскую футболку. Каўнер шыняля зашпіліў, каб не былі відаць адкрытыя грудзі. У дзённай штурханіне я забыўся пра гэта. Увайшоў у цырульню, пагаліцца, расшпіліў шынель, і мароз прабег па скуры. Толькі цяпер успомніў, але было позна, на мяне глядзелі. Я распрануўся і сказаў: «Не магу насіць гімнасцёркі, рана баліць». Не ведаю, як смешна я выглядаў збоку ў футболцы ў такую пару... Мне трэба купіць хоць бы пару бялізны на змену. З гэтага пачнём. Вясёлае жыццё.

*25 кастрычніка*

Быў у райкоме партыі. Стаў на ўлік. Калі афармлялі, жанчына з сектара ўліку выйшла кудысьці, потым вярнулася, пазвала ў адзін з кабінетаў. Там сустрэў мяне немалады, кульгавы чалавек, адзін з сакратароў райкома. Распытваў мяне аб фронце, аб руцэ, прыглядаўся хмурным позіркам. Потым сказаў: патрэбны чалавек для работы на нафтапромыслах. Картачка, зарплата добрыя, але работа нялёгкая. Сказаў не без шкадавання, што мне, відаць, не пад сілу з такой рукой. «Трэба многа ездзіць — гаспадарка ў іх вялікая! Ды і ўмовы жыцця — амаль франтавыя... У полі, на марозе, дзесяць гадзін як мінімум!.. Увогуле, папраўляйся...»

Гэта сустрэча дала зразумець, што ў горада ёсць

вельмі важная справа — нафта. Горад працуе на фронт, здабывае для яго паліва. Тут адзін з раёнаў «другога Баку». Трэст «Бугурусланнафта».

Акрамя нафтавікоў, слава горада — лётнае вучылішча. Тут вучацца будучыя ваенныя лётчыкі. На вуліцах можна ўбачыць іх у камбінезонах, унтах. Бачыў, як яны тоўпіліся ля грузавіка на Рэвалюцыйнай, непадалёк ад моста, потым на грузавіку пакацілі за горад, відаць, на аэрадром. Калі іх бачыш, адчуваеш, што гэты ціхі горад звязаны жывой сувяззю з фронтам. Працуе на фронт.

*27 кастрычніка*

Цікавы народ у «нашым доме».

Перш — пра яго старых жыхароў. Тут чацвёра з аднаго кораня — два браты і дзве сястры. Але верхаводзіць сярод іх адна, малодшая сястра. Яна працавала раней загадчыцай вучэбнай часткі ў дзіцячым санаторыі касцявога туберкулёзу. Цяпер ужо на пенсіі. Нешта з сэрцам, парок нейкі. Аднак яна вельмі жвавая і энергічная і надзелена незвычайнай цікаўнасцю. Маленькая, з выгляду моцна збітая, яна ўвесь час у клопатах, то па дому, то недзе ў горадзе.

Яе сястра — высокая, хударлявая, марудлівая. Трымаецца яна дзіўна важна, велічна ходзіць і велічна носіць галаву. Губы манерна падтулены, нібы ў дзяўчыны. І міны на твары, рухі яе манерныя, какетлівыя. Уражанне такое, быццам яна ўпэўнена ў сваёй прыгажосці і заўсёды памятае аб ёй. І быццам ходзіць яна яшчэ ў дзяўчынах, на выданні. Па раніцах яна — доўга ля люстэрка, прыводзіць сябе ў парадак; ля люстэрка і калі рыхтуецца выйсці на вуліцу. Некалі, ці то да рэвалюцыі, ці то ў першыя гады пасля яе, была фатографам, славутасцю на ўвесь горад. Была замужам за начальнікам міліцыі, але хутка разышліся. Відаць, увесь час памятае пра былое.

Брат яе Іосіф ні адзінай рысай не падобны да сястры. Быццам з іншага гнязда. Можа быць, толькі ў рысах твару яго ледзь улоўліваецца нешта агульнае. Але характар яго, склад душы, наколькі можна меркаваць пра яе, іншы. Вельмі сціплы, ціхі, сарамлівы, яго ў доме амаль ніколі не чуваць і не відаць. Я чытаў недзе, што гарбуны — злыя, але пра яго гэтага не скажаш.

Па ўсім відаць — натура добрая. Міла глядзець, як ён ставіцца да хлопца, з якім жыве. Дарэчы, хлопца кінуў родны бацька, які быццам бы ажаніўся нядаўна з нейкай красуняй. Бацька быў раней дырэктарам музея, нядаўна, пасля жаніцьбы, некуды з'ехаў з маладзіцай, а сына пакінуў. Абяцаў быццам бы забраць, але нешта маўчыць пакуль. А сын душа ў душу са старым.

Яго брат таксама, здаецца, каларытная фігура. Наогул, надзвычай непадобныя яны, родныя людзі, што жывуць усё жыццё сваё пад адным, бацькоўскім дахам. Гэты брат — Сямён — высокі, худы, твар абцягнуты цёмнай маршчыністай скурай. Ходзіць па дому ўпэўненай, гаспадарскай хадою, глядзіць на ўсіх ■ годнасцю, востра і насмешліва. Нібы кажа: я вас наскрозь бачу. Ледзь я з'явіўся тут, прыйшоў, разгледзеў бесцырымонна, спытаў: хто, адкуль. Потым прыходзіў, дымячы папяросай, вёў грунтоўныя размовы пра фронт, пра становішча. Дапытваўся, дакопваўся, што ж там на самай справе. Чаму дапусцілі пад Сталінград і да Каўказа? «Як ты думаеш, паб'ем германца?»

Зубоў у яго няма, і ён моцна шапялявіць. Калі есць, ніжняя частка твару незвычайна моршчыцца, грымаснічае. Страшэнна курыць. Дыміць, амаль не спыняючыся, дым нейкі едкі, люты. Пакой яго поўны тытунёвага дыму, такога густога, што хоць сякеру вешай. Але яму ўсё гэта хоць бы што.

Разам з тым педантычна ахайны. Кажуць: кожную суботу, з пакункам пад пахай, крочыць у лазню. Пасля лазні абавязкова ў бібліятэку. У бібліятэцы наогул нярэдкі госць. Вельмі ўважлівы да таго, што адбываецца ў свеце. Радыё слухае пастаянна, але з непрытоеным недавер'ем. «Не кажуць праўды». З кніг найбольшая павага — да энцыклапедый, якія і чытае ахвотней за ўсё.

Аб кватарантцы ■ Віцебска ведаю мала. Прывёў яе сюды і ўладзіў тут, сказалі, муж, ён цяпер на фронце. Яна бывае дома мала, вярнуўшыся дамоў, сядзіць адна. Некалькі разоў чуў, як яна — проста молячыся — казала пра мужа: «Мой Мішук!» Ёсць у ёй і нейкая сарамлівасць і нейкая, відаць, ужо звыклая ненатуральнасць, што выклікае недавер'е да яе шчырасці.

Але паводзіць яна сябе, падобна, сціпла. Жыхары ж Растова тут, як дома. Гаспадар ступае так, што па-

рыпваюць маснічыны. Калі жонка гаворыць, чуваць ва ўсім доме. Усюды ходзіць бесцырымонна. Ацэньваючым позіркам акінула мяне і, здаецца, ацэнку дала невысокую. Нешта накшталт таго: інвалід, ды яшчэ зялёны.

Тут я пакуль нічога не напісаў пра дачку гаспадыні. Пра дачку — размова асобная. Маладое пакаленне!.. Трэба больш грунтоўна...

Такія тыя, з кім я аказаўся цяпер пад адным дахам.

*28 кастрычніка*

У цэнтральным бюро даведак атрымаў адказы на мае запытанні. Пытаў пра бацьку, маці, Алесю, Пакроўскага, Валачковіча. Не знайшоў нікога. Паведамілі толькі адрас Лізы Голад. Узбекская ССР, Бухарская вобласць, Кермінінскі раён, вёс. Хазара, калгас імя Сталіна. З ёй нехта Аркадзь Якаўлевіч. Сын, відаць? Напісаў ліст, з нецярплівасцю чакаю адказу. Яна ж была на радзіме ў апошнія дні. Я амаль страціў надзею знайсці родных. Маці, напэўна, пахавала і слёзы выплакала ўсе. Успамінаю ўсё, што было ў тым далёкім, быццам учора было. А ўжо больш трох гадоў не бачыў.

*30 кастрычніка*

Радыё паведаміла нядобрыя навіны з фронту. 27-га паведаміла, што баі перайшлі ў раён Туапсэ, а праз дзень дадало — раён Нальчыка. Значыцца, нам зноў давялося адысці. Усе гэтыя дні баі ў Туапсэ і Нальчыку. І цяжкія баі ў Сталінградзе.

З Гур'ева атрымаў паштоўку ад Л. «Нарэшце рашыла напісаць табе, бо адчуваю, што мы не паедзем адсюль хутка. Паштовую скрынку нам паведамілі, сказалі, што будзем грузіцца, але да гэтага часу ўсё засталося па-ранейшаму. Настрой жахлівы, сумна і пуста, нічога добрага наперадзе не бачу. Хочацца хутчэй вырвацца адсюль». Пачатак жыцця. Да гэтага вайну яна ведала па радыёзводках, якія да таго ж, відаць, мала слухала. У той час, калі мы не ўяўлялі іншага жыцця, акрамя франтавога, ёй надакучвалі заляцаннямі. Кіно. Праводзіны. Каспій — пачатак яе жыцця. Жыццё... Успамінаю 35-ы год, калі я ўсю ноч напралёт стаяў у магазіне на рагу Савецкай, каб, атрымаўшы кілаграм хлеба, спяшацца ў школу. Калі ледзь не траціў пры-

томнасць ад недаядання. Калі ўдзень, бывала, вочы пераставалі бачыць. А ўночы — халодная пасцель ля замерзлага акна. Кладзешся — зуб на зуб не пападае. Каб сагрэцца, нацягваеш на сябе з коўдраю паліто. Курчышся ў тры пагібелі, грэешся сваім дыханнем.

*1 лістапада*

Гаспадыня прыйшла дамоў абураная і пачала расказваць. Выпадкова пачула яна, што ў падвале жыве жанчына з малымі дзецьмі. Яна прыйшла, даведалася, што жанчына — жонка камісара палка. Эвакуіравалася з Масквы. Жывуць галадна, не атрымліваюць хлеба. Картачак на хлеб не далі: дзеці, маўляў, не маюць даведкі аб нараджэнні. Дзеці — старэйшаму 9 год, малому не больш года — пакрыліся болькамі, хварэюць. Калі гаспадыня прыйшла, дапамагчы маці, тая сустрэла няветліва. Гаспадыня як магла супакоіла яе. Пайшла ў ваенкамат, зноў гэтыя спасылкі — няма даведак. Яна параіла: «Пайшлі б, паглядзелі дзяцей, напісалі даведкі! Што яшчэ трэба!» У ваенкамаце пасварылася. Пайшла да старога знаёмага, таварыша мужа, што працуе ў жылупраўленні. Той расхваляваўся, нахмурыўся. «Вечна ты клопаты прыносіш!» — «Што ж зробіш! Даводзіцца».— «Але што мы можам? Мы — маленькія начальнікі. Мы не маем ніякіх правоў на гэта!» Яна засмуцілася. «Ну, добра. Возьмем правы самі. Можа быць, нас за гэта не расстраляюць? Выпішам ёй картачкі на хлеб без усялякіх даведак!» Выпісалі, атрымала хлеб, некалькі абаранкаў прынесла дзецям. Заўтра чакае ў госці дзевяцігадовага сына камісара. Чым больш прыглядаюся да горада, тым больш адкрываецца ў ім асаблівасцей яго жыцця і драм. Многія драмы яго — ад вайны, ад таго, што ўсё зрушылася з месца.

Але што асабліва здзіўляе: колькі тут, у гэтым горадзе, рознага народу адусюль, дзіўна, што ўсё гэта прытуліў маленькі такі з выгляду, амаль увесь драўляны, аднапавярховы гарадок?

*2 лістапада*

Хутка новая Кастрычніцкая гадавіна. Колькі пражыта за гэты год, але мара па-ранейшаму засталася марай, берага пакуль не відаць. Бераг — на поўдні — ады-

шоў нават далей. Немцы ўжо ў Сталінградзе і на схілах Каўказа.

Катастрафічна растаюць мае фінансы. Хадзіў за дапамогай у ваенкамат, не дапамаглі: у іх «на гэта няма законаў». Яны «не могуць браць на сябе адказнасць». На любую просьбу загадзя гатовыя адказы са спасылкай на законы і адказнасць! Непахісная абыякавасць!.. Учора дзяўчаты запрасілі мяне на танцы. У мяне было паўтара рубля. Некалькі гадзін прабегаў я ў пошуках грошай. У выпадковага ваеннага пазычыў два чырвонцы. Да вечара палову патраціў. У мяне ледзь хапіла на два білеты. А нас было трое — я і дзве дзяўчыны. Добра, шчаслівы выпадак падвярнуўся, усё ўладкавалася. Другой дзяўчыне купіў білет Вася, лётчык, што заходзіў да нас.

*3 лістапада*

Недзе завірухі ў полі, і баі, і смерць, а тут жыццё сваё. Я ўсё ўспамінаю вечар танцаў. Танцы былі ў Доме настаўніка, дом гэты на беразе рэчкі. Зала, даволі прасторная, была поўная народу, галоўным чынам, дзяўчат ці маладых жанчын. Было некалькі мужчын, два-тры лейтэнанты з малінавымі пятліцамі, некалькі курсантаў-лётчыкаў. Амаль безупынна грымела і хрыпела радыёла, і пары кружыліся, здаецца, забыўшыся на ўсё на свеце. Нейкі малады хлопец спяваў з эстрады: «Не говори, я знаю все, что ты мне скажешь... В жизни все пройдет, все позабудется...» Здавалася, што ўсё гэта адбываецца ў хмелі. Хмельныя ўсмешкі, хмельныя позіркі. А можа, гэта я захмялеў з непрывычкі, бачачы гэта, быццам з іншага жыцця.

Кажуць, танцы тут кожную суботу і нядзелю. І народу заўсёды поўна.

*4 лістапада*

Баі па-ранейшаму ў Сталінградзе, Туапсэ і Нальчыку. Нашы адбіваюць атакі і ўмацоўваюць пазіцыі. У Сталінградзе трохі прабіліся наперад, і немцы стараюцца вярнуць страчаныя пазіцыі. Пад Нальчыкам — цяжкія баі. На адным участку было кінута ў атаку больш за сто танкаў. Наступленне падтрымлівалі 70 самалётаў. Нашы падбілі 11 танкаў, але вымушаны былі адысці на новыя пазіцыі. Зноў адыходзім!

За мінулы тыдзень было збіта 202 нямецкія самалёты...

А тут ідзе сваё жыццё...

Чамусьці ў галаве ўпарта трымаецца, паўтараецца фраза, думка: «дамы поўныя ўспамінаў». Многа ўспамінаў, пэўна, тоіць і гэты дом. Не кажучы пра далёкія, успамінаў блізкіх, нядаўніх. Вясной у гэты дом вярнулася з Масквы дачка Іосіфа Роза. Яна прынесла ў дом многа гарэзлівасці, смеху. У гэтым дамку на Маскоўскай было шумна. Тры маладыя лейтэнанты, дзве гарэзлівыя дзяўчыны. Танцы. Песні ля распаленай печы. Апавяданні. Было весела. Быў вясёлы час. Потым прыйшоў май, адну з дзяўчын — Розу — прызвалі ў армію. Адправілі яе. Праз некалькі дзён з усёй дывізіяй паехалі лейтэнанты. Засталіся толькі ўспаміны. Успамінаюць тут яшчэ сына Іосіфа. Ён скончыў вучылішча ў Мінску і збіраўся наведаць дом, але якраз пачалася вайна. Тут гадаюць, што з ім, дзе ён? Гадаюць, што з астатнімі, турбуюцца. З гэтага дома пачуцці людзей, іх позіркі быццам накіраваны да далёкага фронту. Колькі такіх успамінаў ва ўсім гэтым раскіданым, далёкім ад фронту гарадку Прадуралля! Колькі позіркаў адсюль сочыць за фронтам, за сынамі.

А дамы здаюцца ціхімі. На вуліцах людзей мала. І жыццё іх быццам будзённае, спакойнае. І, здаецца, мірна, бесклапотна мільгаціць першы снег.

*5 лістапада*

Быў у тэатры, глядзеў і слухаў «Роз-Мары». У памяшканні было холадна, людзі сядзелі ў вопратцы, але ўсе месцы ў зале былі заняты. Ігралі і спявалі — не вельмі, але ўсё ж гэта было нязвыкла добра: сядзець у зале, сярод людзей, што слухаюць у святочным настроі. Адчуваць сябе сярод такога мірнага і прыгожага жыцця.

*7 лістапада*

Учора і сёння ў душы — незвычайная ўсхваляванасць. Надзвычай чулае адчуванне мінулага і цяперашняга. І чаканне нечага.

Свята, але ў душы — сумна. Успамінаю мінулы кастрычнік і ўсё, што потым адбылося. І больш за ўсё — маіх сяброў, з 269-га, з курсаў — дзе ж яны ця-

пер, што з імі? Асабліва гняце думка аб аднапалчанах-артылерыстах, лёс якіх мяне ўвесь час непакоіць.

Як ніколі раней, адчуваю сваю адзіноту. Вельмі пагана, што няма побач са мной маіх сяброў. Толькі ў думках, толькі недзе далёка — сябры, якіх ні ўбачыць, ні сказаць якім...

Учора перадавалі даклад Сталіна, з якім ён выступаў на ўрачыстым сходзе ў Маскве. Ён сказаў, што хоць на фронце — пасля нашых перамог пад Растовам і Масквой у мінулым годзе — адбыўся пералом на карысць немцаў, і немцы гэтым летам дабіліся на поўдні вялікіх поспехаў, факты гавораць, што яны цяпер не такія моцныя, як год назад, і ўжо не могуць павесці наступленне на ўсіх напрамках. Усё ж, ён сказаў, яны маюць дастаткова сілы, каб наступаць на адным напрамку. Сталін сказаў, што, наступаючы на поўдні, немцы хацелі аслабіць маскоўскі фронт і за галоўную мэту ставілі захоп Масквы, у абход — праз Сталінград, Саратаў, Куйбышаў... Сталін сказаў, што галоўная прычына таго, што немцы дабіліся такога поспеху — адсутнасць другога фронту, з-за гэтага немцы здолелі сабраць у Еўропе вялікія рэзервы... Ён сказаў, што саюзнікі павінны дзейнічаць разам з намі, як адзіны баявы саюз, што на баку нашай кааліцыі — бясспрэчная перавага сіл. Ён сказаў, што наша задача — знішчыць гітлераўскую дзяржаву, гітлераўскую армію, гітлераўскі «новы парадак» і пакараць іх кіраўнікоў. Наогул, прамова яго поўная сілы і ўпэўненасці і ўздымае настрой, веру ў недалёкую нашу перамогу.

Сёння перадавалі загад Сталіна. Ён надрукаваны і ў газеце. У ім ёсць такія словы: «Вораг ужо зведаў на сваёй скуры здольнасць Чырвонай Арміі да супраціўлення. Ён яшчэ зведае сілу знішчальных удараў Чырвонай Арміі». Загад канчаецца словамі: «Недалёкі той дзень, калі вораг зведае сілу новых удараў Чырвонай Арміі... Будзе і на нашай вуліцы свята!»

Так, я веру: будзе на нашай вуліцы свята. Будзе.

*8 лістапада*

Мімаволі чакаў добрых вестак з фронту — да свята. Але ў зводках усё тое ж — баі ў Сталінградзе. Туапсэ і Нальчыку. У зводцы — вестачка з роднага Палесся:

партызаны пусцілі пад адхон састаў з салдатамі і афіцэрамі. Разбіта 32 вагоны...

Учора вечарам мы адсвяткавалі Кастрычніцкую гадавіну. Ціха, сціпла. За сталом сядзелі чатыры чалавекі: гаспадыня, дачка, я, лётчык Вася. Учатырох мы выпілі. Я маўчаў. Было сумна, кружылася галава. Успаміналіся зноў тыя, каго не хапала на гэтым вечары. Сябры. Сябры... Успаміналіся родныя мясціны, Карпаты, украінскі стэп. Быццам зноў бачыў станіцу Луганскую. Які год мінуў! Якія выпрабаванні прынёс нам! Толькі год, а як змянілася ўсё!.. Вася расказваў пра палёты над лініяй фронту. Падбіты самалёт упаў на лес. Павіс. Дамоў дабіраліся пешкі. Пераапранутыя, хаваючыся па лясах, абмінаючы вёскі. Потым ён падняўся, прапанаваў дачцэ гаспадыні пайсці ў клуб авіяшколы. Яны пайшлі. А я застаўся адзін з гаспадыняй, з успамінамі. Думалася аб тым, што старых таварышаў страціў на фронце, пакінуў у шпіталі, а новых няма. У гэтым горадзе, дзе столькі рознага народу, няма ніводнай блізкай мне душы. Здаецца, ніколі я не адчуваў сябе такім адзінокім.

*9 лістапада*

Цікавы чалавек брат гаспадыні Іосіф. У пакоі яго са стала, са сцен пазіраюць, быццам жывыя, птушкі. Гэта чучалы для музея. Маленькі, згорблены чалавек па цэлых днях з захапленнем шчыруе ў музеі, вечарамі важдаецца з чучаламі. Якія пасля нясе ў музей.

Улетку ён палюе на гадзюк, неаднойчы прыносіў іх дамоў. З гэтай прычыны яго ў доме баяліся. Аднойчы гадзюка выпаўзла са скрынкі, куды ён схаваў яе, і ў доме быў вялікі перапалох. Гаспадыня ўвесь дзень хадзіла па пакоі на дыбачках, пільна ўглядвалася перад кожным крокам. Увечары сядзела на ложку і, не сыходзячы з яго, прасіла запаліць святло, баялася, што гадзюка падпаўзе да яе ў цемры. Гадзюку так і не знайшлі...

У пакоі яго на пачэсным месцы таксама стрэльбы, паляўнічая сумка, патранташы. Стрэльбы дзве. Яго і яго таварыша, семнаццацігадовага хлопца Ільі. У вольныя дні яны ўдвух ідуць у лес, падоўгу бадзяюцца, вяртаюцца ўпоцемкі.

Стары — малагаваркі, першы амаль не загаворвае,

але позірк яго шэрых вачэй мяккі і ўсмешка ветлівая, шчырая. Цудоўная сардэчнасць, з якой ён абыходзіцца з хлопцам, па сутнасці чужым чалавекам. Той таксама ставіцца да яго так, як сын да добрага бацькі. Не да таго, які кінуў і забыў яго, свайго сына.

*10 лістапада*

У сталовай сустрэў старшага лейтэнанта з ваенкамата. Ён папрасіў, каб я зайшоў да яго, сказаў, ёсць работа для мяне.

Я зайшоў да яго, і ён сказаў, што ў горадзе ёсць Малдаўскі педінстытут і туды патрэбны афіцэр, настаўнік ваеннай падрыхтоўкі. Афіцыйна пасада яго — загадчык кафедры ваеннай падрыхтоўкі. Коратка кажучы — ваенрук. Справа, сказаў, цікавая, народ там таксама цікавы, адукаваны, і мне, на яго думку, трэба згадзіцца, не разважаючы.

Я і згадзіўся, не доўга думаючы. Чаго мне было раздумваць, калі выбару іншага не было, а становішча маё — бядотнае, шчыра кажучы,— паўраздзеты, паўгалодны, без пенсіі, без грошай. Становішча маё патрабавала, і неадкладна, работы. Ён пазваніў у інстытут, дырэктара не застаў, але застаў яго намесніка па вучэбнай частцы. Сказаў, што можа прыслаць загадчыка кафедры ваеннай падрыхтоўкі. Франтавік, лейтэнант, артылерыст, чалавек адукаваны. Тут жа падаўся некуды і хутка вярнуўся з накіраваннем, надрукаваным на машынцы і падпісаным. «З цябе належыць»,— сказаў, уручаючы паперу.

*11 лістапада*

Быў у Малдаўскім педінстытуце.

Інстытут размешчаны ў невялікім будынку паблізу цэнтральнай плошчы.

Я з хваляваннем уваходзіў у будынак, у якім, здавалася мне, ішло жыццё, што нагадвала пра далёкі і цудоўны свет, пра мае студэнцкія дні, пра Маскву. Калі я ўваходзіў, ішлі якраз заняткі, і ў калідоры было ціха. Я спытаў, дзе можна бачыць дырэктара. Ён быў не адзін, але калі я ўвайшоў і прывітаўся, ён перапыніў размову і зірнуў на мяне. Я назваў сябе, паказаў накіраванне.

Яго субяседнікі — іх было двое — здаецца, з цікаў-

насцю разглядалі мяне, і я адчуваў сябе няёмка. Але дырэктар аказаўся чалавекам вельмі добрым, тактоўным, так што знаёмства нашае пакінула ў мяне найлепшае ўражанне.

Ён сказаў, што ведае ўжо пра мяне, яму паведамілі, і што яны з нецярплівасцю чакалі ваенрука. Запытаўся, дзе я жыву, як уладкаваўся, трохі расказаў пра інстытут. Студэнтаў у інстытуце менш за сотню, створана 9 груп. У некаторых групах па некалькі чалавек.

Ён пазнаёміў мяне з субяседнікамі — гэта былі намеснік яго Агасьева, жанчына з рускім тварам, і выкладчык Беразнякоў, высокі, чорнавалосы, відаць, неспакойны мужчына.

Ён сам — Радул, Макар Міхайлавіч. Гадоў яму нямнога, мабыць, менш за сорак, позірк уважлівы, сяброўскі, голас роўны, мяккі. Твар у яго прыгожы, чарнабровы, відаць, малдаўскага тыпу, але бледнаваты, хваравіты.

Дамовіліся, што заўтра ж пачну працаваць.

*12 лістапада*

Першы дзень у інстытуце. Дзень новых, моцных адчуванняў. Знаёмства з выкладчыкамі, знаёмства са студэнтамі. Усюды прыкметная, бянтэжачая ўвага, прычынай чаму, відаць, мой вайсковы шынель і пілотка. Для адных я — ваенрук, якога яны ўпершыню бачаць, а для другіх нейкі ваенны, які чамусьці завітаў. Ці не госць нечы з фронту? Наогул, занадта многа ўвагі.

Знаёміла з выкладчыкамі і студэнтамі Агасьева. Самыя хвалюючыя хвіліны надышлі, калі Агасьева, пазнаёміўшы са мной студэнтаў, пайшла. Хвалюючыя яны былі таму, што я адчуваў, бачыў пільную ўвагу, што гэта быў для мяне пачатак іспытаў,— да мяне прыглядваліся, ацэньвалі. Але хвалявала мяне і тое, што студэнты сядзелі за сталамі, што гэта было знаёмае, дарагое мне. Разам з тым у гэтых падманліва знаёмых абставінах мне даводзілася пачынаць зусім новую дзейнасць. Добра, што быў у мяне поўны вопыт работы на курсах палітсаставу.

Было іх адзінаццаць чалавек. Былі яны розныя: і маладзейшыя, і старэйшыя, прыстойна апранутыя і апранутыя дрэнна — у зношаным адзенні. Некалькі

было дзяўчат, адна з іх, маленькая, прыгожая, пазірала востра, гулліва.

Яны былі амаль равеснікі мне. Але слухалі добра, уважліва. Я пачаў з таго, што пазнаёміў іх са сваёй асобаю, з маім ваенным жыццём, пазнаёміўся з імі. Яны ўставалі, называлі сябе. У той маленькай, гуллівай студэнткі было дзіўнае імя — Молі.

Наогул, паводзілі яны сябе вельмі карэктна, выхавана.

*14 лістапада*

Трэці дзень працую. Абсяг маіх знаёмстваў хутка шырыцца. Акрамя Агасьевай і Беразнякова, я пазнаёміўся з выкладчыкамі Крачун, Ерашчук, Мыльцынай, Колакалавай, Чабаном. Ціхі, сціплы Чабан выкладае малдаўскую мову, усмешлівая, сінявокая Ерашчук — педагогіку і псіхалогію, гаваркая, жыццярадасная Колакалава — нямецкую мову. Пазнаёмілі мяне таксама з гісторыкам з Настаўніцкага інстытута — Удальцовай, масквічкай.

Тут жа, у невялікім пакойчыку — навукова-даследчы інстытут. З тых, хто працуе там, мне неяк адразу запомніўся бледнатвары, сур'ёзны Русеў. Наогул, там свет, які выклікае павагу — навука. Навука таксама жыве ў гэтыя цяжкія дні.

Запомніліся студэнты — Барабаш, Шлаен, Гужаль. Гужаль піша вершы.

*15 лістапада*

Усе дні ў Малдаўскім педінстытуце. Раблюся там сваім чалавекам, малдаванінам. У гэтыя дні адкрыў для сябе новы свет — жыццё людзей, якія былі выгнаны вайной з роднай зямлі, з Малдавіі, і якія знайшлі тут прытулак. З прычыны таго, што студэнтаў у інстытуце мала, на занятках у групе часам прысутнічае дватры чалавекі. Даволі звычайная карціна, калі выкладчык чытае лекцыю для некалькіх чалавек. Я ўжо пісаў, што многія кепска апрануты, абутак дрэнны і ў большасці, цяпер я ведаю, чалавек трыццаць да гэтага часу спяць у аўдыторыях. Туды ж прыносяць абедаць. Так што ў аўдыторыях і займаюцца, і абедаюць, і спяць.

У малюсенькім пакойчыку з адным невялічкім

акенцам сядзіць сакратар Прэзідума Вярхоўнага Савета Малдавіі, сівы, худы чалавек з падстрыжанай вострай бародкай. Ён расказаў, што справы Вярхоўнага Савета ледзь паспелі выратаваць, вазілі ў скрынях. Скрыні пабіліся пры перавозках, і паперы склалі ў скрынкі ад селядцоў. Ён ледзь прыкметна ўсміхнуўся, з доляй іроніі: так больш надзейна... Ціхай, далікатнай мовай, стрымана ўсміхаючыся, сказаў: некалькі дзён назад атрымаў ліст. На канверце яго было: Бугуруслан Малдаўскай ССР.

Бачыў малдаўскую газету «Малдова сочыялістэ», але яна выходзіць не тут. Можа быць, у Маскве. Яе з цікавасцю чытаюць. Яна, відаць, як памяць аб роднай зямлі.

*16 лістапада*

Трэба крыху сказаць пра дачку гаспадыні.

Яна скончыла школу ў 41 годзе. Выпускны вечар. Бяссонная, поўная светлых мар ноч. Калі на двор легла перадранішняя сінь, у пакоі выключылі святло. Выпускнікі шумлівым гуртам выйшлі са школы, на мост, за горад. Пачыналася раніца. У цішы, за ракой уставала вялікае чырвонае сонца. Яны ўрачыста маўчалі — гэта сонца іх новага жыцця. У той жа дзень прыйшла вестка аб вайне. Тады, калі яны радаваліся сонцу, на мяжы ўжо крочыла смерць. Хутка водгукі вайны дакаціліся і сюды. Але ў іх, вучняў, пакуль ішло сваё, звыклае жыццё. Раніцамі на веласіпедзе прыязджаў яе школьны таварыш — Валодзя. Убачыўшы, што гамак на двары пусты, убягаў у дом, будзіў дзяўчыну, што спала ў пасцелі. Ліда не хацела ўставаць, але ён не адставаў. Ехалі на раку, у лес, за горад. Потым прыйшла павестка. Яна правяла яго на станцыю. Назад вярнулася без яго. Без яго было тужліва. На наступны дзень яна ўпершыню думала аб тым, што рабіць, як змарнаваць час. З ім яна ніколі не думала пра гэта. У той дзень яна пайшла за горад і хутка вярнулася, было цяжка, усё нагадвала пра яго. Часта пісала пісьмы, часта атрымлівала. Але ён пытаўся з крыўдай, чаму яна так мала піша. Відаць, пісьмы не ўсе даходзілі да яго. Ён спачатку вучыўся на курсах, потым пайшоў на фронт. Пайшоў і адразу замоўк. Пра яго лёс нічога невядома. Відаць, загінуў ці прапаў без вестак. Увосень

Ліда паехала ў Куйбышаў, у будаўнічы інстытут. Было цяжкавата, галодна. Шмат часу адбірала чаканне ў чэргах. Рашыла паступіць на работу. Якраз інстытут расфарміравалі. Вярнуўшыся дамоў, яна паступіла ў бюро даведак. Працоўны дзень тут быў 12 гадзін. Зіма. Пакой ледзь ацяплялі. Застылыя ад холаду пальцы не слухаліся. А трэба было перабіраць картачкі. Тысячы картачак. Сагрэе дыханнем, пастукае пальцамі па століку і зноў бярэцца за справу, работы багата! Ведала: яе адказу нецярпліва чакаюць. Ведала: вайна. Бюро даведак працавала круглыя суткі. І ёй часта працаваць даводзілася ў начную змену, ночы напралёт. Нярэдка, здаралася, працоўны дзень працягваўся 14 гадзін.

Так, тут ім таксама нялёгка. І іх жыццём распарадзілася вайна па-свойму, не пашкадавала.

Відаць, вайна ўсюды заяўляе пра сябе.

*17 лістапада*

Пазнаёміўся з ваенрукам з Настаўніцкага інстытута. Прозвішча яго — Чэрнік. Ён старэйшы за мяне гадоў на дваццаць, хударлявы, насмешлівы, у скураным паліто. Адчуваецца і розум, і вопыт вялікі, але не выхваляецца гэтым. Вельмі добра з ім.

Ёсць у каго павучыцца — як ваенруку.

*19 лістапада*

Усе дні былі ўжо звыклыя паведамленні: баі ў раёне Сталінграда, Туапсэ і Нальчыка.

Такое ж было і ўчора. Але неўзабаве дыктар урачыста абвясціў, што будзе перадавацца паведамленне: «У апошні час». Пасля многіх дзён стрыманых і трывожных паведамленняў, што ціснулі сэрца і выклікалі нецярплівае пытанне: калі ж настане перალом,— нарэшце, даўно чаканае: «Паражэнне нямецкіх войск у раёне Уладзікаўказа (горада Арджанікідзе). Разгромлена нямецкая танкавая дывізія і шэраг іншых часцей, захоплена 140 танкаў і многа іншай зброі. Забіта 5 тысяч салдат...» Значыцца, на Каўказе справа зрушыла!

*22 лістапада*

Учора — зноў «У апошні час»! Гэта позні вечар, голас дыктара, радасны, пераможны, маршы пасля па-

ведамлення, я не забуду ніколі. Гэтыя голас дыктара і маршы гучалі для нас, тых, хто слухаў, радаваўся, як музыка, якой няма роўнай.

Так, адбылося тое, чаго мы ўсе чакалі! Прыйшло на нашу вуліцу жаданае свята! Нашы войскі пачалі наступленне пад Сталінградам! Прарваўшы абарону немцаў, нашы прабіліся наперад на 60—70 кіламетраў. Заняты горад Калач, разгромлены шэсць пяхотных і адна танкавая дывізіі, захоплена ў палон 13 тысяч салдат і афіцэраў, 360 гармат... Наступленне працягваецца!

*23 лістапада*

Зноў — «У апошні час»! Нашы пад Сталінградам прабіліся яшчэ на 10—20 км, занялі некалькі новых гарадоў. Захапілі яшчэ 11 тыс. палонных, вялізную колькасць трафеяў, у тым ліку 1200 чыгуначных вагонаў.

*24 лістапада*

Наступленне пад Сталінградам працягваецца з размахам, што займае дух. На паўночна-заходнім напрамку нашы войскі паглыбіліся на захад на 40 км. У раёне Клецкай узяты ў палон тры акружаныя раней дывізіі, разам з трыма генераламі. Захоплена яшчэ 12 тыс. палонных, вялізныя трафеі. Адных танкаў — каля 500.

*25 лістапада*

Наступленне ідзе поўным ходам і з ранейшым размахам. Разгромлена танкавая дывізія і захоплена яшчэ 15 тыс. палонных. Усяго за тыдзень узята ў палон 51 тыс. салдат і афіцэраў.

*26 лістапада*

Усе вечары нецярпліва чакаем «У апошні час». Наступленне ідзе з захапляючым размахам. Вызвалена многа новых населеных пунктаў, узята яшчэ 12 тыс. палонных, 108 складаў. Колькасць захопленых танкаў вырасла да 1320.

*27 лістапада*

Наступленне пад Сталінградам не слабее. Заняты яшчэ некалькі населеных пунктаў, захоплены трафеі.

У вучылішчы, у час заняткаў апёкся Ілья. Заводзіў матор, газа нечакана ўспыхнула і апаліла твар. Павезлі ў шпіталь, аказалі першую дапамогу. Цяпер ён ляжыць у пакоі, твар увесь, да вачэй, захутаны бінтамі. Відаць, яго моцна мучыць боль, але ён толькі стогне глуха.

*28 лістапада*

Пачалося новае наша наступленне — у раёне Вялікіх Лук і на захад ад Ржэва. Вызвалена больш за 300 нас. пунктаў, разгромлены 4 пяхотныя і 1 танкавая дывізіі. Немцы страцілі больш за 10 тыс. забітымі.

Пад Сталінградам наступленне працягваецца.

Калі я быў у сталовай, нечакана ўвялі бездапаможна павіслую на руках знаёмую дзяўчыну з Адэсы. Яна істэрычна стагнала і плакала. Збегліся афіцыянты. Дзяўчыну павялі ў суседні пакой, і ёй пайшлі афіцыянты. Я спытаў: «Чаму яна?» — «Паведамленне атрымала, муж загінуў». За суседнім сталом сядзеў нейкі тып у ваеннай форме. «Раве, вядома, не таму, што страціла чалавека, а таму, што атэстат не вышлюць». Ён развязна ўсміхаўся сваім таварышам па століку. Тыя маўчалі. «Відаць, чаю ўчора многа выпіла. Слёзы няма куды дзяваць». Адзін з таварышаў вылаяў яго, і ён змоўк. Астатнія моўчкі сядзелі. Прыйшлі афіцыянты. Праз некалькі хвілін з мокрымі ад слёз вачыма вярнулася новая ўдава, прайшла, нікога не заўважаючы. «Дзетак трэба пакарміць...» — пачуў я ўрывак фразы. Жыццё ідзе сваёй чаргой. Новыя трывогі, новыя турботы нахлынуць, затопяць — спакваля змываюць усё, што было нядаўна.

*30 лістапада*

Наступленне пад Сталінградам і на Цэнтральным фронце працягваецца. На паўночны захад ад Сталінграда нашы прарвалі новую абарончую лінію немцаў. Усюды немцы контратакуюць. Але без поспеху.

*1 снежня*

Да гаспадыні прыходзіла яе знаёмая. Плакала, абедзве расхваляваліся. Гаспадыня супакойвала. У знаёмай сям'я — бацька, маці, дзве сястры, тры браты —

два гады назад паехала ў Ленінград. У вайну сям'я засталася ў Ленінградзе, трапіла ў блакаду. Нядаўна знаёмая гаспадыні атрымала ліст, што радня памерла, уся сям'я памерла. Яна плакала, патроху звыкалася з цяжкай думкай. І вось цяпер раптам атрымлівае пісьмо з дзетдома гор. Барабінска. Піша пляменніца (ёй 10 гадоў). Яна адна засталася. Пляменніца напісала, як усё было. Спачатку памерла маці, яна аддавала ўсё сваёй маленькай дачцэ. Потым памёр бацька. Было холадна, спалілі ўсю мэблю ў доме, варылі лупіны ад бульбы. Памёрлі два браты, іх не прыбіралі, яны ляжалі ў пакоі, дома. Не было каму хаваць іх. Сястра памерла ў бальніцы, калі маленькую дзяўчынку эвакуіравалі. Знаёмая наша пісала ў Барабінск, дзяўчынку не адпускаюць. Жанчына плакала. Прасіла гаспадыню пахадатайнічаць за яе ў НКУС, у пракурора. Гаспадыня піша пісьмы ў розныя ўстановы Барабінска.

*2 снежня*

Наступленне працягваецца. 30 лістапада ў раёне Сталінграда нашы знішчылі 50 транспартных самалётаў немцаў.

Зводкі паведамляюць аб няспынных контратаках немцаў. Наступленне, відаць, замарудзілася.

*3 снежня*

Быў на вечарынцы ў сяброўкі Ліды — Ніны Мардовінай. Былі дзяўчаты і два курсанты-лётчыкі. Вельмі таварыскія, сяброўскія хлопцы. Лётчыкі прынеслі бутэльку гарэлкі, паёк, дзяўчаты прыгатавалі сёе-тое з закускі. Было многа гаворкі пра вайну, пра жыццё, многа танцавалі пад патэфон. Шкода, што да 12-ці лётчыкам трэба было вяртацца.

Наогул, я не адчуваю сябе цяпер вельмі адзінока. У мяне немалыя знаёмствы, у тым ліку з дзяўчатамі. Ёсць добрыя дзяўчаты: Надзя Кажэўнікава, Святлана Баташова, Наташа Пагодзіна. Надзя — бугурусланка, а Святлана і Наташа — эвакуіраваныя, студэнткі з настаўніцкага. Тут цяпер, сапраўды, «гэтага цвету з усяго свету».

*5 снежня*

Мяркуючы па стрыманаму тону зводак, баі ідуць цяжкія. Напрамкі баёў — ранейшыя.

Абмяркоўваў становішча з Чэрнікам. Ён настроены ўпэўнена: час працуе на нас.

Я часта з ім раюся па агульных нашых справах, бываю ў яго ў настаўніцкім. Мы вельмі падружыліся.

Так, мне пашанцавала, што маім калегай аказаўся такі чалавек.

*7 снежня*

Сёння ў перадачы лістоў з фронту, у якой франтавікі паведамляюць пра сябе і шукаюць родных, нечакана пачуў пісьмо Віктара Шкута. Я ў гэты час займаўся іншай справай, слухаў між іншым, і сэнс пісьма дайшоў да мяне недзе ў сярэдзіне яго. Толькі ў канцы я пачуў, хто піша гэта. І адрас яго: нумар, яшчэ нумар. Я так расхваляваўся, што не запісаў іх, яго адрас. Таму ў душы цяпер разам з хваляваннем ад такой весткі і радасць, і прыкрасць. Трэба ж, зрабіць такі промах, такую ўдачу прапусціў.

Адразу ж напісаў і паслаў у Маскву, на радыё, пісьмо. Прашу, каб паведамілі адрас. Злуюся на сябе і суцяшаюся надзеяй. І ўсё не магу ўцішыць хваляванне ад самога пісьма. Быццам голас з немагчымага свету. Голас з Хойнік, з нашай школы. Увесь дзень я нібы бачу і чую яе, нашых хлопцаў. Быццам зноў вярнуўся той светлы, незваротны час.

Віця Шкут, гордасць школы, выдатнік з 10 класа, лепшы валейбаліст. Я зноў бачу яго і думаю аб ім. Ён быў старэйшы за мяне на клас і здаваўся недасяжным узорам. Зрэшты, на яго з павагай глядзелі ўсе, многія — з захапленнем. Са школы ён паехаў у Ленінград, у інстытут, паявіўся было ў наступнае лета і зноў знік. І вось аб'явіўся. Таксама на фронце недзе.

Адзіны школьны таварыш знайшоўся, такі выпадак, а я прапусціў яго.

*8 снежня*

Гаспадыня вярнулася дамоў прыгнечаная, разгубленая. На маё пытанне сказала, што чула аб прызыве дзяўчат 1923 года. Пайшла гатаваць абед дачцэ, якая хутка павінна вярнуцца з інстытута,— але неўзабаве вярнулася да мяне. «Яна адна ў мяне. Яна для мяне — усё жыццё. Вось хачу ўзяць сябе ў рукі і не магу. Раней я лёгка перанесла б гэта. А цяпер няма сілы».

Я спрабаваў супакоіць яе, вышукваў довады, што маглі б суцешыць яе. Сказаў, што дзяўчат не пасылаюць на перадавую лінію. Яна моўчкі паківала галавой і пачала расказваць, якая ў яе неспакойная дачка. «Яна сама папросіцца наперад. Яна ў мяне такая». Ліда, між іншым, гаварыла неяк: «Ты ведаеш, яна мяне так любіць, што з усім, што я прашу, згодзіцца. Нават, калі я скажу, што хачу ў армію, яна не зробіць нічога супраць!»

*9 снежня*

Тры гадзіны прастаяў у чарзе па хлеб. Гадзіны паўтары хлеба не было, потым прывезлі, грузілі, лічылі. Духата, таўкатня, лаянка на тых, хто спрабаваў пралезці без чаргі. І наогул, невядома на што. Нервы людзей нацяты.

Вельмі многа часу траціцца на стаянне ў чэргах. Дорага абыходзіцца нам «хлеб наш надзённы»!

Наогул, я ўсё больш уваходжу ў жыццё горада. Кірмаш, магазіны, тэатр, ваенкамат, інстытуты — усё спазнаю паступова. Усё менш застаецца таямніц для мяне ў гэтым нядаўна незнаёмым і чужым горадзе, у які закінуў мяне лёс.

*11 снежня*

Наступальныя баі — на ранейшых напрамках.

Мабілізуюць дзяўчат. Едуць яны і з настаўніцкага інстытута. Прыходзяць на танцы ў апошні раз і знікаюць. Учора прызвалі дзвюх знаёмых дзяўчат. Сяброўкі, яны радаваліся, што паедуць разам. Адзін чамадан на дзвюх, адзін мяшок. Потым аказалася, што адна з сяброўак застаецца. Пачалі разбіраць кофтачкі, спадніцы, пераблыталі ўсё, расплакаліся. Калі я гляджу на дзяўчат, якія ідуць на фронт, мне робіцца няёмка, хоць я і разумею, што падстаў для гэтага няма.

*12 снежня*

Баі ў раёне Сталінграда і на Цэнтральным фронце. За 10 снежня нашы збілі 60 транспартных самалётаў!

Учора ўвечары зноў была перадача — «У апошні час». Паведамленне аб трафеях, што ўзяты пад Сталінградам і па Цэнтральным фронце — з 19 лістапада па 11 снежня. Лічбы трафеяў, асабліва пад Сталінгра-

дам — ашаламляюць. Захоплена танкаў — 1510, гармат — больш за 2 тыс., 105 — самалётаў! У палон узята 72 тыс., 94 тыс. забітых (немцаў і часткова румынаў). Усяго не пералічыць. Але лічбы такія, што ствараецца ўражанне — небывалы разгром немцаў!

Асабліва здзіўляе небывалая колькасць палонных, захопленых танкаў і нават самалётаў.

На Цэнтральным фронце — трафеі не такія вялікія, але таксама — значныя. Адчуваецца, што на Цэнтральным фронце баі былі больш упартыя.

Але пад Сталінградам — небывалы разгром! Радасць у нас небывалая. На нашай вуліцы — свята.

*13 снежня*

На Цэнтр. фронце нашы замацаваліся на захопленых рубяжах. А на Каўказе баі ідуць у раёне Маздока...

Ліда расказвала сон. Прыйшла паштоўка з малюнкам — бурлівае мора і бервяно разбітага карабля на хвалях. На другім баку — неразборлівыя хісткія літары. Амаль нельга прачытаць. Відаць, цяжка пісаць было гэтае пісьмо. Почырк Валодзі. «Вось я гіну... Бачыш, як усё выходзіць, як усе нашы мары. Бывай». Яна ўвесь дзень ходзіць пад уражаннем сну. Сёння паўтара года з таго часу, як ён паехаў. Яны сядзелі побач на парце ў 10 класе. Ён быў слабы ў матэматыцы і, калі рыхтаваліся да іспытаў, прыязджаў да яе. Яна дапамагала яму. Пазаймаўшыся, стаміўшыся, яны ехалі за горад. Потым, калі здалі іспыты, ён прыязджаў па-ранейшаму, разам бадзяліся па палях, па лясах. Аднойчы ў чыстым касцюмчыку ён узлез на дрэва, што навісла над ракой, і зваліўся ў ваду. Вылез з вады мокры. Яна смяялася з яго. Неяк ён не прыйшоў раніцай. На наступны дзень прыбыў з забінтаванай галавой. Аказалася: па дарозе да яе яму раптам захацелася праехацца па бервяне цераз канаву. Веласіпед саслізнуў, і ён зваліўся, пабіўся, пакалоўся. Ён быў майстар на выдумкі. Аднойчы ў дажджлівы дзень ён вымак, запэцкаўся. Прыехаўшы, убачыў на двары бочку з вадой і, не думаючы доўга, скочыў у яе,— вады было па пояс. Вымыў штаны, пінжак і явіўся ў хату. Энергія, жыццё білі ў кожным яго ўчынку. Прайшоў

час, і яна зразумела, як любіла яго. Цяпер ён самы блізкі ёй чалавек. Але яго не вярнуць.

*14 снежня*

Кожны дзень услухоўваюся ў радыё. Чорны дыск яго над сталом — акно ў свет. Для нас гэты дыск, радыё — як найважнейшая частка жыцця, кожны дзень чакаем з надзеяй. Жывём, можна сказаць, зводкамі з фронту.

За тыдзень збіта 407 нямецкіх самалётаў, з іх 325 трохматорных транспартных. Здзіўляе такая колькасць збітых транспартных. Відаць, немцы на самалётах перакідваюць кудысьці падмацаванне? У Сталінград?

На поўначы ад Сталінграда нашы захапілі некалькі вышынь, на поўдні — немцы контратакавалі. На Цэнтр. фронце — таксама цяжкія баі. На некаторых участках нашы, відаць, прыпынілі наступленне.

*19 снежня*

Учора зноў было паведамленне «У апошні час». Нашы пачалі наступленне на сярэднім Доне! З поўначы — пад Новай Калітвай і з поўдня — пад Бокаўскай. За чатыры дні нашы войскі прабіліся ўперад да 90 км, занялі Новую Калітву, Канцеміраўку і яшчэ 200 насел. пунктаў. Разгромлены дзевяць пяхотных дывізій і адна брыгада.

Гэтае паведамленне вельмі ўзрадавала, таму што ўчарашняя зводка паведамляла пра зацятыя баі — на поўдзень ад Сталінграда — з танкамі і пяхотай немцаў. Відаць, немцы спрабуюць перайсці ці перайшлі ў контрнаступленне.

Растрывожыла таксама паведамленне пра зверствы на акупіраванай тэрыторыі. Немцы ў Смаленскай вобласці чыняць расправы над людзьмі, паляць вёскі, гоняць многіх на катаргу ў Германію. Думаю з трывогай: што там, у маіх Глінішчах?

Прайшло паўгода, як я ранены. Рана загаілася, але рука ўсё на падвязцы. Спрабаваў зняць, хадзіць без падвязкі, але тады яна пачынае балець. Здаецца цяжкай, цягне ўніз плячо і моцна ные. Сяк-так у неабходную хвіліну памагаю ёй левай, але кожны раз яна пярэчыць назалелым болем. Даводзіцца лічыцца. Нават

пісаць не хоча, прымушае час ад часу спыняцца, прыстасоўвацца да яе — вадзіць ёю асцярожна, без намагання, не націскаць аловак. І па-ранейшаму — нязручна спаць. Кожны раз кручуся, пакуль уладжуся так, каб ёй і плячу было зручна.

Засталіся тры месяцы да пераасведчання. Але шанцаў на паляпшэнне маіх спраў з рукой небагата. Усё ж маё становішча ў гэтых адносінах няпэўнае. Як кажуць: пажывём — пабачым.

Зрэшты, я працую як магу. І ў інстытуце, і дома. Пішу. Вельмі хочацца пісаць.

*20 снежня*

«У апошні час»! Наступленне нашых на сярэднім Доне працягваецца. За дзень прабіліся яшчэ на 25—30 км. Усяго за пяць дзён прайшлі — 75—120 км!

*22 снежня*

Наступленне на сярэднім Доне працягваецца. Немцы бязладна адыходзяць. Нашы захапілі яшчэ 7 тыс. палонных. Фронт усё больш аддаляецца ад Сталінграда, а ў Сталінградзе — немцы трымаюцца. Цікавая сітуацыя!

*23 снежня*

Нашы працягваюць наступаць на сярэднім Доне. Прабіліся яшчэ на 30 км, усяго за сем дзён — да 165 км!

*24 снежня*

Пачалося наступленне на паўночным Каўказе! Занята некалькі гарадоў, у тым ліку — Алагір. Значыцца, і на Каўказе нашы войскі пайшлі наперад. Гэта асабліва радуе.

Вельмі дарэчы мне цяпер карта, якую я доўга вазіў у рэчмяшку. Вялікую радасць адчуваю, схіляючыся над ёй, адзначаючы новыя і новыя кропкі — наш шлях на захад!

Сэрца маё ў такія хвіліны ляціць у халодныя, снежныя палі, дзе ідуць мае таварышы, дзе павінен быў бы быць і я. Нялёгка там, ведаю, але сэрца радуецца: ідзём наперад!

На сярэднім Доне наступленне працягваецца.



Іван Мележ —
супрацоўнік Хойніцкага РК ЛКСМБ. *1939.*

*25 снежня*

Учора «У апошні час» паведамілі аб нашым далейшым наступленні, на сярэднім Доне і на Каўказе! Наступленне ідзе вельмі паспяхова.

Асабліва ўзрушыла паведамленне пра тое, што пачалося новае наступленне на поўдні ад Сталінграда. Немцы там сапраўды спрабавалі наступаць. Сканцэнтравалі шэсць дывізій, у тым ліку — тры танкавыя, і адцяснілі нас. Цяпер нашы зноў пайшлі наперад!

Хутка скончыцца сорак другі. У гэтыя дні, ці то іду па снежных вуліцах, ці то гляджу на вуліцу, успамінаю, як мы яго сустракалі на фронце, за Растовам. Усё бачу то снежны стэп, то нашы зямлянкі і гарматы. І здаецца, чую грукат стрэлаў. І быццам чую і бачу таварышаў сваіх, так рэальна, нібы яны побач. І не хочацца думаць, што іх, можа быць, ужо ў жывых няма. Што яны, можа, даўно ў зямлі, з мая, з праклятага акружэння пад Ізюмам — Барвенкава. Думаю, як выпадкова ўратаваў мяне лёс ад такой долі, ад смерці. І як яна, смерць, ледзь не паклала ў зямлю мяне, калі я зусім не чакаў яе, быў упэўнены ў поўнай сваёй бяспецы. Разам з гэтымі, прыходзяць думкі аб тым, што адбылося на Паўднёвым фронце летам. І да гэтага часу не магу зразумець, уявіць толкам карціну. Усё гэта так нечакана і так страшна, што думка аб гэтым гняце нясцерпна. Думка гэтая, хоць я і хаваю яе і стараюся заглушаць яе, гняце мяне амаль увесь час з тых дзён, калі я ўпершыню пачуў ад раненых у Тбілісі, што адбывалася ўлетку ў стэпах знаёмага мне поўдня. Я думаю аб гэтым, таму што такі мог быць мой лёс. Бо толькі выпадак змяніў мой шлях, вывеў, як цяпер высвятляецца, з-пад занесенага над намі ўдару. Што было б са мной, калі б не гэты выпадак?.. Неадступна думаю я, што цяпер адбываецца пад Сталінградам і ля Каўказскіх гор. Кожны дзень я ўслухоўваюся ў чорны дыск радыё, углядаюся ў карту. Я душой нібы там.

Цяжкі, жорсткі ты быў, 42-гі год. Але дзякуй табе, што хоць у канцы ты цешыш нас! А за акном, ціха зніжаючыся, кладзецца снег. Прырода здаецца лагоднай, мірнай. І горад быццам дрэмле бесклапотна...

*26 снежня*

Учора «У апошні час» паведамілі: наступленне на

Сярэднім Доне і на паўднёвым захадзе ад Сталінграда працягваецца. Прайшлі яшчэ 10—20 км на захад. Асабліва ўразіла — захапілі Тацынскую, гэта так далёка ад Сталінграда! На Тацынскай захапілі аэрадром, і на ім 300 самалётаў! 50 самалётаў захапілі на станцыі, у эшалоне! Відаць, немцы не чакалі такога прарыву! І для нас гэта нечаканасць, але — радасная!

*29 снежня*

Наступленне працягваецца — у Сталінградзе, на Сярэднім Доне, на Цэнтральным фронце і ў раёне Нальчыка. Нашы занялі Кацельнікава. Захапілі вялікія трафеі.

*30 снежня*

Атрымаў з Масквы тэлеграму. «Сёмага снежня перадавалася пісьмо з фронту Шкут Віктара Васільевіча... Паведамляем адрас: тысяча сто шасцідзесятая палявая пошта часць дзевяноста чатыры тысячы дзвесце трыццаць два саюзрадыё Каблукоў». Адчуваю, быццам побач стаў таварыш, ды яшчэ які, школьны таварыш! І хоць я ўжо тут не такі адзінокі, як месяц назад, усё ж яго прыход да мяне — падзея вялікая. Школьны таварыш — гэта школьны таварыш! Я нібы мацней стаю на зямлі. Мы — удвух цяпер. Сёння ж напісаў пісьмо.

*31 снежня*

Перадавалі вялікае паведамленне — «Вынікі 6 тыдняў наступлення нашых войск пад Сталінградам». Паведамленне растлумачыла ўсё, што адбылося пад Сталінградам і на Доне, прааналізавала тры стадыі нашага наступлення, паведаміла пра страты немцаў у людзях і тэхніцы, пра нашы трафеі. Паведамленне гэтае дух займае, такая карціна нашага наступлення намалявана. Так, прыйшло свята на нашу вуліцу. Прыйшло — да канца старога года і пачатку новага! Душа поўная надзей, дай бог, каб яны спраўдзіліся!

Запомніць усё немагчыма. Чакаю з нецярплівасцю газет. Памятаю толькі: у Сталінградзе акружаны 22 дывізіі. Разгромлена 36 дывізій. Захоплена больш за 2 тыс. танкаў.

Так, свята на нашай вуліцы!

У апошнія дні я багата думаю пра сваю будучыню. Ладую планы на новы год. Калі мяне не возьмуць у

армію — трэба пачынаць вучыцца. Не траціць попусту часу. Пакуль, можа быць, тут, завочна. А потым — у МДУ, у які ўлілі, па чутках, наш ІФЛІ. Даведку пра тое, што быў у ІФЛІ, я, праўда, згубіў, але павінны ж быць недзе дакументы — у архіве. Так што гэта можна аднавіць. Вось толькі толкам невядома, дзе гэты МДУ, куды пісаць. Кажуць, нібы ў Свярдлоўску. Увогуле, гэта трэба высветліць.

І вядома — пісаць сваё. Кожны дзень. Закончыць вершы, якія засталіся са шпіталя. Напісаць — «У апошні час». І пісаць апавяданні. Апрацаваць «Сустрэчу ў шпіталі» і «Апошнюю аперацыю».

Адным словам, не траціць попусту часу!

*1 студзеня 1943 года*

Учора ў Малдаўскім падінстытуце быў навагодні вечар. Самадзейнасць. У 12 усе выпілі за Новы год. Казалі тосты. Перш за ўсё за перамогу нашу, за разгром ворага ў гэтым годзе. Былі, вядома, таксама і за шчасце, за поспехі кожнага. Спачатку пажаданні былі агульныя, потым на змену арганізацыі прыйшла асабістая ініцыятыва. Вечар распаўся на групкі, склад якіх увесь час мяняўся. Падыходзілі да групак, адыходзілі. Адчуваўся ўздым, чуўся смех. Адна студэнтка пажадала мне стопрацэнтнага наведвання на вайсковых занятках. Разышліся позна, пад раніцу. Па праўдзе сказаць, нас папрасілі, ветліва і настойліва, з рэстарана, і мы рэціраваліся.

Я і да вечара і на вечары думкамі ўвесь час ляцеў далёка — на родную зямлю, на фронт. Памяць пра гэта ўвесь час адгукалася ва мне. Што там, дзе цяпер гаспадарыць немец? Што там, у снягах, дзе цяпер падобныя на мяне хлопцы ў шэрых шынялях? Я ўсё як бы бачыў іх сярод снягоў, пад халодным ветрам. Ля гармат, у пяхотных, прамерзлых траншэях: асабліва хвалююць мяне Сталінград, Каўказ. І таму, што там цяпер рашаецца лёс вайны, усіх нас. І таму, што там, калі б не неспадзяваны выпадак, быў бы і я. Калі б дажыў, вядома.

І ўчора і сёння я з асаблівым хваляваннем зазіраю наперад. Што ён прынясе нам, гэты год? Ці збудуцца нашы, і мае разам з усімі, надзеі?

Я веру, я спадзяюся. Я жыву надзеямі.

# СШЫТКІ.
# З ЗАПІСНЫХ КНІЖАК

Трэба сказаць: там, на граніцы, закопваючы даваенны скарб, дзве ці тры запісных кніжкі, самых дарагіх, я пашкадаваў, пакінуў пры сабе.

Насіў я іх з сабою ў рэчавым мяшку, разам з канцэнтратамі і патронамі. За Уманню, калі наш парадзелы полк адводзілі на перафарміраванне, я паклаў рэчавы мяшок на ўзводную павозку. Недзе ў дарозе за Першамайскам павозка наша разам з узводам звярнула на Кіраваград, а мы, некалькі чалавек, што адсталі трохі, не сустрэўшы «маяка», папраставалі на Нікалаеў.

Мой таварыш па батарэі Землякоў, што быў са ўзводам, знайшоў адну з маіх запаветных кніжак на пыльнай дарозе пад Днепрапятроўскам. Проста сярод поля. Здзіўлены находкаю, ён устанавіў, што я прапаў без вестак, можа быць, загінуў. Ён аддаў кніжку майму сябру Івану Карабутэнку.

Гэта сказаў мне пасля вайны Іван Карабутэнка. Ён сказаў і тое, што доўга насіў гэту кніжку як памяць пра таварыша, пакуль не страціў яе, паранены на Кубані.

На фронце я не пісаў запісных кніжак. І на скупы дзённік часта не хапала часу і сілы. Але ў шпіталі мяне зноў пацягнула да запісных кніжак. Далей — больш: я завёў блакнот, сшытак, куды запісваў цэлыя апавяданні-нарысы. Зноў час ад часу вяртаўся да вершаў.

Думалася, гэта спатрэбіцца для нейкіх твораў, аб якіх марылася туманна. Не спатрэбілася. Цяпер я разумею больш, чаму так хацелася запісаць усё. Гэта была патрэба жыцця, быў таксама дзённік, больш вольны і шырокі. Неабходная частка таго першага, яго працяг. Яго навакольны свет.

Запісы гэтыя мне хочацца падзяліць на дзве часткі. Зробленыя ў шпіталі, у Тбілісі. І зробленыя ў дарозе і ў Бугуруслане. Адпаведна дзвюм кніжкам дзённіка — другой і трэцяй.

## ШПІТАЛЬ. ТБІЛІСІ

### МЫ НОЧЧУ ПАКІДАЛІ ВЁСКУ...

Мы ноччу пакідалі вёску. Хаты
Мы пакідалі, дзе не спаў ніхто.
Панура коні валаклі гармату
Па вуліцы, маўклівай і пустой.

У вушах звінелі крыкі, кананада.
Камбат хрыпеў, выхарквaў цяжка кроў:
«К гарматам!.. Батарэяю!.. Гранатай!..»
І, трызнячы, гукаў байцоў.

Пасля грымот і бою, нібы дзіва,
Была нам ціш, па тым жахлівым дні.
Ўзыходзіў месяц. Сумна і маўкліва
Праз голле яблынь твары чырваніў.

Той ноччу, азірнуўшыся з пагорка
На вёску, што за намі, ў тую ціш,
Зазналі мы, як адступленне горка,
Як цяжка пераможаным ісці.

Мы йшлі, забыўшы голад. Ледзь ступалі
Ад зморы, ад бяссілля, ад бяды.
І раненыя раны забывалі
І не прасілі ласкі і вады.

Праз сотні вёрст, праз боль і гнеў
сражэнняў
Вяла, штурхала, гнала нас вайна.
Паіла нас атрутай паражэнняў
Без роздыху, без літасці, да дна.

Палалі вёскі, дагаралі хаты...
Ды помню горыч першай ночы той —
Панура коні валаклі гармату
Па вуліцы, маўклівай і пустой.

*1942 г.*

## У ПАЛАЦЕ

Хлопец ляжыць у палаце,
Ціхая, сонная рань.
Клопатная, у халаце
Зайшла да яго медсястра.

За шыбаю — голле бераста,
Чыстая сінь цячэ.
А хлопцу трызніцца, верыцца,
Што ён на фронце яшчэ.

Далёкі маяк Таганрога,
Бурыя, ў дыме кражы.
Ў свірэпцы, каля дарогі
Ён з кулямётам ляжыць.

Акаюць міны. Блізка
Ўзлятае [illegible] зямлёй трава.
Сястра чуе стомлена: «Дыскі,
Дыскі, разява, давай!»

Прачнуўся. З іншага свету
Думкі вярэдзяць не ў лад:
«Дзе гэта, у каго гэта
Белы, бы снег, маскхалат?»

Доўга, доўга не верыць
Будзе ён цішыні.
...Скрыпіць за шыбаю бераст,
Ківаецца дзень пры дні.

*1942 г.*

## БЛАКНОТ

1

— Таварыш камроты, прызнацца, мне нешта не падабаюцца гэтыя бабы.

Камандзір роты не адказаў, а яшчэ больш уважліва ўглядаўся ў бінокль. Па дарозе, пылячы, ішоў натоўп жанчын у белых сукенках.

— І рукі іх быццам заняты нечым...

Камроты апусціў бінокль. Загадаў падрыхтавацца да бою, а сам пазіраў туды, адкуль набліжаўся натоўп.

Па камандзе кулямёт адкрыў агонь. Падхапіўшы спадніцы, з аўтаматамі ўцякалі «бабы».

2

Сястра чакала бою ў поўнай баявой гатоўнасці. Цераз плячо, накрыж, нібы кулямётныя стужкі, ляжалі ланцужкі індывідуальных пакетаў. За пояс былі засунуты шыны.

Пад мінамётным і кулямётным агнём пяхота залегла. Пачуліся крыкі раненых. Хто прасіў памагчы, хто лаяўся невядома на каго. Яна паказвала дарогу лёгка параненым. Цяжкіх, як магла, паравязвала, загадвала на палатках цягнуць у бліжэйшы акоп. Хутка яе параніла, яна вылаялася, моцна, па-франтавому.

3

Ледзь з'явіўся на батарэю, Н. спытаў, дзе камандзір. Сказалі: у зямлянцы. Н. пакіраваў да зямлянкі. Паправіў рамяні, разгладзіў складкі на гімнасцёрцы, падумаў, як належыць па статуту дакладваць аб прыбыцці.

— Дазвольце?

— Заходзь,— адказалі з зямлянкі. Потым загадалі: адыдзі ад святла...

Камандзір трымаў у руках карты.

— Што козыр? Ну, што новага скажаш?

Н., ніякавеючы і хаваючы гэта, далажыў пра сябе.

Камандзір, слухаючы, глядзеў у карты. Па-сяброўску ківаў.

Якраз камандзіра выклікаў назіральнік. Адклаўшы карты, ён адразу выйшаў. Яго партнёры не дачакаліся.

Ён паклікаў Н., пайшоў аддаваць нейкія загады.

...У дні сядзення вольны час марнавалі картамі, кнігамі, песнямі, гаворкамі.

4

Ішлі лютыя баі. Артылерысты бачылі, як з пазіцый цягнуліся рэшткі пашматаных рот. Цягнуліся па адным, полем, нядбайна закінуўшы вінтоўкі на плячо. Праходзілі, праходзілі са спакойнымі, стомленымі тварамі, як людзі, што ўсё бачылі. Частавалі артылерыстаў нямецкімі цыгарэткамі, а самі прагна жавалі сухары, якія ім давалі.

І зноў ішлі. Сустракалі часці, што рушылі на фронт, на пытанні, як там — адказвалі скупа:

— Пабачыш.

Збіраліся ва ўмоўленым месцы, спатольвалі голад, спалі.

5

Немцы напіралі. Камбат спыніў раненага пехацінца, што ішоў з перадавой.

— Як там?

— Цяжка. Увесь час танкі ціснуць. Мінамёты засыпаюць. Многа нашых пабілі. Роты як не было. Камандзір і палітрук забіты. Батарэя толькі што падышла, акопвалася. Рыхтавалася.

Па дарозе грукалі адыходзячыя абозы. Яны заўсёды пачыналі адыход. Яны прыгняталі, баязліва пагрукваючы назад у самым пачатку бою. Байцы праводзілі іх мацюкамі: «Змотваюць пяткі, б.., тройчы бога маць».— «У штаны напусцілі, тылавыя пацукі». Рушылі ў тыл людзі «вольнай прафесіі» — юрысты, ветэрынары, фінработнікі, клубныя работнікі. Іх таксама праводзілі мацюкамі. Рыхтаваліся да бою.

6

Рака. Далей адыходзіць няма куды. Занялі пазіцыю пры рацэ. Апошні і рашаючы. Немцы напіралі. Але адыходзіць няма куды, трэба трымацца да апошняга чалавека, зберагчы гарматы. Біліся да апошняга снарада.

7

У пачатку зімы 41 г. не было снегу, часта стаялі туманы, якія распаўзаліся толькі апоўдні. Раніцай такога дня наша калона сутыкнулася з нямецкай. Сустрэча была настолькі нечаканая, што абедзве калоны паспяшаліся назад, ведучы бязладную страляніну. Так быў паранены ў жывот начштаба 3-га дывізіёна Іскроў.

8

Сястру паважалі. Ёй адводзілі лепшы акоп, звалі «сястрычкай», пры ёй гаварылі далікатна, «культурна», не лаяліся. Сарамліва хавалі брудныя рукі. Стараліся галіцца.

9

Бабулька абышла ўсе вагоны, пытаючыся:
— Дземідзенка Івана Сямёнавіча тут няма?
— Не, мамаша,— адказвалі раненыя. Яна падыходзіла да наступнага вагона.

10

Байцы расказваюць, што немцы з самалётаў часам скідвалі рэйкі і плугі, яны падалі са страшэнным віскам і наганялі жах. Яшчэ былі выпадкі, калі адтуль прыляталі скрынкі з прэзерватывамі.

11

У агнявым баі пераможцам звычайна выходзіла наша батарэя. Немцы змаўкалі. Тады на батарэю пікіравалі бамбардзіроўшчыкі. Скінуўшы бомбы, ішлі назад, а батарэя ўпарта адкрывала агонь.

12

Спрабуючы ашукаць зенітчыкаў, немцы спачатку нападалі на батарэю раптоўнай групаю, на малой вышыні. Яны адцягвалі ўвагу,— у гэты час вялікая — галоўная — група груганоў заходзіла з другога боку, з тылу, старалася ўдарыць у спіну.

13

Немцы напалі ля Ліхой на два эшалоны з раненымі з Варашылаўграда. Бомбы разбілі некалькі вагонаў, некалькім сарвала дахі. З двух эшалонаў сфарміравалі адзін, многія да Растова ехалі пад адкрытым небам, у вагонах з распоратымі дзіркамі.

14

Немцы паслалі палонных наперадзе аўтаматчыкаў, каб ашукаць нашых у акопах.

15

Заціснутыя з двух бакоў ворагам, байцы спыніліся ў лагчыне. Выйсці можна толькі праз адкрытую паляну, што вядзе на нашы вышыні. Яна была пад абстрэлам, аднак іншага выйсця не было. Вакол смерць, але наперадзе абнадзейвала жыццё. Шчаслівуцаў будзе няшмат. Перадавалі дамашнія адрасы, усе рыхтаваліся да смерці і ўсе спадзяваліся жыць.

16

Размовы салдат пра сабак — знішчальнікаў танкаў.

17

Размовы і чуткі аб «кацюшы». Расказвалі, што страляе, як з кулямёта, але кожны снарад раскідвае асколкі, якія, калі ўпадуць, таксама рвуцца, гарачыя, чырвоныя, і выпальваюць усё навокал. Казалі, што з выгляду яны зусім непрыкметныя і нагадваюць аўта-

машыну з пантоннай лодкай. Немец яе вельмі баіцца і быццам бы даваў узамен дзве тысячы самалётаў, але Сталін не згадзіўся,— што ўсе ўхвалялі. Немец, казалі, яшчэ дабіваўся: давайце ажэнім майго Ванюшу з вашай Кацюшай, але гэта таксама праваліласся. Тады ён пачаў гразіцца — калі будзеце страляць з «кацюшы» — я пушчу газы. Яшчэ казалі, што немцы распускаюць чуткі, быццам яе прывезлі з Амерыкі. А на самой справе, кажуць, яе прыдумаў інжынер Косцікаў, які назваў яе так, таму што жонка яго завецца Кацюша.

18

Пасля таго, як немцы абышлі нашу абарону на Перакопе, марская брыгада была акружана. Вестак аб становішчы на фронце не было, сувязь ■ фронтам перарвана. Быў аддадзены загад — адыходзіць да Севастопаля. Адыходзілі — хто як мог, рознымі групкамі, знішчаючы дробныя тылавыя атрады праціўніка і па-геройску гінучы ў няроўных стычках з буйнымі. У калгасах запасаліся правізіяй, у немцаў — аўтаматамі, гранатамі, патронамі. Захапілі нават аўтамабіль. У населеных пунктах распытвалі дарогу, бо карт не было. Нарэшце — лінія фронту. Ад радасці гаркнулі такое «ўра», што немцы панічна кінуліся наўцёк. Сустрэліся з сябрамі, якія ўжо іх пахавалі.

## СШЫТАК

### 1. ВАЛОДЗЯ СІНЮКОЎ

Мы выйшлі на двор. Сядзелі, амаль ляжалі, глядзелі ў начное зорнае неба.

Мы былі неспакойныя. Ад'язджалі нашы таварышы.

Мы заставаліся ў шпіталі.

Маўчалі. Потым Валодзя прамовіў:

— А мне ехаць няма куды.

Мне таксама не было куды ехаць. Родныя мясціны пад немцам. Я разумеў яго тугу.

Я ведаў, што да вайны ён жыў у Барысаглебску. Спытаў:

— У Барысаглебску — хто ў цябе?

— Нікога.

— Чаму? Пераехалі?

— А яны былі калі ў мяне?

У яго была звычка: пытаннем адказваць на пытанне.

— Ну, маці, бацька?

— Не ведаю такіх.

— Браты, сёстры?

— Нікога.

— З кім жа ты жыў?

— Я ў іх быў нібы за прыёмнага сына.— Ён даволі доўга маўчаў.— Дзіўная сямейка! Айчым, здаецца, любіў мяне больш за сваіх дзяцей. Ніхто мяне не крыўдзіў, клапаціліся пра мяне. Праўда, малы я быў уражлівы, запальчывы і задзірысты. Верхаводзіў гуртам дзетвары, рабілі налёты на гароды. За гэта маім бацькам не раз даводзілася чырванець. Мяне жыхары дражнілі цыганёнкам і, каб адпомсціць мне, абразіць, расказвалі пра тое, што я зусім не Сінюкоў, што я невядома чый і што цяперашнія бацькі мяне проста падабралі на вуліцы. Ад старэйшай сястры Ксеніі я даведаўся, што ўсё гэта праўда. Жорстка адпомсцілі! Я ненавідзеў усіх гэтых вулічных абываценяў, помсціў сам,— грубіяніў, рабіў гадасці. Бацькі мяне паранейшаму любілі, пакутавалі з-за мяне, але змяніць мяне не маглі, бо я гэтага не хацеў. Я на ўсё жыццё застаўся такім жа непаслухмяным і ўпартым. Але я мучыўся ад таго, што разумеў — маё свавольства прычыняе непрыемнасці мілым маім бацькам. І калі вучыўся ў пятым класе, збег ад іх.

Пачаліся блуканні. Не ведаць бы мне ніколі гэтых праклятых блуканняў! Узімку я вандраваў у летнім пінжачку. Неяк мяне ўначы выгналі з вакзала, і я, каб хоць трохі ўратавацца ад праклятага холаду, зачыніўся ў прыбіральні. Я быў чартоўскі стомлены і, нягледзячы на холад, заснуў у прыбіральні, зваліўся на падлогу. Калі я прачнуўся, было светла, пускалі ў вакзал. Я выйшаў, усе мяне гідліва абыходзілі, ад мяне смярдзела, пэўна, нібы з клаакі.

Яшчэ адзін выпадак глыбока ўрэзаўся мне ў па-

мяць. Было гэта ў Казлове, той жа зімой. Ноччу, ратуючыся ад марозу, я натрапіў на калодзеж, з якога ішла цёплая пара. Я з радасцю залез у яго, ён быў неглыбокі і цёмны, і я, прыхінуўшыся спіной да трубы, знямоджаны ад холаду, хутка заснуў. Прачнуўся я ад бразгату, грукату, крокаў і гучных жвавых галасоў. Нада мной былі краты, якія закрывалі ўчарашняе акно, людзі зацікаўлена пагдядалі на мяне. Паклікалі вартаўніка, і той з лаянкай зняў краты і выпусціў мяне. Я паспяшаўся ўцячы, каб не трапіць у дзеткалонію.

Усё ж я трапіў у калонію. Там жа, у Казлове. У Казлове я скончыў пяты, шосты, сёмы класы. Вучыўся лёгка і добра. Чытаў многа, глытаў кнігі. Маляваў. Я вельмі любіў маляваць. Наогул, зжыўся, пасябраваў з хлопцамі. Мяне палюбілі выхавацелі. Тады пацягнула мяне дамоў, да мілых бацькоў. І я аднойчы «махнуў» дамоў. У дарозе я дужа стаміўся. Не даязджаючы да Барысаглебска, я заснуў і прачнуўся ўжо, праехаўшы яго. Сышоў я на станцыі Гразі. Поезд паехаў, а я стаю, разважаю, што рабіць? Заўважыў — да мяне насустрач — жанчына, паважная, прыгожая. Адразу відаць: начальніца нейкая. Я імгненна скеміў: застукала, упрэ ў калонію.

Яна спачатку быццам са спачуваннем, з клопатам:

— Ты галодны?

— Вядзі,— тонам чалавека, якому ўсё ясна, адказаў я. Яна прывяла да другой жанчыны, у буфет.

— Накармі вось.

А сама пайшла. З застаўся з буфетчыцай. Гэтая была апранута з прэтэнзіяй, з манікюрам і нафарбаванымі губамі. Мне яна адразу не спадабалася. Яе задаволены твар мяне адразу насцярожыў.

— Які брудны! — сказала яна.

Яна з гідлівасцю адсунулася ад мяне.

Я загарэўся.

— Брудны, ды не прастытутка! — сказаў я.— А ты прастытутка, шлюха!

Яна аж падскочыла. Быццам уджаленая.

— Хуліган! Абадранец! Я дзяжурнага паклічу!

Яе знявага і пагрозы зачапілі маю гордасць. Я заўсёды трываць не мог, калі мной пагарджаюць, ды яшчэ пагражаюць. І не любіў прыніжацца. Ніколі, з самога дзяцінства.

— Кліч! — сказаў я.— Я не такіх бачыў. А ты — распусніца, прастытутка, шлюха!

Яна выйшла. Я ні з месца.

Прыйшоў дзяжурны. Паважны, грозны.

— Адкуль? — пытаецца строга.

— З Сярэдняй Азіі,— кажу.

— Хто там у цябе?

— Бабуля.

— Нябожчыца?

— Так. Адпраўце мяне ў Сярэднюю Азію.

Адправілі мяне ў родны горад. Не да бацькоў, а ў дзетдом. Так здарылася — у дзетдом у Барысаглебску. Сабралі некалькі такіх, як я, і адправілі. У вагоне мы хвіліны спакою не далі нашай правадніцы — прымушалі на прыпынках купляць усялякую ежу, садавіну. Пагражалі інакш збегчы. Наогул, мучылі як маглі. За ўсе крыўды я ненавідзеў, помсціў. Небарака, яна добра-такі перажыла за гэты шлях.

Шчыра кажучы, я яе шкадаваў, ненавідзеў сваю жорсткасць. Але перайначыць сябе не мог.

У Барысаглебску — бывае ж! — павялі мяне праз родны дом. Чаго толькі я не перажыў, пакуль ішоў ля яго. Усё навалілася разам: і ўспаміны, і сорам за свае ўцёкі, і жаданне ўвайсці дамоў. І быццам знарок — на лавачцы пры доме сядзеў мой браценік. Ля ліпы, што стаіць перад домам. Я, падыходзячы, напяўся ўвесь: як сустрэне! Гару ўвесь. Зямлі не бачыў. Ля дома спатыкнуўся. Ледзь не ўпаў.

— Куды вочы вылупіў? — вылаяў мяне мой браценік!

Ён мяне не пазнаў.

І я пайшоў далей. А хвіліну назад я гатовы быў увайсці ў дом!

У дзетдоме мяне пазнала адна дзяўчына.

— Уладзімір, я цябе ведаю,— сказала яна. Узрадавалася, падобна.

Я адрэзаў з пагрозай.

— Калі ведаеш, забудзь.

Яна паабяцала:

— Добра, я не буду казаць.

Ноччу, пасля праверкі, калі зачынілі дзверы на ключ, я з таварышамі наладзіў уцёкі. Наш пакой быў на другім паверсе, мы звязалі прасціны і спусціліся.

Я яшчэ раз падышоў да роднай хаты, пастаяў. Але не ўвайшоў. Паехаў бадзяцца.

Вярнуўся я ўвосень з цвёрдым намерам кончыць з бадзяжніцкім жыццём, жыць у бацькоў. Яны ўзрадаваліся, прыгрэлі мяне. Я прыціх, супакоіўся. Паступіў у восьмы клас. Вучыўся ахвотна. Вучыўся і маляваў. Пасля заняткаў шыбаваў з дому з эцюднікам у Барысаглебскія лясы. Я любіў маляваць. Увесь час аддаваў маляванню. Увесь вольны час, вольныя дні аддаваў яму. Любіў да самазабыцця. Маляваў, што бачыў— жоўтыя дрэвы, залатыя лясы. Краявіды былі цудоўныя — адзін лепшы за другі.

Скончыўшы дзевяты клас, я паехаў у Арлоўскае мастацкае вучылішча. Правучыўшыся адзін год, перайшоў у Мастацкі інстытут у Харкаве.

Адтуль быў прызваны ў армію. Трапіў у Севастопаль. У Севастопалі мяне накіравалі ў марскую школу.

Палітруком у нашай роце аказаўся выпадковы чалавек, малапісьменны і несправядлівы. Я цярпець яго не мог і не хаваў маіх думак аб ім. Ён таксама не любіў мяне, помсціў мне. За спрэчкі з ім ён пасадзіў мяне на гаўптвахту. Помню: ішоў я ў шынялі без пояса, у бесказырцы без стужак па Севастопалі. Злосна і ліхаманкава паглядаў па баках, баючыся ўбачыць сваю дзяўчыну ці сястру. З гэтага дня нашы адносіны з палітруком яшчэ больш абвастрыліся. Я адчуваў за сабой праўду, і гэта надавала мне сілы. Раззлаваны несправядлівасцю, за пятнаццаць дзён, што прасядзеў на гаўптвахце, я амаль нічога не еў, і калі мяне вызвалілі, не мог ісці. Мяне ў школу прывёў камбат, якога я і ўсе чырванафлотцы вельмі любілі. Потым я даведаўся: ён з-за мяне пасварыўся з палітруком.

Мяне хацелі пакласці ў асобны пакой для папраўкі, каб не азлабляць маракоў супраць палітрука. Але мяне ўбачылі некалькі чалавек. Вестка пра мяне імгненна пранеслася па ўсёй школе. Спайкі такой, як у маракоў, няма нідзе. Яны прабіваліся да мяне, пагражалі палітруку, прыносілі мне яблыкі, папяросы, віно.

Калі пачалася вайна, палітрук знік, паляцеў на Вялікую зямлю. Казалі, быццам адклікалі дурня на вучобу. Да нас прыслалі новага, камісара. Гэта быў камісар — душа! Заўсёды разам з маракамі, у бой ішоў першым. Мы заўсёды разам з ім праводзілі дні

адпачынку. У мяне ў Севастопалі жыла сястра, дом свой з мужам мела. Там мы — у гадзіны перадышак — часта збіраліся: камісар, камбат, таварышы. Грымелі марскія песні, шыпеў патэфон, бахкалі коркі бутэлек. Весяліліся адчайна, ад усёй душы. Як толькі могуць маракі пасля бою і перад боем.

Потым зноў былі баі, гінулі таварышы. На вечарах аб іх успаміналі. Не плакалі, бо ўсе мы былі роўныя. Для кожнага з нас любы вечар мог быць апошнім.

Гінула нас многа. Загінула сястрычка з нашага батальёна, Оля. Яе разарвала снарадам. Косця, марак,— ён кахаў яе,— знайшоў толькі руку. Ён доўга сядзеў на тым месцы, ні на што не зважаючы, і толькі гаварыў: «Гэтая рука мяне лашчыла». Потым загінуў камісар, яго перарэзала кулямётнай чаргой. Мы тады хадзілі ў контратаку і трапілі пад перакрыжаваны кулямётны агонь. Камісар павёў нас на зыходныя рубяжы. Не дайшоў ён да рубяжоў, загінуў. Побач з ім загінуў яго сябар, марак, цудоўны хлопец, Алёша. І яшчэ многа легла нашага брата. Мяне тады параніла ў правую руку...

Ён абарваў расказ. Мы задуменна маўчалі. Я ўспомніў першае маё — завочнае — знаёмства з ім. У Есентуках урач Рубанік, што лячыла нас абодвух, упершыню расказала мне пра яго. Яна была ўражана яго знешнасцю. Яна сказала, што, зірнуўшы на яго, адразу зразумела: гэты чалавек многа перажыў! Пазней я ўбачыў яго: жорсткія, упартыя вочы глядзелі з-пад навіслых чорных броў. Тонкі востры нос, бледныя сцятыя губы. Закінутыя назад чорныя валасы. Над хваравітай, белай, з жаўтаватым загарам скурай. Рэзкія, нервовыя рысы твару. Рубанік казала тады, што выпадкова ўбачыла ў яго накід карціны — палаючы Севастопаль,— якую ён маляваў левай рукой. На карціне былі накрэслены, на фоне палаючага Севастопаля, тры пастаці: стары, што абапіраецца на кій, абыякавы да ўсяго, жанчына — яна спалохана падняла вочы, прыціскаючы да грудзей дзіця...

Ён мне таксама некалькі разоў гаварыў пра Рубанік, пра ўрача. Вочы яго пры гэтым вільгатнелі і блішчалі нечакана мякка. Ён гаварыў аб яе клапатлівасці, аб тым, як ён яе паважаў і слухаўся яе. Гэта яна ў Есентуках пераканала яго — у час — пераехаць у Тбі-

лісі, хоць ён і не хацеў. Я ўспомніў, як ужо тут ні камісар, ні галоўны хірург не змаглі яго перасяліць з першай палаты ў другую — ні просьбамі, ні пагрозамі. Ён палка любіў і ненавідзеў усёй душой, ён быў пяшчотны і цвёрды, як жалеза. Ён быў чулы і грубы. Якая палкая, упартая душа!

У пытаннях літаратуры і мастацтва нашы погляды сыходзіліся. Ён са злосцю лаяў тых, хто скажаў жыццё, грубую праўду жыцця... Мы разам лаялі тых, хто баіцца паказваць праўду жыцця.

## 2. АЛЁША

(З расказаў Валодзі Сінюкова)

Многа цікавага народу было ў нас. Але сярод іх я неяк асабліва, адразу звярнуў увагу на аднаго. Адразу, як толькі з'явіўся да нас, у батальён марской пяхоты.

Помню, прыйшло папаўненне з караблёў. Мы высыпалі насустрач. І я сярод іншых — звычайных — адразу прыкмеціў агромністага, прыгожага марака,— на дзве галавы вышэйшага за астатніх.

Маракоў выстраілі. Да строю выйшаў камісар, пазнаёміцца. Кожны называў сваё прозвішча і карабель. Вялікі марак таксама назваў сябе, карабель. Усё як належыць.

Але потым, калі была дадзена каманда разысціся, пачалося іншае знаёмства. Вялікі назваўся проста:

— Алёша.

Так ён і запомніўся ўсім: Алёша. Так яго потым і звалі ўсе, у тым ліку і камісар.

Наогул у нас, маракоў, абыходжанне — без цырымоній. Ну, а з Алёшам зусім проста пайшло. Ён адразу дзіўна выклікаў да сябе прыхільнасць. Просты быў, таварыскі на рэдкасць.

З Алёшам адразу ў нас пачаліся прыгоды. Ледзь пазнаёміліся з навічкамі, пачалі іх, вядома, узбройваць. Алёшу выдалі вінтоўку. Ён паставіў яе ля наска, а яна яму ледзь вышэй пояса! Маракі, паглядваючы на Алёшу, пачалі пасмейвацца.

Алёша пакруціў яе ў руках. Быццам не разумеў, што гэта.

— Таварыш камісар! Куды мне гэта?

Наша тулянка так траціла побач з ім, што камісар згадзіўся спачувальна:

— Д-да, калібр малаваты!

Маракі, быццам чакалі, падхапілі:

— Ружжо бранябойнае яму хаця б!

— Яму б гармату галоўнага калібра з «Парыжанкі» [1].

Алёшу далі дзегцяроўскі кулямёт.

— Ну вось, гэта яшчэ нішто сабе. Гэта па мне...

Так пачалося жыццё Алёшы ў нас, у батальёне марской пяхоты. Пяхотнае, акопнае жыццё. Жыццё сярод матухны-зямлі. Пасля мора, мінаносца — Алёша сышоў з мінаносца — гэта было не проста. Перакваліфікацыя поўная. Зусім новы курс навук. Ды і, трэба сказаць, абставіны для прыстасоўвання да новых умоў аказаліся цяжкаватымі. Жыццё кінула Алёшу за борт, і апынуўся Алёша сярод суровай стыхіі, калі там штарміла. Ну, калі не на дзевяць, дык на сем балаў, напэўна.

Немцы націскалі. Кожны дзень бамбёжкі, абстрэлы, атакі. Свету белага не відаць. І з-за хмар узнятай зямлі і, наогул, у пераносным сэнсе.

Жыццё ў батальёне, як і на караблі, усё на віду. А ў такіх абставінах чалавек адкрываецца адразу,яўляецца перад усімі, як маці нарадзіла. Глынуў Алёша адразу салёнай марской, ды так, што і захлынуцца нядоўга, але і выгляду не паказаў. Быццам бы не ўпершыню і бачыў такое.

Вось жа, і негаваркі, і непаваротлівы, але ў справе лепшага таварыша не было. Ужо калі Алёша ў акопе, і калі за «дзегцяровым» — будзьце ўпэўнены. Не падвядзе Алёша. Падтрымае каго трэба і, калі загадана ўчапіцца, учэпіцца, і не скране ніякая сіла. Калі, вядома, ёсць магчымасць трымацца.

Яшчэ вабіла ў ім сціпласць. Рэдкая сціпласць. Што б ні зрабіў, не выхваляўся. Ды і калі іншыя распісвалі яго — наш брат — марак гэта ўмее — памоўчваў. Ды і сароме́ўся быццам.

За гэта цягнуліся да яго, любілі. І сярод іншых — камісар наш. Сяброўства гэтае асабліва прыкметнае было, таму што і камісар быў чалавек — што трэба!

---

[1] «Парыжанка» — лінкор «Парыжская камуна».

Камісар, наогул, з любоўю не напрошваўся ні да каго, кплівы і востры на язык быў, не казаў пра любоў і Алёшу, але было ясна, пяшчоту скрытую адчуваў.

Клапаціўся аб Алёшу заўсёды асабліва.

Помню: было гэта ў сакавіку. Стаялі лютыя марозы. Вецер дзьмуў такі, што шчокі імгненна браліся белымі плямамі, а ў вачах гарэў агонь.

Дровы ў нас скончыліся. У бліндажы было па-зверску холадна. Мы ўсе дрыжалі, як цуцыкі. Грэліся спіртам ды тузанінай. Ды цыгаркай — таксама быццам цяплей. Алёшу было яшчэ горш. І апрануты дрэнна, і босы. Чаравікі так разнасіліся, што і дрот ужо не трымаў. Выглядвалі ў шчыліны анучы.

Камісар шукаў яму на складзе брыгады і ў горадзе чаравікі ці боты. Але 48 памеру не знаходзілася. Алёша суткамі сядзеў у бліндажы. Трываў, не скардзіўся.

Не паспеў камісар знайсці Алёшу абутак, скончылася нядоўгая перадышка. І стала ў нас так горача, што далей няма куды. Дзяўблі, дзяўблі нас немцы — ратунку няма, і нарэшце — выбілі. Пакінулі мы пазіцыі свае.

Толькі зачапіліся за новыя, умацаваліся неяк, даюць загад — вярнуць пакінутыя пазіцыі любой цаной. Уночы прыходзіць камісар, загадвае рыхтавацца да контратакі. Сам збіраецца ісці з намі.

Паглядзеў на Алёшу, загадвае аддаць кулямёт другому мараку.

— Гэта чаму? — не згадзіўся Алёша.

— Застанешся.

Алёша заявіў цвёрда:

— Я пайду з усімі.

Камісар паморшчыўся: не час было заводзіць спрэчку. Упэўнена паўтарыў загад. Ясная сітуацыя: босы чалавек, якое яму наступленне!

Алёша змоўчаў. Але кулямёт не аддаў. І калі ўсе сталі выбірацца наверх, рушыў таксама. З кулямётам.

Пайшоў, не ведаючы, насустрач сваёй гібелі.

Бой мы пачалі, падобна, нядрэнна. Артылерыя падтрымала, і мы ўжо дабраліся амаль да немцаў, калі яны апамяталіся і адкрылі такі тарарам, што бачым — справы нашы дрэнныя. Косяць нас. Мы прыцішылі хаду і, адчуваецца, ужо быццам з аглядкай рушым. Прыкідваем ужо: куды — уперад ці назад?

Камісар гэта адчуў, ірвануў наперад, работаючы аўтаматам. Услед за ім рушыў наперад і Алёша. Ракеты ўвесь час узляталі, відаць было навокал, як удзень.

Камісар не дабег да акопаў. Нешта здарылася ў яго, ён як быццам раптам спатыкнуўся. Амаль адразу ж за ім чарга падкасіла Алёшу.

Многіх тады скасіла смерць. Але ўсё ж прарваліся і ўчапіліся ў пазіцыі. І выбілі немцаў. Ранак сустракалі ўжо ў ранейшых акопах.

Тады пачалі падбіраць раненых, забітых. Знайшлі і камісара, і Алёшу. Абодва былі мёртвыя. Абодвух скасіла кулямётная чарга. Побач.

### 3. ВАДАП'ЯНАЎ

(З расказаў Валодзі Сінюкова)

Таксама — цікавая асоба. Адна з самых каларытных у нашым батальёне.

Калісьці быў злодзеем. Судзіўся. Будаваў канал. Быў дачасна вызвалены. На фронце з першага дня прыжыўся ў разведцы.

Неяк спатрэбілася разведцы папаўненне. Прыйшоў у роту, знайшлося многа ахвотнікаў. Ён, гамонячы рознае, быццам выпадкова выцягнуў з кішэні лімонку і ўкручвае запал. Байцы змаўкаюць, трывожна і з чаканнем сочаць за яго рухамі. Ён выпроствае вусікі чакі. Рассеяна спрабуе выняць яе. Нехта не вытрымаў:

— Кінь! Не дурэй.

Ён ці не чуе, ці не слухае. Насцярожаныя байцы бачаць, як выскачыла чака. Тут раптам заўважае, што здарылася, і ён. Палохаецца. Ад страху кідае гранату. Адкідвае ад сябе, у ногі байцоў. Усе шарахаюцца прэч. Здалёку ўслухоўваюцца, чакаюць. Граната не ўзрываецца. Нарэшце, нясмела, няёмка вяртаюцца. Вадап'янаў глядзіць насустрач кплівым, пагардлівым позіркам.

Граната зноў у яго руцэ.

Моўчкі абводзіць вачыма ўсіх.

— Вам толькі ў абозах ваяваць, а не ў разведку хадзіць...— кажа ён са знішчальнай пагардай.

Дадае прысаромленым байцам некалькі слоў, якія не друкуюцца.

Усе маўчаць.

Аб яго храбрасці хадзілі легенды.

Аднойчы разведка суседняй роты прынесла паведамленне, што немцы сядзяць у бліндажах у такім-та раёне. Вадап'янаў заявіў, што там нікога няма, ён там быў мінулай ноччу. Яму не паверылі. Увечары ён узяў хлопцаў і пайшоў у разведку. Пад раніцу ўсе вярнуліся, прынеслі тры ложкі.

— Гэта — палітруку, камроты і мне,— аб'явіў Вадап'янаў.

Ложкі, аказалася, былі ўзяты з бліндажоў, дзе быццам бы сядзяць немцы.

Быў у роце тэлефаніст, асцярожны, пужлівы. Вадап'янаў вырашыў напалохаць яго. З назіральнасцю разведчыка ён адзначыў месца, куды той заўсёды выбягаў «да ветру». Укапаў нямецкую гранату, прывязаў вяровачку і працягнуў да акопа, вырашыўшы ў зручны момант узарваць гранату. Чакаючы гэтага моманту, задрамаў. Тым часам — была ноч — прыехаў з павозкай старшына. Конь зачапіўся нагой, выбухам яму вырвала бок. Старшына адбыўся хвілінай страху.

Ротны, даведаўшыся пра гэта, лаяўся страшэнна. Але ўтаіў ад начальства.

Ды і што маглі зрабіць тут Вадап'янаву!

### 4. НЯПЕЙВАДА

Я пазнаёміўся з ім у Мінводах, у час аднаго паходу са шпіталя. Пасядзеў паўгадзіны побач, паслухаў, і вось памятаю, бачу яго, чую.

Вочы ў яго нейкага няпэўнага колеру — ці то карыя, ці то шэрыя. Сядзяць яны глыбока пад цвёрдымі цёмна-русымі брывамі, і толькі вузенькая палоска іх насцярожана і дапытліва выглядвае ў шчыліну прыжмураных вачэй. Губы танклявыя, шырокія, куточкі іх прыўзняты ва ўсмешцы, якая нібы кажа, што ён вас наскрозь бачыць. Яго не ашукаеш. Апрануты дзіўна: матроскі клёш і суконная гімнасцёрка без пятліц. Гаворыць па-руску, але «л» вымаўляе мякка, па-ўкраінску. Па вымаўленню можна здагадацца, што ён ці ўкраінец, ці сын Кубані або Дона.

— Прыехав я са шпіталя,— расказвае ён, пацягваючы піва,— канешне, куды — у Кіславодск. Таму што

акрамя падацца няма куды, а там у мэне Валька, з якою мы паабяцаліся пажаніцца. Еду радасны — дзевяць месяцаў не бачывся. Прыходжу ў хату — мама яе адразу спазнала — у слёзы. «Пецька, Пецька, адкуль ты? Як ты?» — Заходзіцца ад радасці, садзіць за стол. Я сідаю. Але хоць я був галодны, як які Тузік, што без гаспадара, але Валяй, канешна, цікавіўся больш. Сіў, аглядзеўся ось так вакол па хаце. «А дзе Валя?» — пытаюся. «Валя?» — пытае яе мама і ось так спакойна, як яку дробязь кажэ: «З мужам пайшла на базар». Я як на цвіка сіў, аж падскочыў. «Як,— кажу,— з мужам? З якім?» — «А з Васем»,— кажа. Я пытаюся: «Яна выйшла замуж?» — «Ну, а як жэ!» Шчэ і здзіўляецца, што я здзіўляюся. А мне гэтая вестка як малатком па галаве. Сяджу і ўцяміць не магу ніяк, што ж рабіць у такой сітуацыі. Толькі думаю: ось табе і прыехав, пажэнівся!.. Але нічога не зробіш. Прыехав — трэба сядзець, чакаць, пабачыць сваім вокам. Паказаць сябе, што — жывы, вярнуўся. Сяджу, прымаю, вядома, пачастунак, але без здавальнення, таму што на душы трывожна. Усялякую цікавасць да яды страціў з-за любоўнай непрыемнасці і чакання. Паеў, сказаў «дзякуй» мамашы яе і чакаю. Мамаша кажа: «Калі ласка, Пецечка, шчэ вось пачастуйся, не саромейся!» — кажа так ветліва, але, бачу, хвалюецца таксама і мяркуе, чым жа гэта скончыцца. І так па выгляду яе разумею, што яна не супраць, каб я куды-небудзь знік. Але я быццам не заўважаю нічога, сяджу, чакаю. І ось прыходзіць чалавек, нясе ўсякую ўсячыну з базару. Глянуў на мэне, але без цікавасці. А за ім адразу і Валька. Як убачыла мяне, збялела, як палатно, спужалася дужа. Я таксама на яе гляджу, строга і з асуджэннем. Я, вядома, скеміў, што чалавек незнаёмы — яе муж. Я яму руку не падаю, паказую, што — пагарджаю. А да яе падыходжу. Яна глядзіць на мэне, вочы ось такія, а сама чакае, баіцца. Кажа — быццам радуецца: «Пецька! Адкуль ты ўзявся?!» Я кажу ёй важка: «Адтуль, куды ты праводзіла мэне — з фронту! А цяпер — са шпіталя!» Мамаша яе нешта загаворвае, але я ёй — нуль увагі. Кажу Вальцы — прама. «Валя, чаму ты так хутка забыла нашу любов і сваю клятву? Я цябе столькі чакав, а ты мэне забыла!» Яна маўчыць. Ёй, вядома, няёмка. І муж яе маўчыць, разважае, што да чаго.

Здзіўлены таксама, вядома. Валя то маўчала, а то раптам пачала плакаць жаласна, як сабака пабіта. Гляджу я на яе і ўсё думаю, што рабіць. Падумаў я і кажу ёй: «Раз такое дзела, прыходзь, Валя, у рэстаран, што на вакзале, у дзве гадзіны. Зап'ем нашу любоў». Яна плача і ківае галавой: «Добра, Пецька, прыйду». Я на гэтым адвярнуўся да мамашы, сказаў: «Да спатканн ня!» і выйшаў, як зняважаны. Але з надзеяй... Зайшоў я ў рэстаран у дзве гадзіны, гляджу: няма. Заказаў абед сабе, чакаю, спадзяюся. Але яна не прыйшла. Набраўся я з гора так, што марачкі нейкія па ўзаемавыручцы ледзь вывелі мяне адтуль. Так скончылася мая любоў з Валяй!..

Ён маўчаў яшчэ колькі часу. Сумаваў. Але, відаць, сум быў не ў яго натуры, а можа, і не для яго — паказваць сябе ў такім выглядзе, пераможаным. З намаганнем сагнаў з вачэй сум, жорсткасць. Пацягваючы з куфля, загаварыў спачатку наўмысна весялей. Потым ужо і сапраўды весела, захапіўшыся.

— Прыехалі мы ў Мінводы. Толькі селі абедаць — прылятае германскі самалёт. Усе, хто быў,— адразу са сталовай хто куды. Але яны якраз і падбеглі пад бомбы. А мы сядзім і ядзім ды выпіваем. Абедаем сабе. Паелі першага, чакаем другога. Не нясуць. Тады мы на кухню, каб палаяцца, а там нікога. Тады мы адпусцілі сабе другога самі. Колькі захацелася.

А далей ехаць — аніяк. Шлях разбілі. Яго рамантуюць, паязды не ходзяць. Мы да каменданта горада: «Адпраўляй на машынах!» А ён: «Нічога не будзе. Машын няма».— «Як жа ж быць,— пытаемся мы,— нам тэрмінова ў часці трэба!» А ён нам: «Вы хлопцы — ваенныя, спыніце любую машыну і сядайце». Так мы і зрабілі. Выйшлі на шлях за горад, бачым — акурат ідзе машына. Але ў ёй пасажыраў і рэчаў шмат.

Узнімаю пісталет. Загадую: «Стой!» Машына стала. Я на падножку. Патрабую ў шофера:

— Пропуск!

Шофер паказуе пропуск. Пытаюся:

— Куды едзеш?

— У Махачкалу.

— Па якой справе?

— Запчасткі вязу.

Ага, вось яно што. «Запчасткі»!

— З фронту ў тыл?! — кажу. Загадую: — А ну, пакажы, якія запчасткі ў вас?

У кузаве заварушыліся. Сталі крычаць: не маеце ніякага права! Але я — нуль увагі. Загадую:

— Злазь! Перасадка будзе!

З кузава не злазяць. Тады Рыжы,— быў такі чарцяка, «атарві да брось»,— адразу скеміў. Дастаў з-за спіны аўтамат ППШ. Наперад выставіў. Наглядна паказуе. І пазірае пры гэтым на іх: «Ось я зараз вам — злажу!»

Ну, тыя ў машыне — маўчок адразу. І на зямлю.

Спалохаліся, чэрці. Я загадую хлопцам — агледзець, што там за запчасткі. Хлопцы на скаты — ды ў кузаў, а там адны клункі, дамашняе барахло.

Толькі адзін паламаны матор з трактара знайшлі.

— Дык гэта вашы запчасткі? — пытаюся.

Маўчаць. А ўсе дужыя з выгляду, мардатыя. Не толькі жанчыны, але і мужчыны.

Мы там кроў на фронце праліваем, а яны — клункі ўсялякія.

Злосць мяне ўзяла. Загадаў выкінуць барахло.

— Дазваляю браць толькі чамадан ці адзін клунак,— кажу.— Хто не згодны, дазваляю застацца.

Гляджу: пастаялі, сталі разбіраць свае клункі ды чамаданы.

Лезуць, пасадзіліся. Мы селі, і яшчэ месца знайшлося. Раненых байцоў пасадзілі.

Так і даехалі.

— У Махачкале сядзім, чакаем поезда. Сумаваць не даводзіцца, закупілі вялікі чайнік піва і папіваем патроху на беразе мора. Заўважаем, што нейкі тып увесь час круціцца побач. Паклікалі — ён падыходзіць, выпівае з намі. Асмялеў і пытае:

— Вы, рабята, з Каспійскага флоту?

— Да. З Каспійскага,— адказваем.

Зноў памаўчаў, глядзіць усё. Потым кажа, па-сяброўску так:

— Можаце вы мяне, рабята, перавезці на той бок?

— А як жа! — зразу кажа Рыжы.— Гэта ў нашых руках.

Ён яшчэ памаўчаў. Набраўся смеласці і кажа:

— Колькі гэта, рабята, будзе каштаваць?

— 11 тысяч,— не маргнуўшы, сказаў Рыжы.

Гэтак сур'ёзна гаворыць: быццам праўда. І мы ўсе паглядаем сур'ёзна.

Гэты пакруціў шыяй, як салома туды трапіла, кажа:

— Гэта многа, рабята. Збаўце палову.

Паспрачаліся і згадзіліся перавезці за 7 тысяч з магарычом.

Ён устаў і быццам неахвотна — дарага, маўляў,— пайшоў некуды. Глядзім: вяртаецца хутка. Нясе торбу з нечым. Прыйшоў, сеў, выкладвае. Кансервы, памідоры, шампанскае. Магарыч.

— Дарага,— кажа,— вы, рабята.

— Дак гэта ж няпростая справа,— адказваем.— Цераз цэлае мора пераправіць.

Выпілі і закусілі добра. Тады ўстаем, развітваемся.

— Вы куды гэта, рабята? — пытаецца.

Рыжы кажа:

— А куды? На службу. У часць.

— А як жа гэта? — пытаецца.

— А так,— адказваем.— Няма ў нас пака суднаў.

Ён уцяміў тады.

— Дак вы — пасмяяліся?

— Топай, дзядзька,— кажу яму.— Да скажы дзякуй, што адпускаем па-здарову.

Ён зматаўся ўраз.

Вось жа, гад. Таксама вораг, накшталт акупанта, пад назвай *адкупант*...

Выняў табакерку. Пажартаваў:

— Баявая песня: «Давай закурым». Музыка Папазяна. Тытунь свой.

Разлічыўшыся з афіцыянткай, устаў і хутка, нечакана паднёсшы яе руку да сваіх губ, цмокнуў сваю руку. Дзяўчына засмяялася.

Пайшоў цвёрдай, упэўненай хадой. Зухавата гледзячы наперад.

## 5. НА ТЫМ БЕРАЗЕ

Далей адыходзіць няма куды — ззаду рака. Камандзір батарэі Раманаў ведаў, што новы абарончы рубеж устаноўлены па рацэ. Ён з зайздрасцю бачыў, як на прымітыўных плытах і лодках перапраўлялася сама і перапраўляла сваю зброю пяхота. Але што мог зра-

біць ён, калі ў яго такія важкія гарматы, а на рацэ ніводнай пераправы. Апошнюю пераправу нямецкія бамбардзіроўшчыкі разнеслі ўшчэнт. Заставалася: ці патапіць гарматы ў рацэ, ці...

— Абсталяваць пазіцыі! Раўкі выкапаць як мага глыбей! Паведаміць колькасць «бульбы».

Бульбай артылерысты называлі снарады. Бульбы было 99 штук. На кожную гармату па 25 снарадаў. Лейтэнант паслаў пасыльнага да камандзіра дывізіёна паведаміць пра становішча батарэі. А для сябе рашыў і камандзірам гармат загадаў строга эканоміць снарады, не выпускаць ніводнага наўгад.

Змучаныя цяжкімі баямі, байцы напружвалі астатнія сілы, каб паглыбіць раўкі пры гарматах, зрабіць іх непрыступнымі. Але работа ішла марудна, некалькі чалавек бяссільна паваліліся і спалі.

Стомленая, знясіленая батарэя ўпарта рыхтавалася да бою, вырашыўшы лепш памерці, чым ганебна аддаць гарматы ворагу.

— Па месцах! Першаму — вугламер — тры адзінаццаць. Прыцэл...

Раманаў бачыў у перакрыжаванні бінокля групу нямецкіх салдат — здалёк — маленькія, яны выйшлі на прыбярэжную вышыню. Грымнула гармата. Камбат прыклаў бінокль да твару і паморшчыўся — снарад зрабіў недалёт. Павялічыўшы прыцэл, з трывогай зірнуў: сінявацы кусцік дыму вырас акурат на грэбені ўзгорка. Тады камбат скамандаваў першаму ўзводу — залп. Немцы кінуліся ў бакі і пабеглі назад.

Лейтэнант загадаў запісаць устаноўкі і зірнуў на гадзіннік. Да цемры заставалася не менш шасці гадзін. Байцы працягвалі капаць раўкі гэтак жа старанна і маўкліва. Нібыта ўсе ведалі, што рашаючыя баі яшчэ наперадзе і радавацца рана.

Неўзабаве Раманаву далажылі: на вышыні паявіліся танкі. Ён убачыў: на грэбені вышыні тры іх чорныя сілуэты. Ён загадаў разлікам: да гармат! Скамандаваў вугламер, прыцэл. Убачыў: удалечыні ўскочылі чатыры кусцікі ў рад, закрыўшы сабою танкі. Калі дымкі рассеяліся, стала відаць, як з сярэдняга танка валіць чорны дым, а два другія павярнулі ў бок. Наступныя снарады не зачапілі танкі, але танкі спыніліся. Услед за гэтым пачалі рвацца са скрыгатам сна-

рады перад батарэяй. На батарэю ўпоўз едкі дым. Камбат, аглухлы ад выбухаў і стрэлаў, сачыў за танкамі. Аднаму танку знесла вежу. Але ў гэтую хвіліну правую руку камбата моцна штурхнула і бінокль вылецеў з рук. Злева пачуліся стогны. Камбат паспрабаваў зноў падняць бінокль, але правая рука, быццам чужая, не слухалася яго. Ён паднёс бінокль левай і ўбачыў, як папоўз назад апошні танк.

— Стой! Атака адбіта.

Ён прайшоў па батарэі. Ля акопаў чацвёртай гарматы лейтэнант убачыў: камісар Чыркоў з сястрой перавязвалі раненых. Камандзір гарматы Хазіеў і замковы Казакоў былі забіты. Некалькі чалавек былі так цяжка паранены, што сястра сумнявалася, ці дажывуць яны да вечара. Гармата таксама выйшла са строю — разбіта прыцэльнае прыстасаванне, пакалечаны шчыт.

Ён ішоў па батарэі знарок стрымана, спакойна. Звычайным тонам даваў указанні: рыхтаваць гарматы да далейшага бою. Дакопваць раўкі. Вярнуўшыся на сваё месца, ён загадаў:

— Паведаміць колькасць бульбы!

Снарадаў заставалася роўна шэсцьдзесят штук, па дваццаць на гармату. Да цемры было 5 гадзін. Падышла сястра.

— Камбат, я вас перавяжу.

— З чацвёртага ўсіх перавязала?

— Усіх, і аднеслі ў схову.

— Ну вяжы, што з табой зробіш.

Ён спрабаваў жартаваць як заўсёды.

Але ўсмешка была падобная на грымасу болю. Рука праз меру непакоіла, і ён увесь час хадзіў па пазіцыі і па навакольным хмызняку, каб забыцца.

Праз гадзіну паведамілі — на вышыні паказалася шэсць танкаў. Батарэя адкрыла загараджальны агонь. Танкі спыніліся, але засыпалі батарэю градам асколкаў. Ля гармат падалі акрываўленыя байцы. Ужо ляжыць з залітым крывёю тварам камандзір першай гарматы Пакатаеў, наводчык трэцяй гарматы Карпаў і яшчэ многія байцы. Людзей не хапае. Ля гармат пасталі шафёры і механікі. У трэцяй гармаце за панарамай камісар батарэі палітрук Чыркоў.

Людзі страцілі адчуванне часу. Вось яшчэ адзін

танк змоўк — вежу звярнула снарадам. Вось другі запалаў. Астатнія чатыры паварочваюць назад, ім наўздагон грукочуць стрэлы батарэі.

Стала ціха, і ў вушах звінела. Байцы крычалі да таварышаў, тыя такім жа крыкам адказвалі.

Падвялі вынікі. Яшчэ 11 чалавек забіта, многа раненых. Забіты Чыркоў пры панараме. З камандзіраў застаўся толькі камандзір другой гарматы. У разліках не больш дзесяці чалавек, ды і то палова з іх — шафёры і механікі.

Забітых не хаваюць. Байцы падаюць ад стомы.

Да цемры дзве гадзіны. Засталося толькі пяць снарадаў на дзве спраўных гарматы. Становішча робіцца ўсё больш небяспечным.

Але немцы не ідуць. Надыходзіць доўгачаканая цемра, добра павявае вячэрні халадок.

Адпачынак да раніцы. Забыўшыся на ўсё, людзі глыбока паснулі, толькі тры вартавыя прытаіліся ля кулямёта. Стагналі і трызнілі раненыя.

Ноччу на лапік зямлі, паліты крывёю артылерыстаў, уступіла пяхота. Немцы былі выбіты з вышыні.

## 6. ХВІЛІНА

Ездавыя трывожна пераглянуліся. Гармата змоўкла. Аўтаматныя чэргі гучалі ўжо, здавалася, на агнявой пазіцыі. Прыбег сержант Іваноў — камандзір гарматы — з акрываўленым тварам. Нумары, хапаючыся, унеслі бязвольнае цела наводчыка.

Больш супраціўляцца было немагчыма. Нямецкія аўтаматчыкі падышлі так блізка да пазіцыі, што засыпалі яе градам куль.

Было загадана адысці.

Трэба было выратаваць гармату. Трэба было вылецець на агнявую пазіцыю, дзе кожны рух пільнуюць нямецкія аўтаматы, дзе ў паветры, быццам рoі пчол, звіняць іх кулі.

Ездавы кораня Каваленка разам з сержантам вылецеў на пазіцыю. Ездавы зрабіў хвацкі разварот. Іваноў так хутка прычапіў гармату, што коні, амаль не спыняючыся, з развароту рванулі ў кар'ер.

Услед ім вішчалі кулі. Прыпаўшы да шыі каня, Каваленка бязлітасна сцябаў ашалелых коней. Гармата

так скакала, так гайдалася і матлялася, што сержант думаў толькі аб адным, як бы ўтрымацца на лафеце.

Па дарозе гармата ляцела яшчэ хутчэй. Але тут было ўжо спакойней. Сержант зірнуў на Каваленку. Той амаль ляжаў на шыі каня, абхапіўшы яе рукамі. Цела яго дзіўна матлялася ў сядле.

Толькі дабегшы да зарасніку, дзе іх чакалі байцы, коні спыніліся. Байцы знялі таварыша з сядла і паклалі яго на траву. Грудзі яго ў чатырох месцах былі прастрэлены. Чатыры мокрыя знакі віднеліся на гімнасцёрцы, крывавіліся на белым, незагарэлым целе.

— Коля! Дружа! Ты мяне чуеш? Ну, што ты маўчыш?— пытаўся сержант.

Мікалай нічога не адказваў. Ён маўчаў. Не чуў.

Па дарозе ён памёр.

Байцы хутка абсталявалі пазіцыю. Гармата, якую ён выратаваў, пасылала снарады на галовы насядаючых немцаў.

Ён ляжаў за намі — пабялелы, спакойны,— але нам здавалася, што ён быў яшчэ з намі.

Было гэта ў маі, пад Ізюмам. У час нямецкага акружэння пад Харкавам.

## ЗАПІСНАЯ КНІЖКА

(1/VII—22/IX)

Увесну на перадавой — жоўтае мора буйной, у рост чалавека, свірэпы.

Гаспадарлівы мужычок усюды цягаў з сабой свой рэчавы мяшок.

Стомлены, курыў, задрамаў і спаліў сабе штаны.

Маёр вывеў дывізію і памёр.

«Ну і народ пайшоў. Сёння прыходжу ў сталовую. Бачу, чацвёра сядзяць за сталом і двое лускаюць сланечнік. «Што вы, кажу, хлопцы, робіце столькі смецця! Не сорамна?» Той, хто лускаў, усміхнуўся, а той, што

не лускаў, узяў сланечнік у таварыша і стаў частаваць сябра. І пачалі, смеючыся, пляваць луску ўсе чацвёра. Знарок насуперак робяць!»

Адкладзём гэтае пытанне на 7 сакавіка, на жаночы сход.

З расказаў «баці»:
«— Белы?
— Не.
— Чырвоны?
— Не.
— Не ваюеш?
— Не ваюю.
— Дык ты, сволач, хаваешся,— і па шчоках, кулаком.— Я чатыры гады ваюю, і ты ваюй, сволач, хоч за чырвоных, хоч за белых».

Баец, ледзь засне, храпеў. Механікі ■ БАА[1] жартавалі:
— Не працуй на газе. Пераходзь на авіяцыйны.

Сястра. Абвешана, як кулямётнымі стужкамі, індпакетамі. За поясам — шыны. Пад агнём перабягала, рабіла перавязкі. Мацюкі.

Приезжали меня сватать
На серой кобыле,
Все приданное забрали,
А меня забыли.

Зімняй ноччу занялі вёску, каб сагрэцца.

Бежанцы.

Франтавікі на адпачынку.

«На довольство и удовольствия».

Запальвалі цыгаркі крэменем і стрэламі.

Вязе «снеданне» — самалёт.

---

[1] Батальён аэрадромнага абслугоўвання.

«Гэта наш самалёт...»

З палону, з Брэста ў Ліман.

«Першы раз не страшна было».

Ранены памёр у шпіталі. Прыйшоў ліст да яго (Ася).

Адносіны да палонных.

Мяшэчнікі.

«ПО СЛЕДАМ ВОЙНЫ» [1]

«Няма больш ні радоў, ні афіцэраў, ні каманды, ні сувязі. Артылерыя змяшалася з пяхотай, насельніцтва з войскам».

«У цемры, прарэзанай пажарам і вогнішчамі...»

«Не было ніводнай вольнай хаты».

«Зараіліся фантастычныя чуткі аб поспехах на іншых франтах».

«Жыхары даймаюць нас трывожнымі допытамі».

«— Канец будзе праз тры месяцы. На каляды ўсе дома будзем».

«— Баюся, дома ўсё прападзе без дogляду. Хто там будзе гаспадарыць?»

«Непрыбраная конская падаль».

«На вайне тыя, хто адбіўся ад часці, давер'ем не карыстаюцца».

«Калі ідзе бой, вёска хаваецца ў склепах».

«— Нашы дзеці таксама на вайне».

[1] Кніга Л. Вайталоўскага.

«— Немцу ўсе дапамагаюць: аўстрыяк, турка...»

«Адзежа ў яго: шынель, ветрам падшытая, пілотка».

«З вогнішчаў тырчаць лакіраваныя ножкі крэслаў».

У акопах немцаў.

«Абышлі ўсю вёску — паспаць няма дзе».

«Фруктовы сад увесь усыпаны саломай, на якой начавалі салдаты».

«Холадна. Палілі платы, дахі, снапы».

«Загадана тэрмінова адступаць, а яны: «Хлопцы! Вячэра гатова. Разбірайце, а то прападзе». (Пад Сінельнікава.)

«Адны мараць аб цёплай пасцелі, другія аб паходным рамане».

«Едзем, не цікавячыся ні імем, ні месцам злашчаснай стаянкі».

«Жыхары ўстрывожаны баямі, якія маюць быць пад сялом».

«Перад тым, як мы ўвайшлі, немцы падпалілі сяло».

Тыл і прастытуцыя.

«На дарозе валяюцца кучы ранцаў, стужкі, кінутыя пры ўцёках».

«— Ёсць і людзі, і мужнасць, а снарадаў няма».

«...Ля вогнішча выпальваюць вошай».

Рух па раскіслых дарогах.

«Храбры той, хто прымусіць сябе быць храбрым».

«І выгляду не паказваю, што баюся».



Іван Мележ
у час службы ў Чырвонай Арміі. *1940.*

Смерть [illegible]



НКО СССР
КУРСЫ МЛАДШИХ
ПОЛИТРУКОВ
ПОЛИТУПРАВЛЕНИЯ
В. Ч. — № 1080
№ 735
«2» мая 1942 г.
Действующая Армия.

**Удостоверение**

Выдано Мележ
Ивану
Павловичу

в том, что он окончил двухмесячные курсы младших политруков политуправления В. Ч. 1080 и сдал испытания с оценкой, по:

политподготовке — отлично

тактике — отлично

огневой подготовке — отлично

Начальник политуправления
В. Ч. 1080 — Дивизионный комиссар (Мамонов)



Начальник курсов младших
политруков политуправления
В. Ч. 1080 — Батальонный комиссар (Спартак)

з. № 38.

Пасведчанне Івана Мележа
аб заканчэнні курсаў малодшых палітрукоў,
падпісанае намеснікам начальніка палітупраўлення
Паўднёва-Заходняга фронту Л. І. Брэжневым. *1942.*

«Хмары палкаводцаў тылавых».

Франтавік — тылавік. (Спрэчка ў доме двух франтавікоў.)

«Шлях, усеяны кінутым дабром».

«Няма шчасця ці гора, якое магло б мяне ўзрадаваць і ашаламіць».

«Немцы — народ адукаваны».

«У яго цяпер ёсць — чуў?»

Жанчыны на акопах.

«— Немец па такой дарозе не ўцячэ».

«— Хлеба няма.

— Няма. Няма. Даўно».

Абмен на тытунь.

«Адыходзячыя часці вядуць за сабой жывёлу за вазамі».

«Здымаем адзін з аднаго вошай».

«Каму на вайне жыць добра?»

«— Хай лепш салдаты п'юць. Усё роўна ўсё дастанецца ворагам».

«Аэрапланы скінулі лістоўкі, што Б. будзе ўзяты 14-га».

«Хутка мужчын не будзе».

«Нас пяцёра братоў. Усе на вайне».

Брацкія магілы.

«— Цесна тут, браткі. Нельга».

### ДАРОГА[1]

Старая абышла ўсе вагоны, называючы сына.

Мора ў прыбой выкідвала міны.

Многа размоў пра другі фронт.

Раненыя ў нагу засталіся.

«Бацька Бульба».

Холадна раненаму.

### ШПІТАЛЬ[2]

Перасадка.

Ранены немец у форме рускага.

Аўтаматчыкі пад саломай.

Жучкоў аб службе. Калі ўсе на занятках.

Апавяданне — «Спаць хочацца» (салдату).

У Масягіна звычка выказваць толькі процілеглыя думкі.

«Хацеў адпачыць» (атрымаў рэўтрыбунал).

Сімулянты.

— Я ўзяў яго за рогі.
— Каго? Брата?
— Не, вала.

Кулямёт на сабе ўсю Зах. Украіну. Пешкі.

---

[1] З Есентукоў у Тбілісі.
[2] Тбілісі.

Палоннага немца адпусцілі за астатнімі. Прывёў.

Румын дэзерціраваў. Бадзяўся ў полі. Баяўся да рускіх.

У нямецкай кухні наш баец атрымаў вячэру.

У цемры горы ўзвышаюцца плоска, нібы сцены, і быццам бы набліжаюцца.

— Дай яму па соплях, каб не вякаў!

— Давай не будзем, а калі будзем, то давай!

«Наб'юць табе холку».

«Той, хто кіно складае».

Паніка ў Тбілісі на кірмашы.

Смех, падобны да кудахтання курыцы.

Сцэна развітання: жарты пры ім і плач пасля.

Вада ў Чорнай рэчцы (трупы).

Дэзерціра бабы разарвалі.

Як Жучкоў каўбасны склад ахоўваў. Яго расказ.

Бытавыя сцэны вайны. Успомніць і вывучыць.

Англійскія чаравікі з поспехам мянялі на боты сялян.

— Чаму дзяўчаты заплюшчваюць вочы, калі цалуюцца?
— Хто вам сказаў?
— Я сам бачыў.
— Не ведаю чаму.
— Эх вы, хітрыя! Калі скажуць, што яна цалавалася, яна адкажа, што не бачыла!

У яго любоў да слова «алый». Спявае: «Алы косы обвевают стан».

На канцэрце:

— Таварышы,— сказала артыстка,— мы не ведаем, колькі будзем выступаць. Па законе фізікі целы ад награвання расшыраюцца. Калі вы будзеце сустракаць нас цёпла, мы пашырым праграму.

Глухому:

— Моргае табе дзяўчына.

— Та дзе ж ты прыкурыш?— храбра адказвае той, скруціўшы цыгарку.

«Гледзячы на будучыню, трымаецца за штаны».

«Как мало прожито, как много пережито» (Надсан).

— Чаму баба надзела штаны?

— Каб больш было давер'я.

Нямецкі дэлегат зімою прыйшоў да нас па запалкі. Даваў узамен ром.

Доктар хварэў на сэрца. Жыццёвыя нягоды пагражалі б яму смерцю. У доктара сын у арміі. Доктар хваляваўся — пяць месяцаў ад сына няма пісьмаў. Яго супакойвалі, хоць ведалі, што чатыры месяцы назад сын загінуў. Ён радаваўся!

Байцы смяяліся са звар'яцелай абарванай жанчыны, што падавала вайсковыя каманды. «Адкуль ты?»— «Бежанка, з Арла». А сын не ведае, што з маці!

«ТЯЖЕЛЫЙ ДИВИЗИОН»[1]

«Чужых хлопцаў пойдзе. Не разбярэш, дзе сын, а дзе байструк».

«Іншыя чакаюць, што адбудзецца што-небудзь на фронце ў саюзнікаў».

---

[1] Раман А. Лебядзенкі.

Калі па трывозе яго выклікалі ў часць, ён замкнуў пакой і пайшоў. Больш туды ён не вярнуўся. Не было калі.

Разгубленая жонка не ўзяла нават змены адзення. Пакідаючы спехам дом, яна чамусьці набрала багата відэльцаў. У вандроўках летняе адзенне яе хутка парвалася. Летам яна хадзіла ў паліто. Прадавала відэльцы.

«З 1939 года не чырванею».

«У вачах пажоўкла ад болю».

Уварава за вусы і бараду завуць партызанам.

Фінкель любіць, каб з яго штучак смяяліся.

Медсястра Эліко:
«Фінкін, Сінкін і Брынкін» (Фінкель, Сенькін і Брыцін).

Перапіўшыся, немцы пераскочылі цераз лінію фронту ў наш тыл, увайшлі ў сяло і пачалі патрабаваць «яйкі, малако».

Цукар звозілі грузавікамі ў раку і высыпалі. Дзядуля папрасіў мяшок сабе і цягнуў з апошніх сіл. Пры адступленні.

Эвакуіраваныя валяліся на вакзалах, у парках, на лаўках, на тэрасах. Жонка пісала байцу: «Два тыдні сяджу на прыстані ў Баку ў надзеі дачакацца парахода». У дарозе многія падалі, валіліся ад знясілення.

Нажэнку ранілі шэсць разоў. Калі яго спісалі ў бестэрміновы, па дарозе дамоў ён «паспытаў» яшчэ асколка нямецкай бомбы.

Першая куля адарвала край сумкі. Другая куля перарэзала рэмень. Трэцяя куля ўвайшла ў сцягно. (Перад атакай.)

Дзяўчына: «Вайна ўсё спіша».

Капельмайстар любіў павольныя вальсы, накшталт «На сопках Маньчжурыі», «Дунайскія хвалі» і не любіў Дунаеўскага. Стары служака, ён напамінаў сваім музыкантам: быць салдатамі.

Лётчык дажджлівай цёмнай ноччу вярнуўся на аэрадром. Самалёт вылез на прамень пражэктара, які асвятляў пасадачную пляцоўку.

Лётчык выбраўся на плоскасць. Саскочыў на зямлю. Вада блішчыць на полі, хлюпае пад нагамі.

Лёг спаць. За акном па-ранейшаму ліў дождж.

Надвячоркам горы здаюцца блакітнымі.

Усе, хто паспеў выбегчы на двор са сталовай, былі забіты. Пранеслі фельчара, нараджэння 1925 года, з адарванай нагой.

Пад бамбёжкай.

Бязногі спалохана поўз па пероне. Бомба яго здагнала. Ён жаласна застагнаў і памёр. Нацятыя, застылыя вочы. А ў іх слязінка. Адна.

Асколак не маглі выцягнуць рукамі. Тады баец ухапіўся зубамі і выцягнуў. Смак крыві на губах.

Ранены расказвае:

— На поўдзень ад К. стаім у гарах. Авіяцыі амаль не відаць. Толькі гэты двухвосты, нібы ярмо: праляціць, паглядзіць, ніякай шкоды не робіць і па ім не страляюць. Больш за ўсё з мінамётаў засыпае. Ніводнага месца жывога не пакідае. Дубы стаяць, як стаўбы, без голля, а каторыя да кораня расколаты папалам. А нашых мінамётаў таксама многа, але мін не хапае. Я акурат сядзеў на назіральным пункце. Немцы ад мяне ў 60 метрах якіх. Унізе яны стаяць, і відаць усё як на далоні. Паказую нашым, дзе стаяць нямецкія батарэі. А яны — чым будзем, калі запас захоўваем на выпадак наступлення і загадана берагчы. Танкі яго не асабліва рвуцца да нас. А каторыя і прарвуцца, то ўжо не вернуцца, будзь упэўнены.

Губы ў яе пухлыя, мяккія, сладастрасныя.

Ва!— здзіўленне ў горцаў.

Сядзеў загарэлы, сінятвары, як спелы баклажан, грузін у падранай шапачцы.

Многія рускія не выносяць спалучэння «тб. Цібілісі».

Раненага, якога яна несла, забіла. Яе аглушыла. Кроў заліла яе адзенне. Думалі, што яна забіта таксама. Аказалася, што яна нават не паранена. Першае хрышчэнне.

У час вайны цэны не толькі надзіва павышаюцца, але і падаюць — немец заплаціў старому за парсюка, якому па той пары цана была 10 тыс.— 1 руб. 20 кап.

Палонны, якога гналі немцы,— знясілены — упаў. Яго выпадкова не прыстрэлілі.

Пад гукі марша байцоў выпраўляюць на фронт. Пыл. Гарачыня.

Сінявата-чорныя з матавым бляскам вочы, блакітныя бялкі.

«Пусть он землю бережет родную,
А сосед Катюшу сбережет».

Анучы завуць — трохметровыя халявы. Заварочвае анучы, кажуць — «сувязь катае». «Калі б лічыў, колькі наматаў за два гады, мабыць, злучыў бы Маскву з Амерыкай!»

— Вы Севастопаль здалі!
— А вы?
— Мы трымалі! Калі мяне раніла, Севастопаль трымаўся!

Палоннага немцы разулі, распранулі. У рукавы сподняй кашулі і паміж лапатак прасунулі тоўсты

друк. Канцы друка прывязалі да рук. Палонны не мог варухнуць рукамі. Пусцілі басанож па снегу. У рот уваткнулі анучу. Ён толькі мог мыкаць. «Ідзі да рускіх!» Яго падабрала бабулька. Яна ўвесь час ля яго плакала і расказвала яму пра свайго сына.

Сапсавалася машына, рамонт. Але падыходзяць немцы. Аўтаматчыкі. Надзея паправіць прапала.

З аўтамата сам расстраляў машыну. Як жывую істоту. Уцёк.

Нашы абышлі сяло, наступалі з тылу. Немец у панііцы ўскочыў у павозку, прымусіў хлопчыка паганяць, здуру папёрся ў бок фронту і наскочыў на свае міны. Каню вырвала бруха, немцу адарвала нагу. Хлопчыка таксама параніла.

У забітага чалавека ад марозу скарчанелі пальцы. Ніхто не мог вырваць вінтоўку з яго рук.

Прыхіліўшыся да дрэва, стаяў немец. Як жывы. Пхнулі. Ён упаў. Замёрз.

У акупацыі. Завязалі спадніцу на галаву, згвалціўшы, і пусцілі ў поле. Яна наўздагад прыйшла ў сяло. Брацік развязаў ёй спадніцу. Яна ўтапілася.

Як салдат вызваліў сабе месца ў вагоне. Стаў побач ля адной. Прытворна, старанна пачаў чухацца за пазухай. Яна ўстала. Сеў. Падсунуўся да другой, чухаецца. Другая ўстала. Сеў таварыш.

Хлопец прыйшоў у водпуск дамоў. У сяло прыходзяць немцы.

«Наш загадчык гаспадаркі працуе на 80 працэнтаў, а трэба — на 360!»

«...Плюс харчаванне, плюс адпачынак, ды плюс — настрой».

«Курыца — дура, ад сябе грабе».

Уначы прыляцелі бамбардзіроўшчыкі. Многія франтавікі пабеглі на двор, іншыя на вуліцу і ў сад. Калі вярталіся, ■ іх здзекаваліся:

даў, каб Амірханаву другую картку выдалі. А Лазарава зноў кажа: не дам. Ён яе прымусіў. Выдала».

— Вось людзі! Картку не дала! Кажа, чырвонаармейцаў цяпер многа!

Талстой — пластыка, рэльефнасць малюнка.

Мяккасць, дакладнасць мовы — Чэхаў.

Аб вайне:
Л. Вайталоўскі «По следам войны».
А. Лебядзенка «Тяжелый дивизион».
А. Барбюс «Огонь».

жывы. І нібы спакойны. «Перадайце Н!.. Напішыце Р..!» Так і памёр.

За акном біўся ў шыбу кіпарыс намерзшымі ледзяшамі — тужліва і самотна.

Перапраўляліся цераз горную раку ў дождж. Вада прыбывала. Апошні перайшоў, калі вада ўзнялася да грудзей. Апошнюю брычку знесла вадою. Каня збіла. Чалавека, што трымаўся за брычку, панесла таксама. Беглі па беразе, падтрымлівалі словамі, парадамі. Кінулі вяроўку — не дастаў рукой. Адзін на беразе хутка абвязаўся вяроўкай, кінуўся да гінучага. Выратавалі. А каня не здолелі. Ён некалькі разоў нырнуў і прапаў. Брычка павярнулася дагары калёсамі. Бушавала асатанелая рака.

У шпіталі.

Нудота. Асабліва па вечарах. Каб змарнаваць час, ходзім па паверхах, сядзім на кожным не менш гадзіны. Пакуль дабяромся да апошняга, вечар падыходзіць к канцу.

Зборы ад'язджаючых. Мы зайздросцім, нам няма куды ехаць.

Пяты раз за месяц паказваюць «Арсен».

Сухары сушаць на вокнах: збіраюцца ў дарогу.

Калі ідуць па лесвіцы раненыя ў нагу — дзве мыліцы ў адну руку, другая рука — на поручнях.

Гаворкі пра гаспадарку, пра сям'ю. Кожны расказвае, што з дому піша жонка. «Не выдаюць вугалю, кажуць: «Нам невядома, дзе вашы мужы!»

— Кроў пралiваем, а ён, сволач, такое гаворыць! Вось, пачакай, прыеду, я табе пакажу!

Якімаву сынок напісаў: «Рысавую картку не далі. Амірханаў кажа выдаць, а Лазарава і яшчэ дзве супраць. Амірханаў выскачыў злосны. Потым аддаў свой рыс. Кіраўнік будаўніцтва даведаўся, выклікаў, зага-

даў, каб Амірханаву другую картку выдалі. А Лазарава зноў кажа: не дам. Ён яе прымусіў. Выдала».

— Вось людзі! Картку не дала! Кажа, чырвонаармейцаў цяпер многа!

Талстой — пластыка, рэльефнасць малюнка.

Мяккасць, дакладнасць мовы — Чэхаў.

Аб вайне:
Л. Вайталоўскі «По следам войны».
А. Лебядзенка «Тяжелый дивизион».
А. Барбюс «Огонь».

# КАСПІЙСКАЕ МОРА
## Бугуруслан

### «У АПОШНІ ЧАС»

За акном завіруха мяце.
Месяц ў хмарах белых згас.
Дзень у клопатах праляцеў.
Позні час. Паўночны час.

У завейную гэту ноч
Не кладзе спаць стома нас.
Мы не стульваем зморана воч,
Мы чакаем — «Ў апошні час».

Мабыць, з намі Каўказ і Сучан,
Ўся краіна гадае не раз:
Што сягоння — Батайск, Лісічанск?
Позні час. «У апошні час»...

Нібы чуцен агонь і дым,
Кулямётныя чэргі гучаць...
Колькі тысяч з чужынскай арды
Свой зазнала апошні час?

Хутка зводка. Завершыцца дзень.
Свет замоўк. Свет глядзіць на нас.
Чуеш, брат, перамога ідзе!
«У апошні час».
Пераможны час!

*1942—1943 гг.*

### ДАРОЖНЫЯ ЗНАКІ

Калі нямецкія ваякі
На ўсход свой кіравалі крок,

То дбайна выстаўлялі знакі:
«Нах Сальск»,
«Нах Каменск»,
«Нах Маздок».

Калі ўцякалі, фрыцы знакаў
Не ставілі ўжо на палях.
Фурманак, «панцэраў» вужакі
Выдатна значылі іх шлях.

Шынелі, каскі і патроны,
Снарады, міны, шнапс, гарох,
Вінтоўкі, ногі, панталоны —
Як бы паказчыкі дарог.

Няма няхваткі тут ў адзнаках!
І свету ведама без слоў:
Па гэтых адмысловых знаках
Ідзе дарога —
«Нах Растоў»!

*1943, люты.*

## НОЧ ЧАТЫРОХ

Бой ішоў ля чыгуначнага моста. Нямецкія танкі і пяхота зацята атакавалі, каб прарвацца з правага берага на левы. З кожнай гадзінай нашай часці было ўсё цяжэй стрымліваць націск немцаў, на дапамогу якім раз-пораз прыходзілі падмацаванні з тылу. Надвячоркам двум нямецкім танкам удалося праскочыць на наш бераг, але першы, ледзь паспеўшы сысці з моста, быў падпалены артылерыяй і, пыхнуўшы клубам чорнага дыму, спыніўся, а другі паспяшаўся вярнуцца.

Мост быў вялікі — амаль у два разы даўжэйшы за шырыню ракі. Крайнія пралёты яго праходзілі над нізкімі пясчанымі берагамі, за імі пачынаўся высокі чыгуначны насып. Адыходзячы, нашы падрыўнікі спрабавалі ўзарваць мост, але чамусьці не здолелі зрабіць гэта як належыць. Толькі крайнія пралёты сваімі знешнімі канцамі зляцелі з насыпу і апусціліся на бераг. Цэнтральныя пралёты, што ўзвышаліся над вадой

стромкімі сіметрычнымі аркамі, былі цэлыя. Па гэтым мосце і спрабавалі праравацца нямецкія танкі.

Ноччу на правым беразе шумелі маторы. Немцы рыхтаваліся раніцай аднавіць наступленне. На левым беразе стаяла начная цішыня, якую толькі зрэдку парушалі адзінокія гарматныя стрэлы. Усю ноч моўчкі шчыравалі байцы. Да чыгуначнай будкі падносілі скрыні з толам і складалі ў штабель.

Чацвёра: Герой Савецкага Саюза лейтэнант Кроцік, старшы сяржант Мікалай Друк, чырвонаармейцы Калеснікаў і Быкаў адправіліся ў разведку. Яны ішлі ўздоўж насыпу. Ля моста трое спыніліся, а чацвёрты падняўся на пралёт.

Было цёмна і ціха. Толькі чуваць было, як спакойна і мерна хлюпала вада, як таямніча шаптаўся чарот. Раптам на мосце зазвінелі нейкія бляшанкі. Адразу за гэтым з боку немцаў адгукнуўся доўгай чаргой кулямёт, і кулі часта застукалі па металічных бэльках. Успыхнулі нямецкія ракеты. Некалькі хвілін у іх бледным святле былі відаць цёмны гмах моста, рака і чарот пры беразе. Трое, прытуліўшыся да зямлі, моўчкі ляжалі ля моста. Яны цярпліва чакалі, пакуль патухнуць ракеты і змоўкне кулямёт. Тады, як сціхла, вярнуўся чацвёрты і расказаў, што на мосце ён зачапіўся за дрот, на які немцы навешалі пустых кансервавых бляшанак. Яны і нарабілі столькі шуму. Было ясна: немцы заўважылі іх і цяпер будуць больш насцярожаныя і ўважлівыя, таму трэба працаваць з асаблівай асцярогай. Быццам каб пацвердзіць яго словы, зноў ускінулася ракета, і загаварыў кулямёт, і кулі з посвістам пранесліся над імі.

Усю ноч чацвёра ціха зносілі тол на мост. Пасля паўночы немцы зусім супакоіліся і толькі зрэдку кідалі ракеты. Ледзь яны ўздымаліся, на мосце ўсё замірала. Немцы так і не заўважылі нічога.

Перад раніцай па ўсім мосце — на фермах, на бэльках, на шпалах — усюды былі расстаўлены скрыні з толам.

Прашалясцеў па мосце зябкі ранішні ветрык, хваляй прабег шум па чароце. Над вадой клубіўся туман. Чацвёра завіхаліся, каб да золку скончыць усё. Заставалася яшчэ злучыць усе скрынкі з асноўным провадам, што быў праведзены за насып. Калі падрыўнік

уключыць ток, гэты провад перадасць яго ўсім праваdкам, ва ўсе скрынкі, і мост узляціць у паветра.

Чацвёра завіхаліся. Яны ўзбіраліся па бэльках, спускаліся на фермы, згіналіся над шпаламі, далучаючы правады да толу. Работа ішла хутка, але ранішні туман рассейваўся раней, чым яны паспелі скончыць. Цяпер завіхаўся толькі Быкаў, але яго заўважылі і абстралялі. Яму давялося таксама адысці на бераг.

Але работу трэба было скончыць. Усе разумелі, што цяпер, калі немцы бачаць мост, зрабіць гэта цяжка і небяспечна. Нельга ісці проста на мост, бо немцы адразу заўважаць. Лейтэнант Кроцік сказаў: трэба падмануць ворага, прайсці там, дзе ён не чакае, і так, каб ён не бачыў.

Лейтэнант паслаў да моста старшага сержанта і Калеснікава.

Лежачы пры насыпе, лейтэнант бачыў, як яны, прыгінаючыся, прабіраліся па чароце, як адзін з іх — гэта быў Калеснікаў — узбіраўся па ферме ўгору. Ішлі доўгія хвіліны трывожнага чакання. Але ўсё скончылася добра. Немцы іх не заўважылі. Абодва смельчакі вярнуліся жывыя і шчаслівыя.

На тым баку да ракі прыпаўзлі некалькі танкаў. На мост узышлі, азіраючыся, два немцы. Прайшоўшы некалькі крокаў, яны спыніліся, нешта разглядаючы, напэўна, тол.

Чацвёра прыціснуліся да зямлі, і лейтэнант Кроцік уключыў ток. У той жа момант гухнуў моцны раскацісты выбух, і нешта цяжка плюхнулася ў ваду, а пасля яшчэ хвілін пяць сыпаліся абломкі і трэскі. Чацвёра ўздоўж насыпу пабеглі да сваіх пазіцый.

Немцы, апамятаўшыся, адкрылі шалёны агонь па нашаму берагу. Не менш гадзіны нямецкія снарады грамілі прыбярэжны хмызняк і чарот. Спазніліся.

### СЯБРОЎСКІЯ ПАЧУЦЦІ

(З апавяданняў Валодзі Сінюкова)

Над даляглядам ледзь пачало брацца на золак. З мора пацягнула халадком і вільгаццю. Старшына Конь яшчэ раз угледзеўся ў пустэльную сцежку і са злосці плюнуў. Апошнія надзеі дастаць «языка» згас-

лі. Трое маракоў, што ляжалі побач, адчувалася, таксама былі нездаволены. Усе былі ўзлаваны марнай вылазкай. Ён ужо разважаў, што рабіць далей: вяртацца ні з чым ці праседзець дзе-небудзь дзень, калі раптам наводдаль пачулася слабае шорганне па камяністаму шляху. Шорганне гэтае з кожнай хвілінай рабілася ўсё чутнейшым. Нарэшце ў цемры акрэслілася постаць. Яна ішла па дарозе, потым звярнула на сцежку і павярнула проста на разведчыкаў. Чалавек нешта асцярожна нёс у руках, яго ўвага ўся была аддадзена ношы.

Калі постаць падышла ледзь не ўсутыч, старшына, наставіўшы ў твар збянтэжанага чалавека аўтамат, люта зашыпеў: «Рукі ўгору!» Постаць ад неспадзеўкі адхінулася назад і прысела. Ноша з грукатам упала.

Разведчыкі насцярожана прыслухаліся — па-ранейшаму стаяла рэдкая франтавая цішыня. Удалечыні, у баку горада, глуха грымнула гармата і зноў усё сціхла.

Затрыманага адразу абшукалі. Пры вобыску ў яго, паводле слоў аднаго з разведчыкаў, з усіх відаў халоднай зброі знайшлі толькі лыжку ды відэлец. Ноша аказалася каштоўнай для галодных разведчыкаў: каструля пахла соусам, смачнай смажанай курыцай.

Сам жа «язык» мала ўзрадаваў разведчыкаў. Гэта быў просты румынскі салдат, ад якога безнадзейна было чакаць важных вестак.

Старшына ўжо мацюкнуўся з прыкрасці на няўдачу, калі палонны, нібы каб суцешыць яго, знакамі расказаў, што вячэру ён нёс афіцэру, які непадалёк адсюль.

Старшына думаў нядоўга. «Язык» быў патрэбны. Вядома, была тут рызыка, румын мог хітраваць, навесці на сваіх. Але патрэбен быў «язык». Да таго ж румын, заўважыўшы, што старшына вагаецца, дадаў, што пан афіцэр — немец і сядзіць адзін. Старшына пагразіўся румыну, што калі ён ашукае, яму адразу — нож. Няхай ведае. Румын заківаў галавою: разумее, разумее... Загадаўшы хлопцам падрыхтавацца да аперацыі, Конь даў знак румыну весці іх. Салдат ахвотна і як бы з радасцю рушыў.

Прайшоўшы метраў з дзвесце, ён спыніўся, ціха паказаў наперад. Тры чалавекі нячутна, насцярожана

падаліся ўперад, а праз некалькі хвілін гэтак жа асцярожна вярнуліся, ведучы згорбленую постаць. Гэта быў звязаны па руках нямецкі афіцэр. Яго захапілі ў акопе, дзе ён драмаў, чакаючы вячэру.

Калі разведка вярнулася ў тыл нашых пазіцый, пачало віднець. І тут аказалася, што адзін з разведчыкаў прыхапіў каструлю са смажанай курай. Курыца гэта прыйшлася цяпер вельмі дарэчы: усе былі вельмі галодныя. Ці дзіва, што галодны апетыт адразу абвастрыўся ад паху смажанай кураціны. Разведчыкі ў момант накінуліся на курыцу. Яна была надзіва смачная, але знікала так хутка, што разведчыкам станавілася сумна.

Старшына Конь быў чалавек справядлівы. Як ні мала было адной курыцы, на чатырох галодных разведчыкаў, адну ножку ён падаў салдату. Той удзячна ўзяў яе, пачаў аб'ядаць. Ёў ён спачатку сціпла, стрымана, потым, паглядваючы па-прыяцельску на разведчыкаў, стаў смачна прычмокваць. Паказваў, якая яна смачная, смажаная курыца. Але паказваў гэта не так разведчыкам, як афіцэру. Ён як бы паказваў: вось ён есць яго курыцу, курыцу пана афіцэра.

Аб'еўшы ножку, ён працягнуў яе афіцэру. Той гнеўна павёў вачыма. У вачах пана афіцэра бліснулі маланкі. Убачыўшы іх, салдат не толькі не спыніўся, а яшчэ пажвавеў. Узрадаваўся задзірыста. Тыцнуў курыную костку проста ў губы пана афіцэра, у сцятыя губы. Зірнуў на разведчыкаў, як бы чакаючы ўхвалы.

— Саюзнічкі выказваюць сяброўскія пачуцці,— пажартаваў старшына Конь.

Гэта было падобным на вясёлы спектакль. Неспадзяваны спектакль, у якім разведчыкі былі гледачамі, а артыстамі — румынскі салдат і нямецкі афіцэр. Байцы пахвальна смяяліся з кожнай штучкі салдата, а ён, падахвочаны такой увагай, станавіўся ўсё смялейшы. Напэўна, добра-такі насаліў яму былы начальнік, бо з кожнай хвілінай салдат рабіўся ўсё злейшы і бязлітасны. Ён нечакана нахіліўся да вуха афіцэра і помстліва закрычаў:

— Рус — нет капут! Да! Гітлер капут! Обер-лейтэнант капут! Да!

Афіцэру да таго часу анучу з рота вынялі, мог гаварыць. Але ён толькі гнеўна варухнуў вачыма. Нічо-

га не сказаў. Салдат жа, схіліўшыся над вухам афіцэра, задаволена зарагатаў.

Да гэтага часу курыца была з'едзена. Разведчыкі выказалі думку, што курыца вельмі добрая, што афіцэр разбіраецца ў рускіх курыцах. Афіцэрская вячэра падмацавала разведчыкаў, і яны пайшлі дадому прыкметна павесялелыя.

А-а, трэба паясніць. Пазней, пасля допыту, стала вядома: немец быў прадстаўніком нямецкага камандавання пры румынскай часці. Пажадаў жыць у асобным бліндажы. Яму далі для абслугі гэтага салдата.

Каб клапаціўся пра пана афіцэра.

Вось ён і «паклапаціўся». Памог нам важнага «языка» прывесці. Стаў як бы таварышам нашым па аперацыі. Ён, было відаць, і сам адчуваў гэта. Ва ўсякім разе не было відаць, каб ён сумаваў, баяўся нас. Наадварот, як кажуць!...

Афіцэр ішоў наперадзе, дзяншчык за ім. Раптам дзяншчык спыніўся, пайшоў побач са старшыной, штосьці знакамі тлумачачы, стаў расшпільваць на хаду рэмень. Расшпіліў, узяў на руку, выцягнуў у бок афіцэра, вачыма пытаўся згоды. Старшыну, іншых разведчыкаў, якія толькі адыходзілі ад нядаўняй нацятасці, сцэна гэта забаўляла. У вясёлых позірках салдат убачыў згоду.

Ён ужо гатоў быў кінуцца на афіцэра, але старшына строга пакруціў галавою: нельга. Дзяншчык не паверыў, прыгледзеўся да старшыны: ці правільна зразумеў яго. Ці сур'ёзна ён, гэты рускі. Не таіў расчаравання. Быў ён, мусіць, зацяты, гэты румын. Бо праз які дзесятак крокаў ён зноў выцягнуў рэмень і зноў паглядзеў на старшыну з просьбай, дадаўшы да сваёй просьбы сяброўскую ўсмешку. Хлопцы пачалі наракаць: ды дазволь ты яму, цікава. Старшына сам вагаўся, хацеў пабачыць, што ж з усяго гэтага можа быць? Зірнуўшы з цікавасцю на румына, старшына дазволіў: ну, ладна, згодзен. Толькі ён кінуў згодна, як — у той жа момант — салдат ашалела скочыў уперад і шырока замахнуўся на афіцэра рэменем. Першым ударам ён збіў фуражку. Хапаючыся, нібы баючыся, што яго спыняць, ён ударыў другі раз. Ударыў моцна, злосна. Як бы помсціўся. Хацеў, відаць, каб афіцэр вы-

казаў неяк боль. Але афіцэр адно гнеўна зіркаў, маўчаў, і гэта дадавала яму злосці.

Разведчыкі сілаю адцягнулі раз'юшанага салдата. Прайшлі яшчэ некалькі крокаў, салдат супакоіўся і зноў замахнуўся рэменем, паказваючы на афіцэра.

— Тупай, тупай,— строга падштурхнулі яго ззаду аўтаматам.— Прызнанне скончана. У наяўнасці поўная любоў.

Калі ў батальёне палонных вялі на допыт, афіцэр панура крочыў наперадзе, а дзяншчык бадзёра ішоў побач з канваірам і, прыклаўшы руку да пілоткі, нешта яму даводзіў жэстамі.

— Мабыць, просіць дазволу ўдарыць,— выказаў хтосьці з разведчыкаў меркаванне.

Усе засмяяліся.

## ТРЫ СУСТРЭЧЫ

Сёстры спыніліся, бо Марыя не магла далей ісці. Яны зайшлі ў першы хутар, што трапіўся на дарозе. Марыя зусім аслабела. Пад вечар у яе пачалася гарачка, і Кацярына, не адыходзячы, глядзела за ёй.

Так прайшло яшчэ некалькі дзён. Марыя не ачуньвала, і яны па-ранейшаму заставаліся ў хутарку, да якога з кожнай гадзінай набліжаліся немцы.

Потым прыйшла ноч: апошняя ноч свабоды і першая ноч у нямецкай няволі. Яна надышла раней, чым яе чакалі сёстры.

Апоўначы іх разбудзіў гаспадар хаты. Ён прамовіў толькі адно слова: «Немцы...» Сёстры стаялі моўчкі і не ведалі, што рабіць.

Ды і што можна было зрабіць? Сёстры былі ўдзвёх, далёка ад роднага Растова, які яны пакінулі дваццаць шэсць дзён назад і да якога цяпер было сотні кіламетраў. У Растове Кацярына пражыла ўсё сваё жыццё — 55 гадоў. Там, у Растове, і цяпер былі некаторыя з яе сяброў, якім можна было з упэўненасцю даверыцца. Тут жа ў іх не было ні сяброў, ні знаёмых. Да каго звярнуцца за дапамогай, за парадай? Што рабіць зараз, калі Марыя хворая? Што трэба зрабіць, калі яна ачуняе? Як утаіць ад немцаў, што яны — бежанкі, яў-

рэйкі, што яны эвакуіраваліся ў савецкі тыл? І яшчэ многа пытанняў паўстала ў тую ноч.

Першае рашэнне падказаў гаспадар хаты. Рэшту ночы сёстры праляжалі ў сланечніках ля хаты. Гаспадар вынес ім світкі.

Але заснуць Кацярына не здолела. Марыя пачынала трызніць і стагнаць, і Кацярына трывожылася, што немцы іх пачуюць.

Удзень немцы хадзілі па хатах, а па шляху прайшло некалькі аўтамашын. Гэта быў маленькі хутарок, у баку ад важных дарог, і войск у ім амаль не было. Увечары прыходзіў гаспадар, прыносіў хлеб, расказваў пра паводзіны немцаў і прасіў быць асцярожнымі.

Праз тыдзень Марыя ачуняла, і сёстры пайшлі з хутара на ўсход.

Імжэў дождж, і было холадна, але яны ішлі басанож — абутак знасіўся. Кацярына хуталася ў паліто, якое ўзяла ў Растове. Марыя была ў моднай жакетцы, у многіх месцах груба залатанай, і ў летняй сукенцы.

У першай жа станіцы іх спыніў нямецкі патруль. Немцаў было двое. Адзін, п'яны, агледзеў іх дзіўную, падраную адзежу, махнуў рукой — праходзьце. Жанчыны з прыхаванай радасцю крануліся, аднак другі зараз жа іх спыніў, рашыў адвесці ў камендатуру. Немцы заспрачаліся між сабой, але п'яны быў упарты, і іх адпусцілі. Першая сустрэча скончылася ўдала.

На дарозе іх сустрэла маладая жанчына.

— Куды вы ідзеце? Вы ж яўрэі! Вас адразу пазнаюць! Тут многа карных атрадаў!

Яна гаварыла хутка, упэўнена і ні аб чым не пыталася, быццам ёй усё вядома. Яна расказала, як учора поблізу, у хутары, расстралялі — яна сама бачыла — двух яўрэяў, якіх немцы захапілі ў полі, у сланечніку, дзе гэтыя яўрэі хаваліся.

— Дайце дакументы,— сказала яна загадным тонам.— Пашпарты парвіце, зараз жа. Добра, што іх не бачылі немцы. Яны не павінны ведаць, што вы яўрэі. Прафбілет трэба пакінуць, прозвішчы ў вас рускія: Кацярына Міроўская і Марыя Талмачова... Кажыце, што ідзеце да сваякоў у станіцу К.

Калі яна пайшла, сёстры не адразу наважыліся ісці ў станіцу. Марыя казала, што ісці трэба, бо яна змерз-

ла і галодная. Кацярына нагадала пра небяспеку, якая ім пагражае, калі яны пойдуць у станіцу. Усё ж у рэшце рэшт яны, хоць з асцярогай і страхам, падаліся ў станіцу.

Сёстры ўвайшлі ў панадворак і папрасілі паесці. Гаспадыня прынесла. Яны ўладкаваліся на двары.

Калі яны абедалі, з боку вуліцы пачуўся скрып колаў. Потым паказалася некалькі конных салдат з агаленымі шаблямі. Шлёпаючы па гразі, прайшла група людзей.

— Гэта — яўрэі,— сказала казачка.—Іх вядуць на расстрэл. Людзей расстраляюць, а дабро падзеляць між сабой...

Людзі ішлі панура, часам азіраючыся па баках. Адзін, з сівой барадой, у выцвілым капелюшы, спыніўся, але коннік ткнуў яму спіну канцом шаблі, і ён пацягнуўся далей. Сярод іншых — кінулася ў вочы — была маладая жанчына з торбай за плячыма; з торбы выглядвала галава дзіцяці. Далей ішлі павозкі, нагружаныя чамаданамі, матрацамі і іншым хатнім скарбам. На адной павозцы сядзела жанчына, апусціўшы галаву і сціснуўшы яе рукамі. Калону замыкалі два коннікі з вінтоўкамі. Адзін з іх уехаў на двор і папрасіў вады. Ён зірнуў на Кацярыну, і яна здранцвела. Але коннік тут жа абыякава адвярнуўся.

Калі сёстры ўжо выходзілі са станіцы, іх затрымалі. Ноч іх пратрымалі ў нейкім мокрым сутарэнні, у якім смярдзела гнілой капустай. На наступны дзень да іх ніхто не прыходзіў. Яшчэ адну ноч яны правялі ў падвале, пакутуючы ад жахлівай невядомасці і голаду. Апоўдні іх выклікалі да каменданта.

Іх правялі ў кабінет, абсталяваны добрай мэбляй. За сталом сядзелі двое: адзін у цывільным, другі ў вайсковай нямецкай форме. Гэты другі сядзеў, адкінуўшыся на спінку крэсла, разглядаючы ўвайшоўшых. Кацярына пахаладзела ад яго позірку, а Марыя села на канапу і пачала есці памідор, які дала ёй цётка, што трапілася на дарозе. Марыя была зусім абыякавая да ўсяго. Кацярына штурхнула яе локцем, хацела паказаць, што так рабіць, паводзіць сябе так тут неразумна. Некалькі хвілін цягнулася маўчанне. Абодва за сталом разглядалі іх. Асабліва непрыемным, важкім быў позірк вайсковага.

— А я вас ведаю! — нечакана і па-руску сказаў немец да Кацярыны.

Ён гаварыў так цвёрда, упэўнена, што ёй стала не па сабе. Але яна сказала таксама ўпэўнена:

— Гэтага не можа быць! Я вас не ведаю.— Сказала і сама здзівілася сваёй цвёрдасці.

— Я вас бачыў!

— А я вас ніколі не бачыла.

— Даю час прыпомніць!..

Ён змоўк. Кацярыне раптам зрабілася страшна ад яго ўпэўненасці, што ён бачыў і ведае яе. Яна ўзрадавалася, калі немца — аказалася, што ён быў камендантам — выклікалі і допыт пачаў весці цывільны. За час допыту камендант яшчэ двойчы выходзіў, вяртаючыся, ён аб нечым шаптаўся з цывільным, дапытліва пазіраў на Кацярыну і зноў выходзіў. Потым ён выклікаў адну яе ў другі пакой і сам-насам доўга дапытваў, абвінавачваючы ў шпіянажы. Нічога не дабіўшыся, ён устаў, дзелавым тонам спытаў: «Ну, а грошы ёсць?» — «Толькі адзін рубель...» Ён грэбліва паморшчыўся. «Ну, ідзі! Усё адно мы з табой яшчэ сустрэнемся!» — пачула яна ўпэўненае.

На здзіўленне Кацярыны, іх адпусцілі, і сёстры адразу падаліся са страшнай станіцы. У дарозе яны ўнікалі сустрэч з немцамі. Некалькі разоў, праўда, іх спынялі асобныя немцы, але не затрымлівалі.

Сёстры жылі ў няспыннай трывозе і чаканні вялікай і страшнай бяды, што магла здарыцца кожную хвіліну, пры кожнай сустрэчы з немцамі, і якую толькі выпадкова абыходзілі неяк.

Ісці на ўсход было ўсё больш небяспечным. І яны вырашылі спыніцца, асесці ў якой-небудзь больш-менш ціхай станіцы. У адной такой станіцы яны і папрасілі прытулку. Тут працаваў, як і да вайны, «калгас», які немцы загадалі захаваць, і сёстры сталі «калгасніцамі».

Працавалі за галодны паёк, уставалі да золку і прыходзілі ўночы. Мерзлі страшна, бо было ўжо холадна, а ні абутку, ні адзежы ў «калгасе» не давалі. Марыя зноў захварэла. Твар яе, ногі і рукі апухлі. Ніхто не ведаў, на што яна хварэе. Ніводнага ўрача не было ў раёне.

Ім не назалялі больш допытамі. Яны дзялілі з ка-

закамі адзін горкі лёс. І казачкі звалі Кацярыну паказацку — Мiраўская.

Узімку іх усё ж і тут выклікалі ў камендатуру. Відаць, па чыйму-небудзь даносу. Кацярына адказала, што Марыя хворая, але выклік паўтарылі.

Ісці адна Кацярына баялася.

— Я без цябе заблытаюся,— сказала яна хворай сястры.— Я такая баязліўка. Я загублю і цябе, і сябе.

Марыя ўстала. Абапіраючыся на плячо сястры, яна з намаганнем дайшла да камендатуры.

У камендатуры іх доўга дапытвалі. Спыталі сярод іншага аб іх нацыянальнасці, пацікавіліся, якія іх дзявочыя прозвішчы, але паверылі, што сёстры — рускія. У прафбілеце знайшлі адзнаку больш як дзесяцігадовай даўнасці аб прэміі і таксама дапытваліся, якая прэмія і за што дадзена.

Марыя не магла сядзець. Яна паклала галаву на стол і нічога не адказвала.

На развітанне камендант паабяцаў: «Выклічам яшчэ раз».

Але выклік спазніўся, праз некалькі дзён пасля допыту Марыя памерла. У апошнюю ноч яна вельмі пакутавала, стагнала ў непрытомнасці.

З «калгаса» прыслалі два мяшкі. Марыю паклалі ў труну, адным мяшком заслалі дно труны, другім накрылі нябожчыцу. Ніхто не прыйшоў правесці яе.

Стары сусед з унукам выкапалі магілу. На двухколцы Кацярына правяла сястру ў апошні шлях. Яна не ўмела кіраваць канём, баялася, што конь перакуліць труну. Згадвала маладосць, калі гімназіст, што заляцаўся да яе, вазіў яе ў Растове на Садовай у дрожках. Тады гімназіст вучыў яе кіраваць канём. Зараз яна ўспомніла яго навуку: направа — пацягнуць правай ляйчынай, налева — пацягнуць левай, спыніць — дзвюма ляйчынамі. І яшчэ многае ўспомнілася...

Дамоў з могілак ехалі ўтраіх. Ёй увесь час хацелася азірнуцца назад. Туды, дзе была Марыя. Панылым, беспрытульным бачыўся ёй свет навокал.

Быў снежань. Стаялі маразы, але снегу не было.

Яшчэ нямала давялося паспытаць Кацярыне ў нямецкай няволі. Але сустрэча ў камендатуры была апошняй сустрэчай з немцамі.

Акурат праз месяц з таго дня, калі памерла Марыя, у станіцу ўвайшлі нашы часці. Яна абняла першага ж байца, якога ўбачыла, і заплакала ад гора, крыўды і радасці.

## ЗАПІСНАЯ КНІЖКА

(23/IX—24/XI 1942 г.)

— Апёк чаму? Чаму ды чаму? Колькі пытацца! Дзяўчынка маладзенькая шчакой дакранулася, такая гарачая — ну і апякла.

— Што там, дзетачка, пра вайну чуваць? Хутка яна, праклятая, скончыцца?

— Не хутка, бабуля. Сілы ў іх вялікія.

— А пра замірэнне не чуваць?

— Міру не будзе.

— Гэта што ж ён, ірад, усіх знішчыць хоча? Што мірыцца не жадае?

— Мы не хочам мірыцца, бабуля.

— Як гэта — мы?! Дык ён жа ўсіх пазабівае! І так народу столькі палягло. Хто ж ваяваць будзе?! Адны калекі засталіся, што ні ў полі рабіць, ні дома, каб па гаспадарцы. Толькі і толку з яго, што ў кааператыве стаіць ды соль прадае.

З пачутага апавядання:

«Я кажу яму:

— Тры агуркі!

Ён — што камень.

— Нават аднаго агурка без «трэбавання» не выпішу. Ясна?

— Ясна,— кажу.— Зараз дастаўлю! У момант.

Выйшаў. Прынёс дубіну.

— Вось табе «трэбаванне»! Фармальнае! Вось як размалюю спіну!..

Ён адразу:

— Бярыце. Але вы будзеце перад законам адказваць!

Я кажу:

— Адкажу. Кіло агуркоў!»

Пісарэнка:

— Усякі цыган сваю кабылу хвалыць. Я жыў — вісімнацяць кіламетріў ад Кіева. Усе, што хочаш, можна було дастаць. У нас веласыпеды давалы на хліб. Я калы схаціў веласыпеда, пастаяў у чарзе на Храшчатыку і купіў за 250 рубліў. І сукна, і мультану можна было дастаць. Зноў жа ў хазяйстві нічога не прападала. Ад картоплі лушпайкы, што не паідалы свынні, жынка несла на базар і прадавала. Буў у мэне сад на 24 дэрэвы — 12 яблунь і 12 груш. Дак яблука прадавалы, а грушы сушылы. На зіму, на ўзвар. 4 чы 5 сотак засаджувалы під клубніку. Мы з хлопцам на работу, а жынка з дочкай — на базар, клубніку прадаваць. Прадаў клубніку, і 7 тысіч рубліў у кішэню!

Выпіў — і нарррмальна!

Бабаніну жартам завуць Баба Ніна.

Каспійскае мора.

— Куды! Дахаты!

— А ты спытай — ці жадаю я дахаты?

— Куды ж ты жадаеш?

— Ну, не на Чорнае, дык на Каспій.

— А што ты там рабіць будзеш?

— Я што! Ды ты, брат... Ды я, брат, з дзесяці год у флоце!

А ўсяго ж яму 14—15.

Хлапчук — выхаванец.

Плаціну ўзарвалі. Варожы дэсант тапілі.

Гора маці.

Дачка ішла на фронт. Маці не пускала, апошняя яе,— угаворвала. Але дачка пайшла. На станцыі — бамбёжка. Яе страшна пакалечыла. Шпіталь. Маці ля дачкі. Гора яе.

Дзіця:

— Ты далёка?

— Далёка.

— Аж у Маскву?

— Далей.

— Ну. Не можа быць.

Маракі:
«Траві баланду».
«Хапілі мы цераз борт» (выпілі праз меру).
«Настрой — дзевяць балаў».

«Сынок мой патануў на параходзе «Арменія». Скончыў плаванне ў пяць гадоў. Раней за бацьку. Але мяне, брат, нішто не пацягне на дно! Я, брат, доўга буду плаваць!»

«Нас было шасцёра. Трох братоў забіла. Сястра — ваенфельчар — таксама загінула на Калінінскім. Другая сястра — народная артыстка РСФСР — ранена. Ампутаваны абедзве нагі. Мяне таксама спісалі з карабля. Еду шукаць яе ў Уфу. Памагчы».

Без вады. Раніцай расу стрэсвалі з галін, каб напіцца. Разаслалі палатку з плямамі крыві і трэслі дрэва, расу асцярожна збіралі. Ранішняя порцыя.

Пасля ранення ён усё забыў. З намаганнем, урыўкамі ўспамінаў школу, дзе вучыўся, дзяўчыну, якую любіў. Праходзілі дні, успаміны дапаўняліся, зліваліся ў малюнак. Зараз ён амаль зусім здаровы. Але імёны цяжка запамінае. Некалькі разоў паўтарае сам сабе, каб не забыць.

Праваднік паехала ў далёкі рэйс з партыяй раненых. Дамоў не вярнулася. Горад ужо быў заняты немцамі. Дзяцей не знайшла.

Бомба разбурыла памяшканне, завaліла сховішча. Раскопвалі сховішча цяжка, марудна. Важкія жалезныя бэлькі, каменне, спляліся пруты. Так-сяк прабілі дзірку, далі ў сховішча паветра. Работа пайшла спакайней. Нямецкія бамбардзіроўшчыкі ўвесь час перашкаджалі, налёты працягваліся.

Выпадкова даведаўся ад старога:
— Вазіў прадукты...— У Р., заняты немцамі!
— Калі?
— Ды ось ужо тыдзень.

— Ды ты з глузду з'ехаў? Там жа немцы! Гэта ж — за фронтам.

— Для каго за фронтам, а для мяне — не. Я тут семдзесят гадоў жыву.

— Не веру.

— Як жа — не верыш? Сястра ў мяне ў горадзе. На Савецкай жыве. Есці ж яна, ты думаеш, не хоча? Што ж не верыш!

Стары правёў нашае падраздзяленне ў нямецкі тыл. Прыгналі многа палонных.

Раніцай на пазіцыях немцы заводзілі «Кацюшу». Нашы слухалі. Яны паўтаралі некалькі разоў.

Радыёрупар, наш. Спачатку песні. Немцы слухалі. Потым агіткі. Пяць хвілін і — хутчэй у схову. Немцы адкрывалі агонь. А нашы — з новай пазіцыі. Зноў — спачатку песні.

Горад гарэў. Усюды круціў, поўз дым. Не вытрываўшы, людзі выскоквалі з дымных сутарэнняў. Дыхалі, дзе не было дыму. Цяпер усё роўна. Побач вішчалі, ірваліся бомбы.

«Видал миндал?»

«Ты кажух не здаваў у дэзінфекцыю? Пакладзі яго — пабачыш — не будзе ляжаць, папаўзе!»

Калі Должыкаў пасля п'янкі пабіўся, у шпіталі пусцілі жарт:

— Другі фронт адкрывае.

З акружэння. Пасля разгрому.

У запале бою ён нават не адчуў штуршка кулі. Ён бег, і раптам нага падламалася. Упаў. Аглянуўся. Са зламанай нагі тырчала косць.

З вядром па ваду. Калодзеж між намі і немцамі. Немцы абстрэльвалі з кулямёта. Замучыла смага. Ён узяў вядро і пайшоў. Не зважаючы на перасцярогу сяброў. Набраў вады. Ішоў назад. Бачыць: з вядра б'е

вада. Прабіла куля! Ён стаў, заткнуў дзірку. Памахаў кулаком немцам і спакойна пайшоў да сваіх.

Зімою на перадавую — батальёну, што вёў бой,— прыслалі падмацаванне — танкі. З танкамі — здагадаліся — прыслалі два тэрмасы гарачай бараніны, хлеба. Таксама — падмацаванне!

Гераізм працы. Калі механікі ў люты мароз рыхтавалі пабітыя самалёты да палёту, не спалі ўсю ноч на халодным ветры, адмарожваючы пальцы, то на гэта трэба было не менш мужнасці, чым для баявога подзвігу. Яны то хутка завіхаліся, то пускаліся ў скокі, дзьмулі ў рукі, спрабавалі нагрэць іх. Лётчыкі адпачывалі ў цяпле.

Кухня засталася па той бок фронту. Пры ёй прадукты. Некаторыя — пераходзілі лінію фронту, не зважаючы на небяспеку. Абы здабыць ежу.

Першы бой — ён ваяваў смела. Пра яго казалі — храбрэц. Пасля бою, перабіраючы ўсё, што было, ён сам здзіўляўся сваёй адвазе. Другі бой — ён не вытрываў, збаяўся, збег з поля бою. Доўга не вяртаўся да сваіх. Яго знайшлі, прывялі. Не расстралялі. Пабілі, патаварыску. Трэці бой — зноў смеласць. Але гэта смеласць новага чалавека — сапраўднага воіна.

Ідзе снег. Цярусіць, засыпае параненага каня. Конь яшчэ дыхае.

Марак:
— Нейкі з курыцай на рукаве!
З лётным знакам.

Ён не памятае свайго ратунку. З 80 раненых, што былі на параходзе, іх ыратавалася трое. Як ён саскочыў з палубы, апынуўся на вадзе, як плаваў, як падабралі марскія «охотники», як прывезлі з Севастопаля ў шпіталь, аперыравалі — нічога не ведае. Калі ён на секунду апрытомнеў, яму сказалі: «Вы ў Новарасійску». Другі раз ачнуўся — «Вы ў Кіславодску».

Ноччу шчаслівая пара сядзела ў кухні і спявала. Яны былі так захоплены адно адным, што забыліся: час начны і ўсе ў доме спяць. Жыхары прачыналіся. «Дзе гэта спяваюць?» У калідоры стоўпіліся і слухалі. А яны сядзелі сярод вёдраў і дзежак і спявалі.

У маленстве захапляўся планёрамі і самалётамі. Быў прыгожы. Дзяўчаты захапляліся ім. Але кахаў адну. Калі ён канчаў лётную школу, здарылася няшчасце: ён разбіўся. Урачы цудам выратавалі жыццё. Але ён застаўся без ног, са шрамамі на твары. Было вельмі цяжка. Жыццё было цяжарам. Падтрымлівала каханне. І вось тая, адзіная, адмовілася: «Такі мне не патрэбен». Але ён не апаў духам.

Да яго прыйшла іншая. Таксама з яго аднакласніц. Адна з тых, каго ён не заўважаў. Непрыгожая, жаллівая. Стала яму жонкай.

Ноч. Неба чыстае, свеціць месяц. Зорак амаль няма, найбольш адна бліскае побач з месяцам, трохі ніжэй. Дрэва стаіць ціха, на голым веццi серабрысты бляск. Мароз. Крокі гучныя.

«З усякага становішча ёсць два выйсці. Возьмем горшае. Горшае мае таксама два канцы, адзін з якіх лепшы. Возьмем горшы, з яго таксама два канцы, адзін з якіх лепш. Такім чынам, калі мне і не век будзе шчасціць, я маю ўсё ж многа шанцаў на ўдачу».

Гарэзлівасць. У трагічным месцы спектакля яны звонка, на ўсю залу, смяяліся. Былі давольныя гэтым. Маладыя былі.

Яны стаялі. Былі сумныя. Развітваліся. Поезд вось-вось мусіў павезці яго.

Хацелася быць сам-насам у горы. І вось жа — з акна вагона поблізу высунуліся вайсковыя, маладыя, цікаўныя. Яна пачула наўмысна гучны, гарэзлівы голас:

— Цікава, як яны будуць цалавацца!

Пасада — адказны выканаўца цыганскіх рамансаў.

«Тата, я ўжо навучыўся свістаць у чатыры пальцы, атрымаў чатыры «выдатна» і адно «добра».

«Разгром» А. Фадзеева.

«Кралі адзін у аднаго патроны, біліся да крыві з-за кавалка сала, здзекаваліся з яго гарадскога пінжака».

«Хацелася спаць, стома — усё здавалася простым, бясстрасным, няважным».

«Мішка ляжаў на баку, нацяўшы вялікія ашкляне-лыя вочы, вышчарыўшы зубы».

«Страху не было, было толькі тужлівае чаканне, калі ўсё гэта скончыцца».

«Зыбкі позірк...» Выдатная кніга!

Дробязную на хвіліну спрэчку перапыніла трывога, імклівыя і страшныя падзеі.

Прыкмета. Вываліліся з грубкі два палены. Задымілі. Яна трывожна ўбегла і ўзрадавалася — будуць госці.

Ноччу снілася — у акно білася птушка, лопала крыламі.

У акружэнні паранены камандзір. Ён просіць, каб яго пакінулі. Развітанне з ім. Аддаюць самае дарагое — патроны, якіх амаль няма.

Выпаў снег. І цягне зноў, як у маленстве, забыўшыся на гады і трывогі, гарэзліва страсянуўшы галавой, з віскам пабегчы па белай коўдры. Хочацца — учапіцца ў шыю таварыша, паваліць, самому ўпасці побач і валтузіцца ў мяккім, чыстым, з віскам і смехам, бесклапотна і радасна.

У тэатры два лейтэнанты — сувязісты — з розных канцоў перагаворваліся азбукаю Морзэ: два пальцы — працяжнік, адзін палец — кропка.

Раніца пры адступленні. Апоўначы, звярнуўшы са шляху ў поле, спыніліся на начлег. Раніцай прачнуліся ад страшэннага трэску. Недзе непадалёк стралялі. Слухалі. Іхнія перажыванні. Невядомасць. Потым прыйшло некалькі чалавек, некаторыя — раненыя.

Расказвалі, што па дарозе прарвалася вялікая калона нямецкіх танкаў. Артылерысты сядлалі коней, рыхтаваліся да бою.

Сябры — сувязісты. На передавой. Назіральны пункт і агнявая пазіцыя. Кожную раніцу абменьваліся віншаваннямі і навінамі.

Войскі, прыціснутыя да ракі, тонуць у вадзе.

Дамок у стэпе на перадавой лініі. Завіруха.

Жанчына і дзяўчынка супярэчылі ў ёй. Гэта вабіла.

Палонны баец у партызан. Недавер'е да яго. Як вярталася давер'е.

Словы, якія паўтараюць найбольш часта: «Калі ўсё гэта скончыцца?»

Стары машыніст вядзе нямецкі поезд. Ён прыгнечаны падзеямі — немцы імкліва наступаюць, нашы ўсё адыходзяць. Немец, што наглядае за старым, здзекаецца, стары не супраціўляецца — ён прыгнечаны. Тады машыніст даведваецца пра наступленне нашых — да яго вяртаецца ўпэўненасць. Ён ажыў духам. І калі немец патрабуе весці састаў назад, адмаўляецца. Гіне героем.

Маці даўно не атрымлівае лістоў ад сына. Заўсёды цягучая туга. Сёння асаблівае прадчуванне — здарыцца нешта цяжкае, страшнае.

З пісьма:
«Немец уцякае так хутка, што не паспяваем даганяць яго».

Горш за ўсё ў жыцці — няпэўнасць. Аддаю перавагу яснасці. Няхай цяжкай. На жаль, жыццё складаецца амаль цалкам з няпэўнасцей. І людзі нярэдка садзейнічаюць няпэўнасцям: ухіляюцца ад адкрытых рашэнняў, дзейнічаюць няшчыра.

Ноччу ля ложка дачкі, што едзе на фронт, не спіць маці. Думае пра тое, што наперадзе, вельмі хутка, раз-

лука. Што невядома — калі сустрэнуцца зноў. І ці сустрэнуцца, ці ўбачацца наогул. Можа — апошняя ноч.

Дачка прачнулася. «Мам, чаго ты не спіш?» Маці: «Я гэта... Думала, коўдра спаўзла...» — «Ты плачаш?.. Чаму?..» — «Што ты... Табе здалося...»

Вярнулася на свой ложак, ляжала, услухоўваючыся ў дыханне дачкі.

Упэўненасць

На мітынгу ў інстытуце выступаў госць з фронту, муж адной з выкладчыц — Ярашчук.

Сказаў: не думаў ніколі, што давядзецца сустрэцца, выступаць у Буг-не. Успамінаў Кішынёў у першы дзень вайны. Разгубленыя твары студэнтаў і выкладчыкаў. Успомніў: няёмка адчуваў сябе ў вайсковай форме. Цяпер прызвычаіўся да яе. Нібы ўсё жыццё быў ваенным. У новым нашым становішчы, сказаў, наступіла адчуванне псіхалагічнай раўнавагі. Мы ставімся да вайны ўжо як да справы звычайнай. Упэўнены ў сабе. Перанёсшы ўсе выпрабаванні, мы не апалі духам, наадварот, робімся ўсё больш упэўненымі. Ён сказаў, што бачыць гэтую ўпэўненасць і на тварах студэнтаў. Так, мы ўпэўнены. Упэўнены, што зямлю малдаўскую возьмем, возьмем і нікому не аддадзім!» На гэтыя яго словы адказалі горача, авацыяй. Перачакаўшы авацыю, ён сказаў: вайна скончыцца, нам трэба будзе рашаць новыя вялікія задачы. Грандыёзныя задачы. Гэтыя яго словы таксама патанулі ў авацыі. Апладзіравалі з радасцю: думка пра той час захапляла радасцю. І здавалася, што яно — побач. Так хацелася, каб яно было побач.

У такі час мы нарадзіліся: наша юнацтва — у баях, у цяжкіх паходах. Усе сілы нашы — баям, вайне. Мы — суровае пакаленне, маленства якога пачыналася бясхмарнымі днямі. І юнацтва наша пачыналася светла, але вайна ўсё раптоўна перапыніла, змяніла.

Трагедыя раненага, што трапіў у тыл. Цяжкія выпрабаванні тылавога жыцця. Няздатнасць да працы, стома, галаўныя болі. Адчуванне непатрэбнасці. Гэтыя пачуцці абвастрае каханне. Ён імкнецца да яе, яна абнадзейвае і ўвесь час ухіляецца ад яго. Ён павінен змагацца за права жыць.

## Бугуруслан

28 ноября 1942 г.— 13 апреля 1943 г.

1. Все это называется простым человеческим счастьем.

2. Прямой человек.

3. Горячий до безрассудства.

4. У убитого идут часы.

7. — Почему, доченька?
— Почему-шта не умею,— отвечала маленькая дочурка.

8. — Упала звезда... Что это значит, Лидочка?
— Это значит, что Ваше желание сбудется.
— Неужели!
— Правда... О чем вы думали?
— Я думаю о том, что вы меня поцелуете.
— О, нет. Пусть все звезды с неба свалятся, не бывать тому.

9. Мода сезона. Мужчины рыдают, и женщины спокойно переживают.

10. Ужасный дождь. Промок насквозь. Выпачкался. У ее дома влез в бочку с водой выше колен и отмыл брюки. Так и вошел в ее дом. Свидание.

11. Пейзаж. Из окна падает свет. Дерево, опушенное снегом, блестит. Забор, железная решетка, осыпанная снегом.

12. Лиля, увидев свои поношенные валенки, загрустила. Она что-то сказала о том, что жить очень тяже-

ло. Глядя на нее, загрустила мать. Тогда дочь засмеялась:

— А знаешь, мама, так даже очень весело жить.

Обе весело смеялись.

13. Вовка очень много дружил с девочками и его звали оно.

14. Девочка взобралась на колени. Потрогала дяде усы. Потерлась щекой о его лицо. Дядя ее нежно любовно гладил. Потом девочка прижалась к лицу и тоненькими зубками глубоко впилась в щеку. Дядя ахнул и чуть не выругался, на него смотрели те же невинные детские глазки.

15. Мать готовилась к занятиям. Дочка стояла у двери и все время поворачивала дверь. Ей нравилось, как скрипела дверь. Мать изводил этот скрип. Она угрожала, но дочь продолжала занятие. Упрямая.

16. Мальчик ежедневно приходил к учительнице и простодушно заявлял: «Хочу кушать». Она отдавала все.

17. Угощал он много, но при этом всегда напоминал о больших расходах, понесенных для угощения.

18. О преступлении она рассказала вечером, когда все спали. Мать разозлилась, но ругала мало и тихо, сдерживала себя, боясь разбудить спящих. Тактический маневр девушки.

20. Домик в степи на передовой. Вьюга.

21. Их дом окружили. Сражение.

23. Лицо у него детское, молодое, особенно улыбка, но в часы задумия у рта ложится глубокая складка.

24. Цветы для тебя посадил он. Уехал. И мы уезжаем. Завянут цветы. Сорви их. Большой букет сде-

лай. Она сорвала только один цветочек. Не сказала — почему.

27. Время — лекарь.

28. ...Мы вышли из города. Как на несчастье, день был такой жаркий, что сгораем на нет. Шли целый день. Прошли 45 км. На следующий день такое же количество километров и с такой же жарой. Но в последующие дни начался ветер, который не перестает в настоящее время. Песок лезет всюду — в нос, в уши, куда хочешь. Пока дошли сюда, все ребята сгорели, в особенности Вася, у которого лицо облезло...

30. Живем весело. По вечерам и ночам устраиваем концерты, т. к. холод здоровый, а у нас даже шинелей нет. Так лежишь, лежишь, а потом как пустишься плясать гопака, так не только пол, но крыша трещит.

31. Как живет моя курносая сестренка?

32. О нас не беспокойтесь, а ждите с победой. Да пельменей заготовьте побольше перед приездом, мы с Ванюшей часто вспоминаем о них. И теще моей: пусть обо мне не забывает и уговор помнит.

33. Подвинулся ближе к тому городу, где мы три друга получили военное образование. Там мне знаком каждый бугорок, где проходили занятия.

34. Вот о себе и писать почти нечего, а о боевых делах писать время много надо, лучше расскажу, когда разобьем врага, тогда соберутся ваши родные Толя, Роза, Лиля и мы три друга. Вот тогда каждый расскажет про свои боевые дела.

35. Спасаясь от скуки, вечером бежим в село (а до него 10 км) только потому, что там есть клуб и конечно «приложения» все, конечно, танцы, девчата. Таким образом проделываем 20 км за ночь, возвращаемся утром и снова занимаемся.

36. *Горбушка хлеба.*
Хлеба не было. Любимый человек болел. Она пошла

за хлебом. У молодого человека спросила, не продает ли тот хлеб. Он сказал: «Продаю». Спросил: барышня она или дамочка. Она покраснела. Потом оглядел ее, улыбнулся и сказал, чтобы мать принесла хлеба. Мать уговаривала, потом согласилась на четверть буханки, на половину. Она слушала спор и готова была убежать от стыда. Неведомая сила приковала к земле. Потом юноша прикрикнул, и мать хмуро вынесла буханку хлеба. Сказал, чтобы приходила еще, когда будет нужда.

(Она ему нравилась, он с ней хотел познакомиться. Она была женой другого. Об этом он после узнал.)

37. Достали рыбешек. Одну съели, вторую оставили назавтра. Недосмотрели — кошка съела. Самое большое огорчение.

39. Мое отношение к Г. Мне она нравится. Энергичность, жизнерадостность. Удаль, милая девичья удаль. Шаловливость. У нее много того, что я искал и не находил у других. Но она мне и не нравится: мечтает о большом городе, о театрах, о шумной жизни в столице, о хорошей обстановке в хорошей квартире. А я считаю, что безразлично, где жить, только бы работать хорошо, много, вдохновенно, поближе к настоящей жизни. Ей тоже тяжело, много работает. Работает очень хорошо, энергично, как она делает все. Это усиливает мою симпатию к ней. Мое раздвоенное отношение. Любовь, радость любви, счастье ее ласки и мысли о том, что пути наши расходятся, что счастье это, самое большое счастье — непрочно. В минуты такого счастья я спросил, крепко ли она меня любит, настолько ли крепко, что, когда я уеду, будет ли она любить. Она уклончиво ответила — «не знаю». Она так всегда была откровенна. «Если я уделю тебе меньше времени. Ведь может быть, меня пошлют на такую работу, где мне не придется часто встречаться. Будешь ли ты меня любить?» — «Не знаю. Будут новые парни, не могу я знать, что случится».— «Тогда нам надо проститься».— «Что тебе надо? Я с тобой, я тебя люблю». И тихо журчало: «Дурной ты мой, разве тебе этого мало? Я тебе все отдаю. Миленький ты мой, если бы ты знал, как я тебя люблю. Никогда так не любила. Почему ты

такой хороший, Генька?» Он покорялся, целовал, он забывал все. Когда оставался один, горечь и раскаяние проникало в сердце. Десятки раз он обещал порвать все, но неведомая сила влекла к ней, он не в силах был противиться. Приходил и забывал все. Однажды она сказала: «У нас разные взгляды. Мы разные люди. У нас ничего общего, кроме любви».— «Любовь — это самое большое общее».— «Это, правда. Но чтобы полюбить тебя, мне надо забыть свои думы, подавить все. А ты знаешь, что я этого никогда не делала. И теперь не могу. Такая я дурная». Это чувство выбило его из привычной колеи. До этого времени он считал себя суровым человеком, строгим, волевым, а вот пришла любовь и все перепутала. Он заметил, что у него не хватает воли, чтобы порвать все, что нет у него ясности мысли, потому что он не был уверен в том, что надо порывать.

40. Она всегда была откровенной, резкой, прямой, все тяжелое выворачивала, заставляла прямо глядеть. С ней было жутко, больно и вместе с тем радостно. Глядя на нее, он восхищался: вот таким и ему надо быть на работе: прямым, сильным, смело говорить все в глаза и заставлять ворочать мозгами. А у него на большом посту очень много излишней лояльности, мягкости, боязни не обидеть.

41. «Геничка, милый. Почему ты такой хороший, мой милый. Ну вот каждая черточка мне нравится в тебе. И брови как-то так [...] идут (она легко провела по бровям) и глаза такие родные и губы и складка возле них. Все нравится в тебе (она поцеловала в складку возле губ)».

42. Она беззвучно пошевелила губами. И не по звуку голоса, а по движению губ он догадался, что девушка сказала: «Родненький ты мой». Говорила, как всегда, медленно, протяжно: «ро-о-одненький».

43. Растрепанные волосы, сбившиеся на лоб. Лихорадочно поблескивающие томно прищуренные глаза. Восторг любви. Она сжала его в поясе и, глядя снизу вверх, пыталась приподнять вверх. Он еле не упал,

просил ее: «Пусти, постой. Упаду». Она не слушала и, смеясь, порывалась поднять. Он разорвал упругое кольцо ее рук и легко, словно невесомое, поднял на руки ее тело и закружил так, что в голове поплыли набок предметы. Слышал только: «Пусти, пусти, тебе тяжело». Лихорадочные полузакрытые глаза. Зашатался, остановился и, качаясь, подошел к кровати, сел. Сидели усталые, тяжело дыша. «Геничка, почему ты меня так мучишь?» Ему хотелось сказать то же, но он не сказал, а только виновато улыбнулся.

44. Ветер дразнит.

45. Ах ты, рогатый.

46. На полотенце вынесли расстрелянного. Он еще жил. Выходила. Нашли его среди неубранных трупов, он один жил. Отнесли в кусты, перевязали, спасли. Через несколько лет встретились. «Ваше лицо мне кажется знакомым».

48. Неопределенность — хуже всего. Предпочитаю ясность, пусть тяжелую. А жизнь почти сплошь состоит из неопределенностей. Люди боятся говорить прямо, создают неопределенность.

49. Мать о дочери. 26 лет работала, столько замечательных людей воспитала. А дочь не смогла подчинить своему влиянию. Упрямая выросла дочь, не подчиняется. Наверно, от того, что крепко любила ее, не смогла подчинить своей воле.

50. Верочку легко уговорила бы, а дочь не могу. Упрямая. Вся в отца выросла. Тяжело ею руководить.

64. Уговаривать других, когда тяжело самому. Забывать свое горе.

100. Есть категория людей, которые любят всюду оправдываться.

## Бугуруслан

14 апреля 1943 г.— 6 апреля 1944 г.

11. На базаре. Покупатель предлагает, спросив цену, свою:

— Чтоб не было обидно, возьми любую половину.

Продавец отказывается.

14. Когда пишет, смешно вытягивает нижнюю губу.

28. Деньги ложил раздельно. Бумажки аккуратно складывал по достоинствам, стопка по 50 рублей, стопка по 30 рублей, стопка по 10 рублей. Каждую стопку заворачивал в бумагу.

31. Мама хочет сделать сюрприз дочери. А дочь уже успела узнать, но молчит, хитрит. Чтобы сделать матери приятное.

32. Вечером стелется домашний дымок по улице.

35. Язык Наташи. Она часто в разговорах приводит стихи любимого Лермонтова, которого хорошо знает. Над ее цитатами подшучивают. Она не замечает.

36. Фамилии: Шляппо, Конь.

37. Горячий — беспечный в деле:

— Нет саней? Ничего. Обождем.

— Завтра, верно, будут,— беспечный

Горячий ругается.

40. Некогда думать.

44. Прическа — воронье гнездо.

46. Она спит. На шее бьется жилка.

47. Пыль бугурусланская.

53. Большая тема. Маленькая группка наших ведет тяжелую борьбу с большой группой врага. Героизм. Самоотверженность и пр.

55. После дождя вдали становится яснее и синее даль. Простор словно вымытый. После дождя — голоса громче.

57. Рассказ рыбака: поймал маленькую, но не снимаю. На эту маленькую поймалась большая, проглотила маленькую. Вытащил удочку, сразу две рыбки.

60. Девочка ночью добиралась до огневых позиций, торговала яблоками.

61. В военной обстановке жизнь любят больше, чем в мирной.

66. Человек, который всегда любит уязвить.

70. Сыну, попавшему с фронта домой, скучно. Хочет уехать. Любящие родители горюют.

77. Мать недостатки дочери считает достоинствами. Возмущается, если другие считают иначе.

83. Как буря, круглый и быстрый, подлетал Большаков к санаторию. Соскакивал с лошади, вбегал в санаторий, за ним едва поспешала свита работников. Шел быстро, глаз зоркий, ничего не пропускал. Через 15 минут он знал все, без доклада.

84. Когда шли утром на рыбу, я слышал, как шумела, опадая, роса в стороне от дороги.

85. Мы спим в сутки по 25 часов.

86. Если хочешь узнать правду, спроси соседа; если сосед не знает — спроси первого встречного человека; если встречный не знает — спроси жену и то, что скажет она — делай наоборот — говорит древнее изречение.

88. Мужик спекулирует. Деньги, добытые спекуляцией, сдает государству на танковую колонну.

90. «Золотой человек, если его не проверяют, портится. И золото пылью покрывается». Это сказал Якубанис, когда его обвинили в том, что он перестал работать.

94. Военное счастье (рассказ).
Человек сильнее машины. Летчик несколько раз возвращался на разбитых машинах, на сгоревших. Только сам был неуязвимым.

96. Человек, который всегда приносит гадкие новости. Его не любят.

101. Человек, не видевший жертв, в первом бою очень смел. После боя удивляется своей смелости, начинает бояться. В следующем бою превозмогает страх.

105. Когда сменялась часть, немцы открывали ураганный огонь.

116. Когда сын уходил в армию, отца разбудил. Он сказал: «Смотри хорошо служи. Дай бог тебе здоровья»,— и снова уснул.

117. Сын не любил нежностей. Он не выносил прощальных слёз, никогда не разрешал провожать себя в дорогу.

125. Многие места нам кажутся красивыми не потому, что они действительно красивы, а потому что мы в них провели красивое время жизни.

132. Одна молодая поэтесса:
— Там очень много было писателей. И даже одна писательница из Ленинграда. Видная такая. Обратила внимание на себя. В пальто с каракулевым воротником. Шляпа модная, красивая. А платье из лучшего материала. И потом композитор один. Известный. Блондин такой. Среднего роста. Красивый. Фамилию? Не помню. Знала, да забыла.

147. Нахожусь на птичьих правах.

172. Чалавек, які любіць паспрачацца, а пасля заўсёды ўступіць. Паспрачацца перад тым, як згадзіцца, яго патрэба.

178. Работа у неопытного человека — давит, торопит, он не руководит, а еле успевает за событиями. Только после человек становится руководителем событий, управляет ими.

197. Людзі прайшлі міннае поле, не ведаючы пра гэта. Калі ім сказалі, якая небяспека выпадкова абмінула іх, яны ўсхваляваліся, успацелі, нібы яно было яшчэ ўперадзе.

198. Маці ў першы дзень вызвалення чакае свайго сына. Чакае. Шукае. Яго няма. Уся Расія здаецца ідзе праз вёску, а яго аднаго няма.

205. На вуліцы — вясна. Верная прымета — возяць лёд. Па вуліцы, залітай сонцам і вадою, возяць на санях тоўстыя квадраты зялёнага лёду. На крышах стаяць людзі — счышчаюць снег. Глыбы снега спаўзаюць з крыш і з шумам рушацца на тратуары, завальваюць праход.

206. Добрая палова студэнтаў хварэе дэмагогіяй. На сходах — высокія прамовы, пасля іх — страшэнная безадказнасць, забываюцца прамовы. Вельмі многа ёсць такіх, што любяць лаяць другіх, а самі ніколі нічога не робяць. Пры першым знаёмстве яны астаўляюць прыемнае ўражанне, якое пасля расплываецца, як дым.

208. Дзяўчына першы раз у Вялікім тэатры. Уважліва прыглядаецца да ўсяго, заўважае, баіцца што-небудзь абмінуць, каб напісаць сяброўкам пра ўсё, нічога не забыць.

213. У мяне гадзіннік — вельмі точны — і таму я спазняюся часта на цягнік. Я спадзяюся на яго, размяркоўваю час да хвілін. У шляху часта затрымкі. Я ніколі не прыходжу загадзя, а за хвіліну да адыхода цягніка або праз хвіліну пасля адыхода.

## 1944 г.

*7 апреля 1944 г.*

1. Шаўчэнка. Прыгожы — чорная акуратная бародка. Рукі, гавораць, красівыя, і ён іх праз гэта заўсёды трымае перад сабою, пальцы ў пальцы. Добра адзяваецца, з густам. Сочыць за сваім знешнім выглядам. Мова — падкрэслена вучоная, літаратурная, нібы з друкаванай работы. У размове таксама імкнецца к знешняй прыгажосці. Гаворыць з ленінградскім акцэнтам, хаця сам аднекуль з Паўночнага Каўказа. Часта любіць успамінаць пра Брусава. «Меў шчасце вучыцца пад яго кіраўніцтвам». У дысертацыі таксама гаварыў, што тэма яе навеяна добрай памяццю незабываемага Валерыя Якаўлевіча Брусава, з якім аўтар меў шчасце працаваць у N горадзе. У яго — знешняя, кідаючаяся ў вочы прыгажосць. Пра яго Бараг сказаў вельмі ўдала, што Шаўчэнка робіць выгляд, што даказвае, дзе нечага даказаць. Веды яго неглыбокія, сам ён не глыбокі, толькі знешне выдзяляецца. У яго ёсць харошая пішучая машынка. На ёй ён (вучоны сакратар універсітэта) сам друкуе павесткі членам вучонага савета. Прыгожа і чотка. І ў канцы: па даручэнню рэктара універсітэта Савіцкага вучоны сакратар В. І. Шаўчэнка. Усё так абавязкова, салідна. Адказ на таварыскія пісьмы таксама друкуе на машынцы. Ва універсітэце ён працуе па знешніх зносінах — дагаварваецца з маскоўскімі артыстамі, вядзе справы з камітэтам вышэйшай школы, выконвае роль нейкага універсітэцкага дыпламата. З гэтым спраўляецца вельмі добра, яму даручаюць заўсёды.

2. Каган. Нечым напамінае П'ера Безухава — і акуляры, і такое ж добрае сэрца і рассеянасць. Толькі то быў граф, а гэта студэнт і таму худы. Л. Каган носіць старыя абшарпаныя, мятыя штаны і заўсёды адну і тую ж куртку. Работае ў прафкоме. Самая крапатлівая работа; ён па цэлых днях сядзеў ва універсітэце, зусім закінуў вучобу. Работа ішла дрэнна — перашкаджала яго дабрата і асабліва рассеянасць, расплыўчатасць, але работаў чэсна, старанна. У яго ніколі не было ўліку таго, хто паехаў, а хто не ездзіў па даручэн-

ню, і ніяк не маглі ад яго дабіцца наладжанага ўліку. Часта губляў спіскі праз рассеянасць. Яго любяць — адны за тое, што ён мяккі, добры, пашкадуе, пойдзе насустрач, другія за тое, што ён не прыдзіраецца за тое, што не паехалі на работу. З-за рассеянасці згубіў хлебную картку. Студэнты сабраліся, купілі яму, любілі. У сталовай палажыў пашпарт, мы ўзялі і схавалі. Прыйшоў Лёва дадому і ўсю кватэру перарыў. Прыходзім, а ён сядзіць і плача (гэта было зразу ж пасля таго, як згубіў картку). Не мог перамагці сябе. Любіць дзяцей і з нежнасцю расказвае пра іх (як дзяўчынка наліла вады, насыпала попелу, размазала ўсё на падлозе, а маме гаварыла, што яна хацела памыць). Ад расплыўчатасці не глядзіць і за сабой. Ходзіць увесь час у адным касцюме, нячыстым, у цёмнай рубашцы і гразных бацінках. Нябрыты. Часта спазняецца на заняткі. Таму што марудна збіраецца. Адзяваецца, седзячы на ложку, не спускаючы ног з яго, нацягвае чулкі. Спазніўся ў МХАТ. Доўга адзяваўся, брыўся, прыбраўся і разачараваны вярнуўся назад — спазніўся на цягнік. Ноччу, лежачы на ложку, чытае, засынае з кнігай, забывае выключыць свет. Часта забывае зняць, лажучыся спаць, акуляры. Спіць у акулярах. Часта, калі цёмна, наадварот, забывае адзець іх і без акуляраў па цёмнай вуліцы бяжыць на заняткі. Увайшоўшы ў светлы карыдор, успамінае пра іх, бо нічога не бачыць. Звяртаецца дамоў. Непрактычны. Усе грошы, што прысылае бацька, расходзяцца на базарныя дробязі, а затым месяц сядзіць без снядання і вячэры. Парваліся бацінкі. Ён не мог аддаць у рамонт, а замест гэтага кожны дзень прышываў падошву і ўсё пытаў, ці вытрымае на дзень. Любіць кнігі. Многа чытае, развіты. У машыне, едучы ў лес за дровамі, з шафёрам рашае задачу, і са шчырым задавальненнем хваліцца мне, што яна так доўга не давалася. Аднак экзамены здае не заўсёды добра. Мала рыхтуецца, не можа сабрацца. Часта ідзе на «авось». Таксама не можа адарвацца ад пачатай кнігі і на экзамены ідзе яе дачытваць. Калі людзі не паехалі на работу, якіх ён паслаў, сам паехаў. Гэта яму прыемней. Бацька, па яго словах, вельмі непадобны да яго. Практычны, дзелавы. Калі эвакуіраваліся, ён брыўся кожны дзень, седзячы дзе-

небудзь на беражку ракі і паглядаючы ў ваду, як у люстра. Майстар на ўсе рукі.

3. Б.— праз меру «практычны»! Ва універсітэце не была гатова сталовая, бібліятэка. Ён, не трацячы часу, зразу заключыў дагавор з рэктарам, прычым выламаў, карыстаючыся абставінамі, больш, чым варта была работа. Скалаціў брыгаду. Па начам працавалі. Ён выдаваў грошы, дзяліў на разрады. Каган атрымліваў у два разы меншую стаўку, як чалавек не маючы дастатковай кваліфікацыі. Б. хваліўся, што лоўка абдурыў рэктара. Ініцыятыва прападала адразу, калі трэба было рабіць без грошай. На вучобу ён прыехаў з мяшком крупы і ні аднаго стакана не аддаў таварышам. Вельмі акуратны. На занятکі ідзе, адэкалоніцца. Запрасіў аднойчы на пляшку гарэлкі. Пачаў дагаварвацца, той, каго запрасіў, павінен уплаціць палову кошту бутылкі, другую палову ён бярэ на сябе. Сухі, не захапляецца нічым. Кніг не любіць, шкадуе капейкі на іх. Неразвіты, гаворыць нібы вясковы хлопец, з дыялектам. Успамінае, як хадзіў па сялу з гармонікам, як усе дзяўчаты запрашалі да сябе. Хваліўся, што многа зарабатваў у такія дні. Пальцы балелі. Нежна любіць маці, часта ёй піша. На кватэры таксама спрабаваў дагаварыцца — калі каму насіць ваду.

4. С. працаваў агентам па снабжэнню, але рабіў столькі шуму, што можна было думаць, што ён у нас самы галоўны. Крычаў, шумеў, загадваў. Скора разгадалі, пачалі смяяцца з яго. Студэнты. Не слухалі. Ён згубіў аўтарытэт. Акрамя таго, ён добраахвотна працаваў у [нрб], правяраў білеты ў загоне. Усе смяяліся пасля гэтага. Потым гаварылі, што ён заспрачаўся з нейкім маёрам і не дапусціў таго ў вагон. Маёр падпарадкаваўся смеласці такой — хто яго ведае, што гэта на чыгуначкай за начальнік. Ва ўстановах таксама яму першы раз верылі, так шпарка рашаў, так ахвотна абяцаў і ніколі не выконваў. Ва ўстановах не давяралі, але там, дзе трэба было, ён неяк дабіваўся. У наркаматах, па яго запэўненню, яго выганялі ў адны дзверы, ён лез у другі кабінет і ўсё-такі дабіваўся. Калі не хацеў што рабіць, прыкідваўся хворым. Яму ніхто не верыў, смяяліся ў вочы. Ён не абіжаўся. Хадзіў

заўсёды ў ваеннай форме, хаця ў арміі ніколі не быў. На грудзях — вялікі, падобны да ордэна значок зіхацеў. Бегаў, не хадзіў. Шпаркі.

Не буду гаварыць аб недахопах, не буду блох лічыць.

Лобан — «прынцыповы» чалавек. Усе ў тэрмін здалі экзамены, а ён рыхтуецца. Пытаюць — яшчэ не падрыхтаваў. І ўсё сядзіць. Здае пасля ўсіх. Ідзе без усякіх паперак на экзамен. Адказвае грунтоўна. Заўсёды пасля ўсіх — студэнты жартуюць над гэтым, але паважаюць.

Федзя ходзіць на кастылях. Ніхто ніколі не бачыў яго самотным, заўсёды вясёлы, жартуе. Яго любяць.

Старыкі амаль заўсёды варчаць, нездаволена. У нашай літаратуры амаль заўсёды наадварот паказваюць вясёлых старычкоў. Фінікаў — гаспадар кватэры, усё бурчыць — то моцна стукаюць дзвярмі, то памыі не вынеслі ў час, то ваду пад умывальнікам разлілі. Калі паявіўся на кватэры Зубец-стары, ён накінуўся на яго і патрабаваў, каб ён зараз жа выбіраўся і шукаў сабе іншае месца. Ледзь удалося ўгаманіць яго, заступіцца за ціхага нясмелага старыка. А пасля здружыліся і ўдваіх бурчалі на нас. Зубец нават болей.

Дзяўчына спалохана закрычала: «Ой!» — і пабялела. «Што такое?» — прыбеглі ўстрывожаныя таварышкі.— «Казяўка!»

Апошні дзень у Мінску. Чуткі пра тое, што немцы каля Мінска, што паймалі ракетчыка. Пра становішча чуткі самыя розныя, не зразумець, дзе праўда. Бамбёжкі без перапынку. Сціхла, два студэнты забеглі ў сталовую. Зноў налёт. Буфетчыцы і повар уцяклі. Студэнты гаспадарнічалі самі, пакуль кругом грымела. Піва і адбіўныя. На развітанне хацелі забегці ў інтэрнат за чамаданам. Калі падымаліся па лесніцы, бомба папала ў памяшканне, паваліў дым. Яны звярнуліся. Залезлі ў падвал, прасядзелі да вечара. Вечарам гарэлі пажары, як і днём. Па палаючых вуліцах праз дым і галузы прайшлі за горад. Адзін быў у белай сарочцы,

другі ў пінжаку з прапаленымі дзіркамі. Калі яны выходзілі, усё яшчэ бамбілі. Каля Дома Чырвонай Арміі хадзіў спакойна ў задуменні генерал, і яны здзівіліся яго спакою. Потым, калі яны збіраліся перабегчы вуліцу, пачуўся свіст бомбы. Яны ўпалі, прыціснуліся да асфальту. Блізкі выбух, каменне, крык. На скрыжаванні спакойна стаяў міліцыянер. Ён падняў палачку, і некалькі машын пранеслася на захад. За горадам яны азірнуліся. Горад курэў. Ім было незразумела, як там яшчэ трымаюцца людзі ў горадзе. Самім не хацелася верыць, што столькі змаглі перацярпець за дзень. Яны ішлі па сцежцы каля дарогі. За людзьмі і машынамі ганяліся нямецкія самалёты. Бамбілі. Студэнты хаваліся ў канаве прыдарожнай.

У Смаленску аб'явілі трывогу. Яны нікуды не ўцякалі. Ім вельмі хацелася спаць. Праз сон даносіліся выбухі бомб.

Дзяўчына з вострым языком — перац. Смяецца над хлопцамі. Ёй трэба моцны, мацнейшы за яе, каб узяў і не выпусціў, не зважаючы ні на лаянку, ні на царапіны. Тады яна заспакоіцца і здасца сіле, злуючыся на сябе.

Мілы друг.

Марыя Іванаўна. Лжывасць яе натуры. Яна са слязамі на вачах чытае Міцкевіча і ўздыхае: «Ах, як гэта дзівосна! Ах, як прыгожа!» Са слязамі можа на памяць дэкламаваць звычайныя вершы, каб падкрэсліць сваю чуллівасць. Пасля гэтая чуллівая жанчына ўводзіла ў слёзы студэнтаў несправядліва за адно няправільна сказанае слова. [нрб] некалькі разоў адпраўляла дамоў, хоць тая і не горш іншых ведала. Без жалю, без спачування. Маленькая, рухлівая. Усё бегае і ахае. Любімы зварот: «Мілы друг». Вежлівасць. За гэта яшчэ больш не любілі.

Маці: Не заспакойвай. Я і сама веру, што ён прыйдзе. Ён не загінуў. Калі б мне і сказалі, што ён загінуў, усё роўна не паверу, што яго няма. Ён у мяне ў сэрцы жывы, пакуль я жыву. Калі і пройдзе час, усё буду верыць і чакаць. Такія мы маткі.

Для апавяданняў: на Беразіне (разгром немцаў на пераправе); партызаны занялі горад; канец Курта Клозе.

Захапілі паднальшчыкаў-немцаў пры адступленні.

У кожнага пісьменніка — вялікая ідэя. Наша вялікая ідэя — Беларусь, беларускі народ, інтэлігенцыя. За яе мы павінны змагацца, берагчы іх і расціць.

*(К. Чорны)*

Добры чалавек: 1) хоча здавацца суровым, 2) праз меру лаецца, 3) перад люстрам хмурыцца, 4) крычыць сярдзіта, 5) з жонкай між людзей сур'ёзны. Але ўсё сімпатычна.

Чалавек, які ўсе недахопы заўважае. Талент проста такі.

Шляпа Шэнкермана. Ён працаваў у бальніцы. Бываў вельмі рэдка і то тады, калі прыходзіў выкладаць. За сталом дырэктара бібліятэкі самога дырэктара не было, але шляпа вісела на цвіку. Значыць, дырэктар тут. Дырэктара бачылі рэдка, а шляпу часцей.

Праз год пасля фронту чалавек пачаў маладзець, усміхацца юнацкі, беззаботна, весела, беспрычынна. Ён часта хацеў быць сталым як раней, але юнацтва брала сваё.

Маладыя людзі вельмі часта адчуваюць жаданне вылажыць душу. Пакуль не вылажаць, адчуваюць нейкі назойлівы цяжар, яны шукаюць слухача, і калі бывае хвіліна, то з жарам і шчырасцю ўсё выкладаюць. Гэта хвалюючыя цікавыя мінуты.

Усе сапраўдныя памяшканні ад артабстрэлу, і бамбёжак, і мін разбурыліся. Іронія лёсу заставіла побач з імі маленькія дрэнныя баракі, пабудаваныя немцамі ў час вайны. Жылі ў іх.

Вельмі многія ўходзілі ў партызаны ў апошнія месяцы перад вызваленнем Чырвонай Арміі. Частка ішла для таго, што, адчуваючы наближэнне суда, спрабавала

замаліць грахі. Іх расстрэльвалі партызаны, як здраднікаў. Другім удавалася.

Дзяўчына не хоча любіць, але не можа ўтрымацца. Непераможнае ўлячэнне. Здзекваецца над сабою, моцна кахае.

Хітры чалавек часта любіць гаварыць: «Паслухай маю дурную галаву». Разумны.

Спачатку раненых сустракалі з кветкамі, хадзілі паглядзець на жывога раненага. Асабліва ў тыле далёкім — Іркуцку і т. п.

Забыты ранены. Калі ранілі, згубіў прытомнасць. Пасля вярнулася сазнанне, ён замёрз. Была глыбокая восень. Ляжаў у нязжатым жыце. Прыпоўз у сяло, з трывогай слухаў. Не было нікога, толькі сляды нядаўняга бою. Разбітыя хаты. Ні аднаго жыхара. Жывая кошка. Паміж перадавымі краямі. Некалькі выбухаў мін. Прыўзняўся. Стрэл нямецкага снайпера. Наш стрэл побач. Ён маўчаў, баяўся памыліцца. Папоўз, стаміўся. Бачыў, як снайпер наш звяртаўся дамоў. Было позна клікаць. Пад вечар прапоўз далей. Вечарам нашы занялі хутарок. Ён прыпоўз назад у хутарок. Санітары падабралі.

Вучоны-хімік застаўся на акупаванай тэрыторыі. Каб жыць, пачаў рабіць мыла.

Партызан-разведчык у занятым партызанамі сяле жэніцца. Вяселле, як ніколі.

Старасце на новы год прыслалі пасылку з Германіі. Ён закрыўся ў кабінеце і адкрыў. Калі пачаў разрываць абвёртку, пасылка ўзарвалася. У яе партызаны палажылі міну. Стараста загінуў. У пасылцы запіска.

П'яны Ш. захацеў сказаць тост. Падвыпіўшыя студэнткі не хацелі слухаць, рагаталі. Ён папрасіў супакоіцца, тыя не змоўклі. Тады Ш. устаў на стол і працягнуў руку. Яго паслухалі. Звярнулі ўвагу.

Партызаны ў нямецкай форме прыехалі на машыне к старасце. Усё выпыталі. Пасля лаялі ад імя немцаў, пасадзілі ў машыну і павезлі. Расстралялі за сялом. Прыехалі немцы, і тады людзі ўзналі, што тыя былі партызанамі. А раней усё здзіўляліся, што самі немцы знішчылі такога сабаку.

На дарогах — мяшочнікі. Пакуль поезд стаіць — ціха, ледзь крануўся — усе бягуць к вагонам, забіраюцца ў тамбур, на вагон. Міліцыя ганяе на кожнай станцыі.

Нетанцуючы, які, стоячы каля сценкі, здзекваецца над танцорамі, прамывае костачкі ўсім.

Чалавек, які ўсё аб'ясняе — карціны, выпадкі, гістарычныя з'явы (жанчыне). Нудны, неглыбокі, усё павярхоўна ведае, легкадумны.

Ларчанка ругае. Ён не можа не смяяцца. Таму смяюцца і тыя, каго ён ругае. Увайшоў у рэктарскую:
— Што вы рабілі?
— Ругаў.

Г. хваліцца сваімі вершамі. Усё, што на розуме, тое і на языку — усё начыстую. Усе планы адкрывае. Ва ўсім упэўнены, ні аб чым асабліва не турбуецца — усё ў яго руках, варта толькі захацець. Трымаецца спачатку важна, а пасля сказваецца маладосць. Ён часта схватваецца, стараецца зрабіцца сур'ёзным.

Старуха — 22 няшчасці. Увесь час ахае і да ўсіх прыстае з расказамі пра свае шматлікія хваробы. Наракае. Працуе старожкай, усім надаела, усе яе пазбягаюць.

Немцы на вуліцах Масквы — 17 жніўня. Міма Сходні праязджалі эшалоны. Запыленыя, худыя пазіралі з вагонаў немцы. Людзі беглі паглядзець.

Танкісты адступалі па варожым тылам. Зіма, лютыя марозы. На ноч адваёўвалі нечаканым налётам палову вёскі ў немцаў або ўсю, выстаўлялі варту, а самі адпачывалі і грэліся. Раніцай ішлі далей.

Раненыя, стаміўшыся, абяссілеўшы, заначавалі ў сяле. Зайшлі ў хлеў і заснулі. На раніцу прыйшлі ў хлеў немцы. Адзін прачнуўся першы ад гукаў нямецкай размовы, замёр. Немцы ўвайшлі і скамандавалі: «Рукі ўгору!» Ён падняў. Тым часам прачнуўся другі — ззаду яго, схапіў аўтамат і пусціў чаргу ў немцаў. Палажыў іх. Яны адразу кінуліся ў агарод, пакуль не спахваціліся немцы. Ляжалі, не маглі ісці, а ў сяле іх шукалі.

Расставанне з Вовам, які ўязджае ў армію. Яна сумуе, а ён смяецца. «Не смейся! — крычыць яна.— Вот хочаш — заплачу». Яна, злуючыся на сябе, заплакала, а ён здзекваўся. У дарозе ён засумаваў, некалькі дзён усё ляжаў на верхняй полцы і ні з кім не перамовіўся ні адным словам.

Пасля расставання. Змучаная і абяссіленая, яна звярнулася дадому, з пачуццём пустаты, заснула. Гадзіны праз тры прачнулася — перад вечарам. Яна адпачнула, і цяпер гора лягло з усёй цяжкасцю. Упершыню пасля расстання яна адчула, як многа яна згубіла. Пачуццё адзіноты. Усё напаміналa пра яго. Кожная рэч гаварыла пра яго, разрываючы яе сэрца горам. Яна зарыдала раптам і кінулася на пасцель галавою ў падушку. Уперадзе была ноч. Пачуццё адзіноты. Усю ноч не спала, плакала. Ранкам устала — пахудзела, пастарэла на многа год.

З Мінска выязджалі праз палаючыя вуліцы. Па некаторых вуліцах нельга было выехаць, і яны звярталіся, ехалі на другія. Нарэшце пасля загаду закрыць твары хусткамі шафёр павёў машыну на ўсім хаду ў агонь. Праскочылі. Яшчэ раз прыйшлося праскокваць. Урэшце выбраліся з горада.

Пасля разлукі пачуццё пустаты. Усюды адчуваецца няхватка таго, каго мы згубілі. Ніхто не можа яго загубіць, усе здаюцца нікчэмнымі ў параўнанні з ім. Сярод людзей адчуваеш адзінокім.

Чамаданны настрой. Складзены рэчы, яшчэ не ўсё падрыхтавана, чакаю дня выезду. А сэрца і думкі ўжо даўно ў дарозе, будуе мары, ляціць.

Перад боем нервовы, запальчывы чалавек, у баі знаходзіць сябе — халодны, спакойны, стрыманы.

Нехта [redacted] партызан крыкнуў: «Танкі ўперадзе!» Партызаны рассыпаліся па лесе, чакалі. Трывожныя мінуты чакання. Хлопец-камандзір камандаваў сваім:

— Трымацца мяне! Слухаць мяне! Падрыхтаваць гранаты! Не палохацца!

Потым аказалася, што нічога не было. Проста паніка.

Душа-хлопец, падобны на Наздрова (Ліванава). З усімі на «ты», бесцырымонны, усіх нават незнаёмых абдымае, гатовы расцалаваць. Лёгка можа разругацца, змяшаць «друга» з зямлёй.

Сяляне ў рэчах перш за ўсё бачаць практычную прыгоднасць. Таму іх сталы не вельмі прыгожыя, але затое моцныя. Так і з хатай і з усім. На рэчы затрачваецца толькі самая неабходная частка працы. (Здаецца, недзе чытаў такую ж думку). Жанчына таксама цэніцца, як працаўнік. З ранніх год прывучаюць яе к гэтай думцы. Яе вучаць варыць, прасці, мыць і ўсяму таму, што патрабуецца ад жанчыны ў гаспадарцы.

Партызан — дзед з барадой.

Калі адступалі па Магілёўскім шасе, прафесар убачыў упершыню Беларусь ва ўсёй прыгажосці. Ён сам быў зачараваны ёю. Пасля вайны пакляўся яшчэ раз пабываць у гэтых месцах і надыхацца ўволю. Цяпер не мог, перашкаджалі думкі пра немцаў і тое, што трэба было спяшацца. Ён ішоў пешша.

Пакідаючы дом, думалі вярнуцца пасля бамбёжкі. У думках не было, што расстаюцца надоўга. Калі сын сказаў: «А можа, нам не прыйдзецца болей звярнуцца»,— маці паругала яго. Аставілі ўсё. Дзверы замкнулі, каб ніхто не зайшоў. Вярнуцца не прыйшлося.— Вярнуліся праз тры гады. Дома ўжо не было, толькі куча цаглін.

Прафесар Н. вельмі любіў гаварыць. Размовы самыя разнастайныя — ад сваей біялогіі да атаварвання

літэрных картак. «Знаеце, прыхожу я ў літэрны магазін, пытаю...» Вельмі добры, яго любяць. Калі сустракаюцца прафесар Н. з прафесарам Набокавым, размова ідзе доўгі час і ажыўлена.

Набокаў вазіў з сабою ў сумцы складны стульчык у прыгарадным вагоне. Калі месцаў не было, ён разгортваў свой стульчык і садзіўся — слабыя ногі. Праз плечы разам з сумкай раменьчык з тэрмасам — заўсёды пераваранная вада. На лекцыях вельмі захапляўся, перапынкаў не заўважаў і добра калі схамянецца, зробіць перапынак пасля дзвюх лекцый. Чытаў без усякіх запісак, без кніг.

Чалавек, які заўсёды і ўсюды спазняецца.

Н. усюды спяшаецца. Няма ніколі свабоднай хвілінкі. Часта нябрыты, усюды носіцца са справамі. Да 40 год не найшоў часу жаніцца. Жыве халасцяком.

Чалавек, які не можа сядзець без справы. Заўсёды што-небудзь робіць. На ўвесь узвод робіць партсігары, мундштукі. Пажылы. Прывычка — быў столерам у калгасе ці ў арцелі ў горадзе — не можа інакш.

Масква аглушае вясковага чалавека. Адчуванне разгубленасці ў гэтым моры людзей. Галава баліць ад грому трамваяў. Нервы нацягнуты, стомлены, кожную [хвіліну] аглядайся і бойся. Да ўсяго — вечная чарга ўсюды, нават за вадой. Не спадабалася. Ён быў здзіўлены яе прыгажосцю, багаццем, шматлікасцю магазінаў і кіно, такой колькасцю машын і трамваяў.

Стоража за тое, што ён заўсёды гаварыў «не маю права» — быў строгі і пунктуальны — студэнты называлі «не маю права», замест прозвішча.

— Хто не дае?

— «Не маю права».

— А! Ну нічога не паробіш. І не дасць.

Бомба адарвала вугал дома. З унутранай сцяны над абломкам падлогі на ніжняй завесцы віселі дзве-

ры, і на іх надпіс: «Кабінет методыкі». На абломку падлогі вырасла трава.

У дарозе шпарка знаёмяцца, людзі нейкія бадзёрыя, ажыўленыя. Шпарка знаёмяцца і скора забываюць. Жанчына (Ліля) ехала з Людкай. Найшліся «мамы», «папы», нават жаніхі. Няньчыліся, жартавалі. На станцыі, пакуль стаяў цягнік, дапамаглі вынесці рэчы.

Дзед не хацеў плаціць 1 р. 30 к. за паездку ў прыгарадным цягніку. Ехаць без білета ён не хацеў з-за павагі да сябе. Хадзіў пешша. Ён не быў скупым, прывычка. Грошы прывык цаніць вышэй сваёй працы. З працай не лічыўся ніколі (сколькі ён перавярнуў яе за сваё жыццё!), а з грашамі прыходзілася лічыцца вельмі часта і берагчы іх.

Сторaж у Хімкінскім гаркоме партыі. Стары рабочы, падпольшчык, быў на катарзе. Сакратара ЧК вельмі паважае, так, як цяпер не могуць. Усю гісторыю партыі на ўласных прыкладах перадаць можа. Разгаворышся, многа цікавага раскажа. Але на гэта трэба выклікаць, звычайна. Дзелавы, строгі і ветлівы.

— Вам к каму?

— На бюро.

— Пачакайце тут, скора пачнецца.

Пажылы.

Немцы баяліся хадзіць праз вуліцу, пераходзіць з упраўлення на кватэру. Зрабілі падземны ход — так надзейней. Вокны замураваны цэглай, зроблены байніцы. Калючы дрот.

Бацька ехаў у Алексіцкі млын у дзень нападу эсэсаўцаў. Каля кабылы, выбрыкваючы, бег лашачок. Уехаўшы ў вёску, бацька здзіўлены спыніўся — па вёсцы стралялі снарадамі. Лашачок захроп, раздуў ноздры і, падняўшы хвост, пачаў трывожна бегаць вакол маці. Пасля пачулася страляніна на сярэдзіне вёскі, пабеглі плачучыя жанчыны. Бацька завярнуў назад і на ўсю сілу хляснуў кабылу. Яна рванулася, і лашачок нёсся ўперадзе з храпам. Разам з бацькам выратавалася жанчына, ён яе ўзяў на воз з дзіцем.

Блізнец з часцямі Чырвонай Арміі ўвайшоў у сваё сяло. Спытаў пра жонку і дзяцей. Ніхто не адказаў, гаварылі, што яна пераехала ў другую вёску. Ён перабраўся ў тую вёску. Калі перадавыя часці занялі, і там яму сказалі, што сям'я ўжо два гады як загінула. Хлопчыка спалілі, а жонку расстралялі. Закапалі за хлявом, бо немцы не дазволілі хараніць. Ён раскапаў магілу — жонка ляжала нібы жывая, час збярог яе. Доўга ён у горы сядзеў перад ёй. Потым перанёс на могілкі і там схараніў, сам капаў яму, сам захаваў. Нікога не засталося. Ад хлопчыка захавалі толькі мяшочак попелу — сабрала бабуля чужая.

Па шляху ехалі немцы. Дзеці, убачыўшы нямецкія машыны, спалохаліся, кінуліся на коней і ўцякаць. Машыны, заўважыўшы ўцекачоў, спыніліся і адкрылі па ім агонь. Аднаго хлопчыка забілі, а двум іншым удалося ўцячы. Немцы пачалі страляць запальвальнымі кулямі па сяле і спалілі палову хат.

Чалавек выпадкова напароўся на міну. Раніўся.

Тыталь наводзіў страх на ўсё сяло. «Кончылася цяпер ваша панства. Нямецкая ўлада нам дала правы. Я табе прыпомню!» — гаварыў ён бацьку. Брыгадзіру, які яго часта ругаў за ленасць і халатнасць, таксама пагражаў. Уся вёска чакала, што ён наробіць. Даведаўся, што бацька і яшчэ некаторыя дапамагаюць партызанам, пагразіў, што паведаміць немцам. Але партызан папярэдзілі раней. Ноччу да яго прыйшлі. Яго не было. Пачакалі і ўжо сабіраліся ісці назад, калі ўбачылі яго з бацькам яго. Увайшоў у хату, партызаны за ім. Спакойна загадалі збірацца. Дарогай ён прасіўся, плакаў. Завялі на могілкі і там прыкончылі ўдвух. Сяло з палёгкай уздыхнула. Паліцыя нічога не магла найсці.

Раніцай прыйшоў Бельскі. Пастукаў ціха, спыталі — хто, адчыніла. Абняліся, пацалаваліся. Усталі дзеці — Бельскі, Бельскі! Расказаў пра сваё жыццё, распытаў пра сяло. Трэба перадняваць у сяле. Атрад разбіты, ён сам прагаладаўся. Трэба расціць атрад. Накармілі. Прапанавалі ў спальню, адмовіўся. Палез на

чардак. Туды прыносілі есці, прыходзіла Юля. Усё сяло ў той жа дзень ведала пра тое, што Бельскі на чардаку, і пыталі — ці праўда. Бацька злаваўся, а аднаго нават пабіў за паклёп, так што людзі ледзь разнялі. Верылі і не верылі. Ноччу Бельскі пайшоў у лес. З прадуктамі.

Калі прыйшлі немцы, бацька ўзяў кабылу. Некалі гадоў дзесяць назад яе абагулілі ў Сафрона. Цяпер ён прыстаў да бацькі — аддай!

— Чаму аддай?

— Яна мая.

— Якая ж яна твая, калі яе яшчэ ў 31 годзе абагулілі ў калгас. Яна калгасная, а не твая.

Счапіліся. Адабраць яму не ўдалося. Напісаў на бацьку бургамістру.

Партызан служыць паліцэйскім. Ледзь не забілі партызаны памылкова. Пакуль раз'яснілася справа, пабілі добра. Рабіў вялікую работу, разведчык.

Работа ў полі. Выязджалі ўсёй гаспадаркай: дзеці, конь, карова, рэчы дамашнія. Дзеці вартуюць, як толькі паказваецца пыл на дарозе, паведамляюць, бацькі ў кусты. А гаспадарка ўвесь час у кустах. Свінка ніяк не хацела аставацца адна. Яна вельмі дружыла з каровай. Аставяць яе, а яна прыбяжыць і, рохкаючы, бегае, шукае карову. Знойдзе і не адыходзіць ад яе. І ў лес, і ўсюды, нібы сабака бегла. Збераглася ад немцаў.

У Глінішчах стаяў танкавы батальён немцаў. Атрымалі танкі, на нейкае свята прыехаў начальнік — быў парад. Паехалі на фронт. Праз некалькі дзён звярнуліся — эшалон пусцілі пад адкос, а людзей, якія ўцалелі, дабілі партызанскія кулі. Уцалела некалькі чалавек. Звярнуліся чорныя, гразныя. Пахавалі астаткі трох забітых афіцэраў, што знайшлі. Былі яны накрыты матэрыяй, ніхто не бачыў твару. Захавалі каля могілак...

На дарозе. Падняў руку — машына, не спыняючыся, праехала. Ён падняў пляшку з гарэлкай — стоп! Давай пляшку, садзіся.

Росцік: перад немцамі, перакінуўшы палку праз плячо («мамамат») крычыць: «Я — ціцізан!» (Партызан). «Пу! Пух! Пух!» — накіроўвае «мамамат» на немцаў. Маці самлела. Хаваюць яго далей ад немцаў.

Любіць вінтоўкі, носіцца з імі. Патроны збірае.

Хварэла тыфам. Кашмарныя прывіды. Прыйшоў муж дадому — не пазнала, не радуецца. Ён пастаяў каля яе, паклікаў, спытаў — ці пазнае. Ты — алексіцкі каваль! Праз дзень у хвіліну палёгкі — пазнала, усміхнулася ледзь-ледзь, прашаптала: «Грыша!» Усмешка так застыла. Потым зноў нічога не памятала. Прыйшла ў сябе, узрадвалася. Усё было радасна. На дварэ вясна. Расцвітала груша. Ясныя дні. Высокае сіняе неба. Як хораша жыць! Да ўсяго хацелася дакрануцца, паспытаць.

Маша. Кожную ноч прыходзілі партызаны. Ніхто не гнаў такой моцнай гарэлкі. Яна давала хлеб, малако. Расказвала вясковыя навіны. Прыходзілі паліцэйскія, выпытвалі. Яна іх паіла і запэўняла, што нічога не ведае, што сільна баіцца немцаў — не дай бог чаго. Адзін раз паліцэйскія прыйшлі і хацелі пабіць, яе не было. Збілі чалавека — столяра-брадзягу, які лажыў падлогу. Ён захварэў і чуць не памёр.

Пасля трагедыі ў Алексічах было многа раненых дзяцей у агародах, у жыце.

У Алексічах. Немец убег у хату, агледзеўся, убачыў хлопчыка каля печкі. Зняў гранату, вырваў шнур і спакойна кінуў. Выбег з хаты. Хлапчук кінуўся за печку. Граната ўзарвала печку. Ён упаў, засыпаны каменьчыкамі і каменнямі. Хату запаліла. Ён ачнуўся і выпаўз з палаючай хаты ў агарод у гарбузы і схаваўся. Перачакаў.

Жанчына, калі фронт быў у Алексічах, чула, як вязлі раненага ў жывот. Гразь замерзла, храпа, павозка стукае, грыміць.

— Ну, ты цішэй, ты цішэй, усё нутро адрываецца. Ой! Не магу,— і зноў спакойней.— Ну, асцярожней. Няўжо ў цябе няма сэрца. Зразумей, што трэба цішэй.

Яна ўспомніла пра свайго сына, які недзе на фронце, і вельмі перажывала. Той баец памёр, пасля расказалі ёй.

Калі ішла страляніна ў Алексічах, Адаму (ён ехаў з возам сена) гаварылі, што туды ехаць небяспечна. Ён не паслухаў, паехаў, каб у выпадку чаго выратаваць што. Прыехаў у разгар бойкі. Спыніў каня, прывязаў лейцы к возу. Немец прыбег і забіў на месцы.

Паліцэйскі хацеў украсці патэфон. Прыйшоў да жанчыны:

— Аддай Касабуцкага патэфон.

— Які ж Касабуцкага. Няма ў мяне яго.

— А гэта чый? Можа, не яго. Партызанская шпіёнка.

— Што крычыш! Хочаш узяць, граб, так і скажы. Бяры, бандыт.

П'яніца Хведар. Работаў бургамістрам, за гарэлку прадаваўся ўсім. Загінуў таму, што, напіўшыся, паспрачаўся з немцам, які прыехаў да яго за хлебам. «Не дам!» Схапіўся загрудкі. Той выняў пісталет і застрэліў.

Зямлянка ў Каранёўцы. Цесная яма. Вядуць у зямлянку ступенькі з ямкамі, у якія ў часе дажджу сцякае вада, каб не пападала ў зямлянку, у зямлянцы справа ад уваходу печка, ад яе да дальняй сценкі нары для ўсёй сям'і. Справа ў кутку стол з дошак. Над ім полкі для хлеба і пасуды. Цесна. Сыра. Безліч мух. Цёмна. Павярнуцца недзе.

У часе акупацыі ў сяле ніхто спакойна не спаў. У сям'і абавязкова хто-небудзь адзін дзяжурыў, сачыў за вуліцай, ці няма немцаў або паліцэйскіх.

Насцярожанасць даходзіла да таго, што, калі хто-небудзь па справе перабягаў вуліцу і бег на агарод па шляху да лесу, выбягалі іншыя, гледзячы друг на друга. Пасля вярталіся, калі заспакойваліся. Жартавалі над сабою.

З немцамі прыехаў чалавек, які добра гаварыў па-руску. Быў ён нямецкім афіцэрам, у нямецкай форме.

Вадзіў немцаў — бачылі людзі — у поле, на дарогу і ўсё расказваў і паказваў рукамі — і гэта, і гэта. Ён добра ведаў месцы, і людзі былі зацікаўлены афіцэрам. Старыя гадалі, ці не пана Аскіркі сынок, толькі ён тады быў маладым, хіба ж пазнаеш цяпер. Расказвалі, што ў Каранёўцы ён пазнаў адну жанчыну, якая была слугой у Аскіркаў, і сказаў, каб яна не турбавалася, ён заступіцца калі трэба за яе. Ён назваў яе па імю, і яна была вельмі здзіўлена і напалохана, што яе імя ведае нямецкі афіцэр.

— Сына Аскірку памятаеш?

— Ён тады быў маленькі.

— А цяпер афіцэр.

— Няўжо гэта вы?..

Скора ў Глінішчах афіцэр сабраў сходку і трымаў прамову. Расказаў, што ён сын Аскіркі. Што сяляне павінны спакойна працаваць на карысць сабе і германскай арміі.

Многія ўцякалі з палону і звярталіся дадому. Прыйшло некалькі чалавек. Вярнуўся Ліпніцкі Пеця. Ён пачарнеў, пахудзеў так, што пазнаць немагчыма. Думалі, што не выжыве. Ледзь даплёўся, а такі моцны і малады быў хлопец. Расказваў пра страшныя баі, якія прыйшлося трымаць. І апошняе акружэнне і пабег з палону.

Многія былі ў арміі. Маці чакалі іх, гадамі, аплаквалі. Часамі хто-небудзь прыносіў чутку, што таго бачылі там і там. Казалі, што Іван М. папаў у акружэнне і, каб не здацца немцам, застрэліў сябе. З нагана. Гаварылі, што гэта прасіў перадаць Іванаў таварыш. Потым казалі, што бачылі Івана ў Мазыры, праходзіў з арміяй, перадаваў паклон. Маці не ведала, чаму верыць, але чакала, чакала жывога.

Хлопчык у нямецкім мундзіры.

Вар'ят без прычыны брадзіў па вёсках і гаварыў лозунгі за калгасы. Немцы спаймалі яго і падвергнулі нечалавечым катаванням — партызан. Ён крычаў, ірваўся. Калолі штыкамі.

Быў харошым хлопцам перад вар'яцтвам. Шкадавалі яго людзі.

Раніцай, абапнуты коўдраю, у сяло ўвайшоў партызан. Жанчына спалохалася: у сяле немцы! —а ён спакойны.

Партызаны правялі балотам чырвонаармейцаў у тыл немцаў.

Селянін, якога схапілі ў часе аблавы, засек немца, калі яго вялі да зборнага пункта для эвакуацыі.

Выходзячы з лесу, Апанас Сенька наскочыў на нямецкую засаду. Яго пыталі — дзе партызаны,— а ён не ведаў, бо не партызан. Здзекваліся, мучылі. Васіль Шарамела выпадкова падышоў к засадзе, але спыніўся, пачуўшы крыкі. Паляжаў, убачыў, як мучылі Апанаса, і, не памятаючы сябе, папоўз назад. Па дарозе праехаў матацykліст, супроць яго матацыкл стаў. Ён ляжаў, баючыся, што немец прыйдзе ў лес і можа знайсці. Падышоў другі матацыкл, але першы затарахцеў. Паехалі. Ён расказаў, што бачыў катаванне Апанаса, людзям. Апанаса знайшлі праз некалькі дзён недалёка ад таго месца, дзе была застава.

Баец прасіў прыслаць у пісьме нітачку даўжынёю росту яго дачкі. Як яна вырасла.

Жанчына ноччу шукала дзіця. Спалохалася. Найшлося дзіця. Узрадавалася.

Праязджаючы шляхам, немцы запалілі сяло. Людзі кінуліся ў лес, ніхто не адважваўся звярнуцца, каб тушыць. Палавіна сяла згарэла. Немцы паехалі далей.

Ва ўсіх быў прывід Алексіч, ён страшыў усюды.

Ішоў ваенны строй па шляху. Спявалі: «Партызанскія атрады занімалі гарады». Людзі выходзілі з хат, са здзіўленнем паглядалі на дарогу. Гадалі — хто гэта. Ваенныя былі ў нямецкіх мундзірах. Так паявіліся ўласаўцы.

Часта не прызнаваліся, што яны ўласаўцы. Гаварылі, што немцы. Людзі пагарджалі імі (не адкрыта). Уласаўцы выдавалі сябе за немцаў. Але мовы нямец-

кай не ведалі. Гэта іх выдавала. Другія прызнаваліся, ганарыліся, кралі курэй і разбойнічалі.

Ваенныя Глінішча перакруцілі на «Галянішча».

Каб не ехаць у Германію, усе халастыя жаніліся, выходзілі замуж, нават дзеці. Вяселлі па ўсім старадаўнім звычаям. Дзяўчынка 16 год — нявеста. Яе смяшаць усе гэтыя абрады, яна не можа стрымацца ад смеху. Не ведае, што ёй трэба рабіць, што гаварыць належыць па абраду, ёй падказваюць. Неахвотна выконвае, часамі спрачаецца. Старыя ўгаворваюць, настайваюць. Не аглядвайся назад. Калі выязджалі — конь спатыкнуўся. «Не к дабру!» — гаварылі людзі трывожна. Праз паўгода пасля вяселля немцы расстралялі Ілюшу.

У таварыша К. была неперамОЖная страсць прадаваць. Ён не клапаціўся аб выгадзе, яго прыцягваў сам працэс.

Дзіця, калі смяецца, смешна моршчыць нос.

Воўк уцёк з лесу пасля бою.

На могілках закапалі бульбу, каб немцы не найшлі.

Тыя, каго адпраўлялі ў Германію, напіліся і спявалі песні каля вазоў, на якіх трэба было ехаць. Пеця Ліпніцкі стаяў і кіраваў хорам: «Если завтра война», «Уходили комсомольцы». Яго стрымлівалі бацькі, а ён нікога не слухаў. «Горш не будзе»,— гаварылі дзяўчаты. Вакол хадзілі паліцэйскія.

Сумна было...

У Хойніках Вася Жылянок сустрэўся з таварышам-інвалідам. У Васі пратэз на назе. Прыехалі ў Алексічы ноччу. Пастукалі ў акно. Маці адклікнулася: «Цёця, адкрыйце, гэта я — Міша!» Адкрыла. «Мы з палітруком з МТС. Былі ў Юравічах». Запаліла лямпу. Міша пайшоў распрагаць каня з бацькам. Вася разгаварыўся з маткай. Заскрыпела нага. «Дзеравяная ў вас на-

га?» — «Не... хаця так». «У мяне сынок ранены, год ужо ў шпіталі. Як ён бедны там». З спальні адклікнулася сястрычка. «Вот прыедзе, мама,— сказаў сын,— і не пазнаеце». «Я? Сына заўсёды пазнаю».— «Дык я ж ваш сын, мама!» Маці ўпала ў вобмарак. З таго пакоя вылецела сястра не адзяваючыся. Бацька прыходзіў у часе іх размовы, паздароваўся: «Добры дзень, таварыш ваенны».— «Добры дзень, бацька». Вася раней быў такім азарніком. Засталося ад тых часоў.

Расказ раненага. Таварыш напісаў жонцы, што цяжкаранены, без ног. Жонка прыслала пісьмо, што з такім цяпер яна жыць не можа, прасіла прабачэння. Што ім трэба разысціся. Яна папрасіла згоды на развод. Ён даў. Праз дзве нядзелі атрымаў праўку з разводам. Вылечыўся, з'явіўся здаровы, прыгожы. Яна згарэла ад сораму пры сустрэчы. Яна шкадавала за свой неабдуманы пастунак.

Калі пачалася страляніна ў сяле, Міхаленкі ўцяклі з хаты. Каця з сынам, Ольга ўзяла клунак, а маці бегала, як вар'ятка, і не ведала што ўзяць. Дачка яе тапіла. Яна трывожылася. Стрэлы набліжаліся. Маці сабралася, потым вярнулася — нешта забыла. Калі яны ўцякалі, немцы ўжо ўязджалі на двор калгаса, стралялі. Яны пабеглі праз сад, схаваліся спачатку там. Пасля, калі немцы пачалі паліць хаты і бегаць па садзе і страляць, яны перапаўзлі далей. Іх не заўважылі, можа, таму, што па зямлі слаўся дым ад пажару. Яны падышлі к сілоснай яме. Там сядзелі мужчына і дзеці. Яны ругаліся, што немцы ўбачаць, і сказалі, каб пайшлі прэч. Яны зайшлі ў проса і сядзелі там. Вольга прыпадымалася і глядзела, расказвала, што робіцца ў сяле. Недалёка прабег немец. Стрэл і крык. Яны чакалі сваёй чаргі. Пасля, калі немцы паехалі, не адваждваліся ўставаць, да іх прыйшоў акрываўлены чалавек. Яны спалохаліся невядомага чалавека. Ён сказаў — хто ён — яны пазналі. Ён так змяніўся. У сілоснай яме немцы ўсіх забілі, ён выпадкова выратаваўся. Каця перавязала раненае яго плячо. Ён сказаў, што іх добра відаць з боку калгаса, таму што яны ў лагчыне, і таму ён адразу прыйшоў сюды. Нідзе няма жывых людзей, усё трупы, толькі яны засталіся.

Адзенне дзяўчынцы маці пашыла з нямецкай плашч-палаткі. Сама ў нямецкім мундзіры. Няма адзення.

Перад адступленнем у наша сяло зайшоў настаўнік з Лоева. Яго вялі ў Германію, а ён неяк з жонкай уцёк. Настаўнік падружыўся з нашай сям'ёю. Людзі сабіраліся ў лес, а ён гаварыў, яшчэ не час, і сушыў сухары. Толькі калі фронт зрушыўся ад Дняпра, ён напакаваў мяшок сухароў, узяў некалькі буханак хлеба і пайшоў у лес. Наша сям'я была ў лесе. Ён прыйшоў у наш курэнь. Хлеба ў нас не было, ён дзяліўся. Маці гатавала. «Сухарыкаў хопіць да перамогі. Яшчэ і байцам будзе». Сухары былі добрыя. Ён усё ведаў, разумны і вясёлы. Жартаваў. Любілі яго. «Чырвоныя ў Каранёўцы». Ён першы паведаміў. Другія баяліся выходзіць з лазы, а ён набраў сухарыкаў, хлеба, здуў пылінку. Мяшок за плечы і сустракаў. Сам ён і гатовіў. Жонка маўклівая, нічога не ўмела добра рабіць.

Росцік разбушаваўся ў лазе. Маці ўстрывожана — пачуюць немцы,— угаворвае сціхнуць. Дае яму цацкі — ён не хоча. Паслухае пакуль падаюць іх, уважліва, думаюць — згодзіцца. «Ай, якія харошыя, ай, ай!» — «Вазьмі» — не хочу і зноў крычаць. «На табе гузік, ай, які харошы, блішчыць». Замоўк, узяў гузік, разглядае. «Дай мне яго, мама»,— робіць плаксівы твар Юля, каб заахвоціць Росціка. «Не хачу»,— кідае гузік і зноў прадаўжае плакаць. Бацька зрабіў дудку, супакоіўся. Росцік прасіў аўтамат.

Храшкоў у прысутнасці сваёй былой вучаніцы, якую гадоў дзесяць назад вучыў, цяпер настаўніцы пажылой, не гаворыць анекдотаў. У прысутнасці вучаніцы сваёй: «Не!» Адносіцца ветліва, інакш чым да другіх, як настаўнік.

Чуткі пра тое, што Касабуцкі з атрадам сваім ходзіць — у Алексічах. (А Касабуцкі быў далёка ў эвакуацыі.)

Заложнікі. На міне падарвалася нямецкая машына. Немцы прыляцелі ў Алексічы з машынамі, як тады, калі спалілі вёску, і пачалі збіраць людзей, ганяцца за

ўцекачамі, страляць. Потым сабралі ў кружок. Наставілі куляметы, зацягнулі ленты, папрабавалі цэліцца. Людзі — ні жывыя ні мёртвыя. Расстаюцца друг з другам. Маці пацалавала дачку з дзіцём. Стары дзед уперадзе хрысціцца. Потым пачалі дзяліць на дзве групы: маладых дзяўчат і мужчын у адну, іншых — у другую. Маці хацела зберагчы дачку, папрасіла дзіця ў яе, каб дачку паставілі ў тую групу — тых, мабыць, адпусцяць. Потым перакладчык сказаў, што тая група — мужчыны і дзяўчаты — будуць заложнікамі. Калі яшчэ хоць адна машына падарвецца на міне, яны будуць расстраляны. Іншыя могуць разыходзіцца і памятаць, што гаварылі.

Пагаворкі:

1. Жонка адпрадзе, а мо так прападзе.
2. Жыццё — маліна, гора — палавіна.
3. Жытка — на траіх адна світка.
4. Што яму адходзіць: адно парася забіў, а другое — ходзіць.
5. Туды — на танках, адтуль — на санках.
6. Даў бог цяля, ды не даў бог хлява.
7. Цікавай Варвары нос адарвалі.

Некаторыя сяляне, каб не ісці ў партызаны, адпускалі бароды. 27 год, а барада па пояс. Смешна глядзець. Хаваліся пад койкаю ці на гары. Партызаны знаходзілі.

Вольга захацела пайсці ў партызаны. Партызаны, каб немцы не нападалі на яе сям'ю, зрабілі выгляд, быццам яны прыйшлі ноччу, сілком захапілі і павялі ноччу немаведама куды. Стралялі ў полі. Бабы спачувалі гору яе маці, а іншыя гаварылі, што ўсё гэта, каб абмануць людзей — Вольга даўно сувязь з партызанамі мае.

Пасля немцаў не засталося ні аднаго плота. Усе платы, хлявы пайшлі на апал. Карысталіся сталамі і дзвярамі для апалы.

Немцы на шляху. Партызаны ідуць у млын. Людзі з млына скарэй у вёску. Бой будзе. Абышлося неяк без боя.

Немцы закатавалі сям'ю партызанскага камандзіра Карася В. Помста партызан.

Баючыся мін, немцы загадвалі, каб сяляне кожны дзень «шукалі» мін. Пускалі чалавека з канём з бараной. Часамі людзі і коні падрываліся на мінах. Бывалі выпадкі, калі міну выкрывала барана. Пайшоў баранаваць хлопчык. Барана вырвала капсюль-узрывацель. Ён убачыў міну, спалохаўся, кінуў каня і прыбег у сяло. Бацька пайшоў з ім да міны. Разглядзеў, выцягнуў міну і спакойна адкінуў убок. Партызаны спільвалі слупы. Немцы застаўлялі нясці ахрану слупоў. Партызаны і ахраннікі-сяляне сустрэліся, ахраннікі ўпрошваюць заставіць на гэту ноч.

Партызаны пры нападзе на варожы гарнізон захапілі партызанскага разведчыка (перакладчыка) у нямецкай форме з другога атрада. Ён перайшоў на рускую мову. Не дапамагло, а толькі абазліла партызан. Надавалі яму ў дарозе. Выяснілася — камісар!

На допросе. Дапрашвалі немцы. Усё залежала ад таго, што скажа Ярмольчык — начальнік паліцыі. Ён увайшоў. У Сенькі Васіля рукі задрыжалі — што скажа. Ён патрабаваў скруціць цыгарку — не змог. Ярмольчык моўчкі паглядаў. Цішыня. «Дык ты што ж, адмаўляешся, што не маеш сувязі з партызанамі?» — «Не маю».— «Брэшаш! Маеш. Я наскрозь вас бачу». Ён пайшоў назад у свой кабінет. Васіль зразумеў — усё прапала, расстрэл. Калі яго выводзілі з памяшкання паліцыі (тут раней была міліцыя) к машыне, што стаяла на вуліцы, яго ўбачыла сястра, якая чакала. «Прашчай»,— сказаў ён. Яна заплакала. Калі пасадзілі ў машыну, ён скінуў з сябе кажух і кінуў ёй — мне не трэба цяпер. Немцы адштурхнулі сястру. Пайшла машына. Яна стаяла і плакала. Нічога не бачыла болей вакол сябе. 37 чалавек расстралялі ў той дзень немцы.

Насця Евы-ўдавы. Любіла паджартаваць над кожным. Хлопца якога абсмяяць, дзяўчыну заставіць пачырванець — любімая справа. Вострая на язык — яе любілі слухаць, бо заўсёды насмяшыць усіх. Калі пры-

ехалі ўпершыню немцы, яна разгаварылася з немцам (ён гаварыў дрэнна па-руску).

«Ты хто ест?»

«Я калгасніца».

«Стаханаўка?»

«Я — стаханаўка. А як жа! Была на з'ездзе ў Маскве, Сталіна бачыла».

«Сталіна бачыла?..»

Людзі, што стаялі побач, жахаліся, а яна наводзіла на сябе гібель. Немец пагаварыў, пагаварыў, потым скамандавалі ехаць, ён сеў і паехаў.

«Не знасіць табе, дзеўка, галавы!»

Чысцілі бульбу, яна з немцам. Немец прасіў вучыць гаварыць па-руску.

«А гэта?» — Ён паказаў маркоўку.

«Гэта — мак называецца?»

«Мак... мак... мак... мак...»

«А ты дурань?»

«Што ест дурань?»

«Мак такі, мак».

«А? Мак... мак»,— усміхаючыся, ківаў галавой у знак таго, што разумее, немец.

Трахіма зрабілі сакратаром бургамістра. Паліцэйскі тэрор. «Ты сядзі спакойна — я памятаю, што ты быў у бальшавікоў сакратаром. Толькі, што бацька твой кулак, а то б я табе...» — прыгразіў бандыт паліцэйскі Апанасік, што наводзіў страх на ўсю воласць.

«А ты. Ну што табе савецкая ўлада дрэннага зрабіла? Не раскулачыла, не прыгнятала. А што цябе засудзілі за тое, што ўкраў каня, то і немцы цябе не памілуюць за такое. Кішкі вымуць».

«Ах ты, глухая зараза»,— ускіпеў Апанасік і схапіўся за наган. Убачыўшы, што той спакойны, не напалохаўся, перадумаў.

«Я далажу, што ты агітуеш за саветы».

Пры адступленні нашых Трахім два дні сядзеў на сельсавецкім двары і паліў справы — свае творы за пятнаццаць год работы сакратаром сельсавета. Справы не хацелі гарэць, абгаралі па краям і тухлі. Трэба было разгортваць кнігі. Дзве ночы не йшоў дадому, па-

куль лістка не засталося. Асунуўся, пахудзеў. 15-гадовая праца, бяссонныя ночы. Усё было акуратна падшыта, пранумеравана, і ўсюды даты. Столькі бяссонных начэй. Столькі догляду. Яму шкода было спраў; усё жыццё там за 15 год у падрабязнасці. Быў вельмі працалюбівы. Нічым не адцягнеш, сядзіць, піша, лічыць з ранку да вечара. Толькі і можна спакусіць, прапанаваўшы пайграць у шашкі. У шашкі любіў. Адзіная слабасць, страсць. Заўсёды сражаюцца ўдвух з старым начальнікам аддзела сувязі. Увесь аддаецца. Быў акуратны, точны, усё выконваў у час, нягледзячы ні на што. Не шкадаваў сваёй працы. Уважлівы, чуллівы. Сяляне любілі за гэта. Вялікая сям'я. Жыў бедна. Чаму ніхто не любіць пісаць пра такіх людзей — рахункаводаў, сакратароў. А колькі сярод іх адданых справе, чэсных, людзей — ва ўсім сэнсе слова, скромных!

Старая Губоніха вельмі любіла сына. Пісьмо заўсёды насіла ў Юравічы, каб дайшло, а то што-небудзь можа здарыцца ў дарозе. Не давярала яна лістаносцу і хадзіла пешшу. Адрас падпісваць давала толькі Вользе. Калі Вольгі не было, пісьмо некалькі дзён ляжала. Прыносіла падарункі і прасіла падпісаць толькі ёй.

«А то аднойчы напісаў Грыша, дык не дайшло і прапала ў дарозе. А твае ўсе даходзяць».

Хлопчык, «прайшоўшы» навуку ў нямецкіх салдат, баіцца нашых байцоў. Хмурыцца, палохаецца, не ідзе на рукі.

Уцёк з палона. Калі везлі ў вагоне (людзей было многа, вагон забіт), ён і яшчэ некалькі вылезлі ў акно і скочылі. Радасна, свабодна. Ён найшоў іншых, і яны пайшлі ў лес. Была восень. Замёрзлі. Хацелася есці. Пайшлі ў вёску, нічога не было і там. Ім далі толькі печанай бульбы і сказалі, што ў сяле немцы. Яны з'елі бульбу. Ішлі начамі. Днём адпачывалі, спалі ў стагах, у хлявах, каб гаспадыня не ведала. Іх палохалі сабакі. Вёскі абходзілі. Ішлі па зорам на поўнач да сябе. Астап любіў спаць, не маглі дабудзіцца, калі трэба было ў дарогу. Не любіў хадзіць у вёску, нават згаджаўся лепей галадаць. Адставаў. (У полі найшлі капусную храпу, чысцілі ножыкам. Па копаным полі шукалі

бульбы.) Нейк у лесе яны разлажылі агонь, па дарозе ехалі немцы. Спыніліся. Яны паспрабавалі пабудзіць Астапа, а той ад цяпла і стомы моцна спаў. Але немцы падходзілі — яны кінуліся ў кусты. Немцы ўбачылі соннага чалавека. Што было з Астапам, яны не бачылі. І болей яго не бачылі і не чулі ніколі. Дайшлі да вёскі. Астапава жонка прыходзіла, пыталася, плакала.

Ёсць многа людзей, якія любяць даваць прапановы, папраўляць другіх, крытыкаваць, а самі нічога не робяць. Непрыемныя людзі, як сляпні, перашкаджаюць работаць.

Тут быў некалі дом. Цяпер — пустое месца. А людзі жывуць, і калі іх пытаюць дзе: у доме № 12 па Ленінскай. А дома няма. І прапісаны ў доме. «Няма, дык будзе!»

Жонка яго не выносіла нічога пабітага, паношанага. Усё было чыстым і прыгожым. І сама яна была такою.

Дзяўчынка малодшая, заўзятая, крычыць на старэйшага начальніка. А ён паддаўся яе напору, паслухаўся, пабег. Яна астыла і падумала са здзіўленнем, што ён паслухаў яе, а не адправіў куды трэба. Яна заўсёды такая.

На вечары баяніст так захмялеў, што ледзь дацягнуўшы да канца танцаў, тут жа і заснуў пад сталом. Прачнуўся перад ранкам — баяна няма, босы. Пашукаў — адну туфлю найшоў, а другой — няма. Пайшоў к швейцару — пачаў ругацца. Той узяў лямпу, пачаў шукаць. Найшлі туфлю на трэцім паверсе пад лесвіцай. Як туды папала, невядома. Баян найшоўся ў таварышаў.

Маленькая дзяўчынка, праз меру развітая. Заўсёды сярод дарослых, чуе іх размовы. Яна ведае, што Нат. Пятроўна нядобра вядзе, да яе ходзіць чужы муж, а свой на фронце і піша цёплыя пісьмы і грошы шле. А яна на тыя грошы купляе падарункі чужому мужу.

«Як гэта нячэсна, нізка!»

Прывязлі вінаград з Крыма.

«Добры вінаград».

«Слаўная штука», — гаварылі бацькі.

«Ага, харошая страва!» — сур'ёзна сказала яна.

З дарослай падругай маці на «ты».

Мама ругаецца:

«Як табе не сорамна? Яна ж жанчына».

«Яна не жанчына, а дзяўчына. Па-першае, у яе няма мужа, а па-другое, няма дзяцей».

Чытае «дарослыя» кнігі. Заўважае ў сваіх настаўнікаў адмоўныя бакі, адмоўныя нават больш, чым дадатныя.

Дом застаўся цэлы, а лесвіца разрушана бомбай.

Партызаны па **просьбе** сялян знішчалі здраднікаў.

## 1945 год. г. Мінск

Дзяўчына, якая любіць дурачыць хлопцаў. Робіць гэта са здавальненнем. Расказвае пасля сваім сяброўкам. Прыгожая, вясёлая, гаварлівая.

Цяпер ён быў навучаны горкім вопытам. Ён стараўся ніколі не захапляцца, што цяжка ўдавалася — маладосць кіпела ў ім,— увесь час азіраўся назад. Быў недаверлівы к поспеху і шчасцю. Гэта была другая крайнасць, процілеглая першай. (З часам павінна знайсціся нейкая сярэдняя лінія.)

Няма, мабыць, цяжэй долі, чым матчына доля. Дзеці, расціць іх, з дня ў дзень жыць іх думкамі, іх жыццём, і потым губляць па адным. Адных у дзяцінстве, другіх ад хвароб, трэціх — на вайне. Самае страшнае ў жыцці — гэта маці, якая перажыла сваіх дзяцей. Яна жыве сваімі дзецьмі, якіх перажыла, яе жыццё ўсё ў мінулым. Як прываблівы, мабыць, тыя ўспаміны і як жывы, і яркі яны, і сумны, і балючы. Мужнае сэрца бывае ў матак. Напісаць пра матку.

Толькі той, хто здолен моцна любіць, можа вельмі ненавідзець, да канца. Сіла такога характару. (Напісаць пра такую дзяўчыну.) У жанчын гэта часцей, у мужчын радзей.

Маладыя маці часта пакутуюць ад сілы, якую не ведаюць да чаго прыкласці. Пошукі свайго месца і незадаволенасць.

— Зямляк?
— Зямляк! Па адной зямлі ходзім.

Сэрца томіцца. Яно сумуе. Па чаму — невядома. Хочацца чагосьці, а чаго — невядома. Незадаволенасць нейкая. Такое першае пачуццё кахання. Сум і боль — і ўсё-такі нешта невыразна-харошае, хвалюючае, балюча-салодкае. Ні з чым не параўнаць. Потым каханне робіцца болей ясным, і моцным, і нікольні не губляючы сваёй хвалюючай пекнасці.

Тэма для апавядання — паказаць ненавісны твар «ціхага» чалавека, «мірнага», які неяк ужываўся і мірыўся з немцамі, не змагаўся. Сядзеў і чакаў. Хадзіў у шляпе, панам і раўнадушна пазіраў на разбураны горад, на гора тысяч людзей, на расстрэлы. (Эгаістычныя рысы яго характару. Свой лёс, свая хата, свае рэчы. Любаванне, напрыклад, сваёй бібліятэкай, якая (радаваўся) захавалася. Яна была дарага, ён збіраў доўга, для яго яна даражэй усяго горада, бо яна яго.) Без яго прайшла вайна, без яго мы заваёўвалі перамогу, а ён жыў трутнем, паразітам, адгарадзіўся ад нас. Ён, можа, і не любіў немцаў, але ён наш вораг, ён адтэрміноўваў нашу перамогу. (У час акупацыі ён будаваў сваё асабістае шчасце, шукаў прыгожую дзяўчынку, падумваў пра жаніцьбу. Сеяў свой агарод.) Знешняя культурнасць яго, чыстыя з рудымі валаскамі пальцы, беленькі выгладжаны каўнярок, чысты гальштук, духі, і разам з тым ад яго на мяне дыхае нечым брудным, і, калі прыйдзецца паціснуць руку, мне непрыемна, нібы я паціснуў якому хвораму нядобрай хваробай, і я адрываю скарэй яе, і мне хочацца абцерці іх, памыць. Цяпер ён знаёміцца з нашымі работнікамі, добрасумленна ўсё выконвае, стараецца не ўспамінаць былое.

Таму болей усяго размоў пра літаратуру, пра ігру артыстаў і інш. І ад усёй размовы тхне тым жа непазбеглым пачуццём бруднага і няшчырага. (Ён мастак. Малюе карціны, сядзіць над імі. Плакаты.)

Калі ён, гаворачы, захапляўся, вочы ў яго пачыналі блішчэць і бровы прыгожа і неспакойна (рухаліся). Ёй вельмі падабаўся гэты рух брывоў яго.

Апавяданне пра тое, як салдат імкнуўся да роднай зямлі, як сумаваў па ёй і гараваў. І першая ноч, калі салдат, перайшоўшы Дняпро, увайшоў на родную зямлю. Ноч.

Сябры. Мы вярталіся назад з разведкі, цяжка было пакідаць яе адну, бераг родны адыходзіў назад.

Усім грабленым убраны нямецкія пакоі. Яны любяць пышнасць і багатае ўбранства. Пакоі нібы цэлыя музеі. І інш.

Для яго асабістае шчасце было немагчыма без шчасця Радзімы. Пакуль Радзіма была ў бядзе і горы, ён ніколі не забываў гэтага.

Сонечная раніца ў Мінску.

Немцы выхваляліся расправамі з сялянамі, пажарам сяла. Паказвалі друг другу здымкі.

Калі былі немцы — прафесар працягваў работу, яшчэ пачатую да вайны. Ён ведаў, што немцы — гэта часовае, што яго работа будзе патрэбна. Работа тады здавалася такой недарэчнай.

Былы партызанскі камандзір на новай рабоце. Як ён вучыцца кіраваць, перавучваецца. Цяжкасці (Тэма аповесці).

У жанчын (некаторых) ёсць нейкае пачуццё ўгадваць людзей па адным слове, інтуіцыяй, можа.

Жанчына, якая вельмі многа балбоча, ліслівa ўсмі-

хаецца. Няшчырае і хлуслівае нешта. Нешта непрыемнае і бруднае ад яе.

Ад Брэста да Гомеля. Шлях артылерыстаў у 1941 г. (Падзенне аднаго героя, здзівіўся пасля свайму гераічнаму ўчынку, разгубіўся, у другі раз струсіў. Шлях да сапраўднага геройства. Свядомае геройства.) Баі пад Гомелем. (Аповесць).

Кіраўнік нявопытны. Сам нічога не адважваецца рабіць, за кожным глупствам да сакратара райкома (былога камандзіра палка) за парадай, жыве на парадах. Ідзе за падзеямі, яны вядуць, а не ён кіруе. Як паступова ён пачынае браць адно за другім у свае рукі і кіраваць. Нараджаецца кіраўнік, падзея. Навучаецца прадбачыць і прадугадаць. Актыўная воля яго ў ходзе падзей вядзе на поспех.

Нашай беларускай літаратуры не хапае глыбокай філасофскай думкі (за выключэннем хіба Чорнага) і, можа, увогуле глыбіні пранікнення ў рэчы, падзеі.

Наша літаратура як ні адна народная, цалкам народная. Мы амаль не ведалі класіцызму, рамантызму, сентыменталізму. У гэтым і сіла яе, і слабасць, абмежаванасць.

Наша літаратура (правільней проза) нясе адбітак нейкага правінцыялізму. Патрэбен пісьменнік, група пісьменнікаў, якія б прарвалі правінцыяльную абмежаванасць і паднялі б літаратуру (прозу) на ступень агульнасаюзную, агульнасусветную.

Без моцнай хвалюючай філасофскай думкі, ідэі нельга стварыць харошую рэч. Перш за ўсё ідэя, філасофія. Яна — кроў, якая дае жыццё твору! Сюжэт не забываць. Мастацкі твор — мастацкі твор, а не навуковы трактат. Мастацкі твор павінен быць захапляючым і ўздзейнічаць на эмоцыі.

Аднаўленне Мінска.
Выбухі на вуліцах — ірвуць каробкі.

**Сын**

Сын маці загінуў на фронце. Як яна пачынае любіць таварыша сына. Спачатку плакала. Усё ўспаміналa свайго сына. Спачатку гэты быў чужы. І ўсё пытала, каб расказваў пра таго, яе. Зайздросціла, калі ён быў шчаслівы. Як пачынала любіць у сынавым таварышу сына. Вобраз таго зліваўся з гэтым. Ён станавіўся сынам. Не забывала і таго. Яны абодва былі яе сынамі. Гэты быў брат, і ў яго любві да таго сына было брацкае пачуццё. Сын паказаў, як ён непакоіўся, баючыся прызнацца. Яна даведалася. Вечар. Яна жадала яму шчасця. Туга па тым сыне не праходзіла і не пройдзе.

*(«Сын» Антакольскага)*

Выпадковы пацалунак. Хлопец, успамінаючы той п'яны і вясёлы вечар, чырванеў, ніякавеў — як яна злавалася. Такую дзяўчыну страціў і дружбу. Стараўся не глядзець. А яна смяялася сціха і рабіла строгі выраз.

Снег у красавіку.

Немцы прымушалі харыстаў спяваць. Яны забілі кіраўніка хору і некаторых салістаў, але так нічога і не дабіліся. Яны не пелі немцам. Учора яны выступалі перад савецкімі людзьмі. Успаміналі тых, хто загінуў, не даспяваўшы сваёй песні.

*(Апавяданне «Лебядзіная песня»)*

Ён спеў раз за ўвесь час нямецкай акупацыі. Праспяваў, ідучы на шыбеніцу. Песню, якую склаў ноччу! Цяпер яны пелі тую песню, глядзелі на людзей, што сабраліся тут, і плакалі, успамінаючы лебедзя.

Страх прыдаў яму храбрасці.

*(Мапасан «Возвращение»)*

Каханне духоўнае і фізічнае. Спачатку часцей — фізічнае. Духоўнае ўзнікае звычайна пры блізкасці і ў глыбокіх і высокіх натурах. Духоўная любоў мацней, яна можа любіць і ўрода (Марыя перажывае гэты перыяд ад фізічнага да духоўнага, узвышаецца, застаецца вернай.) Фізічнае каханне аднабаковае. Вайна ўглыбіла пачуцці.

Вярнуўся любы (ці муж). Ранены. Яна яго шкадуе, з-за доўгу. Кахання няма. Ён разгадвае, горды. Адвяргае пачуццё, у якім няма кахання. Моцная натура. Глыбокая, духоўная. Змагаецца за права быць роўным у жыцці. Самае дарагое засталося — душа, розум, пачуццё. Чысты чалавек.

*(Апавяданне)*

Аб'ясніць немагчыма: усё роўна, што сляпому расказваць, што такое чырвонае.

Яна ніколі не выступала, не магла гаварыць ад пачуцця, але неспакойна рэагавала, то негадавала, то згаджалася, не прапускала ні слова.

Было такое вялікае шчасце, што не верылася. Днём яна думала, не верыла неяк. Усміхалася невядома чаму. Пакуль прывыкла. Тады зразумела глыбіню шчасця, і яно так захапіла.

— Я ж шчаслівая.

Калі вораг не здаецца.

Апавяданне.

Як упарта змагаўся акружаны нямецкі гарнізон. Але нашы аказаліся яшчэ мацней. Цяжкасць бою і перамогі. Перамога.

Ён тысячу разоў пытаў у вызваленых нявольніц, ці не чулі, дзе яго жонка. І ўсе адказвалі — не ведаюць і не чулі. Цяжка было адказваць, а яму чуць. Але ён пытаў у тысяча першы. І яе ўсё не было. (Пакуль ішла вайна, ён верыў, што знойдзе, не губляў надзеі. Цяпер — усё было ясна: яе няма і не будзе ніколі.)

У мастака павінна быць чыстая душа. Без чыстай душы не можа быць сапраўднага мастацтва... Ён іграў вельмі правільна і ўмела, але К. адчуваў у кожным яго гуку нейкую фальш, хібу. Ён і сам не мог выразна вызначыць, у чым яна тая фальш, усё нібы правільна, але пачуццё гэта не пакідала К., запэўняла ў гэтым. (Пачатак апавядання.) К. затым найшоў прычыну фальшы — гэты чалавек быў нячысты душою. У часы ня-

мецкай акупацыі ён выступаў перад немцамі, служыў ім.

Як Г. змагаўся з пачуццём кахання, як змагалася каханне і розум, развага. Цяжкая барацьба. Спачатку перамагло каханне; каханне і горач, боль, роздум; трагічная развязка.

Ён так яго напалохаў, што сам уцёк у другі бок напалохана.

Сляпы шукае шлях да сваіх. Ранены. Перажыванні яго.

«Трутень». Сталинская молодежь. 30/V-1945 г.
Сэнс жыцця — праца. Быць карысным Радзіме. Без працы, натхненняў няма жыцця.

*(Апавяданне)*

Зноў у паход. Далей, уперад. Яму шкада было пакідаць гэтую стаўшую роднай хату, дзяўчыну і рэдкі чалавечы ўтулак. Затрымаліся на ноч.

Народ карміў партызан. Экспедыцыя ў сяло: здаць пяць свіней для партызан.

Сустрэліся пасля доўгай разлукі. Яна прасіла яго гаварыць, расказваць. Яна слухала, і ад таго, што чула яго голас, нейк паўней адчувалася яе шчасце. «Гавары, я хачу слухаць твой голас! Я так доўга яго не чула».
Вось і здаецца, дзіўна,— што не было ні вайны, нічога не было. Нібы мы нядаўна разлучыліся. А тое ўсё сон, страшны, сумны сон.

У кожным мастацкім творы ніколі не забываць сюжэт, умець лёгка і прывабліва падаць рэч. Каб яна цягнула да сябе неадрыўна (каханне і інш.). Ніколі не забываць гэтага. Без ідэі не можа быць харошай рэчы (без тэндэнцыі таксама). Гэта аснова.

Ведаць густ, патрабаванні — твар таго чытача, на якога разлічваем. Быць звязаным з чытачом, народам.

Пасля цябе я не магу нікога любіць. Мне ўсе не падабаюцца. Усе здаюцца такімі пустымі, простымі, нецікавымі. Н.— добры, мяккі, з ім забываецца гора адразу, лёгка і... нудна. А ты — ты прыносіш толькі боль мне. Ты столькі болі зрабіў мне, здаецца, усё — толькі боль. Ты паедзеш, то думаеш аб адным, аб другім, гарыш, а аба мне мала думаеш. Насмешлівы, грубаваты, рэзкі, неласкавы, нехарошы, і ўсё-такі я цябе люблю, аднаго люблю. І без цябе, без гэтых (мук), і жыць не магу.

І ўсе перад табой здаюцца мне маленькімі, звычайненькімі, а ты — высокі, нязвычны. І мне самой здаецца, што і я (раблюся) не такой, якая я ёсць, а такой, як ты.

Пісаць трэба цёпла і разам — мужна.

Калі ён ішоў на фронт, я праводзіла яго. І мы спявалі песню:

«Сколько не было б в жизни дорог».

А холад быў, а вецер...

Тады ён мне сказаў, што кожны раз, калі ўспомніць мяне, будзе спяваць гэтую песню... І я яму сказала, што буду спяваць яе і ўспамінаць. Вось яна мне і спяваецца сягоння цэлы дзень. І сумна, журботна робіцца. І ўспамінаецца ўсё да дробязі — і так ясна, што плакаць хочацца... Тры месяцы нічога не чутно. Ён — танкіст...

«Сколько б не было в жизни дорог (сумна, задумаўшыся, ціха спявае). Сколько б не было в жизни дорог... (Ці ўспамінае ён мяне? Ці...)».

Колькі б дарог ні было ў жыцці.

*(П'еса)*

У маіх апавяданнях мала мужнасці. Мастацтва павінна быць мужным.

Маладосць лёгка і горача захапляецца, спешна ўзносіць. Яна не ведае паўмер. У іх словамі гаворыць сэрца, а не развага. Малады чалавек хоча паступіць як дарослы, але сэрца апярэджвае. Развага прыходзіць пасля, на адзіноце. І часта (прыходзіцца) чырванець. («Як хлапчук»).

На дзіця, якое круціцца на стуле:
— Ціха ты, уверцюра!
— Сама ты уверцюра.

Архітэктар — фантазёр, чалавек многіх планаў. Наіўны, дзівакаваты. Чысты. Марыць пра новы дом і гарыць. Яго любяць. «Дзіўны вы чалавек і харошы» і г. д.

Наш герой павінен быць чалавекам высокага інтэлекта.

Жыць эпохай. Ведаць і бачыць асноўныя шляхі развіцця ў эпосе, умець вызначыць, якое месца займаюць розныя дробязі і тыпы. Усе буйныя пісьменнікі бачылі, ведалі гэта.

У «Река играет» Караленка вельмі трапная думка. Рускі чалавек у момант небяспекі вырастае, вялікая сіла ў ім таілася і драмала датуль. У звычайны час — добры, просты, сціплы.

У нашы дні — таксама было (апавяданне напісаць).

У яго голасе, паводзінах адчуваецца нейкая фальшывасць. Гэта ад таго, што ён вельмі засценчывы, ён хацеў быць мужным, мужчынам.

У нас задача — барацьба з капіталістычнымі перажыткамі. Стварыць новага камуністычнага чалавека, новая норма паводзін. У літаратуры вырасце роль перадачы этычных норм (новыя адносіны да працы: праца — асалода, творчасць і інш.).

Палонныя немцы ішлі з нашым канваірам і даказвалі, што ім не дадалі па 50 грамаў хлеба. А ён апраўдваўся, абяцаў, што дададуць.

Лаянка: Эх ты, густ хрустальны!

Сюжэт, востры сюжэт, канфлікт — як толькі магчыма трымаць чытача пры апавяданні.

О возвышающей душу красоте женщины. Написать, как «Красота» Горького.

Кожын пісьменнік павінен «загадваць» сваймі чалавечкамі (выраз Твардоўскага), сваёй тэмай.

У мяне псіхалогія простага чалавека, яго напружаная праца. (Засмужац).

Той, хто не ўмее перадаць душэўныя перажыванні ў паступках, часта ўкладае словы пра іх у вусны сваіх герояў. Таму — чалавек гаворыць пра сваю муку і інш., чаго ў жыцці не бывае. Ніколі, ненатуральна. (Гэта падобна на маналогі ў п'есах Карнеля, Сумарокава і іншых класікаў. Цяпер гэта прымітыўна, смешна і гаворыць аб бездапаможнасці. Гэта вельмі добра адчуваў Чэхаў. У яго ніколі няма такіх паясняючых маналогаў. (У мяне ў «Апошняй аперацыі» — гэты недахоп.)

Жывапісь апавяданням. Пісаць фарбамі, каб пераліваліся (як у Дзяржавіна), гарэлі, перадаваць гукі, каб гаманілі (у Шолахава).

Канкрэтнасць. Дабівацца зрокавай асязальнасці вобразаў (Дзяржавін, Блок, сімвалісты ўмелі).

Вобраз, перш за ўсё вобраз у мастацкім творы. Як бы ні была харошая ідэя, без вобраза нельга стварыць мастацкага твора. Умець ствараць вобраз — вельмі цяжкае мастацтва (Чэхаў умеў некалькімі штрыхамі рысаваць людзей). Мову героя падаць — вучыцца трэба.

У мяне небяспека — натуралізм. Помніць і сцерагчыся.

Не разменівацца на дробязях. Пісаць толькі пра важнае, аддаваць душу.

У мяне мова невыразная. Пісаць вобразна, ярка. Не расцягваць апісанні і псіхалагічныя аналізы (як у К. Чорнага). Маляваць людзей у простай абстаноўцы, з простымі словамі, звычайнымі і нібы няважнымі, але як у жыцці. Добра «У завіруху».

І болей слухаць людзей, гаварыць, у кожнага многа цікавага можна пачуць, многа незвычайных думак, поглядаў. Вучыцца ў людзей, для таго, каб іх вучыць.

## 29 жніўня 1945 года. Мінск — Ялта

> Я наглядаю з увагаю за фактамі жыцця і менш за характарамі. Трэба — перш за ўсё — сачыць за чалавечымі душамі, іх своеасаблівасцямі, іх дыялектыкай. Тып, характар — раней за ўсё.

НА ДРУГІ ФРОНТ

(апавяданне)

На вайне думаў: адпачну пасля вайны. Не будзе такой стомы, напружання, гарачкі, бо час пацерпіць. (А на вайне цяжка было: і дзень і ноч — працуй). Можна працаваць спакойней, па-мірнаму, як да вайны: працавалі, хоць цяжка, але па-мірнаму. З гэтымі думкамі ён ехаў з арміі.

Дома пабачыў, што памыляўся. Наглядзеўся — і па дарозе і дома — усё разбурана, ва ўсім нястача, і зразумеў, як многа патрэбна працы і часу, каб падняць усё. Трэба зрабіць прыгажэйшым, чым раней. Многія месяцы і гады, многа сіл патрэбна і думак. Тут усё марудней будзе ісці і раўней і таму непрыкметней — будні. Гэта — вайна, няхай бяскроўная, але не лягчэйшая (?). Гэта — другі фронт, сапраўдны фронт, і на яго мабілізавала яго (яго) сумленне грамадзяніна.

Пра маленькую (ростам) прыгожую дзяўчыну казаў:

— У цябе ўсё прыгожае, але ж вельмі мала адпушчана (на тваё хараство).

(Хіба не хапала матэрыялу, ці шкадавалі.)

Селянін: з точкі зрэнія, яно што праўда, то праўда. Або: з точкі зрэнія, да ўсяго, як той казаў, патрэбен падыход, ці то бо струмант. Без струманту і вошы не заб'еш.— Любіў гэтае вучонае слова «З точкі зрэнія».

З пісьма ў правінцыю. Ты пішаш, што прыедзеш у Маскву, скора. Вучыся шпарка хадзіць — тут усе бегаюць.

У Германіі. Калі заходзіць наш баец, аддаюць самае лепшае, самі спытаюць, каб даказаць, што не атручана — робяць без загаду, папярэджваюць кожнае жаданне.

У Польшчы — мноства гандляроў — буйных і драбнюсенькіх (усё багацце якога некалькі пачак сігарэт). На ўсіх кутках прапануюць, крычаць, суюць у рукі. Цэны вельмі вялікія, і амаль ніхто не купляе.

Пры бамбёжцы — спачатку хаваў твар у зямлю, каб нічога не бачыць, ад страху; пасля — клаўся тварам угару, сачыў, каб бачыць, куды пападзе, і не хвалявацца. Гэта стала патрэбнасцю.

Дуэль з зеніткай. Малады лётчык першы раз ляцеў на штурмоўку. Спераду яго — вядучы, камандзір звяна, стары франтавік. Прыйшлі к цэлі. Стаяў вялікі загараджальны агонь зенітак. Вядучы, маючы падавіць агонь зенітны для нашых бамбардзіроўшчыкаў, кінуўся проста на батарэю. У маладога лётчыка, які ішоў за ім, усё пахаладзела ўнутры, ён рабіў машынальна. Як скрозь сон чуў і бачыў, што недзе побач і збоку лопаліся снарады. Усё як у сне рабілася. Было страшна, рукі неяк аслабелі. Ён напружваўся, каб змагацца з гэтай слабасцю, а ўсё іншае рабіў машынальна. За вядучым рынуўся на зенітку проста, націснуў на гашэтку. Застраляў гарматы і ўсіх кулямётаў. Мільганула мітусяніна ля гарматы, і ён зноў набраў вышыню. На зенітку ішоў трэці самалёт. Вядучы і малады на адлегласці падходзілі да цэлі. Зноў тая ж слабасць у руцэ і напружанне. «Каб хоць шчасліва...» — і болей не думаў. Зноў за вядучым рынуўся ў пекла. Паліў з усіх кулямётаў. Зноў набраў вышыню і захадзіў на цэль. Гэта працягвалася некалькі разоў — бесканечна доўга. У яго было жаданне павярнуць назад, але вядучы накіроўваў свой самалёт, і ён павінен быў ісці. Яны пакінулі цэль, калі абедзве зеніткі маўчалі. Там клубіўся дым. Увесь боезапас у маладога быў расстрэлены яшчэ да канца задання. На адваротным шляху на іх напалі «мессеры». Завязалі бой. У яго нічога не было, і ён толькі манеўраваў. «Мессеры» адышлі. Знаёмае поле аэрадрома. Ён цэлы дзень і ноч жыў уражаннямі бою. З павагай хадзіў вакол вядучага, у тыя дні ён проста

абажаў гэтага чалавека, пакланяўся яго мужнасці, з сорамам думаў пра сябе. Яшчэ было такое, нібы нешта назаўсёды з гэтым боем адарвалася ад яго, нібы ён стаў на грані між жыццём і смерцю. Страшны жарт. «Цяпер не міне смерць».

Некалькі дзён ён быў у прыгнечаным стане, хоць не паказваў выгляду, жартаваў, злаваўся.

Партызаны здабываюць выбуховыя вяшчэствы з неразарваўшыхся снарадаў. Небяспечная работа. Аднойчы некалькі чалавек падарваліся, таму пасля даручалі гэтую работу самым вопытным, асцярожным і смелым.

Пасля таго як вярнулася ад начальніка, расказвала мне (таксама яе начальніку), што скардзілася на мяне, на несправядлівасць. Не магла ніколі нічога захоўваць у сабе, усім дзялілася; наіўная дзяўчына.

У дарозе часта шукаюць аб'ект насмешак. Нашлі якую-небудзь дзяўчыну і хлопца, зрабілі закаханымі і ўвесь шлях пацяшаюцца. Рэплікі, жарты з усіх бакоў, рогат. Так здружваюцца ў дарозе, неўзаметку праходзіць час.

Гадалка: Вам прадстаіць інтарэс к бубноваму каралю, вялікія грошы, непрыемнасць ад чырвеннай дамы і казённы дом. Але ўсё кончыцца шчасліва: тая чырвенная дама прыйдзе к вам у казённы дом, вы будзеце мець да яе прыхільнасць і будзеце шчаслівы...

Вярнуўся з фронту муж. Жонка яго чакала вельмі; работала і думала пра сустрэчу. Берагла яго адзенне. Састарэлася — з дзецьмі. А ён прыйшоў, чужым здаецца. Чыста адзяваецца, ганарыцца нечым. Гаворыць, што яна не падабаецца,— брудная і старая.

Чакала. Пісаў, што таксама чакае і любіць. Прыехаў, пабыў трохі, сказаў, што ў арміі ёсць прыгажуня. Паехаў, кінуў жонку і двух дзяцей.

Усяго стрycaнула мяне (усхвалявала).
Служыць, як меднаму кацялку.

Дзяўчына прыгожая, разумная — бяздзельніца. Паразітка. (Бацька — відны чалавек, дзеяч, увесь ушоў у сваю работу.) Першае захапленне дзяўчынай, абажанне яе «талантаў» і разачараванне — пустацвет. Канец кахання. *(Апавяданне)*

Хлопец на вайне застаўся верным дзяўчыне, якую кахаў у школе. Імкнуўся да яе. Калі вярнуўся дадому, даведаўся, што яна ўвесь час сядзела дома, «круціла» з немцамі, прадавалася. Іх сустрэча. Разрыў з ёй, з маладосцю, каханне апаганена.

К дыспуту пра шчасце.

Шчасце працы — аснова (праца — аснова існавання чалавека). Натхнёная праца (стаханаўцы). Бальзак — не толькі геній, а і вялікі працаўнік Талстой. Вучыцца працаваць. Знайсці любімую працу, любіць яе, тварыць.

Дзяўчаты, хлопцы, якія не любяць працу, скрыўленыя асобы, бо шукаюць шчасце не ў працы. Зманлівы шлях; прыводзіць да душэўнай спустошанасці. Дзяўчаты — прыгожыя бяздзельніцы.

У грамадстве — шчасце шукаць не за лік няшчасця другіх. Жыць для шчасця будучага грамадства. Трэба злучаць шчасце сваё асабістае і грамадства (смерць за айчыну — для шчасця краіны ахвяраваць сваім).

Шчасце — каханне.

Трэба ведаць каханага, каб давярацца ва ўсім (апавяданне Ел. Кананенка). Няўдачы (вяселле пасля трох вечароў знаёмства) — Умець будаваць шчасце. Умець шанаваць дружбу. (Нянавісць да дрэннага ў друга, але і снісхаджэнне да слабасцей, якія нельга пазбегнуць яму.) (Кожны мае недахопы.)

Ці можна любіць некалькі разоў? Можна, бо ўсё мяняецца, і каханне таксама праходзячае, як і ўсё на свеце,— нараджаецца і адмірае. Можна любіць і некалькі адразу,— людзі розняцца і бываюць прыгожы рознымі рысамі і якасцямі. (Няма чалавека, які б яднаў адразу ўсе якасці.)

Пра магчымасць дружбы (не кахання) паміж дзяўчынай і хлопцам (асабліва ва ўзросце, калі хлопец адкрывае ў дзяўчыне акрамя таварыша жанчыну, прычым гэтае апошняе набывае часта перавагу).

Закаханая дзяўчына ўвесь час рагатала. Ёй усё здавалася смешным, вясёлым,— разбіраў беспрычынны смех. Усе здзіўляліся, лічылі легкадумнай, не разумелі прычыны.

Усю ноч адкапвалі трактар (наладжвалі пераправу ў цемры — працоўны гераізм).

З Украіны на Беларусь — пешша — на радзіму. У першы год вайны.

*(Пачатак рамана)*

Доўг і жаданне. Суадносіны іх. Муж не можа супрацiўляцца пачуццю, аддаецца каханню. Перажыванні — жонка яго кахае, ён любіць сына. Пакуты сумлення. Чалавек, паддаючыся, уступаючы сіле жадання, не павінен забываць аб сваім доўгу ў адносінах сям'і, дзяцей. (Любіць сына, што застаўся з жонкай; любіць жанчыну.)

Жанчына, што любіла яго, прасціла яму тое, што ён акрамя яе любіў другую. Чыстата яго адносін да другой. Жанчына вельмі любіла яго і паважала. Яна вельмі пакутвала, высокае пачуццё, прыгожае.

Спачатку — даведаўшыся выпадкова, што чалавек, якога яна кахала і які яе кахаў, любіць другую і таемна сустракаецца з другой, бязлітасна парвала сувязь і ўехала. Потым, калі праз некалькі год сустрэліся, яна шкадавала за сваю памылку. Яна любіла яго аднаго — і цяпер. Толькі нельга было вярнуць назад таго. Ён, жанаты на другой, не быў шчаслівы і любіў першую, часта ўспамінаў дні, якія не ўшанаваў калісьці. Цяпер ён быў вядомым прафесарам, жонка перашкаджала яму, і ён па-сяброўску злаваўся на каханне маладосці: калі б ты тады не паехала, не кінула, мы былі б шчаслівыя. Ты загубіла мяне, нягодніца. (Ён — прафесар, яна — яго асістэнт. Ён на 12 год старэй за яе, але малады духам і целам, жыццярадасны, хоць трохі дзівакаваты ад вечнай паглыбленасці ў сваю працу: рассеяны, дабрадушны да ўсяго, што не тычыцца працы і г. д. Ён уступае жаданням жонкі, часта робіць хатнюю работу, адрываючыся ад навуковай, не хоча (не можа) быць дробязлівым, як жонка. Жонка мала ці-

кавіцца яго работай, больш плаццямі, мала любіць яго, мала ўважліва да яго, хоць стан здароўя ў яго небяспечны. «Каханне маладосці», усё гэта заўважыла і вельмі перажывае бачучы.

Памылка маладосці.

Пасля разрыву (з каханай) засталася пустата ў сэрцы, цяга запоўніць яе — прага новага пачуцця. Неспакойнае, нервознае самаадчуванне.

(Душа мечется в поисках.)

Два любімых. Яна пакахала «горшага» — дэспата, уладалюбца, тшчэслаўнага, хоць злавалася на сябе. Было многа гора і слёз, пакут. Доўга хісталася паміж імі. Калі трэба было выбіраць (на вечары, пасля выпітага віна, сябры-ворагі спыталі: з кім яна), яна пайшла з першым. Тады той з-за тшчэслаўя адштурхнуў яе, яна вярнулася к «добраму».

Той быў вельмі шчаслівы. Ён не злаваўся за мінулае, ён ведаў толькі адно каханне. Было вялікае шчасце ў іх, прыйшло каханне, самае шчаслівае, чыстае, безмяцежнае — цэлы месяц. Потым той «горшы» прыходзіў, упрашваў кахаць, прасіў прабачэння. Позна... Але зноў прыйшло ў сэрца хістанне. Любоў крэпка жыве ў сэрцы, надоўга застаюцца яе карэнні, цяжка вырваць.

— Святлана, я пайду, а ты пабудзь дома, бо, можа, хто прыйдзе.

— А куды ты пойдзеш, мама?

— Куды мне трэба.

Прыйшлі да мамы. Пытаюць:

— Дзе мама?

— Пайшла.

— Куды?

— Мама пайшла, куды ёй трэба.

Дзіцячая точнасць.

Кароўкі! Кароўкі! Старушкі, выносьце падушкі, маладзічкі, выносьце спаднічкі... іголкі... ніткі!

У партызанаў — адна цыгарка на трыццаць чалавек. Курылі лісце з дрэваў. У засадзе курылі, сеўшы ў

кружок і перакінуўшы полы шыняля цераз галаву або вырыўшы ямку, у якой трымалі цыгарку, каб не было бляску.

Пры акупацыі ў сялян развілася цяга да асабістай уласнасці.

З пачатку вайны многія людзі адседжваліся, хацелі перачакаць буру спакойна. Потым, калі прыйшлі немцы і пачалі гаспадарыць, здзекавацца, народ, не стрымліваючыся, паступова падымаўся на барацьбу. Немцы самі распальвалі агонь. Чым мацней ціснулі немцы, тым рашучай і грозней узнімалася народная сіла.

Сюжэт. Вечарам ішла дзяўчына. Раптам [redacted] цемры нейкага пад'езда выступіў чалавек і загадаў распранацца. Яна сказала, што ёй не шкода пальто і плацця, але яна толькі што перанесла васпаленне лёгкіх і калі яна прастудзіцца, то можа небяспечна захварэць. (Быў мароз.) Яна сказала, што можа аддаць пальто каля кватэры сваёй. Яна так прасіла, што невядомы згадзіўся. Яны маўкліва ішлі па вуліцах, ён падтрымліваў яе пад руку. Калі яны праходзілі паўз кінатэатр, іх нечакана сустрэлі сяброўкі дзяўчыны — студэнткі. Яна з імі пажартавала. Невядомы з напружаннем сачыў за ёю, упэўнены ў тым, што яна яго выдасць, і рыхтаваўся да нечаканасці. Але яна, як ні ў чым не было, пагаварыўшы і пасмяяўшыся, павяла яго да дома. Калі прыйшлі, яна зняла пальто, але ён адмовіўся. Ён сказаў, што ўражаны яе сумленнем і не возьме нізашто. Ён быў узрушан. На расстанне спытаў яе імя і адрас і знік. Пасля гэтага ён ніколі не разбойнічаў. Стаў чалавекам. Ён зайшоў да яе пасля і сказаў, што яна адчыніла яму новы свет.

*(Апавяданне салдата, к партрэту)*

Мужчыны звычайна саманадзейны ў адносінах поспеху ў жанчын.

Штодзённа за сталом і пасля ў ложку ён з жонкай доўга абмяркоўвалі справы яго канцылярыі, яна давала яму парады, і ён ва ўсім следаваў гэтым парадам.

Дзеці часта ведаюць ці здагадваюцца аб вельмі дарослых справах.

— Значыцца, цябе зноў пасылаюць у гэты цяжкі раён,— паспачувала дачка (12 год) бацьку.

Яна часта пытала бацьку:

— Што новага ва ўпраўленні?

1. У жанчын часта бывае жаданне пацалаваць кветачку, казяўку — патрэба нежнасці.

2. Ёй не хапала раўнавагі, як усім жанчынам, якія засталіся дзеўкамі да 50 год. Душа яе захавала юны пыл. Яна любіла прыроду і жывёл моцнай любоўю, настаяўшайся, нібы старое віно, на ўсёй той пачуццёвай любві, якую ёй не ўдалося аддаць мужчыне.

Яна любіла прыроду, усё жывое, толькі не чалавека.

«Амаль ва ўсіх людзей разам з целам старэе і сэрца. А ў мяне не так. Майму жалкаму целу 60 год, а сэрцу ўсё яшчэ 20».

*(Мапасан)*

Нямецкая псіхалогія:

1. Калі робіць якую гнусную справу, «не я вінаваты, не мая справа, я выконваю мой абавязак, і толькі. Я не вінаваты. Адказваць павінен толькі гер Шляйфель, ён мой начальнік».

2. Калі рабілі эксперыменты над трупамі — гэта не людзі, гэта — трупы, ім — усё роўна.

(Вопыты па варцы мыла, напр.)

У нямецкага старасты быў кабан вялікі. Прыйшлі партызаны, схаваў, кажа — няма, прадаў. Найшлі ў стозе, закіданага сенам. Забралі. Стараста маўкліва ішоў ззаду, не прасіў.

Немцы пасылалі добраахвотнікаў (татар, паліцэйскіх) бязлітасна на смерць; як рэчамі, добраахвотнікамі карысталіся.

П'ю толькі ў двух выпадках, калі ёсць кетавая ікра на стале на закуску, і па другое — калі няма кетавай ікры.

Шчырая ў дробязях, спрытная,— ілжывая ў асноўным, важным. Тып хітрай, разумнай абманшчыцы.

Абстаноўка ў пакоі пасля вайны. Прыгожы шкаф, куплены недзе выпадкова, драўляныя табурэткі, на якія садзімся нясмела і якіх не хапае, кніжкі на самаробнай палічцы. Добры стол, і — дровы ў пакоі, бо хлява няма, і дровы ў калідоры.

Бессаромная жанчына. Расказвае анекдоты, ад якіх чырванеюць мужчыны. Можа ўшчыпнуць мужчыну. Бойкая, рэзкая.

Адступаючы, немцы накідалі ўсюды мін — нізкая подласць. Дзіцяці, якое забаўлялася на прызбе, адарвала руку.

Днём — многа атак, не маглі прарвацца, ноччу — фарсіравалі раку без аднаго стрэлу; немцы пасля дня адышлі самі.

Ззаду рацыі стаяў і страляў танк, і рацыя была ўвесь час пад агнём — білі па танку.

Дзіця баіцца лялькі «мішкі» (называе «вава» — сабака). Думае, што яна кусаецца.

Малыя дзеці ва ўсім капіруюць дарослых. У паводзінах, у выразах. Двухгадовае дзіця, пачуўшы, можа сказаць: «смешна», «мне здаецца». Так гавораць мама і тата. Люда часта ходзіць па пакоі з рукамі, заложанымі за спіну — так шагае бацька. Яна і галаву апускае на падлогу, бо бацька, калі ходзіць, таксама глядзіць уніз — думае.

Разбіты горам чалавек, бязвольны. Ен не помніць, што робіць. Робіць усё, што загадаюць, усім падпарадкоўваецца.

Туман над балотам увечар.

Хтосьці сказаў: чалавеку столькі год, сколькі год яго пачуццям.

Людзі часта любяць у другіх тое, чаго не маюць самі. Яны таксама могуць любіць другіх за тое, чаго ня-

ма ў іх саміх. Таму так часта старыя людзі прывязваюцца да дзяцей, бо ў дзяцей ёсць маладосць, сілы, будучыня, якой няма ў старых, і г. д.

Вялікую паўпустую залу ў шпіталі называлі «Курскім вакзалам».

— Куды ідзеш?

— У «Курскі вакзал».

У шпіталі. Акно было адчынена. Знобкі веснавы ветрык калыхаў занавеску, адсунутую да вушака. У акно была відаць высокая сцяна старога замшэлага паркана і над ёй шматок блакітнага неба. Гэты бок агародчыка быў амаль увесь час у цяні, цень закрываў амаль заўсёды большую палову агародчыка. У цяні ляжаў наздраваты зледзянелы кавалак бруднага снегу. Ён таяў марудна. Ужо на сонечным баку агародчыка зелянела трава, а гэты камяк трымаўся. З саду біла пахам маладой травы і мокрай прагнай зямлі, што абуджалася ад няволі.

Хадзіць байцу не дазвалялі. Ён цэлымі днямі сядзеў на ложку і з цікавасцю сачыў за праявамі на агародчыку. Пасля выздараўлення ў яго была да ўсяго вострая цікавасць...

Пасля вайны — гібель апошніх надзей на зварот мужа.

У вагоне ноччу, стаміўшыся, побач заснулі незнаёмыя маладыя юнак і дзяўчына. Днём саромеліся глядзець у вочы. Над імі жартавалі.

Чалавек, які захапляецца ўсім. Быў радыётэхнікам, мастаком, журналістам, слесарам. Нідзе не мог сядзець больш двух месяцаў. Цягнула на новае, нязведанае. Пасля расчароўваўся. Не знаходзіў сябе. Рана жаніўся. Было многа дзяцей. Пасля жаніцьбы таксама многімі захапляўся, не будучы і там пастаянным.

Жаночая любоў да таго, каму дапамагала, каго берагла, лячыла. Любоў да яго і думкі, турботы пра мужа, непакой. Простая, вясёлая, без пакут. Дапамагае партызанам. Хлопец — партызан. Сібірак. Зварот мужа. Хлопец любіць яе.

Аблава немцаў для пасылкі ў Германію. Убачыла, калі ішлі па вуліцы. Схавалася ў калідоры, за дзвярамі. Шукалі яе, хадзілі,— не знайшлі. Суседку засталі дома, павялі, яна плакала.

У кіраўнікоў вырабатваецца пастаянны скептыцызм да новых работнікаў. Заваёўваць аўтарытэт — пераадолець гэтыя скептычныя адносіны.

Жонка дома весела расказвае пра свае любоўныя прыгоды за дзень.

Прафесар з балерынай самі абсталёўваюць пакой. Стругаюць дошкі, збіваюць палічкі і г. д.

Ён замкнуўся ў рамкі сваіх вузкіх спец. абавязкаў. Усё, што з жыцця было, што выходзіла з гэтых рамак, яго не турбавала. На ўсё адказ: «Не мая справа. Гэта да N... да L». Усё па пунктах кодэкса. Не душа, а статут, расклад.

Ш.— робіць выгляд бездапаможнага чалавека, а ў цішы,— такія справы, што трэба ахнуць — столькі смеласці, нахабства, хітрасці.

Калі маці ехала на фронт, маленькая дачушка заснула — стамілася. Яе няслі на станцыю, а яна спала ўвесь час. Маці паглядала, асцярожна цалавала — баялася разбудзіць. Так яна і ў поезд села — дачка спала ў цёткі на руках, не прачнулася, не папрашчалася.

Увесь час яна ўспаміналася пасля спячай, нібы яна ўвесь час толькі і спала. І маці хацелася асцярожна, каб дачка не прачнулася, цалаваць.

Люда гаворыць працяжна. Раней — каб паднялі, замест слоў — вочы ўгору.

У разбураным горадзе — міліцыянер пазяхае, пацягваецца — няма машын. Цэлы квартал — разбураны. Даўно — цэгла пазелянела ўжо.

Першыя дні ў адваяваным горадзе. Нямецкія надпісы ўсюды, нямецкія шапкі на жыхарах, нават па-

лонныя — немцы нібы для паўнаты карціны. Усё гаворыць аб панаванні немцаў. (Жыхары цягнуць вугаль нямецкі да сябе і інш.)

Надпіс на доме! «Касцік, мы пераехалі на вул. М. Горкага, дом 11, кв. 12».

*(з 1941 г.)*

## [1947 год]

Калі яму было цяжка, ён, сціснуўшы зубы, цягнуў якую-небудзь песню, цягнуў — глуха, аднастайна, з завываннем. Яму гаварылі раздражнена: «Сціхні ты... Ные, як зубная боль».

Ён сціхаў, а потым праз некаторы час, забыўшыся зноў, пачынаў завываць. Ні скарг, ні слёз, нічога, толькі гэты аднастайны матыў.

Жанчына з фронту — сержант; 3 ордэны, разведчык. Цяпер — працуе шафёрам, у камбінезоне. І пасля работы — часта ў штанах, рэзкія мужчынскія ўхваткі — шырокі ўзмах рукамі, шырокі крок, быстры. Каратка пастрыжаныя валасы — светлыя. Твар загарэлы, цвёрды. Голас хрыплы, нечакана па-жаночаму мяккі. Зімой — часта на лыжах, сільным мужчынскім крокам ходзіць. Летам у майцы чырвонай пасля работы рамантуе матацыкл, з трэскам праносіцца па вуліцы. Многа часу возіцца з ім. Ордэнамі не казырае, скромная. Рост — дробны даволі.

Любіць шалёную хуткасць, калі едзе на матацыкле.

Урач — грубаваты, цынічны чалавек. (Увогуле сярод іхняй брацii такіх нямала.) Паказная грубаватасць. Дзяўчына пабіла калена, кульгае. Прыходзіць да яго; ён адразу паднімае юбку без цырымоній; яна схапілася, не дазваляе, пачырванела.

— Ну, я не такія рэчы бачыў. Падумаеш нежнасці! — груба.

Яна пачырванела, паддалася.

Знарок падняў вышэй, стаў мацаць калена.

Аб жанчынах гаворыць з насмешкай, нават пагардай:

— Ваякі мне! Адзін толькі разлад ад іх. Партызан, што спутаўся з ёю, сам баба.

На любоў глядзіць скептычна:

— Любві няма — выдумка! Брахня! Ёсць толькі прывычка.

Быў няшчасны ў сямейным жыцці; з жонкай не ўжыўся.

Над ваякамі-жанчынамі з дабрадушнай насмешкай (як пахвальба), без звычайнай едкай грубасці.

Вядзе спартанскі вобраз жыцця, вынослівы, цярплівы.

Ён не гаварыў пра асабістае гора, бо маглі падумаць, што ён такі храбры таму, што ў яго гэтае гора. Ён не хацеў, каб думалі так. Гэта была б усё-ткі дробная вузкая прычына; тое гора, што ён адчуваў, было шырэй намнога; ён думаў пра гора, пра лёс усіх людзей, усёй краіны.

Трэба дабівацца точнага бачання рэчаў, рухаў.

У дзяўчыны — здзіўленыя вочы, шырокія, вялікія, крыху наіўныя, бровы ўзнятыя.

Харошы твар павінен быць асветлены будучыняй, марай, накіраваны наперад. Вялікая мара, да якой чалавек, людзі імкнуцца, якую дабіваюцца здзейсніць — і, урэшце, здзяйсняюць! Неспакой творчы, мэтанакіраванасць... Бачыў «Во имя жизни» — карціна так сабе — а гэтае — мара, імкненне наперад ёсць — і карціна набывае прыгажосць, узнёсласць...

У нашай літаратуры мара, імкненне да яе будзе мець вельмі вялікае месца — такое, якога яна не мела нідзе і ніколі.

Напісаць вялікую рэч (калі-небудзь) пра тое, як мянялася і ламалася псіхіка беларускага селяніна з 1914 года да нашага дня. Пражыты страшэнна жорсткія, ломкія гады. Этапы — 1914, 1917, 1921, 1926, 1930, 1937, 1941, 1945 г. Ісці недалёка за вобразамі — узяць жыццё бацькі або маткі. Вельмі важная тэма.

Вярнуліся з кіно. Успаміналі, што бачылі, гаварылі, што спадабалася. М. М. больш за ўсё спадабаліся касцюмы, у якіх выходзілі артысты, занавескі ў гэтым пакоі. Я ж на гэта не звярнуў ніякай увагі, не бачыў гэтага. (Людзі бачаць рознае ў адных і тых рэчах — старая ісціна, але як часта ўспамінаць прыходзіцца. Па таму, як чалавек бачыць, можна без памылак меркаваць — хто ён, што, які).

У N. N.— схільнасць бачыць у людзей дрэннае толькі, а калі гэтага няма, то яна дапаўняе сваёй выдумкай, увяраючы, што гэта яна добра бачыла...

Люда.

1. Часта збяромся, гаворым, на каго яна падобная. Пыталіся неяк: «Чые ў цябе вочкі?» — «Папкіны».— «А ножкі?» — Мамкіны» і г. д. Потым перайшлі на яе маму. «Чые ў мамы вочкі?» — «Бабушкіныя». Памаўчала. «А цыцы — папкіны». Усе зарагаталі такому нечаканаму пераходу. «Чаму?» — «Таму што ў яго сваіх няма».

2. Сабраўся ў камандзіроўку ў Маскву. «Паеду, Людка, а ты астанешся адна...» — «А я буду плакаць» — пагроза не дапамагла. Падумала і запыталася: «А мама не паедзе?» — «Не паедзе».— «А з кім мама спаць будзе?!»

3. Пад новы год на вечары быў вялікі канфуз. Яна вывучыла верш і павінна была выступаць перад дзецьмі. Усе выступалі па чарзе. Верш яна ведала добра. Але калі выйшла на сярэдзіну, усё раптам вылецела з галавы. Думае, думае,— ні слова не ўспомніць. Дзеці чакалі, потым сказалі, каб сышла, дала другім месца. Не сходзіць, думае. Сцягнулі сілаю — ледзь не плача. І толькі вярнулася дахаты, успомніла! Цягне маму — пайду, раскажу, і слухаць не хоча, што там ужо нікога няма, разышліся ўсе.

4. Спаборнічалі з адной дзяўчынкай — хто больш вершаў ведае. Запас «выйшаў», а падружка ўсё дэкламуе, Люда не здаецца. Выходзіць смела — бойка штосьці крычыць, не зразумець — шапялявіць трохі. Толькі асобныя словы даходзяць. Мова рытмічная. Не зразу разабралі, што — абман, імправізацыя на ўзбекскі лад. Выдумшчыца вялікая.

6. Рысуе — «точка, точка, два крючочка», усе малюнкі на адзін лад... Гаворыць на адзін — гэта — мама, гэта папа — а гэта Элачка. Аказваецца, кожны «партрэт» мае свайго натуршчыка!

7. Любіць больш бацьку.

У яе была адна дзіўная асаблівасць, якая вельмі часта наглядаецца ў людзей — яна магла любіць толькі тых, хто яе мала або зусім не любіў. Любіла моцна, усёй душою, перажывала, пакутавала; тыя, хто яе любілі, былі абыякавымі ёй, нецікавымі. Прыгожая, разумная.

Крытык: важны не Шэкспір, а прадмова да яго. З харошай прадмовай і Б. можа ўцерці нос Шэкспіру.

«Адрозненне першага кахання ад апошняга: пры першым кажуць гэта — апошняе, пры апошнім — першае».

«Яна лічыла — чалавецтва падзяляецца на дзве часткі: адна — якая падстаўляе шчаку, другая — якая яе цалуе».

*(Кургель)*

Калгасны пісьменнік — піша пра сённяшнюю вёску па ўспамінах свайго маленства. 20 год не выязджаў з горада.

Перад важнай вялікай аперацыяй. Камандзір дывізіі непакоіцца пра разведчыкаў — ці вярнуліся? Не таму, што ён чакаў новых вестак ад іх, такія весткі прынеслі другія групы. Яму былі дарагія людзі. Тры званкі за ноч. У падраздзяленні абыякава адносіліся — не прыйшлі, дык не прыйшлі. Пасля першага званка не паклапаціліся нават даведацца — можа, ужо вярнуліся. Палаяў іх. Пасля трэцяга званка загадаў паслаць групу па маршруту разведчыкаў, выратаваць. Сабралі, а тыя якраз вярнуліся. З падраздзялення пазванілі — прыйшлі! «Ну, вот цяпер, ладна» — заспакоіўся. А праз некалькі гадзін пачалася вялікая аперацыя, і было дзіўна, як сярод шматлікіх клопатаў гэтай бясконцай ночы ён не забываў пра разведчыкаў.

Гармата стала ў парадках пяхоты — для прамой наводкі. Пяхота — ва ўсе бакі! Далей ад яе.

Вясна. Па дарозе плывуць танкі...

Баец не ведае, дзе фронт. Немцы — справа і злева, ракеты, аўтаматы трашчаць, а ён усё ідзе і ідзе ў гэтую пастку. Страшнавата, але такі загад. І ўсё добра — ідуць насцярожаныя.

Разведчык, які прабраўся ў вёску, даведаўся, што ў яры згрудзілася нямецкая пяхота і танкі — за сялом. Цэлая дывізія, знарок не займалі сяло, каб скрытна нанесці ўдар. Разведчык вярнуўся. Артылерыя масіраваным налётам накрыла іх — ні адзін не выйшаў жывым. Месіва асталося. У сяло прыйшлі стомленыя. Разышліся па хатах, заваліліся спаць. Ахранення няма. Ніхто не хоча, стаміліся.

Жанчына — пранырлівая. Дробны твар, востры птушыны носік, малыя бегаючыя вочкі, точаны востры падбародак. Хутка шчабеча, а вочкі так і бегаюць і бегаюць.

Ён быў яе ідэалам. Усе лепшыя якасці яму. Чыстая першая любоў! А потым — яна даведалася пра яго нядобрае, нячыстае. Гэта быў такі ўдар па яе пачуццю. (Пасля яна ўспамінала аб гэтым з усмешкаю). Яна не магла адчуваць сябе абраджанай, яна была прыбітай, аглушанай. Першыя слёзы — чыстыя, пакутныя, шчырыя.

Напісаць простую мужную праўдзівую рэч пра жыццё маці — гадоў 60. Сыны, іх жыццё, іх трывогі, пакуты за іх. Цяжкі жорсткі шлях. Памерла трое дзяцей, перанесла. Было многа радасці і многа гора. Як яна вынесла ўсё, дзіўна. І пры тым — моц захавалася, вера ў жыццё, радасць.

*(Мая маці)*

Напісаць сцэнарый — пра шлях Беларусі — з 1919 па 1947. Пра вялікія змены за гэты час.

Б. Гарачы — хутка ўспалымняецца і хутка астывае. Усё на паверхні — перажывае неглыбока; непастаянны. Прыйшоў усхваляваны, бегае па рэдакцыі. Крычыць, (сунуўшы ўсім па чарзе руку): «Часопіс дрэнна працуе. Трэба палажыць канец! Даволі! Хопіць, я цырымоніўся з Вамі! Канец! З сённяшняга дня!» Крычыць, гарыць, бегае. «На чацвер — нараду! Усіх склікаць! Адчоты падрыхтаваць!» У чацвер усе сабраліся, чакаюць. Б. няма ў час, няма пасля — недзе затрымаўся. Спазніўся на гадзіну. Прыходзіць спакойны, прыветны. «Затрымалі...» Пагаворыць аб пабочным, не аб справе; нібы забыў усё, што было тады. У апошнія дзве хвіліны прахопіцца — распараджэнні, потым «няма часу, я пайшоў». І ўсё па-старому. Праз нейкі час пачнецца ўсё зноў.

Хорця. Жанчына — рана аўдавела. Прыходзілі сватацца — не пайшла. Асталася жыць адна з двума дзецьмі — сын і дачка. Сама сеяла, жала, касіла; сама нават плотнічала, бочкі рабіла. Хату сабе паставіла. Здаровая, ядраная; непаседлівая, грубаватая.

Дзеці цяпер выраслі (Багуславец). У млыне неяк баралася з мужыком, паваліла яго, абняславіла.

Сям'я. Малады хлопец прыехаў з вёскі ў горад у вучылішча. У Маскве — на вучобе, потым вярнуўся ў Мінск; слесар. Рост рабочага. Першая дэталь, зробленая сваімі рукамі, радасць. Спачатку сумаваў па матцы, вёсцы. Потым адвык — знайшоў новую сям'ю. Рост завода — фон.

Дрэвы стаялі моцныя, скручаныя голлі — здавалася, што скручаны яны ад холаду і знобкага ветру.

Салдат прывыкае лічыць сваёй хатай тое месца, дзе спыніла яго каманда на прывал. Хутка абжываецца.

Пасля бою байцы перажываюць мінулыя небяспекі, непакояцца.

Пачатак любві да чужога чалавека. Ёй пачынала здавацца, што гэта не чужы чалавек, а яе муж, яе Сярожа...



9 Зак. 3128

У хвіліну небяспекі ён насцярожваўся, халадзеў, падбіраўся ўвесь — як перад прыжком.

Напісаць пра «страшэнна таленавітага чалавека» з народа (Нічыпар Чарняк, Лепей, Лаўрушка і інш.). Дома ўсюды якія-небудзь штучкі вынаходніцкія — засаўка замыславатая, стол і г. д.

К. І. лічыла сябе вучонаю жанчынаю, казырала вучонымі фразамі. Кніжкі чытала толькі перад сном, каб заснуць — па дзве старонкі на сон.

Баец «майстар на ўсе рукі» — мастак, майстар паправляць гадзіннікі, лепшы мінёр. На падраздзяленне нарабіў мундштукоў.

Леў Шап. Пунктуальнасць — хвіліна ў хвіліну, слова ў слова. Паругаў разведчыка, які спазніўся з аперацыі,— немцы затрымалі. Заўсёды выбрыты. Сухаваты ў адносінах да людзей — увесь у раскладзе. Хударлявы.

С «отрывков из написанного» («Крокодил»)

1. Ничего не брал на свою ответственность. Даже о том, что земля вертится, говорил: «По словам Коперника».

2. Он проездил много лет, чтоб изучить жизнь, а изучил только расписание поездов.

Люда.

8. Малыя не разумеюць, што на адлегласці прадметы памяншаюцца. Глядзіць у акно Люда, бачыць — удалечы конь. «Які маленькі конік!» — крычыць. Ніколі не бачыла такога маленькага коніка, як казяўка. Затое — які вялікі верабей падляцеў і сеў на падаконнік па той бок шыбы, насупраць. «Мам, вялікі верабей!» — «Ну, верабей — большы за каня!»

Сягоння — 15 мая — расцвілі за дзень вішні. Сад зразу пабялеў.

20 мая — адцвілі вішні, цвітуць яблыні. Распусціўся бэз.

Партызанская маці. Хата яе стаяла наводшыбе, адзінока. Месца там было небяспечнае, непадалёк ад хаты канчалася мяжа партызанскай зоны. Усе, хто ішоў на заданне ў тыл, заходзіў у хату, адпачываў, а маці брала перамываць бялізну, анучы, берагла сон.

За ўсіх, што ішлі ў тыл, непакоілася; чакала з нецярплівасцю іх звароту з задання. Калі не вяртаўся або вярталіся не ўсе, хадзіла самотная і плакала.

Увесь свабодны час рабіла што-небудзь для партызан. Партызаны кармілі яе — астаўлялі ёй хлеб, кансервы; трафеі, што прыносілі ад немцаў і аднойчы — віно, ром. Яна берагла яго. Усё выглядала сына, які таксама недзе быў на вайне, але сына не было...

Вялікае сэрца было ў гэтай малой жанчыны.

У час блакады ў хату ўварваліся немцы. Пагражалі ёй, але хату, здарылася так, не спалілі.

Сеяць было цяжка ў першыя гады: не хапала насення; трэба было паспець пасеяць у кароткі тэрмін, а людзей і коней не хапала; вялікая нагрузка на чалавека і коней.

Анекдоты пра П.

1. Ішоў на заняткі, аставіў запіску «Акадэміка П. дома няма. Пайшоў на заняткі». Вярнуўся пасля заняткаў, бачыць — запіска: «П. няма». Павярнуўся і засмучоны падаўся назад. Пасля схамянуўся, гэта ж ён сам!

2. Перад тым, як сесці ў трамвай, зняў галошы.

Прычуда. Аспірант, які ішоў да яго, павінен быў добра ведаць усю міжнародную інфармацыю. Аспірант рыхтаваў прадмет і інфармацыю.

а) Маўчала б, тожа разышлася, цытра!

б) Хранічаскі не наведвае партыйныя сходы.

«Личность нового человека получает наиболее полное выражение в коллективе».

Артыст (пісьменнік). Першы поспех. Ускружылі галаву — Ярмолава (Пушкін). Пустата — нібы скончылася жыццё, некуды ісці. Дык гэта і ёсць слава! — абыякавае, халоднае, без страсці — адчуванне было.

Потым няўдача. Нявер'е ў сілы, адчай. Цяга да мастацтва. Нельга без яго жыць.

Вучоба, пакутныя дні, пошукі (часта няўдачныя; адчуванне бесперспектыўнасці).

Першы маленькі поспех — вялікая радасць. Наперадзе — ён ведаў, бязмерна цяжкі шлях. Але ён гатовы быў да яго. Хай хоць што — наперад. Усе сілы. Усё!

У яе было заўсёды жаданне (слабасць) падабацца мужчынам. Ёй заўсёды хацелася, каб за ёй хто-небудзь ухаджваў, пакланяўся. Пудрылася, красілася на кожным кроку. Бясконца фатаграфавалася ў розных позах (разам з паклоннікамі і здымалі паклоннікі). Какетнічае, наігранасць — перад паклоннікам. Наігранасць стала прывычкай, другой натурай.

Цікавы тып дзяўчыны... Самаўпэўненая, рашучая, энергічная; заражае іншых сваёй упэўненасцю, хітрая (абманвае — і ўдала); здагадлівая, назіральная (вострае вока), быстра рэагуе і саабражае, не мае добрага густу (хоць не адразу дасць заўважыць гэта), грубаватая ў душы — пакланяюцца ёй. Прыгажуня, цынічная трохі; не прывязваецца ў каханні (не ўлюбчывая) — любіць і разлюбіць без «пакуты»; заўсёды бадзёрая, бясхмарная. Асабліва не перажывае ніколі. Водзіць мужчын за нос, падсмейваецца над імі, вострая на язычок; прывычка — дабрадушна і ▪ самазадаволеным здзіўленнем падсмейваецца над сабою; пачуцці мяняюцца быстра, таксама — і мужчыны, якім сімпатызуе,— адзін, другі, трэці. Часта не ведае, каму аддаць перавагу (смяецца дабрадушна над сабою). З усімі гаворыць фамільярна, у адкрытую (не імёны — дарагі, мілы). У размове — нечаканыя пераскокі з аднаго на другое. Пытанні раптам, без падрыхтоўкі і пілюль — у лоб; субяседнік часта ніякавее, але падпарадкуецца. «Тое, што можна ў жыцці ўзяць — не выпускай». Не любіць самоты, скрухі пры горы, пры страце. Бяздзетная.

У яе была страсць да вядомых людзей. Хвалілася сваімі знаёмствамі; выдумляла часта.

*(Клаўдзія Іванаўна)*

Смерць старога. Доўга не брала смерць. «Памерці спакойна можна, хопіць — пабачыў свету, слава богу; і папрацаваў і папіў гарэлкі...» Прыйшла смерць — у апошнюю хвіліну: «Жыць!»

а) Чорная душа. Ён бачыў у людзей толькі дрэннае. Знаходзіць кепскае рабіла яму вялікае задавальненне, ён радаваўся. Усе паводзіны людзей тлумачыў нізкімі гадкімі прычынамі.

б) А гэты — зайздросціў усім. Зайздрасць ела яго ўсю істоту, усюды. Ён зайздросціў і ад гэтага ненавідзеў усіх — яны былі шчаслівейшымі, багацейшымі, разумнейшымі.

Пры немцах адразу прадаўся. Прайшоў час выскачыць. Радаваўся: «А-а, цяпер вы паскачаце, пацямнееце». Нібы яны пакрыўдзілі яго.

Чалавек-адзіночка ўстае на барацьбу з немцамі. Калі знаходзіць калектыў (партызанскі атрад), адчувае ўдзесяцярону сілу.

б) Цяга адзіночкі (уцёк з лагера, не звязаўся яшчэ) да калектыву.

Каратышка. Ногі былі кароткія, нібы ўсечаныя. Тоўстыя, поўныя лыткі, шырокае бядро.

Дзяўчына, што баялася кароў. У дзяцінстве карова прыціснула да плота, ледзьве выратавалі. Над дзяўчынай падсмейваліся байцы-таварышы.

«Пасля смутку будзе радасць» — любімая пагаворка аднаго вясёлага чалавека. Не паддаваўся няўдачы.

Камары ў Каранёўцы. Вечарам — хмары. Не выходзь на вуліцу. А пасля работы хацелася пагаварыць. Збіраліся на лавачках, раскладвалі вогнішчы. Галлё — сырое, каб дыму больш.

N. смяецца не ўсім тварам, а аднымі губамі. Увесь твар дзіўна сур'ёзны, насцярожаны нібы. Адразу ўражанне — не шчыры, двудушны чалавек.

«Усё добра? Не, не ўсё добра. Дрэнна — благадушны настрой, супакоенасць. А гэта самае горшае».

Гусараў: «Змагацца супраць усякіх парушэнняў грамадзянскіх правоў нашых людзей — кім бы яны ні рабіліся».

Люда: а) Дзеці любяць хваліцца. «Мой бацька палкоўнік...» «...А мой бухгалтар». І гора, калі яго бацька адзін з многіх, чалавек распаўсюджанай прафесіі. Хай ён будзе самым маленькім чалавекам, але не з многіх падобных.

б) Люда амаль ніколі не есць хлеба дома, які ёй даюць перад абедам ці вячэрай. Хапіла скарынку і бяжыць на двор. На двары перад дзецьмі ён смачней. Асабліва калі хлеб белы, незвычайны і калі ў падружкі пры выглядзе гэтага хлеба разгараюцца вочы. Люда дзеліцца. Ёй гэтая роля спадабалася, і пасля яна пачала кожны дзень насіць на вуліцу хлеб, дзяліцца.

в) «Пап, глядзі, колькі я на адной ножцы прыгаю». «Пап, глядзі, як я быстра пабягу». Запракінула галаву, так што назад падаюць белыя кудравыя валасы, бяжыць, мільгаюць пухлыя, круглыя ножкі ў баціначках, спынілася сіле. «А я ўмею!» «А ты так не ўмееш?» — «Не.» Рада, смяецца. З кожным днём быстрэй, вышэй. Свет шырыцца. А яна адчувае гэта, адчувае сябе ў ім усё больш упэўненай і радуецца. Хутка, дачка, ты ўбачыш яго глыбока, разумней. Многа цікавых рэчаў ты знойдзеш у ім для сябе.

г) Цяпер, калі я прападаю ў Гаграх, яна сумуе па мне. «Штосьці папа доўга не едзе, загуляў, мабыць». Пытаецца: «Дзе ён?» Мама гаворыць, як з малою: «У садку, мабыць, гуляе». Тады яна кажа: «Гэта, напэўна, на плошчы Волі (дзе яна днямі была),— я пайду зараз да яго і прывяду».

Чалавек, які любіць паперу, пісаць на ёй. Аўтабіяграфію на сходзе не расказвае, а чытае з паперы; усе выступленні папярэдне піша на паперы, чытае. Там усё запісана слова ў слова. Чалавек — стрыманы, сур'ёзны, замкнуты.

У Макарэвіча — «артылерыйскі голас».

«Як зязюля пасля Пятра» (рэдка сустракаецца не ў пару).

Багацей. Усяго багата, але груба — без красаты, без смаку (нарады, страва). (У вёсцы — часта так).

а) «Наступленне на балоты» — вялікая, прыгожая, нацыянальная тэма. Напісаць.

б) Пяскі Беларусі. Барацьба за ўраджай на пясчаных глебах (нацыянальная тэма).

«Не ў тым, што ты мне зрабіў гадасць, соль,— з яе мне мала няшчасця, а што я ў табе памылілася, расчаравалася».

Чалавек, які ва ўсім бачыць смешны бок. Вясёлы. Усе падзеі ў яго расказах былі смешнымі.

Харошае жыта. Праз тыдзень прыбіраць. Град змяшаў з зямлёю.

З таго часу, як на чале партызанскага руху стала партыйнае кіраўніцтва,— рух падвоіў сілу. На змену стыхійнасці прыйшла арганізацыя з вялікім вопытам.

А. Фадеев — «Молодая гвардия»:

«Да есть ли на свете что-нибудь красивее нашего человека? Сколько труда, невзгоды принял он на свои плечи за наше государство, за народное дело! В гражданскую войну осьмушку хлеба ел — не роптал, в реконструкцию стоял в очередях, драную одежду носил, а не променял своего советского первородства на галантерею. А в эту Отечественную войну со счастьем, с гордостью в сердце понёс свою голову на смерть, принял любую невзгоду и труд — даже ребенок принял это на себя, не говоря уже о женщине, а это ж все наши люди, такие, как мы с тобой!»

У полі.

а) Каласы амаль усе згінаюцца долу — поўныя, угару — пустых — пазірае мала.

б) Кукаль любіць авёс, васількі, пераважна жыта

(Бацька).

в) Жаўранкі, перапёлкі не сціхаюць увесь дзень.

Лес. Мохам зараслі дрэвы. Мох пад нагамі, мякка ўгінаецца. Чорнае асклізлае ламачча. Зараснікі папараці. Арэшнік малады, купамі. Пляскатае лісце дубняку.

Цёмна. Сонца скупа выходзіць. Лісце не аднолькавае па колеру — адно свеціцца на сонцы, светлае, вясёлае, іншае — цёмнае, панурае.

Вільготна — пахі травы, крапівы.

Апісанне дрэваў (дуб, ясень, граб, асіна), лісце мінулагодняе вымачана, блеклае, высушана. На дарозе — чорныя жылы — карэнні, вузлаватыя, крывыя. Воз падскаквае. Трава нават тут высокая. Дарога круціцца.

Угары счэплена вецце, так што неба свеціцца толькі зрэдку.

Папрашайка (Ганна). Хадзіла па знаёмых і ўсё прасіла — дайце таго, іншага, пазычце. Ніколі не збіралася аддаваць. Не любілі яе, бо і ў саміх не было чаго есці.

Самі біліся, стараліся як-небудзь звесці канцы з канцамі. А яна не хацела — на лёгкі хлеб прывыкла.

Галодны год. Ваўкі нападалі на статкі. Зарэзалі апошнюю карову чалавека. Кінуліся на пастуха. Ледзьве адбіўся. Нахабныя сталі.

Ф. Пачуе,— гавораць штосьці, смяюцца,— «Што такое?» Выцягвае галаву, каб пачуць лепей. Цікавіцца ўсімі сплетнямі. Затым разносіць — «Вы чулі?» Хадзячая крыніца ўсіх навін і сплетняў.

Вечар. Адчыненае акно, святло ў акне, сядзяць пры акне — аб нечым гавораць. З агародчыка. Чэрвень.

Запомнілася байцу з мірнага жыцця.

Чалавек закрывае вочы на подласць, якую робіць яго знаёмы — «пляма» былога. Новы канфлікт. Грамадства і кожны яго член павінны ўздзейнічаць на адзіночак, якія збочваюць.

а) Ціхія людзі часта робяць вялікія гераічныя ўчынкі — нечакана.

б) Засценчывыя людзі, звычайна, маюць багатае ваабражэнне. Тое, што не выскажуць, пасля перадумаюць, уявяць на адзіноце, у душы, падрабязна і яскрава.

Берагчы добрае пачуццё (каханне і г. д.) асцярожна і клапатліва.

Хлопчык, што любіць аўтамабілі. Ведае машыну, яе пабудову — не горш шафёра. Любіць круціцца ля яе, дапамагаць шафёру. Хоча за руль — «дай». Ходзіць запэцканы ў мазуту, як шафёр.

Алёша (хімік) здаравяк: адзін на вілах цэлую капу — пудоў два (?) — паднімаў.

Сава, як толькі нап'ецца — хапаў нож і кідаўся на вуліцу:

— Пайду, зарэжу цешчу.

Адна гаворка заўсёды.

«Мурашка» (празванне). Працоўная, маленькая, не сядзіць ні хвіліны без справы. Усё нешта робіць, возіцца — не спяшаючыся асабліва, спакойна, але няўтрымна.

Чалавек у моры, тонучы, каб уратавацца ад смерці, хапіўся за абломак дошкі — баяўся, як бы не адарвацца, загіну. Дошка слізкая, рукі слабелі, разжымаліся, вось-вось выпусціць... Не выпусціў. Выратавалі. Не мог разняць рукі, і другія ледзь-ледзь адарвалі ад дошкі, так учапіўся. («Трэба так трымацца за жыццё»).

У лістападзе. Выпаў снег — быў мароз; назаўтра — адліга, усюды мокра, слізка. Толькі плямамі шэры брудны снег, у іншых месцах — чорная, слізкая гразь. Нізка — густы туман, што глушыць усё, ціснe. Назойлівы звон капель. Усё закрыта туманам, даўка — нібы няма свету, толькі ты адзін ды кавалак дарогі перад вачыма. На дрэвах — голлі — зябка дрыжыць мутная раса.

Расчараванне жанчыны.

Вечар. Яна нарэшце з любімым чалавекам. Чакан-

не — нешта незвычайнае, жаданае даўно павінна збыцца. Узрушана. Быў трэці з імі, пайшоў бы ён куды. Дала знак, той падняўся:

«Пайду, лягу — нешта я змарыўся».

«Пачакай,— папрасіў любімы,— і я таксама змарыўся — спаць хочацца».

Яе як нажом па сэрцы рэзанула — «спаць хочацца». Яна інстынктыўна хапіла руку трэцяга і так сціснула, што ён ледзь не ўскрыкнуў ад болю. Але ні поглядам, ні словам не выдала болю. Толькі як вышлі на двор удваіх, раптам упала на грудзі таварышу і горка зарыдала.

«А я яго любіла. Я верыла... Ён хоча спаць!»

Ён не любіць. Яна абманулася ў лепшым сваім пачуцці!

Школьнік, ідучы са школы, да самай хаты гнаў каменьчык — занятак. Ніяк не мог адстаць. Шалун.

Старшыня с/савета. (Распаўсюджаны тып). На кожным сходзе — першамайскім, кастрычніцкім, выбарчым — сваё выступленне зводзіў да гаспадарчых кампаній. На перадвыбарчым сходзе — расказваў пра дэпутата:

«Дык я думаю, што мы ўсе будзем за яе галасаваць, канечна». Потым з палёгкай уздыхнуў, і адразу мова пачынала лёгка ліцца, красамоўства паяўлялася.

— Першае наша дзела — нарыхтоўкі. Сорам, ганьба! Што я за вас буду хадзіць на нарыхтоўкі ці дэпутат. Я ўжо вам гаварыў, хопіць — больш цырымоніцца не буду!..

(Натхняецца, загарэўся). Цяпер пра выхад на работу... І грымеў, грымеў; калі б яго не спынілі, з прэзідыума хто-небудзь дзергаў за палу,— ён бы гаварыў да дня. Усе пачыналі пазяхаць і рабіліся нудныя.

Цэлыя дні — ездзіў на сельсавет — усё па гаспадарчых справах, зноў — нарыхтоўкі, выхад. Адзін клопат, адна думка.

Добры чалавек. Займаў вялікі пост. Усіх, хто прыходзіў, лагодна прымаў, усміхаўся, слухаў і, калі скардзіліся, рабіў спачувальную грымасу: «Ах!»

«Што вы!»

«Бессардэчна!»
Твар крывіўся, моршчыўся, як печаны яблык. Аж плача.
«Добра, памагу! Ось тут запісаў».
— Дзякую.
Праводзіць да дзвярэй.
Прайшоў дзень, тыдзень — нічога не чуваць; прыйшоў прасіцель зноў.
— «Ах, гэта вы; яшчэ пакуль нічога не зрабіў. Прыйдзецца пачакаць».
Прайшоў яшчэ тыдзень — усё па-ранейшаму. Звярнуўся к другому — той дапамог. Тады для жарту прыйшоў падзякаваў: «Ну вось, добра»,— і лагодна ўсміхаўся, і правёў да дзвярэй, нібы ён дапамог — слаўны чалавек!

У вёсках у нас любяць умелых брахуноў. Добрага брахуна частуюць часта, клічуць на вяселле, каб расказаў якую-небудзь байку-небыліцу.
Пра брахуноў ходзяць цэлыя легенды. У іх заўсёды вялікая аўдыторыя, любячых паслухаць і паскалазубіць. Яны часта вельмі цікавыя, і цікавы — кожны пасвойму, сваімі прыёмамі і манерамі.
Пра аднаго брахуна Шаноўнага казалі, што ён, папаўшы ў ссылку, на шахты, не рабіў нічога, а толькі расказваў небыліцы гаспадару; хадзіў, як пан. Пан не хацеў адпускаць — як жа ён адзін астанецца, хто будзе весяліць. Брахуна звалі на сяле «Шаноўны».
Другі, кажуць, жаніўся на багатай жанчыне, а ўсё з-за свайго вострага лёгкага язычка. Жыў, прыпяваючы.

## [1948 год]

У Мінску. Разбураныя дамы. Збоку здаецца, што яны паданы ў разрэзе, як вучэбныя супрацьгазы, каб бачылі ўнутранае ўстройства. Страшнае стала простым, звычайным.

Аднаўляюць дамы. Замест вырванай сцяны ставяць новую — чырвоная цэгла — здаецца нібы латка на ра-

неным целе. Выламаны праём вокан залатаны чырвоным цагельным пластырам.

Усе аднаўленыя дамы ў латках. Як толькі такія вышэзныя сцены-латкі трымаюцца — дзіву даешся!

У пакойчыку — цесна. Горад разбураны. Веласіпед вісіць на сцяне, стоячы дыбкі. Вісіць стрэльба поруч.

Садзіцца да стала прыходзіцца не ўсім на табурэтах, недзе ставіць — на ложку прыходзіцца.

Смірноў — тып. Партрэт — вялікая галава, прафесарская лысіна і бародка вострая.

Цікавіцца ўсім. Выдатная памяць. Хадзячая энцыклапедыя — усемагчымыя весткі па розных галінах ведаў захаваны моцна ў яго галаве. На кожнай абароне ён выступае з заўвагамі да дысертацый.

«Я, праўда, не спецыяліст. Усё-ткі пасля азнаямлення, у мяне ўзнікла шэраг заўваг».

І выказвае — дакладныя (праўда, не сістэматызаваныя) веды па гэтай галіне.

Ведае мноства гісторый з рознымі славутымі людзьмі — анекдатычныя. Расказвае дакладна, не спяшаючыся.

Спецыяльнасць — географ.

Глінішчанцы. Сем родных братоў — дружныя, адзін за аднаго. Аднаго зачэпяць — аддубасяць так, што ўсім закажа. Трымалі ўсё сяло ў страху. Баяліся іх.

Пасля жыцця ў горадзе Адам стаў Эдзікам, а Ігнат — Ігарам. Ходзяць расфранчаныя, ганарыстыя.

Партрэт. Першае ўражанне — нешта шчацiністае, натапыранае. Вусы — густыя тапырыстыя, бародка наперад, нос бульбаю — наперад, густыя бровы жорсткія, валасы вожыкам, і да ўсяго — калючыя вочы, як два цвікі.

Характар «одержимый» — увесь час гарыць. Новыя планы ўзнікаюць адзін за адным, захапляюць, не даюць ніколі спакою.

Усё робіць з аганьком, з душою.

Нецярплівы, трапяткі.

Пейзаж. Парывісты вецер. Гоніць пыл па дарозе. Сячэ ў твар пяском. Ісці па дарозе — прыходзіцца схіляць галаву, як у завіруху — заб'е пяском вочы.

На небе халодная сінь.

Перад навальніцай. Воблакі — чорныя і дымяцца, насоўваючыся.

Стала ціха, ціха. Спалохана прабегла палявая мыш, схавалася.

Мёртва.

Купаліха. Прываліла ў Вязынку на машыне з цэлай світай. З шумам увайшла ў хату, затараторыла. Скінула з рук гару скруткаў, услед за ёй — паклалі ўсе іншыя.

«Як тут жывяце? Што новага?»

«А мы гэта толькі што з М.— дождж вялікі, каб ён няладны быў. Вось сукенку прамачыў наскрозь. Ну дык вы, дзяўчаткі, тут збірайцеся, а я пайду пагляджу, якія там у нас на гародзе гуркі ўрадзіліся!»

Выйшла. Аблазіла гарод, агледзела ўсё, нарвала абярэмак салату, цыбулі ды моркві, вымакла ў вадзе, вярнулася, кінула ўсё на стол.

«Дзяўчаткі, трэба нешта падрыхтаваць паабедаць, бо есці хочацца». А дзяўчаткі і без каманды раней яшчэ пачалі, ведалі сваю справу.

Потым развязала пакунак з экспанатамі, узяла партрэт і сама палезла, тоўстая, непаседлівая, на табурэт, прыбіваць. «Паглядзіце, дзяўчаткі, ці добра так будзе? Ды дайце мне малаток».

Злезла. Не спадабалася, паднялася ў другі раз, перабіла.

У кашолцы і скрутках былі: хлеб, мяса, пляшка гарэлкі, рыба. Тым часам яна гаварыла з карэспандэнтам, якога застала тут:

«Дык чаму ж вы не сказалі — што едзеце сюды. Я ж бы вас падвезла на машыне. Дык вы хоць абсушыцеся... Ну нічога — цяпер вы будзеце з намі. Мы тут пераначуем, а заўтра паедзеце назад...»

«Мне трэба сёння».

«Нічога, паспееце яшчэ».

Яна адразу становіцца на блізкую нагу са ўсякім, проста гаворыць у вочы. Даверлівая.

Па сяле пры паяўленні яе машыны пайшла чутка: «Цёця Уладзя прыехала!»

Дзеці пасыпалі да хаткі музея. Не дарма — у цёці ў кашолцы былі цукеркі, як заўсёды. Цёця любіць дзяцей — яна многіх ведае па імені.

У калгасе — «цёця» дабілася аўтамашыну, рухавік. Гэта калгас імя Янкі. Заўсёды ўспаміны пра Янку. «Мой Янка» — і слёзы. «Хто любіць Янку — той мой друг, а хто не — вораг... Адзін мне сказаў дрэнна пра Янку, дык я яму адказала: што ўсе вы памрэце, я Янка будзе жыць!»

Гаворыць, гаворыць — здаецца без ладу — з аднаго на другое: з успамінаў пра Янку на свае чаравікі, у якіх падэшва аказалася кепская. Потым зноў — на трэцяе, далей можа вярнуцца да першага.

З ёю мімаволі стамляешся. Колькі ў ёй энергіі. Якая яна была ў маладосці?

Гадзіны чатыры паказвала мне архіўныя дакументы. Спачатку было цікава паглядаць, потым — нуднавата, а ўрэшце я адчуў, што галава пачынае кружыцца — блізка да вобмараку.

Любіць маладых хлопцаў — пагаманіць, паклікаць іх на абед. Першыя тосты — «за маладосць!» «За мужчын, бо іх мала!» і г. д.

Партрэт — поўная, старэчы абвіслы твар, кароткія, падрэзаныя скобкай валасы,— па мужчынску амаль. Знаёміцца адразу. Адразу — друг. Усе тайны табе.

У мужа паранена плячо. У жонкі плячо таксама баліць, нібы і яна паранена туды ж.

Сястра К. чарнявая, вясёлая. Спявала ў маладосці багата. Вышла замуж не за любага. «Я ўсё роўна люблю не цябе, а яго»,— казала мужу.

Не сумавала, хоць у сваім пачуцці была пастаянная. Потым пайшлі дзеці — як паўтара-два гады — новае. Нарадзіла адзінаццаць. Клопат вялікі. А яна бадзёрая.

Бывала, на сход не даклічашся — дзе там, старая ўжо я. Куды мне! А як пачуе гармонік — павяжа пярэстую хустку на галаву — ды на музыкі з дачкою. Ды, можа, і скакаць пойдзе.

З дзецьмі было няшчасце: адно — памерла ад су-

хоты, другое — сышло з розуму, двух сыноў забілі на фронце, трэцяга пакалечылі, а яна паплача, паплача ды зноў галаву ўскідвае, не вешае яе.

Смешнае што раскажа, засмяецца маладым смехам. Чым бядзе паможаш?

Шчырая і прамая ў словах. Добрая і прыветная.

Дачка яе — Уладзя — была самая прыгожая. Бялявыя валасы, сінія вялікія задумлівыя вочы. Стройная. Многія закахаліся ў яе. Хлопец адзін шафёр палюбіў, але не наважыўся сказаць — такая моцная любоў была. А яна таксама любіла яго і пакутавала.

Маўклівая. Палюбілася аднаму інжынеру, той зачасціў у хату, сядзіць.

«Скажы што-небудзь»,— кажа маці.

«Ай, што я скажу — мне трэба лекцыі рыхтаваць на заўтра ды і спаць хочацца».

«Не мая дачка»,— казала маці.

Пасля сканчэння тэхнікуму паслалі ў Рэчыцу. Там на рабоце пазнаёмілася з таварышам па рабоце, пажаніліся.

Нарадзілася двое дзяцей. Трэцяе ў вайну. Муж — на фронце. Жахі акупацыі яе вельмі кранулі. Разгубленая стала, загаворваецца. Потым, калі вызвалілі, родныя адшукалі, здзівіліся — вельмі ж змянілася, пастарэла.

Апатыя з'явілася: «Нашто жыць?» — пісала ў лістах. Мужа не было, забілі. Памёр хлапчук ад менінгіта. «Жыццё — гора. І дзеці будуць пакутаваць».

Аднойчы сабралася, узяла дзяцей, пайшла на Днепр — тапіцца з імі. Людзі не дапусцілі, дакаралі, угаварылі.

Праз некалькі дзён яна перарэзала сабе горла. Рана ўстала маці — чуе — нешта капае. Мо дзіця нарабіла. Бачыць кроў, горла перарэзана. Паклікала людзей. Прыйшла дапамога, выратавалі.

Сталі сачыць. Прыйшлося адправіць у псіхіятрычную бальніцу. Адтуль тры разы ўцякала. Усё-ткі вылечылі.

Але праз паўгода захварэла на скарацечныя сухоты і памерла.

«Сем разоў нехарошы».

Вясёлы дзядзька. Сам малады, а да жанчыны, што прыйшла да яго са справай і якая не маладзей яго, кажа: «Дочачка». «Та не так разумееш, малая!» І як бацька размаўляе. А вочы смяюцца. Вясёлы, відаць, дзядзька.

Находчывы на словы, смешна так даказвае.

Кс. Фед. Загадвае ўсёй гаспадаркай, кіруе ўсім. Муж ні да чога не кранаецца рукою. Паправіць дзверы, папілаваць дровы — яе справа.

Жывая незвычайна, быстрая, вясёлая — голас разносіцца то на дварэ, то ў пакоі. Трэба было прадаць піяніна, яна дамаўлялася з пакупнікам. Той таргаваўся з-за паўтысячы. «Ды што вы водзіцеся, як жанчына. Бярыце. З-за капейкі — столькі гаворкі!» Столькі праматы і быстраты, што пакупнік збянтэжыўся і змоўк адразу.

Званіла наконт грошай.

«Хто гэта? Ты, Халюцін?.. Хто гаворыць?.. Той, каму ты павінен грошы... Ну, ну — я!.. Ну, што сёння зноў скажаш, заўтра?.. Ёсць! Гэта іншая справа... А то ўсё — заўтра, заўтра... Дык глядзі — чакай, хутка прыйду!..»

У пустым пакоі гулка незвычайна стукаюць крокі — гух, гух, як у бочцы, голас грыміць.

Кр. Усё жыццё прывык ён па паверхні жыцця ісці, зрываць кветкі, адчуваць лёгкае, бязвоблачнае. Стаў пісьменнікам. Не сядзелася над творамі — атрымліваліся гладкія, роўныя, але лёгкія. Прачытаеш — і не памятаеш аб чым.

З усякага становішча цяжкага імкнуўся хутчэй выбрацца. Толькі б лёгка, толькі б бязвоблачнасць.

Жаніўся. Скардзіўся — няўдала, ашукаўся ў сваіх спадзяваннях.

Моршчыўся і мыляўся, як малады неаб'езджаны канёк, на якога ўпершыню надзелі хамут.

Р. І. гаварыла:

«Як толькі я астануся адна з дачкою, цэлы дзень толькі тое і раблю, што ругаю яе».

А любіць яна яе незвычайна — адзіная дачка, адзі-

нае стварэнне. Любоў выражаецца ў кожнага па-свойму. «А пойдзе на заняткі яна — чакаю не дачакаюся».

Любіць загадваць загадкі, рэбусы. Раздзялі: аддалі чацвёртую часць пірага аднаму, затым прыйшло чатыры — як раздзяліць на чатыры роўныя часткі. Пасміхваецца, калі думаюць.

[1956 год]

Малады хлопец з вёскі дарваўся да горада. Прыехаў сціплы, сарамяжы, ветлівы. Цікаўна, разявіўшы рот, глядзеў першы раз на цуды горада. Паступаў у інстытут — перад будынкам натоўп, падышоў нясмела, разгублены. У будынку інстытута — таксама вір, хваляванні. Сам хваляваўся страшэнна: правалю. І праваліў бы. Ад хвалявання заікаўся, блытаў, не мог успомніць, што і ведаў. Але за яго заступіліся, памаглі. Паступіў. І вось прайшоў год. У кампаніі сяброў сваіх змяніўся так, што не пазнаць. «Гарадскі» стаў. Куды падзелася нясмеласць і сціпласць. Звузіў нянадта новыя штаны свае ў дудачку, купіў модны гальштук, дзяшовы капялюш. На ўсіх вечарынках са сваім прыяцелем «паэтам» — першы танцор, першы кавалер. Зразумеў, што прыгожы, можа падабацца,— адпусціў грыву, вусы рэдзенькія. Страшна абражваўся, калі хто-небудзь называў «вёскай». Брат N. (таго самага). Пазычае ў свайго аднакурсніка грошы — не хапае, модную куртку, якая падабаецца дзяўчатам. І самому так спадабалася, што ніяк не хоча вяртаць... Прыехаў дадому, пабыў дзень-два, не ўседзеў — нудната якая. Як жыў цэлых семнаццаць гадоў. Кінуў старых, выпрасіўшы грошай, паехаў бадзяцца к прыяцелю... Вярнуўся ў інстытут. Прыемны тлум першага дня, інтэрнат. Потым зноў тое ж — карты, гульня да поўначы, спанне да абеда. Выклікалі, ушчувалі — ніякіх вынікаў. Дзень-два паходзіць, павучыцца як след, потым зноў з прыяцелямі: «Вучыцца, карпець — не тая эпоха».

Без стыпендыі. (Брат ці плямянік — вядомага чалавека). Ходзіць з просьбамі. Потым крыўдзіцца — лаюць, адвярнуліся, чэрствыя. Дзядзька спрабуе паставіць на ногі. Пра бацьку-гаротніка, пра сваё труднае быццё змоладу — слухае моўчкі, спачувае, абяцае. Потым — зноў танцы, весялосць. Крыўда: усе вучаць, а памагчы — ніхто не паможа. Каб рубель выпрасіць... Несправядлівасць. Незадаволены жыццём, няпраўдай.

У гады вайны. Хварэла дачушка. Што за хвароба — невядома, але гіне дзяўчына на вачах. Маці дзе магла дасгавала цукар, цукеркі — ёй. Радавалася, калі тая ела. Потым — калі памерла, аказалася — сахарная хвароба. А яна ёй цукар!

Дзяўчына працавітая. У беднай, працавітай маці-ўдавы. Дзяўчынка, аднак, любіць прыбрацца, модніца. І прыгожая. Маці папракае, а ёй — што! Сама па журналу мод ці пабачыўшы ў каго на вуліцы пашые такое плацце, пальто — ахнуць! Хлопцы, самыя модныя, цугам! Круціць імі, камандуе. Не пускае дамоў, і блізка — думаюць з-за гордасці. А яна — на ўскраіне, на гразнай вуліцы, у хатцы — у палавіне, якая вось-вось развяліцца. Сыра, цёмна, убога. Пасля светлага праспекта гэта асабліва відна. Працуе на фабрыцы, вучыцца ў вячэрняй школе — у свой час не кончыла. Падала заяву на кватэру, але — столькі просіць. Не далі! Да таго ж — модніца, верціхвостка.

Трапіла ў БОКС — камсамольская сатыра. Размалявалі, подпіс абразлівы — выставілі на скверы ў самым цэнтры горада. Хоць не паяўляйся. Вырвала малюнак. Справа на яе ў камсамольскай арганізацыі. Выклікалі ў камітэт. Першая размова. «Ганьбіш на ўвесь горад. Не паздаровіцца!» (Сястра той дачкі, што памерла ад дыябету.)

(Можа, у раман «Поўнач, поўнач».)

ТЭСЕЛІ

Зіма ў санаторыі. Нуда. Сняцца снег, сосны, гарадскія вуліцы, святло ў вітрынах.

Тут кіпарысы, хмурнае мора, скалы і нуда.

У Тэселі забрыў. Кабінет. Стол — яго ці не? Матрацы нейкія ў кутку.

Але тут ён хадзіў, думаў. Скала яго, ставок. Чырвонаармейцы з Фароса выкапалі. Не адну тысячу дзён, вялікую частку жыцця, будучы славутым, багатым, любімым, вымушаны быў сядзець на Капры, у Сарэнта, у Тэселі. Толькі цыкл казак аб Італіі і ніводнага апавядання пра Крым. У сэрцы толькі Расія, рускія прасторы, рускія гісторыі.

Многія гады — [нрб] руская зямля блізка і далёка. Сколькі раз, мабыць, снілася яна яму. Сколькі любасці здалёк і тугі!

ДАЛЁКІ МАЙ

Ён прыехаў сюды многа гадоў назад. Болей за 40. 43 гады. 43 гады магіла яго пад кіпарысамі на ялцінскіх могілках...

А тады быў май. І Максім, мабыць, стаміўся. Дарога доўгая, на конях. Яму было 25 год, але ён быў такі хворы. Была яшчэ надзея на Крым.

Ён прыехаў у Ялту. Калі, раніцай, увечары? Як ён ішоў ці ехаў па вуліцы? Якой была тады Ялта? Якое мора — хмурнае, ласкавае. Я не ведаю, я толькі стараюся ўявіць.

Ён жыў у доме над прыморскім паркам. Я ведаю гэты дом, быў у ім. Ён можа быць мала перамяніўся, гэты дом, толькі некалькі разоў фарбу мянялі.

Тут Максім жыў апошнія дні. Ён згасаў. З кожным днём усё слабеў. Спачатку трохі хадзіў, а потым толькі ўставаў, нарэшце і рукой цяжка было паварушыць.

А ў галаве было так ясна. І столькі планаў. І столькі любві. І такія зялёныя былі кіпарысы, і так цвілі гліцыніі. Я не ведаю ўсяго. Але мне сумна і журасна.

Сорак гадоў ляжыць ён у чужой зямлі. А мора — такое ж сіняе, такое — невыказна прыгожае, і кіпарысы, і гліцыніі. І горы ў бэзавай дымцы,— хараство.

Столькі хараства ў цудоўным гэтым краі, столькі (ранніх) магіл!

Літаратура абавязана паказваць жыццё ў вялікім руху. Рэвалюцыйная героіка, пяцігодкі, вайна — усё гэта такое, чаго нельга не развіваць у літаратуры.

Успомніць, якое значэнне мела ў свой час «Як гартавалася сталь» — гістарычная, мемарыяльная рэч.

У Пушкіна лепшая рэч у прозе «Капітанская дочка» — аб падзеях стогадовай даўнасці. Тое ж у паэзіі — «Палтава», «Бахчысарайскі фантан»; тое ж у драматургіі — «Барыс Гадуноў», «Моцарт і Сальеры», «Сцэны рыцарскіх часоў»... Суцэльны «перакос»! Усё — гісторыя!.. Уцёкі ў мінулае?.. Пушкіну, праўда, можна дараваць: ён не быў дастаткова арганізаваны. Не было Саюза пісьменнікаў, такога дасканалага апарата!

Вучоныя, вывучаючы зямлю, пасылаюць караблі ў космас, забіраюцца ў высокія вышыні. Знайшлі многа цікавага — мы багацей ведаем зямлю. Цяпер праекты — прабурыць глыбокія скважыны — на 10—15 км у глыб зямлі, вывучыць пароды, змены іх. Гэта дапаможа зразумець, як стваралася, сталела зямля.

Задача літаратуры па сутнасці тая ж — заглядваць у высі і бурыць землю ўглыб, паказваць — як стваралася, сталела наша жыццё.

Тыя працэсы, якія адбываюцца цяпер у беларускай літаратуры, тлумачацца іменна гэтым — жаданнем зірнуць шырэй і глыбей — шырэй і глыбей зразумець тое, што называецца сучаснасцю. Іменна таму пішуць і пра 1905, і пра перадрэвалюцыйныя часы, і пра 20-я гады, і пра вайну...

Чалавек без гісторыі, без традыцый, што дрэва без карэння.

Свежы вецер XX і XXII з'езда павінен прайсці праз усе дзверы і вокны, ачысціць паветра ва ўсіх установах.

Культ Сталіна для нашага часу таксама «гісторыя», мінулае. Але XXII з'езд палічыў патрэбным, неабходным вярнуцца да «гісторыі», каб зноў, у другі раз пасля XX з'езда, навесці поўны парадак у гэтай «гісторыі», унесці поўную яснасць, ачысціць «гісторыю», без якой нельга ні жыць, ні працаваць па-нова-

му, у поўную сілу. Без усяго наноснага, закарэлага, без несправядлівага. Без няпраўды. Толькі праўдай.

Ці няма ў нас такога, ад чаго трэба было б ачысціць нашу «гісторыю», нашу літаратуру? Зроблена нямала, але зроблена — трэба сказаць шчыра — не ўсё. Не ўсё выпраўлена, не ўсё зменена!

...Думаецца, што задача наша складанейшая: выкрасліць з нашага жыцця непатрэбныя звычкі, якія па новых умовах перашкаджаюць правільна разумець тое, што адбываецца, працаваць на ўсю сілу. З часоў культу засталася ў спадчыну такая хвароба, як выдзяленне некаторых пісьменнікаў на нейкае асобае становішча ў літаратуры. Ёсць нейкая, невядома кім зацверджаная група, абойма, эліта. Усюды і ва ўсім гэтая група выдзяляецца.

Не можа быць гаворкі аб тым, каб ураўняць заслугі пісьменнікаў, але нельга і так жалезна падзяляць літаратуру, фактычна стрымліваючы прызнанне работы многіх і многіх маладзейшых пісьменнікаў, стрымліваючы рост. Трывожыць такое становішча, калі некаторым пісьменнікам лягчэй заваяваць усесаюзную вядомасць, чым прызнанне іх работы сярод некаторых работнікаў нашай сталіцы.

У мяне склалася такое ўражанне, што амаль уся пасляваенная літаратура недаацэньваецца, нігілістычна прытрымліваецца недзе на другім плане. Гэта асабліва дзіўна, бо літаратура расце вельмі бурна, бо яна дала нямала добрых, сапраўдных твораў, бо выраслі сапраўдныя пісьменнікі, якія нямала зрабілі, бо ўвесь час папаўняецца маладымі сіламі.

Мімаволі думаеш, што хто-ніхто бачыць літаратуру такой, якой яна была 15—20 гадоў... Хто-ніхто трывожыцца незадаволеных галасоў маладых і не маладых, гатоў бачыць крамолу, — не трэба баяцца! Гэта натуральная з'ява, гэта і ёсць тыя парасткі, якія ўзнялі ў чалавечых душах тое, што было зроблена на XX і XXII з'ездах! Гэтых галасоў нельга ні баяцца, нельга і адмахвацца ад іх. Трэба прыслухацца да іх і трэба змяняць некаторыя рэчы, якія ўсё роўна будуць зменены па неадменных законах жыцця. Рана ці позна, але будуць зменены, падабаецца гэта ці не падабаецца каму-небудзь.

З пагардай гавораць пра гісторыю, нібы не ведаюць, не помняць, што адна з двух асноў марксізма — гістарычны матэрыялізм.

Бачыць сучаснасць гістарычна — бачыць чалавека сённяшняга дня гістарычна — тое, без чаго не можа быць сапраўднай літаратуры.

У дні гэтыя нараджаецца не толькі новы свет, нараджаецца новы чалавек. Ён адчуў дыханне новай эры, яго гэта ўзняло, акрыліла. Ён адчуў хараство новага часу, калі збудуцца яго мары, у ім выявіліся новыя сілы! Ён пойдзе на ўсё ў імя новай зары. Ён непераможны.

Дарэмна яму перашкаджаюць, хочуць спыніць. Ён пераможа ўсё.

Гэты чалавек — не адзін. Ён народ. У гэтым яго моц.

Малады чалавек можа рана састарыцца толькі ад бяздзейнасці.

ДУМКІ АБ ЛІТАРАТУРЫ

1. Погляд на літаратуру — як на ілюстрацыю.

Дайце пра Салігорск, Нафтабуд.

Тэма для нарыса, для верша, для манаграфіі гістарычнага плана.

Задача літаратуры — даследваць, абагульняць, маляваць чалавечыя тыпы.

Як бы добрасумленна не апісаць, што было, гэтага недастаткова будзе для рамана. Пісьменнік непазбежна скоціцца да рэгістратара, апісальніка падзей.

Неабходны — праблемы, ідэя, вобразы. Яны — аснова твора. Толькі ідэя, праблема, новая, сучасная, можа даць аснову, мэтанакіраванасць твору.

2. Перавелічэнне значэння тэмы, матэрыяла.

Літаратура дзеліцца на: завадскую, калгасную, ваенную, гістарычную. Прымат тэмы, матэрыяла. (З «Гісторыі» прыклады). А што такое «Яўгеній Анегін» — раман у вершах на тэму жыцця дваранства. А «Вайна і мір» — гістарычны раман аб вайне 1812 года. Проста, зручна.

Але чаму нас хвалююць — дваранская гісторыя і гісторыя 1812 года?

Душа твора. Ідэя. Духоўны свет твора — вось што аснова, што набліжае і князя Балконскага і Карэніну, Рамэо і Джульету, ідэі — зразумелыя, блізкія, я б сказаў — сучасныя нам.

3. Прыніжэнне ролі ідэйнай; мастацкіх якасцей твораў прыводзіць да нівеліроўкі літаратуры. Рэабілітацыя твораў слабых, у імя тэмы.

Яснасць патрэбна — для правільнай арыентацыі літаратуры і пісьменніка. Спрэчка аб літаратуры пра вайну. Сучасная ці не сучасная? Патрэбная ці не патрэбная?

Творы пра вайну — душа іх? Калі як ілюстрацыя, яны не патрэбны. Але душа іх — гераізм савецкага чалавека, хараство яго. Гераізм — устарэлае? У наш час, калі пахне порахам?

4. Аб сучаснасці твораў.

Сучаснасць:

а) ідэі, думкі, праблемы, тэмы;

б) мастацкіх сродкаў, формы: стылю, мовы, кампазіцыі і г. д.

Многа спрэчак аб форме. Стыль — тэлеграфны..., сцэнарны. Кампактнасць — раман не больш 10 арк. Эпапеі — устарэлі...

Але — імкненне да эпапей «Поднятая целина», «Абай», «Берег ветров», Стэльмах, Ганчар. У нас — Колас, Пестрак, ненапісаныя эпапеі. Зарубежныя: Мартэн дзю Гар, Арагон «Камуністы». Мова. Фолкнер «Особняк» (1959) — адзін сказ (прыклад).

Разнастайнасць.

Якія ж новыя адзнакі: імкненне да прастаты, адмаўленне ложнага пафасу, гучных слоў. Без доўгіх пейзажаў, доўгіх партрэтаў. Дарэчы, у Л. Талстога — партрэты ў руху. (Л. Талстой пра партрэт.) Лёс эпічнага жанру. Будзе расці. Рост заканамерны — час такі.

5. Задачы жанраў. Чаму асабліва хутка старэюць сучасныя раманы?

Таму, што не ўлічваюць асаблівасці жанраў. Тое, чаго даволі для нарыса, недастаткова для рамана. Нарыс, верш — перадавы падраздзел літаратуры. Раман — артылерыя. Нельга з пушкі па вераб'ях. Раман — менш аператыўны, затое — больш вясомы. Раману — шырокае поле, важныя праблемы, абагульненні.

Раманы губіць дробнаідэйнасць, ілюстрацыйнасць.

Жыццё ідзе. Раманіст павінен бачыць і прадбачыць — гадоў на 10 наперад. Тое, што важна цяпер і што будзе важна цераз 10 год.

Майстэрства. Быць на ўзроўні ўсёй савецкай, сусветнай літаратуры.

«Краткость — сестра таланта» — Чехов.

Колькі іх гэтых сясцёр у талента? У сям'і, якая павінна быць у пісьменніка?

Здаецца, многа.

Найперш самая строгая — сястра — праўда, потым — самая добрая, шчырая — сястра, сардэчнасць, трэцяя — разумнасць, тактоўнасць, чацвёртая — сястра — глыбіня (погляду, пранікнення ў жыццё), пятая — шырыня (бачання жыцця), шостая — вольнасць унутраная (не скованасць), сёмая — натуральнасць (безискусственность — якая ўмее паводзіцца без ламання, без фальшу; такі талент асабліва прыгожы ў жанчын), восьмая... восьмая, можа быць, ёсць кароткасць, але... Але я пры гэтым успамінаю словы, якія я чуў аднойчы ў Маскве ад немаладога пісьменніка: «У творы не павінна быць нічога лішняга, але і не павінна нічога быць упушчана...» Я ўспамінаю Талстога і Дастаеўскага — ці заўсёды шанавалі яны гэту сястру?..

Дзевятая сястра... Ці не даволі? Ці мала яшчэ сясцёр, якія кожнага любяць па-свойму і па-свойму памагаюць кожнаму. Ведаю адно, чым больш гэта сям'я і больш дружнейшая, тым багацей брат-пісьменнік.

*(16/XI-1961 г.)*

*Аб сучаснасці*

Чаму мы чытаем Пушкіна, Флабера, Мапасана — чытаем часам ■ большай цікавасцю, чым сённяшніх пісьменнікаў?

Таму, што ў іх творах ёсць жывое і ў наш час. Асветленыя нашым святлом, яны як нашы сучаснікі.

Не ўсё з таго, што было, можа ажыць. Ёсць мерцвякі, якіх ніштo не ажывіць.

Пушкін і Мапасан — нашы сучаснікі. Талстой, і Горкі, і Чэхаў.

Яны хвалююць таму, што іх мы ўспрымаем як сучаснікаў.

Чаму хвалююць гістарычныя творы? Чаму трагедыя Барыса Гадунова і Саламбо нас гняце, як свая бяда?

Таму, што гісторыя адчуваецца намі не толькі як гісторыя, нават не столькі як гісторыя. Наша сэрца набліжае радкі даўнасці да нас, ставіць перад намі, робіць нас саўдзельнікамі.

У гісторыі ёсць заўсёды элемент сучаснасці. Іменна ў гэтым сакрэт таго, чаму хвалюе гісторыя, чаму жыве яе значэнне.

Маркс, Ленін — не толькі гісторыя, гэта і сучаснасць. Яны і сучаснікі нашы. Сучаснікі нашы і Фурманаў, і Н. Астроўскі, і Маякоўскі, і Купала.

У часткі нашай моладзі паявіўся нейкі нігілізм, ці — абыякавасць да тых вялікіх дасягненняў, якіх мы дабіліся за гады савецкай улады.

Сярод іншых прычын — і тое, што часам траціцца адчуванне традыцый. Што літаратура паказвае сённяшняе як гатовае, што ўчарашняе, тое, што было гадоў сорак — адышло ў цень.

## [1962 год]

*9.2.62 г.*

Учора мне стукнула 41. Сягоння імянінніца — Ларыса. 8 месяцаў. Яна ўжо добра ходзіць,— трымаючыся за што-небудзь. Яна проста гордая тым, што можа. А ўмее ж яна яшчэ і плюхацца на канапу, і гусці, і «ладушкі» рабіць! Таленавітае дзіця!

*21.3.62 г.*

Сыпле снег. Можна сказаць, пачалася сапраўдная зіма. Увесь снежань дажджы, увесь студзень — адлігі, у лютым — то падмерзне, то растае; а вось — мароз, завея! Зіма!

Чытаю пераклад на рускую мову «Людзей на балоце»...

Раманам цікавіцца «Дружба народов» і «Роман-газета».

*27.3.62 г.*

Ніколі не думаў, не гадаў, што «Людзі» так пойдуць. Пісаў наперакор усім заклікам (да сучаснасці), і от, на табе. Калі друкавалі ў «Полымі» — усе карэктуры расхапалі. Колькі пацiскаў рук, віншаванняў; цяпер няма такога пленума ці схода, каб не згадалі добрым словам. З усяго гэтага я не чую ніякага кружэння ў галаве. Я, аказваецца, вельмі спакойны да славы, да хвалы; мне становіцца нават сумна: і гэта — усё?!

З усіх гэтых гаворак для мяне самае галоўнае: я магу! Я зрабіў добрае, вартае; варта гэта рабіць і далей — от што самае важнае. Так бы напісаць і другую! Не горш!

*17.6.62 г.*

Лета. Сонца, сіняе неба. Людзі бадзяюцца па лесе, песцяцца на моры. А я — як катаржнік — аўтарызую на дачы...

*21.8.62 г.*

Сядзеў у Маскве. Ва «Украіне» дараблялі з Часнаковай пераклад. Нарэшце, здаецца, давялі да канца. Паўгода ўбіў за нішто часу! І стаміўся...

## [1963 год]

*1.1.63 г.*

Снег. Мароз. Хадзілі фатаграфіравацца ў сквер. Настрой святочны — больш за ўсё ад нечаканай прэміі.

*3.1.63 г.*

Палучыў 925 руб. прэміі (Коласа). Адна бухгалтэрыя праявіла цікавасць і ўвагу.

*5.1.63 г.*

Прыслалі з Масквы «Людзі на балоце».

*11.1.63 г.*

Званок з Масквы — выклікаюць у «Раман-газету». Хочуць друкаваць.

*16.1.63 г.*

У Маскве. «Украіна». Пачатак рамана з «Раман-газетою». Дадуць у № 6. Тыраж — 700 тысяч экз.! Нішто сабе!

Вельмі марозна. Мароз — аж дым круціцца.

*19.1.63 г.*

Дакончыў клопаты з «Раман-газетою». Збіраюся ехаць дадому.

*27.1.63 г.*

Людзе — 19 гадоў. Учора здала апошні экзамен — адны пяцёркі.

## [1965 год]

*27 жніўня 1965 года*

Закончыў раман. 12—45 дня. Кропка.

(Не бачыў лета. Стаміўся!)

## [1967 год]

*1 студзеня*

Прыехаў на два дні з Масквы. Пабуду сёння да вечара і зноў — за кнігу, за пераклад. Трэба канчаць! І так столькі часу загінула папусту — з-за чужога нядбальства.

Навагоднюю ноч быў у Саюзе. Сядзелі разам — Адамовіч, Брыль, Скрыган, жонкі. Танцавалі трохі. Брыль спяваў.

Вярнуўся каля чацвёртай гадзіны. А вечарам — еду. Білет у кішэні. Мінулы год увесь выйшаў пусты. Хварэў, быў стомлены. Як у новым пойдзе?

*7 студзеня*

Прыехаў у Мінск. З Масквы. Загубіў яшчэ адзін месяц на пераклад. Яшчэ адна нядбайная (амаль халтурная работа), а я павінен пакутаваць. Ён «стаміўся», таму не мог зрабіць як след, перачытаць — адзін раз. Тое, што настукаў. Аб якой там творчай рабоце казаць! Нават вычытаць не знайшлося часу. І я павінен быў месяц мучыцца, кіпець, «дацягваць»! Гэта — да таго паўтара месяца, што я дацягваў увесну,— калі я яшчэ прасіў: прачытай, дарабі! Чамусьці мне ўпарта не шанцуе на пераклады! Ці іх няма зусім — добрых перакладчыкаў?

Цяпер трэба на працу ў Саюз. Я так доўга займаўся «сваімі» справамі.

*9 студзеня*

Гаварыў з Канавалавым. Пра выданне Збору твораў. Паставілі ў план, калі—невядома. Ён паказаў ужо новы — на самы канец плана, на 1970 год. Нехта там вельмі «прыяе» мне ў выдавецтве. Канавалаў абяцаў — уключыць на 1969 год, па крайняй меры. Шэсць тамоў. Ён пакрыўджаны за мае крытычныя выступленні па выданню кніг.

Ужо калі вярнуўся, успомніў, што ў лютым 1969 года — мне трыццаць год. Трыццаць год друкуюся — юбілей творчай работы. Падстава для таго, каб пачаць выданне ў 1969 годзе.

Цэлых трыццаць! Падумаць толькі — ужо трыццаць. Думаю пра тое, што паправіць. У першую чаргу «Мінскі напрамак».

*12 студзеня*

Былі на вечары ў Калачынскага. Ён — давольны тым, як адзначылі.

Было некалькі вельмі харошых размоў, і таму настрой вельмі харошы.

Дадому — каля другой гадзіны.

*13 студзеня*

Прастудзіўся. Прыйдзецца пасядзець дома.

І то добра было — паўзімы прайшло, а я ні разу не сядзеў дома прастуджаны.

*17 студзеня*

Сяджу ўсе дні дома. Пераглядаю і праўлю «Мінскі напрамак». Акрамя праўкі — дапаўненні. Прачытаў новыя «Гісторыі» — многа дакладных фактаў, раней мне невядомых і недаступных. Гэта мне вельмі зашкодзіла, асабліва з Чарняхоўскім у другой кнізе.

Трэба падцягнуць. Адзін раздзел пра Чарняхоўскага прыйдзецца напісаць нанава. Вельмі сумбурна, выдумана, несур'ёзна было. Цяпер можна лепей. Можна і — трэба!

*18 студзеня*

З Саюза сказалі: памёр Аркадзь Чарнышэвіч.

Успамінаю, якім ён прыходзіў тыдзень назад у Саюз. Задыханы, ціхі і цярплівы. Звыклы цярпець. Шкода.

*20 студзеня*

Праўлю «Мінскі напрамак». Пачаў раздзел — Чарняхоўскі на камандным пункце. Калі пачалося наступленне. Атрымліваецца нешта прыстойнае. Ва ўсякім разе лепшае за тое, што было. На вуліцы — ясна і вельмі марозна. Некалькі прыгожых дзён.

*21 студзеня*

Трэба будзе падрыхтаваць да друку трохі ваеннага дзённіка. Каля аркуша. Даць у зборы — як пачатак прозы. Франтавая проза. У першы том.

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ РАЗВАГІ

*15/III 1967 г.*

Камуністы — праціўнікі ўсякай расавай, нацыянальнай выключнасці. Праціўнікі нацыяналізму, ва ўсіх формах і праявах. Гэта трэба помніць, гэта — важна. Няма для камуніста формы нацыяналізму прыдатнай. Нацыянальны нігілізм — гэта таксама нацыяналізм. Нацыяналізм, які прызнае сваю нацыю ніжэй за іншыя. Гэта пачварная форма нацыяналізму таксама зыходзіць з няроўнасці народаў і нічога не мае агульнага з інтэрнацыяналізмам, камунізмам. Калі мы дадаем да слова «нацыяналізм» — «буржуазны», то да

слова «нігілізм» — справядліва дадаць яшчэ «лакейскі». Па сутнасці, гэта таксама старая, буржуазная спадчына, якая, аднак, жыве сярод нас. Жыве — натуральна — маскіруючыся пад новае. Гэта гнуснае пачуццё, асабліва гнуснае таму, што яно зыходзіць у рэшце рэшт з эгаістычнай выгады, таму, што яно поўна пагарды да свайго народа, да ўсяго, што здабыта вякамі яго працы.

*30/V 1967 г.*

Глыбакадумныя развагі, што крытычны рэалізм адметны тым, што пафас яго быў у крытыцы, у адмаўленні, а сацыялістычны — тым, што задача яго ў сцвярджэнні новага, станоўчага — вынік спрошчанага, вульгарнага разумення сутнасці літаратуры, яе пафасу, яе гісторыі.

Крытыка, будучы накіраванай супраць нечага, тым самым непазбежна дамагаецца нечага іншага. Крытыка ўжо тым, што яна ваюе супраць, ваюе і за. Гэта так жа абавязкова, як тое, што ў дручка два канцы, а ў манеры два бакі. У самым адмаўленні ёсць станоўчы ідэал. Інакш крытыка не магла б быць, не магла б нарадзіцца. Гэта — дыялектычнае адзінства супрацьлегласцей.

Крытыку нараджала сцверджанне. Крытычны рускі рэалізм быў таксама і рэалізмам сцвярджэння. Ён адмаўляў дэспатызм, цемрашальства, здзек над чалавекам працы, тым самым ён сцвярджаў дэмакратызм, свабоду, асвету, высокую годнасць чалавека. У гэтым сіла рускай класічнай літаратуры, яе вялікае хараство, якое ззяла, ззяе і будзе ззяць навек.

Гэтым класічны крытычны рэалізм жывучы і цяпер. У гэтым прычына таго, што сацыялістычны рэалізм натуральна развівае крытычны.

Гэта гаворыць пра тое, што непераходнай мяжы тут няма.

Сэнс, аснова, закон жыцця літаратуры ў тым, што яна змагаецца за нешта, а значыць і супраць нечага. Гэта закон жыцця, інакш літаратура спусташаецца, запаўняецца замест гарачай крыві халодным безжыццёвым растворам, перастае быць новай істотай.

Няма і не можа быць сцверджання без крытыкі. Ваяваць за нельга, не ваюючы супраць. Больш таго,

сіла літаратуры ўзрастае па меры таго, як расце яе крытычны пафас; з ростам крытычнага пафаса расце і сцвярджальны. Станоўчае прама прапарцыянальна крытычнаму.

Усякае імкненне выняць з нашага рэалізму крытычную сілу — гэта непазбежна імкненне выняць душу, імкненне абяссіліць яго. Усе нашы страты — поўныя ці частковыя — ад таго, што гэты закон існуе, існуе як дыялектычнае, непадзельнае адзінства, усякія спробы разарваць якое парушаюць нармальную жыццёдзейнасць жывога арганізма, робяць яго хворым ці забіваюць яго.

Многія нашы творы хранічна хворыя ці памерлі іменна таму, што быў парушаны гэты закон літаратуры.

Літаратура павінна змагацца, ваяваць. Яна павінна быць гнеўнай, страснай, абурацца, захапляцца. Яна павінна думаць, хацець, зваць. У гэтым яе жыццё. Было раней, ёсць цяпер, будзе заўсёды.

## МЕЖДУНАРОДНАЯ ВЫСТАВКА КНИГИ.

Москва, июль 1967 г.

Книга — спутник человека. Это верно. Но не менее верно и то, что книга в широком значении — спутник народа.

450 лет назад вышла в Белоруссии первая книга. Это очень рано. Но потом были столетия, когда народ жил по существу без книги. Целое столетие спутником народа — была устная книга — замечательный фольклор белорусского народа — сказки, песни, пословицы.

С трудом рождалась новая белорусская литература, новая белорусская книга.

Многие книги ходили подпольно.

Здесь — часть того, что издано у нас в последние годы.

Можно много говорить об этих книгах. Я вспоминаю только несколько фактов. Здесь нет книги Астрейко «Слуцкий пояс». Она вышла в партизанском отряде.

В разрушенном Минске в 1944—1945 г. выходили только единицы.

Теперь у нас многое делается, чтоб у народа был достойный спутник — книга.

Мы, писатели, будем содействовать этому.

Трэці раман пісаць больш сцісла. Кампактна. Можна ўжо не тлумачыць — рыхтаваць: усё падрыхтавана.

Больш дзеяння. Карціны — падраздзелы — дзеянне.

Час перамен. Усё рушыцца, мяняецца. І гэта трэба ў кампазіцыі. Змены, змены, змены.

І не траціць глыбіні.

Ларыса кажа, што яна ніколі не бывае сама па сабе. Яна заўсёды: ці заяц, ці птушка, ці воўк.

У раман: «левак», «левацкія загібы» (аб Башлыкове).

«Убить хорошую книгу — почти то же, что убить человека».

*(Мильтон)*

«Книги надо читать так же сосредоточенно и неторопливо, как они писались».

*Дэвид Торо,* американский писатель (в кн. *«Жизнь в лесу»*)

## [1969 год]

Увесь год пісаць раман. Раман — асноўная праца. Адзіная важная.

Дабіцца водпуску — для творчай працы і лячэння.

На восень — да новага года — абавязкова — паехаць у Крым. Не хварэць тут у макрэчы, у слаце. Сачыць за здароўем. Пакуль не зусім позна.

Пісаць — уперабіўку — розныя раздзелы, у розных месцах. Не трымацца паступовасці ў пісанні рамана. Каб не стамляцца аднастайнасцю. Разнастаіць характар пісання. Тут напісаў, у іншым месцы трохі. Каб была навізна. Новае старацца пісаць адразу. Запісваць абавязкова па гарачых слядах.

Можа быць, варта прыехаць у Малееўку (ці Перадзелкіна) летам. Тут — ціха. Адгарадзіцца ад усяго і — пісаць, пісаць.

Хадзіць у адзіноце, думаць у адзіноце, тады — к сталу.

Год — і лета — для рамана. Трэба фарсіраваць яго. Канчаць трэба.

Даведацца, як умовы для работы ў Перадзелкіна. Думаю, там — горш, як у Малееўцы.

*1.II.69 г.*

Прыйшла думка: вельмі важна — напісаць аповесць, раман: як перарабляе хлопца з вёскі горад. Як знікае ў ім вясковае, даўняе, у тым ліку і добрае, і як вырастае сярэдні, урбанізаваны чалавек-машына.

Горад выляпіў свой вобраз, вобраз сярэдняга мешчаніна. Гэты мешчанін, які страціў многа, з пагаршчаніна. Гэты мешчанін, які страціў многа, з пагардай ужо глядзіць на вёску, на сябе ўчарашняга. Ганарыцца.

Тэма часу, эпохі. Вобраз эпохі можна — з характэрнымі рысамі. Архісучасны — і архітыповы па вобразах і карцінах — твор бачны.

*3.II.69 г.*

Час у палёце — 2 гадзіны.

— Аб'яўляецца пасадка на самалёт N, які рэйсам 556 адпраўляецца па маршруту Сімферопаль — Мінск. Пасажыраў, якія вылятаюць, просяць выйсці на пасадку.

Коратка — працэдура перад пасадкай. Пасадка. Пасажыры.

— Грамадзяне пасажыры, самалёт выконвае рэйс... Камандзір... Бортправадніца...

Потым — узлёт (малюнак), палёт (малюнкі зверху).

І адчуванні, думкі. Учарашняе, даўняе — сяло, дарога, і вайна, і палёты — у Лондан, у Парыж, пасадка ў Капенгагене. Прывыкаем да ўсяго.

Першы раз на «Ту-104» — як сігара ў неба. Першы спадарожнік. Ашаламленне — хуткасці.

Атамная энергія. Атамная бомба — першая вестка. Раскалоўся свет. Апоры не стала пад нагамі — адчуванне. Стратлівасць — амерыканцы маюць. Потым — нашы паведамленні.

Тады — Курчатаў. І яго — няма. Як — перад смерцю. Зямля, снег. Цікава, як будуць лятаць праз 10—20 гадоў? Якая зямля адтуль — з вышыні 200, а потым — 250 тысяч кіламетраў. Было ў газеце. Але гэта не тое. Сваімі вачыма. Сваімі пачуццямі.

А ў гэта ўрываецца — будзённае. Мора, санаторый, нуда. Апошнія дні — хвіліны лічыў. Што там — дома? Заўсёды здаецца — нешта асаблівае. А прыедзеш... як і не ездзіў. Праз дзень-два мора, кіпарысы — нібы далёкае. І пашкадуеш.

Малюнкі. Крым, мора — рабацінне, срабрыстае, шырыня — раўня, роднае небу. Шукаюць вочы берага — калі ж? Доўга. Рыса яго. Палёгка. Адэса. Ліманы.

Украіна, яры, воблакі. Кіеў. Дняпро. І залаты бляск Сафіі. Старына. Князь Ігар. «Слова аб палку...» Полаўцы, скіфы. Палессе. Зялёнае. Прыпяць. Шукаеш — твой куточак. (Мінулае тут вясковае.) Недзе — навальніца. Хоць бы далі пасадку.

Маторы цішэй. Паніжэнне. Зямля бліжэй. Буйней усё. Дамы. Гнёзды заводаў. Варушэнне ў крэслах. І пабегла паласа. Імклівасць. Потым — пліты замільгалі.

— Самалёт прыбыў у аэрапорт Мінск...

Трап. Зямля. А ўсё-ткі добра на зямлі.

Дзве гадзіны. Якія яны ўсё-ткі вялікія. Як багата ў іх. Усё жыццё. Дзве гадзіны і — усё жыццё.

Напісаць: у доме адпачынку — бязногі інвалід. Яго знаёмая. Ім аддаюць маўкліва пакой. Суседзі ідуць гуляць. Тыя астаюцца — кожны вечар.

Ваенная гісторыя. Любоў франтавая. Былы лётчык, афіцыянтка. Дзіця ў яе ад яго. Не выйшла замуж.

У яго сям'я была. І цяпер недзе. Кожны год сустракаюцца.

Паездка ў партызанскі лес, да зямлянак вайны. Бацька і дачка. Бацька ўспамінае, хвалюецца. Дачка слухае. Але ёй гэта мала цікава. Яна робіць выгляд, што цікава. Але бачыць цяперашняе. І жыве гэтым.

У яе свет сённяшні.

Бацька пакрыўджаны. «Абыякавыя».

Потым разумее: усё нармальна. Так і павінна.

*(Гісторыя Пашкевіча)*

Трэба далей:

1. Дабівацца водпуску на год — не менш. Ці **вызвалення**. Прычына — хвароба. Жыць для літаратуры. Не раскідацца.

2. Рушыць раман.

3. Здароўе. Загартоўвацца да холаду.

Нейкія меры супраць катараў (урач вуха, горла, нос), інгаляцыі, што яшчэ?

*4.VI*

Атрыманы лісты I тома. Камбінат закончыў друкаваць.

*4.VII*

Заключан дагавор з выдавецтвам (300 за друк. аркуш).

*4.VII*

У Палацы спорту ўрачысты сход, прысвечаны 25-й гадавіне вызвалення Мінска. Пачатак у 4 гадзіны дня. Збіраюся ісці.

*7.VII.*

Болі моцныя ў жываце. Штосьці няладнае. Не першы раз.

*8.VII*

На прыёме ва ўрача. Стос паперак — на аналізы. Прапанавала легчы ў бальніцу на даследаванне — на два тыдні. Але я адмовіўся. Паездка ў Польшчу выйшла няўчасная.

*10.VII*

З 8 гадзін — у бальніцы. Бясконцыя аналізы — у

біяхімічнай лабараторыі выцягнулі паўлітра крыві. Аж галава кружылася. На рэнтгене — паўгадзіну прасветлівалі, мацалі. Выпіў шклянку мелу. Што там знайшлі?

*10.VII*

У 2 гадзіны ў таварыстве Дружбы Пленум Камітэта абароны міру. Выбралі старшынёй камітэта.

*11.VII*

З летам усё няма ладу. Пасля гарачыні (да 30—32°) — холад. Зранку ўвесь дзень дождж. Быў у выдавецтве. Хутка павінен быць I том збору — сігнал. Рыхтуюся ехаць у Польшчу, хоць і без ахвоты. Па-ранейшаму не магу пісаць. Стомленасць, вяласць. Калі пройдзе?

*21.VII—29.VII*

Паездка ў Польшчу. Варшава, Кракаў, Закапане, Асвенцім.

У Варшаве — паездка па горадзе (Старэ място, цэнтр, Лазенкі, Вілянув, Вісла).

Тэлевізар — амерыканцы на месяцы. 22-га на плошчы парадаў у Варшаве — глядзелі парад і дэманстрацыю спартсменаў. 23-га — прыём у Саюзе пісьменнікаў. Вечарам — тэатр. 24-га выехалі ў Кракаў. На наступны дзень — агледзелі Кракаў. Марыяцкі касцёл, Ягелонскі універсітэт, Карцінная галерэя, Вавель. У Вавелі — магілы Міцкевіча, Славацкага, Пілсудскага.

На другі дзень — Пароніна (музей Леніна). Заварнулі на «Марское вока». Дзівосныя пейзажы Татраў. Паўз самую граніцу з Чэхаславакіяй ехалі ў Закапане.

З цікавасцю хадзіў па Закапане. Прыгожыя горы, ціхі гарадок. Вярнуліся ў Кракаў увечары. У нядзелю — у Асвенцім. Жахлівы лагер. Відовішча жахаў. Вечарам — дачасна — у Варшаву. Справы цягнуць дадому.

28 — у Варшаве. Цяжкасці з білетам. 29 — дадому.

Рашыў: устрымлівацца ад паездак. Цяжка, рызыкоўна (баюся прыступаў почак — балелі) і — вялікія страты часу. Гэтая паездка з'ела больш за паўмесяца.

*30.VII*

У выдавецтве ўзяў першы («кантрольны») экземпляр першага тома збору твораў.

Прыглядаюся, прывыкаю.

*1.VIII.69 г.*

Першы том Збору твораў — у магазіне падпісных выданняў.

*2.VIII*

Узяў 20 экземпляраў.

*12.VIII*

Пасяджэнне камісіі па народнай асвеце Вярхоўнага Савета.

У цэлым, я думаю, добра тое, як склаўся збор — па тамах. Доўга думаў, вагаўся, але знайшоўся ўсё ж правільны варыянт. Відаць паслядоўнасць развіцця ад тома да тома і складанасць (пярэстасць) інтарэсаў у той ці іншы перыяд (розныя тэмы, жанры).

Рашэнне гэта прыйшло пазнавата, і гэта відаць па 1-м томе. Там яўна трэба адключыць усё напісанае пасля «Мінскага напрамку», пасля 1952 года. («На рацэ», «Дом пад сонцам», «На скрыжаванні»).

Шкода, што позна зразумеў гэта!

Усё гэта трэба было б перанесці ў 4 том. Там было б яно на месцы.

*27.IX.69 г.*

Уважліва, сур'ёзна прачытаў карэктуру 2 тома збору твораў — кожны радок. Вялікая праўка.— 27 стар.

Здаў трэці том збору.

*29.IX*

У часопісе «Век XX и мир» паведамленне: выбраны членам Сусветнага Савету Міру. (№ 9, 1969 г.).

*28.IX.69 г.*

Званіла жонка былога Старшыні Саўнаркома Беларусі Галадзеда. «Звонила раньше, но вы были в Армении». Прачытала раман у «Раман-газеце». «Очень понравилось. Он точно такой был, как вы описали».

Я баяўся, што будзе папракаць — я ўсё ж трохі крытыкую яго. Не, давольна. «Может, неудобно говорить, но мне кажется, Ваша книга — это как роман Шолохова — в русской литературе».

Жыла ў Яраслаўлі. З дачкой-настаўніцай.

Збіраецца пераязджаць.

Урэзалася ў памяць: «Очень много мы пережили!..» Я думаю. Дамовіўся сустрэцца, пагаварыць.

## [1970 год]

*Студзень 1970 г.*

Напісаць апавяданне «У горадзе» («Стары»).

Стары ўсё жыццё пражыў у родным сяле. Толькі ў салдатах некалі ды на вайне. А цяпер — у горадзе. Сын тут. (Дома нікога. Старая памерла. Дзеці павыехалі.)

Як адчувае ў горадзе. Згубленасць. Як іголка ў стозе. Муравейнік і ён у ім. Нікому да яго ўвагі. Усе спяшаюцца некуды, смяюцца. А на яго — ні крыху ўвагі.

Мітусня. Ад якой кружыцца галава. І потым не заснуць. У вачах усё ідзе. Гняце яго — гэтае мноства людзей. Думае — колькі ім трэба яды. Як гэта хапае на ўсіх. Колькі хлеба, мяса. Горы буханак за дзень, за гадзіну. І ніхто не сее, не жне. Усе ядуць толькі. Усіх трэба карміць. І кормяць. І адзяюць. Ды яшчэ лепш, як у іх сяле.

Прыбраныя, беларускія. Спаднічкі вышэй калень — цьфу ты! Узяць бы каторую — ды папругаю па голых сцёгнах! А хлопцы — з папоўскімі грывамі, як бабы. Ад няма чаго рабіць. Ад распусты! Агіда!

Начамі не спіцца. Прачынаецца на золку. Рукі просяцца рабіць. Ведама — прывык карову, свіней. Трэба б пахадзіць. Нельга. Нявестка недавольна. Ды і сын. «Папаша, ну вы, яй-богу!» Трэба ляжаць. Ляжыць і думае. Успамінае сяло. Старую. Ляжыць недзе пад снегам. І ён скора будзе. Усе там будуць. Як і не жыў. Перагараваў. Вайна адна, разруха, трохі — ляг-

чэй стала, тады — калектывізацыя. Трохі наладзілася — зноў вайна, разруха. Так і прайшло. Як і не жыў... Толькі б цяпер жыць. Дык — старая... А тут — хіба жыццё? Не для яго гэта. Што ў іх за жыццё? Успамінае — гаравалі. Але — як весяліліся. Усё сяло спявала. Вяселле — тыдзень. А і рабілі — на лузе ці ў полі, бывала. І ён бачыць гэты луг і соладка, і журботна. Няма лугу, не пойдзе больш. Цяпер усё машыны...

Сыны: пяцёра — двое на фронце злажылі галовы. Адзін — у Польшчы... Трое — хто дзе. Адзін — на Сахаліне, другі — у Сярэдняй Азіі — будаўнік. Трэці — брыгадзірам у калгасе. П'е. Тры дачкі — усе замужам. Ва ўсіх — куча дзяцей... Свае клопаты... Нікому да яго няма часу... Так у госці толькі...

«Стары».

Нявестка: дрыжыць над мэбляю, диванамі. Здымайце чаравікі. Ні плюнуць, ні павярнуцца. Выгаворвае яму за неакуратнасць. Звысака на яго. «Гарадская!» «Ці даўно?»

Стары бачыць — машыны коцяцца, коцяцца. Насоўваюцца, здаецца, на яго. Страх бярэ. Трызненне праходзіць.

Зноў успамінае сяло. Вярба. Машыны і там, але не столькі. Там яшчэ не так. Там і вербы, і луг, і поле. І гуляюць яшчэ святы старыя. Лягчэй. І здароваюцца.

Успомніў, як ляжаў у бальніцы. Прыходзіў урач: «Ну как дела, дедушка?» Ён першы раз адказваў, але ўрач не стаў слухаць, пайшоў далей. І кожны раз: «Ну, как дела?» А вочы ўжо недзе далёка. І не бачыць, і не чуе.

Хацелася скардзіцца — каму? Сусед — малады, апарацік усё круціў — музыку, ад якой у вантробах ныла.

Потым знайшоў — прыбіральшчыца старая. Слухала, разумела. (Таксама з сяла, але ўжо даўнавата. І ўсё ж разумела.) Палягчэла — ад таго, што была душа, якая разумее.

Маладыя ўсталі. Першы сын, потым — нявестка. Любіць паспаць. Гультаяватая. І сярдзітая лішне. Ба-

іцца яе. («Не трэба было прадаваць хату, ехаць. Звекаваць трэба было на месцы. Дзе жыў, дзе корань, там і паміраць трэба было...» — не першы раз. Толькі цяпер — позна прадаў. Не вернешся. «Як бы на літасці іх жывеш».)

Дзякуй богу, можна і яму ўстаць.

Яны збіраюцца. Яна ўсё пазяхае. Ходзіць — халат не зашпілены: не саромеецца. Ён адводзіць вочы.

Сын чай гатуе. Газ, зручна. Мігам. Тады яна прыходзіць, пазяхае ўсё. Стары ўспомніў: старая як завіхалася пры печы... Ніякай пачцівасці да сына. Як і не муж усё роўна. Вядома, таксама працуе. А ўсё-такі — павінна б разумець, паважаць...

Многа думае пра сябе. Кінуць бы работу павінна. Менш задзірала б нос. І жонка была б як жонка. І дома быў бы парадак. (Не казаў: гаварыў некалі — «Папаша, не ўмешвайцеся!», «Стараржымныя погляды»).

«Стары рэжым» — не паганы быў. Вырасцілі вунь колькі і ўсім лад далі. А ў вас — адзін, і што будзе яшчэ...

Падымаюць унука. У дзіцячы сад трэба. Гэта — дзедаў абавязак. Давяраюць.

Як заўсёды, абое раптам пачынаюць спяшацца. Часу мала, каб не спазніцца. Бегам з пакоя.

Дзед памагае адзецца ўнуку. Вядзе. Пасёлак, завод даўно жыве поўна. Трамваі, машыны, людзі.

Марозна. Лягчэй на душы — роднае, звыклае ў гэтым марозцу. Нібы дома. І нібы там дома — старая.

Правёўшы ў садзік унука, ідзе дамоў вяла. І на душы — лагодна, прымірэнне.

Няхай жывуць, як жывуць. Як хочацца. Яму — што! Як падабаецца — так жывіце. Можа — і ваша праўда.

Чуе — смутак на душы. Нібы ён — нейкай мяжой аддзелены ад іх. І не пераступіць туды. «Мне — што. Мне — пара ўжо... да старой... Аджыў сваё...»

Маці ноччу прыходзіла дамоў, пякла хлеб. Усе маткі прыходзілі. Днём хавалася з дзецьмі ў зарасніках. Ад немцаў і паліцаяў. А ноччу — дзяцей пакідала ў лесе, а сама ў вёску. І вось аднойчы паліцаі наляцелі на сяло. Уварваліся. Схапілі яе. Яна зразумела, што зараз — канец. Калі расстрэльвалі — пра дзяцей. Каб да іх не дабраліся.

Зрабіць (пісаць) дзённік. Коратка, сцісла. Толькі факты. Думкі — сцісла. (Назоўнікамі).

Узнікла думка-ідэя: можа быць, разбіць «Подых» — на два.

Першы раман — «Подых» — Васіль, Ганна, Глушакі — 12 раздзелаў — 358 стар.

Другі раман — «Цягнік у сталіцу» — 8 раздзелаў — Апейка — 194 стар.

«ЛЕПШЫЯ ГАДЫ»

*14.1.70 г.*

Пісаць як пра лепшае. Як пра самую вялікую радасць.

Уся рэч — павінна быць прасякнута шчасцем жыцця.

Першая радасць. Сонца, раніца. Поўна святла.

Звон у паветры. Вёска прачынаецца. Яшчэ адзін дзень радасці.

Яшчэ сплю. І ўжо жыву — ціхая радасць, без прычыны.

Проста таму, што сонца на двары, у хаце. Што сонцам повен увесь.

Радасць — трава на двары. Цёпла.

Радасць — буяе ўсё на агародзе.

Радасць — сонца і сінь. І зелена — балота за агародам, алешнік. Канавы.

Якая вастрыня пачуццяў. Дасюль помню цеплыню зямлі пад босымі нагамі.

І цвёрдасць сцежкі ў полі.

І пах кропу.

І колкасць гарбузовага ліста.

І жоўты, бухматы, як чмель, цвет гарбузовы.

І прахалода — у засені, пад лісцем — зялёнага ў пухірах гурка. Які ён быў салодкі!

А першая, маладая бульба. Якую варыла маці.

А кулага — звычайна зімой. Пад лямпай з хліпаннем, каля замерзлага акна.

А алей, прывезены бацькам з мястэчка.

Як цёпла і добра было зімой на выслізганым зрэб'ем чаране.

Калі ў акне мароз і ў коміне гудзе завея.

Тут — казкі, тут — кніжкі, тут — сваркі малых. Якія часта перапыняла толькі маці з венікам.

Лучына ў комінку. Неспакойны, мігатлівы водсвет па хаце.

Сіпіць смала. Куродым ідзе.

Чаму я ўспамінаю пра цябе з радасцю і ўцехай.

Таму, што ўсё было радасцю. І ты — частка яе.

Якое шчасце было вясна — пасля зімы!

Першыя праталіны. Голая зямля. Цёплыя прызбы.

Басаནож па снезе.

Басаནож па зямлі, у якой ужо такое дарагое цяпло.

Вясной шукалі, выкопвалі хрэн.

Сыходзіў снег. Залівала ўсё вадой. Па вуліцы не прайсці, гразь.

У полі — ногі грузнуць, вада ўсюды. Азёры. Рабаціннe на сіняй вадзе.

За агародамі — на балоце —мора. Да алешніку. Алешнік у вадзе.

Шчасце ўлезці ў ваду. Плыты строім. Захліствае дошкі вадой.

Бярозы на шляху. Вецер вясновы і сок.

Набраць гладыш.

Гудуць правады.

Адчуванне еднасці з прыродай, з зямлёй.

Дзіця прыроды, частка яе.

Чаму так цягне вада. І такое шчасце яднання з вадой?

Падсыхае. Усё цяплей на зямлі. Пасядзець добра.

Вербы на могілках. Цэлыя дні тут. Вярба — на дудкі. Дудкі.

Лета. Цвітуць грушы. Як пахне цветам. Дасюль цвет напамінае — грушы.

Кругі. Вучымся плаваць. Голас.

Паўлаў круг. Мелка, трава высокая. Цяплынь вады. Аж жмурымся ад асалоды. Ляжым у вадзе, траве.

Берагі — шэрая зямля, далей — жоўтая квецень.

Колькі тут апалонікаў.

Помню — як пахне вада з глеем, напоўненая сонцам, цяплом.

І дасюль — хораша чую сябе. Добра і бесклапотна.

Сады. Агароды. Наш сад і агарод.

Паходы ў чужыя.

Святы. Арэлі пад грушамі на выгане.

Дзядзькава таполя. Вераб'і. Узлезці хацелася. Спрабуем.

Таўшчэзная.

І страх бярэ.

Забавы.

Чараду гоняць з пашы. Ірвём шчаўіну. Трэба зарабляць.

Мне сніцца, што я лятаю. Дарэчы, мне і цяпер — праз сорак гадоў — сніцца гэта. Проста няёмка!

Мяне ўвесь час чамусьці цягне ўгару.

На дрэвы. На страху хлява. На дах хаты. На гарышча. На даху — шырыня, як ляціш. Хочацца зляцець са страхі. Скакаю. Балюча выцяўся.

Балота. У зарасніках.— Каля копані.

Каля канавы — лаза. Вяжу каробкі. Творчасць — пачатак.

Захоплены.

Гонар першай удачы.

Зацішак над канаваю. Слодыч адзіноты.

Едуць касіць. І я хачу. Уговоры застацца. Подкуп не памагае.

За возам.

Біты.

Еду ў калёсах.

Лясная дарога. Арэшнік. Дубняк. Луг.

Асіннік малады. Узлесак — лясны калодзеж.

Вечар на лузе. Незабыўнае на ўсё жыццё.

Агні. Страх. Таямнічасць.

Кладзём стагі. Адзёнак.

Едзем з лугу.

На возе з сенам. Вагаецца воз — ямы, карэнне. Страх. Голле чапляе за верх воза.

Увесь час — «прыгніся».

Усё-ткі страх недарэмны — воз валіцца. І я спаўзаю на зямлю.

«Не пабіўся?»

Не. Сэрца калоціцца соладка. З такой вышыні.

І зноў лес. Зноў едзем. Пакуль выбіраемся на роўнае.

Ягады паспелі. Луцішча, Барысаўшчына (лес).

Ловім рыбу ў балоце.

Зіма блізка. Падсыхае, шэрхне зямля. Грудкі.

Абуваемся. Апранаемся. Сівер дзьме. Вада цямнее.

У лужынах зранку белы лядок. Трашчыць прыемна. Ломім.

Лядок каля разліву за выганам. Вада ліжа край.

Калі ж гэта замерзне? Нецярплівасць.

Рыхтуем канькі.

Першыя смельчакі выходзяць на лёд, блізка берага. Лёд адразу ламаецца. Намокнуць таксама ўцеха. Рогат.

Вось ужо лёдам схапіла ўсю ваду. Няма рабаціння. Лёд blішчыць. Кволы.

Яшчэ дзень. Гнецца, але трымае пры беразе.

Колькі яшчэ правалімся, памочым ногі, пакуль скуе добра мора.

І вось — ідзеш. Асцярожна, не збіраючыся групамі. Ідзеш і падаеш. Вясёласць.

Сабраліся — і зноў праваліліся. Добра што не глыбока. Коўзаемся, выбіраемся. Смех і трывога. Будзе ад матак. Але не паказваем.

Усё больш спрабуюць лёд канькі.

Разагнацца з берага і на адной назе як надаўжэй.

Многія падаюць. Прабіваюць лёд локцем, але не правальваюцца. Лёд гнецца, але не ломіцца.

Чым далей — больш спрыту. Доўга-доўга на адной назе.

Радасць спрыту, умельства.

Як мы смяяліся!

Як хораша зімой на канавах. Маўклівы, голы лазняк і алешнік па баках. Трава рудая на беразе.

Трава пад лёдам, як жывая. Як карціна. Вачэй не адарваць.

Белыя, застылыя бурбалкі ў лёдзе.

А дзе-нідзе — зусім белы лёд, з кругамі. Вада вымерзла.

Туп-туп нагой — бярэ ахвота. Пакуль не рассыплецца белая мука лёду, сухія асколкі.

Пад лёдам зусім суха.

На палянцы пахне чабор.

Знаёмы хвалюючы, крыху сумнаваты, тужлівы пах. Жмуток чабарку ў танк. У танку — як на паляне.

Пры дарогах і на палянках цвіце малінавая канюшына.

*22.VI*

Пахне суніцамі. На палянках і на ўзгорках чырванеюць першыя ягады. Поруч з імі — белы цвет сунічны. Зялёныя ягады.

Чарніц яшчэ няма.

*22.VI*

Жыта азімае — зялёнае зусім. Ледзь пачынае бляknуць зеляніна яго.

Ярына — пшаніца, авёс, маленькія, зялёныя зусім, як шчаціна — і без каласоў. Толькі на два вяршкі ад зямлі.

Бульба стаіць малымі зялёнымі кусточкамі. Па некалькі лісткоў у кожным кусце.

У лесе мноства назойлівых камароў. Ад іх проста няма ратунку — дзе нізкія мясціны.

Над дарогамі, над вадой таксама — хмары машкары, якія б'юць у вочы, трапляюць у ноздры.

Барвовае лісце ў маладога дубка, які толькі ўздымаецца на зямлі.

Ёсць барвовыя лісткі і ў асінкі.

Каменне — валуны на дарогах, у полі.

Колькі стагоддзяў ляжыць ён тут. Колькі перабачыў усяго за свой вялікі век.

Колькі войнаў пранеслася, пракацілася над ім.

Ён уехаў у зямлю, ледзь відаць ужо. Аброс з усіх бакоў травою. Абмыт дажджамі, адшліфаваны вятрамі. З трэшчынкай, адчаго гэта трэшчынка тут. У трэшчынцы пясок — і вырасла ўпартая трава. (Многа валуноў было ў полі. Сцягвалі адтуль, зносілі. Адзін ляжаў дома каля парога, як ступенька).

Яловы лес, між якога дзе-нідзе асінкі, дробны беразняк, сасонкі. Тонкі, нязвычны, высокі дубок цягнецца на святло. Пануры яловы лес. Высокія елкі з мохам. Унізе — цёмна. Папаратнік высокі, зялёны. Трава амаль не расце, вялікія кучы муравейніку. Ігліца пад елкамі — за многа год.

Развялося (у лесе) многа ваўкоў. Адзін спалохаўся танкаў.

З 25/VI — у лесе знаходзяць грыбы — баравікі.

З 22/VI па 3/VII і да чысла — 10/VII косяць траву.

2/VI — жыта яшчэ толькі ледзь-ледзь пачынае бялець. У коласе няма яшчэ амаль нічога. Пусты.

Вусаты ячмень зялёны таксама.

Зусім зялёны авёс, які толькі чысла 30/VI выпусціў свае «сережки» — зярняткі зялёныя.

2/VI — паявілася маладая бульба скараспелка, ужо даволі буйная. («Будзем жыць. Кончана галадуха».)

Ні гуркоў, ніякай іншай гародніны да 3/VII няма. Толькі цыбуля. І ягады, ягады лясныя суніцы, а чысла з 30/VI — чарніцы. Першыя грыбы.

Да 10—15/VI на сосенках маладых — светлыя зеленаватыя пальцы — парасткі новыя, яны падобны на

далоні з растаўленымі пальцамі (або на свечкі). Паказваюць угару і ў бакі.

Пазней яны хутка цямнеюць, становяцца такімі, як і іншыя галіны.

Гваздзічка чырвоная на ноч згортвае пялёсткі. Увечар ужо ўсе згорнуты — падрыхтавалася спаць.

Сосны — знізу фіялетавыя, з абломкамі ўчарнелага сучча. Вышэй — медныя, з тонкімі лісткамі жоўтай кары, якая ледзь ліпіць дзе-нідзе і дрыжыць на ветры, шалясціць, быццам штосьці гаворыць. Угары — шчаціністыя кудзеркі. Сасна плаўна хістае вяршыняю.

Унізе на галлі ёлак ляжыць мох, падобны на запознены веснавы снег.

На вадзе — лапчатыя, амаль круглыя лісты (куўшынак), жоўтыя куўшынкі.

Далей ад іх — вада роўная, ціхая, а за ёй — асака, ернік.

Воблака, падобнае на бялугу.

*(Аб рамане)*

1. Больш паказаць запусценне, гора.— Каб не атрымалася, што ўсё навокал танкістаў — радаснае.

2. Якавенка — рабочы.

(Новая Украіна.)

Бацька яго — у коннай арміі быў.

Палі — запусцелыя. Зарасло быльнягом, свірэпаю.

— Гіне...

Высечаны немцамі лес.

Цэлыя кіламетры вычысцілі — грабежнікі.

Узарваны, спалены торфазавод. Пуста.

На дарозе — дробны-драбнюсенькі пясок — пыл, як мука. Падымаецца ўгару хмарай.

(У Гогаберыдзе ўпіўся клешч.

— Ну як цяпер захапляешся прыродай!..)

Камса, а хоча здавацца вялікай сялёдкай — пыжыцца.

Дакладнае:
— Чырвонаармеец Пупок папаў міма!

«Даже корова перестает давать молоко, когда на нее кричат».

«Маяковский написал пьесу «Баня» в 1928 г., когда существовал бюрократизм» (предисловие к спектаклю «Баня» в театре сатиры).

«Эта болезнь протекала в таком могучем организме, как советское общество».

«Идеалы одни отняли, а других не дали» (студентка).

Шаляпин: «Еду я как-то на извозчике. Разговорился с ним. Он меня вдруг и спрашивает:
— Ты чем занимаешься-то, барин?
— Как чем занимаюсь? — говорю.— Я пою...
А извозчик в ответ:
— Так ведь это и я, барин, пою. А работаешь-то ты что?»

Английский юмор:
Муха: — Я не очень высокого мнения о слонах.
— Почему? — спросила другая.
— Хотя бы потому, что они не умеют ходить по потолку.

Кто-то сказал с вызовом:
— Вершины гор достигают только орлы и пресмыкающиеся.

Жонка ў яго красівая. Напэўна выбіраў днём, а не ўночы.

Нет ничего более трудного, как распознать хороший арбуз и порядочную женщину.

*(У Бунина «В Париже»)*

Думаю: вось аб чым біць трывогу, гаварыць — і крычаць трэба.

Наогул я з трывогай думаю пра гэты бяздушны «прагрэс»: многа добрага бязлітасна нішчыцца і знікае на вачах, пад моцным і аптымістычным націскам бяздумных і, здаецца, бяздушных...

За апошнія дні парадавала па-сапраўднаму адно: артыкулы (цэлых тры) — вялікая работа пра маю творчасць Д. Бугаёва. Даўно не чытаў пра творчасць такога добрага і галоўнае талковага слова. Здаецца, я недарэмна жыў і пакутаваў у літаратуры.

*30.1.76 г.*

Здаў вёрстку ў № 3 «Полымя» I ч. рамана.

Сяджу, чытаю «Сибирь» Г. Маркава. Трэба — артыкул для «Лит. газеты». Артыкул кепска бачыцца. Задача вельмі цяжкая, і я проста пакутую душой.

I гэта пры тым, што думаю і цягнуся сэрцам — да свайго новага рамана. Трывожуся за яго (новы, г. зн. ненапісаны).

*5.2.76 г.*

Сяджу над артыкулам пра Г. Маркава. Наогул, ёсць думкі важныя для мяне і, як думаецца, для літаратуры. Я пачынаю верыць у артыкул. Хоць адчуваю сябе кепскавата, і гэта замінае працаваць.

*8.2.76 г.*

Мне — пяцьдзесят пяць. Калі б здароўе, то можна было б лічыць сябе ў цэлым больш-менш шчаслівым. Але здароўя няма. I свята няма.

Гляджу ўперад без радасці.

*9.2.76 г.*

Закончыў артыкул. Тое-сёе цікавае ёсць. Здаецца, саромецца не прыходзіцца (за артыкул). Перадрукую і пашлю.

*22.2.76 г.*

Карэктура № 2. Чытаю. Адчуваю незадавальненне

зробленым. Цяжка пісаць гэта. І пісаць цяжка, і кінуць не магу. Не магу спыніцца на дарозе. Як — падарожны, што стаміўся целам і душой, а павінен брацца далей.

Усе, хто пачыталі раман — Сачанка, Пташнікаў, Адамовіч — пакуль хваляць. А ў мяне незадавальненне!

*29.2.76 г.*

Вечарамі па тэлевізары — прадстаўленне. Неспакой на душы: што робіцца, куды ідзём?

Марозна. Вясны і не чуваць.

## МАЛЕНСТВА Ў ГЛІНІШЧАХ

(Сентыментальнае падарожжа пажылога чалавека)

Як пісаць рэч? Даваць як успамін, з развагамі — пераходзячы часам к пазнейшаму, к сённяшняму.

Цень вайны над мілым маленствам. Мы гулялі, не ведалі нічога, а яна ўжо набліжалася.

Многім з нас — мы не ведалі гэтага: заставалася толькі па дзесяць, па дзевяць гадоў. Мы не думалі пра гэта, мы наогул ні пра што не думалі: нам было ўсяго па восем, па дзесяць. Да таго ж, у нас многа было іншых рэчаў, цікавейшых; нам было пра што думаць і без гэтага. Нас вабілі зараснікі, сажалка, закрытая расказаю: што там за ёю; так добра пахла трава каля канавы ў бярэзніку...

Мы гайсалі бесклапотна, а да нас ішла хмара вайны. Ішла, адлічвала нячутна: яшчэ дзевяць гадоў, яшчэ восем, яшчэ сем. Мы не заўважалі яе; і, можа, добра, што не заўважалі: яна хоць не адабрала ў нас дачасна радасці. Мы жылі на ўсю сілу, мы радаваліся на ўсё сэрца. У нас было маленства!..

Няхай кніга гэта будзе як паэма. Усхваляваная, поўная сардэчнага трапятання, смутку і радасці. Песняпаэма. І няхай — за ўсім чуецца немалады чалавек, які многа перажыў і многа падумаў. І які глядзіць туды, у далеч гадоў, з удзячнасцю і тугою.

Мне яшчэ небагата гадоў,— мераючы не доўгай меркай гістарычных падзей, а кароценькай,— звычайнага чалавечага жыцця.

Небагата гадоў, а як багата прайшло перад маімі вачыма. Нават на той зямлі, дзе было маленства.

Я не бачыў рэвалюцыю, але я — магу сказаць — бачыў вёску, няхай знешне, такой, якой яна была задоўга да рэвалюцыі. Мне здаецца, я бачыў сваё Глінішча ў мінулым стагоддзі.

Дасюль бачу, між новых, гонтавых, на чатыры схілы дахаў — старыя, з тоўстых кругляшоў, патрэсканых, учарнелых, з чорнымі абчэпленымі зялёным мохам стрэхамі. Гэтыя ўсе — на два схілы, з нізкімі дробнымі акенцамі, да старасці аж урослыя ў зямлю. Перад некаторымі — нешта падобнае на тэрасы (як рэжа тут гэтае слова!), над тэрасамі — на слупках важкі навіс гарышча, страхі, што надае хаце яшчэ хмурнасці.

Кожны двор шчыльна абстаўлены павецямі, хлявамі, таксама ўчарнелымі, таксама з нізкімі і чорнымі, ушчэнт абчэпленымі старасвецкім мохам стрэхамі. Стрэхі хлявоў суседзяў амаль зрасліся, між хлявоў толькі вузенькія шчыліны спецыяльнага прызначэння — «суточкі». Па зялёных стрэхах лёгка пераходзіць з хлява на хлеў — тут я не раз і хадзіў і ляжаў; цяжка знайсці ў сяле больш зацішнае месца. Месца гэта было вельмі зручным і для схоўкі, у чым нярэдка была патрэба.

За хлявамі — свірны. Наш свіран быў у садзе, пасярод двух садоў, што належалі двум братам — майму бацьку і дзядзьку. Страха свірна была таксама зялёная, на яе лёгка было лазіць, бо галіны яблынь дзе-нідзе проста ляжалі на страсе. І яблыкі спелі і гнілі на моху.

Свірны былі на маёй памяці пустыя. У нашым у пустых засеках пахла пылам і валялася рознае ламачча.

За дзядзькавым садам з высокім частаколам, зараснікамі крапівы і прынаднымі чужымі яблынямі — наша старое гумно з маладой яблынькай-самасейкай пры баку. У рад з нашым гумном — доўгая чарада іншых гумнаў, жоўтыя і зялёныя строгія стрэхі. Не адна чарада — а дзве, між іх — як бы другая вуліца, багата

сушэйшая за тую, якая лічылася сапраўды вуліцай.

Гэта — загуменная дарога. За загуменнай дарогай — восень, у якой дымнае і цёплае падзямелле. У восені сушылі снапы.

За восеццю — рэшта агарода. Тут звычайна садзілі бульбу — у нас заўсёды казалі — картоплю. Тут увосень бацькі ладавалі капцы.

Стары, учарнелы лад, які ўрэзаўся ў дзіцячую памяць і ў якім чуецца подых цэлага стагоддзя мінуўшчыны. Можа, і не аднаго.

Я часта... Не, не часта... Я не магу — часта. Не хапае часу для гэтага, ды — і не толькі па гэтай прычыне. Ёсць прычыны — больш важныя. Я не магу сюды ездзіць вельмі часта: мяне і вабіць і стрымлівае магчымасць сустрэцца з гэтым кутком. Таму я прыязджаю не надта часта.

Кожны раз, калі я прыязджаю сюды, я адчуваю, як сэрца гняце памяць. Памяць, якая раптам нібы ажывае і якая становіцца важкай і пякучай. І надзіва вострай.

А яна, памяць, як усякая памяць — адзначае тое, што было. І тое, чаго няма. А няма вельмі многага: няма амаль усяго. Гады, што прайшлі, пастараліся асабліва. Высушылі лугі і рэчкі. Выцерабілі і вычысцілі палі. Вымелі пералескі і выкасілі гаі і бары. Ліхія гады вайны выкасілі сяброў маленства, знаёмых. Выкасілі па адным і выкасілі цэлымі вёскамі...

Цяпер на тым двары, дзе стаяла наша, мая хата, стаіць новая хата. Добрая, з сасны, накрытая гонтам хата, толькі трохі пацямнелая ад часу. Але гэта не тая хата, якая мне дарага. Гэта няродная, чужая хата. Я некалькі разоў прыязджаў сюды, начаваў у ёй, але я холадна думаю пра яе. Нічым добрым не ўвайшла яна ў памяць. Толькі непрыемным ці — абыякавым. Таму яна — няблізкая, чужая.

Тады, як майскім днём, у які на зямлю сыпаліся пялёсткі вішань, вынеслі з яе ў апошні шлях маці, тады, як шумна справілі цяжкія памінкі, знікла апошняя ніць, што звязвала мяне з гэтай хатай.

Цяпер у ёй жывуць чужыя людзі. Але не толькі таму я, прыязджаючы ў родныя мясціны, не паварочваю

да яе. Хоць ад павароткі, дзе я еду, да яе ўсяго некалькі хат. Усяго якіх сотня метраў.

Я па-ранейшаму помню і люблю ранейшую. Тую, якая стаяла на гэтым месцы. І хоць на месцы той даўно стаіць гэтая, я шкадую болесна, што той няма. Што ад той у апошні дзень акупацыі засталіся толькі асмалкі ды пажарышча.

І дасюль баліць мне, што загінула яна ў апошні дзень, перажыўшы ўсю доўгую, бясконцую, жахлівую вайну. І загінула — як многія гінуць на вайне — можна сказаць — выпадкова, недарэчна. Ад некалькіх запальных куль, пушчаных са шляху, па якім ехалі, адступаючы, немцы. Некалькі запальных куль, пушчаных здалёк, запалілі край вёскі. І дзесятка паўтара хат згарэлі. У тым ліку і наша. Суседская, насупраць, уцалела, а наша згарэла.

Людзі хаваліся на балоце, далёка на балоце, у самых глухіх, гнілых мясцінах. Людзям было не да хат. Людзі баяліся за сваё жыццё, за жыццё дзяцей. Немцы былі блізка. У балоце чулі іх галасы.

Нашы наступалі вельмі хутка. Людзі ўцалелі. А хаты — няма. І мне шкода яе.

Чаму мне шкода яе? Чаму мне шчыміць дасюль гэта страта?

У жыцці былі і страты, і было багата цудоўнага. Трэба было б забыць. Павінна было б сцерціся. Усяго ж толькі адна, звычайная, сялянская хата.

Пэўна, баліць мне таму, што хата тая — не толькі хата. І спалілі, расстралялі не толькі сцены, дах з комінам.

Расстралялі, спалілі частку майго жыцця. Самую радасную, дарагую, незаменную.

Прыязджаючы туды, я нібы прыязджаю на месца свайго расстрэлу. Туды, дзе мяне палілі.

Людзі, што жывуць там, жывуць спакойней. У іх, каторыя бачылі вайну, таксама шчыміць памяць. Але шчыміць, відаць, не так чутна. Не, зусім не таму, што яны больш чэрствыя. Не таму. Акрамя таго, што было да вайны і ў вайну, у іх багата і таго, што было потым, пасля вайны. Яны адбудоўвалі ўсё, засявалі,

перайначвалі, і ў іх усё ранейшае стаіць у сваёй чарзе.

У мяне і вайна, і ўсё, што было потым, прайшло ў іншых працягах. Тая частка жыцця, што была там, засталася, як частка кнігі, жорстка, жахліва абарванай. Я прыязджаю туды як на сустрэчу. На сустрэчу з тым, што не можа сустрэць. Сэрца маё нібы шукае таго, чаго ўжо не знайсці. Што ўжо навек страчана. Таму, што жыццё ў сваім руху не толькі ўвесь час нешта набывае, але і траціць. І траціць не дробязі нейкія, а часта — незаменна дарагое...

Сяло ляпілася да балота.

Па другі бок вёскі — была цвёрдая зямля. Палі. Яны ішлі да шляху, які пераразаў іх і на якім ішло незразумелае і недасяжнае жыццё — незнаёмыя людзі, павозкі з паклажай і без яе.

На шляху, як вартавыя, стаялі слупы, якія аб нечым гулі. І шумелі бярозы, высокія, старыя, з abламаным галлём, але магутныя, екацярынінскія бярозы.

У полі было некалькі вазёрцаў — кругі. Самы глыбокі — ён называўся чамусьці Мележаў, другі — каля дарогі на шлях — Паўлаў, і трэці — Перавельскі.

А яшчэ ў полі і за полем — былі лясы. Лясы малыя — больш справядліва сказаць — пералескі. Адзін пералесак, перад шляхам, зваўся Глінішчамі, хоць я не помню, каб там бралі калі-небудзь гліну. Можа, ён называўся так ад імя нашай вёскі, а можа — наша вёска ад яго ўзяла назву.

Быў добры лес за шляхам, быў ладны хвойнік — якія прыгожыя, рослыя хвоі раслі тут над стромай над балотам! — перад рэчкай Гур'ёй. Быў цудоўны лес у другім баку, каля шляху — Луцішча, яшчэ адзін — па той бок шляху — Пятроўшчына. А за ім, за полем, за Тунеўшчынаю — дружны і строгі бор — Градкі.

Колькі лясоў і ляскоў было з усіх бакоў — цяжка і пералічыць. І якія ўсе розныя, якім багаццем раджала прырода вока тут: сасновы бор, дуброва, лес кляновы і вязавы! Чаго не было тут у нашай лясной старане!

Цяпер — нічога. За некалькі дзесяткаў гадоў зямля згалела, нібы пасля ледавіка. На багата кіламетраў ва ўсе бакі праглядваецца плоская раўніна, на якой няма за што зачапіцца воку.

Ужо і па дровы трэба ехаць за дзесятак кіламетраў. Лясныя людзі шукаюць ратунку ў балоце: за агародамі чарнеюць складкі саматужнага брыкету...

Толькі на могілках сосны, асіны і акацыі пашкадавала бязлітасная сякера часу. Толькі тут купка дрэваў весела купчасціцца на дробным пагорку перад Глінішчамі.

# НАКІДЫ

## ДЗЕЦІ СТАНОВЯЦЦА ДАРОСЛЫМІ

Дыктант першы — першая пяцёрка: адзіная ў класе.

Затым матэматыка.

— Табе, кажуць, паставілі «выдатна» па дыктоўцы! — Ён ведаў — «нездавальняюча». З асалодай.

Абурэнне. Не так гэтае «нездавальняюча», як тое, што з асалодай, што знарок запытаўся пра дыктоўку.

Я з нянавісцю думаў аб ім, аб помсце. Чым я мог яму адпомсціць? Я маляваў сабе — пройдзе многа год, я стану дужым, ён тады закаецца.

— Ты ведаеш, бацька яе... застрэліўся...

Я ведаў. Горад увесь гаварыў пра гэта. Але В. казаў:

— У кабінеце. Пісталет падставіў к скроні... І... Сакратарка ў кабінет, а ён закрыт. Пакуль адчынілі, дык ён — мёртвы. Крыві поўна...

В. расказваў з чужых слоў.

Я шукаў вачыма. Я хацеў бачыць яе. Я не толькі любіў яе, я цяпер шкадаваў, як ніколі нікога. Што б яна ні сказала, я зрабіў бы.

А яе не было. Не было ў класе, не было на вуліцы.

Ніколі не было такога кіпення перад сходам, такога чакання на сходзе. Яна сядзела бледная, маўклівая. Няшчасная. Я знаў, што да яе трэба быць пільным, што бацьку яе трэба было лічыць чужынцам — ворагам народа, а яе — дачкой ворага. Але мне шкода было і бацькі, які ніяк не зліваўся з воблікам ворага, і яе.

— Ты прызнаеш, што твой бацька быў вораг народа?

— Не прызнаю.

— Як ты можаш не прызнаваць, калі ты не ведаеш? Ты яго дачка, але ж ён усяго мог і не сказаць табе?

— У яго не было тайн ад нас. Ён... ён — чэсны...

— Чаму ж тады ён застрэліўся, кончыў жыццё самагубствам?..

Яна прамаўчала.

— Ну, чаму?

— Я не хачу казаць.

— А ты скажы? Мы чакаем!

— Я не знаю! Але я знаю, ён — чэсны. Ён — не вораг. Не мог быць ворагам. Ён так любіў людзей, і маму, і мяне, усіх нас.

Хтосьці яхідна засмяяўся: «Любіў...»

— Любіў.

Яна была тут адна. Яна таксама была нібы вораг. Я мог бы дапамагчы, але чаму я маўчаў. Пільнасць, стойкасць, прынцыповасць! Помніш, як Паўка Карчагін! Дык то Паўка і Тоня, а Люба ж — не гімназістка, не буржуазная... А хто ж? Дачка ворага...

— Праблема ясная. Яна звязалася з ворагам народа і не прызнае, што памылілася. І такая яшчэ была ў радах камсамола і вучылася ў савецкай школе.

— Выключыць!

Усе прагаласавалі. Яна маўчала, як прыбітая. Не варухнулася.

— Л. просім пакінуць сход!

Яна схамянулася і ўстала. І пайшла. А мы маўчалі — грозна, непахісна і вінавата. Мы многія, мабыць, чулі сябе вінаватымі. Мне дык хацелася ўстаць і пайсці побач. Пайсці проста так, не гаворачы.

Я не чуў амаль, што было потым на сходзе. Яно мяне неяк мала цікавіла. Я быў з Любаю. Дзе яна цяпер?..

— Шкадуеш?

Я прамаўчаў.

— Мяккацелы ты!

*Пачатак:*

Мне даўно-даўно карціць гэта сустрэча. Карціць з радасцю, бо сустрэча — дарагая мне, карціць — з журбою, бо збыцца яна можа толькі ў памяці...

З журбою — карціць і таму, што яна не выдумка.

У ёй я не летапісец, а ўдзельнік. Усё гэта было са мною, з маімі сябрамі. Усё гэта было нашым жыццём.

Было гэта не сёння і не ўчора. Але яно не сацьмела, і не стала абыякавым. Бо было ў харошы час. У той час, калі дзеці — становяцца дарослымі.

Я доўга думаў, з чаго пачаць гэту гісторыю. Пачаць можна было б пазней і раней. Заўсёды было нямала цікавага, дарагога. І ўсё ж, нарэшце, прыйшла ўпэўненасць — пачаць адсюль. З гэтага дня, з гэтай падзеі. Бо з яе пачалася як бы новая паласа ў маім жыцці...

Як цяпер бачу: рыпяць, падрыгваюць калёсы, цячэ з жалезнага, выцертага да бляску вобаду кола пылпясок.

## ЛЕПШЫЯ ГАДЫ ЖЫЦЦЯ

*Раман*

**Лепшы час жыцця**

1. Уступ.— Лепшыя гады. Пакаленне.

1. У Глінішчах. Паступіў у інстытут. Спатканні. Сад.
2. У Маскве. Іспанцы. Бацька прыехаў.
3. Прызыў. Развітанне.
4. У Арцёмаўску. Коні. Чысткі. Ардынарац камбата.
5. Начныя заняткі: мароз.

На Фінляндыю адбіраюць.

6. Дамоў. Дома. Свет маленства. Скруха па ім.
7. Ноч закаханых.
8. Пераезд. У Перэмышлі — немец.
9. З Дублян у Карналовічы.

Панскі дом і парк.

Канец фінскай вайны.

10. У Новашычах. Вясна. Касцёл, свята. На занятках на лужку.

Вадапой. Днявальства.

У Азіміне. Мальвіна. На кані.

11. Пераход у Розлуч. Бяссонная ноч, дождж. Самбар. Стары Самбар. Карпаты. Прывал на касе. Картушын з фотаапаратам.

12. Розлуч.

13. Турка. У канюшні. Гразь. Стрый. Горад.

14. Паход у Букавіну. Дождж. Чэрэмыш.

15. На вучэннях. Каля «Кабылы».

16. Зіма. Тры граніцы.

17. Навагодняя ноч на вакзале. У варце. Надзеі.

18. Вясна. Лагер. Палаткі. Ціхаміраў едзе ў другую часць. Стрый раве. Новая зброя: мінамёты, аўтаматы.

19. У Самбары. На курсы ехаць. Еду неахвотна.

20. Вайна. Першы дзень.

21. На граніцы. Кананада справа, шум матораў. Чуткі: «Берлін бамбяць». Закапаў мяшок.

22. Адыходзім. Паўз Турку. Раніца. Хараство. Барыслаў. Выбухі. Раніца пад Драгабычам. Чорны дым на ўсё неба.

23. Дакуль гэта будзе?

Людзі:

1. Матора
2. Мяцеліца
3. Карабутэнка
4. Леўскі
5. Растаргуеў
6. Чыжыкаў
7. Картушын
8. Жаваранкаў
9. Маеўскі
10. Майхальд
11. Сітнікаў
12. Камароў
13. Рашчупкін
14. Камандзір палка Фрэйман.

Да апавядання: «Маналог».

Размаўляю з Вамі ў думках...

Прайшло 20 гадоў, усе годы помніла, ведала многае. Распытвала ўсіх, хто быў адтуль...

Жыццё не склалася. Ёсць перамены, але нічога добрага.

Думаю, што вам не цікава, забылі ўсё. І не хачу верыць.

Так хацелася б ведаць пра Вас больш, усё.

Мімалётна тады было, думала — звычайнае. Але лепшага ўжо не было.

Таму шкадую: што не зразумела, не ацаніла, упусціла.

Можа — прычына і ў тым: баялася, страх за будучыню. Цяжкую траўму я атрымала ў пачатку дарослага жыцця. Ашукалі мяне гнусна. І я баялася другі раз апынуцца ў такім стане. Кінутай.

А цяпер дакараю сябе. Не пра тое трэба было думаць, не баяцца трэба было. А — жыць. Жыць поўным жыццём. Як вялела сэрца.

Гэтага не было. Гэтага — не вярнуць. Жыццё ёсць жыццё.

Я па-ранейшаму думаю пра вас. Не магу выкінуць. І не хачу. Я знаю, Вы недзе ёсць: прыгожы, разумны, добры чалавек.

## СТАРЫ ДУБ

*|Апошнія дні|*

Дзень сонечны. Усё ззяе. Двор, вуліца.

Ён такі стары, што ўжо гадоў злічыць ніхто не можа. Дапытваюцца часам яго.

Траціць адчуванне сувязі, рэальнасці. Гаворыць сам з сабой, з дрэвам, з плотам. Бывае невядома з кім.

— З кім ты, дзеду?

— З Андрэем.

А той Андрэй сорак год як памёр.

Плача.

— Па кім ты, дзед?

— Параска... памерла...

Сорак восем гадоў назад згарэла ад сухот.

Ён як памяць пра старое.

Колькі народу перамерла: усе таварышы — адны вельмі даўно, другія — таксама даўно. Ні аднаго не асталося. Дзеці, унукі таксама ўсе. Асабліва ў вайну, з немцамі.

У адзін дзень амаль усіх. Папалілі, перастралялі.

Веру з малым застрэлілі ў агародзе, калі хавалася. Антона, калі ўцякаў. А Апанас з малымі ў «пограбе» — гранату туды. А Алену з усімі — замкнулі і запалілі хату. Там і згарэлі.

Ён адзін астаўся. Не спалася. Пайшоў зранку касіць сена. Тым і выратаваўся...

Хадзіў, як сляпы, па вуголлі. Спаў пад небам і лета і ў восень пад дажджом. Калеў у слоту, мароз. Прапаў нару ў пограб — накрыў. Як зямлянку.

Потым прытуліла жаллівая Насця. Сваячка не сваячка, пашкадавала. От жыве. У канцы вайны была пошасць тыфу — багата перамерла. Ён хварэў таксама, але выжыў. Не бярэ смерць! І от сядзіць. У чым душа трымаецца. Дрыжаць рукі. Бровы як кусты, вушы зараслі мохам, сам увесь аброс мохам. Як стары дуб...

Зусім траціць розум. Прачнуўся неяк на печы: «Дзе я?» А то нядаўна: зайшоў на балота, лёг і заснуў. Добра, малыя бачылі, знайшлі. Не помніць, дзе, што.

— Дзед, як завуць? — пацяшаюцца малыя.

— А хто ж яго знае!..

— Гы-гы-гы,— малыя.

Дрыжыць. Летам у кажуху, мёрзне.

...А ён сядзіць і бачыць: сонца. Матка будзіць: свіней гнаць. Не хочацца ўставаць. Святла поўна ў хаце — сонца проста ў акно.

...Бачыць—дарога: ноч. Туман нейкі. Ціш. Едзе кудысьці. Скрыпяць колы... Куды едзе, чаго? Хто яго знае. Едзе от і едзе...

...Бачыць: поле. Жнуць жыта. Ён і Лукер'я, жонка. Леглі пад копы. Млосна. Спяваюць konікі... Толькі чаму холадна...

Памагаў. Аслабелы, паволі, то сена накосіць, прыцягне вязанку. То галля на саначках прыцягне.

Сядзіць, нібы спіць. І ўсё як сон. Нават і не сказаў бы цвёрда — было, не было? Можа, і не было. Можа, усё сон. І сам — сон...

Раптам у санлівай бяздумнай галаве — прасвятленне. І думка, не гарачая ўжо, звыклая, абыякавая амаль: калі ўсё было? Куды сышло? Як міг... Як і не было... І за гэтым — звыклае: засядзеўся. Пара б за ўсімі...

Нешта ў касавіцу ўзяў касу з сеняў: Насці дома не было.

Пацягнуўся агародам на балота. Не дайшоў. Зразу за агародам сеў. Адпачыць. І не ўстаў ужо. Так і знайшлі. Халоднага ўжо...

## СЕЛЬСКІ ЎРАЧ

*(Новаковіч Аляўціна Грыгор'еўна — загадчык Нягневіцкім урачэбным участкам)*

«Господин врач; передаем Вам большую благодарность.

Господин врач; примите от нас скромный подарок для Вас за Вашу помоч, нашему ребенку. Благодарим Вам все за исцаление жизни нашего ребенка».

*/Котов Н./*

Скончыла Харкаўскі медыцынскі інстытут. Накіравалі на работу ў Беларусь, у Нягневічы — 1947 год.

Як урача, адзінага на ўчастак /працавалі раней фельчары/, назначылі загадчыкам урачэбным участкам. Адмаўлялася. Баялася — адказная праца.

Новая праца. Праз 10 дзён — помны выпадак. Выклікалі /пад раніцу?/ да хворай дзяўчынкі Котавай Ліды.

Дзіця было пры смерці. Вочы закаціліся. Дыханне амаль замерла. Маці запаліла свечку.

Плача.

— Не будзе ўжо нічога, доктар... Трэба даць яму памерці спакойна...

Дзіця памірала. Перш за ўсё, каб ажывіць, штучнае дыханне. Стаў абазначацца пульс.

Што рабіць? Яна ўпершыню лячыла ў такім небяспечным становішчы. Усведамленне таго, што ад яе залежыць жыццё. Вылечыць. Непакой і трывога. Не трэба адчайвацца. Трэба змагацца за жыццё.

З 5 гадзін вечара да 11 гадзін раніцы бяссонна пры дзіцяці. Паступова вярталася жыццё. Дзіця нарэшце заснула спакойна.

Праз некалькі дзён Ліда папраўілася зусім.

Маці і бацька не ведалі, як аддзякаваць доктару.

Так пачыналася новае жыццё ўрача.

Потым пайшлі дзень за днём. Работы многа. Яна ніколі не адмаўлялася ад яе. Часта ноччу прыязджалі з далёкіх сёл — за 11 км, прыходзілася ехаць, спяшацца. Яна не адмаўляла ніколі. Бывала, па 4—5 сутак падрад не выпадала спаць.

Цяпер ноччу сплю чутка. Прывыкла, што могуць паклікаць. Як зачую стук калёс ці крокі ўночы, мімаволі прачынаюся.

Працаваць прыходзілася ў цяжкіх умовах. Адчувалася востра часам няхватка медыкаментаў і інструмента. Трэба было карыстацца тым, што ёсць — рабіць усё, што можна.

Абсталёўвалі бальніцу. Трэба было займацца арганізацыйнымі пытаннямі. Зрабіць рамонт, купіць бялізны, купіць тумбачкі — аб усім гэтым яна таксама клапацілася. Трэба было цікавіцца і калодзежам.

Спачатку было сумна тут, у вёсцы, працаваць. Успаміналася шумнае студэнцкае жыццё ў Харкаве, жыццё ў родным Варашылаўградзе, дзе вучылася ў школе, і дзе жывуць родныя, і бальніца малая, цёмная. Інструменту мала, стары.

Потым новая работа захапіла. Цяжкасці не палохалі — настойлівая.

У Баранавічах, чакаючы накіравання, сумавала. Былі і слёзы. А калі ляцела ў Любчу — рашыла быць спакойнай. Думала аб працы.

Было цяжка. Не студэнцкае асяроддзе, новыя людзі, непадобныя. Новае жыццё захапіла. Спачатку — кожны дзень новае. Загадкі. Дні пайшлі хутчэй.

Было і непрыемнае. Розныя людзі. Падстаўлялі ножкі — маладая ўрач.

Прыйшоў аднойчы на прыём.

— Што баліць?

— А нашто ты доктар, скажы, што баліць: а вы ўгадайце.

Цвёрдая, рэзкая.

— Выйдзіце прэч!

Грамадская праца — кіруе гуртком ГСА ў школе. Падрыхтавала 70 значкістаў. Часта лекцыі перад сялянамі.

Не спыняе вучобу. Урач павінен вучыцца, калі ён не хоча адстаць.

Яна чытае журналы: «Медыцынскі журнал», «Клиническую медицину». Яна не абмяжоўваецца дапаможнікамі і падручнікамі.

Круг яе інтарэсаў шырокі. Жывучы ў далёкай вёсцы, яна ўважліва сочыць за падзеямі ў краіне. «Партизан» звязвае яе з усёй краінай.

У бібліятэцы школы ведаюць, што ўрач любіць чытаць. І таму, калі, занятая, яна не здолее доўгі час зайсці ў бібліятэку, ёй прыносяць новую кнігу, ведаючы, як яна будзе ўдзячна.

Многа работы. Клопатаў багата. Бліжэйшыя і больш далёкія. Летам трэба зрабіць капітальны рамонт бальніцы. Яна яшчэ не задаволена сваёй бальніцай. Неспакойная і патрабавальная — такі яе характар. Яна ўмее трымаць парадак. Многім здаецца яна залішне строгай, рэзкай. Хто парушае яе парадак, таму дастанецца. Але да хворых яна чулая.

Работы многа. Ну што ж. На тое яна сюды і прыйшла. Яна любіць работу, яна ведае, што работа гэтая неабходная і карысная.

Спадабаліся людзі, мясцовасць. Прыгожа тут. Часта пасля работы ўвечар ездзіла ў Шчорсы. Там у старым парку любімае месца, дзе можна адпачыць і пачытаць.

Энергічныя рухі, быстры позірк вачэй. Непакорны віхар ускінуў справа пасму валасоў. Востры позірк шэра-зеленаватых вачэй пад ускінутымі брывамі.

Вылечыла 70-гадовую сялянку Матусевіч з вялікай цяжкасцю. Гэта — таксама перамога яе.

Чулая. Уважліва так, што паздаравееш, здаецца.

Эпідэмія. Заразных хворых сталі прывозіць з Любчы, адусюль — 48 чалавек.

Хворая сама была аднойчы з тэмпературай высокай — прыехалі, паклікалі. За ёй назіраў фельчар. Прыйшоў, а яе няма. Хворая, а не адмовіла — паехала.

— Куды гэта яна. Сказала б, хворая. Другога паслала б.

Фельчары працуюць. Ведае, што адна не ўправіцца — цяжка, стала кіраваць імі.

## ДЗЕНЬ ІМЯНІН

*(п'еса)*

1. Ён — вучоны, спецыяліст па літаратуры XIX ст., кандыдат навук, гадоў 55. Былы салдат. Хворы чалавек.

2. Яго зяць. Кібернэтык. Вучоны малады, доктар, член-карэспандэнт. «Век тэхнікі. Тэхніка — усё». З пагардай да белетрыстыкі. Чытае амаль адны кнігі па кібернетыцы. Пагарджае іншым. Высока цэніцца. Адчувае гэта. «Мы — цэнтр. Мы — будучыня». «Робат заменіць чалавека». «Чалавек — недасканалая істота». Спрэчка з цесцем. Звысака на таго. Звысака на чалавека.

3. Яго жонка, дачка. Дачка на баку мужа. «Папа, ты не разумееш. Ты адстаў».

4. Яго сусед палкоўнік.
Паклоннік яры Сталіна.
Палкоўнік на пенсіі.
Успамінае вайну, армію.

## СТАРЭЙШЫ БРАТ

*(п'еса)*

Брат старэйшы
Бацька
Маці
Брат малодшы
Сястра
Сястра малодшая
Жонка, дачка, сын.

Брат старэйшы. Праз вайну прайшоў. Ранены, кантужаны. Хварэе вельмі. Трымаецца. Яму зайздросцяць. На яго ўсё валяць. Без сораму. У яго — вялікая праца.



Іван Мележ і Генадзь Бураўкін. *1970.*



Іван Мележ на трыбуне. *1970.*

Малодшага брата прыводзяць. Памажы. У людзі. На цябе надзея. Пазвані. Адзін не праб'ецца — мужыцкі сын. Сярод гарадскіх... Памагае.

Як мяняецца малодшы брат. З сялянскага хлопца — дэндзі. Па апошняй модзе. Амаль не вучыцца. Радыкал. «Несправядлівасць». «Тэорыя адносн асці». Просьбы — патрабаванні.

Малодшая сястра. Пасля інстытута: «Я не магу ў сяло». Зайздрослівая. Спрабуе камандаваць у чужым доме: загадваць брату. Разам з тым — істэрычка, плакса.

Старэйшая сястра — працуе ў раёне. Строгая, аскетычная. Малагаваркая.

Бацька — ціхі, добры, працавіты. Шкадуе ўсіх. «Усім хочацца дабра».

*24.6.58 г.*

1. Мнение: писатели — все мастера говорить. Ошибочное. Я не оратор, не трибун.

2. Увереннее — за письменным столом, один с бумагой.

3. Сомнение — интересно ли будет все это.

Рассказ о работе, об особенностях литературной работы.

4. Прежде чем начать — надо познакомиться.

К сожалению — не смогу познакомиться с вами. Жалею — среди вас много интересных людей.

О своей жизни. Фронт, учеба, книги. Проза, пьесы. Первая книга, первая пьеса. Репетиции. Премьера — волнение. Награда — поцелуи. Зрители.

Писатель начинается тогда, когда есть потребность рассказать что-то людям, новое, интересное, когда человек чувствует, что молчать не может. У каждого человека бывают моменты.

Влюблённые. Вокруг Европы.

5. Проза. После фронта («В бурю»). Настроение, психология.

«Горячий август». Образы, пейзажи.

Рассказы — разные темы. Хочется о многом рассказать.

6. Роман.

Когда родился замысел? Не помню. Еще, видно, в 44 г. Когда следил за наступлением, когда видел развалины Минска. Года два обдумывал, не решался. Но замысел не отставал, овладевал сердцем.

Это — как болезнь. Или — как неотвратимая любовь. (Что одно и то же).

7. Подготовка.

а) Изучение материала.

б) встречи с участниками. А. Гр. Черняховская.

в) В танковой части.

На бывшем переднем крае.

(Дождь, мины, «Что вы?! Опасно!»)

г) Не написал бы, если б не был в армии, на войне.

д) Комаров.

8. В начале — уже представлял.

В романе теперь — много планов. Армия, немцы, партизаны.

Не было Черняховского, большого командира.

Замысел ширился, рос постепенно.

9. Трудности композиции.

10. (Письмо из Казани). Многоплановость, многолинейность.

Знание различного материала, разных образов (танковое дело, высш. команд.).

Не все сразу было ясно. Писал начало, потом конец. Позже — средину. Труднее всего. Сцены с Черняховским — последними.

11. Историчность романа.

Исследовательская работа (Черняховский).

12. Образы.

Солдаты, офицеры.

Высш. команд. Черннях.

Партизаны.

Жители Минска.

Роман — симфония.

Немцы.

Меньше удались — немцы. В 1957 году был в Германии. Лучше узнал.

Женские образы.

«Эмма — это я!»

«Анна Каренина».

Любопытство. Наблюдательность в сторону женщин.

13. Образ — как создается.

Письма. Где Алексей Лагунович, Вася Крайко?

Образ синтез.

а) Туровец — черты 3-х человек (Бельск., Гуторов, Зим.).

б) Алексей Лагунович — неск. (сам).

в) Щербатюк. Долго не находил (один партработник).

Перевоплощение почувствовать челов. душой, стать им. Интуиция.

Чем талантливей человек, тем сильнее интуиция.

*Толстой.*

г) Клава. Один раз видел девушку. Как молния. Могу бесконечно писать о ней, как чувствую.

Странная человеческая память. Годами помнится мимолетное, врезывается, беспокоит. И забывается иногда то, что долго встречал. Помнятся люди, слова оброненные, случаи. Без них — ничего не создали бы.

14. Фантазия. Домысел скрепляет.

15. Выдумка все? Над письмами, ответы.

Все ли волен сделать писатель.

Пушкин — Татьяна.

Упрек Толстому: А. Каренина бросилась под поезд. Толстой ответил: это мне напоминает случай с Пушкиным. Пушкин сказал приятелю: «Представь, какую штуку удрала Татьяна. Она замуж вышла. Этого я никак не ожидал от нее. Герои делают иногда такое, чего я не желал бы».

Нина. Гибель ее.

16. Рождение героя. Флобер — отравление.

Андреев — страшные рассказы. Жена. Диккенс.

Нина — несчастным был.

Нет, это живые люди. Надо их любить, сочувствовать им, жалеть их, как живых.

17. Мнение: легкий труд.

Легкого труда вообще нет. Всякий труд — если хорошо трудиться — тяжелый, сложный.

Писат. требует огромного напряжения. 5 лет работы над романом. Днем на прогулках, ночью — все о работе. До изнеможения. Марофонский бег. Награда — внимание, любовь читателей, сознание полезности народу.

## ХАТА

*Трыццаць год*

I

Летам 1914 года Сяргей Лагуновіч з маладой жонкай і шасцімесячным сынам пасяліўся ў новай хаце. Будавалі яе два гады. Часамі сыходзілася дапамагаць уся радня, бацька, сёстры, брат.

Калі ён перайшоў у новую хату, яна яшчэ не была абсталявана. Падлога была накрыта дошкамі толькі напалову, не хапіла дошак, другую палавіну Сяргей засыпаў пяском і замазаў глінай.

Пачалася вайна.

Праз паўгода Сяргея мабілізавалі на фронт. Іх спешна абучылі і адправілі на Румынскі фронт. Вакол былі горы, чужына. Мерзнучы ў акопах, ён часта з тугою думаў пра маладую жонку, якая невядома як управіцца адна з гаспадаркай. Ён непакоіўся, што не паспеў перасыпаць столь у хаце. З дому прыходзілі рэдка скупыя пісьмы.

Вярнуўся ў пачатку 18 года са шпіталя, глухі ад кантузіі і заікаўся.

Прыйшлі немцы. Аграбілі ўсё чыста і ледзь не расстралялі за супярэчанне нямецкім уладам (паспрачаўся з салдатам, які забіраў апошнюю карову).

Потым прыйшла банда Балаховіча. Ён работаў у полі, калі, адступаючы, яны запалілі сяло. Ён прыбег, калі занялася яго хата. Тушыў, але выратаваць не ўдалося. (Жонку аставіў з канём, сказаў, каб у лес паехала).

II

Уцалелі толькі хлевушок ды конь, які быў у полі. Ён выгарадзіў куток у хлевушку, прарэзаў у сцяне маленькае акенца, зрабіў гліняную падлогу і стаў жыць. Восенню ён сабраў невялікі ўраджай з поля.

Каб сабраць трохі грошай на пабудову хаты, ён падаўся на заработкі, у парабкі. Усюды была разруха (нэп). У вёсцы падымаліся і тлусцелі асобныя людзі. Тарасевіч пабудаваў млын. Матусевіч адчыніў краму.

Ён паступіў к Матусевічу. На сваім коніку прыво-

зіў з горада ў краму газу, скрынкі розныя, мяшкі з соллю і цукрам. У полі дулі пранізлівыя зімовыя вятры. Ён намёрзся ў кажушку латаным.

Зноў у пяты раз ён стаяў на папялішчы. У пяты раз усё, што ён здабываў гадамі цяжкай працы, ішло попелам.

Трэба было 5 раз пачынаць спачатку, і ён пачаў з нечалавечай упартасцю.

Калі ён пасяліўся ў хаце, чуў пах свежай смалы, яму ўспаміналіся будоўлі ўсе, усе хаты. І ён думаў, як шпарка прайшоў час. Як сын рос... І як другія дзеці раслі.

Ён будаваўся пяты раз, спачатку цвёрда верачы, што гэтая хата стаяць будзе доўга, аж пакуль не струхлявее дрэва.

Аднойчы прыйшоў за ім яго сын, ён любіў катацца з бацькам да хаты. Сын заўважыў, як з падранага мяшка выпалі некалькі кавалкаў цукру і, калі сын Матусевіча панёс мяшок у краму, схапіў іх з воза і схаваў у сваю кішэню. Малады Матусевіч хутка ўбачыў прапажу і вярнуўся за ёй.

Ён найшоў гэтыя некалькі кавалкаў цукру і збіў Грышку. Калі Сяргей выбег на крык з крамы, Грышка ляжаў на снезе, на снег з носа капала кроў, а малады Матусевіч біў яго наском бота. Сяргей ашалела кінуўся на прыказчыка і моцна збіў. Ён ледзь не забіў і бацьку, які кінуўся памагаць сыну.

III

Пасля гэтага ён пакінуў работу ў Матусевіча і пайшоў цяслярыць па вёсках. (Будавалі многа.) Многа за гэты час пабудаваў ён хат, і вялікіх і маленькіх, быў у Мазыры, пахадзіў аж да Бабруйска. Ён будаваў і зімой і ўлетку. Дома з усімі павінна была ўпраўляцца Люда. Ён прыходзіў на нядзелю-дзве, памагаў малаціць, а потым зноў вяртаўся на сваю будоўлю.

У 1923 годзе ён пабудаваў сабе хату. У сельсавеце адпусцілі добрага лесу. Нарэшце ён сам са сваімі сябрамі збудаваў сабе хату.

З таго часу ён перастаў вандраваць па вёсках, адцураўся сваіх сяброў, бо жонка яго была цяжарнай,

на шостым месяцы. Выпілі дружбакі ў апошні раз і разышліся.

Хутка жонка нарадзіла дзяўчынку Верачку.

Праз год Грышка пайшоў у школу. Ён рос бойкім разумным хлопчыкам. Настаўнікі яго хвалілі. Ён ведаў многа вершаў.

Летам ён ганяў пасціць свінню і парасят.

Сям'я расла. Праз тры гады пасля Верачкі нарадзілася Тамара.

## IV

З цяжкасцю ён зводзіў канцы з канцамі. У 1929 годзе, калі ў вёсцы арганізаваўся калгас, ён уступіў у яго.

З брыгадай сельсавета яму давялося раскулачваць Матусевіча. Свіран, хата, хлявы Матусевіча перайшлі калгасу. Стары Матусевіч прыцішэў, пакорна выслухаў усё, ні слова не сказаў супраць. Матусевічыха сустрэла іх лаянкай і, калі пачалі апісваць, ледзь не выдрала вочы сакратару сельсавета.

Потым лягла на парозе ў другі пакой і не пускала. Сяргей падняў яе сілай і адцягнуў. Як яна лаялася. А стары Матусевіч сказаў пакорна:

— Так ты дзякуеш за дапамогу.

— Дапамога. Ад твае дапамогі і цяпер косці баляць на холадзе.

Сына Матусевіча не знайшлі. Ён уцёк і невядома дзе хаваўся.

Гаварылі, што ён з бандай хаваецца ў лесе. Перадавалі, што ён казаў камусьці, што збіраецца завітаць дадому расквітацца. Пусціць па свеце.

Сяргей работаў у брыгадзе плотнікаў. Разбурылі некалькі кулацкіх хлявоў і за сялом будавалі калгасную канюшню. Усе гэтыя дні Сяргей часта думаў аб пагрозе і непакоіўся.

Стась Матусевіч завітаў нечакана ноччу. Ніхто не чуў, калі ён прыйшоў. Прачнуліся, калі ў вёсцы ўжо палала некалькі хат, але Стася тады ўжо не было. Сяргей прахапіўся, калі яго хата гарэла. Ён паспрабаваў выскачыць, але дзверы былі прывязаны звонку і не адчыняліся. У хаце лямантавала жонка і крычалі спало-

хана дзеці. Сяргей выбіў шыбу і выскачыў у акно. Адчыніў дзверы і вывеў дзяцей.

Выратаваць амаль нічога не ўдалося.

Банду Стася недзе накрылі. Забілі некалькі чалавек, былі ўзяты ў палон, а пра Стася нічога не было чуваць. Выратаваўся і нібы ў ваду схаваўся.

V

Калгас пабудаваў яму хату. Будавала брыгада цесляроў, у якой працаваў і ён. Работа ішла весела.

У той год многа будавалі ў калгасе. Каля канюшні вырас цялятнік, а крыху далей, за дваром, будавалі вялікі свіран. Даху яшчэ не было, стаялі толькі сцены. Па баках ляжалі неабцесаныя і цесаныя бярвенні, шчэпкі.

Восенню Грышка паступіў на рабфак вучыцца. Прыехаў ён толькі зімою на канікулы, пахудзеўшы, але вясёлы. Ён вырас і стаў нейкім сур'ёзным, напэўна, ад навукі; бацька з новай павагай паглядаў на сына. Яму прыемна было прайсціся ўдвух па калгасным двары, каб людзі пабачылі яго сына. І на людзях у яго часта было гаворкі пра сына, і ён не мог нахваліцца і нарадавацца.

Шпарка праходзіў час. Дачка пайшла ў школу, затым другая. Грышка скончыў рабфак і паступіў у інстытут у Мінску. Цяпер ён быў самым адукаваным чалавекам у вёсцы. Кожны раз, калі прыязджаў сын, Сяргей прасіў каня і ехаў да яго, бо хіба ж не ганьба, каб такі выдатны сын прыходзіў пешкі.

## УДАВА КАЦЯРЫНА

*(апавяданне)*

Увесну прынеслі Кацярыне паведамленне пра тое, што ў баях пад горадам Штэцінам загінуў яе муж, Васіль Піліпавіч Ладуцька. Далёка ад роднай Каранёўкі варожая куля скасіла Васіля. Недзе на чужой зямлі пахавалі яго.

Гэта было ў апошнія дні красавіка, калі ўсе ў Каранёўцы гаварылі пра хуткі канец вайны. Кацярына

слухала тыя радасныя чуткі і думала пра Васіля. Калі ёй гаварылі пра канец вайны, то яна заўсёды думала пра Васіля. Вайна скончыцца — прыедзе Васіль. Чатыры гады яна чакала яго, непакоілася за яго; за гэты час смерць скасіла столькі людзей, а яе Васіль дажыў да светлага шчасця. Значыць, яна ўсё-ткі шчаслівая. Год быў цяжкі. Але пакуль быў жывы Васіль, з думкамі пра яго неяк жылося лягчэй і гора не так ціснула. А з таго паведамлення ўсё пайшло інакш. Як у сне прайшоў радасны дзень сканчэння вайны. У гэты дзень асабліва балюча даходзіла думка, што ён не вернецца.

Потым часамі брала недавер'е,— а можа, гэта ўсё памылка якая. Яна бачыла яго жывым і ніяк не магла прывыкнуць да думкі, што ён ляжыць недзе ў далёкай Нямеччыне. Затым зноў надыходзілі цягучыя горкія дні, калі ажываў нясцерпны боль...

Ішлі дні за днямі. Да яе прыходзілі суседкі, знаёмыя, суцяшалі, але яна слухала іх абыякава. Яна перажывала ўсё углыбіні, адна. Пасля весткі Кацярына стала асабліва (замкнутаю).

Былі толькі некалькі чалавек, з якімі яна гаварыла шчыра. Адной з іх была Алена, іх збліжала агульнае гора. А больш за ўсё яна давяралася сваім дзецям, якіх асталося пасля Васіля чацвёра.

Старэйшанькай дачцэ мінула дзевяць год, а меншаму хлопчыку яшчэ без малога не было пяці. Многа клопатаў было з імі Кацярыне. Час быў цяжкі — жылі яны ў зямлянцы.

У той год, калі вызвалялі Беларусь, Васіль, які ваяваў непадалёк ад родных мясцін, наведаўся быў у Каранёўку. Ён знайшоў сваю сям'ю на спапялёным селішчы ў куранi. За тыя кароткія дні водпуску выкапаў і наспех абсталяваў зямлянку. «Жывіце! Прыйду, адбудую новую, як палац!»

Васіль не прыйшоў будаваць хату. Тая зямлянка асталася як помнік. Дзякуй і за гэтую ямку — грэла яна два гады Кацярыніных дзяцей і яе самую, хоць не надта ўтульна было (павярнуцца недзе), а ўсё-такі мелі свой кут, не памерзлі ж.

* * *

— Ну, Кацярынка, бывай. Час і нам выпрастаць спіну... Трывай. Цяпер ужо нядоўга.

Коржык вырваў з бервяна лязо сякеры, якое моцна ўпілося ў дрэва, ускінуў на плячо пілу і пакіраваў на вуліцу. Кацярына пайшла следам. Коржык сказаў «дабранач», паплёўся, цягнучы ногі па запыленай зямлі, спакойны, павольны. Кацярына вярнулася на двор, пералезла праз бервяно, над якім быў прарэз для дзвярэй, ступіла ў сярэдзіну зруба. На зямлі буяла высокая трава, жоўтыя кветкі сурэпкі і тапырыўся камочкамі куст дзядоў; там і сям на іх бялелі свежыя трэскі.

Пахла смалою, свежымі трэскамі — у Арыны сціскалася сэрца.

Яна назбірала трэсак у прыпол і выпрасталася: не хацелася ісці адсюль. Угары ўжо напалову была накрыта столь, на іншых бальках ляжалі рэдка дошкі, і праз іх свяцілася сіняе неба, па-вячэрняму ціхае і спакойнае. Яшчэ былі відаць кроквы; здавалася знізу, што яны падпіраюць неба.

На двары, каля плота, дымеў агеньчык. Пасярэдзіне — стаяў немалы чорны чыгун. Дзяўчынка гадоў дванаццаці і два хлопчыкі — большы гадоў сямі і меншы — маладзейшы за яго гады на два — тупалі пры агні.

Меншы хлопчык, скрывіўшы плаксівую міну, скуголіў:

— Н-насця, я есці хачу...

— А дзе яна табе возьме,— стала і ўзлавана гаварыў свайму брацiку старэйшы.

Але меншы не слухаў.

— Е-есці хо-о-чу...

— Е-есці хо-оцу...— перадражніў старэйшы.

— Ціха ты, Уладзік,— з дакорам строга прамовіла сястрычка.— Як маленькі. ...А ты, Коська, патрывай,— сказала яна меншаму з лагодай — от, як зварыцца хоць адна бульбіна, дык я табе першую і аддам. Добра?

— Добра,— усміхнуўся Коська.

А Настачка зняла з чыгуна скавародку, што была за крышку, ложкай таўханула ў бульбіну. Кось-

ка даверліва сачыў за яе рукамі. Бульба была цвёрдая.

— Вось бачыш, яшчэ не гатова...

Коська хмыкнуў, але ўжо неахвотна, больш па прывычцы. Падышла маці, сыпанула з падола трэскі. Петрусёк узяў адну, разламаў, сунуў у вогнішча.

— Дай мне...— папрасіўся Коська.

— Дай мне...— передражніў Петрусёк незадаволена.— Усё табе...

Але, зірнуўшы на маці, даў трэску. Коська паклаў яе на агонь і пазіраў, як яе паступова ахутваюць чырвоныя трапяткія язычкі.

— Глядзі, глядзі, мама, як гарыць...— тармусіў ён матку за спадніцу.

— Некалі мне...— адмахнулася маці. Яна зняла з плота чорную латку, ухапілася за чыгун.

— Ну, паглядзі ж...— зацягнуў Коська, але, убачыўшы, што маці зняла чыгун, асекся і ўраз забыў пра трэску. А калі маці скінула скавародку і з чыгуна выбухнула клубам пара, усміхнуўся і працягнуў у пару рукі:

— Г-горач-ча! — аж енчыў ён, трымаючы ў клубах рукі.

— Насця, нарві гуркоў! — загадала маці.

Тая не сказала нічога, сталаю, спакойнаю хадою падалася на агарод. Коську захацелася бегчы ўслед, але трымаць рукі ў пары было цікавей.

— Не руш, мам... не руш,— захныкаў ён, калі маці хапілася латкаю за чыгун і стала высыпаць бульбу ў міску.

Але Кацярына не слухала. Ён амаль заўсёды замінае і робіць усё па-свойму. Колькі з ім клопатаў з адным.

Вячэру паставілі на калодку, самі размясціліся навокал, каму як прыйшлося. Насця проста на зямлі, падкурчыўшы пад сябе загарэлыя худыя ногі, Кацярына наўколенцах, а Коська на калодцы. Пятрусь побач з Насцяй на зямлі.

Елі гуркі, потым Кацярына наліла дзецям малака. Коську першаму і ў медзяны бліскучы корчык, а Петрусю і Насці пасля ў баначкі з-пад кансерваў, з дзіўнымі нярускімі літарамі.

— Мам, ты еш, а я пасля...— адсунула банку ад сябе Настачка.

Так часта «мама, ты першая». Кацярына ўгаварвае яе выпіць, а Насця «ты першая — ты спрацавалася». А сама яна, Насця, худзенькая, як дубец, і рэбры выпінаюць, і ножкі тонкія. Насця памагае маці, а ўсе іншыя толькі і ведаюць, каб наесціся паўпей ды пагуляць, і Кацярына знарок падкладае ёй лепшы агурок, надлівае лішнюю шклянку малака.

— Дзе ж гэта наш шалапай? — заклапочана гаворыць Насця.

Яна нібы чытае Кацярыніны думкі. Гэта пра Кольку-брата. Той рэдка стыкаецца дадому, усё недзе лётае з сябрамі-аднагодкамі. Толькі і прыходзіць дадому, каб паабедаць ці павячэраць. Вось і сягоння няма — і Кацярына, хоць і прывыкла да ўсяго гэтага, а ўсё-такі не-не ды і занепакоіцца.

Ён прыходзіць позна, калі ўсе ўжо спяць. Спяць сягоння не ў душнай зямлянцы, а на дварэ, каля плота. Ноч цёплая і лагодная. У небе мігцяць зоры. З балота даходзіць няўтомнае кваканне.

Кацярына не спіць, чакае Колю. Непадалёк на вуліцы ўсплывае песня — цягучая, задушэўная, мяккая, як усе песні на Палессі. Кацярына слухае, і ці то ад гэтай песні, ці то ад прыгажосці вечара сэрца запаўняе самотнае пачуццё — жаданне шчасця.

А Колькі ўсё няма. Ён прыходзіць позна — стомлены, ціхі і шчаслівы. Ціснецца да матчынага пляча галавою. Кацярына журыць яго, ставіць перад ім чыгун з астыўшаю бульбай і падае корчык малака.

— Мам, а хутка мы пярэйдзем у хату? — пытаецца ён, прымасціўшыся побач.

— Хутка, сынок, хутка...

— Мам, а там не будзе душна?

— Не будзе, сынок.

— От гэта добра,— а то я не люблю, калі душна.

Кацярына з пяшчотай гладзіць яго галаву... Ох ты, сірацiна, ва ўсіх нас толькі адна думка і адна гаворка — ці хутка ў хату, дзе будзе светла, чыста і нядушна...

Цяпер Кацярына спакойная. Яна хутка засыпае — заўтра ўранкі трэба ісці на работу. Праз нейкі час за-

ціхае і песня, і на сяло апускаецца начны спакой. Толькі на балоце не сціхае кваканне ды ў полі чуваць гул малатарні.

...У веснавы дзень Кацярыне прынеслі паведамленне пра тое, што ў баях пад горадам Штэцінам загінуў яе муж, Васіль Ладуцька. Недзе на далёкай нямецкай зямлі пахавалі яго, непахіснага салдата, яе Васілька. Тады, як прынеслі той лісток, былі апошнія дні красавіка, калі ўсе ў Каранёўцы гаварылі пра хуткі канец вайны. Кацярына слухала тыя радасныя чуткі і думала пра Васіля.

# СЛОЎНІК

«...К выравниванию языка приходится идти двумя путями. Во-первых,— не употреблять иностранных слов там, где есть хорошие русские слова, во-вторых,— людям, не знающим необходимых иностранных слов, учиться им» и дальше ст. 115—116 — Луначарский «Русская критика от Ломоносова до предш. Белин.». В сб. «Критика и критики» — 1938 г.

Ів. Мележ, 1944 г.

1. **Суфікс л замест ўш.**
   **высахлая зямля**
2. **Звязка быў, быць у мінулым часе**
   **Гэтыя акопы захаваліся**
   **былі да нашага часу**
3. **Суфікс утк, ютк**
   **паўнюткія вёдры**
4. **У (распаўсюдж.) узамлець (многа)**
   **увайсці (многа прайсці)**
   **увамёрз (вельмі памёрз).**
   (Наяўнасць значнасці якой-небудзь якасці ў стане, чалавека.— нар.).увагрэўся, уваэрэў
5. **Пуды са два хлеба; са — каля**
6. **прыйшлося-такі** зрабіць; мусіць такі праўда.
7. **A N гадзіне**
8. **Як мае быць — як трэба.**
9. **Прытаміцца, прыцёмна**
10. Нідзе дзецца
11. **Занізка, залішне** — праз меру нізка.
12. Праз усе гады — усе гады
13. **Апошнім часам** (у апошні час)
14. **Стволле** дрэў (як — голле) — *К. Ч.*
15. **Панаехаць**
16. **грук-аце-ць, шап-аце-ць**

А

абы-толькі б
асмалкі
адлега, адлежны дзень
аздобліваць
асмалкі — абгарэлае дрэва
абурацца
апрыкрыць, прыкры, надаесць
абразіць, абраза
адолець, змагці, здужаць
абярэма, бярэм'е (сена)
аксаміт, аксамітны — бархат
апрытомнець (прыйсці ў пр.)
адно — лишь
ачуняць
адхаяць
абнасіцца
аблада (уладарства)
абібок, лодыр
апастылець
аціраццa (дзень увесь а. тут. с)
абсяг (дзеяння і г. д.) *К. Ч.*
аберуч (абодвума рукамі)
адкаснуцца (Адкасніся ад мяне!)
адхінуцца (-лася ад яго)

Б

бліскавіца
бадзяцца
блукаць
буяць, забуяць (калі б.— *Я. К.*)
борзда, быстра
бадзяга
бавіцца, забаламуціць
бухта («Дрыгва» — І), затока
барвісты, барвовы (колер)
бездараж, бездарожжа
бракаваць, выстарчаць
блізка — каля (блізка году — *К. Ч.*;) за малым не год).
брацца (на мароз, на дзень)
блудніца, -лівы
басатва (гей, вы, б-!)

В

вейкі — ресницы
выйсце — выхад
вярзеш, чаўпеш
вартасць, годнасць, каштоўн.
выгар — выгарэлае месца
вабіць, прываблівы
вандраваць
вершаліна; верхавінне
вішчаць, віск
валаводзіць — мешкаць
вусцішна, вельмі ціха (у лесе зімой)
верагодна
выдма (бархан)
ветралом, павал, буралом
вір, вірны, вірыць
выносістае (дрэва)
валтузяцца
вылузвацца, выкручвацца
відната (нар.)
важдацца (чаго з ім в.? нар.).
вываранець, корч
вышчарыцца (чаго -ся?)

Г

глей, глейкі
гарнуцца
гушчырня
гойдацца

галасіць, плакаць
гасцінец
глыбозны, вельмі глыбокі
гукаць, клікаць
годзе, дастаткова (наглядзеўся г.— *К.*)
гаманіць, гамонка, гоман
гвалт
галець, бяднець
галалесіца, бязлесіца
гонкае (дрэва)
грузкі
га́даўка (ад-гад)
гулліва
га́лас (паднялі, -нар.)
глум, -іцца
гаіць, гаючы
гайсаць
горка (стала, крыўдна)
гармідар (народ.)

Д

дакучаць
днець, світаць, **уднець** *(К. Ч.)*
духмяны
дасціпны
дзядзінец
досвітак
дбаць
даццаць, дапякці
дараваць, выбачаць
дурэць — шалить
дасканала
дапа́ць — дайсці
давясці, даказаць; недаведзенае абвінавачванне *(К. Ч.)*
дапытлівы, цікаўны (чалавек)
дагадзіць
дробны (з твару) чалавек
дадзець, даццаць
долу — на дол

Ё

ёлуп, ёлапень

Ж

жвір
жарства
жвавы, пажвавець
жаўтлявы
жмут

З

засень
задума
здань, прывід
замець, завея, вея
знявечаны
замшэлы
здарожыцца
зараснік
золак, золкавы, золкі (вецер)
зводдалеку, наводдалек *(К. Ч)*
занядужаць
зычыць, зычлівы
зачараваць, зачараваны
замінаць, перашкаджаць
знарок — нарочно
засмуціцца, засмучоны
замілаванне
зграбны, статны
зацяты (упарты)
заўзята
збочыць
засмуціцца
задубець
згадаць, згадкі (успаміны)
запал, натхненне, запальны
завітаць, залучыць
зайсціся (з холаду)
знябыцца; звясціся — знікнуць і інш.

зацямна
занядбаць, -лы
заняпаць
згрызота
змардованы, змардаваць *(нар.)*
змагціся — станіцца
знелюбіць
засціць, зацямняць
зацішак
зняславіцца, няслава
знобкі (халадок — *Сам.*)
згуба
зыначыць
заспець, застаць
засціць
залубянець, луб
залыгаць

I

імжа, імжыць
ільсніць

К

квецень
карцець
канаць
(па) кваліцца (на што)
крышан (сала, крышыць)
кпіны, кпіць, кепікі *(нар.)*
крыўдзіцца
курэць (снег)
камячыць
кволы
каўтаць, глытаць
корч, карчэўе
крохкая (цішыня), -і (лёд)
куртаты
казачына — бекеша
каламуціць
кеміць
каліва

каравы (нар.), закарэўшы (кара-гразь)
крывота, — ліва, крывуе *(нар.)*
карыць (укорять)
каснік
каструбаватыя (кара)
каламута *(Сам.)*
коўзкі
клыпаць, ісці
карункі

Л

летуценне, лятунак
лазняк
льга, можна
латаць, залатаць, латка
лямантаваць
леташні
ліпець — ледзь трымацца
ладаваць, пры-, на-
лісліва
лапік, ікі (-кі снегу вясною ў полі)
люднець, -ны

М

марнаваўся
мана, хлусня
маркота, -тны
мур
марнець
манаткі
мажліва, мажлівасць
мерыцца — намереваться
мусібыць, мусіць, напэўна
млець (са смеху, страху)
маладзіца, маладуха
мурзаты, замурзацца *(К. Ч.)*
маленства, малое (дзіця)
млосна

мулкі
млявы
міласердны, не-

Н

няўцямны
напнуць, напінацца
нацянькі
нікнуць, ніклы
наважыцца
нават, вельмі
надоечы
наўкруг
наракаць, скардзіцца
неспадзявана
наказаць, паведаміць, перадаць
нагадаць, напомніць
нацянькі, наўпраcткі
несціхана
няслава, -іць, бясчэсце
нішчымна, нішчымніца
(па)ніклы, нікнуць
немаведама *(К. Ч.)*
наўскасяк
навісь галля *(К. Ч.)*
няшчадна
нашча (паесці)
несамавіты
невызнаны, неиспыт., неизведан.
незадача выйшла — не ўдалося
несусветны (дурань, і г. д.) *(-нар.)*
нязмерны
натуга (усілак, усилие)
немы голас, нéма
наспа (насыпь)
наладаваць (накласці воз і г. д.)

О

одум

П

пляснуцца
паганец, нягоднік
пуня
плынь (ракі) — течение
прасцяг
праява, з'ява, з'явішча
паважна (ісці)
прудкі, прудка, пругка
пространь, абшар
пасма
праніклівы (позірк)
пранікнёны (голас)
памкнуцца
прынада, прынадны
поруч
патыхаць, тхнуць
прысады — алея
пільна, неадкладна
пырскі — брызги; : брызкаць *(Б)*
пабрацца (жаніцца *-нар.*)
пыха, пышыцца — спесь
паспакайнець
падсілкавацца
плыткая (ручаіна)
палавець (неба пачало п.)
паўз
печышча (на месцы хаты)
павеў (ветра)
перакусіць *(народ.)* — пад'есці
пратрухлявець
пілаваць, пілавінне
пры — каля (Люба стаяла пры печы.— *К. Ч.*)
праталіна
(у)пільнаваць

пакрысе, -ху, патрошку
падацца (да) — пайсці (да)
прысак (попел)
поцераб (выцерабл. месца)
пхнуць, пхнуцца (ісці)
порсткі
прыхільны, -а
пошчак, рэха
пашча
пухкі, мяккі
перайначыць, перарабіць, змяніць
плех, плешына
парэпацца, патрэскацца
прадонне
процьма
прагаліна (у лесе)
перасмыкнуўся (твар, горам і г. д.)
панылы, — сумны *(К. Ч.)*
памяркоўны
прытаміцца
порсткі
перабыць
падхмар'е
паблажэць (горш выглядаць)
плойма
панаехаць
печыва
пляжыць (біць, ісці, секчы — пляжыць дождж)
пярэсціць

Р

руплівы
развідняць
рыштаванне
разбэсціць, разбэшчаны, распусны
раз'юшаны
расчуліцца
рушыць (не руш)
раўчак
ражон
(на)раіць
раскідзісты, ус-
разлегласць, прастор
раскашэліцца, -овацца (раскоша)
роіцца, рой

С

сінеча
сумёты (снегу)
спрыт, -тны
скрозь — усюды
студня
сталасць, сталы
сашчаміць
суняцца—спыніцца
стромкі
сціплы — скромный
смага, сасмаглы
стане, выстачыць, хопіць
смыкнуць, шмаргануць
скуголіць, скавытаць
(па)спагадаць, спагада, спагадлівы
(пад)сачыць
спарахнець, струхлявець
слата
схамянуцца
сівер, сіверны (вецер)
спакваля
сілкавацца, падсілкавацца
спалучэнне — сочетание
скарэжыць — изуродовать
сівер, сіверны (вецер)
спахмурнець
сумецца — здзівіцца, уразіцца
станоўчы, дадатны
сіґануць, перасіґануць
скнары, скнара

сухадол (сухой овраг)
спрадвечны
сігануць
стацца, здарыцца
свавольны, свавольніца
старадрэвіна, ламачына
страсянуцца (содрогнуться)
сподняя адзежа, спадніца, споднікі
спёка, гарачыня
спадчына
стыгнуць, -а лы, застыг (Сам.)
спавіць, -ты, (дымам — *Сам.*)
стракацець, пестреть, стр.—сць.
сыпкі (снег)
сіберны — злы
сухавей
садніць — ныць (паранен. месца)

Т

туліцца
трымценне
тхнуць (тхнула гарэласцю — *К. Ч.*)
тарكануць, тарганўць
тынкаваць, тынк
тулянне і туліцца, пры-
тлум, тлумны, шумны, гаманкі
твань, багна, багнішча
трушчыць, раструшчыць, -па
тлець, са, пера, -тніць; тлён
трымцець

У

увіхацца
усцешыцца
усхапіцца, ускочыць
утульна
узмежак, ускраек, узбярэжжа
унадзіцца, прынада
усцяж, уздоўж, цягам
упікнуць
усталявацца — абжыцца, умацавацца
(*К. Ч.*— 3-е пакал.)
увішны (чалавек)
утаймавалася боль *(К. Ч.)*
усхадзіцца
утнуць (танец)
уцеха
уз'ецца, уссесці
улучыць
ушчуваць
упраўны (чалавек)
умельства
уняць, -цца, унімак
укарчанець, адубець *(К. Ч.)*
упадабаць (каго)
узварушыцца, -ць, усхваляв.

Х

хцівы
хараство
хвастаць, біць

Ц

цераз, праз
цурком, цурчэць
цярусіць
цурацца, адчурацца
цяміць
цыбаты (чалавек, дрэва, кветка)
цікаваць
цягацца, сланяцца, валачыцца
ціхманы (чалавек)
(с) цьмець *(К. Ч.)*

Ч

чэзнуць, чэзлы
чадзіць, чад
чары, чараўніца

Ш

шчыльны
шархаць — шаркацець
шнурок, палоска
(у)шанаваць, пашана, павага
шыбаваць, шугаць (?)
шурпаты
шыльда
(па)шчапаць (дроў)
шал, шалець, ашалелы
шастаць (вецер — *З. Бяд.*)
шчыраваць, шчыра працаваць
шоргат (шум)
шыкавацца (у дарогу), рыхтав.

Я

яр — овраг
яліна, хвоіна

# ПАГАВОРКІ

1. У ласкавага цялятκі — дзве маткі.
2. Да гатовага кастра добра падкладаць.
3. Старасць не лята, а бяда.
4. Не глядзіць ні вока ні бока.
5. ...а там — бог бацька.
6. Па вусам цякло, а ў рот не папала.
7. Цялятка ў чэраве, а даўбня гатова.
8. Ні складу ні ладу.
9. Няма мукі без навукі.
10. Дзе ні кінь — усюды клін.
11. Не зведаўшы броду, не суньса ў воду.

## АСОБНЫЯ ВЫРАЗЫ

1. Не дачакаўся з сына пацехі.
2. А хата, не раўнуючы, як харома.
3. Не ўрокам кажучы, добра.
4. Каб яму немач!
5. Бог барані, пабачыць каму тое.
6. Меўся ехаць, зрабіць (меў намер), за каго ты мяне маеш (лічыш) і г. д.
7. Патрапіць сказаць (пякло — *К. Ч.*)
8. Пільная патрэба.
9. Шура-бура (пайшла)
10. От-бо стварэнне! (*К. Ч.*)
11. Не старога веку чалавек, не стары.
12. Не спяшайся: у бога дзён многа.
13. Жыць у злагадзе з людзьмі...
14. Рады даць (справіцца)
15. Займалася на дзень.
16. Добра жылося, соладка пілося.
17. У поўдзень высвяціла сонца (*К. Ч.*)
18. Даць па галаве (ударыць).
19. Сонца смаліла (пякло — *К. Ч.*)
20. Яго тачыў смутак (*К. Ч.*)
21. Калі ён праходзіць тут ме... (будзе)
22. Усе чыста — усе.
23. Немы голас.

# У ПАЧАТКУ ВАЙНЫ

## З успамінаў пра 1941 год

*22 чэрвеня*

У 7 гадзін лагер паднялі па «трывозе». Той-сёй бурчаў: «Зноў раней часу паднялі! Нават у нядзелю не дадуць спакою!.. Зноў, мабыць, коней чысціць!..» Але, было відаць, здарылася штосьці незразумелае, трывожнае. У канюшні раздавалі процівагазы, патроны. З артпарка гарматы паспешліва перацягвалі да ракі.

Па лагеры ішлі дзіўныя, страшныя чуткі. Перадавалі: «Нямецкія самалёты бамбілі Явору... Многа самалётаў на світанні прайшло на ўсход. Бамбардзіроўшчыкі...» Там і тут чуваць было: «Вайна!.. Немцы пачалі вайну!»

Я не хачу верыць. Не веру. Супакойваю сябе: не можа быць, каб Германія ўвязалася ў вайну з намі ў такую цяжкую для яе пару. Не скончана ж вайна з Англіяй, бойка ў разгары... Самалёты гэтыя, у горшым выпадку — чарговая правакацыя. Хіба ж мала іх лятала апошнімі днямі... Дня не было апошні месяц, каб не праходзілі высока над намі...

Але трывожнае напружанне не прападае. Каля 9 гадзін з-за гор раптам вырваўся яшчэ самалёт. Ён ішоў нізка, і мы, стоўпіўшыся, з трывогай і недавер'ем сачылі за ім. Ён ішоў у кірунку нашых канюшань і артпарка. Ён быў непадобны на нашы, чорны, са шкляным носам. Сталі відны раптам чорныя крыжы на крылах.

Мы глядзелі і не верылі. Над паркам ён развярнуўся і раптам сыпнуў нешта, што зіхнула полымем. Загрымела. Рэзка, жахліва ўдарыла па казармах кулямётная чарга.

Прайшоў між казармамі і паркам, павярнуў на горад. Над Туркай таксама скінуў бомбы.

Усе ўстрывожаны, мітусяцца. Ніхто толкам не ве-

дае, што рабіць... Нарэшце прыходзіць загад: сабрацца, выступіць у дарогу... Нядоўгае, неспакойнае чаканне, і мы — на конях, з горнымі гарматкамі — імчым у горад, па яго вуліцах. За горад, да граніцы. Займаць пазіцыі...

Калі дайшлі да месца, даганяе чутка: у 1-м дывізіёне забіта і ранена 9 чалавек. Яны былі на баявых стрэльбах. Іх па трывозе выклікалі ў полк, на граніцу. На дарозе іх заспелі нямецкія бамбардзіроўшчыкі...

*26 чэрвеня*

Усё папярэдняе я напісаў сёння. У кніжачцы, якую мне прывезлі з Туркі. У той дзень я і не мог бы напісаць нічога...

Мы на пазіцыях. На схіле гары, у сасонніку, акапалі гарматы. Падрыхтавалі даныя для стральбы. Выкапалі акопчыкі. Падрыхтавалі ўсё, але не страляем. Мы маўчым, і немцы таксама не аказваюцца. Нават самалёты не чапаюць нас.

Немцы па-ранейшаму за ракой, за Санам. Проста перад намі — высокая, зарослая лесам, панурая гара. У бінокль добра відаць белы дамок на крутым схіле гары. Там — немцы. Перад гарой — рака Сан, граніца. Ракі не відаць, і гэта неяк асабліва хвалюе, стварае большую загадкавасць. Там, перад ракой — пяхота, пяхотны полк з нашай дывізіі і пагранічнікі.

Дні цягнуцца ў нядобрым чаканні. Некалькі дзён прайшло, а мы ўсё не можам звыкнуцца з тым, што жыццё так страшна перамянілася. Душу гняце адчуванне: чым усё гэта скончыцца? Мы кожны дзень, кожную гадзіну чакаем бою, а вось ужо чацвёрты дзень — незразумелая, цягучая невядомасць. Гэта невядомасць трывожыць асабліва таму, што наводдаль справа ўвесь час глуха грыміць. Страляюць гарматы. Страляніна іх усё паглыбляецца ў наш тыл. Што гэта значыць?

Я ўсе ночы не сплю, увесь час з вартай. Жаваранкаў сказаў: трэба пільна сачыць за ворагам, асабліва ноччу. Ён кожную ноч паяўляецца на нашых пазіцыях, на конавязях, правярае. Не спіць і Картушын, усе ночы на нагах. І начамі, і ўдзень. Я не ведаю, калі ён спіць. І ці спіць наогул. Калі я заікнуўся пра гэта, ён сказаў строга: «На вайне камандзіры спяць менш

за ўсіх». Ён, як і раней,— малайчына. Трымаецца спакойна і ўпэўнена, і прытым — сціпла, без паказной смеласці. Цвёрда і сур'ёзна. І патрабуе таго ж ад іншых, у тым ліку і ад мяне. Ад мяне ён неяк асабліва строга патрабуе. Мне прыемна, што ён такі, бо многія іншыя разгубіліся.

Нашы, што прыязджаюць з Туркі, кажуць: там — спакойна. Я напісаў пісьмо сваім, у Глінішча. Уклаў у пісьмо картку, якую ўзяў у фотамайстра ў апошнюю суботу. Перад самай вайной. Няхай паглядзяць дома на яе. Бо хто ведае, што потым будзе...

У Турцы працуюць установы і магазіны. Учора, кажуць, эвакуіравалі жанок і дзяцей камсаставу.

*28 чэрвеня*

Увечары 26 чэрвеня нас папярэдзілі: «Сёння ўночы можа быць бой». Жаваранкаў сказаў, каб я глядзеў за ездавымі, каб яны былі гатовыя заўсёды. З таго дня, як вучэбную батарэю расфарміравалі, я зноў са сваёй батарэяй. Так выйшла, што я павінен памагаць і Жаваранкаву і Картушыну.

Я адказаў, што ўсё зраблю. Я не падаў выгляду, але на сэрцы стала страшэнна маркотна, сумна. Успаміналіся ўсё родныя, сябры, так, нібы мяне маглі адарваць ад іх. Жыло ўсё, не адступалася з душы: можа ў гэтую ноч... Можа гэта... Не хацелася думаць да канца: можа — гэта апошні дзень. Я гнаў невясёлыя думкі, а адчуванне страшнай трывогі не адыходзіла...

Але ў гэту ноч бою не было. Ледзь толькі сцямнела, мы зняліся з пазіцый і сталі спускацца з гары. Дарогай пайшлі ў кірунку на Турку. Чым бліжэй пад'язджалі, тым больш нас затрымлівалі. Перад горадам дарогі былі забіты людзьмі, машынамі, павозкамі. Рабілася штосьці незразумелае. Нашу калону ўвесь час разрывалі. Гудкі машын, цокат капытоў, лаянка...

У горадзе яшчэ больш цесна ад войск. Ідзём зусім павольна. Адзначаю мімаволі: адыходзіць назад мост угары, будынак райкома, кніжны магазін, мы выходзім на дарогу, што ў бок Яворы.

Што робіцца, ніхто з нас не ведае. Хтосьці кажа: новую пазіцыю каля Яворы зоймем. Але падышлі да Яворы, і вось ужо і яна засталася ззаду. А мы ўсё ішлі

і ішлі. Ішлі раніцу, ішлі дзень, заціснутыя на вузенькай звілістай дарозе. Між гор, над рачнымі патокамі. Паглядвалі на неба — было ціха. Пад вечар паказаліся нафтавыя вышкі. Вышкі яшчэ працавалі. Упоцемку спусціліся ў горад Барыслаў. Калі ўціснуліся ў вуліцу, раптам у цемры вогненна бліснула і загрымела. Ад нечаканасці спадзеўкі коні спалохана рвануліся ўбок. Ледзь стрымалі. Мы трывожна аглядваліся: што гэта — бамбёжка, абстрэльваюць? Тады грымнула зноў, у другім баку — яшчэ раз. Блізкія выбухі аж аглушалі. З кожным выбухам сляпіла ад агністых крывавых усплёскаў. На момант усё страшна чырванела... Коні мімаволі перайшлі на рысь. Іх не стрымлівалі...

Праскочылі вуліцы,— вось і Барыслаў застаўся ззаду. А мы ўсё ішлі і ішлі. У цемры было відаць: горы паменшалі, разыходзіліся. Канчаліся, пэўна, Карпаты. Мы выбраліся на раўніну. Раніцай спыніліся на невялікім узвышшы над горадам. Гэта ўжо Драгобыч. Карпаты засталіся ззаду.

Драгобыч як на далоні. Зіхаціць сонца, і дамы ад яго аж ззяюць. Горад здаецца неяк асабліва прыгожым. Раніца такая чыстая, ціхая, што не верыцца, што зараз можа быць бой.

Але мы чакаем бою. Гарматы паставілі напагатове. Падрыхтавалі даныя да стральбы. Разлікі ўвесь час каля гармат. Ездавыя ў глыбіні лесу. Большасць людзей спіць. Дзве ночы амаль не сплюшчвалі вачэй. Трэба адпачыць, пакуль ціха. Драгобыч будзем абараняць, што б там ні стала.

*30 чэрвеня*

Пасля поўдня далі загад: зняцца з пазіцый. Немцы не паявіліся. І Драгобыч пакінулі без бою. Гарматкі нашы, разлікі на конях выцягнуліся на доўгае шасэ. Калі ад'ехалі крыху, ззаду штосьці выбухнула і над горадам стала распаўзацца чорная пляма. Яна ўсё расла і хутка закрыла паўнеба, схавала сонца. Сонца ледзь значылася, стала чорным. Усё навокал рэзка пацямнела. Сярод дня зрабілася цёмна, як ноччу.

Недарэчна выглядаюць тут нашы дробныя, кароткія гарняшкі. І сёдлы для ўюкаў. Паўтара гады вучыліся для вайны ў гарах. А так ні разу і не стрэлілі. Усё далей ідзём без бою.

*1 ліпеня*

Усю ноч ішлі. На світанні падышлі да ўскраіны Стрыя.

Мы ехалі знаёмай дарогай. Тут мы не раз ездзілі ў летнія лагеры. Дарога нам нагадвала пра той час, і сэрца шчымела ад успаміну. Цяпер усё было іншае, нядобрае, страшнае. Чым больш набліжаліся, тым станавілася трывожней. Мы думалі, у горадзе ідзе бой. Мы адчулі з усёй яснасцю, што такое вайна. Горад увесь палаў. Увесь час, усё бліжэй ад нас, штосьці выбухала. Мы ішлі ў гэтыя выбухі. Коні ўздрыгвалі, кідалі спалоханыя позіркі. То ішлі, то рваліся бегчы. Доўгі драўляны мост над ракою гарэў, быў у дыме. Мы рушылі праз гэты дым. Каля дарогі стаяла некалькі танкаў, нацэленых туды, адкуль мы ішлі. Яны павінны былі, мабыць, прыкрыць нас. Гэта былі першыя танкі, якія я ўбачыў за ўсе дні. Яны абнадзейвалі і супакойвалі.

Блізка ад нас гарэў, мусіць, склад боепрыпасаў. Раз-пораз полымя імкліва ўскідвалася. Непадалёк штосьці падала з шыпеннем, відаць, асколкі снарадаў... Грымела і грымела... Мы мімаволі стараліся хутчэй ад'ехаць адтуль... За горадам стала цішэй, але трывога не сыходзіла. Пры дарозе гарэла кінутая спехам, падпаленая танкетка. Уся дарога была забіта абозамі. Абозы, абозы, усе спяшаюцца на ўсход...

Агульны трывожны бег гняце. Не магу глядзець,— што гэта робіцца? Не магу зразумець. Што будзе далей? Лепш не думаць: усё роўна нічога не зразумець.

Цяпер заехалі ў лес. Сталі на прывал. Трэба пакарміць коней. Чырыкаюць птушкі. Выбухі далёка за намі...

*4 ліпеня*

Хто б мог падумаць, што ўсё так павернецца. Я ўяўляў, што бой пачнецца з першай хвіліны вайны. За кожнае сяло, за кожную хату. Я думаў, што ў першы ж дзень давядзецца моцна біцца. А ўсё ідзе інакш, наварат. Прайшло каля паўмесяца, а мы яшчэ не былі ў баі. Усё яшчэ наперадзе.

Дзесяткі гарадоў мы прайшлі. Сотні сёл. Увесь час былі напагатове. Нас прыкрывалі іншыя, мы таксама прыкрывалі. Стаялі, нацэліўшы гарматы туды, дзе маг-

лі быць немцы. Але немцы не паяўляліся. Ніякага знаку. Толькі збоку, з поўначы грыміць і грыміць.

І самалётаў нямецкіх не відаць. Неба на дзіва чыстае, спакойнае. Праўда, і нашых войск мала. Ад самага Стрыя — ніводнага танка свайго, ніводнага самалёта. Толькі мы ды групкі стомленай пяхоты. Ды нейкія інтэнданты. Ды абозы, аблепленыя людзьмі. Ды няшчасныя бежанцы. Багата хто ідзе босы. Абабіліся, абадраліся. Некаторыя валяцца без сілы, адстаюць. Многія з прыпісаных да палка мясцовых зніклі недзе. Мабыць, разбегліся па хатах. Вайна так непадобна на тую, якую мы ўяўлялі сабе.

Як яна сурова, бязлітасна вучыць нас. Сёння мы прайшлі Чарткоў. Хутка ўся заходняя Украіна застанецца ззаду.

У нас у батарэі прапаў сержант Леўскі. Учора, калі мы засталіся прыкрываць адступленне, Леўскаму загадалі з'ездзіць у разведку. Ён асядлаў каня і паехаў. Паехаў і не вярнуўся. Ніхто не ведае, што з ім. Ці наткнуўся на немцаў, трапіў у палон. Ці застрэліў якінебудзь гад...

Сёння каля Цярнопаля паказаўся збоку наш аэрадром. Мы глядзелі: на роўным полі поўна пабітых самалётаў. Разбамбілі немцы, відаць. Некалькі чалавек кінулася туды, паглядзець бліжэй. Раптам выбух — узарвалася міна. Раніла Маеўскага. Яго прынеслі, паклалі на павозку. Ён адразу страшна пашарэў, звяў... Першыя ахвяры ў нашай батарэі.

*5 ліпеня*

Учора ўночы хтосьці застрэліў Сафронава. Ён ноччу стаяў на пасту. Я быў начальнікам варты і ставіў яго і правяраў, як ён вартуе.

Прыгнечвае, калі думаеш, што тыя кулі, якія трапілі ў яго, маглі дастацца табе. Той, хто страляў у яго, мабыць, бачыў і мяне. І, можа, цэліўся. І толькі выпадак выратаваў. Мяне выратаваў, а яго загубіў.

Стралялі, відаць, зблізку. Дзве кулі прабілі галаву. Хто страляў, высветліць не ўдалося.

Ды і часу не было, каб высвятляць. На золку далі каманду збірацца. Мы спехам выкапалі магілу блізка ад хаты, пахавалі. Я ўзяў з яго кішэні дакументы, партбілет і апошняе, не пасланае пісьмо да жонкі...

Мы ішлі нядоўга. У полі сталі. Доўга стаялі чамусьці. Узышло і пачало добра грэць сонца. Хацелася спаць. Потым мы яшчэ праехалі і зноў сталі. Нам сказалі, што тут будзем займаць пазіцыю. Паявіўся, чамусьці на павозцы, капітан Растаргуеў (сказалі — нібы хворы), даў нейкія распараджэнні Чыжыкаву і Бегуну. Чыжыкаў, Бягун, Картушын пайшлі па жыце, выбіраць пазіцыю.

Іншыя гарматы, абоз пакінулі нас, а мы звярнулі ў жыта, пачалі разгортвацца. Коней адаслалі ў лясок ззаду. Сувязісты павялі сувязь наперад. Картушын стаў рыхтаваць даныя для стральбы. Даў указанні наводчыкам.

Тут стаялі дзве гарматы, былы мой разлік, і я застаўся з імі. Мне не абавязкова было заставацца, бо тут быў цяпер Бягун. Але я не мог пайсці кудысьці, калі тут павінен быў пачацца бой. Мне нельга было ісці, кідаць адных таварышаў перад смерцю.

Канешне, было страшнавата,— страшна,— але я задаволены цяпер, што не пайшоў. Магу глядзець усім у вочы.

Мы прыкрывалі адыход дывізіёна. Немцы паявіліся гадзіны праз паўтары. Картушын расказаў потым: некалькі матацыклістаў, аўтамашыны, бранявік. Яны ішлі з сяла, што было перад намі... Картушын сам хваляваўся, хмурыўся, калі, пачуўшы каманду з КП, загадаў: — Узвод, к бою!

Калі сталі біць па немцах, усе былі як у ліхаманцы. Ва ўсіх было такое адчуванне: вось — пачынаецца! І неспакой: як яно будзе? Разлікі хапаліся: хутчэй падаць снарад, хутчэй навесці. Павел Матора і тут завіхаўся маўкліва, спрытна. Наша гармата біла вельмі дакладна.

Неўзабаве немцы сталі адзывацца самі. Спачатку яны рабілі то недалёты, то пералёты. Выбухала то перад намі, то за намі. Потым пачалі біць больш трапна. Выбухі сталі рваць жыта каля самых гармат. Мімаволі прыходзілася кідацца на зямлю. Але ледзь сціхалі выбухі, мы былі ўжо каля гармат. І білі самі.

Я тады не ведаў, пазней ужо даведаўся, што немцы білі па нас не снарадамі, як мы, а мінамі. Далі нам клопату гэтыя міны, якія яны сыпалі і сыпалі. Але разлікі не паддаваліся. А Картушын трымаўся так упэўне-

на, нібы для яго гэта якія-небудзь вучэнні. Спакойна вёў сябе і Бягун, што быў з Картушыным.

Ад таго, шты мы білі і білі, а запас снарадаў быў малы, хутка мы адчулі, што не хапае снарадаў. Картушын паслаў мяне арганізаваць паднос снарадаў. Мы з хлопцамі кідаліся то да зарадных скрынак, то да гармат, то зноў да скрынак. Бяжым, падаем, паўзём. Забяспечваем батарэю... Дзень увесь быў як у ліхаманцы. І здаўся бясконцым. Паліла сонца. Мы былі потныя, брудныя. Нервы ў нас былі нацяты. Так нацяты, што думкі ўсе быццам застылі. Мы падавалі снарады, білі, берагліся ад выбухаў...

Немцы, адчуўшы, што збіць нас не ўдасца, пачалі заходзіць у тыл нам. Збоку ў лесе ўсё больш заходзіла за нас аўтаматная страляніна. Картушын нават паслаў мяне і яшчэ двух байцоў прыкрываць узвод справа, ад лесу. Нарэшце нам далі загад адыходзіць назад, да лесу. Першай пайшла адна гармата, а Паўлава засталася яе прыкрываць. Байцы з радасцю пакацілі гармату назад: вельмі ж ужо сталі сыпаць немцы...

Наша гармата яшчэ нейкі час адбівалася. Потым дазволілі адыходзіць і нам. Гэта было асабліва непрыемна, прыгінаючыся каціць пад свіст мін. Але і тут абышлося неяк. І вось калі мы ўжо скацілі сваю гармату ў лагчыну, то ўбачылі, што гармата, якая пайшла раней, ляжыць скалечаная на баку. Пабач ушчэнт разбіты перадок. А на гармаце і навокал яе — жах глянуць — парваныя, акрываўленыя, у страшных позах забітыя. Шкляныя, нерухомыя вочы, незнаёмыя, акасцянелыя твары. Стогнуць, спалохана глядзяць раненыя. Ляжаць знявечаныя коні...

Мы забралі раненых, пасадзілі на гармату, на коней і павезлі да лесу.

Спыніліся каля лесу, навялі гармату. Сталі біць зноў. Сонца ўжо было нізка, і мы чакалі — хутчэй бы вечар. Трывога наша ўсё расла — немцы справа, лесам, усё заходзілі за нас. Страляніна чулася так блізка, што, здавалася, яшчэ трохі і яны прарвуцца да гарматы. Мяне зноў з групай паслалі на фланг, ахоўваць...

Толькі калі сцямнела, далі нам загад адысці. У вячэрняй цемры варушылася за полем вялікае полымя — гарэла запаленая вёска. Немцы раптам сціхлі, і мы ма-

глі пакуль супакоіцца, азірнуцца. Вакол усюды валяліся кінутыя спехам ранцы. Мы наткнуліся на скрынку з яйкамі і ўспомнілі, што цэлы дзень нічога не елі. Трохі сцішылі голад.

Але тут дайшла новая бяда: вярнулася разведка і паведаміла, што дарогі ззаду няма. Вузкая сцежка ў лесе ўпіраецца ў крутую гару. Другога шляху няма: мы ў акружэнні. Усе дарогі тут у немцаў. Чыжыкаў з Бегуном і Картушыным ціха раяцца. І нарэшце загад: узарваць гармату...

Пайшлі ў лес, спадзеючыся прабіцца да Збруча. Цемра — хоць вочы выкалі...

*6 ліпеня*

Усю ноч ішлі. Лесам, у цемры. Лезлі на нейкія горы, спускаліся ў яры, слізгалі па схілах. Натыкаліся на дрэвы адзін на аднаго. Раз-пораз спыняліся, шукалі сцежкі. Падалі, аддыхваліся зморана. Ногі ледзь трымалі, спаць хацелася — да смерці...

Блукалі ўсю ноч. Толькі перад раніцай дабраліся да Збруча. Рэчка — вузенькая, але хуткая і глыбокая. Доўга шукалі пераходу. Нарэшце перайшлі ўброд.

Толькі цяпер можна было разглядзець, што сярод нашых нямала і незнаёмых. З пяхотнага палка. У цемры сышліся. А нашых многіх няма. Адарваліся недзе. Мы — Абаротаў, Карманаў і іншыя, рашаем, што рабіць.

Пашукалі, распытвалі — дзе іншыя — невядома. Усе адыходзілі ад рэчкі, і мы таксама пайшлі. Заставацца далей тут было бяссэнсным.

Больш за ўсё нас трывожыць няяснасць становішча. А немцы прачнуліся. Блізка загаварыў кулямёт.

*7 ліпеня*

Усё ніяк не можам знайсці сваіх. Стаміліся без меры, галадаем. А галоўнае — гэта тое, што адарваны ад сваіх.

На дарозе падабраў газету «Красная звезда» з прамовай Сталіна. Пасля перажытага чытаў і плакаў. Адзіная светлая надзея.

*8 ліпеня*

Трохі падвёз нас грузавік: падбіліся зусім. Потым сышоўся з артылерыстамі — ехаў з імі.

Праехалі трохі — у нейкім сяле ледзь не наскочылі на нямецкія танкі, якія аказаліся ўперадзе нас. Ішлі наперарэз. Толькі паказаліся мы на ўзгорку, як яны — снарад за снарадам. Мы — зразу з гарматы. Адчапілі. Сталі разварочваць. Цяжкая, непаваротлівая — пушка-гаўбіца. Пакуль прыладзіліся... Добра, што немцы білі няўдала.

Я не зразу ўбачыў, дзе іх танкі. Потым, як ужо задзілі, заўважыў: на другім схіле лагчыны — метраў можа семсот. Білі, відаць, танкавымі снарадамі — балванкамі. Толькі чуваць, як пралятае. Як бы гарачым паветрам абдае.

Наша як раване на іх раз, другі. Ды другія далучыліся. Яны папрыціхлі, сталі адступацца.

*9 ліпеня*

Каля Ліціна мы зноў натрапілі на след сваіх. Адсталі ад артылерыстаў.

Але, калі дабраліся ў Ліцін, там ужо нікога не было. Нашы адышлі, горад быў пусты. І да ўсяго — з ускраіны ўжо ўваходзяць нямецкія танкі. Лупяць па горадзе з кулямётаў. Матацыклісты з'язджаюць з горкі.

Каб трохі, трапілі б у лапы немцаў...

Ледзь управіліся ўратавацца. У мітусні разышліся living рознымі сцежкамі. Але ўсе дабраліся да сваіх.

Нас ужо амаль перасталі чакаць. Рашылі, што прапалі. Таму сустрэлі асабліва добра. За гэты час батарэя страціла некалькі чалавек. Асабліва ўсхвалявала мяне навіна — забіты Бягун. Няма Картушына — захварэў раптам, трапіў у шпіталь. Няма двух вельмі важных для батарэі і для мяне камандзіраў...

Пакуль што пасяліліся каля дома парткабінета. Шкода — у багатай бібліятэцы кнігі параскіданы на падлозе, па іх ходзяць. Валяюцца вырваныя карты...

Над намі гурчаць цяжкія нашы снарады, увесь час поблізу свішчуць і гахаюць нямецкія міны. Але ў нас на душы — палёгка. Што значыць — са сваімі, разам.

*10 ліпеня*

Быў на НП. Галавы не высунуць з укрыцця. Немцы ціснуць, цяжка стрымаць. Але пяхота трымаецца, з нашай падтрымкай.

Калі я быў там, прывялі ад пяхоты лейтэнанта.

з прастрэленым горлам. Я проста не мог глядзець — так страшна.

Я дасюль не магу глядзець на чужыя пакуты.

*12 ліпеня*

Немцы ўсё ціснуць. Але мы трымаемся. Мы ўчапіліся ў доты.

Цяжка і ў дотах. У нас вялікія страты. Немцы падарвалі дот, у якім быў НП дывізіёна. Загінуў камбат Рашчупкін, забіты Ляшкоў і іншыя разведчыкі 5-й батарэі. Толькі некалькі дзён пабыў Рашчупкін камбатам...

Лейтэнанту Харунжаму мінай адарвала рукі і ногі. Ён прасіў, каб яго застрэлілі. Ранены Тарноўскі, Камароў. Кожны дзень вайна косіць нас...

*15 ліпеня*

Мы адышлі. Стаім на новым рубяжы.

Ад нашага дывізіёна ўцалела адна гармата...

Нядаўна загінуў Бягун, а цяпер няма і лейтэнанта Чыжыкава. Відаць, забіты таксама. У батарэі не засталося ніводнага камандзіра...

Калону нашу бамбілі. Забіты: сяржант Лабуцін, Крачкоў, Лінкоў, Кісялёў, Лейкін. Ранены Смірноў і яшчэ некалькі чалавек. Лінкова пасекла асколкамі ў 5 месцах. Кісялёва разарвала на шматкі.

Нас адводзяць у рэзерв.

*16 ліпеня*

Мы ў рэзерве. Ад усёй нашай 4-й батарэі засталося чалавек дваццаць. За два тыдні баёў...

Упершыню за столькі дзён сустрэў Івана Карабутэнку. Вельмі рад быў. Рад, што ён жывы. Сядзелі ў нейкай вялізнай павеці, гаварылі пра перажытае. Меркавалі, што будзе. Ён яшчэ пахудзеў, пачарнеў, але трымаецца спакойна.

Недалёка ад нас было некалькі незнаёмых, з нашай дывізіі. Разведчыкі. У аднаго — нямецкі аўтамат. Мы разглядвалі,— гэта — рэч! Нам такія б!..

*17 ліпеня*

Увесь час моцныя баі. Мы, кажуць, зноў акружаны. Немцы прайшлі далёка наперад. У бок Кіева дарогі няма.

Сёння мы зняліся з месца. Ехалі толькі што адбітым ад немцаў полем. Поле, з роўнымі радамі буракоў, усё перарыта выбухамі мін. Каля дарогі, між буракоў, ляжалі забітыя, абсыпаныя зямлёю. У вачах не знікае, як каля дарогі ляжыць зямлісты, зацярушаны зямлёй пехацінец. Падобна — узбек...

Потым ехалі паўз лесапасадку. Дарога была ўся закідана ранцамі з накрыўкамі з цялячай скуры. Нямецкімі ранцамі. Валяліся круглыя, як тэрмасы, провівагазы. Стаяла некалькі кінутых фур. Немцы, відаць, здорава драпалі...

Упершыню бачу, як немцы драпалі. Гэта вельмі цешыць.

*19 ліпеня*

Учора быў недарэчны, жахлівы дзень. Дасюль не магу супакоіцца.

Зноў нам загадалі перабірацца на новае месца.

Са дня на дзень у нас ходзяць гаворкі, што мы павінны ісці на перафарміроўку. І ўчора былі такія чуткі.

У нас коней усіх забралі, пакінулі толькі тры павозкі, на якіх мы вязём маёмасць батарэі, што ўцалела. Едзем і самі. На гэтых павозках мы перабіраліся і ўчора. У дарозе здагналі нейкі абоз, які неўзабаве спыніўся. Было горача, ціха, хацелася спаць. Мы ці перагаворваліся, ці драмалі...

Раптам наперадзе, справа, пачулася дзіўная страляніна. Кулямёты. Некалькі гарматных стрэлаў. На дарозе ўсе заварушыліся. Павозкі раптам ірванулі наперад. Уміг дарога апусцела.

Мы не маглі зразумець: што такое? Мы — у тыле, хто страляе? Але агульная трывога перадаецца і нам. Хочам нагнаць сваіх. Нашы павярнулі на дарогу, што пад прамым кутом перасякае гэту. Мы зварочваем на поле, каб зрэзаць кут. І тут, як назло, ірвуцца пастромкі. Я, Павел, Землякоў кідаемся звязваць.

А стрэлы — бліжэй. Усё бліжэй. Але не відаць — хто: у тым баку — узгорак. І раптам бачу: на дарогу там, з-за ўзгорка выпаўзае — танк. «Танкі!» — крычу ім.

Ад неспадзеўкі раблю глупства: кідаюся туды, куды паехалі папярэднія — на дарогу. Нейкі момант бягу па дарозе. Стрэлаў не чую, бачу толькі — нада мной,

з бакоў ляцяць, абганяюць трасіруючыя кулі. Сэрца ад бегу аж захлынаецца. Я нарэшце здагадваюся: збочваю з дарогі, бягу па полі.

Дыхання не хапае. Не магу больш. Што будзе, тое — будзе. Без сілы падаю. І тут з адчаем бачу: авёс, у які ўпаў, маленькі. Ды тут яшчэ і ўздым. Увесь на віду.

Не варушуся. Чакаю, што будзе. Танк падышоў, прыпыніўся насупраць на дарозе, даў чаргу, другую. Чуваць было, як паветра б'е па пальцах... Пайшоў далей. Адчуўшы гэта, асцярожна вяду позірк на дарогу. Ён не адзін. Колькі іх там!

Прайшло больш за дзесятак. Павольна, з роўнымі прамежкамі. Доўгім здаўся час, пакуль праходзілі.

Калі яны мінулі і сталі спускацца ў лагчыну, злева, адтуль, адкуль мы ехалі, ударыла наша артылерыя. Яны пайшлі хутчэй і хутка схаваліся ў лагчыне.

Я ўстаў, поўны перажытага. Я нічога не цяміў ад нечакана: усё было, як бязглузды сон. Адкуль яны ўзяліся, з нашага тылу?

На дарозе зноў сталі паяўляцца нашы байцы. Я сустрэў Землякова, запытаў: дзе Павел? Ён не бачыў яго. Ён паклікаў мяне з сабой. Я намерыўся быў ісці, але прыйшла думка: а ці не ранен Павел, і я застаўся. Пайшоў шукаць яго. Агледзеўшы поле з гэтага боку, падаўся на другі бок дарогі. Там рос сланечнік. Ходзячы па сланечніку, я наблізіўся да лагчыны, як раптам зноў убачыў танкі. Гэтыя ішлі насустрач, і я падумаў перш, што гэта — нашыя. Стаў чакаць. Але ледзь яны сталі ўздымацца з лагчыны, ударылі нашы гарматы. Узняўся такі грукат, што я на той час аглух. Як не лопнулі перапонкі. Я апынуўся ў самым пекле, між двух агнёў. Нада мной ірваліся нашы снарады, страчылі танкі. А я нічога не мог зрабіць. Дурное і страшнае становішча. І да ўсяго — адзін танк раптам збочыў у сланечнік, я ўбачыў яго ў некалькіх кроках ад сябе. Ён рушыў у мой бок, проста на мяне. Каб крыху, раздушыў бы. У некалькіх кроках збочыў, прайшоў міма. Не ў першы раз смерць прайшла так блізка. Але ніколі, здаецца, я не трапляў на яе так недарэчна. Так бязглузда мог загінуць.

Ад таго, што ўсё выйшла так нечакана: мы ж — у тыле, едзем між сваіх — я аказаўся зусім бяззброй-

ным. Ні гранаты, ні вінтоўкі, адзін пісталет. Ды і што можна было б зрабіць вінтоўкай?..

Калі танкі прайшлі, на дарозе яшчэ грымела. Ірваліся снарады. Я агледзеўся — гарэла некалькі нашых аўтамашын у лагчыне, а на ўзгорку стаялі два танкі. Калі прыціхла, я не ўтрываў, падышоў. З аднаго выбухам сарвала вежу, у выпаленай чорнай сярэдзіне быў недагарэлы кавалак мяса. Агідна-сальны...

Не дарэмна білі нашы... Але ж які страшны дзень для мяне! Самы жахлівы з усіх, што мінулі!..

Паўла я так і не знайшоў. Калі сцямнела, я падаўся да сваіх. Дабраўся ўжо ўночы. Там сустрэў Землякова.

Пачуў навіны: цяжка параніла сержанта Вятошкіна. Ранены Няфёдаў.

*28 ліпеня*

Мы па-ранейшаму недалёка ад Хрысцінаўкі.

Усе гэтыя дні наш дывізіён у баі. Нам далі некалькі гаўбіц з братняга палка, і мы ваюем. Дывізіён, зранены, скрываўлены, жыве,— галоўным чынам — 5-я батарэя. Добрым, разумным і смелым камандзірам паказаў сябе старшы лейтэнант Сітнікаў, які камандуе дывізіёнам пасля смерці Рашчупкіна. Вось табе і сціплы, ціхі былы начштаба! Акрамя Сітнікава са старых нашых камандзіраў — толькі лейтэнант Шылін...

Немцы па нядзелях — маўчаць. Ноччу таксама маўчаць, трымаюцца «рэжыму». «Акуратныя» ваякі!

*29 ліпеня*

У 5-й батарэі выбыў са строю амаль цэлы разлік. Забіты Драбкін.

Цяжка параніла Сітнікава. З туркаўскіх камандзіраў застаўся адзін Шылін. Ва ўсім дывізіёне.

*5 жніўня*

Мы перадалі гарматы і разлікі другой часці. А нам загадана ісці ў тыл.

Становішча тых, што застаюцца, вельмі цяжкае. Немцы акружаюць нас. Нам трэба паспець выйсці з акружэння.

Прайшлі праз Умань.

*6 жніўня*

Роўны стэп. Шырокая раўніна. Толькі роўныя, як пад лінейку, рады лесапасадак. Па ўсім стэпе — пшаніца.

Гарачыня. Ідзём па дарозе. У нас адна павозка. Калі сядзем усе, коні не цягнуць. Мы пад'язджаем па чарзе.

Па дарозе дзе-нідзе зламаныя фуры, сеялкі. Адзін, два разы бачылі трактары. Кожны раз да іх падбягаў наш Маляроў, дзелавіта корпаўся. Ён — былы механік, да вайны рабіў у МТС. У яго неадступная ідэя — адрамантаваць які-небудзь трактар і перасадзіць нас на «мехцягу». Але кожны раз ён вяртаўся, даганяў нас пеша.

Нарэшце адзін ХТЗ паддаўся. Маляроў з гонарам выкаціў на ім на дарогу. Неўзабаве мы падабралі цэлую, прасторную фуру і пераселі на яе. Едзем, песцімся на сонцы.

Раз-пораз нас, праўда, недалікатна трывожаць «юнкерсы». Адзін нават знізіўся, прайшоўся па дарозе чэргамі.

Нашых самалётаў — ні аднаго. Ні самалётаў, ні танкаў. Ад Стрыя так і не давялося пабачыць нашага танка. Дзе яна, наша браня?..

Мы ідзём на перафарміроўку. Ідзём строга на поўдзень. Кіеў застаўся далёка ззаду і ўсё аддаляецца. З трывогай думаю пра тых, што засталіся за Уманню. Што з імі будзе?

*7 жніўня*

Прайшлі Первамайск. Доўга кацілі, славячы тэхніку і Малярова. Адляжаліся на зручнай фуры. Але недалёка ад Вазнясенска тэхніка раптам закапрызнічала. Мы затрывожыліся, мяркуючы, што трэба зноў пыліць пехам. Але Маляроў супакоіў: усё зараз будзе «чын чынам».

Ён усё корпаўся. Нас здагналі нашы фурманкі, сталі аб'язджаць. Многія з нас завагаліся: гатовыя кінуць тэхніку ды ісці за сваімі. Але Маляроў і некаторыя іншыя не хацелі кранацца. Давялося застацца і нам. Не кідаць жа таварышаў адных, Малярова, пасля таго што ён для ўсіх зрабіў.

Я папрасіў нашых, што пайшлі, каб пакінулі «маяка». Калі будуць дзе-небудзь зварочваць.

Было блізка да вечара, трактар да змроку не ўдалося ажывіць, і мы засталіся начаваць. Раніцай трактар зноў ажыў, і мы пакацілі па дарозе.

ХТЗ наш бег на ўсю хуткасць, і мы весела выглядвалі, спадзеючыся ўбачыць знаёмыя павозкі. Але іх усё не было. Не было і абяцанага «маяка».

Не заставалася нічога, як ехаць далей. Простым кірункам. Так мы і дакацілі да Новай Адэсы.

Сталі распытваць пра нашых. Ніхто не ведаў пра іх. Як праз зямлю праваліліся. Мы затрывожыліся; паявілася апаска, што яны дзе-небудзь звярнулі ўбок. Але — дзе? Куды? Былі, праўда, і такія, што даказвалі — яны прайшлі далей. Таму і не было «маяка».

Арцём'еў параіў кінуць трактар і на папутнай машыне праскочыць у кірунку Нікалаева. Паспрабаваць здагнаць.

*8 жніўня*

Мы праехалі на папутнай амаль да Нікалаева. Начавалі недалёка ад горада ў стэпе. Ноччу бачылі, як немцы бамбілі горад. Як пасля бамбёжкі штосьці гарэла.

Раніцай я прапанаваў ехаць назад. Цяпер усім было ясна, што мы недзе праскочылі сваіх. Мы вярнуліся ў Новую Адэсу.

Вельмі пагана на душы. Мы адарваліся. І ніякіх слядоў іх. Каго ні пытаем, ніхто не ведае, дзе яны. Што рабіць?

*8 жніўня*

Тут фарміруецца атрад. Яго называюць атрад маёра Іванова. Нас усіх залічылі ў яго. Я, Павел, Арцём'еў, Маляроў, Новікаў — у атрадзе. Прыглядваемся да атрада. Каго тут няма: пехацінцы, сапёры, танкісты, лётчыкі. Усіх запісваюць па спецыяльнасці, і ходзяць чуткі, што ўсіх будуць рассылаць па адпаведных часцях.

Арцём'еў настроен вельмі песімістычна і называе атрад «шарашкінай канторай». Мне і самому нявесела ў гэтым атрадзе. Увесь час гняце бязглуздасць таго, што здарылася: трэба ж было так адстаць, і ў такі мо-

мант. Калі нашы недзе будуць рыхтавацца па-сапраўднаму, атрымаюць гарматы, усё, што належыць?

Увесь час думаю, шкадую: як мы маглі размінуцца? Чаму не сустрэлі «маяка»? Куды яны пайшлі? Няўжо на Кіраваград?..

Атрад пачынае жыць. Нас падзялілі на аддзяленні, узводы. Пастроілі. Зрабілі пераклічку. Пазнаёмілі з камандзірамі.

*9 жніўня*

Учора нам аб'явілі баявую задачу. Увесь наш атрад павінен заняць пазіцыі ў полі перад Новай Адэсай і абараняць сяло. Да Новай Адэсы набліжаюцца немцы...

Пад вечар мы былі ў полі. Пачалі акопвацца. Капаю адзіночную ячэйку. Цяжка на душы: адчуванне адзінокасці. Усё не адыходзіць: як глупа мы адарваліся. Да ўсяго шкадаванне; усе мае рэчы: запісныя кніжкі, гімнасцёрка і іншае паехалі туды...

На полі нас выстраілі. Аказалася, прывялі дэзерціра. Малы, непрыкметны, маўклівы, як дрэва, хлопец. Капітан зачытаў прыгавор трыбунала: прысудзіць да расстрэлу. Тут жа загадаў павярнуцца, і два байцы ўзнялі вінтоўкі. Хлопец не прамовіў слова, не варухнуўся. І ўпаў моўчкі.

Пасля таго, як дазволілі разысціся, некаторыя падышлі, сталі разглядваць. Адзін дзелавіта сцягнуў боты...

*10 жніўня*

Учора немцы падышлі да нас, пачалі абстрэльваць. Але бою вялікага не было. Можа таму, што пачынала вечарэць.

Ноччу я атрымаў загад — разведаць дарогу і размяшчэнне немцаў у другім кірунку. Я ўзяў некалькі чалавек: Паўла і трох незнаёмых. Ноччу мы прайшлі кіламетраў пяць, абшарылі вялікую частку стэпу. Вярнуліся пад раніцу...

Калі вярнуліся, увесь атрад быў на нагах. Нас нечакана рашылі змяніць пяхотнай часцю.

Мы сядзім у рэзерве. У той жа Новай Адэсе. На могілках, сярод дрэваў і крыжоў. З-за могілкаў вельмі блізка, некалькі разоў ударылі гарматы. Не магу слухаць спакойна.

*11 жніўня*

Тады як іншыя грэліся на сонцы, дасыналі, мы ўтраіх — Арцём'еў, Павел Матора і я пайшлі туды, адкуль грукалі гарматы. Яны былі вельмі блізка, адразу за могілкамі. Гэта былі вялікія, з раскінутымі станінамі пушкі-гаўбіцы, 152 мм. Артылерысты сядзелі каля гармат, займаліся хто чым. Мы падышлі, паздаровалiся, запыталіся, ці не бачылі нашых. Не бачылі. Арцём'еў расказаў пра наша здарэнне. Завязалася гаворка. Падышоў аднекуль сяржант, стаў слухаць. Запытаўся, хто мы па спецыяльнасці. Аказалася, што ў іх батарэі і ў суседняй, 9-й, не хапае людзей. У разліках. Наогул сяржант аказаўся вельмі дружалюбным чалавекам. Калі мы размаўлялі, падышоў палітрук батарэі. Яму расказалі пра нас, і ён зацікавіўся намі. Асабліва маёю асобаю: мне потым сказалі, у батарэі некалькі дзён назад прапаў зампалітрук...

Гаварыць нам давялося мала, бо хутка далі каманду: па месцах. Скамандавалі: гарматы — к бою. Мы спачатку стаялі, глядзелі збоку. Але пасля таго, як гарматы ўдарылі, каля батарэі сталі рвацца снарады немцаў. Завязалася артылерыйская дуэль, не на жыццё, а на смерць. Артылерысты то кідаліся ў глыбокія раўкі, то да гармат; спяшаючыся наводзілі, зараджалі. Стаяць у такі момант, хавацца ў раўках было б здрадай. Мы сталі памагаць.

Гарачая была хвіліна. Снарады немцаў шматавалі зямлю так блізка, што лёгка можна было адправіцца на той свет. Мы зразу, можна сказаць, трапілі ў самае пекла. І калі немцы прыціхлі, здаліся і стала зноў спакойна, то мы ўжо сталі нібы сваімі. Сяржант сам сказаў, каб мы засталіся з імі.

Я завагаўся: адказаў, што мы лічымся ў атрадзе Іванова. Арцём'еў недавольна стаў тузаць мяне за рукаў. Ён адразу згадзіўся, стаў актыўна расхвальваць маўклівага Паўла: лепшы ў палку наводчык быў! — хваліць мяне. Мне сказаў, што ў атрадзе нам рабіць няма чаго.

Я не пярэчыў яму. Гэта была праўда. Шчыра кажучы, мне самому спадабалася тут. І разлік, і сяржант, іх уменне і парадак. Зразу адчувалася, што часць тут — што трэба. Надзейная. Стрымлівала толькі адно: як там аднясуцца ў атрадзе.

Зноў паявіўся палітрук (цяпер я ведаю яго прозвішча — Смоквін); ён, аказваецца, не забыў нас. Сержант стаў хадайнічаць за нас, хваліць за тое, як мы дзейнічалі. Хлопцы таксама падтрымлівалі яго. Свае слова сказаў і Арцём'еў: ён як бы адчуваў важнасць моманту. Запэўніў, што шкадаваць не прыйдзецца.

Палітрук папрасіў нас пабыць у батарэі. Сказаў, што пастараецца дагаварыцца з камандзірам дывізіёна і з Івановым. Зноў стаў гаварыць са мною, распытваць, расказваць. Мяне вельмі ўзрадавала мяккасць, таварыскасць яго. Мне ён неяк адразу прыйшоўся да душы...

Ён хутка пайшоў, уладжваць наш лёс. Яшчэ да таго як ён вярнуўся, Арцём'еў шапнуў задаволена: усё будзе добра! Бедны Віктар Кузьміч Арцём'еў, хто мог ведаць, якой кароткай будзе яго радасць!..

Перадышка была нядоўгай. Зноў каманда: гарматы — к бою! Хутка зараджаем, б'ём. Раз, другі. І зноў на батарэю — грукат, агонь. Дым паўзе. Пераседжваем у раўках. Ледзь канчаюцца выбухі, выскокваем да гармат. Б'ём мы. Потым — яны. Схватка лютая. Смяротная.

Некалькі хвілін перадышкі. І зноў: гарматы — к бою! Схватка не на жыццё! Толькі спрыт ды цуд ратуюць нас. Выбухі так блізка, што дзіва, як усе цэлыя!

Немцы таксама б'юць цяжкімі. Свіст снарадаў уціскае ў зямлю. Грукат выбухаў аж ломіць перапонкі. Глухнем. Глухія кідаемся да гармат. Наўздагад ловім каманды...

У перадышку прыходзіць распараджэнне: Матору і Арцём'еву — у 9-ю батарэю, мне застацца ў 8-й. Арцём'еў ідзе з радасцю: прынялі! Ідзе і не ведае, што — к сваёй гібелі...

Прыносяць абед. Са мной дзеляцца, як са сваім. Не ўправіліся даесці, зноў каманда: к бою! Зноў грукат, выбухі...

А праз гадзіну прыходзіць чутка: у 9-й нямецкі снарад уцэліў у акоп. Адзін з новых — забіты, другі — засыпаны зямлёй. Даведваюся — усё праўда. Забіты Арцём'еў. Павел — жывы. Толькі кантужаны. Снарад уцэліў у край акопа...

Цяпер нас толькі двое. Туркаўскіх...

*12 жніўня*

Мы біліся да вечара. Пачынала ўжо цямнець, калі трактары пацягнулі гарматы ад могілак.

Мы адышлі недалёка. Зразу за сялом трактары спынілі, і мы сталі размяшчацца. Было яшчэ не вельмі і цёмна. Шараваты змрок.

Вечарам ужо на батарэю прывялі папаўненне. Некалькі пажылых дзядзькоў з-пад Курска. Іх размеркавалі па ўзводах, і рэшта ночы прайшла спакойна. Паваліліся спаць тут жа каля гармат.

Ледзь развіднялася, мы былі ўжо на нагах. Наладжвалі гарматы, рыхтавалі даныя для стральбы. Гарматы нашы стаялі, я яшчэ звечара заўважыў, на нейкім голым і высокім выгане, у неглыбокай даўгаватай лагчыне. На павольным схіле яе. Трактары адвялі кудысьці на ўзгорак, назад.

Мне здалося, што пазіцыя тут не вельмі зручная: вельмі ж на віду павінен быць гэты ўзгорак. Немцам няцяжка будзе засекчы нас. Але я, вядома, толькі падумаў пра гэта. Тыя, хто выбіралі пазіцыю, самі не менш за мяне ведалі гэта.

З раніцы мы пачалі біць за Буг, па немцах. Яны спачатку маўчалі, потым сталі адзывацца. Прычым, мяняючы пазіцыю, усё больш падаючыся ўлева. З-за гэтага нам даводзіцца гарматы ўсё паварочваць улева, так што яны вымушаны біць амаль усцяж лагчыны. Нашы снарады амаль пралятаюць над пярэднімі гарматамі.

Напэўна, лагчына праглядваецца немцамі, бо снарады іх б'юць усё больш дакладна. Мы не выкапалі раўкоў і, пачуўшы свіст снарада, падаем на зямлю. Тым і ратуемся. Мы падаем, дзе зручней. Бліжэй да таго месца, дзе стаім. Я падаю каля станін, між іх.

Месцы гэтыя ўжо як бы вызначаны кожнаму...

Снарады рвуцца так дакладна, што цярпець немагчыма. Мы глухнем, задыхаемся ад дыму. Кожны выбух можа быць апошнім для нас. Становіцца вельмі ўжо небяспечна стаяць тут, і ўжо даецца каманда: падрыхтавацца да змены пазіцыі. Толькі на развітанне загад: даць залп па немцах.

Ледзь мы паслалі снарады, пачуўся свіст. Я, як звычайна, кінуўся да станіны. На сваё месца. Там ужо хтосьці лёг. Я на міг затрымаўся. Упаў, дзе давялося...

Свет раскалоўся. Ударыла так, што сцяло дыханне. Усё завалакло дымам.

Хтосьці страшна закрычаў. Я дасюль не магу супакоіцца, успамінаючы гэты момант і крык. Крычаў той, хто ўпаў на маё месца. Гэта быў дзядзька з папаўнення, што прыйшло ўчора. Яму прабіла грудзі, і праз некалькі хвілін ён памёр.

Падставіў свае грудзі пад асколак, які павінен быў трапіць у мяне...

Самае страшнае: жыццё на вайне залежыць ад выпадковасці, ад капрызу лёсу. Ад нейкай драбніцы. Якую ні прадбачыць, ні ўгадаць.

Ёсць нешта ў ёй проста фатальнае.

Ужо некалькі разоў мяне ратуе нікчэмны выпадак. Але так не можа быць доўга. Недзе я падстаўлю сябе...

Той дзядзька не пабыў на вайне і дня. І ў яго, кажуць, дома чацвёра дзяцей.

Усё гэта было ўчора.

*15 жніўня*

Адыходзім. З 12 жніўня — днём стаім, улезшы ў лесапасадкі, ноччу — ідзём. Усе дні гарачыя, неба чыстае. Стэп роўны, плоскі, далёка відзен. Мы капаем раўкі — на ўсякі выпадак.

Увесь час на душы трывожна: гняце няпэўнасць становішча. Не відаць ніякіх нашых войск. Здаецца, мы адны ва ўсім стэпе. І павінны гатовы быць да ўсяго...

Раз-пораз у высокім небе пралятаюць нямецкія самалёты. І ні аднаго нашага. Дзе яны падзеліся?

Гарачая зямля такая мілая. І так хочацца жыць. І так смутна на душы ад няпэўнасці, якая невядома што тоіць.

Ходзяць чуткі, што мы зноў у акружэнні.

*16 жніўня*

Па-ранейшаму ідзём начамі. Усю гэтую ноч таксама некуды ішлі.

Было вельмі неспакойна. Зусім побач, з абодвух бакоў, увесь часірваліся снарады. Выбухі ўвесь час падбіраліся да дарогі, да нас. Ускідваліся так блізка, што мы чакалі — зараз снарады пачнуць падаць на калону.

Немцы, відаць, лавілі нас па шуме трактароў.

Некаторыя саскоквалі з гармат, ішлі для бяспекі па зямлі... Наогул ноччу выбухі, з-за чырвоных, прагных

успышак, здаюцца страшнейшымі. Можа, яшчэ і таму, што і цемра, невядомасць гняце.

Асабліва блізка і настойліва выбухі білі, калі мы падыходзілі да нейкай рэчкі, ішлі па мосце... Дарога і мост былі ў водсветах пажараў. Было такое адчуванне, нібы мы праціскваемся праз вузкую, сцятую з двух бакоў гарлавіну.

*17 жніўня*

Яшчэ адзін, самы страшны, дзень. І ўспамінаць цяжка...

Пасля цёмнай, трывожнай, з грознымі сполахамі блізкіх выбухаў ночы — ціхая, мірная раніца.

Сонца ўстае. Чыстая, празрыстая смуга. Стэп роўны, шырокі, як ахапіць вокам. Толькі далёка — купкі дрэваў, нейкае паселішча.

Стэп гэты хутка запаўняецца павозкамі, коньмі. Калі яшчэ ўчора мы былі ў стэпе, здавалася, адны, то цяпер побач, справа і злева, поўна абозаў. Адкуль яны ўзяліся?

Абозы ідуць у некалькі радоў, распаўзліся па стэпе. Абозы, абозы, толькі дзе-нідзе купкі пехацінцаў, дробныя, стомленыя. Здаецца, сярод усяго мора абозаў толькі мы — артылерысты, полк Дзядова — баявая часць. Відна наводдаль, праўда, яшчэ некалькі зенітак, з апушчанымі хобатамі ідуць між павозак...

Мы, як і ўсе, ідзём на ўсход. Сонца слепіць у вочы. Ціха, мы сядзім на ствалах гармат, дрэмлем. Ноч не спалі. На душы ад перажытага ўночы, ад няпэўнасці ўсё ж трывожна. Гэта трывога яшчэ і ад таго, што над намі раз-пораз у бясхмарным небе — праўда, высока — праходзяць «юнкерсы». У голым стэпе хоць бы кусточак, не прыхаваешся нідзе, мы — як на далоні. Пачнуць пікіраваць ды бамбіць — намесяць «кашы».

Але самалёты праходзяць міма...

Бяда прыходзіць з зямлі. Справа, вельмі недалёка, раптам грымяць выбухі. За гэтымі — новыя. Абозы, што справа, на міг разгублена супыняюцца, потым паварочваюць улева. Далей ад небяспекі. Убіваюцца ў рады, што ідуць прама, блытаюць іх. Збіваюць іх убок. Уся плынь падбаўляе ходу. Абознікі падганяюць коней. А міны справа выбухаюць усё злей...

Тады пачынаецца горшае. Міны раптам выбухаюць

злева. У тым баку, куды падаліся абозы. Зноў замяшанне. Потым абозы кідаюцца наперад. Стараючыся вырвацца, праскочыць у вузкую гарлавіну. Коні ляцяць рыссю. Павозкі налятаюць адна на адну. Рады сціскаюцца.

Тады здараецца самае паганае. Выбухі ўстаюць наперадзе. Абозы спыняюцца. Паварочваюць назад. Ляцяць назад. Наскокваюць на тых, што ішлі ўслед. Пачынаюць кружыць на вузкім вольным астраўку, які ўсё вузее.

Гэта быў страшны малюнак. Голы, роўны стэп і абозы, людзі, што кружаць у паніцы. Сярод выбухаў, якія ўсё злей шматуюць стэп. Якія ўсё ўразаюцца ў людскую мітусню.

Мы ішлі цвёрдым кірункам. Але калі выбухі выраслі ўперадзе, сталі і мы. Усе пасаскоквалі [illegible] гармат, чакалі, што будзе. Тое, што адбывалася, выклікала і ў нас страх. Напэўна, кожны адчуў, што настала смяротная небяспека...

Тады нам далі каманду падрыхтаваць гарматы к бою. Мы кінуліся, адчапілі, умацавалі станіны. Камандзір батарэі Раманаў паслаў мяне з байцом разведаць вёску, што была перад намі. Высветліць, адкуль б'юць нямецкія мінамёты. Мы падышлі да нейкага калодзежа, калі з сяла ўдарыла кулямётная чарга. Мы залеглі, сталіназіраць за сялом, вызначаць месцы нямецкіх мінамётаў. Яшчэ калі мы высочвалі немцаў, наш дывізіён пачаў біць па сялу.

Калі мы вярнуліся, бой вялі ўжо ўсе тры дывізіёны. Першы, як потым я даведаўся, біў па станцыі, другі — па сялу з вежай, да якога я хадзіў. Трэці — таксама па сялу. Ён стаяў правей за другі і трохі ўперадзе. З кожнай хвілінай полк пачынае дзейнічаць усё больш зладжана, усё больш паказвае сваю сілу.

Немцы прыкметна прыціхаюць. Мы намацваем цэль за цэллю. Іх выбухі ўсё радзеюць. Потым зусім заціхаюць. Мы чапляем гарматы да трактараў і едзем наперад.

Раптам уперадзе паяўляюцца самалёты. Яны ідуць невысока і хутка набліжаюцца. Мы сочым з трывогай і надзеяй. Ідуць з нашага боку. Можа — нашы? Хочацца верыць, але мы насцярожаны: яшчэ ні разу не бачылі мы свае. Відаць, немцы. Бачым, як наводдаль

яны разыходзяцца на дзве группы: адна ідзе ў бок станцыі, другая кіруе проста на нас. Прыкметна зніжаюцца, як бы нацэльваюцца. І тут з пярэдняга выблісквае агеньчык. Адзін, другі, трэці. Б'е з гарматы. Мы кідаемся на зямлю, на пожню. Самалёт, рэжучы з кулямётаў, нізка праносіцца над намі. Я выглядваю ўслед і вачам сваім не веру: на крыле — чырвоная зорка! Але здзіўляцца няма калі: цэліцца, б'е з гарматы наступны. Рэжа з кулямёта — ратунку няма. Ідзе нізка, злосна. І зноў — чырвоная зорка. Што ж гэта такое?..

Палавіна б'е немцаў на станцыі, палавіна — нас. Стэп там і тут гарыць ад снарадаў... У полі ўсюды горкі саломы, што пакінулі камбайны...

Адзін снарад, казалі, уцэліў у прыцэп са снарадамі... Але палку нашаму страт вялікіх не нарабілі. Неяк пашанцавала. І ўсё ж дасталося нам нямала: прыціснулі яны нас так, што не дыхнуць. Ціснуць і ціснуць, а тут — голае поле адно. Пакуль дайшло да іх, што мы ніякія не немцы!

Тады яны развярнуліся і, як бы нічога не здарылася, падаліся да станцыі, да астатніх... Так мы ўпершыню пазнаёміліся са сваёй авіяцыяй.

Уражанне ад яе на гэты раз — вельмі моцнае. Сур'ёзная сіла гэта — штурмавікі, «ІЛы»! Можам гэта засведчыць сваім вопытам. Сваёй спіной адчулі, можна сказаць!..

Неўзабаве пасля гэтага мы ўехалі ў пасёлак, з якога толькі што выбілі немцаў. Немцы шыбанулі так хутка, што кінулі нямала зброі і рознай маёмасці. Не чакалі, што ім так адкажуць.

Нам, аднак, не было калі радавацца. Тут жа мы даведаліся, што немцы прайшлі ўжо далей. Мы зноў выехалі ў стэп і ехалі па дарозе, трывожна прыглядваючыся ўперад і ўслухоўваючыся. Без якіх-небудзь здарэнняў увайшлі ў яшчэ адно сяло, даведаліся, што і ў ім былі немцы. Гадзіны дзве як прайшлі матацыклісты і пяхота ў машынах...

У наступным сяле немцаў не было. Мы размінуліся ў стэпе, так і не сустрэўшыся з імі. Цяпер мы зусім выйшлі з акружэння. Едзем, паступова супакойваючыся. Спакойней стаім на прывале. А былі хвіліны, калі, можа, ніхто не быў упэўнены, што вырвемся...

Прывал вельмі кароткі. Ледзь заправілі трактары, перакусілі, зноў каманда ў дарогу.

*18 жніўня*

Спакойна ідзём па стэпе. Нас адводзяць у тыл. Цяпер толькі ўспамінаем тое, што было. Перадалі нам, што і па станцыі нашы стралялі вельмі ўдала і моцна пабілі нямецкую калону. Усе з пашанай і любоўю гавораць пра камандзіра палка Дзядова. Ім усе ганарацца тут...

Я яго некалькі разоў бачыў. Усё мелькам. Але чую пра яго часта. І ўсё — з любоўю. Гэта любоў яшчэ, здаецца, вырасла пасля бою пад станцыяй.

Наогул пра бой гэты ўспамінаюць з асаблівым задавальненнем. Тое, што ён пачынаўся так страшна, яшчэ як бы пабольшвае гонар: не паддаліся паніцы, у такой абстаноўцы дзейнічалі годна, можна сказаць, адны выратавалі такое мора народу. І немцам яшчэ раз паказалі, хто такія — дзядоўцы!

Гавораць, немцы даўно ўжо точаць зубы на полк і асабліва на камандзіра — Дзядова. Не адзін раз спрабавалі прыціснуць, ды — рукі кароткія! Не на такіх наскочылі!

Некалькі чалавек зусім сур'ёзна гаварылі, што ў немцаў ёсць загад самога Гітлера: разграміць дзядоўскі полк, а камандзіра яго — палкоўніка Дзядова — жывым даставіць у Берлін на расправу. Пра гэта таксама гаворыцца з гонарам; вось які наш Дзядоў і якія мы самі, дзядоўцы!..

Мне падабаюцца яны, дзядоўцы. І асабліва іх дух, іх вера ў свой полк, у сваю асобую долю, якія жывуць, не зважаючы ні на што. І якія пра многае гавораць.

Дзядоў ужо немалады. Гадоў за сорак. Каржакаваты, цвёрды ў хадзе. Ні мітуслівасці, ні рысоўкі, ва ўсіх паводзінах — спакойная, дзелавітая гаспадарлівасць. Гэтая гаспадарлівасць, здаецца мне, самая прыкметная адзнака яго. Думаю, так жа спакойна, гаспадарліва камандаваў ён і ў тую страшную раніцу. І ў баі пад Новай Адэсай, і заўсёды.

З іншых камандзіраў мне найбольш падабаюцца лейтэнант Раманаў і сержант Дубінкін.

*19 жніўня*

Вечарам падышлі да сяла. Сказалі, што тут будзем перапраўляцца. Нават у цемры было відаць, што тут сабралася многа розных войск. Асабліва павозак і грузавікоў.

Мы тут начавалі. Цяпер стаім між хат, у пройме дарогі, што спускаецца да ракі. Чакаем чаргі на пераправу. Пераправа ідзе вельмі марудна: мала паромаў. Стаянне тут трывожыць: войск многа і мімаволі разпораз паглядваеш у неба. Яно, як усе дні, чыстае, без адзінай хмаркі.

Пакуль нашы гарматы стаяць, мы лезем у ваду. Купаемся. Дняпро тут шырокі. Шыр аж заваблівае.

Сяло завуць Качкароўка. Мы, кажуць, блізка ад Каxоўкі.

*20 жніўня*

Мы на другім баку Дняпра. У ціхай і зялёнай вёсцы Зялёнае. Раманаў сказаў, што нам дадуць кароткі адпачынак.

Раніцай нам загадалі разгарнуць гарматы каля садоў, і нейкія дзядзькі з кіно здымалі нас. Для кінахронікі.

Пад вечар я нечакана сустрэў на вуліцы знаёмага хлопца. Ён утаропіўся ў мяне, я ў яго: недзе мы бачыліся! Ён першы запытаў: «Ты быў у Людзвіне?» У Людзвіне,— мне назва гэта пачулася, як нешта ўжо амаль забытае, нерэальнае. Такое ж нерэальнае, як Хойнікі, як той час, калі я са школы хадзіў з Хойнік у Людзвін. Мы разам хадзілі ў Людзвін, нярэдка сядзелі разам вечарамі ў Гарбатых...

Ён з радасці прынёс аднекуль гарэлкі, мы выпілі. Успомнілі даўняе, у якое нібы ўжо не верылася. Ён сказаў, што ў іх палку ёсць і іншыя з нашых мясцін: Кавалёў — відаць, Шура — з Алексіч, і Шчэрбін — з Тунеўшчыны. Шура, праўда, адстаў недзе, і лёс яго невядомы...

Успомнілі родныя мясціны, душа забалела: што там цяпер?

*23 жніўня*

Дайшлі да станцыі Прышыб. Пагрузілі гарматы на платформы. Самі расселіся, ляжым у цяплушках. Кудысьці едзем. Куды?

Міма ідзе стэп. Роўны, неаглядны, з блізкімі і далёкімі радамі сёл. Сёлы — у зелені садоў, па-стэпаваму вялікія, разлеглыя. Мы стаім каля дзвярэй, глядзім у акенцы, гадаем, куды нас вязуць. У душы — недарэчнае, спакуслівае: а ці не пападзём, часам, у родныя мясціны?

*25 жніўня*

Эшалон ідзе марудна, часта спыняецца. Падоўгу стаіць на станцыях.

Усю гэту раніцу таксама пратырчалі на нейкай станцыі. Сярод іншых эшалонаў, што стаялі справа і злева. З дзвярэй нашых толькі і відаць, што вагоны, платформы. Усе пуці запоўнены імі. Відаць, дарога забіта.

Доўгае, нуднае чаканне. Мы — хто гамоніць, хто дрэмле на нарах. Большасць — дрэмле: нарэшце можна ўдосталь наляжацца, адаспацца...

Крануліся пасля поўдня. Я трохі пастаяў каля дзвярэй і таксама палез на нары. Гарачы дзень, духмень, вельмі цягнула на дрымоту. Я задрамаў. Мяне разбудзіў рэзкі штуршок. Поезд стаў. Ён так багата супыняўся, так хацелася спаць, што я гатоў быў зноў задрамаць. Але ў вагоне ўсе заварушыліся, загаварылі трывожна. Я пачуў праз дрымоту: «Мабыць, бамбяць...» Тады ў галаву прарваўся гук выбуху, не вельмі блізкі. Але я ўжо прачнуўся. Следам за іншымі выскачыў з вагона, стаў аглядвацца. Мы былі ў полі. Было ціха.

Пачакаўшы крыху, мы зноў залезлі ў вагон. Я ўжо намерыўся забрацца на паліцу, даспаць, калі недзе наперадзе зноў грыміць, раз, другі, трэці. Мы выскокваем з вагона, і да нас даходзіць, што гэта — немцы абстрэльваюць дарогу. Не можам зразумець: адкуль тут немцы, як яны могуць абстрэльваць? Аказваецца, немцы б'юць з Дняпра, дарога тут ідзе блізка ад ракі. Пазней мы даведаліся, што білі яны з вострава Хорціцы сярод Дняпра...

Мы прабіраемся ўперад і ад сустрэчных даведваемся, што немцы разбілі пуць пад пярэднімі вагонамі эшалона. Паравоз з двума вагонамі прарваўся наперад, у Запарожжа, якое тут ужо вельмі блізка...

Пакуль мы абмяркоўваем навіну, гадаем, што трэба

рабіць, хвіліна цішыні канчаецца, і мы чуем свіст снарадаў. Выбухі ўздымаюцца перад дарогай і за ёй. Тады да нас прыходзіць каманда: вагоны і платформы, што засталіся, адчапляць па адным і сваімі рукамі адганяць назад. Задача гэта не вельмі лёгкая: немцы, намацаўшы эшалон, раз-пораз лупяць па нас. І даволі дакладна. Некалькі чалавек ужо загінула.

Прыслухоўваючыся да свісту снарадаў, мы адчэпліваем адзін вагон, другі. Натужваемся з усіх сіл, скранаем, коцім. Нам гэта ўдаецца. А немцы — б'юць і б'юць. І любы з выбухаў можа ўцэліць.

Маруднай, доўгай здалася нам гэта адкатка. Мы з палёгкай уздыхнулі, калі са станцыі, што ззаду, прыйшоў паравоз і пацягнуў вагоны і платформы назад. З ім — хто ў вагонах, хто пешшу — вярнуліся на станцыю і мы.

Гэта была станцыя Канкрынаўка. Станцыя, якую нам суджана запомніць. Яшчэ як след не супакоіліся мы пасля перажытага пад абстрэлам па дарозе на Запарожжа, як над Канкрынаўкай даволі нізка чорным груганом прароў нямецкі самалёт. Бамбардзіроўшчык ці штурмавік. Неўзабаве ён павярнуў назад, і ледзь падляцеў да станцыі — у паветра ўрэзаўся пранізлівы свіст. Бомба. Бомба ішла проста на нас. Яна заспела мяне на беразе нейкай затокі. На голым пясчаным беражку. Без ямкі. Знянацку.

Я чуў, як гэты свіст упіваецца проста ў галаву. Ніколі бомба не цэліла так блізка. І на такім голым месцы. Я чакаў, што будзе. На мяне раптам абрынулася гара вады. Па спіне, па беразе сталі біць мокрыя камякі зямлі. Бомба ўпала ў ваду. Праз некалькі крокаў ад берага. Пашанцавала яшчэ раз.

За гэтым, не зважаючы на нашу страляніну, самалёт прайшоў яшчэ двойчы. Стаў рэзаць з кулямётаў. Кулямётная чарга ўпілася ў майго таварыша — Растаропава. Яго цяжка параніла.

Калі самалёт паляцеў, ужо вечарэла. Змрок хутка гусцеў, цямніў высокія, вялікія дрэвы вакол будынкаў станцыі, самі будынкі, але мы доўга не маглі супакоіцца. Акрамя таго, што хвалявала перажытае тут, трывожыла і апаска, што немцы могуць уночы зноў наляцець. Мы сядзелі і драмалі: хто ў вагонах, хто побач з эшалонам.

Але ноч прайшла ціха. Ціхая была і раніца, чыстая, сонечная. Нас доўга трымалі на станцыі, і гэта таміла ўсіх: усе прыслухоўваліся, паглядвалі ў чыстае неба. Можна было зноў дачакацца немцаў.

Нарэшце нам загадалі заняць вагоны, і паравоз пацягнуў нас са станцыі. Пацягнуў зноў у той бок, дзе была ўчарашняя прыгода. Цяпер ужо, здаецца, ніхто не спаў, усе каля дзвярэй глядзелі, як набліжаецца небяспечнае месца. Там-сям бурчалі нездаволена: «Зноў туды ж, мала ўчарашняга».

Чым больш падыходзілі, тым было неспакойней. Вось ужо наблізіліся да месца, дзе сталі ўчора. Міма-волі, нацята чакалі: зараз загрыміць. Брала нецярплівасць, што поезд ідзе так павольна. Але кацілі і кацілі, а выбухаў не было. Так і дакацілі да наступнай станцыі. Да Запарожжа.

Станцыя і будынкі поблізу амаль усе разбіты. На ўсіх будынках, на зямлі — сляды не адной бамбёжкі і, відаць, абстрэлаў з Хорціцы...

Тут, на станцыі, мы пачулі, што нашы гэтай ноччу выбілі немцаў з Хорціцы.

Стаім зноў і зноў хочацца хутчэй паехаць далей. Хочацца, наогул, хутчэй дабрацца да месца.

*26 жніўня*

Дакацілі да станцыі Сінельнікава. Станцыя — вялікая, вузлавая. Вакол будынка — высокія, раскідзістыя дрэвы. Над пуцямі — пераходны мост.

Станцыя і горад на дзіва цэлыя. Ніякіх слядоў бамбёжак.

Мы нямала пахадзілі па станцыі. Былі чуткі, што будзем тут згружацца. Аб гэтым папярэдзілі нас і камандзіры. Але потым прыйшла каманда вярнуцца ў вагоны, і мы пастукалі па рэйках далей.

Спыніліся ў невялікім, ціхім пасёлку сярод стэпу. Станцыя Іларыёнаўка — між Сінельнікавам і Днепрапятроўскам. Недзе там, за станцыяй, не вельмі далёка, павінен быць Дняпро. За ім — Днепрапятроўск...

Тут мы згружаемся.

*27 жніўня*

Ад сяла прайшлі з кіламетр наперад. Тут звярнулі з езджанай дарогі, спусціліся ў шырокую, доўгую лагчыну. Сталі адчэпліваць, расстаўляць гарматы.

Цішыня, цяплынь, спакой. А мы абсталёўваем АП — агнявую пазіцыю. Капаем раўкі, глыбокія, у поўны рост. Капаем бліндажы для людзей, для снарадаў. За намі — робяць укрыцце — трактарысты. Сувязісты пацягнулі провад за ўзгорак наперадзе ў бок Дняпра. На НП. Кажуць, з НП добра відзен Днепрапятроўск. Мост цераз Дняпро падарваны намі.

Наша задача — не даць немцам перабрацца на гэты бок.

Але пакуль вельмі спакойна. Хоць баляць спіна і рукі, душа спакойная. Цішыня, здаецца, над усім светам. Век бы так...

Нашы аднекуль з поля наперадзе прынеслі кавуноў і памідораў. Памідоры чырвоныя, сакавітыя — ніколі, здаецца, не елі такіх.

*29 жніўня*

Стаім там жа. Часам б'ём па нябачных цэлях за Дняпром.

Смоквін сказаў, мост нашы ўзарвалі няўдала. Асноўная частка яго стаіць цэлая. Толькі крайнія пралёты абваліліся, але яны неглыбока ў вадзе. Немцы ўсё спрабуюць пераправіцца па ім.

Мы ўвесь час сочым за гэтым. Б'ём па іх. Сёння далі некалькі залпаў сярод ночы.

А наогул мы больш маўчым. Больш чакаем каманд з НП, з дняпроўскага берага. Наша жыццё тут залежыць ад Раманава і разведчыкаў, якія недзе там і якіх я не бачыў усе гэтыя дні.

На душы спакойна, лёгка. Гэты спакой найбольш ад таго, што ведаеш цвёрда, навакол усюды — нашы. Што за намі — няма немцаў, можна не асцерагацца. Можна жыць, не азіраючыся штохвілінна.

Небяспеку найбольш тоіць неба, чыстае, высокае. Але самалёты немцаў амаль не лятаюць над намі. Па цэлых днях — ніводнага самалёта.

*1 верасня*

Ад самага пачатку вайны не было такіх ціхіх дзён.

Усе дні — цудоўнае надвор'е. Хоць бы хмурынка ў небе. Сонца яшчэ гарачае, але пячэ ўжо не так. Ува ўсёй прыродзе адчуваецца нейкая ўжо асенняя ласкавасць. На сэрцы хораша і журліва.

Я ніколі не адчуваў так прыроды, яе жыцця. Не цаніў так хараства яе, як цяпер, пасля ўсяго нядаўна перажытага. Журба бярэ ад таго, што ведаеш, як гэта коратка, ненадзейна...

А можа — самае паганае ўжо ззаду, можа яно — не паўторыцца? У нашых франтавых газетах адзіны кліч: «Не бывать врагу на левом берегу!» Можа — не пусцім далей... Мы тут — трымаем іх. І трымаем надзейна.

Некалькі разоў яны спрабавалі пераправіцца па мосце, але нічога не ўдалося. Мы пільна сочым і ўжо нямала намалацілі іх там.

Мы ўжо даўно добра прыстраляліся і б'ём найбольш агнявымі налётамі, залпамі. Накрываем цэлі.

Немцы спрабуюць намацаць нас, але ім гэта пакуль не ўдаецца. Снарады іх ірвуцца час ад часу далёка за намі, каля пасёлка. Адно — дрэнна: каля самай дарогі, па якой мы ходзім. Усё ж трэба асцерагацца, што які-небудзь дурны снарад упадзе якраз табе на галаву.

Адным словам, у нас — ціха. Вайна — не вайна, праца. Вайна, як у добрыя, старыя часы.

*2 верасня*

Па-ранейшаму ціха. Начамі мы спім. Той-сёй у бліндажах, а больш — на зямлі, пад небам. Прачынаючыся, бачым над сабой высокія зоры.

Раніцай нас падымаюць камандай «пад'ём». Мы мыемся вадой з вядра, снедаем не спяшаючыся. Пачынаем дзень з адчуваннем, што ён будзе доўгі і добры.

І праўда, даючы час да часу залпы, даглядаючы дбайна гарматы, мы можам цэлымі гадзінамі спакойна ляжаць. Грэцца пад сонцам, займацца каму чым хочацца. Адны, лежачы побач з іншымі, расказваюць розныя гісторыі, разважаюць аб сэнсе жыцця, другія чытаюць ці корпаюцца з рознымі дробнымі клопатамі: прышываюць гузікі, залатваюць гімнасцёркі. Перабіраюць скарб у рэчавым мяшку. Трэція — гуляюць у карты, гадзінамі, да нудоты. Іншыя — проста дрэмлюць. Адсынаюцца за недаспанае і — на будучае, у запас...

У гэтыя дні мы больш займаемся палітработай. Я, колькі магу, памагаю Смоквіну. Кожны дзень мы праводзім гутаркі пра становішча на вайне, у краіне,

у свеце. Я кожны дзень сачу за газетамі, якімі мяне забяспечвае Смоквін.

Тут жа, на батарэі, правялі партыйны сход. Падвялі вынікі мінулых баёў, у тым ліку — баёў за Новую Адэсу і пад станцыяй Грэйгава. Абгаварылі цяперашнія задачы. Галоўнае — трымаць добра дысцыпліну і быць заўсёды напагатове. Не дэмабілізавацца.

*3 верасня*

Час ад часу сустракаюся з Паўлам. Мы ўжо звыкліся з новымі таварышамі, зусім задаволены цяперашнім нашым становішчам, і ўсё ж нас цягне адно да аднаго. Як-ніяк, мы столькі солі з'елі разам, столькі перажылі ад самай Туркі. Не-не, ды часам гадаем: што з іншымі нашымі, дзе яны цяпер?

Не толькі з абавязку я часта бываю сярод трактарыстаў. Я вельмі паважаю іх: роля іх у жыцці батарэі і асабліва адказная, і асабліва цяжкая. Трактары, што прайшлі ад Хоціна да Днепра, патрабуюць вялікага дагляду. Трактарысты амаль усе гэтыя дні рамантуюць, падганяюць, змазваюць. Усе дні ці пад трактарамі, ці каля іх, у замасленых камбінезонах. Век самі ў мазуце. Ім больш за іншых даставался ў самыя крутыя моманты: пад выбухамі ісці на батарэю, на сваім высокім месцы весці машыну цераз пагорак, што трапна прастрэльваецца. Пагорак, які іншым, разліку, можна беражліва і абысці там, дзе менш ірвецца...

Трактарыстам і на маршы больш трэба: і ноч, і дзень рукі на рычагах, глядзі ўважліва...

Амаль усе яны вылучаюцца асаблівай сталасцю. Мне найбольш падабаюцца Кручкоў і Заічанка. Кручкоў, русявы, ціхі, вабіць сціплай працавітасцю, добрай зычлівасцю. Ён нібы знарок стараецца не кідацца нічым у вочы, рабіць усё непрыкметна, ціха. І дружалюбнасць яго нейкая ціхая, прытоеная, але мне яна тым больш мілая,— у ёй адчуваецца глыбокая, надзейная шчырасць.

Я ведаю, што гэта чалавек, на якога можна спадзявацца ва ўсім, заўсёды. Мы з ім не так багата гаварылі і былі разам, але ён здаецца мне вельмі блізкім. Мне з ім заўсёды вельмі добра, з самага першага знаёмства...

Заічанка таксама працавіты, старанны, але ён многім розніцца ад Кручкова. Нават знешне Заічанка зу-

сім іншы: чарнявы, смуглы, вельмі рухавы і ўпэўнены ў рухах, у паводзінах. У рухах, у паводзінах яго ёсць нават нейкая кідкая хвацкасць, франтаватасць. Заічанка любіць пафарсіць, нават у сваім зашмальцаваным камбінезоне. Ён і курыць неяк асабліва, франтавата, і гаворыць — не гаворыць, а выказваецца — па-асабліваму, хвацка. Ён не скажа «дурань», «нягоднік», вышэйшую пагарду выказвае ён найменаваннем — «шалашоўка». Дарэчы, «шалашоўка» гэтая часам гучыць і як незласлівая лаянка, і нават можа адзначаць пахвалу, паблажлівую мужчынскую ласку. У «шалашоўцы» яго багата самых розных адценняў.

Заічанка добра іграе і спявае. Ён возіць з сабой гітару. Лежачы франтавата бокам, на падсцілцы з саломы, абапіраючыся на плячо і локаць, спачатку задуменна перабірае струны. Потым, прыжмурыўшы журліва вочы, з паблажлівасцю, ціха наспеўвае, найбольш — любімую:

Ты ночью грустная, больна и бледная
По темным улицам бредешь одна.
Тебе мерещится дощечка медная
И шторы синие его окна.

У спеве яго ёсць шчырасць, прытоены сум, і гэтыя загадкавыя «одна, больная и бледная» на дзіва хвалююць.

Яшчэ ён любіць спяваць: «Акулина, Акулина... Глазки черные блестят, как угольки...»

Большасць песень Заічанкі — задуменныя, загадкава-сумныя. Ён любіць найбольш такія; але і іншыя па тону ў яго спеве набываюць таксама загадкавую журлівасць...

Абарваўшы спеў, ён, як бы ўраз вяртаючы сабе мужчынскую цвёрдасць, раптам гаворыць грубавата і паблажліва: «Дай закурыць, шалашоўка!»

Родам ён аднекуль з-пад Алма-Аты, з украінцаў-перасяленцаў.

*4 верасня*

Хадзіў па лініі, да сувязістаў, што дзяжураць у полі між агнявой пазіцыяй і НП.

Сядзяць у акопчыках у голым полі, у сланечніках. Двое, каля дарогі, што вядзе да Дняпра, вельмі зручна ўладзіліся ў каменным калодзежы,— мабыць, ад ней-

кага водаправода. Сядзяць, як у доце. Сена пад бокам, акуратныя каменныя сценкі і круглае неба ў люку над галавой. Ніякія абстрэлы не страшныя. А сховішча тут патрэбна: немцы нярэдка б'юць па гэтым узгорку, па дарозе.

*5 верасня*

Хадзіў на НП.

Адпраўляючыся, забраў пісьмы, што прыйшлі раніцаю, скрутак свежых газет. Пісьмы ўсе былі разведчыкам. Камбату — ні аднаго.

Ісці трэба было аднаму. Смоквін параіў кіравацца провадам, які звязваў АП і КП.

Ад лагчыны, дзе была батарэя, разам з провадам па голым, зжатым полі ішоў доўга ўгару. Поле тут — ужо знаёмае мне — усё падымалася. Перайшоўшы дарогу, на хвіліну схіліўся над знаёмым калодзежам, у якім сядзелі, дзяжурылі тэлефаністы. Поле падымалася і за калодзежам. Толькі пазней я пайшоў па самой вышыні, сочачы ўсё за правадніком-провадам.

Прайшоў сланечнікі, у якіх хаваўся знаёмы акопчык тэлефаністаў, і выбраўся зноў у голае поле, цяпер ужо — незнаёмае. Ідучы, здалёк выглядваў кукурузнае поле, у якім, як гаварылі, і тоіцца наш НП.

У кукурузе каля провада была пратаптана сцежка. Калі я прайшоў трохі па ёй, убачыў разведчыка, які, было відаць, дзяжурыў, ахоўваў НП. Ён сказаў, каб я ішоў асцярожней, не вытыркаўся асабліва. Перад самым НП я натрапіў на бліндажык, у якім і каля якога драмалі некалькі разведчыкаў.

Тады я, згінаючыся, амаль паўзком дабраўся да самага НП. Камбат, які сядзеў у акопчыку, адразу павярнуўся, жэстам гасціннага, без цырымоній, гаспадара запрасіў: «Давай сюды, зампаліт». Калі я ўлез у акопчык, запытаў тым жа тонам, без цырымоній: «Якія навіны прывёз?» Я стаў расказваць, што ведаў.

Ён сядзеў расшпілены: было гарачавата,— але гэта вельмі пасавала з усім, як ён трымаўся. Ён вёў сябе не толькі проста, нібы грубавата, але і з нейкай зухаватасцю. Глядзі, маўляў, якія мы! Зухаватасць гэтая павінна была, мабыць, паказваць мужчынскасць, адчайную смеласць; у іншых яны, мусіць, былі б непрыемнымі, але ў Раманава з усім гэтым былі і тавары-

скасць і шчырая гасціннасць. І было відаць, што ўся гэта зухаватасць і нецырымоннасць ад жадання паказацца бывалым чалавекам, артылерыйскім ваўком! Які прайшоў агонь і воды і які таму на усё глядзіць проста. Жаданне, якое няцяжка зразумець у чалавеку, якому толькі дваццаць з малым лішкам і які ўжо камбат, і камбат як належыць!..

Мне з ім было добра. Амаль адразу ў нас устанавіліся простыя, сяброўскія адносіны. Толькі раз я адчуў у яго нездавальненне, калі ён даведаўся, што яму няма пісьмаў. Ён быў родам з Калінінскай вобласці і непакоіўся пра сваіх блізкіх. Але нездавальненне гэтае хутка прайшло.

Блізка, прыхаваная маскіроўкай, стаяла стэрэатруба — вочы батарэі. Каля стэрэатрубы дзяжурыў разведчык, таксама разморany гарачынёй. Раманаў, што з гаспадарскай гасціннасцю частаваў мяне кавуном і бавіўся гаворкаю, раз-пораз паглядваў у той бок, кідаў: «Ну што там, Пятых? Ты — не задрамаў?» Раз Пятых паклікаў яго, Раманаў узняўся, стаў углядвацца ў стэрэатрубу. Адарваўся, кінуў пагардліва: «Дробязь. Не варта снарада!..» Ленавата вярнуўся да мяне, узяў недаедзеную скібку кавуна...

Пазней я падышоў да стэрэатрубы, прытуліўся да акуляра. Цікава было бачыць той бераг на дзіва блізка, высветлены да маленькай складачкі. Бераг быў пусты, такі пусты, што здавалася: усё там вымерла. Праўда, не зважаючы на гэта, выгляд яго, такі блізкі, выклікаў у душы трывогу. За гэтыя дні я трохі адвык адчуваць небяспеку блізка, і гэтая сустрэча як бы вярнула мяне да рэальнасці...

Мы зноў гаварылі, калі над намі раптам імкліва завылі міны. Яны запляскалі так блізка, што можна было падумаць: НП засеклі. Ледзь яны выбухнулі, Раманаў кінуўся да стэрэатрубы, прынік пільна. Міны вылі і вылі, секлі кукурузу недзе вельмі блізка, але было ўжо відаць, што немцы б'юць ці наўгад, ці не па НП. Яшчэ не перасталі яны выць, як Раманаў, хуткі, нецярплівы, выхапіў трубку ў тэлефаніста, стаў камандаваць на батарэю. За выццём мін я не чуў ні каманд, ні далёкіх удараў батарэі, улавіў толькі, як са знаёмым фуркатам пайшлі недзе ўгары нашы снарады. І добра чуў, як на прыціхлым беразе моцна, дружна грымела.

Ірваліся нашы снарады. Раманаў то кідаўся да стэрэатрубы, то крычаў у трубку. Батарэя біла беглым агнём.

Калі батарэя сціхла, Раманаў паглядзеў у стэрэатрубу і ленавата — звычайная рэч! — падаўся зноў да мяне. Я запытаў — што там было? Ён адказаў: мінамётная батарэя. Закончыў знарок абыякава: «Накрылася!» Я бачыў, як ён потай рады, але трымае ролю.

Такім жа грубаватым і гасцінным ён быў, калі прынеслі абед. З шырокай душою пачаставаў гарэлкаю: «Пі!» Калі мы выпілі, трохі ап'янелы, стаў яшчэ больш зухаваты, нецырымонны, дружбацкі. Стаў як бы маладзейшы.

Пад вечар з таго боку сляпіла сонца і назіраць было амаль немагчыма. Ён крыкнуў, каб лепш прыкрылі стэрэатрубу і не бадзяліся. Сядзеў у акопе, уткнуўшы нос у газету. Я глядзеў на яго, і мне раптам стала смешна: прозвішча і імя ў камбата — царскія: Мікалай Раманаў! Лейтэнант Мікалай Раманаў. Мікалай Паўлавіч.

Я быў тут дацямна. У змроку разведчыкі мне параілі схадзіць з імі па кавуны, тут — недалёка. Раманаў падтрымаў. Мы трохі ціснуліся ў кукурузе, потым вылезлі на голае поле. Папаўзлі па ім. Гэта было на схіле да Дняпра. Дняпро быў вельмі блізка ўнізе.

І на тым, і на гэтым беразе было на дзіва ціха. Нават ракеты — звечара — не ўспыхвалі. Мы ў цемры абмацвалі кавуны, адрывалі, клалі ў мяшкі. Без прыгод вярнуліся назад.

Раманаў загадаў лепшыя кавуны аддаць мне. Для тых, хто на агнявой. На развітанне моцна, па-дружбацку пацiснуў руку. Даў у праважатыя разведчыка. Разведчык быў вопытны хлопец, але ў цемры мы неяк заблудзіліся. Нейкі час лазілі па кукурузе, пакуль выбраліся на поле, знайшлі провад.

Ісці ў цемры было цяжка, я адправіў разведчыка назад, а сам заначаваў з тэлефаністамі. Ледзь развіднелася, падаўся да агнявой.

*7 верасня*

Ах, якія дні. Цеплыня, лагоднасць у прыродзе. Неба высокае, ціхае, з лёгкай асенняй смугою. Сонца грэе так ласкава, што мімаволі хочацца заплюшчыцца. Заплюшчыцца і ні пра што не думаць горкае...

ные на душы: вайна ідзе. І нам невядома, што яшчэ давядзецца паспытаць. Але ные неяк ціха: лагодная спакойнасць навокал суцішае думкі. Думаецца, што ўсё будзе добра. Што ў вайне, па вестках, якія даходзяць, пачынаецца пералом. Немцаў б'юць пад Кіевам, стрымліваюць на захадзе...

Ужо больш за дзесяць дзён мы малоцім немцаў тут. Можа быць, тут і давядзецца засесці.

*10 верасня*

Мы перабраліся на новую пазіцыю. Выкапалі новыя ровікі, новыя бліндажы. Прыстраляліся.

Пазіцыя тут не такая выгадная. Стаім у роўным стэпе. Немцы ўпарта спрабуюць нас намацаць, але гэта ім не ўдаецца. Снарады рвуцца даволі далёка. Час ад часу немцы наўгад б'юць шрапнеллю. Белаватыя воблачкі ўспыхваюць то перад намі, то ззаду нас.

Мне здаецца, немцы тады добра б'юць, калі вокам бачаць. А ўсе гукавыя і іншыя разведкі — падмога кепская.

*12 верасня*

Днём яшчэ цёпла, а ноччу цісне холад. Вымушаны грэцца ў бліндажах. Раніцай трава срабрыцца інеем.

Чамусьці начамі вельмі ные правая нага: пасля нейкага ўдару, ці што. Я з-за гэтага часам прачынаюся.

Днём, калі не страляем, бавім час так, як захочацца кожнаму. Хто мурлыча песню, хто вырэзвае штосьці на кацялку, хто капае ножыкам зямлю. Хто проста глядзіць у неба. Хто нешта піша. Хто паплёўвае, назірае, як сліна сыходзіць у зямлю.

Кружок хлопцаў цэлымі гадзінамі рэжацца ў карты. Адзін з іх — харошы хлопец, наводчык Меншчыкаў. За гульнёй назірае яго таварыш Каратаеў, які ніколі сам не гуляе, але раўніва сочыць. Каратаеў — чырванатвары, як цагляны, аднекуль з-пад Волагды. У яго дзіўнае, папоўскае імя — Экзакустадзіян. Ніхто яго не заве гэтым імем, усе — проста і міла — Кусцік.

Калі смяюцца над яго імем, не любіць. Смешак з сябе наогул не зносіць. Самалюбівы вельмі...

Мы ляжым з сяржантам Дубінкіным. У камандзіра гарматы пільны клопат: хоча дакапацца, як зроблена ручная граната. Зняў рубашку, нажом развярнуў

бляху, дастае выбуховае рэчыва. Падыходзіць павольна Іваноў, таксама сержант і камандзір гарматы. Валіцца побач, сочыць за тым, што робіць Дубінкін.

Іваноў бярэ разламаную гранату, разглядвае. Потым неспадзявана прапануе паглядзець, як дзейнічае процітанкавая граната. У нас іх нямала, але нам не давялося карыстацца імі. Дубінкін сумняваецца: выбух пачуе Лугавой, старшы на батарэі. Будзе недавольны, даложыць камбату. Спрэчку завяршае сержант Пакатаеў, які падышоў, мабыць, таму, што ўгледзеў, як два камандзіры пра нешта шэпчуцца.

Сержант Пакатаеў чалавек, які ўпэўнен, што свет населены хітрымі людзьмі, і таму лічыць, што трэба жыць так, каб самому не быць дурным. Ён заўсёды ўсім цікавіцца. Асабліва тым, што робяць камандзіры іншых гармат, таварышы.

Сумненні сержанта, здаецца, ніколі не гнятуць. У гэтым ён поўная процілегласць Дубінкіну.

Знаходлівы, ён адразу прапануе гранату ўзарваць у пустым акопе з боку ад батарэі. Тоўсты, мардасты, ён хутка ўстае і вяртаецца ад сваёй гарматы з цяжкай процітанкавай гранатай.

Мы ідзём да акопа. Упэўніўшыся, што там нікога няма, Пакатаеў нарыхтоўвае гранату, размахваецца і кідае. Мы на ўсякі выпадак прыпадаем да зямлі. Грыміць моцны, басавіты выбух. Мы падбягаем, глядзім: выбух абваліў сцены, выкінуў даволі зямлі ўверх. Выбух моцны.

З бліндажа каля батарэі выскоквае лейтэнант Лугавой. Аглядваецца. Пытае, што здарылася. Лугавой незадаволены. Яго не ў час перапынілі, ён рэзаўся ў бліндажы з камандзірамі ўзводаў у карты. Да яго спакойна ідзе Пакатаеў, кажа, што даследавалі дзейнасць гранаты. На выпадак прарыву на батарэю танкаў. Гаворыць дзіўна паблажліва, як бы звысоку.

Лугавой момант не ведае, што сказаць. Стрымлівае сябе. Ён не адважваецца нападаць на Пакатаева.

Лейтэнант моўчкі вяртаецца ў бліндаж.

Лугавой — чалавек новы ў нас. Для мяне ён — самая большая загадка тут. Адчуваю: ён — чалавек злосны, хоць і хавае гэта звычайна. Ад чаго яго злосць: ці ад характару, ці ад якіх-небудзь няўдач — гэта мяне асабліва цікавіць...

Але — хопіць пра Лугавога. Галоўнае, што я адчуваю: людзі адпачылі за гэтыя дні, набраліся сілы. У іх нібы паявіліся лішкі сілы, якія невядома куды дзець...

*15 верасня*

Трэба яшчэ напісаць пра людзей. Пакуль ёсць час.

Я ўсё больш хілюся да Дубінкіна. Вельмі да душы мне далікатнасць, чуласць яго. Да душы надзвычайная сціпласць, тое, што ў ім не заўважыш ніколі імкнення выставіцца прыгожа, выгадна ўладзіцца.

Ва ўсіх паводзінах ён на дзіва просты, шчыры і таму неяк асабліва прывабны.

Ён падабаецца мне і абліччам: яно вельмі гарманічна з яго характарам. І твар яго — правільны, з шэрымі вачыма і светлымі брывамі, з чыстым ілбом — як бы ўжо сам паказвае, які чысты, светлы чалавек з такім абліччам. Ёсць нешта нават нібы жаночае ў далікатным гэтым твары, які тонка ружавее, калі сяржант бянтэжыцца, і які так харашэе яшчэ ад светлай, амаль дзіцячай усмешкі.

Дубінкін — родам з Баку, з рабочай сям'і, пра якую мне амаль нічога невядома. Дубінкін наогул не вельмі любіць расказваць пра сябе. Ён як бы лічыць, што і сам ён і ўсё, што з ім звязана,— усё гэта самае звычайнае. Ёсць тут пра што растарэкваць.

І гэты ціхі, далікатны чалавек — адзін з лепшых камандзіраў гармат. Думаю нават, што — самы лепшы ў батарэі.

Яшчэ адзін камандзір гарматы — сяржант Іваноў. Я не раз сядзеў з ім каля гарматы, ехаў з яго разлікам на маршы. Іваноў больш гаваркі, чым Дубінкін: асабліва, калі гаворка якім-небудзь чынам закране ўспаміны. Іваноў любіць успамінаць: і жыццё да арміі, і станцыю Паворына, з якой ён прыйшоў сюды, і жыццё блізкіх і далёкіх сваякоў. Але разам з тым ён умее і маўчаць, гадзінамі пра нешта сабрана думаць. Ён наогул здаецца чалавекам сталым, роўным, што як бы паказвае і тая нехапатлівасць, з якой ён ходзіць, з якой ён робіць усё. У тым ліку ў крутыя хвіліны бою.

У яго гаворцы выхапілі неяк слова: «пахан» — папаша, бацька. Гэта слова хтосьці прыклеіў да самога Іванова, і яно на дзіва натуральна прыліпла да сер-

жанта. У камандзіра гарматы сапраўды ёсць нешта бацькоўскае: у сталасці яго і ў клапатлівасці.

Трэці з камандзіраў гармат — сержант Пакатаеў — можа быць, самая каларытная асоба. Пакатаеў і знешне вылучаецца: нізкарослы, тоўсты, шчакасты, шчокі дрыжаць, як студзіна. Рот малы, губы тоўстыя, па форме — як у груднога дзіцяці. Вочы не зусім пэўнага колеру, не то шэрыя, не то яшчэ якія, заплылыя тлушчам, ледзь выглядваюць з вузкіх шчылінак. Але яны на дзіва жвавыя, увесь час у руху. То сочаць сцеражліва, то ўнізваюцца ў цікавае, то выдаюць святую наіўнасць, то не тояць шчырай хітрасці.

Важкі, з тоўстымі нагамі, з жыватом, Пакатаеў на дзіва рухавы і на рэдкасць дзейсны. У яго, як, можа быць, ні ў каго ў батарэі, развіта ўчэплівая, практычная знаходлівасць. Гармата Пакатаева, яго трактар заўсёды нагружаны якімі-небудзь запасамі, часта невядома калі і як здабытымі. У разліку яго гарматы то нешта пражыцца асобае, то нейкая гарэлка, то нейкі хлеб. Ледзь мы пераправіліся праз Дняпро, Пакатаеў цішком абадраў і абсмажыў цэлага барана, наладзіў пір гарой. На які, акрамя разліку сваёй гарматы, запрасіў надзейных сяброў і патрэбных людзей.

Ён востры на язык, любіць жарт. У запасе ў яго нямала і прымавачак на любы выпадак. Ёсць у яго і артыстычныя здольнасці, якія разам з пачуццём гумару даюць яму — калі ён захоча — быць вельмі пацешным.

Людзі ў нас любяць смяяцца, і калі Пакатаеў штонебудзь вырабляе ці хоць бы расказвае, каля яго ахвотна збіраецца гурток. Ён ведае сваю сілу над людзьмі. І нярэдка карыстаецца ёю.

*18 верасня*

Апошнія дзве ночы нас падымалі па трывозе. Мы многа білі па пераправе на Дняпры. Білі так густа, што ўспышкі ад стрэлаў амаль зліваліся. Успышкі гэтыя сляпілі нас, і мы ў гэтым мільганні кідкага святла і цемры круціліся, як заведзеныя.

Білі мы добра. Немцам зноў не ўдалося пераскочыць на гэты бераг. Ужо больш за дваццаць дзён мы цвёрда трымаем немцаў на тым баку. Сёння нам перадалі падзяку за добрую стральбу ад камандзіра дыві-

зіёна капітана Леканава. Наш камандзір дывізіёна — чалавек не вельмі шчодры на хвалу, і гэта нешта значыць.

Смоквін сказаў, што дывізіёнам задаволены сам Дзядоў...

Людзі весела адгукнуліся на слова падзякі: апошнія дні нам давялося добра папрацаваць. Немцы нешта сталі вельмі насядаць. Імкнуцца нас намацаць, падавіць. Многа б'юць, але нятрапна.

*19 верасня*

Ноч прайшла ціха. А днём раз за разам б'ём.

І немцы б'юць.

Калі мой начальнік — палітрук Смоквін — на НП ці ў штабе дывізіёна ці палка, уся палітработа ў батарэі кладзецца на мае плечы.

Ён мне верыць, і я стараюся рабіць усё, як трэба. Мне з ім прыемна працаваць. Ён — чалавек на дзіва роўнага, можна сказаць — сонечнага характару. Мяккі, лагодны з людзьмі, ён ніколі не крыкнуў ні на каго з байцоў. Ніколі не павысіў голасу. Хударлявы, з блакітнымі вачыма твар яго заўсёды як бы вясёлы, ветлівы.

Ён усё, што даводзіцца, умее рабіць неяк весела. Я ўжо не кажу пра цяперашнія, больш-менш спакойныя дні, але і там, у Новай Адэсе і ў стэпе пад станцыяй Грэйгава, ён, я заўважыў, не падаў духам. Ён умее неяк лёгка пераносіць нягоды і ад душы цешыцца тады, калі становіцца лягчэй. Адным словам, наш Смоквін — вялікі жыццялюб.

Ён не так даўно быў цывільным. Не так даўно пакінуў сваю вясёлую Адэсу, але калі глядзіш, як ён дзейнічае, як упэўнена рашае ўсё, што яму належыць, здаецца — усё жыццё быў ваенным. Я ўжо не дзіўлюся яго выпраўцы: стройны, лёгкі, ён заўсёды падцягнуты, акуратна бездакорна апрануты. Праўда, пояс ён зацягвае не туга; так, каб ён не ціснуў. І ў выпраўцы, у паводзінах ні трохі франтаватасці. Як бы і не адэсіт...

Адэсай ён ні разу не хваліўся. Наогул — хваліцца не любіць. Чамусьці мне здаецца, што ён павінен любіць жанчын. І, мабыць, жанчыны яго.

*21 верасня*

Некалькі разоў хадзіў у Іларыёнаўку. Пасля поля,

акопаў, стральбы з нейкай радасцю ідзеш па сялу. Вочы цешаць ціхія, белыя хаты, зялёныя рады вішняку, сады. Двары, у якіх бегаюць дзеці, корпаюцца куры.

Пад вішнямі, каля хат цiснуцца машыны. Яны замаскіраваны, і іх небагата,— каб не прыцягваць увагу немцаў. Сяло і зблізку здаецца на дзіва ціхім, мірным. Асабліва ў такія лагодныя сонцам асеннія дні, калі ва ўсёй прыродзе разліта нейкая ціхая задуменнасць.

Агароды ўжо зжоўклі і здаюцца пуставатымі, голымі. У іх неяк асабліва відаць, што ўжо восень і блізка халады. Іх выгляд мяне дзіўна хвалюе, наганяе журботнасць,— мабыць, таму, што нагадваюць мне родныя мясціны — агароды маёй вёскі, майго маленства. Дарагі, нібы нерэальны ўжо свет...

У штабе палка спакойная заклапочанасць. Ходзяць не спяшаючыся, гавораць роўна. Учора бачыў блізка капітана Рабчука, начальніка штаба. Трохі назіраў за ім. Ён выйшаў з незнаёмым старшым лейтэнантам, штосьці гаварыў яму. Цярпліва, з увагай слухаў адказы. Спакойна тлумачыў нешта.

Шчуплаваты, падцягнуты, ён вабіць вельмі спакойнай манерай гаварыць, інтэлігентным выглядам. Ён вельмі нагадаў мне былога начштаба дывізіёна з 298-га палка Сітнікава. У іх, мне здалося, вялікае падабенства і знешняе. Абодва — хударлявыя, смуглаватыя, з цёмнымі, спакойна-ўважлівымі вачыма, ■ інтэлігентнай годнасцю ў манеры трымацца з людзьмі, гаварыць...

Старшы лейтэнант Сітнікаў — ці выратавалі яго ў шпіталі?..

Дзе наогул былыя мае таварышы з 298-га, тыя нямногія, што ўцалелі? Што з імі?..

*22 верасня*

Ездзіў з трактарыстамі ў Сінельнікава, атрымаць запасныя часткі для трактараў.

Сінельнікава ні трохі не змянілася. Дамы і ў горадзе, і на станцыі цэлыя. Таксама знаёма высіцца парашутная вышка. Зелянеюць высокія дрэвы вакол вакзала...

Туды і назад ехалі на грузавіку. Асабліва ўзрадавала і напоўніла ўпэўненасцю, што і ў горадзе, і на дарогах — цвёрды парадак. На складах — усё акуратна

складзена, усюды дакументы, дакладны падлік. На дарогах — на ўсіх скрыжаваннях — патрулі, рэгуліроўшчыкі. Ледзь заўважвалі машыну, выходзілі на сярэдзіну дарогі: уладным узмахам сцяжка — загад спыніцца на ўзбочыне. Абавязковы загад: «Вашы дакументы!» Як закон.

На ўсіх пунктах — чысціня, падмецена. На будках — плакаты.

Заічанка лаяўся, што спыняюць. А я быў рад: адчуваў, як чотка дзейнічае вялікі армейскі механізм.

Можа, мяне ўсё так радавала таму, што я першы раз бачыў гэта. Я фактычна першы раз быў у сапраўдным тыле. За ўсе месяцы.

Мне здаецца (хочацца, каб так і было!), што армія наша прывяла сябе ў парадак...

*23 верасня*

На батарэю наляцеў камандзір дывізіёна капітан Леканаў.

Ён быў не першы раз. Помню, як ён наляцеў быў перад пераправай цераз Дняпро. Я пішу «наляцеў» таму, што ён паяўляецца кожны раз знянацку, зразу, з ходу пачынае дзейнічаць. Тады на Дняпры ён учыніў строгі агляд гарматам, маёмасці, якая была нагружана на іх. Разнёс камандзіраў, што панагружалі на гарматы мяхі з розным дабром, найбольш цукрам. Тады асабліва дасталося Пакатаеву.

Некалькі разоў капітан налятаў на батарэю тут. І кожны раз, як і сёння, знянацку. Адчуваецца, што гэта ўжо такое правіла ў капітана. Правіла не толькі важнае, але і мілае душы,— мяркуючы па тым, з якім імпэтам кожны раз капітан яго ажыццяўляе.

Мы добра адчуваем значэнне гэтага правіла: любы дзень, любы момант мы павінны быць гатовы да сустрэчы з капітанам. Сустрэчы раптоўнай і строгай...

Сёння капітан перш за ўсё наскочыў на трактарыстаў. Ухапіў позіркам — чым займаюцца: трактарысты — хто гаманілі, хто драмаў; заўважыўшы яго, адразу паўскоквалі. Капітан пайшоў паўз трактары, хутка і прыдзірліва аглядваючы, кідаючы строгія заўвагі. Ён не стаў доўга затрымлівацца, хутка абышоўшы, адразу рашуча пакрочыў на агнявую пазіцыю. Як ён ні хутка пакіраваў да гармат, тут ужо ўведалі пра

паяўленне капітана, усе разлікі, камандзіры гармат, узводаў былі ўжо гатовыя да сустрэчы — клапатліва варушыліся каля гармат. Сярод разлікаў былі насцярожаны Лугавой і спакойны Смоквін. Лугавой кідаўся то туды, то сюды, хапатліва і люта распараджаўся...

Ледзь капітан паявіўся, Лугавой даў каманду «смірна», пакіраваў да яго. Леканаў лагодна выслухаў яго, адразу хутка, нецярпліва рушыў да гармат. Прысадзісты, з чырвона-загарэлым, сухім тварам, з важкім позіркам, аглядваў гарматы, коратка зваў то камандзіраў, то наводчыкаў, то часам каго-небудзь іншага з разліку, загадваў зрабіць, паказаць, строга кідаў заўвагі. Лугавой і Смоквін ішлі побач; Смоквін — лёгкі, просты, Лугавой — прыгорблены, з гатоўнасцю адказаць за ўсё, выканаць усё.

Капітан праверыў стан матчасці, забяспечанасць боепрыпасамі, маскіроўку, выпраўку людзей, як і заўсёды раней, твар яго быў недавольны: капітан адзначаў недахоп за недахопам. Прайшоўшы па ўсёй агнявой, камандзір дывізіёна загадаў выстраіць батарэю. Калі строй выцягнуўся перад ім, негаваркі, хмурны, заявіў усім: нездаволены. Пералічыўшы галоўныя недахопы, сказаў: відаць, у батарэі лічаць, што мы не на вайне, а на курорце. Ніякага парадку. Намякнуў, што наперадзе — цяжкія баі. Загадаў — падцягнуцца зараз жа. Прыгразіўся — што днямі зноў прыедзе.

Ён дазволіў распусціць строй. Хвілін пяць даваў нейкія ўказанні Лугавому і Смоквіну. Потым хутка пайшоў да сваёй машыны...

І ўсё-такі мы жывём неяк не па-франтавому. І весткі з франтоў абмяркоўваем, як нешта далёкае...

*24 верасня*

У батарэі неспакой. Усе гаворкі і думкі — пра адно: у суседнім дывізіёне немцы накрылі батарэю. Многа забітых і раненых. Адзін разлік выбіт зусім. Прамое пападанне.

*25 верасня*

Ходзяць цьмяныя, трывожныя чуткі. Быццам немцы на поўначы недзе прарваліся — перайшлі Дняпро. І — быццам недалёка ад нас. І ідуць сюды...

Пытаўся ў Смоквіна. Смоквін пацвердзіў, але па-

прасіў пакуль не гаварыць. Становішча яшчэ няяснае, і трывожыцца рана. Наогул раіў падтрымліваць настрой...

Сёння канчаецца месяц, як мы стаім тут. Можам задаволенымі быць: не пусцілі немцаў, стрымалі. Але чуткі з поўначы не даюць нам радавацца.

Небяспека ўжо не за Дняпром. У другім баку.

*26 верасня*

Трывога тая ж, што і ўчора. Чакаем, што будзе; прыслухоўваемся да гукаў з поўначы. Там часам глуха грыміць...

Неспакой гняце душу, але мы стараемся цешыцца надзеяй, што ўсё наладзіцца. Так не хочацца думаць, што ўсё даўняе, паганае пачнецца зноў...

Мы мяняем пазіцыі. Адзін наш дывізіён павярнуў гарматы на поўнач.

Калі мянялі пазіцыі, трохі стаялі. Мабыць, ад таго, што было нявесела, Заічанка дастаў гармонік. І ўсе раптам узрадаваліся, акружылі, папрасілі «цыганачку». «Цыганачку» тут асабліва любяць, яе не раз скакалі, але ніколі скокі гэтыя не хвалявалі мяне так. Ніколі не бачыў, каб так аддана, «напрапалую» ішоў Дубінкін. Мякка, зграбна, з далікатнай ружовасцю на твары, з нейкай далікатнай какетлівасцю і разам — з якім незвычайным запалам!

І як хвалявала гэта ўсіх. Так, што Заічанка сам не вытрываў, аддаў гармонік Кручкову: «вазьмі, шалашоўка!», выйшаў сам. І даў так, як ніколі не даваў. Ад усёй душы, усё , што мог. Нават больш.

Тады выйшаў Пакатаеў. Ён не мог спрачацца ў «цыганачцы» — ні з Дубінкіным, ні з Заічанкам. Ён ведаў, што і брацца няма чаго: ні душы, ні ўмельства такога. І ён паказаў, што яго гэта і не цікавіць; таксама танец нам «цыганачка» нейкая! Загадаў Кручкову: «Дай маю, варонежскую...» І вось жа, як лоўка перавёў танец у іншы лад. Паволі расправіў плечы, смешна развёў рукі. Лянiва пакруціў тоўстым каленам, адным, другім. Круглым, мардатым тварам састроіў міну: ахвоты і сарамлівасці. Пакручваючы смешна, па-жаночы плячыма, тоўстым задам, лянiва прайшоў трохі. Зноў пакруціў каленам. Зашапялявіў падбадзёрліва:

— Шевели, бабка, ногой!..

— Шевелю, касатик мой!..

Уся батарэя заходзілася з рогату. Як і не было трывогі.

Так рады былі ўсе забыць яе.

Цяпер мы на новай пазіцыі. Вечарэе.

*27 верасня*

Вось і кончылася спакойнае жыццё.

Зноў зняліся з пазіцыі,— якую толкам не разгледзелі. Зняліся і пайшлі, пайшлі — усё далей ад Дняпра. Ад тых мясцін, якія трымалі цэлы месяц і з якімі зрадніліся.

Пайшлі ў невядомасць. Вяртаючыся зноў да таго становішча, якое было месяц назад. І да якога так не хочацца вяртацца.

Адышлі нямала. Сталі на голым выгане каля нейкага сяла. Кажуць, сяло завецца Грыгораўка і мы цяпер блізка ад Сінельнікава.

Занялі тут пазіцыі. Жывём даўкай невядомасцю, чаканнем, што будзе далей, слыхам і чуткамі. Чуткі уцёмныя, паганыя: немцы захапілі Новамаскоўск. Уварваліся ў горад ноччу. Сюды ідуць нямецкія танкі...

Слых б'юць выбухі. Кажуць, што гэта сапёры рвуць дарогу.

Самае паганае, што ва ўсім гэтым — невядомасць. Толкам мы нічога не ведаем. Ні мы, ні — як я бачу — камандзіры нашы. Не ведаем абстаноўкі, не ведаем — што нам чакаць...

Па дарозе едуць машыны, павозкі, ідуць салдаты. Групкамі і па аднаму. Раненыя і здаровыя, усе ад Дняпра. Усе хмурныя, стомленыя.

Мы, калі толькі можна было, падыходзілі да іх, загаворвалі, распытвалі. Хацелася ведаць, што робіцца; тым больш што выгляд гэтых хмурных групак, гэтага адступлення трывожыў усіх. Мы ў гэтых роспытах як бы шукалі надзею: мімаволі жыло спадзяванне, што можа ўсё не так пагана, як здаецца. Але роспыты не толькі не супакоілі, а ўсё ўздымалі трывогу: тое, што неахвотна расказвалі людзі, было горш за ўсякія думкі. За імі — цяжкія баі, людзі гэтыя — нямногія шчаслівцы, што ўцалелі... Амаль усе казалі пра нямецкія танкі. Танкі прарваліся, танкі падавілі, пасеклі кулямётамі...

Яны гаварылі пра жахлівыя страты.

Гледзячы на людзей, што цягнуліся паўз нас, я мімаволі шукаў знаёмых. З таго дня, як мы разышліся недзе між Вазнясенскам і Новай Адэсай, мяне амаль увесь час вярэдзіла загадка: што ж з іншымі нашымі? Я і думаў не раз і пытаў, калі сустракаўся з кім-небудзь, хто мог бы ведаць, але не знаходзіў і следу. І раптам тут, у гэтай неразбярысе, я ўбачыў чалавека з 298-га горнага, з тых, з кім я разышоўся. Я спачатку не паверыў, але гэта быў ён: Озераў, разведчык.

Озераў таксама здзівіўся і ўзрадаваўся. Але гаварыў ён неахвотна і без радасці. Ён быў вельмі прыгнечан. Ён сказаў, што полк стаяў у куце між Дняпром і рэчкаю Самарай. Немцы наваліліся з поўначы, прыціснулі іх да Самары. Вялікая маса танкаў. Многіх падавілі, пасеклі. Калі, прыціснутыя да ракі, кінуліся ў ваду,— сталі касіць з кулямётаў. Што там было — лепш не ўспамінаць. Людзі гінулі, танулі тысячамі...

Ён не ведае, што з іншымі. «Там такая каша была». Пасля Самары ён нікога не бачыў. Ведае толькі дакладна, што забілі Мартынава і ранілі Макавецкага. З нашай былой батарэі.

Ён не хацеў ні гаварыць больш, ні сядзець. Я і не стаў затрымліваць яго.

*28 верасня*

Становішча па-ранейшаму няпэўнае.

Яшчэ не вялі бою, а ўжо — страты. Учора паслалі ў раведку ў бок Іларыёнаўкі лейтэнантаў Драбашка і Ткаленка. Далі ім машыну. Прыйшоў час вярнуцца, а іх — усё няма і няма. Так і не дачакаліся да ночы. А ноччу прыйшоў шафёр з памочнікам і расказаў, што здарылася.

На дарозе, па якой яны ехалі, было ціха. Перад Іларыёнаўкай яны спынілі машыну, сталі ўглядацца: ці не відаць у сяле чаго-небудзь падазронага. Іларыёнаўка здавалася ціхаю, немцаў непрыкметна было, і лейтэнанты, параіўшыся, рашылі ехаць у сяло. Калі пад'язджалі, таксама было ціха. Але як уехалі на вуліцу, заўважылі каля плота матацыклы. Немцы ляжалі ў цяньку і драмалі, толькі адзін сядзеў, глядзеў на іх. Усе анямелі. Шафёр спыніў машыну. Немец спакойна ўстаў, пайшоў да іх. Штосьці па-нямецку спытаў.

Відаць, палічыў за сваіх. Сержант, які ехаў у кузаве з лейтэнантам Ткаленка, схапіў у памочніка шафёра вінтоўку і стрэліў.

Немец закрычаў, упаў. Немцы, што спалі, у момант абудзіліся, паўскоквалі. Паднялі страляніну. Але ўсе, хто быў у машыне, управіліся ўжо выскачыць. Кінуліся ў розныя бакі...

Шафёр і памочнік яго вярнуліся, а лейтэнантаў і сержанта няма. Няма, хоць даўно маглі б вярнуцца, калі б выратаваліся.

*1 кастрычніка*

Мы ўсё ў тых жа мясцінах. І ўсё тая ж невядомасць. Нічога нельга разабраць. Некалькі разоў то адыходзім назад, то вяртаемся на ранейшыя месцы. Кожны раз разгортваем батарэю, цягнем сувязь, капаем равікі. Падрыхтуемся і стаім, стаім, невядома чаго чакаем. Пастаяўшы, здымаемся — без адзінага стрэлу — і едзем зноў кудысьці.

Змянілі не адну пазіцыю, а так і не зрабілі ніводнага стрэлу. Тое, што круцімся ўсё на месцы, робіць усе нашы клопаты бязглуздымі. Людзі злуюцца, наракаюць: разгортваемся ды капаем, а якая карысць? Мяне трывожыць гэтае вандраванне: у ім я адчуваю няпэўнасць нашага становішча.

У дадатак да ўсяго і надвор'е сапсавалася. Шэрае, хмурнае неба. Час ад часу нудна імжыць. Ад гэтага голае, рудое поле, у якім стаім, здаецца асабліва сумным. Сумна вытыркаецца наводдаль у полі нізкая, крывабокая сціртa, каля якой размясціўся наш НП. У полі такіх сцірт некалькі.

Цьмяна, панылa і на душы. Чаго мы тут дачакаемся?

*2 кастрычніка*

Учора адзін наш узвод перадалі ў другую часць. Яны адправіліся кудысьці пад Паўлаград. У гэтым узводзе і Дубінкін. Так што гармата Мішы Дубінкіна цяпер не з намі.

Мы зноў на новай пазіцыі, недалёка ад Грыгораўкі. Нас папярэдзілі, што блізка нямецкія танкі. Нашы гарматы пастаўлены так, каб можна было біць прамой наводкай.

Мы ўвесь час каля гармат, чакаем. Па-ранейшаму — хмарна і імжыць. Голае поле з крывымі сціртамі невядома што зычыць. Гняце навіна: немцы — танкі — раздавілі батарэю ў суседнім дывізіёне. Зайшлі збоку — нашы не ўправіліся разгарнуцца. Моцныя нашы пушкі-гаўбіцы, ды — непаваротлівыя...

Учора на адзін наш НП наскочылі нямецкія аўтаматчыкі. Нашы сядзелі ў акопчыку каля сцірты. Усё выйшла неспадзявана. Амаль усе, хто быў на НП, загінулі... Мы сталі без пяхотнага прыкрыцця...

*3 кастрычніка*

Усю раніцу непраглядны туман. За два крокі не відаць нічога.

Мы зняліся з апошняй пазіцыі, доўга стаялі на выгане каля Грыгораўкі. Стаялі, драмалі ў тумане, стомленыя недаспанай ноччу. Чакалі і не чакалі каманды ехаць: няпэўнасць, у якой мы жылі ўсе гэтыя дні, зрабіла нас цярплівымі і амаль абыякавымі. Да таго ж — так хацелася спаць.

Туман паволі стаў радзець, разыходзіцца, і нам далі каманду рушыць. Мы сталі выязджаць у вуліцу, пацягнуліся ўсцяж яе, паўз белыя хаты, агароды. Седзячы на казённіку гарматы, мы раптам заўважылі: на другой, паралельнай вуліцы — таксама калона. Нас раздзяляюць агароды, вузкая, падзеленая на гэтыя агароды лагчына, унізе якой, можа, цячэ ручай. У калоне, што ідзе па той вуліцы,— добра відаць — не гарматы, танкі. Між нашымі вуліцамі ўсяго якіх-небудзь сто, сто пяцьдзесят метраў, не больш. Адлегласць блізкая, але мы то бачым іх, то не: за агародамі падыходзяць да нас хаты, адна, яшчэ адна,— затульваюць калону на другой вуліцы. Раз-пораз знікаюць за хатамі, за садкамі на тым баку і танкі. Выглянуць, схаваюцца, зноў выглянуць.

Мы нейкі час ідзём так: нас, праўда, трывожыць, што на той вуліцы танкі, але паколькі яны маўчаць, мы едзем. Праўда, прыглядваючыся. Можа, гэта — нашы. Не можа быць, што не... Нас папярэдзілі б...

Мы адразу заўважаем, як танк насупраць спыняецца, паварочвае вежу. Ураз саскокваем, гатовы кінуцца да

гарматы. Але — позна: паветра ўжо рве нямецкі снарад. Б'е рэзка кулямётная чарга. Б'юць амаль ва ўпор. Галавы нельга ўзняць.

Танкі б'юць і б'юць. З некалькіх гармат і кулямётаў. Так дакладна, што нельга і думаць, каб адчапіць, развярнуць нашу гармату. Вялікую, непаваротлівую. Вось дык уліплі. Што рабіць? У галаве ад такой неспадзеўкі — туман. Думкі не ідуць. Заўважаю побач кулямётчыка Фядотава, з «Дзегцяровым». Кладуся з ім. Можа — пойдзе пяхота...

Жахлівыя хвіліны. І недарэчныя да бязглуздасці. Трэба было так бязглузда наткнуцца!.. Столькі прайсці, каб так бязглузда скончыць... Як у тумане, бачу — танк, што перад намі, перастаў біць, крануўся. За ім між хат на тым баку прайшоў другі, трэці. Страляніна сціхла, і можна глядзець, як яны ідуць. Колькі іх там! Ім, здаецца, няма канца.

Нарэшце праходзяць. Там — ціха. Нейкі час мы ляжым. Не верыцца, што гэта ўсё. Не, і пяхоты няма. На вуліцы, каля гармат, па адным, па два збіраюцца наўшы. Усе ўсхваляваны, насцярожаны. Адпекуль паяўляюцца ўстрывожаныя Раманаў і Смоквін, аглядваюць гарматы, камандуюць. Гарматы моцна пашкоджаны: у адной снарад прабіў люльку. Прабіт снарадам і дыміць трактар. Гарыць прычэп са снарадамі.

Раманаў камандуе перш за ўсё тушыць пажар і сам кідаецца да яго. Кідаемся за ім і мы: сцягваем шынялі, накрываем дошкі, што гараць. Полымя, хоць і неахвотна, але паддаецца.

Паволі збіраюцца ўсе. Раманаў пытае трактарыстаў: што з трактарамі. Трактары, за выключэннем аднаго, могуць ісці. Ён загадвае гармату ад разбітага трактара перачапіць.

Кароткая нарада з камандзірамі, і Раманаў прымае рашэнне: ісці далей. Ісці туды, куды пайшлі танкі, рызыкоўна; трэба разведаць дарогу. Камбат загадвае некалькім чалавекам, у тым ліку Смоквіну і мне, паехаць наперад.

Мы сядаем у кузаў грузавіка і едзем. За вёскай — шырокі, роўны стэп. Трывожна ўглядваемся зверху, ці не відны абрысы танкаў? Сустрэча ў стэпе з танкамі адной грузавой машыны, на якой усяго некалькі чала-

век, нічога добрага не абяцае. Гэта — смерць. Але ж у нас і важны абавязак: за намі батарэя, якую трэба вывесці...

Увесь шлях гэты, увесь дзень поўны трывогі. Доўгай здалася нам гэта дарога. Але ўсё абышлося добра...

*4 кастрычніка*

Толькі што запісаў усё, што было ўчора, і не магу супакоіцца. Увесь дзень думаю пра недарэчнае здарэнне і не магу адбіцца ад думак.

Мы стаялі ў тумане, відаць, зусім побач. Толькі з-за выпадковасці не сутыкнуліся. Маглі б пайсці па той жа вуліцы, дзе і яны. Што магло б быць? І што было б, каб не лагчына між нас. З нашымі непаваротлівымі гарматамі, якія так цяжка развярнуць. Якія — сіла толькі тады, калі загадзя падрыхтаваны.

Наш лёс залежаў ад нейкай выпадковасці. Лёс батарэі, лёс дзесяткаў людзей, мой лёс. Не ўпершыню лёс жыцця вырашае дробная выпадковаць. Я думаю, што на вайне жыццём кожнага распараджаецца выпадковасць...

Горкія думкі: зноў мы ў стэпе былі адны. Некалькі цяжкіх гармат, амаль безабаронных у такім становішчы. Колькі мы страт нясём, неапраўданых, бяссэнсных, з-за таго, што няма ўзаемадзеяння артылерыі з іншымі радамі войск. Як усё ішло добра на Дняпры, калі яно было. Яшчэ ні разу немцы не білі нас, артылерыю, калі мы былі адзін на адзін. Артылерыя супраць артылерыі. Мы білі іх. Як закон.

Нас б'юць танкі. Танкі б'юць пяхоту. Рушаць усе нашы планы. Галоўная слабасць наша — танкі. Дзе нашы танкі?! Ад самага Стрыя — ні аднаго танка!

...З трагічным успамінаецца недарэчнае. Мы толькі атрымалі з кухні сняданак, як далі каманду ехаць. Давялося адкласці снеданне, бітон з макаронамі хутка прывязалі да гарматы. Калі немцы сталі біць па нашай калоне, адзін снарад трапіў у бітон з макаронамі. Потым мы ўбачылі — уся гармата была абвешана гэтым хараством... Паснедаць нам давялося толькі ўвечары, прайшоўшы небяспечную частку стэпу. Калі раздавалі яду, хлопцы жартавалі: «Давайце ешце цяпер, не адкладвайце на другі раз! Калі хочаце паесці!..»

*5 кастрычніка*

Мы ў Васількоўцы. Тут яшчэ мірнае жыццё. Проста дзіва: працуюць магазіны, сталовая. У магазінах прадаўцы за прылаўкамі, стаяць, як нічога не бывала.

Ад неспадзяванасці — зусім адвыклі ад гэтага! — мы хадзілі па горадзе, быццам п'яныя. Было такое адчуванне, нібы мы нейкім чынам аказаліся ў даваенным свеце. У ціхім, мілым свеце. Адным словам, хадзілі, як адурэлыя, глядзелі, цешыліся. Нам дапамагала сонца: пасля столькіх хмурных дзён выбілася з хмар, грэла мякка, лагодна...

Каб паспытаць больш мірных радасцей, заваліліся ў сталовую, расселіся. Выбраўшыся нарэшце з яе, з Паўлам падаліся зноў па магазінах: разглядвалі, часам — куплялі розныя дробязі. Бадзяліся, пакуль не настала пара вяртацца.

Цяпер, калі ўспамінаю ўсё, на душы так, быццам паўдня купаўся ў радасці. Самы радасны дзень за ўсю вайну.

*6 кастрычніка*

Нашы тэхнікі дзень і ноч рамантуюць гарматы. Смоквін сказаў, што надзеі мала. Прыйдзецца, мабыць, здаць на завод. Мы можам застацца без гармат.

Да Васількоўкі набліжаюцца немцы.

*7 кастрычніка*

За сялом — страляніна. Немцы б'юць па сялу, за сяло. Нашы 8-я і 9-я батарэі занялі пазіцыі і вядуць з немцамі бой.

Вось і кончылася кароткая мірная ідылія. Зноў знаёмыя малюнкі і гукі, якія гнятуць душу. То там, то тут моцна выбухае, уздымаецца полымя, паўзе дым. Падрываюць элеватар, нафтасховішча, чыгуначныя пуці.

Мы хутка пакідаем сяло: нам загадана ехаць на станцыю Прасяную. Трактары нашы цягнуць пабітыя гарматы па вуліцы, па драўляным мосце, па дарозе, што ідзе праз нізкую раўніну. Нам прыйдзецца здаць гарматы: адрамантаваць іх не ўдалося.

За сялом я аглядваюся: Васількоўка ззаду, атуленая садамі і высокімі дрэвамі, прыгожа выглядае на высокім беразе. Я гляджу, і трывога, і вінаватасць ціс-

не мяне: вось і сюды прыкаціла вайна, у гэты куток, які яшчэ два дні назад быў такім ідылічна ціхім, цудоўным...

За той дзень, што мы шчаслівыя бадзяліся з Паўлам па сяле, я нібы зрадніўся з ім, і мне асабліва шкода яго.

За нізінай дарога пачынае паволі падымацца, і тут, калі мы паволі ўз'язджаем на пагорак, у ляскат трактара, у нас уцінаецца свіст. Наперадзе вырастае куст выбуху. Адзін, другі. Не вельмі блізка, але і недалёка. Трэці — бліжэй. Людзі, што сядзелі на гармаце, дружна саскокваюць. Ідуць па зямлі. На зямлі больш надзейна.

Немцы, відаць, бачаць нас. Яшчэ адзін снарад, ужо ззаду. Мы на ўсякі выпадак адыходзім ад гарматы. Там, каля трактара, у ляскаце і свіст блізкага снарада кепска чуваць. І не заўважыш яго. Хутка на трактарах застаюцца адны трактарысты. Паглядваюць таксама неспакойна. Ні Смоквіна, ні Раманава няма — паехалі раней. Што рабіць? Як бы трактарысты не паддаліся...

Ды і няёмка ісці тут, туляцца. Нібы адных іх падстаўляць. Але ж — немцы прыстрэльваюцца. Бяруць у вілку. І, праўда, яшчэ выбух — зусім блізка. І ўсё ж я павінен ісці да трактарыстаў. Я тут можа быць старшы. Я — зампалітрука. Я павінен. І як ні млосна ўсярэдзіне, я іду да трактараў. Даганяю, узбіраюся, сядаю побач. Рукі Кручкова ад сілы сціскаюць рычагі — аж пабялелі. Твар скамянелы, напружаны. Хай будзе што будзе. Інакш нельга.

Яшчэ выбух, наперадзе. Вельмі блізка. Праўда, трохі ўбаку. Але папраўку зрабіць лёгка. Наступны, мабыць, будзе наш. Камянею сам, услухоўваюся. Тут, на трактары, ляскат зусім не дае чуць. Упіваюся позіркам уперад: мы ўспаўзаем на самы верх уздыму. Там, за гэтай вышынёй — паніжэнне. І мы схаваемся з вачэй немцаў. Але зараз будзе вілка. Дакладны ўдар. Я чакаю яго і прагну: хутчэй бы ўзняцца, схавацца за ўзгоркам. Мы ўжо на самым версе.

Ужо блізка ратунак. Але мы цяпер на самым віду. Да чаго ж марудна паўзе трактар. І да чаго нязносна чакаць. Мы як выйшлі на расстрэл. І чакаем, калі ўдараць. Пярэдні трактар і гармата ўжо з'язджаюць. Хутка і мы. Хутчэй бы.

Мы з'ехалі, так і не пачуўшы дакладнага ўдару. Штосьці перашкодзіла нямецкім артылерыстам. Потым, калі ўжо мы схаваліся за пагоркам, яны пусцілі некалькі снарадаў. Але ўжо наўздагад. Выбухі ўскінуліся наводдаль.

Хутка яны зусім перастаюць біць. І мы едзем ужо зусім спакойна. Кручкоў выпростваецца, паварочваецца да мяне і смяецца. І я смяюся. Мы нібы толькі што нарадзіліся.

Трактар ляскоча, але мне здаецца, што навокал цішыня. Цішыня, якой не было.

*8 кастрычніка*

Ноччу мы дабраліся да Прасянога. Гарматы паставілі на вуліцы, а самі заваліліся ў хаты. Спагадлівая гаспадыня аддала нам драўляны ложак з мяккім сеннікам і коўдраю. Гэта быў такі цуд, што мы спачатку асцярожна адмаўляліся. Прасілі, каб паслала на падлозе. Мы, маўляў, больш звычны там спаць...

Але яна дала ложак. Я не ведаю, якія былі ложы ў цароў, але ложак, у які я паваліўся, быў, мабыць, не горшы. Ва ўсякім выпадку, адчуваў я сябе пасля зямлі, акопаў на мяккім сенніку ў цёплым пакоі па-царску. Нас аказалася на ім трое, было, можа, не вельмі прасторна, але спалася так мякка, так салодка, як, думаю, ніколі ў жыцці.

Першы раз за ўсю вайну мы спалі на ложку.

*10 кастрычніка*

Ездзілі на станцыю Дэмурына. Пагрузілі гарматы на платформы. Паглядзелі ў апошні раз на свае пушкі-гаўбіцы.

«Ну вот — дастукаліся! — сказаў Раманаў са сваёй звычайнай задзірыстасцю. Нават нібы весялей: каб не падумалі, што ён раскіс.— Цяпер — як пяхота.— Ён голасна скамандаваў: — Шагам марш!» Канешне, што тут скажаш: невясёлая гэта гісторыя. Толькі адно і застаецца: не падаваць выгляду...

Увечары прыехалі зноў у Прасяное. У стэпе было холадна, вецер моцны, золкі — прамёрз да таго, што сцінае дыханне. Не магу дыхаць. Думаў, што захварэў. Ледзь дацягнуўся да хаты. Калі лёг, укрыўся, усё дрыжаў, не мог заснуць. Твар гарэў.

Позняй раніцай разбудзіў Раманаў. Прыйшоў вясёлы, голасна, задзірыста скамандаваў: «Уставай, пяхота!»

*11 кастрычніка*

Учора, калі сталі ў адным сяле па дарозе на Дэмурына, неспадзявана сустрэў земляка — Шчэрбіна з Тунеўшчыны.

Сярод тысяч незнаёмых, са ўсяго свету, што ідуць ва ўсіх кірунках, у шынялях, у целагрэйках, у пілотках, раптам, другі раз здараецца, можна сказаць, неверагоднае. Сустрэў хлопца з Тунеўшчыны, суседняй з Глінішчамі вёскі. Ён першы пазнаў мяне. Рад быў яму і глядзеў на яго як на прывід: ён быў нібы з іншага свету. Дзе тая Тунеўшчына; дзе тое, у чым мы былі разам: школа, Алексічы, дзіцячыя сустрэчы. Ці было яно наогул, ці не саснілася?

Пытаўся пра родных: ён нічога не ведае.

Гаварылі толькі некалькі хвілін.

Сёння ўвесь дзень песцімся ў спакоі і ў цяпле. Зноў ясны, сонечны дзень, цёпла і ціха. І хораша, і журліва на душы.

*12 кастрычніка*

Там жа, у Прасяным. Як па заказу, яшчэ адзін — мабыць, з апошніх — сонечны дзень. І днём — халаднавата, але халадок чысты, бадзёры. Ноччу ж і раніцай — марозна. Усё ў агародах — чорнае, памерзлае.

Днём у нас — сякія-такія заняткі, у тым ліку — палітзаняткі. Трактарысты корпаюцца каля трактараў, рыхтуюць да дарогі. Вечарамі — найбольш у хаце, у цяпле. Дзіва, да чаго добра, пасля ўсяго нядаўняга, сядзець за сталом, каля лямпы, адчуваць ласку нібы роднай ужо сям'і. Сядзім, гамонім, чытаем, як у сваёй сям'і. Як у Глінішчах.

Вечарам трохі сядзелі і стаялі з Надзяй, дачкой гаспадыні, на двары. Было холадна, але ні нам, ні ёй не хацелася ісці ў хату. Было хораша. І зноў было такое адчуванне, нібы — дома, сярод сваіх. Нібы гэта — Алеся. Дзе яна?..

Цудоўныя, шчаслівыя дні.

*13 кастрычніка*

Вярнуўся Дубінкін і яго разлік. Яны ўсе дні былі пад Паўлаградам. Вельмі рады і мы, і яны. Яны хваляцца, што пяхота была задаволена імі. Частавала шампанскім, якое недзе дастала.

Мы рады яшчэ і таму, што цяпер зноў маем гарматы. Батарэя жыве, хоць у ёй пакуль усяго дзве гарматы.

*14 кастрычніка*

Мы развіталіся з мілым Прасяным і выправіліся зноў у дарогу.

Вечарам спыніліся ў нейкім пасёлку, Раманаў сказаў, што гэта блізка ад Чапліна. Павячэралі і, натомленыя дарогай, намёрзлыя, адразу заваліліся спаць.

У 9 гадзін леглі, а ў 11 нас паднялі. Прыйшоў новы загад. Зняліся і ў цемры ідзём назад, займаць новую агнявую пазіцыю.

Пранізлівы, халаднючы вецер. Прамёрз так, што праклінаю ўсё на свеце і сябе самога.

*15 кастрычніка*

Удзень стаялі недалёка ад Дэмурына. А ўвечары зняліся і, змоклыя за дзень, зноў выправіліся ў дарогу. Цемра — чорная, непраглядная, хоць вочы выкалі. Святло фар вырывае толькі кавалачак дарогі, ад яго цемра здаецца яшчэ чарнейшай. У святле фар відна мігценне дажджу, цьмяны, масляністы бляск грэйдарнага чарназёму. Чарназём слізкі, і гармата ідзе не сярэдзінай грэйдара, а спаўзае па адхончыку на край, дзе ніжэй. Ідзе бокам. Трактар — пасярэдзіне грэйдара, а гармата — збоку.

Дождж, дробны, бясконцы, з самай раніцы. І вецер, нямоцны, але густы, халодны. Гнёмся на гарматах, дрыжым. Трактары ідуць важка, буксуюць, і мы разпораз саскокваем, памагаем. Паўзём як чарапахі.

За пяць гадзін адолелі чатыры кіламетры. Спыніліся ў нейкім сяле, каля школы. Рушылі ў школу, у пустыя, вялікія класы. Без сілы валімся на падлогу. Спаць, спаць...

*16 кастрычніка*

Прапаўзлі па мокраму грэйдару яшчэ 40 кіламет-

раў. Прыбылі ў Чырвонаармейск. Зноў бяссонная ноч і холад,— прамёрзлі нават косці. Ісці ў цемры па грэйдару амаль немагчыма: ногі слізгаюць, на боты наліпаюць пуды зямлі. Ды і змора валіць. Даводзіцца мёрзнуць, але сядзець на гармаце...

Прамёрзлыя, змораныя бяссоннем, на супынку зайшлі ў хату, пагрэцца. У цяпле зразу ж разамлелі, ледзь селі — паснулі. А гарматы — пайшлі... Добра, што там хутка хапіліся, паслалі за намі... Вось дык прыгода!

*17 кастрычніка*

Мы ў Дабраполлі. Там і тут відны вышкі шахт. Над імі ўздымаюцца дымы. Ад дымоў гэтых, ад паху гары на душы сумна.

Сумна ад таго, што гэта ўжо — Данбас. Што вайна дакацілася аж сюды.

Тут, відаць, будзем біцца па-сапраўднаму.

*19 кастрычніка*

Усе гэтыя дні мы пераходзілі з месца на месца. Разгортвалі батарэі, чакалі. І кожны раз здымаліся з пазіцый, не зрабіўшы хоць бы стрэлу.

Цяпер ідзём на ўсход. Не пераязджаем, як раней, то на поўдзень, то на поўнач, выбіраючы пазіцыі, а ідзём проста на ўсход. Зноў адыходзім.

*20 кастрычніка*

Учора я сустрэў адразу некалькі таварышаў з 298-га!

Мы чамусьці прыпыніліся ў стэпе, я чакаў, калі рушым далей, і раптам чую, што мяне завуць. Гляджу — адзін з салдат, што ідуць па дарозе. Стомлены, сутулы, глядзіць нібы з насмешачкай. Землякоў! Землякоў, з нашага былога разліку! Як з таго свету!

Я саскочыў з гарматы, падбег. Толькі сказалі першыя словы, гляджу — вакол збіраецца гурт. Усё з нашай Туркі, з дарагога 298-га горнага. Зампалітрукі Чыгілейчык, Шмідаў, худы, ціхі Тышчанка, смуглы, як жолуд, Хазіеў. Мы потым ішлі побач з гарматамі і расказвалі: я ім пра Паўла, Арцём'ева, сябе, яны — пра сваіх. З дарогі, дзе мы размінуліся, яны, аказваецца, звярнулі на Кіраваград, дайшлі да сяла Вольнага каля Ніжнедняпроўска. Тут укамплектоўвалі розныя

часці, і нашу групу падзялілі: Землякоў з большасцю трапіў у 203-ці, артылерыйскі, а Пісьман, Грыгар'ян і лейтэнант Удовенка — у 657-мы пяхотны.

Пасля трагедыі за Самарай Землякоў і некалькі іншых ледзь выратаваліся, а ўсе з 657-га прапалі без вестак. Дзе Пісьман, Грыгар'ян і Удовенка — нічога невядома. Землякоў сказаў, што Іван Карабутэнка працуе ў рэдакцыі газеты «Начеку». Яны неяк бачыліся, яшчэ на тым баку Дняпра. Іван пытаўся пра мяне. Там лічылі, што я загінуў, Землякоў так і сказаў яму.

Каля Ніжнедняпроўска на дарозе Землякоў неяк убачыў кінуты блакнот. Ён падняў, паглядзеў — мой подпіс. Здзівіўся, як гэты блакнот трапіў сюды. Калі разыходзіліся, Землякоў аддаў блакнот Івану. На памяць пра «нябожчыка»...

Гарматы ўсё ішлі, і мне давялося развітацца, даганяць сваіх. Потым, калі мы стаялі, я шукаў іх, але не знайшоў. Пайшлі іншай дарогай ці адсталі.

Увесь дзень успамінаю гэту сустрэчу. Думаю пра Пісьмана і іншых — што з імі. Гнятуць думкі пра самарскую трагедыю: як пагана выйшла...

Як раскідала нас, распарадзілася намі вайна. Якім далёкім, нерэальным здаецца той час, калі ўсе мы былі ў Турцы.

Успамінаю Новую Адэсу: як па-рознаму пайшлі нашы дарогі ад таго дробнага недарэчнага выпадку. Я тады зайздросціў ім, а яно вось як павярнулася.

*21 кастрычніка*

Стаім на ўскраіне Канстанцінаўкі. Увесь дзень і ўвесь вечар грымяць выбухі. У розных месцах горада — дымы. Гараць дзесяткі заводаў.

Раманаў сказаў, што нам загадана ісці ў кірунку Арцёмаўска. Такі важны горад здаём без аднаго стрэлу. Што робіцца! Не магу зразумець!

Гэтага, здаецца, ніхто не ведае.

*22 кастрычніка*

Я вёў батарэю. Раманаў даведаўся, што я ведаю гэтыя мясціны, і загадаў весці мне.

Мы ішлі ўсю ноч. Я сядзеў на пярэднім трактары, углядаўся ў дарогу. Саскокваў на скрыжаваннях. Весці ў цемры было нялёгка: толькі і бачыш, што варухлі-

вую вузкую шчыліну святла. Я непакоіўся, як бы не збіцца, але ўсё абышлося добра.

Без прыгод давёў батарэю ў сяло Краснае. Была позняя ноч, а мне не хацелася спаць. Я быў, як рэдка калі, узрушаны. Быў у такім настроі, нібы еду па родных, дарагіх мясцінах. Нібы раптам вярнуўся на цэлую вечнасць назад. К таму часу, калі тут ездзіў упершыню, толькі што надзеўшы шынель. Тут пачыналася мая служба. Сюды я ездзіў у першыя начныя паходы.

Нібы толькі ўчора было, успомніў, як убачыў аднойчы тут каля хаты закаханую пару. Цёмная ноч, мароз, а яны ўдваіх. У чорным, як мёртвым, сяле.

Успомніў цяпер, і сэрца — зашчымела...

І так увесь час. Успаміны, успаміны і журлівасць на душы.

*23 кастрычніка*

Ад Краснага раптам загадалі вярнуцца зноў у Канстанцінаўку. Вярнуліся. Сталі на шырокім схіле, побач з панурымі сціртамі. Пачалі размяшчаць гарматы, рыхтавацца абараняць Канстанцінаўку.

Не ўправіліся размясціцца, як прыйшоў пасыльны з загадам ехаць назад, да Краснага. Пачалі браць гарматы зноў на перадкі, выцягвацца на дарогу. Пакіравалі зноў туды, адкуль прыехалі. За гэты час прайшоў дождж, трактар на ўздыме мокрай дарогі пачаў буксаваць, а потым і зусім заглух.

Прыйшлося гарматы цягнуць перакатамі: адным трактарам па чарзе дзве гарматы. Рух яшчэ больш запаволіўся. Так і цягнуліся можа паўночы, пакуль не наладзілі і не падагналі першы змоўклы трактар.

Ішлі ўсю ноч. Мінулі зноў Краснае і, не спыняючыся, пайшлі ў бок Арцёмаўска. Быў ясны, нехалодны дзень, я з хваляваннем глядзеў на знаёмую дарогу, па якой кацілі ўслед за трактарамі нашы гарматы. Здалёк з нецярплівасцю ўглядваўся туды, дзе павінен быў паказацца горад, які цяпер здаваўся мне асабліва дарагім: горадам мілай маладосці. Як родныя, хвалявалі мяне знаёмыя адзнакі той пары. Вось аэрадром, дзе я не раз быў тады на варце. Вось тут, каля высокіх антэн, мы займаліся. І вось нарэшце ваенны гарадок. Гарадок, дзе я стаў салдатам. Дзе было столькі дарагога...

Нашы гарматы спыніліся каля самага гарадка.

Я адразу падаўся ў расчыненыя вароты, да знаёмай, з расчыненымі дзвярыма казармы. У вялікай зале, дзе мы калісьці спалі, дзе былі рады двухпавярховых ложкаў і строга сачылі за чысцінёй, цяпер валяліся раскіданае сена, шклянкі ад варэння, шматкі газет, бінты. Толькі што, сказалі, адсюль выехаў шпіталь. У адным з пакояў ніжняга паверха раптам рэзка дыхнула пахам конскай мачы,— відаць, стаялі коні.

Мала што цяпер было тут такім, як у тыя далёкія першыя дні службы. Толькі сталовая ды клуб не змяніліся. Вось тут у клубе мы стаялі, чакалі ў першы дзень, калі нас прывялі са станцыі. Вось тут я вучыўся ездзіць на наравістым Звяры, тады — разведчык батарэі. Вось па гэтай дарозе мы хадзілі ў лазню. З высокай дарогі я глядзеў на горад, што быў у нізіне. Знайшоў вачыма станцыю, і зашчымела сэрца: адтуль мінулай зімою я ехаў дадому ў водпуск. Адтуль пачалося незабыўнае...

Хутка мы паехалі ў горад, і я ўбачыў, як ён змяніўся. Каля дарогі ляжаў конь з параненым каленам, і купка жыхароў клапацілася побач. На ўездзе, перад чыгункай, абапал дарогі — разбітыя грузавікі. Дамы — чорныя, з белымі палоскамі паперы на вокнах. Змрочныя, панурыя... Раптам я зноў убачыў Чыгілейчыка і Шмідава, яны хутка ішлі кудысьці. Хутка і, здалося,— весела: можа, к даўнім сваім сяброўкам?..

На другой ускраіне мы зноў спыніліся. Пакатаеў недзе пранюхаў спіртзавод: там і тут сталі паяўляцца каны з гарэлкай. Я таксама крыху выпіў, каб супакоіцца.

Яшчэ да таго як выехалі, сталі грымець выбухі. Падрывалі заводы. За горадам я азірнуўся. У розных месцах уздымаліся дымы. Горад гарэў.

Было неяк асабліва балюча. Я глядзеў на яго і нібы развітваўся з дарагім чалавекам, з маладосцю. І думалася яшчэ: мала каму з нас давялося ўбачыць яго цяпер. Каму ўдасца ўбачыць — потым! Ці ўбачымся яшчэ раз? Хто ведае!..

## ПРАЗ ГОД

(З салдацкага сшытка)

Чацвёрты дзень мы ў Прусіі. Стаяць лагодныя восеньскія дні. З дрэваў, пад якімі цяпер мы адпачываем на кароткім прывале, ад ветру, а можа, ад недалёкіх выбухаў гармат, зрываецца лісце і, кружачыся, павольна асыпаецца на зямлю. Лісце — чорнае, скручанае; яго абпалілі ваенныя пажары, што прайшлі тут.

Трохі наводдалек хмура і маўкліва туліцца прускі хутар: хаты са стромкімі дахамі, з разбітымі шыбамі. Па вуліцах і агародах блукаюць без прытулку каровы, кінутыя пры паспешным уцёку гаспадарамі. Ва ўсім сяле ні аднаго жывога немца. Далей за сялом — поле, скрозь перарытае акопамі і варонкамі. Па шашы, каля якой мы адпачываем, на ўсход накіроўваецца невялічкі натоўп: блізка дзесятка жанчын і хлапчук.

Гэта тыя, каго мы вызвалілі. Яны вітаюцца з намі, радасныя, узрушаныя, яшчэ не зусім прызвычаеныя да свайго шчасця, і, не спыняючыся, праходзяць паўз нас. Людзі спяшаюцца на Радзіму.

Тры маладзіцы падышлі да нашых салдат. Маладзіцы наперабой называюць імёны сваіх мужоў і пытаюцца, ці не ведае хто выпадкова, дзе яны. Салдаты, перабраўшы ў памяці сяброў, гавораць, што не ведаюць. Жанчыны развітваюцца, ідуць далей па шашы, але хутка зноў падаюцца да байцоў з тым жа запытаннем...

Яны не трацяць надзеі, яны вераць. Ім здаецца, што цяпер шчасце не абміне іх нідзе. Бо самая вялікая надзея, самая светлая мара збылася. Чаму ж ім не верыць, што споўніцца і гэтая другая.

Я пазглядаю на іх, і мне нагадваецца адна размова. Учора да мяне таксама падыходзіла дзяўчына. Яна сказала, што ў яе на вайне бацька і два браты, і назвала пры гэтым іх прозвішча,— Гаркуша. Я нічога не ведаў пра іх. Тады дзяўчына спыталася яшчэ пра аднаго чалавека, Гардзейчыка.

Яна, было відаць, пільна прагнула знайсці таго Гардзейчыка. Мабыць, таму, што яна, нібы знарок, абмінала больш гаварыць пра гэтага чалавека, мяне адолела раптам цікаўнасць. Хто ён, той Гардзейчык? Чаму дзяўчыне так рупіць знайсці яго?

Мы пазнаёміліся з ёй на вуліцы гарадка, што цяпер ужо далёка ззаду. Хутка мы разгаварыліся. Вера даведалася, што я таксама з Палесся, і не дала мне спакою, пакуль я не падзяліўся ўсімі весткамі, што прынеслі лісты з роднага кутка. Шкода, што я мала ведаў, яна слухала з такой цікаўнасцю!

Потым пачала апавядаць сама, шчыра і ўсхвалявана. І зноў я заўважыў, што яна немаведама чаму абмінае гаварыць пра Гардзейчыка...

Яе прывезлі сюды год назад. Няшчасце сталася лістападаўскім днём на станцыі блізка ад Мазыра.

...У вагоне было прыцемна і сумна. Святло прабівалася толькі праз прыадчыненыя дзверы і маленькае акенца. Дзяўчаты месціліся на нарах, пакладзеных у два паверхі. Якая частка іх ціснулася ў праходзе, бо на нарах не хапіла месца.

Вера сядзела ўгары, пры акне. У акно неспакойна біўся пругкі лістападаўскі вецер, прыносячы часамі шматкі гарматнай страляніны. Непадалёк быў фронт.

Вера бачыла доўгія і вузкія станцыйныя склады, за імі — поле, гасцінец, што віўся ў полі, абсаджаны тамсям бярозкамі, падобнымі зводдалек на падарожных. Верына сэрца сціскалася ад самоты. Яна ніколі раней не думала, што так моцна любіць гэтыя знаёмыя мілыя палі, лес, дарогу і бярозкі.

Калі Вера глядзела на іх, ёй успаміналася школа, дырэктар Мікалай Іванавіч, строгі, задумлівы, якім ён быў на выпускным вечары дзесятага класа. Яна думала пра таварышаў з партызанскага атрада (калі б яны напалі ў лесе на эшалон і выратавалі!), пра бацьку і братоў, што цяпер, можа, недзе блізка за Дняпром.

Вера згадвала маці, добрую і клапатлівую, што засталася цяпер адна і тужыць ад разлукі з дачкой. Ёй хацелася абняць маці, пяшчотна прыціснуць да грудзей, заспакоіць, адагнаць гора.

...Яны жылі ўдваіх з маці. Бацька і два браты яшчэ ў першыя дні пайшлі ў Чырвоную Армію. Колькі яна з маці ўбачылі гора за гэтыя два гады, калі ў сяло

ўварваліся немцы! Не было, мусібыць, таго дня, каб смерць не вырывала хоць аднаго чалавека з сяла. Сяргея Хадкевіча і яшчэ трох партызан немцы схапілі досвіткам каля хаты Лукашукоў, калі тыя выходзілі з хаты з харчамі для партызанскага атрада. Іх доўга няшчадна мардавалі, а потым павесілі на былым калгасным двары. З імі павесілі Галю Лукашук, задумлівую ціхую Гальку, Верыну сяброўку, якая ў школе вылучалася тым, што ведала на памяць усю пушкінскую «Палтаву». На яе грудзях вецер гушкаў дошчачку з надпісам: «Мяне павесілі за тое, што я дапамагала партызанам».

Блізка ў той дзень смерць прайшла паўз Веру. Перад тым як пайсці да Галі, партызаны заходзілі былі ў Верыну хату. Яны ўзялі харчы, якія Вера кожны тыдзень збірала ў сяле для партызан. Хлопцы былі вясёлыя, захапляюча расказвалі аб радасных вестках з фронту. Вера ўважліва слухала, бо весткі былі вельмі важныя. Іх абавязкова трэба пераказаць людзям падрабязна. Гэта было партызанскае даручэнне. Хлопцы яшчэ пажартавалі трохі, развіталіся — да хуткай сустрэчы — і пайшлі. І вось прыйшлося спаткацца на калгасным двары пад шыбеніцай, на якой вецер хістаў іх целы...

Калі б яна пайшла ў партызаны, не здарылася б гэтай напасці — ехаць у Германію. Але камісар атрада Мікалай Іванавіч, былы строгі дырэктар, сказаў, што на сяле яму патрэбны такія памочнікі, як яна, і што яе даручэнне не менш важнае, чым работа ў партызанах. І ёй прыйшлося астацца.

Перш немцы прысылалі позвы са строгім наказам з'явіцца на адборачную камісію. Яна не пайшла. А калі немцы прыходзілі за ёй, маці, пакуль тыя ішлі па двары ці грукалі ў замкнутыя сянечныя дзверы, хавала Веру ў патаемнай яме пад падлогай. Немцы і паліцаі дапытваліся ў маці: «Дзе дачка?» Маці гаварыла, што дачка паехала ў горад да цёткі, немцы не давалі веры ёй і кожны раз білі.

У той час ноччу ў хаце заўсёды адзін хто-небудзь дзяжурыў, Вера або маці. У кожнай хаце былі свае дзяжурныя. Часта ўночы немцы ламіліся ў хаты, хапалі людзей проста з ложкаў і пад вартай гналі на станцыю, а адтуль — у Германію. Больш дзяжурыла

маці, шкадавала будзіць дачку. Яна пільнавала сон дзіцяці, трывожна прыслухваючыся да крохкай начной цішыні. Хутка на паўднёвым усходзе далёка на небасхіле пачалі дрыготка запальвацца і затухаць барвовыя заранкі. Гэта на Дняпры стралялі гарматы. Набліжаліся дні, якіх чакалі больш за два гады. Вера кожную ноч сачыла за трапяткім заранкам, і на сэрцы яе рабілася радасна і трывожна.

Яе схапілі знянацку, калі надвячоркам Вера з маці вярталіся з поля, дзе капалі бульбу. Не дапамаглі ні просьбы маці, ні слёзы, павялі Веру і яшчэ шмат якіх дзяўчат на станцыю. Доўга іх не маглі адправіць, на той час не было эшалона. Дзяўчат замкнулі ў цёмным бараку непадалёк ад станцыі.

Прайшло некалькі дзён, а эшалона для іх не было. На станцыю часта наляталі нашы самалёты, бамбілі, і дзяўчаты думалі з надзеяй, што немцам не ўдасца вывезці іх. «Ім і без нас даволі клопату»,— гаварылі яны ўпотай між сабою. Спрабавалі нават наладзіць уцёк, але ахова вакол барака была пільная і моцная.

І вось эшалон знайшоўся.

...У вагон падняўся немец, пасівелы, з натапыранымі вусамі, на якіх ільсніліся кавалачкі застыўшага лою. Ён выняў спіс і пачаў чытаць. Немец быў апрануты ў цывільную вопратку. Прозвішчы чытаў па складах і часта няправільна вымаўляў. Калі хто не адказваў, ён чытаў у другі раз больш старанна і нездаволена пазіраў на таго, хто марудзіў з адказам.

Паўз акно прабег паравоз. Дыхнула гарачынёй. На падножцы, трымаючыся за поручні, стаяў нямецкі салдат. Праз некалькі хвілін адтуль, куды пайшоў паравоз, пачуўся ляскат буфераў, які перакатамі, нібы пошчак у лесе, пакаціўся па ўсяму саставу.

Немец заспяшаўся і пачаў яшчэ болей блытаць прозвішчы. У вагоне былі ўсе. Ён згарнуў спіс і высунуўся ў дзверы: спачатку занепакоена зірнуў у бок паравоза, затым з трывогай акінуў яснае восенькае неба.

— Надзечка,— звярнулася Вера да таварышкі. Тая сядзела побач з ёю і нерухома пазірала ў паўзмрок вагона.— Зірні. Мо ў апошні раз бачым. Які дзень! Якія бярозкі! Гляджу, гляджу і не магу наглядзецца.

Надзя ўсе дні мала гаварыла, а заўсёды думала немаведама пра што. Яны пазнаёміліся ў бараку. Надзя

расказала, што ў яе было двое дзяцей — Толік і Вася, што чалавек яе недзе на фронце і невядома, што з ім. Дзеці памёрлі з голаду, бо паліцыя забрала ўсё збожжа і бульбу. Сама Надзя не адолела такога гора і занядужала на сухоты. Можа, цяпер яна і думала пра дзяцей, пра голад, пра хваробу.

— Заўтра ці паслязаўтра,— загаварыла Вера, каб вывесці жанчыну з сумнага задумення,— будуць сустракаць нашых. Колькі там радасці будзе! А мы... Надзя, скажы што-небудзь, каб лягчэй на душы было.

Надзя крыху прыўзняла галаву.

— Што я табе скажу?.. Цяжка мне вельмі. Зусім змаглася... Мабыць, хутка памру...

Яна раптам блізка нахілілася да Веры і з рашучасцю, гатовай на ўсё, зашаптала:

— Не буду я ім служыць. Усё роўна не буду. Уцяку...

Вера схапіла яе тонкую гарачую далонь і моцна пацiснула.

— І я таксама.

У гэты час немец закрычаў, каб выходзілі строіцца. Дзяўчаты збіралі клункі і выходзілі: Вера саскочыла на жвір і азірнулася: Надзя спынілася ў дзвярах.

— Хутчэй, хутчэй,— падганяў немец.

Вера падала Надзі руку і дапамагла ёй сысці на зямлю.

Выганялі дзяўчат і з суседніх двух вагонаў. Усіх строілі ўсцяж чыгуначнага палатна. Калі вагоны апусцелі, салдаты пачалі будаваць каля крайняга вагона памост для пагрузкі кароў. Дзяўчаты маўкліва чакалі.

Даўгі і сухі немец, прасачыўшы, як адну карову ўвялі ў вагон, падышоў да дзяўчат, абыякава азірнуў няроўна выстраеныя рады і нешта ціха прамармытаў па-нямецку. Вусаты немец, што чытаў спіс у вагоне, ломанай рускай мовай пераклаў яго словы, урачыста і гучна, каб чулі ўсе.

— Маёр гаворыць, што ён хоча частка дзяўчаты пакінуць тут, бо адзін вагон для кароў заняты будзе. Маёр пытае,— перакладчык зрабіў паўзу і акінуў строй вачыма,— ці ёсць жадаючыя не ехаць нах Германія, а застацца тут, на Беларутэнія?

Па страі прайшоў шум, усе заварушыліся.

Надзя стаяла поруч з Верай. Хворай стаяць было

цяжка, і Вера падтрымлівала яе. Калі перакладчык прамовіў апошнія словы, Вера замерла ад надзеі, якая вярнулася зноў. Значыць, можна застацца? Не паехаць у Германію? Вера радасна падштурхнула Надзю і здзівілася, што тая была занепакоена.

— Маёр гаворыць,— прадаўжаў перакладчык,— усе, хто не мае жадання ехаць нах Германія, тры крокі наперад.

Некалькі дзяўчат хутка выскачылі з радоў і здзіўлена азірнуліся. Ледзь не ўсе стаялі на ранейшых месцах. Дзяўчаты запытальна пераглядваліся, шукалі адказ — што рабіць. Вера таксама памкнулася была ступіць уперад, але Надзя спыніла яе.

— Дурная, хіба ж можна верыць немцам? — шапнула Надзя.

Адразу прывід надзеі, які асляпляльна і заманліва заблішчаў уперадзе, згінуў. Цяпер яна насцеражылася. Вера была ўпэўнена, што гэты сухі маёр задумаў штонебудзь нядобрае, і халадзела ад здагадак.

Немцы пайшлі перад шэрагамі. Маёр часта спыняўся, акідаў вокам дзяўчыну, якая яго цікавіла. Іншы раз ён лена і слаба, па-старэчаму, рабіў рух рукою, тады дзяўчыну сілком выводзілі да тых, што павінны застацца дома. Вера сачыла за немцамі. Маёр са сваімі памочнікамі, у тым ліку і вусаты, набліжаліся. Надзя цяпер стаяла адна, выпрастаўшыся.

Насупраць Веры маёр спыніўся, паглядзеў на яе, нешта сказаў перакладчыку, ад чаго той здаволена ўсміхнуўся, затым падышоў да Надзі. Перад ёй стаяў некалькі хвілін. Немец бачыў, што жанчыне цяжка стаяць, і выпрабавальна чакаў, калі яна пахіснецца. Нарэшце яму апрыкрыла гэта, і ён, махнуўшы рукою, прадаўжаў абход. Надзю вывелі са строю.

Калі абход быў закончан, да тых, каго вывелі, звярнуўся перакладчык:

— Вы застаецеся дома. Застаецеся назаўсёды на ваша радзіма. Вы не паедзеце нах Германія. Ідзіце...

Другую групу паспешна пагналі ў вагоны. Вера, стоячы перад вагонам, пакуль у яго падымаліся іншыя, занепакоена сачыла за тымі, што заставаліся. Яны паступова зашумелі, заварушыліся і пайшлі па дарозе. Некаторыя азіраліся, на развітанне махалі рукамі і крычалі: «Бывайце!» Надзя ішла ззаду. Яна некалькі

разоў, нібы шукаючы чаго, агледзелася. «Непакоіцца»,— здагадалася Вера. Дзяўчаты адыходзілі далей.

Нечакана пачуўся крык. Крычала Надзя. Яна спынілася і са страхам глядзела ўбок, дзе канчаліся вагоны састава. Сталі і іншыя, азірнуліся, зрабілася замяшанне. Усе раптам замоўклі. Некалькі дзяўчат кінуліся бегчы. Вера пахаладзела ад страшнага прадчування. Яна глянула ў той бок, куды пазірала Надзя, але нічога не ўбачыла з-за вагонаў.

Здаецца, доўга працягвалася гэта жудаснае маўчанне. Потым трэснула два-тры стрэлы, пачуліся крыкі праклёну і болю, і тады пачаў кулямёт. Чатыры-пяць дзяўчат упала, іншыя кінуліся бегчы. Кулямётныя чэргі наганялі іх і валілі. Вось толькі дзве ўцякаюць. Адна ўпала, падхапілася, прабегла некалькі крокаў і зноў упала.

— У вагон,— штурхаў напалоханых нявольніц вусаты,— у вагон!

З дзіўнай пустатой унутры паднялася Вера ў вагон. Калі яна ўвайшла, немец гаварыў з двара:

— Вы не застанецеся на Беларутэнія, не палохайцеся. Вы патрэбны Германія.

Трохі памаўчаўшы, вусаты дадаў:

— Яны шчаслівы. Яны засталіся на радзіма.

Хвіліны праз тры эшалон таргануўся. Станцыйныя пабудовы пайшлі назад. Па баках паплыло поле, яно круцілася, перш спакваля, а затым усё хутчэй.

Эшалон браў ход. На ніжніх нарах у адчаі загаласіла нейкая дзяўчына. Яе заспакойвалі, а яна не сунімалася і галасіла гучней у вялікай роспачы.

...Вера змоўкла. Яна задумалася і засумавала. Пра што яна думала, я не ведаю, але было відаць, што думы адольвалі яе цяжкія і самотныя. Верыны вочы цьмяна тумані́ліся, нібы яны былі зацягнуты павалокай. Мне знаёмае такое святло: гэта вочы чалавека, які пабачыў шмат гора.

Мне стала шкада яе, і, каб адагнаць даўкія ўспаміны, я спытаў Веру пра яе вызваленне.

— О, я ніколі не забуду гэты дзень. Усё запамятала, усё да апошняй дробязі... Вуліцы ненавіснага прускага гарадка. Руіны дамоў. Знявечаны снарадамі брук. Хмаркі прысаку і дыму. Галузы, што тлеюць... Я ўсё гэта ўбачыла, калі выглянула са склепа. Хава-

лася ў склепе. Я выглянула са склепа і ўбачыла двух байцоў.

У Верыных вачах сярод павалокі ўспыхнулі і рассыпаліся шчаслівыя іскрачкі.

— Я не магла ўтрымаць радасці, гукнула: «Браточкі мае!» — і пабегла насустрач ім. Такая тады ўзрушанасць была, што я ўсё забыла. Усё нібы ў тумане адбывалася або ў сне. Я нешта, пэўна, гаварыла, а што — не памятаю... Цэлы ж год чакала...

Вера зноў сціхла, засумавала, штосьці ўспамінаючы. Праз некалькі хвілін яна паспакайнела трохі і з палёгкай працягвала:

— На развітанне я зайшла на тое селішча, дзе марнела ўвесь год. Там ляжаў мёртвы Рапке, той вусаты перакладчык, пра каторага я казала. Ён быў маім гаспадаром. Тады, калі нас адбіралі, маёр, відаць, абяцаў аддаць мяне яму. Памятаеце, Рапке тады яшчэ задаволена ўхмыльнуўся. Цяпер ляжаў той Рапке на сваім папялішчы. Ён адправіў сям'ю, а сам чамусьці вярнуўся дамоў. Мяне шукаў, мусіць... Там яго і сцебанула асколкам па галаве...

Неспадзявана яна схамянулася, сказала, што трэба збірацца.

— А гэты Гардзейчык хто? — сказаў я ўвесь час не выходзіўшае з галавы запытанне.

— Гардзейчык? То ж чалавек Надзін, што на фронце... Хай бы ён ведаў усё. Каб помсціў за жонку і малых. Я яго ўвесь дзень шукаю... А можа, таго Гардзейчыка і жывога няма... Не забудзьце вы пра Надзю...

Гэта былі яе апошнія словы. Яна пайшла. Я глядзеў, як паступова аддалялася яе постаць, худзенькая, у сіненькай сукенцы, аж пакуль яна не схавалася за паваротам шашы, і думаў, што не ўсіх мы выратуем, што такіх, як Надзя і яе сяброўкі, многа. Але мы ніколі не забудзем пры расплаце...

Бо хіба ж толькі аднаму Гардзейчыку блізка яго гора? Хіба ж мы не адчуваем яго таксама балюча, як вялікае асабістае гора? І хіба не ўсе мы прагнем аднаго, каб паўней помсціцца за яго, тое блізкае «чужое» гора?

...Падалі каманду збірацца. Прывал канчаецца. Трэба яшчэ раз праверыць аўтамат і дыскі, пакуль ёсць час. Хутка пойдзем у бой...

# АПАВЯДАННІ ПРА ВАЙНУ

У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшаў першы зборнік апавяданняў Міколы Лупсякова.

Усе апавяданні прысвечаны адной тэме — тэме вайны. Героі зборніка — людзі вайны. Адны з іх б'юць нямецкіх захопнікаў на фронце, другія змагаюцца з імі ў партызанскіх атрадах.

Лупсякоў з любоўю малюе сваіх герояў. Ён любіць зазірнуць у глыбіню чалавечай душы. Апавяданні «Да сваіх», «Першая атака» сведчаць пра тое, што малады пісьменнік мае добрыя здольнасці да псіхалагічнага аналізу.

У апавяданні «Да сваіх» Лупсякоў тонка падае стан крайняга напружання фізічных сіл чалавека. Герой апавядання — ранены салдат Ігнат, які застаўся на полі бою. Апамятаўшыся, Ігнат успамінае бой з нямецкімі танкамі. Радасць ад усведамлення, што ён жывы, ахоплівае Ігната. Гэтая вялікая радасць запаўняе Ігнатава сэрца. І ён, не думаючы пра тое, чаму нікога няма ў траншэях, паўзе да хаціны, якую заўважыў раней у лагчыне. Шлях вельмі цяжкі, бо салдат ранены ў абедзве нагі. Дапоўзшы да хаціны, прывычаіўшыся да думкі, што ён жывы, Ігнат успамінае пра пустую траншэю, і гэта яго непакоіць. Сцэна, дзе Ігнат даведваецца пра адступленне нашай часці, намалявана вельмі ярка і каларытна. Гэта адна з лепшых мясцін ва ўсім зборніку.

Лупсякоў падрабязна сочыць за тым, як змяняюцца пачуцці ў Ігната на розных этапах гэтага неймаверна цяжкага шляху. Страціўшы на момант сілы ад страшнай навіны, што ён астаўся адзін, Ігнат

---

Тэксты гэтага раздзела падрыхтаваны Э. А. Золавай.

не хоча згадзіцца з думкай пра смерць. Жыццё кліча яго, і ён рушыць далей да сваіх. «Пасля ён поўз, часам траціў прытомнасць, і тады перад вачыма плылі зялёныя агні. Але болю ён ужо не адчуваў. Урэшце, знясілены, ён ляжаў нерухома. Снег замятаў яго. А Ігнату здавалася, што ён дома, што поплеч з ім яго жонка і дзеці і старэнькая маці. Ён з імі нават размаўляў, але ніяк не мог зразумець, аб чым яны яму гавораць. Сон ужо змыкаў векі. Нешта халоднае пацякло за каўнер, і Ігнат на нейкі момант падумаў, што гэта, напэўна, тае снег. Ён раптам схамянуўся і зноў папоўз...»

Моцнае ўражанне робіць малюнак нечаканай сустрэчы Ігната з немцамі, якія спачатку яго не заўважылі, а пасля палічылі за мёртвага. Гэты малюнак добра перадае драматызм становішча, у якім апынуўся герой апавядання. «Але ён выразна яшчэ памятаў, што бачыў ля сябе двух немцаў. Гэта была яго смерць, і, чакаючы яе, Ігнат заплюшчыў вочы. Яму зрабілася жудасна, і ўпершыню ён па-сапраўднаму адчуў і боль і холад. Ён прытварыўся нежывым і, сцяўшы зубы, маўчаў увесь час, пакуль з яго сцягвалі валёнкі і шынель...

Ігнат дапоўз да сваіх. Ён перамагае смерць. Перамагае таму, што моцна любіць жыццё і ненавідзіць ворага. Матыў «любві да жыцця» ў апавяданні Лупсякова гучыць па-новаму, арыгінальна. У вобразе Ігната пісьменнік раскрывае адну з тыповых рыс савецкага чалавека.

Добрае веданне псіхалогіі «неабстралянага» байца выказаў Лупсякоў і ў апавяданні «Першая атака». Апавяданне пабудавана на ўспрыманні атакі двума рознымі байцамі — бывалым салдатам Сямёнам, які на фронт вяртаецца пасля трэцяга ранення, і маладым байцом Віктарам. Віктар «на перадавой першы раз». Ён ідзе ў атаку са складанымі пачуццямі: тут і страх навічка перад жорсткасцю вайны, і чалавечая цікаўнасць да баявой абстаноўкі, і, галоўнае,—жаданне быць смелым, «бачыць сябе наперадзе ўсяго батальёна». Аўтар добра перадае паводзіны маладога салдата.

«І яны пабеглі. І ўсё адбывалася вельмі проста, хутка, так што Віктару некалі было падумаць. Калі людзі, рассыпаўшыся ў ланцугі, выбеглі на ўзгорак і закрыча-

лі «ўра», ён таксама закрычаў. Усе стралялі ў бок таполяў, страляў туды і Віктар. Яны беглі, грузлі па калена ў снег, цяжка дыхалі і з кожнай хвілінай набліжаліся да двароў. Віктар туліў галаву ў плечы, мяняў дыскі, выпускаў чаргу за чаргой...»

Вобраз Сямёна, бывалага салдата, атрымаўся менш яркім. Ён толькі намечаны, і гэта зніжае мастацкую каштоўнасць апавядання.

«Апавяданне Казіміра» — апавяданне іншага плана, чым абодва папярэднія. Тут сваю ўвагу празаік накіроўвае не на ўнутраны свет герояў, а на стварэнне вонкавага партрэта. Лупсякову ўдалося напісаць праўдзівы вобраз простага савецкага чалавека, якому прыйшлося жыць ва ўмовах нямецкай акупацыі. Абстаноўка ў апавяданні намалявана таксама праўдзіва і дакладна.

Між іншых апавяданняў «Апавяданне Казіміра» вылучаецца тым, што яно мае добры, зладжаны сюжэт. На жаль, моцнай сюжэтнай асновы не адчуваецца ў апавяданнях «Першая атака» і «Прыход у атрад». Гэтыя цікавыя апавяданні нагадваюць хутчэй замалёўкі або ўрыўкі з апавяданняў, чым апавяданні.

Мікола Лупсякоў скупы ў выбары моўных сродкаў. Ён следуе запавету пісаць проста і дакладна. У гэтым напрамку малады пісьменнік вучыцца, відаць, у нашага выдатнага майстра мовы Кузьмы Чорнага.

Вось як прыгожа і маляўніча піша Лупсякоў пра набліжэнне навальніцы: «А ў тым баку ў памутнелым небе збіралася парная навальніца. Раптам у чорных завітках хмар бліснула маланка, і ахутаны змрокам далягляд дыхнуў на зямлю гарачымі вятрамі. Па сцежках і ўздоўж дарог вецер пагнаў касмылькі сіўцу, падняў слупы пылу, закруціў іх, і яны, як спалоханыя, пабеглі прэч... Раз, другі прагрымеў гром...» (Апавяданне «Каваль»).

Скупа, лаканічна піша Лупсякоў пра падзеі, пра сваіх герояў. Гэтае карыснае імкненне да сціпласці, калі аўтар праз меру захапляецца ім, часамі шкодзіць некаторым творам, бо апавяданні губляюць сваю глыбіню, ім не хапае яркіх фарбаў, яны робяцца падобнымі на канспекты апавяданняў. Вобразы ў такіх выпадках толькі намячаюцца ў контурах, не разгортваюцца, не атрымліваюць жывой выразнасці. Як прыклад мож-

на назваць вобразы Ганны Вырвіч і Жалудовіча (з апавядання «Спатканне»).

Пры ўсім гэтым зборнік «Першая атака» робіць добрае ўражанне. Апавяданні зборніка хвалююць праўдзівасцю. Малады пісьменнік, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ведае і ўмела падае ваеннае жыццё. З любоўю малюе Лупсякоў сваіх герояў, простых савецкіх людзей. Гэтыя людзі сціплыя, сумленныя, у звычайных абставінах нічым не вылучаюцца. У часіну грозных выпрабаванняў яны з той жа сціпласцю здольны рабіць самыя мужныя ўчынкі. Яго героі прыйшлі ў апавяданні не з літаратуры, а з жыцця. Пісьменнік бачыў, любіў іх у жыцці і шчыра расказаў пра іх у сваіх творах.

Зборнік «Першая атака» сведчыць пра тое, што ў беларускую літаратуру ўвайшоў здольны празаік.

*1946*

# АПАВЯДАННІ ІВАНА ГРАМОВІЧА

Васіль Зарэвіч і Сымон Падаляка, героі апавядання Івана Грамовіча «Непрымірымасць», былі да вайны добрымі сябрамі. Разам вучыліся ў Мінску, пасля заняткаў удвух хадзілі па Студэнцкай вуліцы да паўночы, выказвалі адзін аднаму планы сваёй будучай дзейнасці. За нейкі час да вайны разам пайшлі ў армію, служылі ў адным палку. У першыя ваенныя дні, апынуўшыся ў варожым акружэнні, сябры ўдвух прабіраліся да фронту.

Тут шляхі сяброў разыходзяцца. Надышла вайна — вялікае выпрабаванне гарту людзей і чысціні, трываласці пачуццяў. Васіль Зарэвіч перад тварам грозных падзей не траціць сваёй грамадзянскай годнасці, ён бярэ зброю ў рукі, становіцца партызанам, каб змагацца за сваё асабістае і за народнае шчасце: «Зараз трэба рашуча дзейнічаць. Ад гэтага залежыць асабістае жыццё не толькі ўсіх нас».

Сымон Падаляка, трапіўшы ў такія ж абставіны, забывае пра свой абавязак, ахвяруе ім у імя свайго асабістага ціхага існавання. Ён імкнецца быць на «сярэдзіне» — не ідзе на службу да нямецкіх прыслужнікаў, але не дапамагае і партызанам. Здрадзіўшы народу, здрадзіўшы сяброўству, ён спрабуе нізкі, жывёльны страх за сваё жыццё прыхаваць своеасаблівай, з дазволу сказаць, «філасофіяй», сэнс якой вызначаецца адным словам — «арыентавацца». Адсядзецца ў скляпку, перачакаць грозны час, калі ідзе бязлітасная бойка не на жыццё, а на смерць, а пасля, калі неба пасвятлее, выбрацца са скляпка на прастор і ісці побач з мужнымі і вернымі — вось змест гэтай «філасофіі».

«Такія, як ты, хочуць за кошт іншых святкаваць перамогу! — гаворыць яму разгневана партызан Васіль Зарэвіч.— І ў новых абставінах будзеш прыжывацца,

выбіраць цёплыя арыенціры. Навучыўся арыентавацца!»

Да здрадніка, чым бы ён сябе ні прыкрываў, не можа быць ні літасці, ні прымірэння. Зарэвіч рашуча разрывае сваё сяброўства з Падалякам і аддае былога сябра на справядлівы суд партызан...

У апавяданні «Непрымірымасць» ёсць нямала моцных хвалюючых радкоў. Яно прываблівае сваёй дзейснай накіраванасцю, яснасцю, вучыць ненавідзець тых, хто дэвізам свайго жыцця зрабіў «арыенціроўку», хто хаваўся, а часамі і цяпер хаваецца, ад цяжкай працы, прыходзячы ў нашу сям'ю дзяліць толькі радасць перамогі. З гэтага апавядання відаць, што Іван Грамовіч умее паставіць і правільна вырашыць даволі складаныя жыццёвыя праблемы.

З другіх твораў хочацца асабліва адзначыць апавяданне «У прымах», пра тое, як два франтавікі-таварышы, дэмабілізаваўшыся з арміі, асталёўваюцца часова ў вёсцы далёка ад роднай Чэрвеньшчыны. Аўтару найлепш удаўся вобраз сумленнага, ціхага Івана Будніцкага, а таксама тыя радкі, дзе ён гаворыць пра «пачуццё адзінай радзімы» ў сваіх герояў. Іван Будніцкі ўвесь аддаецца калгаснай справе на «чужыне» і працуе так старанна, як бы ён мог працаваць у родным калгасе. У сваю чаргу і калгаснікі вельмі блізка да душы прымаюць і гора Беларусі і асабістае гора Івана. Калі ён, даведаўшыся, што родная Чэрвеньшчына вызвалена, выпраўляецца ў далёкую дарогу, старшыня калгаса гаворыць:

«Збярэм сход, памяркуем, абдумаем. Пастанову запішам. Там жа цяпер папялішча... Так што табе трэба дапамагчы». Адышлі тыя часы, калі за межамі раёна, рэспублікі была чужая старана; Іван Грамовіч гэта заўважыў і паказаў у сваім апавяданні.

Прываблівa, з замілаваннем аўтарам намаляваны воблік «сына палка» Лёнькі Лазарчыка ў апавяданні «Молада-зелена». І ў другіх творах маладому пісьменніку ўдалося стварыць некалькі жывых вобразаў людзей. Праўда, некаторыя з іх раскрыты недастаткова глыбока, ім часамі не хапае закончанасці, яны ўспрымаюцца чытачом як накіды, як эцюды да нейкіх большых твораў. Лепш удаліся Івану Грамовічу Лёнька Лазарчык («Молада-зелена»), Іван Будніцкі («У пры-

мах»), лётчык старшы лейтэнант Гайваронскі («Апавяданне пра нястрыманае сэрца»), Васіль Зарэвіч. Яны па-свойму глядзяць на свет, па-рознаму адгукаюцца на праявы жыцця, гавораць сваёю характэрнаю моваю. Пісьменнік умела перадае размовы, яны звычайна натуральныя і цікавыя.

Ёсць у зборніку добрая чалавечая цеплыня, якая робіць герояў больш блізкімі і дарагімі. «Позняе было іх каханне. Яно было такое, як гэта восень. Бадзёры, залаты ранак. Яблыкі пахнуць у садзе. Вечарам сцелецца па зямлі туман, а неба крэсляць знічкі» («У прымах»). Радкі, прысвечаныя каханню Варачкі і Івана, кранаюць прастатой і шчырасцю.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што ў зборніку ёсць няўдалыя месцы, цьмяныя, ледзь акрэсленыя вобразы, ёсць хібы, ад якіх трэба перасцерагчы аўтара. У апавяданні «Вера Наваёнак» І. Грамовіч, імкнучыся зацікавіць чытача, бярэ навелістычны сюжэт толькі з-за таго, што ён нібы займальны, хоць такі сюжэт ніяк не дапамагае аўтару выявіць ні характар героя, ні задуму пісьменніка. Вобраз Веры Наваёнак праз гэта атрымаўся цьмяным, схематычным. Сюжэт, які павінен быць арганічнай часткаю апавядання, аказаўся зне яго, здаецца лішнім і штучным.

Можна зрабіць дакор пісьменніку за тое, што ён часам не звяртае належнай увагі на форму твораў. Кідаецца ў вочы аднастайная, рэпарцёрска-нарысная пабудова апавяданняў «Мой зямляк», «Вера Наваёнак», «Апавяданне пра нястрыманае сэрца». Аўтару іх трэба будзе ў далейшым пазбягаць гэтых традыцыйных прыёмаў, якія, дарэчы, цяпер часта паўтараюцца і ў творах некаторых іншых пісьменнікаў.

Гэтыя недахопы ўсё ж не могуць засланіць тых добрых поспехаў, якія дасягнуў І. Грамовіч у сваім першым зборніку. У маладога пісьменніка ёсць усе магчымасці для далейшай паспяховай працы. Усякі, хто будзе чытаць кніжку, не зможа не заўважыць, што аўтар яе ўважліва прыглядаецца да жыцця, умее адабраць найбольш істотнае і характэрнае, праўдзіва напісаць пра яго.

*1948*

# ВЫСТУПЛЕННЕ НА ВЕЧАРЫ ЧЭХАСЛАВАЦКА-САВЕЦКАЙ ДРУЖБЫ 9.5.1958 г.

Я быў у Чэхаславацкай Народнай Рэспубліцы ўвосень 1955 г. Гэта была адна з першых паездак савецкіх турыстаў па дарогах і гарадах братняй краіны. За два тыдні мы пазнаёміліся з жыццём і жыхарамі старажытнай Златай Прагі, цудоўнай сталіцы Чэхаславакіі, пасля якой аўтобус перанёс нас у жывапісныя Марыянскія Лазні і ў Карлавы Вары.

Гасцінныя чэхі і славакі пастараліся, каб за гэтыя паўмесяца мы як мага больш пазнаёміліся з іх слаўнай краінай, з іх сардэчным і ветлівым народам. Дні нашы былі поўны разнастайных уражанняў, яны, можна сказаць, праляталі ў экскурсіях і паездках. Мы былі на трактарным заводзе ў Брно, на абутковых фабрыках у Готвальдаве, наведалі школу, дзіцячы сад.

Каб расказаць пра ўсё гэта, спатрэбілася б вельмі многа часу. Але, калі б мяне запыталіся, якія ж галоўныя з гэтых уражанняў, якімі агульнымі вывадамі можна было б іх аб'яднаць, то я адказаў бы: гэтых асноўных уражанняў два. Першае — гэта аб краіне. Чэхаславакія — вельмі маляўнічая краіна, краіна прыгожых пейзажаў: прыгожыя яе славацкія даліны, узгоркі Маравіі, чароўныя яе Высокія Татры. Яе прырода асабліва захапляе таму, што даліны і ўзгоркі яе аздоблены старымі і новымі гарадамі і вёскамі, выдатнымі заводамі і фабрыкамі, гледзячы на якія, многа разоў адчуваеш, які працавіты і таленавіты ў працы братні народ Чэхаславакіі.

У Чэхаславакіі многа старыны, але гэтая краіна выглядае цяпер як бы памаладзелай, так багата радуюць вочы яе новабудоўлі, якія сустракаеш на кожным кроку. Многа вякоў налічвае Прага, але і ў ёй ёсць раёны зусім новых будынкаў, дзе адчуваеш сябе так, быццам ты дома, у нашым маладым Мінску.

Другое ўражанне, якое вельмі хвалюе кожнага, хто бывае ў Чэхаславакіі,— гэта надзвычайная гасціннасць, дружалюбнасць яе людзей, іх шчырая сімпатыя да нас, да людзей з Савецкага Саюза. Гэта любоў іх адчуваецца, можна сказаць, ва ўсім. Калі мы паяўляліся на вуліцах, нас часта акружалі цэлыя натоўпы, і не было канца іх роспытам, іх расказам. Не праходзіла і некалькі мінут, як мы адчувалі сябе даўнімі знаёмымі.

Вось звычайныя факты. У адзін з першых дзён жыцця ў Празе мы рашылі паглядзець новы чэшскі фільм. Нас чакала расчараванне: каля кінатэатра стаяла многа людзей, якія сустрэлі нас пытаннем, ці няма лішняга білета? Мы хацелі ўжо вярнуцца назад, але аднаму з нашых недаверлівых таварышаў зажадалася ўсё ж паспрабаваць шчасця. Ён падышоў да касы і як здзівіў нас, калі цераз мінуту вярнуўся з білетамі. Аказваецца, па запытанню, па яго мове касірша зразумела, што ён з Савецкага Саюза, і — дастала білеты.

А вось факт іншы, больш значны. Прыйшоўшы з кінатэатра, мы засталі сваіх таварышаў у кампаніі з незнаёмым чэхам. Асабліва па-прыяцельску трымаўся чэх з адным нашым таварышам. Аказалася, гэта невыпадкова. Мінчанін Нікалай Куцан быў танкістам у войсках маршала Конева і ў майскія дні — трынаццаць год назад! — са сваім танкам вызваляў заходнюю Чэхію і Прагу. Пад Прагай загінулі два яго таварышы. Чэх быў салдатам Чэхаславацкага корпуса, удзельнічаў у баях пад Кіевам, прайшоў вызваліцелем частку Украіны і сваю родную краіну. Хіба ж дзіўна, што яны адчувалі сябе такімі таварышамі, братамі!

Мне здаецца гэтая сустрэча сімвалічнай: такімі сябрамі, братамі з'яўляемся і мы, савецкі і чэхаславацкі народы,— братамі назаўсёды, на вякі!

# ВЫСТУПЛ[ЕНИЕ] ПО РАДИО — «НА РЕСПУБЛИКИ»

Очевидно, никогда не чувствуешь так остро движения времени, как в час встречи с Новым годом. Вот еще год уходит, дни и ночи сомнений, радостей, удач и неудач. В юности мы очень торопим время, забегаем нетерпеливо вперед, с улыбкой прощаемся с прошлым. С годами я чувствую, как к радости встречи, радости надежд, все крепче примешивается грусть: с годами сильнее чувствуешь власть старых привязанностей, старой дружбы. Он был другом, старый наш год, хорошим, добрым другом, и разве удивительно, что печаль прощания щемит в нашем сердце...

Много нового, доброго принес он нам, родной нашей белорусской земле. Новыми стихами и повестями, новыми урожаями и домами порадовал он людей наших, отметил себя в благодарной памяти.

Но неудержим бег времени, грусть о прожитом, о прощании сменяет беспокойно радостное ожидание нового, новой встречи. Что несет нам эта новая встреча, новый, незнакомый, уходящий в даль непрожитых, загадочных двенадцати месяцев год? Мы верим, что нас ждут многие радости, верим, что сделаем то, к чему стремимся: бодро глядим мы навстречу будущему. Наша бодрость не обманет нас, она выросла из нашего опыта: ведь жизнь, освобожденная от несправедливой жестокости прошлых лет, становится год от года все лучше, все прекраснее.

Вся наша тревога, как и тревога всех людей земли, об одном: чтоб был мир на земле, чтоб радовались солнцу наши дети, чтоб спокойно зрели хлеба, чтоб мирно жили дома и улицы. Но мы верим в человеческий разум, верим ■ отрезвляющую силу нашей мощи, в мудрость нашего правительства и нашей партии.

Новый год — для нас, белорусов, двойной праздник. 1 января основана Советская республика Белоруссии, 1 января она встретит еще один — сорок четвертый год своей счастливой, красивой зрелости!

Счастья и силы тебе, родная земля, мирного, хорошего года тебе! Счастья всем вам, знакомые и незнакомые друзья! Счастья вам — от празднично взволнованных минчан, от новогодней, полной великих надежд белорусской столицы!

*1962*

# ВЫСТУПЛ[ЕННЕ] ПА БЕЛАРУС[КІМ] РАДЫЁ — ІНТЭРВ'Ю КАРЭСПАНД[ЭНТУ] АПОШНІХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ. 15.XI.1963 г.

Для мяне, як і для кожнага сав[ецкага] пісьменніка, вялікае значэнне маюць сустрэчы кіраўнікоў партыі з дзеячамі літаратуры і мастацтва, рашэнні чэрвеньскага Пленума ЦК партыі.

Час гэты быў для мяне — і часам вялікага роздуму над шляхамі развіцця літаратуры і часам напружанай, штодзённай працы.

Я звычайна мала працую летам. Лепшы час для работы ў мяне — восень. Але ў гэта лета амаль усе дні прайшлі ў працы, якая даўно хвалюе мяне. Слухачы мае, мабыць, ведаюць, што тры гады назад быў напісан мной раман «Людзі на балоце». Лёс людзей з гэтай кнігі не перастаў мяне хваляваць пасля таго, як я закончыў сваю кнігу. Лёс гэтых людзей у новы час — мой самы вялікі творчы клопат і цяпер. Новы мой раман раскажа пра далейшае жыццё Ганны і Васіля, Хадоські, Яўхіма і другіх герояў. Героі тыя ж, але час, у які яны жывуць, іншы — гэта час вялікіх, складаных перамен у жыцці — час, калі селянін-аднаасобнік павінен стаць на шлях сацыялістычнага жыцця. Перамена гэтая не простая і не лёгкая, як гэта нярэдка паказвалі некаторыя пісьменнікі раней. Я хачу, каб новы мой раман быў праўдзівы, каб сённяшні чытач бачыў, якімі цяжкімі, часам пакутнымі шляхамі ішлі людзі к сённяшняму шчасцю. Многа цяжкага выпадае і на долю, на сэрца, і на плечы і маіх герояў, у прыватнасці і Васіля і Ганны, Хадоські і Хоні, якіх я люблю асабліва, з якімі я таксама як пісьменнік разам трывожуся і радуюся. Пісьменнік — як маці, яго настрой залежыць ад таго, якім настроем жывуць яго героі. Вось і я багата думаю разам са сваімі героямі, багата перажываю за іх. Хочацца, каб гэту любоў і гэты клопат пра шчасце дарагіх мне людзей адчувалі і мае чытачы.

Новы раман мой называецца «Навальніца над полем». Калісьці ён называўся «Звер сочыць з зарасніку», але мне гэта назва перастала падабацца, і я замяніў яе. «Навал[ьніца] над пол[ем]» — гэта і ёсць той твор, які некаторыя чулі па радыё пад назвай «Звер сочыць...».

Калі слухачоў цікавіць мая новая кніга, калі яны хочуць давед[ацца] пра Ганну і Васіля, пра Хадоську, я мог бы параіць ім паглядзець часопіс «Полымя» ў новым годзе — у ім, у «Полымі» будзе ў нумарах 1 і 2 частка майго новага рамана «Навальн[іца] над полем».

Новы раман гэты і ёсць пасільны мой адказ на клопаты партыі і народа аб літаратуры, аб нас, пісьменніках.

## «КРАСНОЙ ЗВЕЗДЕ»

Я принадлежу к поколению, юность которого связана с армией. В небольшом гарнизоне, среди Карпат, у самой границы, прошла моя предвоенная юность — походы, ночные тревоги, боевые учения в горах,— годы трудные и незабываемые. Там же, в Карпатском гарнизоне, могу сказать, началась и моя «деятельность» в области прозы — в газете Киевского Особого военного округа был напечатан первый мой очерк — об опыте работы рядового горно-артиллерийского расчета.

В далеком нашем гарнизоне «Красная звезда» была неизменно желанной гостьей. Она приносила в горные артдивизионы весточки из родных деревень и городов, вести из других частей, из других округов — доносила до нас дыхание большого армейского мира, больших забот необъятной родины.

Потом была война, унесшая в первое же лето большинство моих товарищей. Пришла великая победа. Отшумело много — два десятка — мирных лет. Почти все мои товарищи, прошедшие всю войну, или демобилизовались, или списаны совсем с воинского учета, а «Красная звезда» по-прежнему на воинской службе, по-прежнему в заботах об оборонном могуществе страны.

Сорокалетний юбилей «Красной звезды» — годы и годы трудной и важной работы в родной армии. Много поколений воинов воспитывала наша старшая армейская газета, не одно прошло через ее школу уже после нас, призванных в конце сороковых годов.

От всего сердца приветствую славную газету нашу — испытанного воина и труженика. Желаю тебе, «Красная звезда» наша, самых больших успехов — в твоем, необходимейшем в наши дни деле,— пусть тебя ждут, пусть тебя любят, пусть учатся у тебя — все твои нынешние и будущие читатели, труженики и воины, которые несут и — будут нести — службу во всех наших армейских гарнизонах, на всех постах!

*1964*

# [ТЭЗІСЫ ВЫСТУПЛЕННЯ НА НАРАДЗЕ Ў МАСКВЕ Ў МАІ 1970 ГОДА ПА ПЫТАННЯХ ВАЕННА-ПАТРЫЯТЫЧНАЙ ЛІТАРАТУРЫ]

1. Лиозно Витебской обл.
Встреча ветеранов.
Трое мальчиков подорвались на мине.
26 тысяч убитых. В одном районе.
27 тысяч — все население района.
Распаханы поля битв.
Но еще не заросли окопы в перелесках.
2. Раны войны в сердцах.
Каждый **четвертый**.
3. Земля Белоруссии — арена битв.
Передовой рубеж. Шведы, французы.
Но самая кровавая — последняя.
4. Л[итерату]ра о войне — одно из главных направлений.
В войну — Купала (призыв), Колас.
Кулешов «Знамя». Танк «Янук Селиба».
Начало большой прозы.
К. Чорны. М. Лыньков «Незабыв[аемые] дни».
В армии и партизанах — с оружием.
Во всех больших битвах — белор[усские] писат[ели] — под Москвой, Сталингр[ад], под Берлином.
Жаврук, Шинклер, Сурначев и многие другие пали в боях.
5. Послевоенн[ое] поколение. В прозе:
Брыль, Шамякин, Карпов, Кулаков[ский], Лупсяков.
В поэзии Киреенко, Калачинский, Велюгин.
6. Позже — Адамович, Науменко, Быков, Асипенко, Карпюк. Русск[ие] писатели — Алексеев, Миронов, Круговых. Мемуарная л[итерату]ра.
Козлов, Калинин, Мачульский, Ветров.
Картина войны углубляется.
Писатель может глубже видеть.
На стыке чисто худож[ественной] и мемуарн[ой] л[итерату]р.

Художеств[енно]-документ[альная] л[итератур]а. Новиков.
Минское и Витебск[ое] подполье.
7. Непростительно мало — жизнь современ[ной] армии.
На земле Белоруссии — один из самых замечат[ельных] военных округов — Краснознам[енный] Белор[усский] округ.
Много выступали перед воинами в различн[ых] гарнизонах.
240 выступл[ений] за 4 года.
Круговых, Дракохруст, Кузьмичев, Пинчук — только.
Крупн[ые] писатели в стороне.
Все это люди, связан[ные] с армией, служащие в ней или уволивш[иеся] недавно.
Незнание. На стажировках. На парадах. Малая творческая отдача.
Несколько очерков.
Инертность. Эмоциональность
Встречи с армией
Разговор о характере
Конфл[икты] в совр[еменной] воен[ной] прозе.
Виноваты и руковод[ящие] органы.
Писат. организованн. начало внести.
Приблизить писат[елей] к армии.
Помочь открыть важный мир соврем[енной] армии.

Нам нужна литература суровая, готовящая к суровым испытаниям. Писатель не должен пугать, но не должен и убаюкивать солдат и офицеров призраками легкой победы.

Грозное у нас оружие, но крепко вооружен и коварен враг. Только солдат, готовый к суровым битвам, будет в состоянии достойно встать на защиту отечества.

Значение совещания в том, чтобы обратить внимание к военно-патриотич[еской] теме. Как одной из главных тем л[итерату]ры.

Военно-патриотич[еская] л[итерату]ра — это дело не десятка-двух писателей. Это наша общая забота. Забота всех. Этого требует время. Беспокойное и ответственное наше время.

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ [ТЭЗІСЫ]

Падзякаваць ЦК партыі і ўраду за ўзнагароду.

Падзякаваць тым, хто прывіталі, хто прыйшлі сюды, тым, хто сказалі добрае слова ў газетах і часопісах, прыслалі прывітанні тэлеграмамі.

Падзякаваць зямлі, на якой рос, якая дала сілу і напаіла сваімі сокамі творы мае, творчасць.

Людзям тым, з якімі рос і якія запоўнілі мае творы, без якіх не было б твораў і творчасці. І не было б сэнсу ў творчасці.

Вось і настала пара — ад 50-й вярсты — азірнуцца назад, падвесці, як кажуць, папярэднія вынікі на пройдзенай дарозе.

Шчаслівае маленства, басаногае, пастухоўскае, але — шчаслівае. Радасць — вясне, радасць — вадзе, траве, снегу, небу. Радасць спазнання, радасць чакання, спадзяванняў.

Пачатак свядомага жыцця, поўны таксама чакання, спадзяванняў. Школа ў роднай вёсцы ў Глінішчах, у суседняй — у Алексічах, у раённым мястэчку. Радасць ад таго, што я, здаецца, многае, вельмі многае, змагу і зраблю. Звычайная наіўная самаўпэўненасць маладосці! Захапленне ўсім — паэзіяю, мастацтвам, грамадскай дзейнасцю, каханнем, жаданне праявіць сябе ўсюды, столькі дарог наперадзе, столькі магчымасцей. Шуканне: дзе ж лепш, якую выбраць.

Жыццё ўжо нямала дало горкага: голад, холад, жыццё ўжо паспрабавала праверыць характар на трываласць. Характар адгукаецца чула, але вытрымлівае. Ён поўны аптымізму.

Армейская служба падрыхтавала свае іспыты, па-свойму гартавала. Але ўсё гэта было перадспевам у параўнанні з тым, з чым сутыкнула вайна, якую спаткаў на самай граніцы, у Карпатах, у першы дзень.

Потым ніколі не было такой навалачы бяды, як тады, у тое лета, калі перада мною, дваццацігадовым, ішлі здані першага года вайны, страшнага адступлення на поўдні. Жыццё і смерць ніколі не сутыкаліся так блізка і так востра, і ніколі такой няцвёрдай, зыбкай не была мяжа між іх. І ніколі так цяжка не было захаваць сваё чалавечае, грамадзянскае аблічча, выканаць свой сыноўні, салдацкі абавязак. Я выканаў яго, прайшоўшы праз агонь варожых гармат і выбухі бомб, пад дуламі танкаў і чаргамі кулямётаў.

Я быў адным з мільёнаў. Адным з нямногіх, воляю выпадку, я не застаўся на ваенным полі, у далёкім стэпе, а трапіў у ваенны шпіталь, з якім звязаны ў мяне найшчаслівейшыя дні... Усе далейшыя дні — тыя доўгія яшчэ наступныя ваенныя гады — у мяне засталіся [ў памяці] як гады вялікай трывогі, вялікага цярпення, вялікай мужнасці і вялікіх радасцей і надзей.

З сорак чацвёртага я ўвесь час у Мінску. Тут пачалася новая, іншая паласа, якая адзначана кнігамі, сходамі, рэцэнзіямі, якая ўлілася радком, ці словам, ці проста літараю ў жыццё, у гісторыю горада і якая не мае асаблівай патрэбы ў тлумачэннях, бо лёгка зразумела.

Гэта гады рэалізацыі даўніх спадзяванняў.

Што можна сказаць пра гэту паласу, пра гэту чвэрць стагоддзя, азіраючыся назад?

Магу сказаць, што яна была таксама, па-свойму, нялёгкаю. Салодкі хлеб літаратуры здабываўся ў вымоглівай працы, у супярэчлівых пошуках, у турботах, у якіх радасць нязменна была з горыччу сумненняў і незадаволенасці.

У гэтым салодкім хлебе нямала салёнага смаку і горычы. І непазбежных, і непатрэбных солі і горычы. Як забыць тое, што ў сорак сёмым, калі я пачаў працу над першай сваёй сапраўднай кнігай, мяне абвінавачвалі ў тым, што я дасюль (два гады пасля вайны) пішу пра вайну. З гэтым абвінавачваннем прыйшлося ісці амаль усе пяць гадоў дарогі, з нязвыкла важкаю ношай. Як забыць, што ледзь першая кніга з'явілася ў часопісе, скарочана, яе бязлітасна і бесчалавечна аблаялі ў газеце, ледзь яна выйшла асобнаю кніжкаю ў

свет — яе «изъяли» з магазінаў, на доўгія шэсць месяцаў схавалі ў цёмныя скляпенні складаў.

Помню, што ў такой абстаноўцы хапіла сілы данесці сваю ношу да канца, закончыць кнігу. Тым больш што завяршаць яе давялося ў бальнічным ложку.

Я ўсё ж шчаслівы, кніга гэта потым дала мне багата шчасця, але думаецца, чаму дарога да гэтага шчасця была такой непатрэбна цяжкай?

Азіраючыся назад, мімаволі заўважаеш, як разам з добрымі людзьмі багата было на тваім шляху і такіх «дабрадзеяў», якія заміналі ісці, збівалі з дарогі...

Помнячы ўсё гэта, я навучыўся тады на ўсё жыццё цаніць руку сапраўдных сяброў. І цяпер мне з пашанай і ўдзячнасцю хочацца сказаць, як я багата абавязаны ім і тым, што зрабіў, і сваім адчуваннем шчасця. Не магу не назваць іх, хоць бы некаторых тут — К. Чорнага, Я. Маўра, М. Лынькова, К. Крапіву, А. Фадзеева, Л. Нікуліна, С. Смірнова, не магу не адзначыць з удзячнасцю падтрымку тых, хто памог адчуць упэўненасць мне сваімі, няхай нярэдка наіўнымі лістамі,— незнаёмых сяброў-чытачоў.

Нямала зазнаўшы раней, як добрую неспадзяванасць сустрэў я, а потым перажыў — тую шырокую ўвагу, з якой выйшлі ў жыццё мае апошнія раманы — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». І цяпер, калі лёс іх усталяваўся, не магу не сказаць дзякуй тым, хто першымі падтрымаў аўтара, яшчэ ў пару сумненняў — Я. Скрыгану, Я. Брылю, Р. Бярозкіну, А. Куляшову, Я. Казеку, А. Адамовічу, многім іншым. Хачу ў цэлым адзначыць асаблівую ролю ў гэтым нашай крытыкі.

Мяне лічаць (намякаюць) — несучасным. Гэта няпраўда. Па-першае, я і фармальна — сучасны. «Гарачы жнівень» — адна з першых кніжак пра сучаснасць. Яна напісана ў асноўным у 1946 годзе.

Па гарачых слядах — аб горадзе — аповесці «Дом пад сонцам» і «Зямля, якую любіш», шэраг апавяданняў. П'еса «Пакуль вы маладыя».

Пра сучаснасць — падарожныя нарысы. Уся публіцыстыка. А гэта — добры том.

Далей — «Мінскі напрамак» — у 1947 годзе пра вызваленне Беларусі. Сінтэтычная, абагуленая карціна вайны на Беларусі. Раманы з «Палескай хронікі». Яны

некаторымі трактаваліся як нейкі адыход ад сучаснасці ў спакойны свет мінулага. Ці так гэта?

Пры гэтым гучаць такія галасы, што пісаць пра далёкае лёгка. Калі верыць ім, то нічога не варта на матэрыяле паўвекавой даўнасці напісаць «Вайну і мір» і праз два дзесяткі гадоў ад падзей — «Ціхі Дон», незразумела вось толькі, чаму пакуль ні «Вайны ні міру», ні «Ціхага Дона» мы не маем.

Спроба даследаваць карэнне, вытокі. Я ішоў па вораным полі, але я лічыў патрэбным пракласці, калі змагу, новую, больш глыбокую баразну.

Каб зразумець чалавека, трэба ўбачыць яго ў найбольш важных момантах. У жыццёпісе народа не можа быць ненапісаных, недапісаных ці прыблізна напісаных старонак.

Стараючыся лепш зразумець сябе і свой час у шырокім плане, мы, я думаю, не раз будзем вяртацца ў дзень учарашні, умацоўваць падмурак сённяшняй свадзень учарашні, умацоўваць падмурак сённяшняй ёй літаратуры. Каб больш надзейна ўздымаць наш будынак. Гарачае дыханне мае не толькі сённяшні дзень. Горача можа патыхаць і дзень учарашні.

Хтосьці сказаў: сучаснасці чыстай, самой па сабе, няма. Ёсць мінулае і будучыня. Сучаснасць — сплаў мінулага і будучага.

Дзень сённяшні — гэта дзень учарашні і заўтрашні.

[У сувязі з гэтым я дазволю][1] сабе некаторыя агульныя развагі.

Умоўна развіццё літаратуры можна акрэсліць дзвюма лініямі — па гарызанталі, ушырыню, па вертыкалі — угару і ўглыб.

Дасюль ёсць у нас таварышы, якія разумеюць развіццё толькі ці перш за ўсё па гарызанталі. Літаратура імі бачыцца толькі з пункту гледжання навізны матэрыялу, тэматычнай навізны. Натуральна, што пры такім поглядзе ўсякае імкненне ўзняцца вышэй і прaнікнуць глыбей — непрыметнае [гэтым людзям] і здаецца ім таптаннем на месцы.

Такія таварышы задавольваюцца аглядам першага паверхневага пласта жыцця і, дзіўна, не могуць пагадзіцца, што можа быць у літаратуры і задача наступнага, глыбіннага даследавання жыцця.

---

[1] У рукапісе гэтыя словы закрэслены аўтарам.

Неяк адзін вядомы рускі пісьменнік сказаў, што ў літаратуры ёсць арыфметычны і алгебраічны метады даследавання і што літаратуры трэба выходзіць у свет складаных, дакладных вымярэнняў.

Я разумею значэнне асваення нашай літаратурай новых сфер жыцця, тут трэба весці далей работу, але я разам з тым падкрэсліваю і неадметнае значэнне паглыблення даследаванняў, выяўлення жыцця на сучасным высокім узроўні літаратурнай практыкі.

Думаю, што перад нашай літаратурай як надзённая стаіць задача пераадолення прыблізнасці, спрашчэння, прымітывізму, павышэння агульнай і мастацкай культуры творчасці, больш поўнага выкарыстання неабмежаваных магчымасцей, якія дае мастаку марксісцка-ленінская навука.

Таварышы! Пяцьдзесят гадоў — гэта не так багата, каб паддавацца адчаю старасці. Але гэта і не так мала, каб дазваляць сабе цешыцца ілюзіямі маладосці.

Пяцьдзесят гадоў — гэта пяцьдзесят гадоў.

Гэта пара, калі чалавеку належыць рабіць, як кажуць, папярэднія вынікі. Рабіць без скрухі, але з належнай цвярозасцю. Цвяроза перачытваючы літаратурнае сваё мінулае, высвятляючы ўсё, падсумоўваючы, я не магу не прызнацца, што хоць адчуваю, што лёс мой у цэлым злажыўся ўдала, у мяне няма асаблівых падстаў ганарыцца зробленым.

Без якой-небудзь крывадушнасці ці хітрасці павінен сказаць, што я ў цэлым не ў захапленні ад таго, што зрабіў. Не ў захапленні я таму, што зрабіў не ўсё так, як хацелася б, а па-другое, таму, што зрабіў толькі малую частку таго, што належала. Не для апраўдання, а ў імя праўды я мог бы сказаць, што на гэта былі і важкія прычыны, сярод якіх асноўнаю трэба, відаць, лічыць нашу пасляваенную неўладкаванасць, якая і цяпер замінае некаторым з нас, і наша няўменне засяроджвацца на галоўным — на літаратурнай працы. Мы нярэдка жывём яшчэ з такой неашчаднасцю, нібы нам сапраўды адпушчана, як пра гэта шчодра гаворыцца на юбілейных вечарах, па сотні гадоў. Трэба сказаць, што ў гэтых адносінах мы далёка адышлі ад таго мудрага прыкладу, які даюць нам вялікія працаўнікі літаратуры мінулага, у асобе лепшых пісьменнікаў свету.

*1971*

# ЧАСОПІСУ «БЯРОЗКА»

Я з хваляваннем думаю пра слаўны юбілей роднай нашай «Бярозкі».

«Бярозка», якую мы ведалі як часопіс «Іскры Ільіча», была дарагім спадарожнікам і сябрам нашых дзіцячых гадоў. З ёй звязаны шчаслівыя ўспаміны пра нашы, цяпер далёкія, перадваенныя прыгоды і мары, пра той час, калі жыццё адкрывалася перад намі ўсё шырэй і прыгажэй. Вялікі свет жыцця дапамагала бачыць тады і любімая «Бярозка» наша — «Іскры Ільіча». З цікавасцю, а часта і з хваляваннем чыталі мы апавяданні, нарысы і вершы, якія друкаваліся на яе старонках.

«Іскры Ільіча» не толькі расказвалі нам пра жыццё нашых таварышаў у рэспубліцы і ўсёй краіне, але і нямала рабілі для таго, каб нас заахвоціць да творчасці. У адным конкурсе, які арганізаваў часопіс, асмеліўся прыняць калісьці ўдзел і я. Гэта было, калі не памыляюся, пасля таго, як я скончыў чацвёрты клас. Часопіс надрукаваў некалькі малюнкаў і прасіў нас напісаць па іх апавяданне. Прозвішчы аўтараў лепшых твораў часопіс абяцаў надрукаваць у адным з нумароў. Я напісаў апавяданне вершам, паслаў у рэдакцыю і помню дасюль, з якой радасцю ўбачыў на старонцы часопіса сярод іншых сваё прозвішча: «Янка Мележ». Гэта быў мой першы «пісьменніцкі» поспех, мая першая аўтарская радасць.

Адтуль усё пачалося!.. Дзякуй табе, «Бярозка»!

Ад сэрца зычу табе: будзь заўсёды маладой і добрай, шчырым сябрам дзяцей Беларусі!

*1974*

## ДА ЧЫТАЧОЎ РАМАНА «ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ»

(Прадмова да літоўскага выдання)

Гэта кніга пра маю радзіму, пра блізкіх мне людзей. У ёй апісаны палі і дарогі, якія я бачыў, паказаны людзі, якіх я добра ведаў. Я нарадзіўся ў гэтых мясцінах, сярод балотных прасцягаў беларускага Палесся, жыў сярод гэтых людзей. Пазней, калі я пабачыў іншыя краі і іншае жыццё, я адчуў непарыўную сувязь сваю з гэтым жыццём, зразумеў сэнс яго і хараство яго, і мне неадольна захацелася пра яго расказаць. Я не мог пісаць больш ні пра што датуль, пакуль не раскажу пра гэта жыццё, пра гэтых людзей.

Я адчуваў, што сказаць пра іх,— мой абавязак. Абавязак сына і брата, абавязак сэрца.

Але, акрамя пачуцця любові і разумення абавязку, мяне вяло і моцнае перакананне, што жыццё гэтых людзей важнае тым, што яно — жыццё майго народа. Што ў жыцці маленькіх Куранёў, іх жыхароў можна ўбачыць жыццё таго вялікага свету, які завецца беларускім народам. Што адкрываючы клопаты і дзеі Куранёў, я ў пэўнай меры адкрываю вялікія клопаты і дзеі ўсяго роднага, майго роднага, народа. У важную пару яго гісторыі, ля вытокаў новага шляху яго.

Мне здаецца, што ў жыцці маіх герояў-беларусаў было нямала агульнага з жыццём іх суседзяў літоўцаў. Таму я спадзяюся, што за нялёгкім лёсам герояў гэтай кнігі літоўскі чытач будзе сачыць з разуменнем і цікавасцю.

*1975*

## ПРА ШОЛАХАВА

### 1

Відаць, кожны, хто бярэцца пісаць пра Шолахава, мае адчуванне накшталт таго, якое павінна трывожыць чалавека, што захацеў выказаць сваё разуменне стэпу. Калі стаіць ля краю яго.

Шырокі, неабсяжны, завабны ён — позірк і сэрца захапіў, але што новага сказаць пра яго ў нашы дні — калі столькі людзей яго бачылі, столькі пра яго сказана?

Што не сказана пра Шолахава? Вялікі пісьменнік, палкі мастак, дзівосны майстра? Ён настолькі вядомы чытачам простым і даследчыкам, што думаеш: ці ёсць старонка, якую не адзначыў чытач, радок, які не крануў пранікпівы позірк крытыка?

І разам з тым — які шырокі, багаты праявамі свет перад вачыма тваімі, у адчуванні тваім — як выказаць яго ў нямногіх чытацкіх словах?

Даводзіцца мімаволі пачынаць са слоў, што не спадзяешся выказаць думкі вельмі новыя, сам ведаеш, якія яны абмежаваныя, няпоўныя, схематычныя.

Такім чынам, некалькі асобных, чытацкіх думак пра вельмі вялікі і вельмі знаёмы свет — пра Шолахава.

Пачну з добра вядомай кожнаму ісціны: які б талент ні быў дараваны, які б вялікі ён ні быў, каб здзейсніўся мастак, патрэбна праца. Праца, як вядома, стварыла чалавека, праца стварае і мастака.

Вялікага мастака стварае, думаецца, вялікая праца. Выдатнага мастака, трэба думаць, праца выдатная.

Канечне, далёка не заўсёды вялікія старанні ў літаратуры прыводзяць да вынікаў, адпаведных гэтым стараенням. Але — гэта ўжо неадменна вялікія дасягненні ў ёй, пры наймацнейшым таленце, немагчымы без вялікай працы.

Пісьменніцкая праца нялёгка паддаецца вымярэн-

ню. Праца гэта і талент маюць звычайна няпростае ўзаемадзеянне, акрамя таго, характар гэтага ўзаемадзеяння ў кожнага аўтара мае свае, індывідуальныя асаблівасці. Аднак праца пісьменніцкая таксама мае свае адзінкі вымярэння, колькасныя і якасныя.

Шолахаў па колькасных паказчыках выглядае ў шэрагу іншых даволі сціпла. Усё, што ён апублікаваў, складае якіх восем-дзевяць тамоў, тамоў вузкіх, «талстоўскіх», якія па сучасных звычайных габарытах падпісных выданняў выдавецтва «Художественная литература» падобны як бы на паўтамы.

Два невялікія тамы апавяданняў і публіцыстыкі, два раманы, адзін раман незавершаны... Два раманы, але — якія раманы! Як беласнежныя вяршыні зіхцяць яны нават у ланцугу найвышэйшых дасягненняў савецкай літаратуры за ўсе гады нашай бурлівай жыццядзейнасці. Зрэшты, прыкметныя яны, ззяюць вяршынямі не толькі ў ланцугу нашых гор, але і гор іншых кантынентаў і іншых дзён.

У наш час сёй-той упэўнівае, што рух гісторыі і быццё народнае можна выдатна выказаць і праз аднаго чалавека і што, трэба думаць, час эпапей адышоў у мінулае, але дзеля справядлівасці аддадзім належнае таму, што створана Шолахавым у нядаўні час. Які багаты абліччамі, лёсамі, магутны паток народнага жыцця — радасцей, пакут, надзей, адчаю, пяшчотнасці і жорсткасці, жыцця незваротнага, няспыннага — адкрываецца нашым вачам і нашаму сэрцу ў яго раманах! Які багаты на фарбы і які натуральны, дзівосна праўдзіва і дакладна занатаваны, свет жыве, у спрадвечным абнаўленні, у незвычайных гэтых кнігах!

У кнігах гэтых столькі праўды і жыцця і страсці мастака, што, захоплены, пакораны імі, не толькі даверлівы чытач, але і літаратар, што пабачыў, паспытаў усяго, першым, ды і не толькі пры першым чытанні не здатны разгледзець, якім чынам, якімі словамі створаны жывы свет яго кніг. Але прыгледзімся ўрэшце: у вялізных, поўных супярэчлівага руху фрэсках яго няма не толькі ніводнай фальшывай сітуацыі, памылковага тону, але і нядбайна, недакладна кінутай хоць бы якой фарбы. Можна было б сказаць, што тут усё прадумана, выбрана, узважана, але азначэнні гэтыя кепска адпавядаюць незвычайнай натуральнасці, руху жыцця

ў кнігах, заўсёднай, нязменнай захопленасці мастака тым, што ён малюе, натхненнем, якое адчуваецца з першай старонкі да апошняй.

І ўсё ж — якая велізарная, якая самаадданая праца ў гэтых кнігах!

Уражвае энергія, імклівасць таленту маладога Шолахава, што даваў дзівосную прозу сваю, том за томам, з незвычайнай хуткасцю. Тры тамы «Ціхага Дона», том «Узнятай цаліны» за некалькі гадоў! Прозу такой вартасці, такога ўзроўню — з такой імклівасцю! Такіх узлётаў літаратура бачыла няшмат! Фенаменальны ўзлёт!

Чацвёрты том ствараўся, здаецца, незвычайна доўга і цяжка. Але які цудоўны вынік цяжкіх гэтых год пісьменніка! Якое бліскучае завяршэнне няспынных клопатаў, што запаўнялі пісьменніка паўтара дзесяцігоддзя! Калі чытаеш апошнюю кнігу «Ціхага Дона», дзівішся глыбіням шчымлівай мудрасці яго, мастакоўскім адкрыццям, узнікае, мацнее думка, якую звычайна не кажуць жывым: «Тут адчуваецца рука генія!»

Але ў «Ціхім Доне» рука не толькі вялікага мастака, але і не ў меншай меры — рука вялікага працаўніка. Бязлітасна праўдзівага і патрабавальнага да сябе.

У Шолахава надзвычай шчаслівы лёс. Ужо ад першых тамоў — шырокае, усенароднае, а неўзабаве — і сусветнае прызнанне. У трыццаць пяць гадоў — класік у такой высокай літаратуры, як руская, акадэмік. Аднак дарога перад ім, помніцца, не заўсёды была гладка наезджана, былі на гэтай дарозе, асабліва ў пачатку трыццатых гадоў, няроўнасці і нават ямы, небяспечныя для яго руху. Добра вядомы факт, як у адной з рэдакцый імкнуліся «дапамагчы» маладому Шолахаву палепшыць трэці том «Ціхага Дона». Вядома, праяўляючы клопат аб ім, аб савецкай літаратуры.

Ліст да Горкага дае ўяўленне пра тое, да чаго зводзіўся гэты «клопат» пра аўтара «Ціхага Дона» і пра стан яго душы ў выніку гэтага «клопату». «Дзесяць чалавек прапануюць выкінуць дзесяць розных месцаў... тры чвэрці трэба выкінуць... Збалеўся я за гэтыя паўтара года за сваю работу...»

Так, нялёгка, адчуваецца, было яму. Але ён — выстаяў. Непахісна перакананы ў тым, што праўда яго,

выстаяў і — адстаяў! Збярог выпакутаваную кнігу, што потым заваявала сусветнае прызнанне.

Гэты выпадак, што абышоўся пісьменніку вялікімі, цяжкімі хваляваннямі, дае нам падставы з павагай адзначыць адну важную якасць Шолахава, пісьменніка і чалавека, якая выявілася, зрэшты, ужо з першых, юнацкіх пачынанняў у літаратуры — мэтанакіраваную прынцыповасць у яго адносінах да жыцця і літаратуры, непахіснасць у абароне сваіх перакананняў, моц характару яго.

У акалічнасцях гэтай помнай гісторыі прагледжваецца, думаецца і здатнасць яго добра, пранікліва бачыць. Гісторыя гэта, здаецца мне, паказвае, што малады Шолахаў уздымаўся высока над дробным практыцызмам некаторых дзеячаў ад літаратуры, непахісна ўпэўненых у сваёй мудрасці і здольных бачыць уперад на дзень, на тыдзень. Малады Шолахаў бачыў не ў прыклад ім далёка. Думаецца, адсюль гэта гарачая перакананасць і ваяўнічасць, з якой ён абараняў сваю кнігу.

Думаецца, гэта шолахаўская здольнасць бачыць далёка і шырока, вельмі добра разумець часовае, нетрывалае і — надзейнае, моцнае, бачыць рух жыцця ў сапраўднай яго сутнасці стала адной з якасцей, што забяспечылі такую нязвычную даўгавечнасць, такое ўстойлівае, непадуладнае стварэнню здароўе яго творам. Творам, якім, як паказала бязлітаснае і надзейнае выпрабаванне часам, наканавана жыццё вялікае, відаць, вечнае.

І тая гісторыя з трэцяй кнігай «Ціхага Дона» і многія іншыя факты з пісьменніцкага жыцця і грамадзянскай дзейнасці славутага жыхара станіцы Вёшанскай, і ўся творчасць яго абавязваюць таго, хто піша пра Шолахава, сказаць, што ён — асоба вельмі выразная, своеасаблівая, значная. Вялікая асоба.

У пасляваенныя гады пісьменніцкі поступ яго не быў такі імклівы, як у маладосці. Каб стварыць другую кнігу «Узнятай цаліны», яму спатрэбілася многа гадоў.

Чытачы знемагалі ад чакання. Чытачы падганялі любімага пісьменніка. Але Шолахаў маўчаў. Шолахаў не спяшаўся. Працаваў над кнігай, удасканальваў яе, пакуль не адчуў — усё, можна аддаць. Гады гэтыя з

асаблівай выразнасцю вылучылі перад чытаючым светам такія рысы шолахаўскага характару, як надзвычайная цярплівасць і ўпартасць у рабоце. Бязлітасную патрабавальнасць да сябе.

Часам даводзіцца чуць спрэчкі сярод чытачоў: што лепш, вышэй — «Ціхі Дон» ці «Узнятая цаліна», першая кніга «Узнятай цаліны» ці другая. Можна зразумець вытокі гэтай дапытлівай чытацкай цікавасці, у гэтых спрэчках ёсць, відаць, свая жыццёвая рацыя. Але тут хочацца звярнуць увагу чытача на іншае, на тое, што кожная кніга нясе на сабе водсвет часу! Часу ў сэнсе агульных сацыяльных умоў, поглядаў і часу ў сэнсе стану душы мастака, які стварае твор. Аблічча кожнай кнігі абумоўліваюць, вызначаюць свае заканамернасці. Пра гэта, думаю, трэба памятаць, каб не паддавацца некарыснай у гэтай справе хапатлівасці і легкаважнасці. І хочацца яшчэ звярнуць увагу чытача на такі надзвычай важны факт: кожная кніга Шолахава народжана крайне патрабавальнай, засяроджанай думкай яго, гарачым сэрцам. Кожнай ён аддаваў усё, што мог.

З тымі ж адданасцю і патрабавальнасцю, адчуваецца, працуе ён над цяперашнім раманам сваім «Яны змагаліся за Радзіму».

Запомнілася: пасля нядаўняй сустрэчы з Шолахавым Васіль Шукшын, што пабачыў да гэтага даволі і не меў нібыта схільнасці лёгка траціць эмацыянальную раўнавагу, выйшаў надзіва ўзрушаны. Найглыбейшае ўражанне зрабіла на вопытнага пісьменніка шолахаўская засяроджанасць.

Жыццё вядомага пісьменніка ідзе, здаецца, на вачах у людзей. Жыццё Шолахава, падобна, наогул адкрыта свету цалкам, да жыццёвых драбніц. Але, думаецца, такое ўражанне памылковае, так толькі здаецца.

Ёсць у кожнага чалавека жыццё, пра якое мы можам толькі здагадвацца. Яно адбываецца ў сэрцы, у мазгу чалавека, гэта нябачная, глыбінная частка бачнага жыцця, выток яе, аснова. Унутранае гэта жыццё амаль заўсёды ідзе напружана, у пошуках, у сумненнях, у надзеях.

Пра тое, якім было раней унутранае, глыбіннае жыццё Шолахава, што хвалявала яго, расказалі міль-

ёнам яго бессмяротныя кнігі. Чым цяпер напоўнена яно, што хвалюе яго, што пад тым павярхоўным, што адкрыта кожнаму? Можам здагадвацца, якой напружанай унутранай работай жыве сэрца вялікага пісьменніка.

Нам вядома — Шолахаў працуе. У клопаце, у творчым неспакоі працягваецца, падыходзіць да высокай, юбілейнай адзнакі жыццё выдатнага мастака.

Завяршаючы свае сціслыя чытацкія развагі пра пісьменніка, спрабуючы падагуліць іх, мімаволі задумваешся над тым, як жа вызначыць у цэлым яго жыццё? Якія словы найбольш дакладна належна перададуць тое, чым было і ёсць гэта жыццё, такое яркае, значнае.

І здаецца, лепшае азначэнне яго — подзвіг. Подзвіг пісьменніцкі, подзвіг чалавечы.

2

Кожны пісьменнік — сын свайго народа, і значэнне яго ў рэшце рэшт вызначаецца тым, як ён паказвае свой народ свету, што ён кажа свету ад імя свайго народа.

У гады вялікіх сваіх дзеянняў рускі народ вылучыў мастака-летапісца незвычайнай сілы — думаю, можна сказаць — мастака геніяльнага. Мастак гэты, што нарадзіўся ў глыбінях працоўнага народа, што зазнаў з ім нягоды і радасці, уражвае чытачоў свету найдасканалейшым веданнем жыцця народа, яго спраў і яго душы, мудрасцю, незвычайнай здольнасцю рабіць штодзённасць высокай паэзіяй.

Мне думаецца, у сучаснай літаратуры ніхто іншы не сказаў з такой глыбінёй, такой праніклівасцю, такой мастацкай сілай, хто ёсць рускі народ. Што ёсць яго, народа, шчодра палітая потам і крывёю зямля, яго ў пакутах і радасцях жыццё, яго цяжкая, але вялікая гісторыя.

М. А. Шолахаў бліскуча выканаў свой сыноўскі абавязак перад рускім народам, перад савецкай Расіяй, нараджэнне якой ён так праўдзіва засведчыў.

Аднак праблемы, якія ўздымае пісьменнік у «Ціхім Доне», «Узнятай цаліне», у іншых творах, не ёсць праблемы толькі рускія, нацыянальныя. Гэта разам з

тым і праблемы ўкраінскія і беларускія, праблемы іншых народаў краіны нашай, праблемы агульнасавецкія. Больш таго, многія з гэтых праблем не трацяць жывой сілы сваёй і за дзяржаўнымі межамі нашымі, у іншых дзяржавах, хвалююць сыноў і дачок многіх народаў, блізкіх і вельмі далёкіх геаграфічна. Па сутнасці, на ўсіх кантынентах зямлі. Гэта праблемы найшырэйшай значнасці, агульначалавечай цікавасці.

Выдатная сіла Шолахава ў тым, што людзі і жыццё — клопаты і страсці людскія, найскладанейшы рух жыцця — намаляваны з незвычайным мастацкім майстэрствам, з выключнай праўдай, глыбінёй і мужнасцю.

Мільёны чытачоў свету чула адгукаюцца на шолахаўскае слова. Пра Шолахава можна сказаць, што яго чытачы — усё чалавецтва.

Але да слова Шолахава неабыякавы і літаратары свету. Думаю, няма патрэбы даводзіць, што Шолахаў з шэрагу савецкіх пісьменнікаў робіць найбольшы ўплыў на літаратараў свету.

Пісьменнік ярка рускі, савецкі па праблемах, па ўсяму ладу свайму, Шолахаў разам з тым належыць сусветнай літаратуры. Адзін з буйнейшых мастакоў сучаснасці, ён, безумоўна, пісьменнік сусветнага значэння і сусветнага ўплыву.

Тут можна адзначыць, як вельмі важны для нас факт, што Шолахаў зрабіў моцны і вельмі карысны ўплыў на многіх беларускіх празаікаў.

## 3

Шолахаву належыць вялікая заслуга ў тых адносінах, што ён з незвычайнай праўдай, глыбінёй і размахам адлюстраваў самыя значныя падзеі гісторыі нашага народа: рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, калектывізацыю вёскі, бітвы мінулай вайны. Яго творы разам узятыя ствараюць, па сутнасці, велічны, працягам цэлага паўстагоддзя, населены мноствам жывых людзей мастацкі летапіс гісторыі народа.

Нязменная вартасць шолахаўскага летапісу ў тым, што найшырэйшая, поўная пакут, радасці, змагання карціна народнага быцця намалявана мастаком з сілай магутнага таленту, з майстэрствам, вартым здзіў-

лення, надзвычайным. Раманы яго — цяпер гэта, відаць, прызнана ўсімі — адно з самых высокіх дасягненняў літаратуры XX стагоддзя.

Калі мільёнам чытачоў талент Шолахава дазваляе ўбачыць тое, што паказвае пісьменнік, з адчуваннем жывой рэальнасці, з пачуццём сардэчнай блізкасці, то для літаратуры цудоўнае майстэрства яго мае яшчэ і асаблівае значэнне.

Творы Шолахава для літаратуры нашай — выдатны, найдасканалейшы ўзор, натхняльны прыклад.

Ад Шолахава ідуць жыццядзейныя струмені да ўсяго лепшага, што ёсць у савецкай літаратуры нашых дзён — не толькі рускай. Думаю, што сярод савецкіх літаратур няма ніводнай, якая, найперш проза,— не зведала б жыватворнага ўплыву шолахаўскага генія.

*1975*

# О ШОЛОХОВЕ

Историей и революцией Шолохову суждено было появиться на стыке веков. Суждено было принять эстафету литературы прошлого и понести ее дальше, в наш век.

Продолжение традиций в литературе само по себе дело непростое. Для серьезного художника оно всегда связано с поисками нового, предполагает многие и нелегкие самостоятельные решения. Только в таком случае могут быть созданы подлинные ценности. Только таким образом, и сущности, и можно по-настоящему продолжить традиции.

Молодому, поначалу совсем юному, Шолохову, как и некоторым его товарищам, выпала на долю вдвойне трудная задача. Продолжая традиции, они должны были по существу создавать новую литературу, прокладывать новые пути дальше. Решать необычные задачи.

В этих условиях он поставил перед собой цель самой большой сложности: рассказать о невиданной революционной ломке, о кровопролитнейшей битве, о сотворении нового — в самом трудном жанре, в эпопее. Необычно сложным был герой, которого он решил изобразить,— бунтующие, сражающиеся массы, народ, многоликий, многосудебный.

Время, когда он начинал, было очень беспокойное. Нелегко было, когда он писал «Поднятую целину», когда завершал дело многих лет своей жизни — «Тихий Дон».

Шолохов блестяще справился со своей задачей. Он создал произведения, которые стали образцом новой литературы. Он далеко вперед и вширь раздвинул горизонты литературы.

Совершив писательский и гражданский подвиг, все-

народно и всемирно признанный мастер литературы, он создал свою замечательную традицию.

От Шолохова идут жизнедеятельные токи ко всему лучшему, что есть в советской литературе наших дней, и не только в русской. Думаю, что среди советских литератур нет ни одной, которая — прежде всего проза — не испытала бы благотворного влияния шолоховского гения.

*1975*

## О ШОЛОХОВЕ

**Журналу «Молодая гвардия»**

В связи с 70-летием М. А. Шолохова редакция обратилась к ряду писателей и критиков с просьбой ответить на вопросы:

Каково Ваше понимание значения творчества М. А. Шолохова в истории отечественной и мировой литературы? Какое влияние оказало на Вашу писательскую судьбу творчество М. А. Шолохова?

Каждый писатель — сын своего народа, и значение его в конце концов определяется тем, как он представляет свой народ миру и что он говорит миру от имени своего народа.

В годы великих своих деяний русский народ выдвинул художника-летописца недюжинной силы, думаю, что можно сказать — художника гениального. Художник этот, родившийся в глубинах трудового народа, познавший с ним горести и радости, поразил повидавший всего читающий мир доскональнейшим знанием жизни народа, его дел и его души, знанием, удивительным для юноши, каким он был в пору создания первых книг «Тихого Дона», мудростью, незаурядной способностью обыденность делать высокой поэзией.

Мне думается, в современной литературе никто другой не сказал с такой глубиной, такой проникновенностью, такой художественной силой, кто есть русский народ. Что есть его, народа, щедро политая потом и кровью земля, его в муках и радостях свершающаяся жизнь, его трудная, но великая история.

М. А. Шолохов блестяще исполнил свой сыновний долг перед русским народом, перед Советской Россией, рождение которой он так правдиво засвидетельствовал.

Однако проблемы, поднятые русским писателем в

«Тихом Доне», в «Поднятой целине», в других произведениях, не есть проблемы только русские, национальные. Они вместе с тем и проблемы украинские и белорусские, проблемы других народов страны нашей, проблемы общесоветские. Более того, многие из этих проблем сохраняют живую силу свою и за государственными пределами нашими, в иных державах, волнуют сыновей и дочерей многих народов, близких и очень далеких, в сущности, на всех континентах земли. Это проблемы широчайшей значительности, всечеловеческого интереса.

Неотразимая сила Шолохова в том, что люди и жизнь — хлопоты и страсти людские, сложнейшее движение жизни — изображены с незаурядным художественным мастерством, с покоряющей правдивостью, глубиной и мужеством.

Миллионы читателей мира чутко отзываются на шолоховское слово. О Шолохове можно сказать, что его читатели — все человечество.

Писатель ярко русский, советский по проблемам, по всему строю своему, Шолохов в то же время принадлежит мировой литературе. Один из крупнейших художников современности, он, безусловно, писатель мирового значения и мирового влияния.

*1975*

16 Зак. 3123

# [ВЫСТУПЛЕННЕ Ў БРЭСЦЕ НА МІТЫНГУ, ПРЫСВЕЧАНЫМ 30-годдзю ПЕРАМОГІ]

Мы з вами стоим на земле, которая с виду кажется обычной.

Но это не обычная земля.

Если бы эта земля могла говорить, она рассказала бы вам об ужасах и страданиях, от которых содрогнулись бы сердца.

Если бы эта земля могла говорить, она рассказала бы вам о такой силе духа, о таком героизме, какие потрясли бы всех.

Это — земля страданий и земля героев!

Но земля не умеет говорить. У земли свои заботы, свои обязанности, которые она, несмотря ни на что, исполняет. Земля заботится о продолжении жизни, о том, чтобы жизнь ни на один день, ни на один час не прерывалась.

Земля не терпит ран на своем теле. Она упорно и неотвратимо залечивает их. И заметаются осыпью, зарастают травою окопы и блиндажи, вырастают в воронках березы и липы. С помощью людей она украшает израненные, искалеченные поля свои нивами, поселками, городами.

Год от года израненная эта земля, как и во все времена, буйно цветет яблонями и полевыми цветами, утверждая настойчиво всесилие жизни.

Есть мнение: говорят камни. Да, камни долго сохраняют на себе знаки ран. Да, камни много говорят, стоит только внимательно осмотреть камни Брестской крепости, на территории которой мы стоим.

Красные камни крепости, иссеченные, выдолбленные, красноречиво говорят о том, какая адская сила 22 июня и в последующие дни 1941 года пыталась сломить дух, волю, сопротивление людей, по долгу служ-

бы и в силу случая оказавшихся внезапно в огненном аду.

Но камни говорят не все. Они не могут сказать всего. Они, как и мы, давно живут в условиях мира, и для них привычна мирная тишина. Они обмыты мирными дождями и обласканы мирным добрым солнцем.

Красные камни не могут сказать о главном: о чувствах, о страданиях людей, на которых в то далекое лето, в те страшные дни обрушились огонь и смерть.

Давайте, сквозь умиротворяющую даль тридцати мирных лет, вернемся сердцами в то далекое время, постараемся почувствовать рядом тех людей.

Это были люди такие же, как мы. Живые люди, любящие землю и жизнь, детей, матерей, жен. Это были люди, полные надежд и желания жить. Это были, отметим также, молодые люди, у которых впереди должна была быть долгая и счастливая жизнь.

Среди них были не только мужчины, были женщины и дети.

Вообразим себе, что испытали здесь на этой земле в июньские дни 1941 года женщины и дети, оказавшиеся вдруг в огне, в аду, в который ввергли наш народ бешено рвавшиеся на восток орды Гитлера.

Склоним голову перед страданиями женщин и детей Бреста 1941 года.

Вообразим себе, что испытали здесь на огненной земле Брестской крепости ее солдаты, ее защитники, которые тоже ведь были людьми, и которые тоже по этой причине хотели жить, и которые погибли здесь летом 1941 года. Склоним головы перед их страданиями, пред теми, кто погиб здесь в боях 1941 года.

Почтим их память минутой молчания!

22 июня поставило солдат Бреста перед неотвратимым, жестоким испытанием.

Они выдержали это испытание достойно, как солдаты. Немолодые, пожившие и повидавшие жизнь люди из числа командиров и молодые ребята, по нынешним представлениям — восемнадцати-девятнадцатилетние мальчишки, они встали здесь, на самом западном рубеже страны, чтобы грудью своей защитить Родину, всю великую нашу Родину, которая отсюда простирается бескрайне до Сибири, до дальневосточного Приморья.

«Умираю, но не сдаюсь» — начертано на одном из камней Брестской крепости. «Умираю, но не сдаюсь» — это выбито штыком одного солдата, защитника, но это заявление не одного защитника, это заявление, клятва всех, кто стоял тогда на защите крепости и кто пал на ее священной земле.

«Умираю. Но не сдаюсь... Прощай, Родина!» — обращается к нам из этой далекой дали наш товарищ и брат, солдат 41 года.

«Нет, не прощай!» — говорим мы ему из нашего 1975 года. Мы не прощаемся с вами, защитники Бреста 1941 года, никогда не простимся! Всегда, пока живы мы, пока горячая кровь наполняет наши сердца, будете жить вы в наших благодарных сердцах, в нашей памяти, как живые среди живых!

Поэтому говорим мы вам, герои Бреста, не слова прощания, мы говорим вам: здравствуйте, во веки веков — здравствуйте во славу вашу и славу Родины!

В долгой и трудной войне немецкий фашизм был повержен, и в этой великой победе нашего народа и ваша доля есть, защитники Бреста. Поэтому в праздничный час 30-летия Победы мы благодарно думаем о том, что́ вы совершили в самую трудную и горькую годину первых дней войны. Скорбя о вас, о вашей гибели, мы благодарим вас за то, что вы сделали для победы, для мира на земле, который торжествует вот уже тридцать лет.

Слава вам, герои Бреста. Вечная слава!

*1975*

## О ШОЛОХОВЕ

*Журналу «Волга»*

Шолохову принадлежит исключительная заслуга в том отношении, что он с покоряющей правдой, глубиной и размахом запечатлел крупнейшие события истории нашего народа: революцию, гражданскую войну, коллективизацию деревни, битвы минувшей войны. Его произведения вместе взятые создают, в сущности, величественную, населенную множеством живых людей, охватывающую полстолетия художественную летопись истории народа.

Непреходящая ценность шолоховской летописи в том, что широчайшая, полная страданий, ликования, страстей картина народного бытия изображена художником с силой могучего таланта, с мастерством, удивительным, редкостным. Романы его — теперь это, видимо, признано всеми — одно из самых высоких достижений культуры XX века.

Если миллионам читателей талант Шолохова позволяет увидеть изображаемое писателем с ощущением живой реальности, с чувствами покоряющего сопереживания, то для литературы удивительное его мастерство имеет еще и особое значение.

Произведения Шолохова для литературы нашей — прекрасный, непревзойденный образец, вдохновляющий пример.

От Шолохова идут жизнедеятельные токи ко всему лучшему, что есть в советской литературе наших дней, не только русской. Думаю, что среди советских литератур нет ни одной, которая — прежде всего проза — не испытала бы благотворного влияния шолоховского гения.

*1975*

## СЛОВА ПРА ШОЛАХАВА

Дарагія таварышы! Заўтра спаўняецца семдзесят гадоў Міхаілу Шолахаву.

Ідзе час. Можам сказаць — няспынна і няўмольна ідзе час. Адзначаны нашымі справамі, вялікімі і дробнымі, ён робіць сваё з людзьмі, кладзе на людскія аблічча свае няўхільныя адзнакі.

Час ідзе, нараджаюцца, растуць, дужэюць адны, старэюць другія. Ужо не маладым, не ў гімнасцёрцы вайсковай, не перацягнутым вайсковым поясам бачым мы вялікага суайчынніка нашага са станіцы Вёшанскай. Бачым яго паважным не па-маладому і павольным, з тварам, абветраным часам і пазначаным турботамі многіх гадоў, з густа пасярэбранымі вусамі.

Час сваё робіць з намі, не мінае ён і нашага вялікага сучасніка Міхаіла Шолахава.

Няўмольны час, аднак, не можа нічога зрабіць з шолахаўскімі героямі. Няўладны час над героямі, створанымі талентам Міхаіла Аляксандравіча Шолахава.

Як і дваццаць, і трыццаць, і сорак гадоў назад, нязменнымі, не старэючы і не цьмеючы ў нашых вачах і ў нашых душах, жывуць сваім адзіным жыццём, няскладным часта і разам вялікім, то б'ючыся ў пошуках жыццёвай дарогі і долі, то не раздумваючы надта, яго такія жывыя, такія нібы звычайныя і такія дзівосныя, бессмяротныя героі.

Час няўладны над імі, над іх клопатамі, над іх надзеямі, над іх жыццём.

І нібы не багата, не безліч гадоў таму назад сінее неба над далёкім данскім хутарам, паблісквае ранішняя раса на траве, бяжыць рабацінне па неспакойнай вадзе ціхага Дона, нібы не безліч гадоў той раніцы, у якую вядзе Рыгор Мелехаў каня да Дона — малады бесклапотны хлопец-казак Рыгор, якому на долю бяз-

літасны лёс наканаваў столькі і скрухі, і радасці, і добрых спраў, і злых. І нібы не безліч гадоў таму маладая, зіхатліва прыгожая казачка Аксіння жыве з нялюбым мужам, да таго ўжо нямала паспытаўшы ў сваім, здаецца, ціхім, назаўсёды горкім жыцці. І нібы не безліч гадоў той нібы выпадковай, бяздумнай сустрэчы на звычайным, выбітым нагамі спуску да Дона, тым сустрэчам, з якіх пачалася вядомая ўсяму свету, трывожачая многія гады і многія-многія сэрцы людзей усяго свету цудоўна прыгожая і неразвязна заблытаная любоў, любоў двух, як часам гавораць, звычайных рускіх людзей, якім воляю мастака суджана стаць сярод самых вядомых і самых прывабных герояў свету.

Дзівосна прывабны і жорсткі, і вялікі малюе перад чытачамі свет Міхаіл Шолахаў. Свет, які ўключае ў сябе і ціхую радасць адвечнай працы ў спякотным мірным стэпе, і шалёны хмель казачых атак у баях з кайзераўскімі войскамі, і настойлівую самаадданую дзейнасць тых, што адчулі вялікую праўду Рэвалюцыі і імкнуцца ўліць гэтую праўду ў сэрцы іншых, якія не разумеюць і не бачаць яе. Свет гэты ўбірае ў сябе звычайных земляробаў, якіх час робіць салдатамі ці забойцамі, барацьбітамі за шчасце, за рэвалюцыю ці ворагамі яе, і прафесійных ваенных, вышкаленых у царскіх вучылішчах, у акадэміях, заспетых пераломным часам на раздарожжы эпохі, у якую і яны ідуць рознымі, няпростымі, часта трагічнымі шляхамі. У стракатым свеце гэтым — і дзеці, і жанчыны, і старыя, непрыдумана, непадобна розныя, жывыя,— мноства, неверагоднае мноства самых розных абліччаў, лёсаў,— мноства, імя якому — народ.

Народ у гадзіну найвялікшай, не параўнанай ні з чым барацьбы са старым, звыклым, несправядлівым для большасці, за новае, справядлівае, але нязвыклае і далёка не ва ўсім і не для ўсіх зразумелае, барацьбы, імя якой у сусветнай гісторыі пазначана як Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя ў Расіі, грамадзянская вайна супраць белагвардзейскіх войск і замежнай інтэрвенцыі...

Здаецца, зусім блізка той шэры надвячорак канца зімы і пачатку вясны, калі на хутар Грымячы Лог да свайго былога аднапалчаніна Якава Астраўнова з'яў-

ляецца былы есаул Полаўцаў. Зусім блізка, здаецца, марозны дзень, калі ў той жа Грымячы Лог як пасланец партыі прыязджае былы балтыйскі матрос, а апошнім часам пуцілаўскі слесар Сямён Давыдаў. Другая эпапея Міхаіла Шолахава «Узнятая цаліна» робіць нас неабыякавымі сведкамі і дзейснымі ўдзельнікамі нованга «сатварэння свету», карэнных змен у жыцці сялянга казакаў аднаго з данскіх хутароў. Карціна жыцця, якую малюе тут Шолахаў, не вызначаецца такой эпічнай шырынёю, як у «Ціхім Доне», гісторыя не выступае тут у такім, як у ранейшым рамане, багацці лёсаў, размаху падзей, але жыццё, якое нам адкрываецца, поўна тут сваіх нястрымных імкненняў, трагедый і драм, паказаных з сілаю выдатнага майстэрства. Жыццё, якое нам тут адкрываецца, нясе на сабе водсвет той рэвалюцыі, якая паказана ў «Ціхім Доне», з'яўляецца яе лагічным працягам і выводзіць герояў Шолахава на рубяжы, якія непасрэдна падступаюць да клопатаў перадваенных гадоў, да трывог і барацьбы незабыўнай ваеннай пары.

Абмежаваная вуліцамі і палямі аднаго хутара гэтая кніга глыбінёй і тыповасцю намаляваных у ёй чалавечых турбот вырастае таксама ў сапраўдную эпапею народнага жыцця, годна прадаўжае справу, пачатую «Ціхім Донам».

Як ні багацее наша літаратура пра мінулую вайну,— не старэе, не мізарнее тое, што зрабіў Шолахаў, каб паказаць эпапею непараўнанай ні з чым барацьбы з нямецкім фашызмам у мінулую вайну. Яго нарысы, яго раман «Яны змагаліся за Радзіму» і яго апавяданне «Лёс чалавека» па-ранейшаму сярод самых яркіх і самых высокіх дасягненняў літаратуры пра мінулую вайну.

Рыгор Мелехаў, Аксіння Астахава, Наталля, Панцялей Пракопавіч, Ільінічна, Давыдаў, Нагульнаў, Размётнаў, Лушка, Стральцоў, Лапахін, Андрэй Сакалоў — якое багацце дзівосна жывых людзей паўстае з твораў вялікага савецкага пісьменніка! Іх можна называць і называць, іх, здаецца, не пералічыць нават, яны, па сутнасці, не ўмоўна, а ў самай сапраўднай сваёй існасці ёсць не проста асобныя людзі, многа людзей, а — народ у нібыта безлічы — непаўторных, жывых абліччаў. Непараўнанае ў Шолахава ўменне бачыць і

чуць людзей, народ — часам адной-дзвюх, як бы мелькам кінутых фарб, дастаткова, каб у памяці на ўсё жыццё застаўся жывы вобраз чалавека. Колькі сказаў Шолахаў пра дзеда Грышаку ці старую маці Якава Астраўнова — а якім жывым жыццём жывуць яны ў творах пісьменніка і ў нашай памяці. Некалькіх слоў дастаткова выдатнаму мастаку, каб жылі яны так, што, здаецца, мы іх бачым і адчуваем як блізка знаёмых!

Адна з самых важных рыс Шолахава — яго блізкасць да народа. Усе яго творы сведчаць пра вялікую непарыўную з'яднанасць з народам, пра незвычайнае веданне народных патрэб і надзей. Клопатам пра народ, пра яго дабрабыт і шчасце прасякнуты фактычна кожны твор Шолахава, позірк яго на кожны вобраз. «Я бачыў і бачу сваю задачу як пісьменніка ў тым,— казаў Шолахаў,— каб усім, што напісаў і напішу, аддаць паклон гэтаму народу-працаўніку, народу-будаўніку, народу-герою, які ні на каго не нападаў, але заўсёды ўмеў з годнасцю абараніць створанае ім, абараніць сваю свабоду і гонар, сваё права будаваць сабе будучыню па свайму выбару» (Собр. соч., т. 8, с. 415).

Шолахаў — па ўсіх сваіх пісьменніцкіх і грамадзянскіх якасцях — пісьменнік народны.

Шолахаў здзіўляе размахам бачання жыцця. Тры яго бессмяротныя раманы — гэта, па сутнасці, найшырэйшая ў прасторы і часе эпапея народнага жыцця, жыцця, якое ўбірае ў сябе тры незвычайна напоўненыя зместам і зменамі эпохі. У яго раманах замацаваны навек для людской памяці Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна, вялікі пералом у вёсцы, Вялікая Айчынная вайна.

У творах яго — жыццё ў складаных, крутых зменах, на зломе эпох. Праз чалавечыя лёсы ў іх пісьменнік паказвае, як канчаецца, руйнуецца адна эпоха, пачынаецца, ствараецца новая. Багатыя ўзрушэннямі, драматызмам, працятыя сур'ёзным позіркам пісьменніка, карціны жыцця, якія малюе Шолахаў, поўныя вялікага сэнсу і значэння.

У кожным буйным творы пісьменніка — святло праніклівай і мудрай думкі, глыбокага роздуму над часам, аб якім Шолахаў піша, над чалавечым лёсам, над сэнсам чалавечага існавання. Аб шолахаўскай прозе хочацца сказаць, што гэта ў вышэйшай меры сур'-

ёзная, удумлівая проза, глыбіннае даследаванне шырокага і неспакойнага народнага жыцця. Гэта проза глыбокага філасофскага напаўнення.

Гэта проза ўражвае не толькі маштабамі карцін жыцця, але і магутнасцю думкі.

Найважнейшая адзнака шолахаўскай мастацкай сілы, думаецца, у яго незвычайнай праўдзівасці. Праўда, толькі праўда — гэты кліч, здаецца, нязменна кіраваў пісьменнікам у кожным творы, кожным раздзеле, кожным радку. Выдатны савецкі пісьменнік Канстанцін Федзін так пазначае гэту якасць таленту Шолахава: «Вялізная заслуга Міхаіла Шолахава ў той смеласці, якая ўласціва яго творам. Ён ніколі не ўхіляўся ад жыццёвых супярэчнасцей, няхай то любая эпоха, якую ён адлюстроўвае. Яго кнігі паказваюць барацьбу ва ўсёй паўнаце мінулага і сучаснага. Трагедыю ён не пераводзіць у драму, з драмы не робіць прываблівае чытанне. Трагедыйныя палажэнні не хавае ён у суцешлівыя букецікі палявых кветачак. Але сіла праўды такая, што горыч жыцця, якая б яна нават жахлівая ні была, пераважваецца, пераадольваецца воляю да шчасця, жаданнем яго дасягнуць і радасцю дасягнення...» («Слово о Шолохове», с. 14—15).

Хочацца сказаць некалькі слоў пра значэнне Шолахава для самой нашай літаратуры, для яе развіцця.

Шолахаў увайшоў у савецкую літаратуру ў пару яе станаўлення, ён — адзін з заснавальнікаў савецкай літаратуры. У той час, калі ён пачынаў, у савецкай літаратуры вельмі моцна гучалі маладыя, вельмі задзірыстыя галасы, якія адмаўлялі традыцыі старой, класічнай літаратуры, заклікалі фактычна да разрыву з імі.

Шолахаў выступіў як адзін з тых, што лічылі жыццядзейнымі традыцыі Гогаля і Талстога, Тургенева і Чэхава. Выступіўшы як прадаўжальнік вялікіх традыцый рускай класікі, Шолахаў выкарыстаў той каштоўны вопыт, які набыла руская літаратура мінулага, узбагаціўшы іх сваім талентам, даў правільны, жыццядзейны кірунак савецкай прозе.

Традыцыі не загубілі і не маглі загубіць яго таленту. Грунтуючыся на творчым вопыце пісьменнікаў мінулага стагоддзя, ён зрабіў вялікі крок наперад. Самабытны талент, моцна звязаны з новым жыццём, добра

чуючы покліч новага часу, ён паказаў сябе як выдатны пісьменнік-наватар, які шырока адкрыў шляхі для савецкай літаратуры нашых дзён. Такая сіла ў сплаве сапраўднага таленту і жыцця — яны вядуць наперад, у іх аснове самой — наватарства.

Шолахаўская плынь у літаратуры нашых дзён — адна з самых актыўных і жыццёвых.

Адзначаючы вялікую праўду, якая патыхае і пячэ і грэе сэрца ў творах Шолахава, адзначаючы шырыню свету, які адкрываецца нам у яго раманах і апавяданнях, глыбіню і сур'ёзнасць яго думкі, мы ніколі не перастанем, відаць, захапляцца тым, як вольна, натуральна жывуць у яго творах людзі, кожны са сваім тварам, сваім лёсам, сваёю бядою і надзеяй. Ніколі, відаць, не перастанем захапляцца натуральнасцю, багаццем жыцця людзей і жыцця прыроды ў яго творах!

Здзіўляючыся, радуючыся не раз, не два, мы неаднойчы адзначым з захапленнем яго незвычайнае ўменне бачыць і маляваць людзей і жыццё.

Калі думаем пра рэдкі талент Шолахава, на памяць мімаволі прыходзяць звонкія горкаўскія словы: «вельмі анафемскі таленавіта Расія!» Згадваючы гэтыя словы тут, выказваючы сваё захапленне дзівосным талентам Шолахава, хочацца сказаць: «вельмі анафемскі таленавіты — Шолахаў!»

Таленту гэтаму ў нашы дні ў літаратуры, думаю, няма роўных.

Магутны, незвычайна магутны мастак, летапісец нашых дзён, дзівосны майстар савецкай літаратуры жыве сярод нас.

Калісьці А. М. Горкі расказваў, што У. І. Ленін, гаворачы пра Талстога, запытаў: «Каго ў Еўропе можна паставіць побач?..— З захапленнем адказаў сам: «Няма каго!» З гонарам Ленін адзначыў тады коратка: «Глыба!»

Мне хочацца пераадрасаваць гэтыя цудоўныя ленінскія словы да нашага сучасніка — вялікага савецкага пісьменніка, камуніста Міхаіла Аляксандравіча Шолахава, хочацца, карыстаючыся вобразам У. І. Леніна, з гонарам сказаць пра Шолахава: «З кім яго параўнаць?.. Глыба!»

1975

## ЖУРНАЛУ «ВОПРОСЫ ЛИТЕРАТУРЫ»

1. Какой день или эпизод войны Вам запомнился больше всего и почему?

2. В 1965 году, к 20-летию Победы над гитлеровской Германией, журнал провел среди писателей-фронтовиков анкету, которая, как затем неоднократно отмечала критика, давала представление о состоянии нашей «военной литературы», о наиболее существенных проблемах, стоящих перед художниками, посвятившими свое творчество этой теме. Какие процессы и явления последующих десяти лет были, по Вашему мнению, в этой области литературы наиболее примечательными?

3. Почему, с Вашей точки зрения, хотя со дня Победы прошло тридцать лет и в пору зрелости вошло поколение людей, вообще не видевших войны, тема эта по-прежнему широко разрабатывается литературой и вызывает неослабевающий интерес читателей? Какие ее аспекты кажутся Вам сейчас наиболее важными и актуальными?

4. Будете ли Вы продолжать работать над этой темой?

1. Даже в моей, сравнительно небольшой по времени, длиной в год, фронтовой деятельности было немало дней, события которых врезались в память на всю жизнь. Выделяю первый день войны только потому, что он был первым в этом ряду, что в этот день особенно остро и жестоко чувствовался разлом, происшедший в жизни, страшный, непостижимый. Вчера был мир, жизнь привычно прочная, казалось, долгая. Сегодня — война, все зыбко, ненадежно. Каждое мгновение может оказаться последним.

Помню, как невыносимо тяжко было ощущение невероятной огромности беды. Неопределенности судьбы своей, товарищей: что-то будет!

Было это 22 июня, в Карпатах, в городе Турка, у самой границы.

2. Главная проблема, если говорить о литературе в целом, по моему убеждению, была и остается одна: изобразить войну, свидетелями и участниками которой мы были, во всем ее необыкновенно сложном, многообразном обличье, во всех ее, порой невероятных, особенностях. Изобразить ее как беду и дело всех живших, как явление всеохватное, всепроникающее, в высшей и безусловной степени — всенародное.

В давно привычных словах — Великая Отечественная — в сущности, заключено огромнейшее содержание, вместившее в себя судьбы миллионов и дни и годы труднейших испытаний.

В литературе нашей за предшествующее десятилетие, мне думается, немало сделано — и в смысле более глубокого изображения человека на войне, и — что также важно — в смысле более широкого, полного изображения войны как дела народного.

Важно, что на большой карте войны все меньше остается «белых пятен».

В этом отношении, думаю, очень ценно то, что за эти годы в журналах наших и отдельными изданиями опубликовано множество произведений документального характера, воспоминаний участников войны. Здесь, очевидно, следует сказать доброе слово о многих редакционных работниках, отдавших этому значительному делу немало времени и сил; в первую очередь это благодарное читательское чувство заслужили, мне кажется, работники Воениздата и «Молодой гвардии».

Естественно, не все книги эти одинаково интересны и содержательны. Но есть среди них, по моему мнению, книги очень высоких достоинств. Такими мне, например, представляются книги И. Баграмяна «Так начиналась война», К. Рокоссовского «Солдатский долг», К. Москаленко «На юго-западном направлении». Сильное впечатление произвела на меня книга летчика-штурмовика В. Емельяненко «В военном воздухе суровом», очень правдивая, честная книга.

Самого доброго слова заслуживают отличные фрон-

товые записки К. Симонова «Разные дни войны», опубликованные в «Дружбе народов».

Потрясающей силы книга создана у нас — «Я из огненной деревни...» А. Адамовича, Я. Брыля, В. Колесника, рассказы жителей сожженных белорусских деревень.

Я думаю, что широкое развитие документалистики — факт небезразличный для литературы художественной. Оно, мне представляется, открывает новые возможности для художников, пишущих о войне: бесценный материал, который ныне в распоряжении писателей, не может не обогатить литературу новыми образами и красками.

3. Война, любая большая война, как трагедия и героическое дело народа, всегда заключает в себе заряд огромной эмоциональной силы. Не случайно волнуют нас и теперь давно отшумевшие 1812 год и Крымская война, знакомая нам по «Севастопольским рассказам». Причина этого явления, думается, не только в том, что картины былых битв написаны гениальным художником. Также не только по этой причине волнуют нас более близкие события, происходившие на Тихом Дону или на партизанском Дальнем Востоке («Разгром» А. Фадеева).

Война всегда — страдание, трагедия, героизм в наивысшем проявлении.

Война, которую мы пережили, была, как известно каждому, небывалой, не сравнимой ни с какой прежней. Она была таким огромным, захватившим всю страну, изменившим жизнь и судьбы каждого событием, что последствия ее еще долго будут чувствоваться. И не только нами, видевшими ее в лицо, но и теми, кто знает ее по нашим рассказам, по фильмам, по книгам. Она была такой, что мыслящий, способный чувствовать человек может представить ее и по хорошей книге. Но знакома она, даже детям нашим, не по книгам. Память о ней впитали они вместе с кровью матерей, о ней напоминают раны отцов живых, горькие рассказы об отцах погибших, о ней напоминает тоска теть и бабушек, не дождавшихся с войны молодых своих мужей и сыновей. Двадцать миллионов советских людей, погибших на войне, связаны были и связаны ныне с десятками и десятками миллионов возвратившихся с полей битв,

ждавших дома, тех, которые живут ныне и будут жить завтра.

Но как могут забыть войну те, кто видел ее в лицо, кто бил прямой наводкой по танкам, кого танки расстреливали и утюжили, в ком с годами все острее болят старые раны и кого одолевают нажитые на войне хворобы? Как забыть о войне здесь, на бывшей оккупированной земле, где война сокрушала, давила все и всех, не считаясь ни с чем, не щадя никого, ни старого, ни малого? Где победа добывалась особо высокой ценой, где самое большое мужество и терпение требовалось ото всех. Как можно забыть или спокойно думать о войне здесь, где война забрала почти два с половиной миллиона, каждого четвертого, где она искалечила почти все города, где сожгла сотни деревень, многих из них — вместе с жителями? У нас и теперь немало пустырей на месте бывших деревень, которым уже не суждено возродиться никогда.

Хатынь, известная многим, страшная, скорбная Хатынь, была не одна. Их много, Хатыней, на белорусской земле. И не только на белорусской...

Думаю, сознание того, чем была эта война для нас, будет волновать и тех из наших потомков, которые будут глядеть на нее из грядущего столетия.

Впрочем, память о войне с годами все же утихает. Особенно ■ представлении тех, кто ее не пережил. И тем не менее опыт войны, думается, не исчезнет бесследно: память о ней будет жить и тревожить долго еще и потому, что мир дорог людям и им необходима уверенность, что он полностью обеспечен.

Важнейший аспект в литературе о войне видится мне в том, чтобы, воздавая должное мужеству тех, кто защитил жизнь, запечатлевая эпопею борьбы во всей ее огромности и нечеловеческой трудности, учить ценить мир, жизнь, человека, беречь их.

4. Надеюсь.

*1975*

# МИР НАРОДНОЙ ЖИЗНИ

## О романе Георгия Маркова «Сибирь»

«Какая же ты многоликая, Сибирь! Каких только людей тут не встретишь!» Эта удивленная и восторженная мысль возникает у Кати Ксенофонтовой, героини романа Г. Маркова «Сибирь», но, думается, слова эти могли бы стать эпиграфом ко всему произведению писателя.

История побега из ссылки молодого ученого-большевика Ивана Акимова и история его спасения развернута писателем в широкую картину народной жизни Сибири в канун Великой Октябрьской социалистической революции.

Перед взором читателя со страниц книги встают, сменяя друг друга, в разноречивом движении жизни, в заботах и стремлениях люди этой большой земли — сельский фельдшер и подпольщик Федор Горбяков, его дочь Поля, старый рыбак и охотник, бывший сахалинский каторжанин Федот Федотович Безматерных, «первый хозяин» в селе, плут и кутила Епифан Криворуков, его жена, раба его и его владычица Анфиса, их сын Никишка; покоряющий физической и нравственной красотой труженик из таежной деревушки Степан Лукьянов, его сестра, прекрасная и трагическая Зина, колоритнейший Окентий Свободный, человек, «преодолевший страх перед миром».

Чем дальше разворачивается действие, тем больше растет, становится все богаче лицами и судьбами мир людей, населяющих Сибирь. Они, как и в жизни, очень не похожи друг на друга, хотя живут на одной, суровой, богатой и нищей земле. Братья-разбойники, скопцы Агафон и Агап, отчаянные и беззастенчивые грабители, безвольный и забитый Ермолай Лопаткин, которого братья толкают на преступление перед людьми,

землепашцы, полицейские ищейки и купцы, труженики и паразиты — все они по-разному, по «закону» и нраву своему живут на этой земле.

Георгий Марков видит мир своих героев в его реальных красках. Взгляд писателя зорок и объективен, в этом взгляде чувствуются немалый, прочный опыт, устойчивая житейская убежденность и нелегко добытая житейская мудрость. Любя людей и землю, с которой связана его молодость и поныне — его сердце, писатель всегда принципиален в отношении к своим героям: он далек от всепрощения и умиления. Он умеет любить, ненавидеть, жалеть, презирать.

Его отношение к людям пристрастно в лучшем значении этого слова: оно определяется неизменно тем, как живут они, значением их труда, характером морали, смыслом поступков.

Выразительно и обстоятельно, с живописными реалиями, за которыми ощущается основательное знание, рисует Г. Марков мир криворуковых, филатовых, царских жандармов,— мир хищников. Образы Епифана и Анфисы Криворуковых, их сына Никишки, безусловно, относятся к числу наиболее значительных в романе, даны писателем в диалектической сложности внутренних и внешних связей. Прослеживая их судьбы в романе, писатель шаг за шагом вскрывает сущность этих разных людей, объединенных страстью к наживе, проникнутых недоверием и неуважением друг к другу. Следя за тем, как автор разворачивает их образы, мы, вместе с тем, все время ощущаем, что мир этих людей ненавистен ему. Перо писателя здесь жестко, безжалостно.

Справедливости ради надо сказать, что мир этот, выписанный рельефно и обстоятельно, во многих образах составляет как бы второй план романа. Главное внимание писателя уделено тем, кто трудится в поте лица своего, кто, собственно, является подлинным хозяином Сибири. С удивляющей щедростью вводит Г. Марков в роман новые и новые судьбы трудовых людей. Изображая путь по Сибири сбежавшего из ссылки большевика Ивана Акимова, автор, словно радуясь счастливой возможности, живописует все новые образы, иные — очень тщательно, обстоятельно, другие — бегло, эпизодически.

Фабула романа Г. Маркова в этом отношении близка фабуле некрасовской эпопеи «Кому на Руси жить хорошо». Когда идешь от страницы к странице «Сибири», кажется, что видишь полную движения панораму народной жизни земли, великой и пока все еще малознакомой для художественной литературы. Вот она, видишь ее — в необычном обилии живых лиц, невыдуманных подробностей живой жизни. Отлично выписана Г. Марковым большая трудовая династия Лукьяновых, в судьбах которых автор раскрыл разные и весьма существенные стороны жизни. Сцены, в которых действуют Лукьяновы, стали, по существу, сюжетным центром романа, в них сфокусировано едва ли не самое важное, относящееся к изображению жизни народа.

Больше всего внимания отдано писателем старшему Степану Лукьянову, ставшему и самой крупной удачей писателя в изображении трудовых людей. Степан Лукьянов — человек сильный, смелый и красивый, с высокоразвитым чувством достоинства. Талантливый охотник, человек прочного характера, он олицетворяет собой то лучшее, что воспитали жизнь и время в людях сибирской земли.

Близки к нему и многие другие герои романа, написанные более экономно, но, тем не менее, хорошо запоминающиеся. Среди них есть отличные удачи, вроде, например, мудрой Мамики, Окентия Свободного, или Николки, искусного, талантливого парнишки-тунгуса. Г. Марков вообще любит талантливых, душевно красивых людей. На многих героях как бы ощущаешь влюбленный взгляд автора.

О «Сибири» в целом хочется сказать: в этой книге много любви. Светом любви автора озарены не только лица героев, свет ее на всей красочной панораме земли, написанной Г. Марковым. Вся эпопея Г. Маркова как бы проникнута сыновней преданностью отчей земле, малообжитой, трудной, но милой сердцу.

Думается, потому в романе так щедро и любовно выписаны пейзажи, изображен сибирский быт.

Любовное отношение к изображаемому, к родному миру стало истоком такого привлекательного качества романа, как его поэтичность. Живописный, написанный в точной манере реалистической прозы роман «Сибирь» весь пронизан поэзией. Поэзией земли, поэзией

человеческого труда, поэзией старого и вечно движущегося, обновляющегося бытия.

Охота на зверя, заботы по хозяйству, уединенная жизнь на заимке, долгие переходы на лыжах по таежной целине, будни и праздники — все это написано Г. Марковым выразительно, зримо, за всем этим чувствуется глубокое сыновнее уважение писателя к опыту народа. А с каким увлечением пишет Г. Марков о лучших сторонах народного уклада, вроде схода в пустом доме Калистрата Лычкова, на котором крестьяне сообща обсуждают («обстрамляют») Платона и Савку Охотниковых за хулиганство! «Оступятся хоть единый раз — не жить им в Лукьяновке, сами не уйдут, принудят их к этому: избу по бревнышку раскатают, ворота жердями забьют, огород мусором завалят».

Невольно думается: великое это дело, когда есть у писателя с детства любимая, родная земля. Когда ее всегда помнишь и любишь, когда она — на всю жизнь. У Г. Маркова — она есть: Парабель, Томск, Каргасок, Васюган — не случайны в его романах. Их имена, чувствуется, звучат для писателя как поэзия...

Писатель не таит своей любви к тем, кто живет честно, руководствуясь лучшими законами народной морали. Он полон уважения к самой этой морали, обязывающей человека трудиться, делиться кровом и хлебом со своим знакомым и незнакомым собратом. С уважением и откровенным любованием, не однажды писатель изображает бескорыстие простых людей Сибири, готовых помочь всем, кто нуждается в помощи среди скованных морозами просторов сибирской тайги. «Да чо ты, паря, как можно такое?» — удивляется и обижается хозяин избушки, оказавшейся на пути, Филарет, когда Акимов пытается заплатить за приют и еду. «Разве мы торгаши какие? Не по-людски это! Нет-нет, паря, не позорь нас». Возчик Ефим, переправляющий Акимова по заданию подпольного комитета, наставляет его: «Ты, паря, на будущее остерегайся давать плату за приют. В наших местах такое не принято, и можешь людей ужасть как разобидеть. У нас пригреть человека, накормить его почитается божьим делом. Здешний ли ты, беглец ли, а умереть с голоду тебе не дадут и замерзнуть тоже».

Это стремление помочь ближнему отличает всех

лучших героев романа Г. Маркова. Руководствуясь этим правилом, спасает в трудную минуту Акимова Поля Горбякова, по этому «закону» Федот Безматерных прячет Акимова долгое время на далекой заимке.

Обогащенное неприятием социальной несправедливости, ненавистью к царизму, это благородное начало служит делу революции, приближением которой озарены многие книги Маркова.

Да, Сибирь, которую изображает Г. Марков,— это Сибирь не только величественных пейзажей и устоявшихся обычаев. Г. Марков видит ее в движении и борении, он очень точно ощущает время, со всеми его существенными особенностями.

Это время — изнуряющая народ империалистическая война, которая тянется уже третий год, унося кормильцев, разоряя хозяйство. Еще, кажется, покорно несет крест страданий великих сибирский люд, еще как будто прочна власть царских чиновников, еще, похоже, уверенно, как хозяева, скачут по дорогам Сибири жандармы и урядники, гоняясь за беглыми политическими и дезертирами.

Но нет, так только кажется. Г. Марков убедителен в изображении грядущих перемен: под этой внешне как будто закостеневшей поверхностью зреет великое возмущение, накапливаются силы, способные и готовые взломать кажущийся еще как будто таким прочным старый, изживший уже себя мир несправедливости и насилия.

В Сибири зреет революция. Сибирь накануне нее.

Г. Марков правдиво показывает, как настойчиво ищут лучшие люди народа выход из невыносимо тяжелого положения, как мучительны сомнения и тревоги тех, кто пока не видит отчетливо перспективу. Характер и особенности этих сомнений и поисков хорошо переданы писателем в размышлениях Зины и Степана Лукьяновых. «Стеньку б Разина, Катя! Он бы поднял хоть самых смелых,— высказывает Кате Ксенофонтовой Зина «как самое сокровенное».— А только где он, Стенька-то Разин?! Крепко прижат народишко, не дадут ему не то что спину разогнуть, а даже чуть голову приподнять...»

Близки к этим и сомнения Степана Лукьянова. Сомнения и сокровенные желания.

Но Марков показывает, что зреет уже в Сибири сила, способная возглавить движение народа на его пути к революции.

В романе есть несколько значительных, живых образов тех, кто целеустремленно и смело работает на революцию. Людей этих сравнительно немного, но характеры их выписаны отчетливо, с большой симпатией. Их немного, но за ними Томск, Петроград, Стокгольм, сибирские села и заимки — похоже, всюду есть у партии надежные работники. Мы отчетливо видим только некоторых из них — сельского фельдшера Федора Горбякова, томского «портного» Бронислава Насимовича, но чувствуем за ними многих других. Мы верим в силу этой организации, следя за тем, как ее невидимые работники оберегают, передают из рук в руки пробирающегося через Сибирь в Стокгольм по заданию партии Ивана Акимова.

Есть в «Сибири» эпизоды, которые подчеркивают привлекательность для простых людей идей и деятельности революционеров. Я отнес бы к ним, например, спасение Кати Ксенофонтовой, арестованной в Лукьяновке за революционное выступление. Когда читаешь, как ее спасают, добровольно, по велению сердца, думаешь: сила людей, подобных Ивану Акимову и Кате, в том, что навстречу их воле шла добрая самоотверженная инициатива простых людей, народа.

Писатель очень верно почувствовал, что революция, поднимая массы на борьбу, вместе с тем укрепляла в народе единение, и показал, как извечная сибирская готовность помочь ближнему обретала черты новой, пролетарской солидарности.

Роман Г. Маркова весь устремлен в будущее. И если отблеск этого будущего на лицах у многих героев, то в романе есть герои, которые, в сущности, уже живут будущим, борются во имя его. Это Иван Акимов, Катя Ксенофонтова, старый профессор Венедикт Петрович Лихачев, всю свою жизнь посвятивший заботе о развитии Сибири.

Если Иван Акимов и Катя Ксенофонтова непосредственно участвуют в жизни героев книги, во многом определяют движение сюжета, характер композиции, то образ профессора Лихачева формально проходит как бы стороной. Он живет чаще в беспокойных мыслях

Ивана Акимова да в воспоминаниях Степана Лукьянова. Но для романа образ этот имеет первостатейное значение: не случайно книга завершается отрывками-размышлениями профессора о сокровищах, которые таит в себе сибирская земля, записками, содержащими в себе своеобразную программу будущего Сибири — развития ее производительных сил.

«Родина моя накануне социальных потрясений»,— предсказывает профессор Лихачев. Он предвидит очистительную бурю и приветствует приход ее.

Роман «Сибирь» отличает широкий взгляд на мир, смелость многих художественных решений.

Эти качества были характерны и для прежних произведений писателя — «Строговы», «Соль земли», «Отец и сын». Но в «Сибири» они проявились с наибольшей зрелостью.

Вот почему писателю удалось убедительно показать многообразие связей человека с миром и с временем, поступательное движение времени к революции, к нынешнему дню.

Роман «Сибирь» — значительный успех нашей литературы на одном из труднейших направлений в движении современной прозы — на эпическом.

Когда мысленно обозреваешь творчество Георгия Маркова, то приходишь к мысли, что «Сибирь» можно назвать главной книгой писателя, высшей точкой на пути, которым он шел многие годы.

*1976*

# [ВЫСТУПЛЕННЕ НА VII З'ЕЗДЗЕ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР]

Дарагія таварышы, я лічу абавязкам перш за ўсё расказаць пра такую важную частку работы СП, як работа прыёмнай камісіі, якую я ўзначальваю на працягу 10 гадоў. За гэты час прыёмнай камісіяй прынята ў СП — 96 чал. Абмеркаваны дзесяткі другіх кандыдатаў, абмяркованы — і адхілены або адкладзены. Частка тых, хто ўступіў у СП, людзі нялёгкага жыццёвага лёсу, людзі, творчы лёс якіх склаўся няпроста, і прыёмнай камісіі даводзілася сустракацца з жыццёвымі задачамі складанага роду. Натуральна, узнікалі дыскусіі, што нярэдка перарасталі ў гарачыя спрэчкі, вынікі якіх падводзіла тайнае галасаванне. Былі выпадкі, калі да некаторых кандыдатур даводзілася вяртацца і двойчы, і тройчы, і больш разоў.

Сярод тых, хто прыйшоў у СП з вялікім жыццёвым вопытам, хочацца асабліва адзначыць паважанага Р. Р. Шырму, народнага артыста СССР, чалавека, што звязаў свой лёс з літаратурай яшчэ ва ўмовах нацыянальна-вызваленчай барацьбы ў Польшчы. Тут хочацца назваць таксама Ф. М. Янкоўскага, былога партызана-разведчыка, вядомага мовазнаўцу, які цяпер удала дэбютаваў і ў галіне прозы кнігаю «Абразкі».

Большасць тых, хто ўступаў у Саюз, натуральна, моладзь. Былі выпадкі, калі некаторыя ўступалі ў Саюз літаральна ад студэнцкай парты. Калі рашаўся лёс чалавека яркага, перспектыўнага, на пасяджэнні камісіі звычайна была атмасфера радаснай добразычлівасці, я б сказаў, святочнасці. Ярка, шматабяцаюча, чаму падставай былі важкія творы, ішлі ў літаратуру А. Кудравец, А. Жук, А. Разанаў, М. Матукоўскі, В. Казько, І. Сяркоў, Я. Янішчыц і некаторыя іншыя таварышы. На апошнім пасяджэнні з такім настроем мы прынялі

ў Саюз пісьменнікаў Паўла Марціновіча і Галіну Каржанеўскую, двух таленавітых паэтаў, якія, мы ўпэўнены, скажуць яшчэ свае слова ў літаратуры, слова яркае, непаўторнае. П. Марціновічу, дарэчы, 22 гады. Прыкладна ў такім жа ўзросце Г. Каржанеўская. У гэтым узросце прыйшлі ў Саюз і Я. Янішчыц, і А. Разанаў, і В. Іпатава, і нямала іншых.

Вядома, у рабоце камісіі былі і ёсць свае недахопы, лёс чалавечы высветліць іншы раз нялёгка, і сярод нас не было прарокаў, якія б заўсёды маглі прадказаць будучыню кожнага ўступаючага, тым больш што ішлі і ідуць у Саюз не толькі яркія таленты. Нярэдка даводзіцца вагацца, сумнявацца, дабівацца ўпарта ісціны, і бывае, сумненні не спыняюцца і пасля тайнага галасавання, якое, здаецца, ужо ўсё рашыла.

Разам з тым хачу сказаць да маладых, што вышыня, якая называецца прыёмнай камісіяй, не самая цяжкая і высокая і няхай не палохае іх, што там нярэдка прыдзірліва разбіраюць іх творчасць. Іх яшчэ не адзін чакае пільны, нялёгкі экзамен, экзамен трэба будзе трымаць усё жыццё і куды больш адказны — экзамен перад чытачамі, перад народам. Дарога на Парнас услана не толькі ружамі.

Камісія асаблівую ўвагу праяўляла пра рост крытычных нашых радоў, у прыватнасці, былі прыняты рад крытыкаў, якія добра выявілі сябе ў аператыўнай журналісцкай дзейнасці да таго, як у іх паявіліся неабходныя крытычныя тамы. У нашы рады ўвайшлі за гэты час такія сур'ёзныя крытыкі, як В. Бечык, Ул. Гніламёдаў, М. Мушынскі, С. Андраюк і іншыя.

Таварышы, дзесяць гадоў — гэта вялікая частка чалавечага жыцця. Многа энергіі, роздуму, хвалявання аддалі рабоце ў камісіі нязменныя яе члены: А. Васілевіч, В. Вітка, А. Асіпенка, Р. Шкраба, М. Аўрамчык, К. Губарэвіч, Б. Сачанка і іншыя. З прыемнасцю згадваю карысную работу ў камісіі таварышаў, якіх чамусьці, на жаль, вывелі пазней — Н. Гілевіча і А. Вярцінскага. Асабліва хачу адзначыць удзел у рабоце камісіі пісьменнікаў, якія прадстаўляюць нашы вобласці,— А. Пысіна і Ул. Калесніка. Ім на кожнае пасяджэнне трэба было ехаць сотні кіламетраў, і, здаецца, не было такога выпадку, каб яны без уважлівай прычыны не прыехалі або прыехалі не падрыхтаваныя

грунтоўна! Хочацца з гэтай трыбуны і ім і ўсім нашым таварышам сказаць сардэчнае дзякуй!

Думаю, што будзе справядліва, калі скажаце гэта вы, асабліва тыя, хто ўступіў у апошнія дзесяць гадоў, уступіў дзякуючы патрабавальнаму клопату гэтых таварышаў. Мы рабілі ўсё што маглі, каб у нашу арганізацыю і ў літаратуру ішло папаўненне якаснае, годнае. Зроблена нямала: усяго за дзесятак гадоў наша арганізацыя вырасла ні мала ні многа на адну трэць, самую маладую ў цэлым і актыўную. Камісія бачыць свае недахопы, але яна набыла і значны вопыт і, думаю, ахвотна перадасць тым новым членам камісіі, якія прыйдуць на змену ветэранам.

Таварышы, калі я слухаў справаздачны даклад, у мяне амаль увесь час жыла, хвалявала радасная думка: якая ж яна вялікая і багатая, панарама нашай сённяшняй літаратуры. Колькі зроблена не толькі за ўсю гісторыю нашай літаратуры, але і за гэтыя пяць гадоў добрага, а нярэдка і выдатнага. З пачуццём адказнасці і гонару мы можам сказаць, што ў нас ёсць літаратура праўдзівая, сумленная, багатая, літаратура, якая мае права гаварыць ад імя народа як годная яго прадстаўніца ў вялікай сям'і народаў Савецкай краіны.

Гэта — самае важнае і самае радаснае пачуццё, якое напаўняе кожнага з нас на гэтым справаздачным нашым сходзе, які падводзіць вынік значнай часткі нашага жыцця.

Не можа не радаваць тое, што ў нас пануе тут настрой упэўненасці ў заўтрашнім дні і, што асабліва важна,— настрой патрабавальнасці да сябе і іншых. Гэта вельмі важна. Але, адзначаючы гэта імкненне да патрабавальнасці, мы не можам не бачыць, што ёсць іншыя настроі. Калі слухаеш некаторыя выступленні, хвалюе ўражанне, што некаторыя таварышы пад рознымі агаворкамі — пра важнасць, пра цяжкасць тэмы, матэрыялу, дабіваюцца сабе як бы льгот па часці майстэрства.

Трэба помніць, што ў наш «просвещенный век» ідзе паток літаратуры, асабліва на гэту вострa патрэбную «сучасную» тэму, паток у значнай часткы, на жаль, шараваты. Зазначу: у патоку гэтым ёсць і яркія рэчы, мастацкія па-сапраўднаму, сярод іх і нашы беларускія — творы П. Панчанкі, А. Пысіна, А. Русецкага,

А. Адамовіча, І. Пташнікава, Я. Сіпакова, В. Адамчыка, А. Кудраўца, многіх іншых таварышаў. Напрыклад, аповесці і сярод нас малапрыкметнага таленавітага, сапраўднага празаіка Ул. Паўлава.

Нам замест ляманту пра сучасную тэму трэба сур'ёзна і спакойна разабрацца ў тым, што мы маем, ацаніць як мае быць зробленае, выбраць усё, што зроблена належна, не зважаючы на маштабы і аб'ёмы, а кіруючыся адным — неадменным, галоўным крытэрыем — майстэрствам, мастацкай дасканаласцю. Мы жывём у час, калі няма правінцый, калі ў літаратуры злучаны кантыненты, і каб жыць годна, паўнацэнна, трэба быць не горш за іншых, трэба быць па меншай меры на ўзроўні добрых, а яшчэ лепш — лепшых.

Калі б мяне запыталіся, што я лічу самым важным для нас у цяперашні час, я б сказаў: майстэрства, культуру. Думка І. П. Шамякіна пра тое, што талент праяўляецца ўжо ў выбары тэмы, на жаль, з майго вопыту, лішне аптымістычная. Калі згадзіцца з гэтай думкай, то мы павінны перавесці ў ранг таленавітых многія творы, якія цяжка чытаць. Выбар тэмы нічога не вырашае, выбар—гэта толькі выбар тэмы, подступ, толькі пачатак, і ўсё будзе залежыць, наколькі зробіць самае цяжкае — удасца ўзняць гэту тэму на ўзровень сапраўднага мастацтва.

Мы, дзякуй богу, усе ўмеем выбіраць тэму, давайце навучымся пісаць добра, і асабліва на самыя важныя тэмы. З асабістага вопыту магу сказаць, што пісаць пра сённяшні дзень не цяжэй, чым пра любы другі. Пра ўсё пісаць лёгка, калі пісаць лёгка, няякасна, павярхоўна, паспешліва. І ўсё рабіць цяжка, калі рабіць па-сапраўднаму. Нас розніць з Львом Талстым і Анарэ Бальзакам перш за ўсё і больш за ўсё — майстэрства, узровень яго. Між тым бяссмерце і годнае месца Льву Талстому і Анарэ Бальзаку дало як вядома — іменна майстэрства. І В. Мысліўцу будзе ўгатавана бяссмерце і ганаровае званне класіка сусветнага маштабу, калі ён будзе працаваць на ўзроўні Льва Талстога і Бальзака, нават на крыху ніжэйшым. Інакш ніякія тэмы і ўказанне на важнасць іх не памогуць.

Бяда нашага Саюза пісьменнікаў у тым, што мы развучыліся гаварыць адкрыта там, дзе трэба казаць непрыемнае аўтару, асабліва калі аўтар гэты масціты

або займае важную пасаду. Дзякуй богу, адышлі ўжо ў мінулае часы, калі на старонках газет і на пасяджэннях размахвалі крытычнаю дубінкай ды вучылі так, што, бывала, аўтары траплялі ў накаут. Мы навучыліся гаварыць адзін за аднаго стрымана, далікатна, шануючы здароўе, карыстаючыся і намёкамі, і прыёмамі шматзначнага маўчання, што нярэдка аказваецца своеасаблівым і надзіва эфектыўным родам крытыкі. І ўсё ж трэба б — гаварыць, па-сяброўску, з павагай і ўвагай, але проста, адкрыта, гаварыць праўду-матку. А то ж, братцы, будзем абрастаць мохам.

Самым вялікім недахопам нашых твораў я лічу іменна ў тых ці іншых праявах недахоп культуры, майстэрства. Я падкрэсліваю: «у тых ці іншых праявах», таму што брак майстэрства і культуры дае даволі багата розных, зменлівых аблiччаў.

Адна з гэтых небяспечных хвароб, якія рэальна шкодзяць нашай літаратуры, пошласць. Я б сказаў, што гэта хвароба пошласці — можа, найбольш небяспечная, бо яна вельмі ж бывае непрыкметная, бо яна вельмі, бывае, спрытна прыстасоўваецца да патрэб дня, маскіруецца пад сапраўднае жыццё і сапраўднае мастацтва. Яна небяспечна таму, што ў яе ёсць, на жаль, даверлівыя і гарачыя прыхільнікі, чытачы свае і гледачы, і ў даволі значнай колькасці.

Сацыяльная глеба, на якой буяе пошласць, сучаснае, нярэдка фармальна адукаванае мяшчанства. Ды і пошласць нашага часу таксама не проста пошласць, а пошласць адукаваная, нават знешне ідэйная, прыкрытая па-сучаснаму «благопристойно».

Хацелася б, каб наша літаратурная крытыка больш уважліва прыглядвалася да небяспечных з'яў, якія ўзнікаюць, давала ім своечасовую ацэнку. Я асабіста, напрыклад, з неразуменнем заўважаю дзіўную ахвоту некаторых нашых аўтараў да публічнага раздзявання жанчыны, якая стала вельмі прыкметнай у некаторых творах нашага часу. Можам гаварыць пра нараджэнне нейкага нязнанага на нашай тэрыторыі беларускага літаратурнага стрыптызу. Прыкметным пачынаннем гэтай з'явы стаў раман А. Савіцкага «Тры непражытыя дні», з легкадумным востравам на Мінскім моры, дзе маладая голая асоба з вострымі, як жалуды, грудзямі спакусіла спартыўнага гарту экскаватаршчыка. І вось

голыя жанчыны нешта часта сталі вандраваць з твора ў твор, прычым у некаторых творах выходзяць у цэнтр апавядання. Даследчыкам літаратуры давядзецца задумацца над тым, што заняткам гэтым — раздзяваннем гераінь — заняліся не якія-небудзь маладыя зялёныя юнцы, а звычайна людзі сталыя.

Некаторыя творы сучаснага рэалізму аздабляюць такія выразы, што іх з трыбуны і чытаць нельга. А яны друкуюцца чорным па беламу, размнажаюцца ў тысячах і дзесятках тысяч экземпляраў. Можам гаварыць пра не адзінкавыя факты безгустоўшчыны, міма якіх праходзіць наша крытыка.

Я не падзяляю суцэльнага захаплення некаторых таварышаў адносна стану нашых спраў у драматургіі. Думаю, што стан гэты павінен нас трывожыць. Тым больш што, мяркуючы па артыкуле намесніка міністра культуры С. Пятровіча, і ў Міністэрстве культуры няма поўнай яснасці ў гэтай справе. Драматургія наша, на мой погляд, развіваецца аднабакова. Па сутнасці, амаль знікла са сцэны сацыяльная, маштабная драма, драма філасофская, псіхалагічная. Амаль зніклі складаныя, жывыя, глыбокія вобразы. Па сутнасці, спынілася вялікая, важная традыцыя, якая ў беларускім тэатры адзначана «Раскіданым гняздом», «Бацькаўшчынай», «Партызанамі», «Канстанцінам Заслонавым», «Брэсцкай крэпасцю». Здаецца, тэатры развучыліся ставіць такія складаныя, працаёмкія творы. Не выпадкова, мусіць, нядаўна пастаўленае «Раскіданае гняздо» ўжо сышло са сцэны.

Мы забываем, што, называючы К. Крапіву выдатным сатырыкам, мы гаворым толькі пра частку яго драматургічнай дзейнасці. Не, не выпадкова так багата працаваў старэйшына драматургаў нашых у галіне драмы. І дарэмна забываем, што вянец літаратуры — і, значыць, драматургіі — драма.

Хачу выказаць яшчэ адно меркаванне агульнага характару.

Мы ў нашай арганізацыі маем належнае кіраўніцтва: старшыню, намеснікаў, творчыя секцыі і камісіі. Мы ўвесь час імкнёмся ўдасканальваць формы і метады кіраўніцтва, раўняючыся пры гэтым на іншыя арганізацыі.

І пры ўсім тым не трэба асаблівай праніклівасці, каб заўважыць, што кіраўніцтва гэтае далёка не ва ўсім стаіць на чале творчага працэсу.

Розныя секцыі і камісіі працуюць найбольш несістэматычна, пасяджэнні, як правіла, нешматлюдныя, нярэдка ідуць яны вяла, нецікава. Не зважаючы на розныя намаганні, актыўнасць іх ніяк не ўдаецца ажывіць.

Малавата значных, глыбокіх абмеркаванняў развіцця нашай літаратуры і на нашых пасяджэннях прэзідыума і на пленумах праўлення.

Апарат, аператыўны орган, фактычна вымушаны займацца галоўным чынам практычнымі клопатамі, якія год ад году ўсё ўзрастаюць разам з ростам нашай арганізацыі. Творчыя камандзіроўкі, кватэры, юбілеі, пахаванні, паездкі па краіне, паездкі за мяжу, тыдні, дэкады — усё гэта запаўняе дні і месяцы работы сакратарыята. Па сутнасці выходзіць, што для глабальных праблем абагульнення вопыту і высвятлення вялікіх творчых задач часта не хапае ні часу, ні сіл. Ва ўсякім разе з гэтым апарат наш спраўляецца без асаблівага поспеху.

І, трэба сказаць, віна тут не апарату. «Віна» найбольш у самой асаблівасці творчай, пісьменніцкай працы. Даўно вядома, што творчая праца не надта паддаецца цвёрдай рэгламентацыі. Мы пра гэта гаворым і нібыта помнім, але, падобна, не надта можам зміріцца з гэтым. А раптам без кіраўніцтва апарату літаратура пойдзе не туды?

А яна, дарэчы, часам і ідзе не туды, куды скіроўвае апарат. Але ідзе туды, куды трэба, куды выкіроўвае літаратуру жыццё, не заўсёды відныя сілы жыцця, законы развіцця, чуласць таленту.

Ёсць адна вялікая сіла ў нашым пісьменніцкім жыцці — сіла прыкладу. Сіла гэта кліча і кіруе. У гэтых адносінах на жыццё наша моцна ўплываюць, кіруюць намі нашы вядучыя пісьменнікі — К. Крапіва, П. Броўка, П. Панчанка, А. Куляшоў, Я. Брыль, В. Быкаў, А. Адамовіч і многія іншыя.

Больш таго, такім чынам кіруюць нашым Саюзам тыя, каго даўно няма — К. Чорны, М. Багдановіч, Я. Купала. Гэта, па сутнасці, таксама члены нашага сакратарыята.

У гэтых адносінах Саюзам пісьменнікаў СССР кіруюць цяпер, акрамя К. Федзіна і Г. Маркава, М. Шолахаў і А. Твардоўскі, Л. Лявонаў і В. Шукшын, і М. Горкі, і Леў Талстой, і А. Пушкін.

Парадокс? Але гэта так. Саюз пісьменнікаў — гэта Саюз майстроў. І тут галоўнае — прыклад майстра. І ў гэтым шчасце наша, аснова высокага руху літаратуры. Літаратура павінна раўняцца і раўняецца на лепшае, на самыя высокія ўзоры.

Такі ён у сапраўднасці, наш калектыў, наш аб'яднаны, некаранаваны сакратарыят. Гэты сакратарыят не выбіраюць на з'ездах. За яго не галасуюць рукамі, за яго галасуюць сэрцамі. У яго не ўваходзяць па ўзаемнай узгодненасці на сходах, у яго ўваходзяць па вялікаму праву адзіназначных заслуг перад літаратурай, перад народам.

Такая рэальнасць наша: метады кіраўніцтва, якія прыдатны для іншых арганізацый, не заўсёды падыходзяць для нашай арганізацыі. Гэтыя метады нярэдка маладзейсныя, яны мала стасуюцца са спецыфікай творчай работы.

Літаратура, яе воблік ствараецца перш за ўсё не ў кабінетах СП, а ў рабочых кабінетах, у цішыні раскіданых па ўсім горадзе пакояў соцень шчырых, адданых працаўнікоў. Яе стварае жыццёвы вопыт многіх, розум многіх, сэрцы многіх, імкненні многіх і надзеі многіх. Усіх нас.

Гэта наша агульнае багацце. Значэнне гэтага багацця ў тым, што сэрцы нашы пры ўсёй іх рознасці поўніць у рэшце рэшт адно імкненне — імкненне быць карыснымі часу, народу, роднай партыі.

У тым, што гэта так, аснова нашай сілы, запарука нашай надзейнай і годнай будучыні!

*1976*

## ВЫСТУПЛ[ЕННЕ] НА АДКРЫЦЦІ ДЗЁН УКРАІНСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў БЕЛАРУСІ

Дарагія таварышы, шаноўныя госці нашы! Дазвольце ад усяго ўзрушанага да самых глыбінь сэрца вітаць вас у гэтай зале, у сталіцы нашай рэспублікі, у горадзе-героі Мінску!

Ад сэрца віншую з пачаткам вялікага свята дзвюх братніх культур таксама вас, мае дарагія сябры па культуры, беларускія пісьменнікі і работнікі мастацтва рэспублікі, дарагія мінчане!

Таварышы, кожная сустрэча братніх культур — падзея асаблівага, надзвычайнага значэння. Сённяшняя падзея ў гэтым радзе — як зорка першай велічыні, бо сустракаемся мы тут з культурай, якую можна без перабольшання назваць вялікай, якая прадстаўляе тут адзін з найбліжэйшых на доўгіх гістарычных шляхах народаў — народ Украіны!

Глыбокія, значныя пачуцці хвалююць нашы па-святочнаму настроеныя сэрцы.

Украіна, родная, братняя Украіна! Колькі звязана ў нас адчуванняў з гэтым дарагім імем! Успамінаў хвалюючых.

Ёсць на захадзе Украіны маленькі, ціхі гарадок. Ён схаваўся сярод зялёных гор, сярод Карпат. Там, у горадзе Турка, перад вайной мы служылі ў арміі, у горным артылерыйскім палку. Было нас каля дзвюх тысяч чалавек, маладых, дужых хлопцаў, рускіх, украінцаў, беларусаў, узбекаў. Там, на вышыні за Туркаю, дзе і цяпер відны сляды акопаў, мы былі 22 чэрвеня 1941 года. Там пачалася для нас вайна.

Для мяне і маіх таварышаў па палку многія ўкраінскія гарады, вёскі, рэкі памяццю навечна звязаны з ваеннымі паходамі, баямі, жорсткім ваенным часам. Многія з маіх таварышаў — маладыя, дужыя — засталіся навек на Украіне, у зямлі яе, аддалі сваё жыццё

за волю яе, за светлы сённяшні дзень. Вайна, бай назаўсёды з'ядналі нашы сэрцы з Украінай, якая стала для нас, былых салдат, як бы другой радзімай.

«Землю, с которою вместе мерз, вовек забыть нельзя»,— сказаў паэт. Зямлю, якую затульваў сабою і якая туліла, берагла цябе, ні забыць, ні разлюбіць нельга да апошніх тваіх дзён.

Думаю, па гэтай прычыне так аддана наведваюць Беларусь нашы ўкраінскія сябры, у тым ліку жаданыя госці нашы на гэтым свяце — Юрый Збанацкі, Аляксандр Бандура і іншыя былыя партызаны і салдаты, для якіх беларуская зямля і беларускі народ з той горкай і слаўнай пары сталі на ўсё жыццё роднымі.

Ёсць вялікая гісторыя, вядомая ўсім. І ёсць гісторыя, якая вядома толькі нямногім, часамі — аднаму, двум. Тысячы і тысячы салдат — беларусаў, рускіх, украінцаў, казахаў, што прайшлі праз Украіну і Беларусь у вайну, запомнілі нашы палі, нашы гарады і нашых людзей кожны па-свойму, сваім сэрцам, і па-свойму, асабіста, сардэчна палюбілі іх вернай, салдацкай любоўю, што не старэе і не ціхне з гадамі.

Тысячы і мільёны сэрцаў і цяпер са спачуваннем і любоўю цягнуцца да Украіны і да Беларусі, як і да вялікай Расіі і да іншых нашых земляў, якія абпаліла бязлітаснае полымя мінулага ліхалецця. Тысячы, мільёны сэрцаў людзей поўніць шчырае, гарачае, нясціхнае пачуццё, імя якому дружба, дружба людзей, дружба народаў.

Дружба гэта вялікая, бо не можа не быць вялікім пачуццё, якое поўніць мільёны сэрцаў і яднае мільёны людзей і лёсаў.

Даўно адгрымела вайна, асыпаліся акопы, многа гадоў ужо зелянеюць і радуюць у пару мірнымі ўраджаямі былыя ваенныя палі. Адбудаваны, узняты ў нязнанай раней красе Кіеў і Мінск, Харкаў і Гомель. Выраслі пакаленні людзей, якія толькі з успамінаў старэйшых і з падручнікаў гісторыі ведаюць, што была вайна. Адвечнае братэрства нашых народаў, цану якога на сваім вопыце так востра зазналі мы ў вайну, набыло даўно іншы, мірны змест. Метал Крыварожжа ідзе цяпер на будаўніцтва мірных беларускіх МАЗаў і БелАЗаў, сціплы і надзейны наш трактар «Беларусь» аддана шчыруе на неабсяжных палях Украіны. Моцны-

мі, дзейнымі жывымі токамі з'яднаны нашы народы, народы-браты, што з дня ў дзень у гераічных буднях новай, 10-й пяцігодкі, кіруючыся вялікімі планамі, якія распрацаваны XXV з'ездам Камуністычнай партыі, сеюць, вараць сталь, будуюць гарады і вёскі, будуюць сённяшняе і заўтрашняе жыццё. Будуюць камунізм.

Тое, што дружба наша ўвесь час абнаўляецца, што яна неабходная нам штогодна і штодзённа, што яна даўно стала абавязковаю ўмоваю паўнацэннага, напоўненага жыцця нашых народаў і кожнага з нас, гаворыць за тое, што вялікай дружбе гэтай суджана жыць заўсёды, вечна!

Дарагія таварышы, беларуская літаратура з самага пачатку свайго развіцця з жывой зацікаўленасцю сачыла, чым жыве братняя ўкраінская культура, карысталася найбольш каштоўным яе вопытам, дзялілася сваім багаццем. Калі гаварыць пра новую нашу літаратуру, пра XIX стагоддзе, то сляды плённага супрацоўніцтва нашых літаратур можна, напрыклад, убачыць у паэме «Энеіда навыварат», дзе яўна адчуваецца ўплыў твора І. Катлярэўскага. Можна з удзячнасцю гаварыць пра дабратворны ўплыў вялікага ўкраінскага кабзара на нашага слаўнага Я. Купалу, на Я. Коласа. Гэтыя традыцыі ўзбагаціў М. Багдановіч, які, нягледзячы на раннюю смерць, нямала здолеў зрабіць, каб умацаваць братэрства нашых літаратур.

З радасцю можам прыгадаць, што госцяй нашага Мінска была слаўная Леся Украінка, што ў Львове знайшла ў цяжкі час прытулак наша паэтэса-рэвалюцыянерка Цётка (Пашкевіч).

Сувязі нашых літаратур сталі па-сапраўднаму жывымі ў савецкі час, ужо ў 20-я гады такімі частымі становяцца ўзаемныя сяброўскія паездкі, пераклады і выданні кніг у братніх рэспубліках украінскіх і беларускіх аўтараў. Як радасную і важную з'яву можам адзначыць выданне на Украіне твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, К. Чорнага, а на Беларусі — твораў М. Рыльскага, А. Галаўко, П. Тычыны, В. Сасюры. Выдатнай падзеяй нашага жыцця ў даваенны час стала святкаванне шаўчэнкаўскага юбілею, які ў Беларусі быў адзначаны выданнем на беларускай мове поўнага тэксту «Кабзара», у перакладзе якога ўдзельнічалі амаль усе лепшыя беларускія паэты.

Новым уздымам у братніх сувязях нашых вылучаюцца пасляваенныя гады. Іменна на гэтыя гады прыпадае найбольшая колькасць узаемных сустрэч і перакладаў. У гэтыя гады ў Беларусі выходзіць новае выданне «Кабзара», тамы твораў Івана Франка, Лесі Украінкі, Міхайла Кацюбінскага, творы М. Рыльскага, А. Малышкі, А. Ганчара, Ю. Збанацкага, М. Стэльмаха, М. Нагнібяды і многіх іншых. Значнай падзеяй у культурным жыцці нашых народаў стаў выхад такіх грунтоўных сумесных работ, як выданне «Анталогіі беларускай паэзіі» на Украіне і «Анталогіі ўкраінскай паэзіі» ў Беларусі.

Шырока ставіліся на беларускай сцэне творы ўкраінскай драматургіі — п'есы А. Карнейчука, Ю. Яноўскага, М. Заруднага, В. Мінка і іншых.

Няма сумнення, што цяперашняя сустрэча наша выкліча новы ўздым у нашых творчых дачыненнях на карысць нашых абедзвюх літаратур і нашых народаў.

Дорогі друзі, гості наші! Ми сердечно вдячні, що ви по братньому відгукнулися на наше запрошення і приїхали на нашу землю, землю ваших давніх і вірних побратимів.

Героїчний Брест і стародавній Вітебськ, зелене росквітле Полісся, гарна наша Мінщина, всі міста і села Білорусії з нетерпінням і зичливістю чекають на вас. Вам відкриті наші дома і наші серця.

Хай лунають над ланами і лісами Білорусії прекрасні українські пісні, хай захоплюють серця людей вогнисті українські танці!

Хай квітне на загальну нашу користь і радість єдність наших мистецтв і літератур, єдність наших братніх народів!

Самого великого успіху вам на землі білоруській, дорогі гості наші, дорогі брати наші!

*1976*

# I

*У дадзены том уваходзяць «Першая кніга» — дзённікі, сшыткі, з запісных кніжак; «Дзённікі, запісныя кніжкі, накіды, слоўнік, пагаворкі, асобныя выразы (напісаны на працягу 1941 — 1976 гг.); аўтабіяграфічныя запіскі «У пачатку вайны», апавяданне «Праз год» (не ўвайшло ў першы том па тэхнічных прычынах), а таксама артыкулы і выступленні 1946—1976 гадоў.*

*У падраздзел накідаў уключаны матэрыялы, якія захоўваюцца ў архіве сям'і І. Мележа на асобных лістах, а не ў запісных кніжках і дзённіках. Тыя ж накіды, што ўваходзяць непасрэдна ў дзённікі і запісныя кніжкі, у асобны падраздзел не выносяцца.*

*Дзённікі і запісныя кніжкі І. Мележа не маюць нумарацыі (акрамя чатырох ваеннага часу). Даты таксама не заўсёды прастаўлены.*

*Увогуле, трэба мець на ўвазе тое, што пададзеныя ў другім раздзеле матэрыялы дзённікаў, сшыткаў, запісных кніжак не рыхтаваліся пісьменнікам да друку. Выключэннем стала толькі «Першая кніга» (1977).*

*Архіў І. П. Мележа пакуль што знаходзіцца ў неапрацаваным выглядзе: каб дапамагчы чытачу глыбей разабрацца ў матэрыялах, якія, бясспрэчна, уяўляюць вялікую літаратурную, навуковую каштоўнасць, было праведзена вывучэнне гэтых матэрыялаў, іх сістэматызацыя. Паслядоўнасць размяшчэння дзённікаў, сшыткаў, запісных кніжак вызначаецца на аснове аналізу іх зместу і супастаўлення з фактамі біяграфіі пісьменніка. Асобныя мясціны дзённікавых запісаў, якія датычаць прыватнага жыцця пісьменніка, яго асабістых адносін, альбо якія не ўдалося расчытаць, апушчаны. Публікацыя дзённікавых матэрыялаў патрабуе ўлічваць іх жанравую асаблівасць, іх адметнасць у параўнанні з літаратурна-мастацкімі творамі.*

II

«Дзённікі, запісныя кніжкі, накіды, слоўнік» друкуюцца ўпершыню выбарачна па рукапісах, якія захоўваюцца ў архіве сям'і І. Мележа. Урыўкі з «Дзённікаў і запісных кніжак» часткова друкаваліся ў час. «Маладосць», №№ 1, 2, 1981 і ў час. «Неман», № 2, 1981.

«Першая кніга» друкуецца па асобнаму выданню «Першая кніга» (дзённікі, сшыткі, з запісных кніжак), Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977.

У аснову «Першай кнігі» пакладзены матэрыялы наступных «Запісных кніжак», якія захоўваюцца ў архіве сям'і І. Мележа:

1. Запісная кніжка-дзённік (усе кніжкі-дзённікі на рускай мове)

1941—1942

По следам войны

У канцы запіс: «Конец 1-й книги. 22.6.—41—6.5—42 гг. 317 дней Великой Отечественной войны». 63 стар.

2. Запісная кніжка-дзённік

По следам войны. Тетрадь 2

Запіс: «Начата 9 мая 1942 года». Стар. 1—16, 30—58.

3. Запісная кніжка № 1, 1/XII—22/IX 1942 г./ без нумарацыі.

4. Запісная кніжка № 2 (разговорная), 23/IX 1942 г. без нумарацыі. У канцы запіс: 24/XI 1942 г., Бугуруслан.

5. Запісная кніжка № 3, 22/XI 1942 г. без нумарацыі. У канцы запіс: 13 апреля 1943 г., Бугуруслан. 186 пунктаў запісу.

6. Запісная кніжка № 4; 14 апреля 1943 г., Бугуруслан. Закончана: 6 апреля 1944 г. 226 пунктаў запісу.

Матэрыялы архіва «Першай кнігі» І. Мележа:

1. Машынапісы на рускай мове без правак пад загалоўкамі:

а) По следам войны 1941—1942 гг. — 1 экз., 54 стар.

б) Госпиталь 1747 Дневник. Книжка 2 — 2 экз., 41 стар.
9 мая —23 сентября 1942 г.

в) Шесть месяцев отпуска Дневник. Книжка 3 — 2 экз., 46 стар.
24 сентября 1942—1 января 1943 г.

2. Машынапісы на рускай мове без правак:

а) Тетрадь.
1. Володя Синюков.
2. Алёша (из рассказа Володи Синюкова).
3. Непейвода.

б) 1. Владимир Синюков.
2. Непейвода (Путешествие).
3. Водопьянов.
3. Алёша.
2. На том берегу.

3. Машынапіс трэцяга экземпляра «Першай кнігі»амаль без правак, які, як устаноўлена намі ў выніку зверкі, быў перадрукаваны з машынапісу на беларускай мове з праўкамі.

4. Машынапіс без правак на беларускай мове пад назвай «Радкі з вайны»:

а) Кніжка першая.

На паўднёвым фронце. 2 экз., 52 стар.
22 чэрвеня 1941 г. — 6 мая 1942 г.

б) Кніжка другая.
На фронце. У шпіталях. 1 экз., 43 стар.
9 мая 1942 г.— 23 верасня 1942 г.
У канцы надпіс: 22.6.— 41—6.5.—42 гг.
317 дзён Вялікай Айчыннай вайны.

в) Кніжка трэцяя.
Водпуск на папраўку. 1 экз., 46 стар.
24 верасня 1942 г.— 1 студзеня 1943 г.

5. Машынапіс на рускай мове з праўкамі (уся «Першая кніга»).

Пісьменнік перадрукаваў запісныя кніжкі, а затым сваёю рукою рабіў дапаўненні з другіх запісных кніжак ці дапісваў занава. Першапачаткова і запісныя кніжкі і «Першая кніга» былі напісаны на рускай мове.

Затым кніга была перакладзена на беларускую мову. Захоўваецца тэкст, перапісаны не аўтарскай рукой. Праўкі, якія маюцца ў тэксце перакладу, зроблены І. Мележам.

6. Пераклад «Першай кнігі» на беларускую мову з праўкамі І. Мележа.

## У ПАЧАТКУ ВАЙНЫ

Друкуюцца па зб. «Белыя вішні і яблыні», «Мастацкая літаратура», Мінск, 1976.

Упершыню — Зб. тв., т. 1, 1969, дзе датуюцца 1941, 1968 гг.

У аснову гэтых аўтабіяграфічных запісак пакладзена дзесяць старонак франтавых запісаў.

У артыкуле «Клопаты мінулага года» (1969) І. Мележ пісаў:

«Адыходзячы год адзначаны для мяне незвычайнай работай. Я дакрануўся да цяжкага мінулага, да старонак, якія абпальваюць сэрца. Шмат гадоў не рашаўся я брацца за гэтую работу. Толькі час ад часу даставаў памятую, моцна пацёртую кніжачку, якую некалі насіў у кішэні франтавой гімнасцёркі.

Паспешлівыя, першыя радкі ўжо дзе-нідзе ледзь відны. Але дзіўна — далёкае зноў пачало ажываць, нібыта было гэта ўчора. Больш таго, памяць уваскрасіла нямала такога, пра што ў спешцы не гаварыла кніжка. І многае з гэтага аказалася нават больш яркім і важным, чым тое, што запісана...

Запісы гэтыя — франтавы дзённік — я вёў у 41-м на Паўднёвым фронце. Гэта быў, па сутнасці, пачатак маёй празаічнай работы. Першыя апавяданні, потым надрукаваныя, былі напісаны пазней, у шпіталі ў Тбілісі» (Іван Мележ. «Жыццёвыя клопаты». Мн., «Мастацкая літаратура», 1975, с. 354—355).

## ПРАЗ ГОД

Друкуецца па зб. «У завіруху», Дзяржаўнае выдавецтва БССР, Мінск, 1946, дзе датуецца 1944 г.

Упершыню — час. «Полымя», 1946, № 1 з падзагалоўкам: з франтавога сшытка.

*К. В. ПІЛІПОВІЧ*

## III

Дзённікі, запісныя кніжкі, накіды — значная і важная частка літаратурнай спадчыны Івана Мележа. Яны дайшлі да нас далёка не ўсе: частка запісных кніжак страчана, і, мабыць, назаўсёды. Сам пісьменнік пра гэта пісаў так: «У адзін з першых дзён вайны, калі прыйшоў загад адступаць, трывожным вечарам закапаў у гайку каля граніцы скрутак з даваенным сваім скарбам — запіснымі кніжкамі, канспектамі, вершамі. Пастараўся прыкмеціць месца сховы.

Думаў вярнуцца неўзабаве. Але пачалося пакутнае, бясконцае адступленне.

Вярнуўся я на былыя нашы пазіцыі толькі гадоў праз пятнаццаць. Месца, дзе былі акопы, знайшоў і пазнаў. Але гаю ўжо не было. І не было знаку маёй сховы.

Зрэшты, я і не стаў шукаць. Увесь даваенны скарб мой прапаў».

Наогул, лёс дзённікаў і запісных кніжак Мележа быў складаны і ў поўнай меры адлюстроўваў у сабе цяжкасці вайны: «Удовенка і ўсе з 657-га прапалі без вестак. Дзе Пісьман, Грыгар'ян, Удовенка — невядома. (Але яны, кажуць, не загінулі.) Карабутэнка, аказваецца, працуе ў «Начеку». Мяне таксама лічылі загінуўшым. Ля Ніжнедняпроўска Землякоў выпадкова знайшоў згублены блакнот. Глядзіць — мой подпіс. Ён аддаў яго Івану».

Закопваючы свае дзённікі і запісныя кніжкі, Мележ дзве ці тры, самых дарагіх, пашкадаваў, пакінуў пры сабе: «Насіў я іх з сабою ў рэчавым мяшку, разам з канцэнтратамі і патронамі. За Уманню, калі наш парадзелы полк адводзілі на перафарміраванне, я паклаў рэчавы мяшок на ўзводную павозку. Недзе ў дарозе за Першамайскім павозка наша разам з узводам звярнула на Кіраваград, а мы, некалькі чалавек, што адсталі трохі, не сустрэўшы «маяка», папраставалі на Нікалаеў».

Можна заўважыць, што свой дзённік пісьменнік вёў нерэгулярна, часам з вялікімі перапынкамі, і больш акуратна тады, калі меў час і сілы: у шпіталі, працуючы ў тылавых установах. «На фронце,— адзначаў І. Мележ,— я не пісаў запісных кніжак. І на скупы дзённік часта не хапала часу і сілы. Але ў шпіталі мяне зноў пацягнула да запісных кніжак. Далей-больш: я завёў блакнот, сшытак, куды запісваў цэлыя апавяданні-нарысы. Зноў час ад часу вяртаўся да вершаў».

Розныя пісьменнікі пішуць дзённікі з рознай мэтай. Адны мала спадзяюцца на памяць, але ў адносінах да Мележа гэта тлумачэнне адпадае, бо як сказаў яму яго аднапалчанін Фядотаў, убачыўшы, што ён усё піша дзённік: «Гэтыя дні і так ніколі не забудуцца». Другія, маючы на ўвазе свае будучыя творы, назапашваюць патрэбны жыццёвы матэрыял, факты, рэаліі, падрабязнасці, апісанні прыроды, партрэты людзей, цікавыя выразы, яркія словы і параўнанні, каларытныя дыялогі, цэлыя бытавыя сцэны, каламбуры, анекдоты, рэплікі, назвы мясцовасцей, лічбы. Усё гэта ёсць у дзённіках, запісных кніжках, накідах Мележа: «Думалася, гэта спатрэбіцца для нейкіх твораў, аб якіх марылася туманна. Не спатрэбілася». Сапраўды, заўважанае і запісанае пісьменнікам потым рэдка калі знаходзіла сваё месца ў ягоных творах. Прынамсі, вельмі цяжка даводзіць, што той або іншы вобраз, фабула,

малюнак, падрабязнасць леглі ў аснову ўжо вядомых чытачу мележаўскіх вобразаў і сюжэтаў. Тым не менш запісы, зробленыя для сябе, з'яўляюцца своеасаблівым дапаўненнем да мастацкіх твораў і могуць быць аднесены да лірыка-публіцыстычнай прозы І. Мележа. Як артыкулы, як і пісьмы, яны паглыбляюць успрыманне твораў пісьменніка, удакладняюць і вытлумачваюць многія яго тэмы і вобразы, нярэдка раскрываюць глыбокі падтэкст. Акрамя гэтага, яны змяшчаюць у сабе мноства фактаў аб жыцці і творчай дзейнасці Мележа, аб яго жыццёвых і літаратурных сувязях і ўзаемаадносінах і служаць крыніцай вывучэння яго біяграфіі. Нарэшце, вялікае значэнне маюць дзённікі і запісныя кніжкі як матэрыял, які асвятляе жыццё нашага грамадства і нашай літаратуры на працягу трох з палавінай дзесяцігоддзяў.

Аднак, перш за ўсё гэта жывое чалавечае сведчанне аб часе і аб самім сабе, якое ўражвае праўдзівасцю, шчырасцю, дакладнасцю. Выдаючы частку дзённікаў, пачынаючы ■ 1941 і канчаючы 1942 годам, І. Мележ меў падставы пісаць: «У гэтай кнізе нічога выдуманага. У ёй толькі тое, што было. Са мной асабіста ці з людзьмі.

Тут запісана тое, што я перажыў, бачыў сваімі вачыма і чуў ад іншых, якія перажылі сваё».

Дзённікі і запісныя кніжкі І. Мележа асабліва выразна і адкрыта паказваюць яго як чалавека, які, паводле яго слоў, заўсёды імкнуўся «быць звязаным з чытачом, народам». Перад намі — шчырая споведзь, якая раскрывае пачуцці, трывогі, сумненні, спадзяванні, думкі, мары пісьменніка. Пазней, разважаючы над прычынамі, якія ляжалі ў аснове яго імкнення занатоўваць адчуванні, роздум, здарэнні, з'явы, падзеі, Мележ прыйшоў да высновы: «Цяпер я разумею больш, чаму так хацелася запісаць усё. Гэта была патрэба жыцця, быў таксама дзённік, больш вольны і шырокі. Неабходная частка таго першага, яго працяг. Яго навакольны свет». «Патрэба жыцця», «уцеха», «сябра», «мой верны спадарожнік» — розныя азначэнні ў розных мясцінах ужывае пісьменнік, калі размова заходзіць пра яго дзённік і запісы. Сапраўды іх роля ў жыцці і творчасці Мележа неадназначная, але адносіны да іх заўсёды надзвычай тонкія, інтымныя: «Гусараў чытае... Жыгалава просяць расказаць казку. У мяне ўцеха-дзённік. Чым ён мне дарагі! У цяжкія хвіліны яму я давяраў свае запаветныя мары і думкі, якія не маглі зразумець лепшыя сябры. З ім у хвіліны адзіноты я шчыра гаварыў і, быццам сябра, слухаў яго. Не песціць нас жыццё, мала ўцех прыносіць яно нам, дзённік — у ліку іх. Ён разрастаецца падрабязнасцямі, цяпер не цікавымі, гэта — для заўтрашніх дзён... Цяжка растлумачыць усё гэта. Атрымліваецца неяк бязладна, блытана. Пасля як-небудзь абдумаем, збяромся з думкамі».

Пісанне дзённіка — надзвычай інтымная справа. Зразумела, што яго аўтар не заўсёды знаходзіў патрэбнае разуменне з боку навакольных людзей, аднапалчан, нават блізкіх сяброў. А запісваць было што! «Надвор'е на дварэ жахлівае. Замяло дарогі. Вецер кідае ў твар пякучыя крупінкі снегу, твар пячэ мароз. Але ў зямлянцы цёпла. Трашчыць саматробная, з бляшанкі, печ. Полымя кідае чырвоныя водбліскі на байцоў, што стоўпіліся ля печы. У такі час можна пачуць многа казак, анекдотаў, успамінаў, жартаў — самых разнастайных. Шкода — няма дзе запісваць, а ўсё

забываецца». Аб тым, што няма неабходных умоў, каб запісваць, Мележ успамінае часта: «Мне няёмка пісаць тут, у палаце. Пісанне прыцягвае ўвагу, выклікае пытанні, пакепліванне. Але пісаць больш няма дзе. Толькі тут, седзячы на ложку. Я стараюся не звяртаць увагі на кепікі. Часу вольнага цяпер многа, і я хачу скарыстаць яго з толкам. У мяне шмат спраў. Мая запісная кніжка запаўняецца патрохі. Я пачаў запісваць таксама расказы Валодзі Сінюкова». «Маімі пісаннямі зацікавілася мой урач. Сёння, калі ішлі на перавязку, яна мяне спытала з цікавасцю: «Што вы пішаце?» Я сказаў, што так, усякую ўсячыну. Яна больш не пыталася, твар яе набыў вельмі дзелавы выраз». «Маімі занятка-мі зацікавілася Жэня. «Што вы ўсё пішаце?» Яна ў мяне выклікае давер'е, у нас з ёй добрыя таварыскія адносіны, але я ўсё ж не сказаў ёй нічога толкам. Усё ж пісанне — гэта справа вельмі асабістая. Інтымная як бы. Яна, можа, трохі пакрыўдзілася. Але сказала, што я пасля перавязак магу займаць яе «кабінет». Гэта — здорава! У кабінеце яе ёсць стол, а галоўнае — можна зачыніцца, быць аднаму. Ніхто глядзець не будзе».

Глыбіня роздуму і багацце назіранняў, якія адлюстраваліся ў дзённіку і запісах І. Мележа, ператвараюць іх у факт літаратурнага і грамадска-палітычнага значэння. Пісьменніцкае апавяданне пра перыпетыі ўласнага лёсу перарастае ў эмацыянальна напружанае апавяданне сведкі і ўдзельніка вялікіх гістарычных падзей, які добра ўсведамляе значэнне і ролю таго, што ён бачыць і чуе: «Усюды баі крывавыя. А тут увесь час гаворка: франтавыя гісторыі, анекдоты. Смех нават. Сёе-тое з гэтых гісторый запішу ў запісную кніжку». Больш таго — ён адчувае сваю асабістую адказнасць за тое, каб перажытае ім асабіста і іншымі, з кім звяло яго жыццё, не было страчана для наступных пакаленняў: «Трэба будзе запісаць яго расказы», «Жахліва думаць і пісаць аб гэтым»,— такія і падобныя да іх словы вельмі часта сустракаюцца ў запісах І. Мележа.

Прыкметна імкненне пісьменніка занатоўваць не толькі найбольш характэрнае, але і падрабязнасці, якія надаюць асаблівы каларыт падзеям і з'явам: «Дзіўна, з нейкім вострым адчуваннем я адзначаў падзеі сённяшняга дня. Дробязі, на якія я звычайна не звяртаў увагі, учэпліваліся ў памяць. Усё нібы вылучала гэты дзень з іншых». Мележа цікавіць усё, чым і сярод чаго жыве чалавек,— надвор'е, пейзажы, прадметы быту, час і месца дзеяння, галоўныя і другарадныя ўдзельнікі падзей, напрамак развіцця гэтых падзей і іх унутраны сэнс. Кожны новы дзень прыносіць яму новыя сустрэчы з людзьмі, ставіць перад нечаканымі праблемамі і задачамі, вымагае хуткай і дакладнай рэакцыі і актыўнага ўдзелу ў жыцці. Чытаючы дзённікі і запісы Мележа ў іх часавай паслядоўнасці, адчуваеш, як паступова пашыраецца і паглыбляецца разуменне ім жыцця і людзей, як накопленыя назіранні і думкі патрабуюць выхаду ў творчасці, як нараджаюцца і развіваюцца мастацкія задумы першых вершаў і апавяданняў. Наогул, для запісаў Мележа характэрная надзвычай высокая мысліцельная і эмацыянальная напружанасць: пісьменнік увесь час шукае дакладнае і выразнае слова, каб выказаць тое, чым жыве і пра што думае, імкнецца сфармуліраваць думкі і погляды, якія маюць для яго прынцыповае значэнне. Асобныя запісы па сваёй пафасу і завершанасці блізкія да публіцыстычнага выступлення.

Змест дзённікаў і запісных кніжак Мележа надзвычай стракаты. Штодзённы быт, роздум пра ўбачанае і пачутае, пра падзеі на фронце, інтымнае жыццё, назіранні, праца, дзелавыя запісы, выпіскі з прачытаных кніг, планы будучых твораў, чарнавікі — усё гэта разам, вялікае і малое, складала ўнутраны змест Мележавага жыцця на працягу трох з палавінай дзесяцігоддзяў. Часам пісьменнік засяроджаны на чыста бытавых клопатах, і старонкі, прысвечаныя гэтаму, раскрываюць той ці іншы бок яго біяграфіі, дазваляючы больш поўна ўзнавіць малюнак яго жыцця і творчасці. Часам жа ён усхвалявана і ўдумліва разважае над агульназначнымі праблемамі жыцця і літаратуры. Апошняе асабліва часта здараецца ў пасляваенныя гады, калі пісьменнік сутыкнуўся з многімі важнымі з'явамі, што патрабавалі свайго тлумачэння. Многія яго запісы, нават у тым выглядзе, у якім зроблены, з'яўляюцца сапраўднымі мастацкімі творамі — апавяданнямі, нарысамі, артыкуламі: цыкл апавяданняў, запісаных са слоў Валодзі Сінюкова, замалёўкі «Ноч чатырох», «Сяброўскія пачуцці», «Тры сустрэчы», «Военное счастье», «Далёкі май», «У горадзе», «Лепшыя гады жыцця», «Стары дуб», «Дзень імянін», «Удава Кацярына» і інш. Самастойным мастацкім творам з'яўляецца падрыхтаваны і апублікаваны аўтарам дзённік 1941 і 1942 гадоў.

Сам Мележ высока цаніў свае запісы і лічыў, што ўсё калісьці заўважанае, асэнсаванае спатрэбіцца ў будучым. Больш таго — ён збіраўся і часткова здзейсніў гэту сваю задуму аддаць на суд чытачу хоць частку запісаў: «Падрыхтаваць кнігу з запісных кніжак і выступленняў. З таго, што было да раманаў і апавяданняў і між іх». Артыкулы і выступленні ўвайшлі ў складзеную самім Мележам кнігу «Жыццёвыя клопаты» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1976), а ваенныя дзённікі, запісы, вершы — у «Першую кнігу» (Мінск, «Мастацкая літаратура», 1977). Пра дзённікі і запісныя кніжкі пісьменнік ва ўступным слове да «Першай кнігі» гаварыў: «Доўгія гады ўсё гэта мне здавалася матэрыялам для нейкага дасканалага твора. Спатрэбілася багата гадоў, каб я зразумеў, што гэта сам па сабе твор, можа, не менш варты, чым той прыдуманы. Бо гэта жывое сведчанне незабыўнага, непадобнага ні на які іншы час».

У пасляваенны час дзённік ужо страчвае свой рэгулярны характар і паступова ператвараецца ў запісы, зробленыя з той або іншай нагоды. Не заўсёды вытрымліваецца асноўны прынцып дзённіка, калі дакладна паказваецца час і месца запісаў: даты і месца прастаўляюцца толькі часам. Велізарная праца над «Мінскім напрамкам» і «Палескай хронікай», грамадскія і творчыя абавязкі, да якіх Мележ заўсёды адносіўся з асаблівай адказнасцю і сумленнасцю, не пакідалі часу для пісання дзённіка. Можна заўважыць, што пісьменнік звяртаўся да свайго дзённіка ў рэдкія моманты «творчага зацішша», калі адзін раман быў скончаны, а асноўная праца над наступным раманам яшчэ не пачалася, калі пісьменнік быў заняты выданнем сваіх твораў або аўтарызаваў пераклады іх на рускую мову. Можна заўважыць і тое, што частата і грунтоўнасць запісаў рэзка змяняліся ў перыяды агульнага грамадскага ўздыму, калі пісьменнік імкнуўся зразумець сэнс вялікіх падзей, што адбываліся ў жыцці савецкага народа ў сярэдзіне пяцідзесятых гадоў. Асаблівае значэнне набыў дзённік і запісныя кніжкі ў апошнія гады жыцця І. Мележа, калі ён ужо

востра адчуваў, што не ўсё задуманае паспее здзейсніць, калі ў яго душы пасялілася трывога. Іменна ў гэты час з'явіўся запіс, дзе гэта трывога і амаль адчай выявіліся ў словах, якія не пакідаюць абыякавымі: «Адламала галіну, на якой поўна зялёных яблык. Я як гэта галіна. Поўна ва мне задум, якія прападуць са мною».

У ранніх і позніх запісах шмат агульнага: нязменны інтанацыйны лад, які дазваляе па некалькіх фразах пазнаць аўтара. Застаецца ўвесь час агульным і падыход пісьменніка да таго, як рабіць запісы: «Зрабіць (пісаць) дзённік. Коратка, сцісла. Толькі факты. Думкі — сцісла. (Назоўнікамі).» Аднак відавочна і тое, што, калі ў ваеннай частцы дзённіка пераважаюць уражанні і падрабязныя апісанні ледзь не ўсіх перыпетый ваеннага лёсу аўтара, то ў пасляваеннай частцы асабліва месца займае лірычны роздум пісьменніка, а манера становіцца больш строгай і выразнай. Усё большую ўвагу Мележа прыцягваюць падзеі і з'явы вялікага грамадскага і агульналітаратурнага значэння. Яго ўжо захапляюць не проста факты, а псіхалогія, «хімія фактаў», калі выкарыстоўваць тут выраз А. М. Горкага.

У дзённіках і запісных кніжках І. Мележа сталага часу пісьменнік шмат разважае пра грамадзянскі абавязак пісьменніка, пра яго адказнасць перад сваім народам, пра чуласць да праўды народнага жыцця, пра ідэйнасць і мастацкасць твораў. У іх выразна чуецца водгулле тагачасных дыскусій і спрэчак у літаратурным асяроддзі. Само жыццё пацвердзіла справядлівасць многіх думак і высноў І. Мележа, яго часцей за ўсё надзвычай трапных, і нярэдка і з'едлівых характарыстык асобных удзельнікаў літаратурнага працэсу. Гэта датычыць яго роздуму пра сапраўдную і ўяўную сучаснасць мастацкага твора, пра неабходнасць філасофскага погляду на гісторыю беларускага народа, што, на думку Мележа, з'яўляецца важнай прыкметай сучаснай літаратуры, пра партыйнасць і народнасць, пра небяспеку правінцыялізму і неабходнасць выводзіць нацыянальную літаратуру на агульнасусветны ўзровень. У той жа час пісьменнік дбаў пра мастацкасць як галоўную прыкмету сапраўднага твора: «Без моцнай хвалюючай філасофскай думкі, ідэі нельга стварыць харошую рэч. Перш за ўсё ідэя, філасофія. Яна — кроў, якая дае жыццё твору! Сюжэт не забываць. Мастацкі твор — мастацкі твор, а не навуковы трактат. Мастацкі твор павінен быць захапляючым і ўздзейнічаць на эмоцыі». Строга судзіў сябе Мележ і за тыя недахопы, якія, на яго думку, былі ўласцівы яго ўласным творам, і ставіў задачу пераадолець іх: «У маіх апавяданнях мала мужнасці. Мастацтва павінна быць мужным». «Пісаць трэба цёпла і разам — мужна», «Сюжэт, востры сюжэт, канфлікт — як толькі магчыма трымаць чытача пры апавяданні», «Канкрэтнасць. Дабівацца зрокавай асязальнасці вобразаў», «У мяне небяспека — натуралізм. Помніць і сцерагчыся», «У мяне мова невыразная. Пісаць вобразна, ярка. Не расцягваць апісанні і псіхалагічныя аналізы (як у К. Чорнага). Маляваць людзей у простай абстаноўцы, з простымі словамі, звычайнымі і нібы няважнымі, але як у жыцці». Многія думкі пісьменніка гучаць як урок жыцця, як школа творчасці. Напрыклад, гэта: «І болей слухаць людзей, гаварыць, у кожнага многа цікавага можна пачуць, многа незвычайных думак, поглядаў. Вучыцца ў людзей, для таго каб іх вучыць». Або гэта: «Не разменівацца на дробязях. Пісаць толькі пра важнае, аддаваць душу».

Урэшце, пасля працяглага роздуму над тым, што такое літаратура, чаго ад пісьменніка чакае масавы чытач, якое месца займае мастацкая творчасць у жыцці народа, І. Мележ стварае цэлую эстэтычную сістэму патрабаванняў, без якіх мастацкі талент не здолее здзейсніцца. Выкарыстоўваючы вядомае чэхаўскае параўнанне: «Краткость — сестра таланта», ён працягвае: «Колькі іх, гэтых сясцёр, у талента? У сям'і, якая павінна быць у пісьменніка?

Здаецца, многа.

Найперш самая строгая сястра — праўда, потым — самая добрая, шчырая сястра — сардэчнасць, трэцяя — разумнасць, тактоўнасць, чацвёртая сястра — глыбіня (погляду, пранікнення ў жыццё), пятая — шырыня (бачання жыцця), шостая — вольнасць унутраная (не скаванасць), сёмая — натуральнасць (безыскусственность — якая ўмее паводзіцца без ламання, без фальшу; такі талент асабліва прыгожы ў жанчын), восьмая... восьмая, можа быць, ёсць кароткасць, але... Дзевятая сястра... Ці не даволі? Ці мала сясцёр яшчэ, якія кожнага любяць па-свойму і па-свойму памагаюць кожнаму. Ведаю адно, чым больш гэта сям'я і чым больш дружнейшая, тым багацей брат-пісьменнік».

Дзённікі, запісныя кніжкі, накіды, слоўнік Івана Мележа трэба разглядаць у двух аспектах: як дакумент чалавечы і як факт грамадска-літаратурны, з боку псіхалагічнага і гістарычнага. З аднаго боку, у іх выяўляецца чалавечная і мужная асоба пісьменніка, пошукі, сумненні, знаходкі, клопаты, з другога — сам час, у які адбывалася творчасць гэтага пісьменніка, складаны, супярэчлівы, хуткаплынны, запоўнены не толькі адкрыццямі, але і стратамі. Усё гэта трэба ведаць і помніць, чытаючы, вывучаючы лірычна-публіцыстычную прозу І. Мележа.

*М. А. ТЫЧЫНА*

IV

## ПАКАЗАЛЬНІК-СЛОЎНІК ГЕАГРАФІЧНЫХ НАЗВАЎ

Адамаўка, вёска ў Лепельскім р-не Віцебскай вобл.

Алагір, горад, цэнтр Алагірскага р-на Пн.-Асецінскай АССР.

Алексічы, вёска ў Хойніцкім р-не Гомельскай вобл.

Алма-Ата, горад, сталіца Казахскай ССР.

Арджанікідзе (да 1931 Уладзікаўказ, з 1944 па 1954 Дзаўджыкаў), горад, сталіца Пн.-Асецінскай АССР.

Армавір, горад раённага падпарадкавання ў Краснадарскім краі РСФСР.

Арцёмаўск, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Арцёмаўскага р-на Данецкай вобл. УССР.

Багучар, горад, цэнтр Багучарскага р-на Варонежскай вобл. РСФСР.

Баку, сталіца, прамысловы і культурны цэнтр Азербайджанскай ССР.

Барабінск, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Барабінскага р-на Новасібірскай вобл. РСФСР.

Баранавічы, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл.

Барысаглебск, горад абласнога падпарадкавання Варонежскай вобл. РСФСР.

Барыслаў, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Барысаглебскага р-на Львоўскай вобл. УССР.

Бугуруслан, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Бугурусланскага р-на Арэнбургскай вобласці РСФСР, радзіма Л. Пятровай, жонкі І. Мележа.

Вазнясенск, горад, цэнтр Вазнясенскага р-на Мікалаеўскай вобл. УССР.

Валакаламск, горад, цэнтр Валакаламскага р-на Маскоўскай вобл. РСФСР.

Валуйкі, горад, цэнтр Валуйскага р-на Белгародскай вобл. РСФСР.

Варашылаўград (да 1935 і ў 1958—1959 Луганск), горад, цэнтр Варашылаўградскай вобл. УССР.

Васількоўка, пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр Васількоўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. УССР.

Волагда, горад, цэнтр Валагодскай вобл. РСФСР.

Вязынка, вёска ў Маладзечанскім р-не Мінскай вобл., радзіма народнага паэта Беларусі Я. Купалы.

Вязьма, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Вяземскага р-на Смаленскай вобл. РСФСР.

Гжацк, да 1968 назва г. Гагарына ў Смаленскай вобл. РСФСР.

Глінішча, вёска ў Хойніцкім р-не Гомельскай вобл., радзіма І. Мележа.

Грозны, горад, сталіца Чэчэна-Інгушскай АССР.

Гур'еў, горад, цэнтр Гур'еўскай вобл. Казахскай ССР.

Дабраполле, горад, цэнтр Дабрапольскага р-на Данецкай вобл. УССР.

Данбас (Данецкі басейн), асноўны вугальны басейн у Еўрапейскай частцы СССР.

Данцыг, былая нямецкая назва польскага горада Гданьска.
Днепрапятроўск, горад, цэнтр Днепрапятроўскай вобл. УССР.
Драгобыч, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Драгобыцкага р-на Львоўскай вобл. УССР.
Дробышава, пасёлак гарадскога тыпу Красналіманскага р-на Данецкай вобл. УССР.
Дэмурына, пасёлак гарадскога тыпу Межаўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. УССР.
Дэрбент, горад рэспубліканскага падпарадкавання, цэнтр Дэрбенцкага р-на Дагестанскай АССР.
Запарожжа, горад, цэнтр Запарожскай вобл. УССР.
Ізюм, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Ізюмскага раёна Харкаўскай вобл. УССР.
Ірміна, горад у Варашылаўградскай вобл. УССР.
Есентукі, горад у Стаўрапольскім краі РСФСР.
Казлоў, сяло, цэнтр Казлоўскага р-на Цярнопальскай вобл. УССР.
Калач, горад, цэнтр Калачэеўскага р-на Варонежскай вобл. РСФСР.
Калінін, горад, цэнтр Калінінскай вобл. РСФСР.
Кёнігсберг, ранейшая назва горада Калінінграда, цэнтра Калінінградскай вобл. РСФСР.
Кіраваград, горад, цэнтр Кіраваградскай вобл. УССР.
Краснаармейск, горад, цэнтр Краснаармейскага р-на Данецкай вобл. УССР.
Краснаводск, горад рэспубліканскага падпарадкавання, цэнтр Краснаводскага р-на Туркменскай ССР.
Краснадар, горад, цэнтр Краснадарскага краю РСФСР.
Куйбышаў (да 1935 — Самара), горад, цэнтр Куйбышаўскай вобл. РСФСР.
Купянск, горад у Харкаўскай вобл. УССР.
Кура, рака ў Грузінскай ССР, Азербайджанскай ССР і Турцыі.
Курск, горад, цэнтр Курскай вобл. РСФСР.
Лісічанск, горад у Варашылаўградскай вобл. УССР.
Ліцін, пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр Ліцінскага р-на Вінніцкай вобл. УССР.
Лоеў, гарадскі пасёлак, цэнтр Лоеўскага р-на Гомельскай вобл.
Луганскае, пасёлак гарадскога тыпу Данецкай вобл. УССР.
Любча, гарадскі пасёлак у Навагрудскім р-не Гродзенскай вобл.
Людзвін, вёска ў Хойніцкім р-не Гомельскай вобл. У Людзвіне жыла цётка Мележа, Вера Дзянісаўна Гарбатая. Мележ бываў тут, калі працаваў у Хойніцкім райкоме камсамола.
Мазыр, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Мазырскага р-на Гомельскай вобл.
Мажайск, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Мажайскага р-на Маскоўскай вобл. РСФСР.
Маздок, горад, цэнтр Маздокскага р-на Пн.-Асецінскай АССР.
Майкоп, горад, адміністрацыйны, эканамічны і культурны цэнтр Адыгейскай аўтаномнай вобл. (у складзе Краснадарскага краю РСФСР).
Макат, пасёлак гарадскога тыпу ў Макацкім р-не Гур'еўскай вобл. Казахскай ССР.
Махачкала, горад, сталіца Дагестанскай АССР.

Мікалаеў, горад, цэнтр Мікалаеўскага р-на Львоўскай вобл. УССР.

Мілерава, горад у Растоўскай вобл. РСФСР.

Мінводы (Мінеральныя Воды), горад у Стаўрапольскім краі РСФСР.

Навасёлаўка, пасёлак гарадскога тыпу Красналіманскага р-на Данецкай вобл. УССР.

Нальчык, горад, сталіца Кабардзіна-Балкарскай АССР.

Навамаскоўск, горад, цэнтр Навамаскоўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. УССР.

Навасібірск, горад, цэнтр Навасібірскай вобл. РСФСР.

Наварасійск, горад краёвага падпарадкавання ў Краснадарскім краі РСФСР.

Навачаркаск, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Навачаркаскага р-на Растоўскай вобл. РСФСР.

Навашахцінск, горад абласнога падпарадкавання ў Растоўскай вобл. РСФСР.

Новая Адэса, пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр Новаадэскага р-на Мікалаеўскай вобл. УССР

Нягневічы, вёска ў Навагрудскім р-не Гродзенскай вобл.

Паўлаград, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Паўлаградскага р-на Днепрапятроўскай вобл. УССР.

Перакоп (Перакопскі перашэек), паласа сушы, якая злучае Крымскі паўвостраў з мацерыком.

Першамайскае, пасёлак гарадскога тыпу Краснаперакопскага р-на Крымскай вобл. УССР

Першамайск, горад абласнога падпарадкавання ў Варашылаўградскай вобл. УССР.

Прышыб, пасёлак гарадскога тыпу Міхайлаўскага р-на Запарожскай вобл. УССР.

Пяцігорск, горад краёвага падпарадкавання Стаўрапольскага краю РСФСР.

Растоў-на-Доне, горад, цэнтр Растоўскай вобл. РСФСР.

Ржэў, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Ржэўскага р-на Калінінскай вобл. РСФСР.

Ровенькі, горад абласнога падпарадкавання ў Варашылаўградскай вобл. УССР.

Рубежнае, горад абласнога падпарадкавання ў Варашылаўградскай вобл. УССР.

Сальск, горад, цэнтр Сальскага р-на Растоўскай вобл. РСФСР.

Самара — гл. Куйбышаў.

Славянск, горад, цэнтр Славянскага р-на Данецкай вобл. УССР.

Сінельнікава, горад, цэнтр Сінельнікаўскага р-на Днепрапятроўскай вобл. УССР.

Стрый, горад, цэнтр Стрыйскага р-на Львоўскай вобл. УССР.

Сумы, горад, цэнтр Сумскай вобласці УССР.

Сураж, гарадскі пасёлак у Віцебскім раёне.

Сходня, горад (з 1961) у Хімкінскім р-не Маскоўскай вобл. РСФСР. Пасля ранення І. Мележ вучыўся ў БДУ, які з 1942 размяшчаўся на Сходні. Пасля вызвалення Беларусі ў 1944 універсітэт быў пераведзены зноў у Мінск, дзе І. Мележ і закончыў навучанне на філалагічным факультэце.

Сямейкіна, пасёлак гарадскога тыпу ў Варашылаўградскай вобл. УССР.

Тбілісі, горад, сталіца Грузінскай ССР.

Троіцкае, пасёлак гарадскога тыпу, цэнтр Троіцкага р-на Варашылаўградскай вобл. УССР.

Туапсе, горад, цэнтр Туапсінскага р-на Краснадарскага краю РСФСР.

Тула, горад, цэнтр Тульскай вобл. РСФСР.

Турка, горад, цэнтр Туркаўскага р-на Львоўскай вобл. УССР.

Умань, горад, цэнтр Уманскага р-на Чэркаскай вобл. УССР.

Усцінаўка, вёска Долінскага р-на Кіраваградскай вобл. УССР.

Уфа, горад, сталіца Башкірскай АССР.

Харкаў, горад, цэнтр Харкаўскай вобл. УССР.

Хойнікі, горад, цэнтр Хойніцкага р-на Гомельскай вобласці.

Хорціца (былая Вялікая Хорціца), востраў на Дняпры.

Хоцін, сяло Сумскага р-на Сумскай вобл. УССР.

Хрысцінаўка, горад, цэнтр Хрысцінаўскага р-на Чэркаскай вобл. УССР.

Ціхвін, горад абласнога падпарадкавання, цэнтр Ціхвінскага р-на Ленінградскай вобл. РСФСР.

Цярнопаль, горад, адміністрацыйны і культурны цэнтр Цярнопальскай вобл. УССР.

Чапліна, пасёлак гарадскога тыпу Днепрапятроўскай вобл. УССР.

Чаркаскае, пасёлак гарадскога тыпу Славянскага р-на Данецкай вобл. УССР.

Чаркасы, горад, цэнтр Чаркаскай вобл. УССР.

Чырвонае, сяло Глухаўскага р-на Сумскай вобласці УССР.

Чэркеск, горад, цэнтр Карачаева-Чэркескай аўтаномнай вобл. (у складзе Стаўрапольскага краю РСФСР).

Шчорсы, вёска ў Навагрудскім р-не Гродзенскай вобл.

Ялец, горад у Ліпецкай вобл. РСФСР.

Яма, горад у Данецкай вобл. УССР.

*Т. М. ДАСАЕВА*

## V

Артыкулы і выступленні, якія ахопліваюць перыяд з 1946 па 1976 гады, размешчаны паводле таго ж прынцыпу, што і ў кнізе «Жыццёвыя клопаты», складзенай самім аўтарам.

Раздзел значна дапаўняе і істотна пашырае наша ўяўленне аб шматграннай публіцыстычнай і крытычнай дзейнасці Івана Мележа.

Частка матэрыялаў друкуецца ўпершыню.

### АПАВЯДАННІ ПРА ВАЙНУ (с. 447)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе з праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам пры падрыхтоўцы да выдання «Ж. к.» [1]. Пад тэкстам у дужках: «Полымя», 1946, № 5, с. 167—170.

Упершыню — Полымя, 1946, № 5. Рэцэнзія на першы зборнік апавяданняў М. Лупсякова «Першая атака» (1946).

Захоўваецца другі экземпляр машынапісу без правак.

С. 447. «У Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшаў першы зборнік апавяданняў».— У зборнік увайшлі наступныя апавяданні: «Дарога на фронт», «Першая атака», «Да сваіх», «Спатканне», «Апавяданне Казіміра», «Каваль».

### АПАВЯДАННІ ІВАНА ГРАМОВІЧА (с. 451)

Друкуецца па аўтарызаванай выразцы з час. «Беларусь» з аўтарскімі праўкамі, зробленымі сінім чарнілам пры падрыхтоўцы да выдання «Ж. к.» [2].

Упершыню — Беларусь, 1948, № 1, с. 30. Рэцэнзія на першую кнігу І. Грамовіча «Апавяданні» (1947).

С. 453. «...дасягнуў І. Грамовіч у сваім першым зборніку».— У зборнік увайшлі апавяданні: «Апавяданне пра нястрыманае сэрца» (1944), «Бацькава ўпэўненасць» (1941), «Мой зямляк» (1943), «Молада-зелена» (1942), «Непрымірымасць» (1945), «У прымах» (1943) і «Вера Наваёнак» (1946).

### ВЫСТУПЛЕННЕ НА ВЕЧАРЫ ЧЭХАСЛАВАЦКА-САВЕЦКАЙ ДРУЖБЫ 9.5.58 г. (с. 454)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе (1 ліст).

Друкуецца ўпершыню.

Пры падрыхтоўцы да друку Збору твораў у 6 тамах І. Мележ

---

[1] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» артыкул ідзе пад парадкавым № 1. Гл.: Дадзенае выд., т. 8, с. 577.

[2] У «Паказчыку публікацый і выступленняў» ідзе пад парадкавым нумарам — 2. Такі ж нумар стаіць і на тэксце часопіснай выразкі.

склаў папярэдні спіс артыкулаў, якія ён хацеў змясціць у 6 томе. «Выступленне на вечары чэхаславацка-савецкай дружбы 9.5.58 г.» мела назву «Народы-браты», парадкавы № 24 [1].

## ВЫСТУПЛ[ЕНИЕ] ПО РАДИО — «НА РЕСПУБЛИКИ» (с. 456)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе на рускай мове (2 с.). Праўкі зроблены сінім чарнілам. Зверху ў дужках ад рукі пазначана: («Выступл. по радио — «на республики»). Пад тэкстам подпіс: И. Мележ.

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца 1962 годам.

Выступленне па ўсесаюзным радыё напярэдадні Новага, 1963 года.

С. 457. «1-го января основана Советская Республика Белоруссии...» — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ўтворана 1 студзеня 1919 года.

## ВЫСТУПЛ[ЕННЕ] ПА БЕЛАРУС[КІМ] РАДЫЁ — ІНТЭРВ'Ю КАРЭСПАНД[ЭНТУ] АПОШНІХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ 15.XI.63 г. (с. 458)

Друкуецца па рукапісе (3 с.), напісаным чорным чарнілам на жоўтай паперы. Першапачатковы загаловак «Адказаць справаю на ўвагу партыі і народа» закрэслены. Справа сінім чарнілам пазначана: «Выступл. па беларус. радыё — інтэрв'ю карэспанд. апошніх паведамленняў. 15.XI.63. г.». Пад тэкстам подпіс: І. М.

Друкуецца ўпершыню.

С. 458. «...вялікае значэнне маюць сустрэчы кіраўнікоў партыі з дзеячамі літаратуры і мастацтва, рашэнні чэрвеньскага Пленума ЦК партыі».— Сустрэча кіраўнікоў партыі і ўрада з дзеячамі літаратуры і мастацтва адбылася 17.12.62 ў Маскве ў Доме прыёмаў на Ленінскіх гарах. Другая сустрэча, на якой працягваўся абмен думкамі па пытаннях літаратуры і мастацтва, адбылася 7—8 сакавіка 1963 года.

Чэрвеньскі Пленум ЦК КПСС адбыўся 18—21 чэрвеня 1963 года. Абмеркаваў пытанне: «Чарговыя задачы ідэалагічнай работы партыі» і прыняў адпаведную пастанову.

С. 459. «...у «Полымі» будзе ў нумарах 1 і 2 частка майго новага рамана «Навальн(іца) над полем» [2].— Пад такім загалоўкам быў змешчаны першы ўрывак з рамана «Подых навальніцы».

---

[1] Спіс артыкулаў надрукаваны на дзвюх старонках пад загалоўкам «Крытыка і публіцыстыка». У тэксце аўтарскія праўкі, зробленыя сінім і чорным чарнілам. Усяго 53 артыкулы. Другім раздзелам у томе Мележ меркаваў даць «Ваенны дзённік», трэцім — «Запісы на розных лістках».

[2] Полымя, 1964, №№ 1—2.

## «КРАСНОЙ ЗВЕЗДЕ» (с. 460)

Друкуецца па рукапісе (2 с.) на рускай мове, напісаным сінім чарнілам. У тэксце ёсць праўкі і ўстаўка. Пад тэкстам закрэслены простым алоўкам подпіс: Иван Мележ.

Друкуецца ўпершыню.

Пад назвай «Любите ратный труд» апублікавана са скарачэннямі як віншаванне газеце «Красная звезда», 1964, 8 студз. у нумары, прысвечаным 40-годдзю газеты пад рубрыкай «Слово деятелей литературы и искусства».

Першы нумар газеты выйшаў 1 студзеня 1924 года.

## [ТЭЗІСЫ ВЫСТУПЛЕННЯ НА НАРАДЗЕ Ў МАСКВЕ Ў МАІ 1970 ГОДА ПА ПЫТАННЯХ ВАЕННА-ПАТРЫЯТЫЧНАЙ ЛІТАРАТУРЫ][1] (с. 461)

Друкуецца па рукапісных накідах (6 с.) на рускай мове, напісаных на маленькіх блакнотных лістках паперы сінім чарнілам. Зверху справа: Совещание по военно-патриотич. л-ре в Москве, май, 1970 г.

Друкуецца ўпершыню.

Кароткі пераказ выступлення змешчаны ў «Лит. газ.» 1970, 27 мая ў дзённіку нарады пад рубрыкай «Служение отечеству» і пад загалоўкам «Армия, человек, литература».

Усесаюзная нарада, прысвечаная ваенна-патрыятычнай тэме ў мастацкай літаратуры, скліканая СП СССР сумесна з Галоўным палітычным упраўленнем Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту, праходзіла ў Маскве 19—20 мая 1970 года.

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА ЮБІЛЕЙНЫМ ВЕЧАРЫ (с. 463)

Друкуецца па чарнавым рукапісе[2], які складаецца з 10 с., напісаных сінім чарнілам (І с. не пранумаравана, некаторыя ідуць пад адным нумарам двойчы).

Друкуецца ўпершыню.

---

[1] У архіўных матэрыялах ёсць запіс пісьменніка:
«Ці нельга знайсці выступленне на нарадзе па ваенна-маст. л-ры ў 1970 г. (у СП СССР)? [спытаць] (Шчадрыну?)».
Зыходзячы з жадання Івана Мележа, рэдкалегія прапануе тэзісы выступлення, мяркуючы, што яны даюць уяўленне аб яго змесце.

[2] Рэдкалегія прадстаўляе тэкст чарнавога рукапісу выступлення, які рэканструяваны ў адпаведнасці з аўтарскімі праўкамі, устаўкамі і паметкамі. Пачатак выступлення даецца ў форме тэзісаў, так, як напісаў сам аўтар.

У скарочаным варыянце тэкст прамовы апублікаваны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1971, 12 лют.[1] Прамова на вечары, прысвечаным 50-годдзю з дня свайго нараджэння, які адбыўся 8 лютага 1971 года ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

Захоўваюцца 2 няпоўныя машынапісныя старонкі пад назвай «Выступленне на вечары ў гонар 50-годдзя». Гэта перадрукаваны з рукапісу і стылёва дапрацаваны пачатак выступлення. У тэксце ёсць некалькі нязначных аўтарскіх правак, зробленых сінім чарнілам.

Газетны варыянт выступлення:

— Пяцьдзесят гадоў — вялікая, доўгая вярста, з яе бачыцца далёкае і многае. Не хапіла б, пэўна, шматтомнай кнігі, каб расказаць пра тое, што перажыта, перадумана мною за гэтыя гады: яны былі труднымі і радаснымі, багатымі на падзеі, здарэнні, перажыванні, выпрабаванні. У пачатку бачыцца вёска — старая беларуская вёска з замшэлымі стрэхамі, потым — вёска, абуджаная вірлівымі трыццатымі гадамі, гады вучобы і пазнання свету, яшчэ пасля — вогненныя дарогі сорак першага і сорак другога... А да гэтага прымешваюцца ўспаміны пазнейшага часу... І ўсё гэта кліча, турбуе, хвалюе.

Працую над «Палескай хронікай». Але паралельна я ўвесь час настойліва думаю аб тым, што трэба напісаць кнігу пра людзей майго пакалення, пра самога сябе, вярнуцца да вытокаў, да таго, што прайшло незаўважаным у маленстве і юнацтве. Гэтая кніга мне бачыцца як кніга аб простых, звычайных людзях, якім выпала зведаць нялёгкае жыццё і трудныя дарогі, бо ў жыцці заўсёды здараецца так, што больш выпадае цяжкасцей і труднасцей, чым шчасця і радасці. Пісаць такую кнігу нялёгка, бо трэба рабіць вывады і пераацэнкі, бо з вышыні гадоў добра відны дапушчаныя пралікі і памылкі, і нават тое, што ўжо напісана, апрабіравана часам і чытачамі, хочацца перапісаць, выправіць, дапоўніць,— гэтак, як я вяртаўся да «Мінскага напрамку», як вярнуўся да «Подыху навальніцы»...

Гэтыя дні запомняцца мне назаўсёды. У такія дні неяк асабліва абвострана адчуваеш, што такое пісьменніцкае слова і пісьменніцкая справа, з радасцю бачыш незвычайную сілу гэтага слова і з трывогай, з хваляваннем думаеш аб велізарнай адказнасці, якая ўскладзена на цябе, пісьменніка, народам і партыяй.

Яшчэ раз вялікае дзякуй усім, хто ўспомніў пра мяне, выказаў мне знак павагі, пажадаў добрага і раднаснага. Вялікае дзякуй роднай Камуністычнай партыі і савецкаму ўраду за іх клопат і ўвагу, за высокую ацэнку маёй работы. Вялікае дзякуй роднай беларускай зямлі, якая ўзгадавала нас, навучыла любіць яе фарбы і водар. Вялікае дзякуй і нізкі паклон роднаму беларускаму народу — за яго працавітасць, гераізм, увагу, ласку і спагаду. Любоўю да роднай зямлі і да роднага народа народжаны мае кнігі. Гэтай любові я служыў і буду служыць да канца.

---

[1] Газетны тэкст выступлення значна адрозніваецца ад рукапіснага, таму рэдкалегія палічыла мэтазгодным змясціць яго ў каментарыях.

## ЧАСОПІСУ «БЯРОЗКА» (с. 468)

Друкуецца па час. «Бярозка», 1974, № 12, с. 6, дзе ўпершыню апублікавана як віншаванне з 50-годдзем выхаду першага нумара часопіса.

Захоўваецца рукапіс (2 с.), напісаны сінім чарнілам. Есць праўкі. Пад тэкстам подпіс: Былы дзяткор Іван Мележ і дата: 29.IX.74 г. (Місхор).

У ЦДАЛМ БССР (ф. 39, в. 1, спр. 352, л. 6) захоўваецца машынапіс з праўкамі аўтара. Гэты варыянт папярэднічае асноўнаму тэксту.

«Бярозка», якую мы ведалі як часопіс «Іскры Ільіча»...» — «Бярозка», штомесячны дзіцячы часопіс ЦК ЛКСМБ і Рэспубліканскага савета піянерскай арганізацыі імя Леніна. Быў заснаваны ў снежні 1924 года. Да верасня 1929 года называўся «Беларускі піянер», з кастрычніка 1929 да красавіка 1941 — «Іскры Ільіча». У Айчынную вайну не выдаваўся. З чэрвеня 1945 года выходзіць пад назвай «Бярозка».

«Часопіс надрукаваў некалькі малюнкаў і прасіў напісаць па іх апавяданне».— Апавяданне, якое напісаў І. Мележ, было змешчана ў час. «Іскры Ільіча», 1933, № 5—6. У № 10 рэдкалегія ў ліку тых, хто «добра напісалі апавяданні», назвала Мележа Янку (з Хойніцкага раёна).

## ДА ЧЫТАЧОЎ РАМАНА «ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ»

(Прадмова да літоўскага выдання) (с. 469)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе на беларускай мове (1 с.). Пад тэкстам: І. М. 29.IX.74.

Упершыню — у перакладзе на літоўскую мову як прадмова да кнігі: Мележ И. Люди на болоте: Роман из Полесской хроники. (Пер. с белорус. А. Антанавичюса.— Вильнюс: Вага, 1975.— 400 с.).

Захоўваецца рукапіс на рускай мове (1 с.) пад загалоўкам «К читателям романа «Люди на болоте» (на литовском языке)». Тэкст напісаны сінім чарнілам, ёсць некалькі правак. Пад тэкстам подпіс: И. Мележ.

## ПРА ШОЛАХАВА (с. 470)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе (2 ці 3 экземпляр) на беларускай мове (9 с.), які складаецца з трох частак. Упершыню — Новый мир, 1975, № 3, с. 233—235 на рускай мове пад назвай «Могучий поток народной жизни». Артыкул напісаны да 70-годдзя з дня нараджэння М. А. Шолахава.

Друкаваўся пад той жа назвай са скарачэннямі ў «Лит. газ.», 1975, 5 лют. на старонцы, прысвечанай 50-годдзю часопіса «Новый мир», сярод іншых матэрыялаў бліжэйшых нумароў часопіса.

Быў змешчаны таксама са скарачэннямі і ў час. «Крестьянка», 1975, № 5, с. 23 пад назвай «Поклон человеку и стране, взрастившей его...».

Захоўваецца чарнавы рукапіс на рускай мове (5 с.) пад назвай «О Шолохове», напісаны сінім чарнілам на лістках блакнота. Пачатак артыкула на асобнай, непранумараванай старонцы. У тэксце шмат правак, перастановак і ўставак, якія дапісаны злева ад тэксту.

Ёсць і машынапіс на рускай мове (7 с.) з аўтарскімі праўкамі і ўстаўкамі, напісанымі сінім чарнілам. Пад тэкстам дата: 14.I.75 і подпіс: Иван Мележ. Машынапісны тэкст папярэднічаў часопіснай публікацыі, у ёй улічаны ўсе праўкі машынапісу.

С. 471. «...адзін раман незавершаны...» — Размова ідзе пра раман «Яны змагаліся за Радзіму». Главы з рамана друкаваліся ў 1943—1944, 1949, 1954, 1969 гг.

«Два раманы, але — якія раманы!» — Мележ гаворыць пра раманы «Ціхі Дон» (Дзярж. прэмія, 1941); «Узнятая цаліна» (Ленінская прэмія, 1960).

С. 472. «Чацвёрты том стварался, здаецца, незвычайна доўга і цяжка».— Справа ў тым, што публікацыя першай кнігі рамана «Ціхі Дон» завяршылася ў 1932 годзе, а чацвёртая — упершыню пачала друкавацца толькі ў 1937 годзе.

«Ліст да Горкага дае ўяўленне пра тое, да чаго звадзіўся гэты «клопат» пра аўтара «Ціхага Дона»...» — Мележ гаворыць пра пісьмо Шолахава М. А. да Горкага М. ад 6 чэрвеня 1931 года і прыводзіць радкі з гэтага пісьма.

С. 473. «Каб стварыць другую кнігу «Узнятай цаліны», яму спатрэбілася многа гадоў».— Мележ мае на ўвазе тую акалічнасць, што рукапіс другой кнігі рамана загінуў у Вялікую Айчынную вайну, і пісьменнік пісаў яе нанава. Першыя главы былі апублікаваны ў 1954 годзе, а ўсе наступныя — у 1955—1960 гадах.

## О ШОЛОХОВЕ (с. 478)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе (2 с.) на рускай мове. Праўкі зроблены сінім чарнілам. Зверху злева напісана ад рукі: Варыянт 2. Пад тэкстам закрэслены подпіс Иван Мележ.

Друкуецца ўпершыню.

Датуецца 1975 годам [1].

Захоўваецца першы варыянт машынапісу (2 с.) на рускай мове пад аднолькавай назвай. Праўкі зроблены сінім чарнілам. Пад тэкстам подпіс: И. Мележ.

Тэкст першага варыянта машынапісу:

Историей суждено было Шолохову появиться на стыке веков. Суждено было принять эстафету литературы XIX века и понести ее дальше.

Но ему, как и его товарищам, выпала на долю и другая не-

[1] Можна меркаваць, што абодва варыянты напісаны да 70-годдзя з дня нараджэння М. А. Шолахава, да мая 1975 года.

простая задача. Продолжая традиции, они должны были по существу создавать новую литературу, прокладывать неведомые пути. Решать необычные задачи.

Был он в ту пору молод, в начале совсем юн. И в литературе, и в жизни все тогда только определялось, зыбко, неспокойно было. А он, едва попробовав силы в рассказах, почти сразу отважно замахнулся на самое трудное в литературе, на эпопею. Да еще какую сложную, многоликую, многосудебную!

Нелегко было ему, когда писал «Поднятую целину», когда завершал дело многих лет своей жизни — «Тихий Дон». Но он блестяще справился со своей немыслимо трудной задачей. Он создал произведения, которые стали образцом новой литературы. Он далеко вперед и вширь раздвинул горизонты литературы.

Совершив писательский и гражданский подвиг, всенародно и всемирно признанный художник, Шолохов не только продолжил традиции старой классической литературы, но и создал свою, замечательную традицию.

От Шолохова идут ныне жизнедеятельные токи ко всему лучшему, что есть в советской литературе наших дней, и не только русской. Думаю, что среди советских литератур нет ни одной, которая — прежде всего проза — не испытала бы благотворного влияния шолоховского гения.

## О ШОЛОХОВЕ

### Журналу «Молодая гвардия» (с. 480)

Друкуецца па час. «Молодая гвардия», 1975, № 4, с. 58, дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Наш великий современник» [1].

Адсутнічае ў часопісе і адказ І. Мележа на 2 пытанне: «Здесь я могу отметить только тот факт, что Шолохов оказал сильное и весьма полезное влияние на многих белорусских прозаиков».

Друкаваўся са скарачэннямі ў газ. «Сов. Белоруссия», 1975, 24 мая пад назвай «Его читатели — все человечество». Газетны варыянт уключае і артыкул, напісаны для часопіса «Волга» [2].

Аналіз тэкстаў часопіса «Молодая гвардия» і газетнай публікацыі дае ўсе падставы сцвярджаць, што стылёвыя праўкі, зробленыя ў газеце, не належаць І. Мележу.

Захоўваецца машынапіс (2 с.) на рускай мове пад назвай «О Шолохове. Журналу «Молодая гвардия», з праўкамі, зробленымі сінім чарнілам. Пад тэкстам подпіс: И. Мележ. Усе праўкі ўлічаны ў часопісным варыянце артыкула.

---

[1] У часопісным варыянце адсутнічае наступны тэкст: с. 481, радок 17; пасля: человечество.//Но к слову М. Шолохова небезразличны и литераторы мира. Думаю, нет надобности доказывать, что М. Шолохов в ряду советских писателей оказывает наибольшее влияние на литераторов мира.

[2] Гл.: Дадзенае выданне, с. 485.

## [ВЫСТУПЛЕННЕ Ў БРЭСЦЕ НА МІТЫНГУ, ПРЫСВЕЧАНЫМ 30-ГОДДЗЮ ПЕРАМОГІ] (с. 482)

Друкуецца па рукапісе (4 с.) на рускай мове, напісанаму сінім чарнілам. У тэксце ёсць праўкі і ўстаўка. Справа не аўтарскаю рукою напісана: «Выступление председателя Белорусского комитета защиты мира Мележа И. П.», злева — 5 экз. і подпіс.

Друкуецца ўпершыню.

Мітынг, прысвечаны 30-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, адбыўся ў Брэсцкай крэпасці 19 мая 1975 года.

Захоўваецца машынапіс (4 с.) на рускай мове з нязначнымі праўкамі.

## О ШОЛОХОВЕ

Журналу «Волга» (с. 485)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе (1 с.) на рускай мове. Праўкі зроблены сінім чарнілам. Зверху справа ад рукі напісана: Журналу «Волга» і подпіс: И. Мележ.

Упершыню — Волга, 1975, № 5, с. 176.

Друкаваўся са скарачэннямі ў газ. «Советская Белоруссия», 1975, 24 мая пад назваю «Его читатели — все человечество» разам з артыкулам для часопіса «Молодая гвардия».

## СЛОВА ПРА ШОЛАХАВА (с. 486)

Друкуецца па аўтарызаваным машынапісе (8 с.) з праўкамі, зробленымі фіялетавым чарнілам. Загаловак напісаны ад рукі. Пад тэкстам: «Уступнае слова на вечары, прысвечаным 70-годдзю пісьменніка. Вялікі тэатр оперы і балета БССР, 22.5.75 г.»

Упершыню — Літ. і мастацтва, 1975, 30 мая са скарачэннямі пад назваю «Магутны непаўторны талент». Даклад на ўрачыстым вечары ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння М. А. Шолахава. Вечар адбыўся 22 мая 1975 года.

Захоўваецца рукапіс (8 с.), напісаны фіялетавым чарнілам. У тэксце ёсць праўкі і ўстаўкі.

С. 486. «Заўтра спаўняецца семдзесят гадоў Міхаілу Шолахаву».— Мележ выправіў першапачатковы варыянт: «Праз дзень» на «Заўтра». Можна меркаваць, што пісьменнік, рыхтуючы даклад для публікацыі, зрабіў гэту праўку.

## ЖУРНАЛУ «ВОПРОСЫ ЛИТЕРАТУРЫ» (с. 492)

Друкуецца па час. «Вопросы литературы», 1975, № 5, с. 47—50, дзе ўпершыню апублікаваны пад рубрыкай «Этих дней не

